# ПАВЕЛ МІСЬКО

Выбраныя творы ў двух тамах



# ПАВЕЛ МІСЬКО



Том 1

# МОРА ГЕРАДОТА

Раман

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1991

ББК 84Бел7
М 65

Прадмова *Эрнеста Ялугіна*

Первый том составляет роман «Море Геродота» — о партизанской войне на Полесье в годы Великой Отечественной войны.

Нелегкая судьба у героев романа, некоторые из них погибают, других безжалостно калечит война. Но в тревожной памяти тех, «кому выпало жить», навсегда останутся живыми все, кто не завершил свои земные дела.

$М \frac{4702120201-068}{М 302(03)-91}$ 113—91

ISBN 5-340-00808-8 (т. I)

ISBN 5-340-00807-X

## ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА СВЯТЛА

I святло ў цемры свеціць,
і цемра не пахавала яго.
*(Евангелле ад ІААНА, 1,5)*

Па ўзросце (нарадзіўся ў 1931 г.) ён трохі старэйшы за большасць з тых беларускіх празаікаў, каго называюць цяпер пакаленнем «шасцідзесятнікаў». Ды і ягонае першае апавяданне («Унучка бальшавіка») надрукавана яшчэ ў канцы пяцідзесятых. Тым не менш можна з упэўненасцю сказаць: і Паўла Місько абудзіла да сапраўднай творчасці менавіта тая дзіўная і даволі кароткая пара ў нашай блізкай айчыннай гісторыі, якую інтэлектуалы ахрысцілі «адлігай». Эпоха XX з'езда КПСС і хрушчоўскіх рэформ — уразлівых, але ж і нейкіх хісткіх, сутаргавых. У Крамлі партдэлегаты слухаюць знакаміты даклад пра Сталіна, аднак астатнім грамадзянам Саюза тэкст ягоны ўдаецца пачытаць толькі ў зашмальцаваных машынапісных копіях «самвыдата» ці пачуць, калі хопіць нерваў, праз дзікае выццё глушылак у радыёперадачах Бі-бі-сі. Таму няпэўнасць; таму не знікае, а, наадварот, часам даволі матэрыяльна акрэсліваецца над краінай жудасны прывід нябожчыка Айца народаў. Гэткі вось час «адлігі» пасярод зімы: з раніцы згодна глабальнага пацяплення прыгравае сонейка надзеі, але што будзе к ночы? І хоць ужо сыходзіліся пры кожным выпадку маладыя літаратары ля сяброўскага вогнішча ў Каралішчавічах, каб пачуць застуджаныя галасы нядаўніх зэкаў — элегічнага Міколы Хведаровіча ці іранічнага Рыгора Бярозкіна, але ж ужо зноў, як зусім нядаўна, трасуць «кампетэнтныя органы» маладых гісторыкаў з Акадэміі навук БССР, махаючы дубінай такога знаёмага «нацдэму»,— за падазроную цікаўнасць да мінуўшчыны роднага краю. А ў Маскве прынародна цкуюць Барыса Пастарнака, і хваля неўзабаве дакочваецца да Мінска. І вось ужо на пашыраным(!) пасяджэнні праўлення рэспубліканскага Саюза пісьменнікаў літаратурнае чыноўніцтва Беларусі, распальваючы ў сабе «святую класавую нянавісць» да

высокага майстэрства і чалавечай годнасці, спаборнічае ў ганьбаванні паэта, твор якога наўрад хто з іх і чытаў.

Якраз у той час супрацоўнік раённай газеты Павел Місько ў далёкім Давыд-Гарадку піша свае першыя апавяданні, і надзвычай цяжка пачаткоўцу пазбегнуць дурману «сацрэалістычнай» імітацыі, прыхарошвання жыцця, хоць і паспытаў яго, сапраўднага, гэты малады літаратар ужо багата. Насычанага цяжкай і амаль бясплатнай працай, пастаянна працятага страхам-прымусам.

Ён і нарадзіўся ў гады Вялікага прымусу, калі яго бацькі ўступілі ў калгас. А вось дзед з боку маці — Лукаш Нядзелька, хоць і быў не з заможнікаў, ісці ў «кагал» не хацеў, і ўсё тут. I тады за яго ўзяліся «акцівісты». З тых, у каго сваё чамусьці не надта радзіла, але каторыя люта прагнулі татальна і найхутчэй абагуліць чужое, «працэнты ўсё гналі»,— растлумачвала тое маці будучага пісьменніка. «Акцівісты», каб пазбавіць упартага Лукаша магчымасці хоць неяк існаваць незалежна, у запале беспакаранасці разбурылі ягоныя гаспадарчыя пабудовы, нават сенцы ў хаце.

Пра ўсё гэта цікаўны хлапчук даведваецца ад маці. Сам дзед Лукаш пра сваю абразу не гаварыў і нікуды наогул не скардзіўся, проста «заця́ўся». О гэта наша так званая зацятасць! Як да яе ставіцца? I наогул — як адрозніць яе ад пакорлівасці вала? Менавіта ж такую пароду і імкнулася вывесці на Беларусі спачатку царскае, а потым і «пралетарскае» начальства, праводзячы сацыяльную селекцыю «тутэйшых» у гэтым накірунку бязлітаснай рукой. На радзіме Паўла Місько — Случчыне, дзе людзі здавён славіліся гаспадарлівасцю, тая «пралетарская» селекцыя пачалася практычна з 1920 года, калі случакі першы раз не вытрымалі гвалту татальнай харчразвёрсткі,— з сусекаў тады выграбалася нават апошняе насенне. Бунтаўшчыкоў уціхамірвалі расстрэламі. Ацалелых ці падрослых «крыкуноў» ды ўпартых праз дзесяць гадоў «супакоілі» ў часе калектывізацыі. Так што ўрэшце засталіся (і то далёка не ўсе) хоць, можа, і «зацятыя» ў душы, але пакорлівыя. Ад іх, адселекцыяніраваных татальным запалохваннем і дурманам абяцанак «светлай будучыні» для паслухмяных і працавітых, нарадзіліся новыя пакаленні, якія ў асноўным і сталі героямі раманаў і аповесцяў Паўла Місько.

Вернемся, аднак, да пачаткаў яго пісьменніцкай і наогул жыццёвай адысеі. У той яе перыяд, калі ўнук Лукаша Нядзелькі пайшоў у школу. Там тады ўжо праслаўлялі, паміж іншым, подзвіг піянера Паўліка Марозава, які быццам бы данёс у карныя органы на свайго бацьку-«падкулачніка». А дома, назіраючы, як маці загортвае ў хусцінку яшчэ цёплы бохан хлеба ці толькі што

адціснуты сырчык ды збанок малака, каб аднесці старому Лукашу, піянер Паўлік Місько дапытваўся: «А чаму дзед не ходзіць у калгас? А чаму ў яго такая абгрызеная хата?» І чуў расказ пра калектывізацыю. У тым, што Лукаш Нядзелька так і не адбудаваў некалі разбураныя «акцівістамі» сенцы, ёсць свая сімволіка. Ёсць і неаспрэчны доказ: нягледзячы на свой добры нораў, Нядзелька ўсё ж не дараваў гвалтаўнікам абразы, так і нёс праз жыццё ў душы вялізны цяжар, як цяпер кажуць, стрэсу. Не ўсе з яго пакалення гэта і вытрымлівалі, дарэчы. Толькі цяпер становіцца вядома, як шмат сялянскага люду на Беларусі трапіла не толькі ў Сіблаг ці блізкія Курапаты, а і ў псіхічныя лякарні. Можна не сумнявацца: татальны прымус да «светлай будучыні» пэўным чынам паўплываў на псіхічны стан асноўнай масы і ацалелага сельскага насельніцтва, за выключэннем, магчыма, беднякоў, парабкаў і часткі серадняцкай праслойкі. Нашчадкі ж атрымлівалі ўжо гэтыя вынікі сацыяльнай селекцыі ў генную спадчыну. Найбольш жыццястойкі элемент усімі сродкамі імкнуўся інстынктыўна пакінуць вёску і нават як мага хутчэй забыць сваё мінулае, у тым ліку мову, народныя звычаі. Вось чаму і даводзіцца аднаму з герояў рамана Паўла Місько «Градабой» «донкіхотцтвавацъ», расходуючы мізэрныя ўласныя сродкі, «матацца» па вёсках у пошуках дзе-нідзе ацалелых носьбітаў таго фальклору, у асноўным бабулек, якія ўжо адна за адной сыходзяць у атручаны суцэльнай хімізацыяй дол.

Тыя ж з «новапрыгонных» (каб мацней прыкуць да калгаса, іх нават пазбавілі пашпартоў), якія не змаглі вырвацца з вёскі, ад загнанага нават у падсвядомасць адчаю, болю ад безнадзейнасці ды і страху, які пераходзіў у апакаліпсічны жах, ратаваліся хто як. Большасць — п'янствам. Альбо здранцвеннем душы, летаргічным яе сном, што праяўлялася абыякавасцю да ўсяго. Дзед Лукаш адчуваў палёгку ў часе вандровак па лесе. Калі ўнук крыху падрос і таксама зацікавіўся прыродай, дзед стаў браць з сабою і яго. «Я з вялікай цеплынёй успамінаю Лукаша Аляксандравіча Нядзельку, «Алесевых дзеда», як звалі яго па-вулічнаму,— зазначае пісьменнік у сваім аўтабіяграфічным эсэ «На покліч душы».— І якіх бы старых я потым ні выводзіў у сваіх творах (Лукаш у «Калодзежы», Стахей у аповесці «Зямля ў нас такая», Параxенька ў аповесці «Поезд ішоў на захад», нават бабка Вера з цыкла «Ласіныя пацеркі»), некаторыя рысачкі дзеда Лукаша я перадаваў ім». Дадамо, што і ў раманах «Мора Герадота» і «Градабой» жыве ягоная душа. Дзед, заўважае пісьменнік, «у хвіліны меланхоліі або калі вельмі надакучыць звяглівая Палашка (другая жонка), заўсёды разгортваў Евангелле. Чытаў голасна, хоць быў хто за слухача, хоць не». Тую, ахутаную таямніцай старую кнігу з «ціт-

намі» незадоўга да смерці Лукаш Нядзелька падараваў унуку. Што, аднак, не перашкодзіла таму напачатку свайго літаратурнага шляху выдаць кніжкай нарыс «Адмаўленне ад крыжа». Было. Аказваецца, з путаў «ваяўнічага» атэізму, які літаральна з першага класа ўбівалі ў галовы школьнікам, выкараскацца было не так і проста нават таму, хто атрымаў Евангелле ў спадчыну ад любімага дзеда. Іншая справа, што маладым літаратарам валодала хутчэй не «пралетарская» ваяўнічасць атэіста, а трывога за тых з землякоў, хто, запалоханы рэпрэсіўным ладам, апусціў рукі і стаў на калені перад злом, спадзеючыся ўжо толькі на боскую ласку. Ды і наогул сціплую тую кніжачку хутчэй можна аднесці да журналісцкай практыкі аўтара, чым да мастацтва прыгожага пісьменства. А вядома ж: у часіны грамадзянскай няволі першай гіне сапраўдная, сумленная журналістыка. Яе лягчэй «пільнаваць» чыноўнікам ад казённай ідэалогіі. Прамое журналісцкае слова навідавоку, яно прасцей паддаецца праўцы, прымусоваму скажэнню. У такіх умовах, каб неяк духоўна выжыць і выконваць свой грамадзянскі абавязак, сумленныя журналісты вучыліся не толькі майстэрству сцісла ды змястоўна апісваць падзеі, але і «заганяць» тое-сёе ў падтэкст, у разліку на здагадлівага чытача. Таму авалодвалі прыёмамі стварэння асацыятыўнасці, алюзіі, прыхаванага параўнання, парадыйнасці — словам, усяму, што ўласціва хутчэй мастацкай прозе, чым газетнаму артыкулу.

Прайшоў гэтую школу і Павел Місько. А перад тым і працоўная жыццёвая школа падлетка была досыць жорсткай. Жах акупацыйнага ліхалецця, пасляваенная галеча, бесперапынная праца ў калгасе практычна задарма. А яшчэ ж дапамога бацькам, што хоць і былі працавітымі (маці нават атрымала медаль «За працоўную адзнаку»), а ледзьве зводзілі канцы з канцамі і пастаянна ламалі галаву — што б такое занесці на базар у Слуцак, за пятнаццаць кіламетраў, каб атрымаць капейчыну і на падаткі, і на штогоднія абавязковыя дзяржаўныя пазыкі («добраахвотныя»!), і каб унесці плату за вучобу дзяцей у сярэдняй школе, і каб нейкую адзежыну купіць. Ды як ні біліся, колькі сам Павел той калгаснай работы ні перарабіў, а не меў нават паліто. Так і хадзіў амаль цэлы семестр у старым пінжаку, калі стаў студэнтам Белдзяржуніверсітэта аддзялення журналістыкі. Пакуль адзін з сакурснікаў, заўважыўшы, як сінее і курчыцца хлопец ад холаду, не прынёс яму стары салдацкі шынялёк.

Здавалася б, уражанняў — на ўсё далейшае жыццё. Але не, пасля сканчэння Белдзяржуніверсітэта (1955) Павел Місько разам з жонкай-студэнткай (тая пераводзіцца на завочнае аддзяленне фізмата) вырашае ехаць на працу ў самую глыбінку Палесся, у мясціны, дзе, як лічыў гісторык старажытнасці Герадот, некалі

знаходзілася мора. Так і апынуўся ў Давыд-Гарадку на Гарыні, якая і сапраўды кожную вясну разлівалася морам. «Вабілі заходнія вобласці рэспублікі,— тлумачыць пісьменнік тое сваё рашэнне.— Яны былі для мяне «тэра інкогніта». Ён яшчэ не ведае, што Палессе стане для яго шляхам у вялікую літаратуру, месцам дзеяння яго першага рамана.

Аб рабоце над буйным мастацкім творам, вядома ж, марыў. Не ведаў толькі, як гэта адбудзецца. Ды і наогул бязлітасная рэчаіснасць уносіла свае карэктывы ў планы і мроі маладога журналіста. Амаль усе яго сілы адбірала раённая газета, «гэтая малатарня», ахарактарызуе ён пазней раёнку. Матэрыял туды трэба было даваць і даваць. А каб здабыць яго, «трэба было па некалькі разоў на тыдзень ехаць у калгасы — то на веласіпедзе, то на кані, то на матацыкле». «Тады,— заўважае пісьменнік,— я зразумеў выраз — «Кроў з носа, а давай!». Ад пастаяннага перанапружання і дрэннага харчавання здаралася і гэта, у самым прамым сэнсе.

Тым не менш не ўвесь сабраны матэрыял паглынала газета. Частка жыццёвых назіранняў асядала ў блакнотах. Нешта з гэтага ішло потым для кароткіх апавяданняў, у асноўным гумарыстычных, а нешта патрабавала іншай, больш маштабнай, формы. Так было з запісамі шматгадзінных гутарак з настаўнікам Цімохам Андрэевічам Ніколенкам, былым камісарам аднаго з атрадаў Пінскага партызанскага злучэння. У газету з тых матэрыялаў пайшла нейкая часцінка — пра разгром народнымі мсціўцамі Хатыніцкага гарнізона. А як распарадзіцца астатнімі запісамі, дзе не менш значнае? Там — лёсы чалавечыя ў перыяд партызанскай вайны на балотных прасторах Палесся, высакароднасць і здрадніцтва, неверагоднасць абставін і суровы побыт партызанства, боль і радасць, лютая жорсткасць і пяшчотнасць чыстага кахання, якое так часта бязлітасна абрывала варожая куля ці выбух міны. Пройдзе, аднак, яшчэ нямала часу, перш чым прататып Ніколенкі пачне ўсё выразней пераплаўляцца пісьменнікам у галоўнага героя рамана — Мікульскага з яго адысеяй у суровым «моры Герадота». Але для гэтага спатрэбіліся і дадатковыя жыццёвыя назіранні, і выпрацоўка ўласнай філасофскай канцэпцыі рэчаіснасці партызанскай вайны на Палессі.

З Давыд-Гарадка Павел Місько летам 1959 года перабіраецца ў Гродна ўласным карэспандэнтам рэспубліканскай газеты «Звязда». А гэта новыя гарызонты і многія паездкі ўздоўж і ўпоперак па вобласці якраз у часы знакамітай хрушчоўскай «адлігі» і пачатку звароту «халадоў» вонкава трохі прыхаванай новасталіншчыны. Былі і ціхі адчай ад усёмагутнасці свавольства нахабнага партчыноўніцтва і вера маладога камуніста, што ўсё гэта будзе

пераможана, што гэта ўсё асобныя, хоць чамусьці надзіва шматлікія, хібы на, у прынцыпе, ураджайным улонні Вялікай ідэі сацыяльнага брацтва і справядлівасці. Вось прыйдуць новыя кіраўнікі, вось навучымся «правільна» выхоўваць новага чалавека-гаспадара і своечасова абясшкоджваць ворага: бюракрата-злодзея-гультая... Божухна, толькі да чаго ж ён чамусьці шматаблічны ды і жывучы, бы крапіўнае насенне! Ні фельетонамі яго не прадзяўбеш, ні гумарэскамі, ні ўрадавымі пастановамі нават. Але ён верыць і веру сваю ўкладае ў творчасць... нават калі гэта недзе не зусім стыкуецца з рэаліямі жыцця. Бо так вучыць адзіна правільная тэорыя «сацыялістычнага» рэалізму, які загадваў літаратарам углядацца толькі ўдалячынь... і абавязкова «светлую». Дзіўная з'ява гэты наіўна-светлы ідэалізм спакушанага, здаецца, самай суровай рэчаіснасцю юнака. Але ж і ад таго, што ён неаднойчы паспытаў на ўласнай скуры, Павел Місько таксама не схільны адмаўляцца. Прабіцца да ісціны яму няпроста. Каму верыць, уласным назіраннем ці ўзброеным «адзіна правільным пралетарскім метадам» рэцэнзентам з Мінска, без ухвалы якіх нельга і думаць, каб прабіцца ў друк? «Гэта ўжо такі гратэск, якому цяжка нават паверыць»,— дае заключэнне на сатырычны твор маладога літаратара адзін з іх. Але адгукаецца і Янка Брыль: «Праўды баяцца толькі слабыя».

А яшчэ былі сустрэчы з Васілём Быкавым, які працаваў тады літкансультантам у «Гродненской правде». Уразілі ягоныя словы: «Пісаць што. Прасцей. У асноўным думаць трэба, выношваць. А вось думаць, браце мой, пры нашых умовах... Няма калі думаць!» І гэта: «Хопіць нам ужо маляваць кулака на хутары з барадою па пояс...»

Хутар у прозе Паўла Місько з'явіцца не скора. Толькі ў рамане «Градабой». І то быццам трохі збоку. Але ўчытваешся — і следам за гэтым словам-паняццем аднекуль з падсвядомасці ўсплываюць іншыя падобныя словы, чапляючыся адно за другое: хутаранін... кулак... парабак... камбед... класавае процістаянне... нехацімец... лішэнец... спецпасяленец... калгаснік... саўгаснік... і — датацыя... стагнацыя... А што далей? Гэта мы цяпер трохі ўяўляем сабе. Героі ж рамана «Градабой» яшчэ нават і не здагадваюцца, што можна будзе калі-небудзь у станоўчым сэнсе вымаўляць: арандатар... фермер... нават — розныя формы ўласнасці. Аднак што ж адбываецца на прасторы рамана Паўла Місько? Прыгледземся, услухаемся. Магчымасці для гэтага аўтарам прадастаўлены значныя. «Градабой» — твор шматпланавы, шматфігурны, поліфанічны, шматфарбны. Наогул, чытаць яго трэба ўважліва, не спехам, гэта не прыгодніцкая белетрыстыка, хоць ёсць тут нават і развіты дэтэктыўны сюжэт, якога іншаму аўтару хапіла б на

добрую аповесць. Маецца тая самая стрэльба, што, заяўленая ў першым акце драмы, у апошнім у прамым і пераносным сэнсе страляе. Ды Павел Місько, які, дарэчы сказаць, неаднойчы сваімі аповесцямі для дзяцей пацвярджаў умельства будаваць вастразаймальны сюжэт, тут заклапочаны іншым. Яго трывога, што з вёскі знік, так бы мовіць, Бог. Справа зусім не ў рэлігійнай нейкай сімволіцы. Ну вось услухаемся, скажам, у голас з Хора: «Не перспякціўны наш пункт. У целявізары казалі, што толькі некаторыя сёлы развівацца будуць. На астальныя — запрэт...» Гэта старыя кабеты гамоняць. А вось сталыя дзядзькі-партыйцы. У іх размова пра душу, хоць абодва не толькі ў свой час і неаднаразова атрымалі прывіўку «ваяўнічага» атэізму, але і адзін з іх, Лявошка, намеснік старшыні калгаснага парткома, іншы раз і змагаецца супроць «забабонаў», мала таго, дзеля ідэі нават гатовы рызыкаваць здароўем уласнай дачкі. А размова ў іх узнікла такая таму, што памёр раптоўна блізкі абодвум чалавек — стары Ясь Сухавей. «Дык няўжо,— з болем гаворыць Гардзей, сын,— знікне і ягоная душа?» — «Душа? — хмыкае Лявошка.— Выйдзе з цябе дух, от і ўся душа. Астатняе — зямля... Ні раю, ні пекла...» — «Не, чалавеча! — пратэстуе супроць такога канца Гардзей, хоць увогуле і ён дастаткова насычаны сучасным прагматызмам.— Штосьці павінна быць... А то ж вельмі страшна, калі нічагенькі...»

Штосьці павінна быць... А што? І чаму гэтак ірвецца Рыгор Сухавей да Волькі з хутара, не зважаючы, што мае са сваёй жонкай, Маняй, ажно чацвёра дзяцей? Любоў? А што гэта такое? Навошта? А чаму сама Маня, хоць ёй і ненавісны, нават брыдкі Рыгор, усё ж ярасна супраціўляецца ягонаму пераходу да Волькі? І ў заяве ў партком патрабуе: тую «лярву... выслаць... за дваццаць чатыры часа». Хутар жа «скалупнуць з ліца зямлі, як бародаўку, каб не замінаў». Не замінаў чаму?

А што Маня? Бароніць гэтак будучае ўласных дзяцей? У тым жа і загадка: аказваецца — не. Яны ёй таксама брыдкія. «А нашто... дзеці?» — кажа яна. Ці яшчэ. Вось яна ў парткоме. Яе казённа (каб толькі «закрыць» справу) імкнуцца памірыць з Рыгорам. Раяць мужа не грызці, а прыгалубіць. «Ага-а... Абдымі!..— крычыць Маня.— Каб пятага зрабіў?» Што гэта, канец свету?

Адны яны такія? Не. Так у адной толькі «неперспекціўнай» гэтай вёсцы? Зноў жа не. Узяць хоць і суседнюю, з іншага калгаса, дзе жыве Аляксана, якая чакае сватоў ад старога Яся. І ўспамінае Аляксана, як маці аддавала яе замуж, а потым спаць маладым разам... усімі сродкамі перашкаджала. Толькі «прыхваткамі... сына зрабілі». Аляксанін Іван цярпеў-цярпеў гэтыя здзекі ды і завербаваўся некуды на Урал. «Як камень у ваду шчабоўкнуў». Дык мала таго што давялося Аляксане гадаваць сына бязбаць-

кавічам, яе ж маці пачала настройваць і ўнука свайго супроць уласнай дачкі — каб адцураўся і ўзненавідзеў. Нейкі жудасны фізіялагічны перакрут... І вось пад старасць Аляксану зноў сватаюць, хоць яна ўжо і высахла «як шчэпка». І была ад усяго гэтага, заўважае аўтар, у старой жанчыны «гнятлівая нуда і неадольнае жаданне вырвацца некуды хоць на старасці і пажыць нейкім новым жыццём... «Вольным» — гэтае слова не адважвалася вымавіць нават сама сабе». І жаніх ёй уяўляўся, Ясь Сухавей, «вольным»: і гаворыць спаважна, і ходзіць — спаважна... як бы і не калгаснік, а... дыпламат», што прачытваецца і па-іншаму: незалежны, не батрак. Незалежны? Можа, і добра, што не бачыла Аляксана, як прасіў Ясь каня ў брыгадзіра, каб ехаць у сваты, а той, малодшы за яго гадамі, але ж — «начальства», гэтак па-хамску гулліва гутарыў з яе «дыпламатам». Ну, ды яе «вясельныя» пакуты наперадзе. Ад рытуалу сватання пачынаючы. Ад таго двухсэнсоўнага штукарства свата, якое народным звычаем прызначана для маладых, якім дзяцей нараджаць. А як для старых «нявесты» і «жаніха» — атрымліваецца фарс і здзек. Бо для таго чалавецтва гэты рытуал ды шлюб прыдумала? Ды каб род людскі незнарок не звёўся. Тады чаму ж усё-такі тахкае бы ў маладой сэрца ў Аляксаны, хоць ёй ужо, як цынічна заўважае сват Пятрок, «нечага цяраць, кроме сваіх цапей»? Нешта «ўсё не так», з адценнем адчаю ад незразумелай хады падзей у роднай вёсцы заўважае калгасны брыгадзір Каляда.

Усё не так аказваецца нават і ў самай «па-сучаснаму добраўпарадкаванай» вёсцы, дзе жыве ардэнаносец Гардзей Сухавей. Гэта вельмі хутка заўважае Саша, сын Рыгора Сухавея, што ў адчаі збег з роднай хаты ў пошуках справядлівасці і чалавечай дабрыні. «Не так, як трэба», і ў самой сям'і Гардзея — знатнага камбайнера, у якога і разумная гаспадарлівая жонка, і сучасная кватэра, і машына, і работа па душы. Па душы? А Саша, прыгледзеўшыся, і тут заўважае прыхаваны фарс: зусім не вольны працаўнік, аказваецца, яго кумір Гардзей Іванавіч і прыносіць сябе «ў ахвяру». У ахвяру — «справе... жніву... Некаму ж трэба і першым ісці». Думка падлетка ці на гэты раз проста дысанансам урэзаўся ў суровую рэчаіснасць сацрэалізм аўтара? А ўвогуле мог так суцяшаць сябе і сам Гардзей Іванавіч, бо ён жа і сапраўды выкладваецца да апошняга. Тым часам пытанне працягвае ў кантэксце гучаць, яно не знята. «Ісці першым» — куды і дзеля чаго? Дзеля таго, каб недзе там, у светлым будучым, усталяваліся любоў і самаахвярнасць. Саша, якому мотапша ад сучаснасці, хоча ў тое верыць. Гардзей Іванавіч? Ну, а самі ідэолагі калгасныя, якія заклікаюць да самаахвярнасці? Разбяромся з верай Гардзея Сухавея. Лявошку ён прызнаецца, што яго «захоплівае

сам працэс працы» і ён, канечне, імкнецца атрымаць пасля ордэна і Зорку Героя. Захоплівае працэс працы, працягвае Гардзей, і многіх іншых, хто «ўпарта перавыконвае нормы». А Лявошка чаканіць, адкідваючы ўсе эўфемізмы: «Свядома б'юць на Героя?» Гардзей зноў сваё (пра рабочых-меліяратараў, якія перашкаджаюць тым, хто намнога перавыконвае нормы): «Ды раскінулі б сваёй прапітай мазгаўнёй: быць добрым, сумленным рабочым, калі на тое пайшло, нават выгадна». Лявошка: «А-а, дык і ты выгаду шукаеш».

Гардзей яшчэ ў нешта спрабуе верыць. Але ў палён ягонага працоўнага гераізму не вераць ужо ўласныя дзеці, кідаюцца туды-сюды, шукаючы выйсця з гэтай фантасмагорыі, мараць стаць «артыстамі», каб існаваць у мроях.

І фантасмагорыяй жа выглядае прыезд на свінакомплекс сакратара ЦК партыі рэспублікі. Цяпер, калі мы, чытачы, трохі паразумнелі, выглядае гратэскам, ці гэта з самага пачатку было закладзена аўтарам, але яшчэ не прачытвалася,— той маладзецкі пераскок бравага сакратара праз паркан дзіцячага сада, у загарадку? І гэты гурт падхалімаў-чыноўнікаў, якія паспешліва караскаліся следам. «Метр дваццаць сантыметраў»,— абвяшчае сакратар, і юнак Саша ўспрымае гэта з захапленнем: вось дык спрыт у партыйнага кіраўніка!

Тым часам Сашына маці, Маня, падбіраецца ўжо з карабком запалак да хутара. І нарэшце сцэна сімвалічная і алегарычная: Маня ў разумовым зацьменні «ўбіваецца ў статак кароў і пакорліва ідзе з ім на ферму».

А за дзесяткі кіламетраў, у другой вёсцы на малодшага брата Рыгора, Федзю, які збірае фальклор, «упаўнамочаны райкома партыі на ўборцы» нацкоўвае міліцыянера, і гучыць такое знаёмае-зласвеснае: «Каб за дваццаць чатыры часа... з раёна!»

«Кончылася цярпенне!» — крычыць Рыгор. Але ж ці так гэта? Тады, калі пісаўся раман, думаецца, не. Ва ўсякім разе ні Рыгор, ні мудры яго старшы брат Гардзей, ні малодшы і адукаваны этнограф Федзя, які ліхаманкава і насуперак начальству збірае-шукае скарбы народнай мудрасці, ні «гвардзеец працы» Пахвалёны з яго сіпаватым дыханнем і вінавата-панурым позіркам загнанага калгаснага канягі, ні Волька, ні нават яго стары бацька-хутаранін, якога ўсё жыццё душыла крыўда «немаведама на каго», да свядомага сацыяльнага пратэсту былі не гатовы. «Пралетарская» селекцыя яшчэ спрацоўвала. Аднак, кожны пасвойму, яны адчувалі: усё, так далей жыць на гэтым месцы нельга. Таму самай актыўнай формай іх пратэсту і з'яўляецца памкненне альбо некуды збегчы ў «светлую далячынь», якой іх дурманілі, альбо дзікая неасэнсаваная варожасць да ўсяго на све-

це, нават да ўласных дзяцей, альбо п'янства па-чорнаму і, значыць, самагубства.

Дык чым жа ўсё скончыцца? Для літаратуры — гэта ўжо новы раман, для якога, як і наогул для перабудовы і адраджэння грамадства, ніяк не абысціся без дакладнага ведання таго, што назапашвалася ў беларускай літаратуры раней і зусім нядаўна. У тым ліку і ў праўдзівай прозе Паўла Місько. Як шкада толькі і якая гэта страта для грамадства, што да гэтага часу ні сацыяпсіхолагі, ні сумленныя палітыкі не маюць звычкі, здаецца, прымаць усур'ёз мастацкую літаратуру сваёй рэспублікі.

*сакавік 1990* *Эрнест Ялугін*

# Частка першая

**I**

«Дзе ж Эдзік? Ну, нягоднік, пачакай толькі... Дзесяць разоў ужо можна было скочыць туды і назад!..»

Цяжкае буханне, змешанае са звонам, нібы ў піраміду медных тазоў трапіў снарад, і яны раскаціліся па бруку. Уздрыгвае, як ад сполаху, зямля... Трэці ці чацвёрты?

Зноў едкі звон рэек, фырканне і цяжкае — гуп! гуп! — падзенне кавалкаў металу. Ужо можна заўважыць у перадсвітальным прыцемку, як коцяцца понізу, змешваючыся з рэдкім туманам, смуродлівыя, нібы ад тухлага яйка, клубы пылу і дыму. І яшчэ раз, але залп не залп, а нейкі грукат уразброд: дзеньк! дзёнь! бэм-м! І, счакаўшы, яшчэ раз — дзвэнк! Стракаталі, не заціхаючы, аўтаматы.

«Маць іх за ногу качаргою... Самадзейнасць разводзяць! Хто ў лес, а хто па дровы... Так можна і сваім кішкі на тэлефон наматаць. Не перадаў ім Эдзік, не здагадаюцца самі пад стыкі класці...»

Мікульскі, угнуўшыся, бяжыць насыпам на левы фланг. Да выбуху толавых шашак, енку-стогну рэек, аўтаматнай стракатні прымешваліся ўжо і новыя гукі. Ад Ламчанскай блок-будкі скрыгаталі, вылі міны. Адна плюхнула ў балота — недалёт, другая грабянула, бы гогненным венікам, пясок на палатне дарогі. «Намацваюць, гады... Цераз лес пускаюць, з-за павароту...» Нібы ў адказ на выбухі мін, пагусцеў аўтаматны стрэкат, часцей стала прарывацца дэдэканне станкача. «На групу прыкрыцця насядаюць... Зацяжны навязваюць... Ці не падмогу яны з Лунінца атрымалі?»

— Пасля пятае — адыхо-одзь!!! — Мікульскі націснуў на «о-о-о!» на ўсю моц свайго басішчу, склаў рупарам далоні і яшчэ ў другі бок пракрычаў: — Пятую — і адыхо-одзь!

«Павінны ўсе «музыканты» пачуць... Хаця і не такога сігналу чакаюць... Ракету чырвоную чакаюць... Паршывец, ці не залёг ён сам пастраляць? Пра ракету забыў...» — не выходзіў з галавы Эдзік-ардынарац.

Зноў завыла міна. Пералёт... За насыпам, на выдме, трэснула перабітая елка, верхавіна падскочыла, страпянулася кожнай лапкай і завісла на суседніх елках, нібы падхапілі яны яе пад рукі.

— Сюды! Лажысь!!! — замахалі Мікульскаму з-пад насыпу партызаны.

Паспеў заўважыць за крокі тры ад сябе, як шыпіць, пырскае дымам і іскрамі маленькі, на пядзю, кавалачак бікфордавага шнура. Ламануў убок, скокнуў з насыпу, прарыўшы абцасамі дзве канаўкі ў схіле. У ботах цмокнула, нібы ўсхліпнулі поршні вадзяных помпаў,— так і не сабраўся выліць ваду. Упаў пад шыпшынавы куст, і тут над галовамі і далей, пад паваротку, часта забухала, ажно прашалясцеў па кустах разлегісты, нібы штосьці паласавалі па жывому, лёскат-свіст.

— Адыхо-одзь! — пракрычаў Мікульскі, зноў ускараскаўшыся на насып.

У туманнай імгле відаць, як мільгаюць тут і там цераз насып, коцяцца ўніз нейкія нерэальныя, нібы размытыя постаці — і далей, ледзь заўважныя, і зусім блізка. Разгарачаны, надрыўны дых людзей, бразгат зброі і аўтаматных дыскаў у сумках, прыглушанае перакрыкванне, мацяршчына — нехта на нешта спатыкнуўся...

Каля чыгуначнага моста праз Бобрык усё яшчэ чуваць рэдкія чэргі. Гэта на правым флангу (цяпер ужо злева ён) строчыць Яша Шакурка. Мост не ўзрывалі, скора нашым спатрэбіцца, змахнулі толькі, як беглі на штурм, паставых, закідалі гранатамі дзот пад адхонам. Дзот і падыходы да моста былі абнесены ў тры рады калючым дротам, калы ажно залезлі ў раку.

Пастрэльвае яшчэ Шакурка... Сам ён напрасіўся прыкрываць, далі яму «дзегцяра». Але з боку Пінска, можна сказаць, было ціха. З боку ж Ламчанскай будкі траскатня ўсё разгараецца, там Шыпняк з групай прыкрыцця. «Увязаліся прыкрывальшчыкі ў кашу... Ска-

зана ж было — мінут дзесяць пасля ракеты патрымаць і адыходзіць... Ну, не было ракеты, то пасля каманды... Мо не пачулі?»

Мікульскі бег паўз самы адхон, разрываў грудзьмі кусты. Бег на страляніну. Часам падымаўся да палавіны схілу, прыглядваўся да рэек. Малайцы, самі змікіцілі, як лепш ірваць... Шкада, што два першыя зарады скарысталі нерацыянальна: клалі шашкі пад сярэдзіну рэйкі. Паміж шпал як курыца лапамі пясок пагрэбла, крыху шпалы пашчапала. А з рэек павырывала кавалкі на пядзю, на паўтары, часам нават верхняя, тоўстая частка рэйкі заставалася цэлаю. А на стыку лепш — псуюцца дзве рэйкі адразу, канцы іх як хто няроўна абгрыз, пазгінаў накладкі, балты, шрубы раскіданы, пазрываны.

Немцы падышлі бліжэй, вырываліся з-за павароту іх трасіркі і ляцелі амаль уздоўж пуцей: піў-піў-у-у... З'явіўся ў немцаў і кулямёт, яго настойлівае дэдэканне далучылася да траскатні. Маўчаў толькі мінамёт — мянялі, мусіць, пазіцыю, падбіраліся бліжэй.

Да павароту засталося метраў трыста. Мікульскі ўзабраўся на палатно і ўпаў грудзьмі на пясчаную броўку каля самых шпал, зачапіўшы некага локцем за мокры, у гразі, бок. А-а, Лысуха, разведчык...

— Чулі каманду?

— Чулі! — скрыгатнуў зубамі Лысуха, прыпаў шчакою да прыклада.

— Дзе камзвода? Сыпня-як!!! Чортаў тыфус...— азірнуўся сюды-туды.

— Няма Шыпняка... таварыш камісар... Г-гады! — Лысуха страчыў з ППШ уздоўж рэек — дзе замаячылі на светлым скрыўленыя фігуркі.— Гады! Гады!

— Разбагацееў? Меціцца трэба!..— ляпнуў яму па руцэ Мікульскі.

— Няма Шыпняка!..— уткнуўся тварам у прыклад аўтамата Лысуха, усхліпнуў.— Напавал Васіля... Анюта з ім там сядзіць...— кіўнуў пад адхон разведчык.

— А Эдзік сюды не прыбягаў?

— Не! Нас шасцёра было ў засадзе... Шыпняк шосты...

Мікульскі пераскочыў цераз рэйкі, скаціўся па адхоне ўніз. Аўтаматныя дыскі ў сумцы з-пад процівагаза папалі пад бок, балюча парнулі.

Няма Васіля Шыпняка... Няма...

Хістаецца над ім Анюта, твар затуліла далонямі, пасунула з ілба танкісцкі шлем. На прыполе — проставалосая Васілёва галава. Мікульскі сціснуў сківіцы, каб не застагнаць, каб ніхто не пачуў гатовага вырвацца крыкам сардэчнага болю.

Няма Васіля... А трэба ж сябе браць у рукі!

— Выносьце Шыпняка... Усім адыходзіць!

А горла нібы набрыняла крывёю, запухла — не дыхнуць.

«Ах, Вася, Вася... Ну як жа ты спатыкнуўся? Столькі прайшлі разам...» За тры гады вайны бачыў Мікульскі смерцяў многа. Па-рознаму гінулі людзі, заўсёды іх смерць здавалася недарэчнай, неверагоднай, чымсьці за мяжой імавернага... Тут жыў чалавек, а тут і няма...

— Адыхо-о-одзіць сказана!.. Чуеш?!

Не чуе Анюта камісара, перабірае Васілёвы густыя валасы — з кучаравінкамі над белым ілбом, разгладжвае дрыжачым пальчыкам яго чорныя бровы. Мікульскі трасе Анюту за плечы, прыўзнімае пад пахі.

А яна павісае на руках, бы нежывая, нічога не чуе і не бачыць...

Шыпняк — каханы яе, збіраліся партызанскае вяселле гуляць...

Мікульскі зайшоў спераду Анюты, па другі бок Васіля, і зжахнуўся: у дзяўчыны быў скрыўлены на адзін бок твар, нібы хто знарок адцягнуў куточак рота і шчакі да вуха...

— Даруй, малая... Гэта не я цябе б'ю...— Мікульскі пляснуў ёй па шчацэ, па другой — той, перакошанай. Моцна, па-мужчынску...

Ачуняла Анюта, вырваўся з грудзей стогн-усхліп. А куточак вуснаў так і застаўся адцягнуты грымасай-сударгай.

— Эдзіка-ардынарца не бачыла? Можа, параніла яго дзе?

Нічога не сказала Анюта. Паволі, як у сне, намацала санітарную сумку, зашпіліла раменьчык, перакінула пасак цераз плячо. Цярнула далонямі па твары, па вачах, але так і не сцерла сваю аднабокую, страшную ўсмешку.

Зноў захлынулася ў Мікульскага сэрца ад болю: як распарадзіўся лёс з гэтаю параю! І калі — у самыя апошнія дні перад вызваленнем...

Ш-шух! Шу-шах! — да іх скаціліся Лысуха і яшчэ трое партызан, Шыпняка пачалі перакладаць на плашч-палатку.

Мікульскі ўскарабкаўся на насып. Прыкрываць адыход застаўся адзін Крот Іван з «дзегцяром». Залёг паміж рэек, чырвоная кашуля пунсавее здалёк, як сцяг. Мішэнь... Але цэлы пакуль што гэты дзівак...

Прыбіўся ён да іх у атрад аднекуль з Хартыніцкіх хутароў. Хадзіў босы, ніяк не мог падабраць на сваю нагу абутак, у шырокай чырвонай кашулі навыпуск. Плечы — як шафа. А на «жалезку» ў кашулі выйшаў і ў лапцях.

— Адыходзь, Крот! Усё! — крыкнуў яму Мікульскі.

Крот на імгненне зіркнуў у яго бок.

— Зараз...— прыпаў да кулямёта, пусціў яшчэ адну чаргу.— На прамую вылезлі, біць добра...

Ужо відаць было, як шэра-зялёныя фігуркі паказваліся з-за лесу, з-за павароткі — і на самым палатне дарогі, і на адхоне. Некаторыя няўклюдна скульваліся на другі бок насыпу. Беглі, страчылі з аўтаматаў — непрыцэльна, абы гук. Крот яшчэ раз прыціснуў іх да зямлі доўгаю чаргою. Кулі з «дзегцяра» ўдаралі недзе каля немцаў у рэйкі, дзіка ўзвывалі і фыркалі.

Тым часам немцы падцягнулі мінамёт бліжэй, зноў у паветры завылі міны. Адна джвэгнула ўзбоч насыпу, другая — каля самага Крата, толькі па другі бок рэйкі.

Іван тут жа падхапіўся на ногі, прыціснуў кулямёт да сябе, закруціўся на месцы — куды бегчы? Мікульскі паспеў разгледзець яго разгублены твар.

— Назад!!! Не туды, Крот!

Нічога не чуе кулямётчык, прэ ў бок немцаў. Звар'яцеў? Кантузіла, мабыць... А мо знарок? «Шкада дурня... І кулямёта шкада...» — Мікульскі бег ужо за ім што было сілы. Немцы, убачыўшы такое дзіва, разгубіліся, перасталі страляць.

Крот раптам стаў як укопаны. Зірк туды, зірк сюды — і панёсся назад. Сцяміў-такі...

Зноў засвісталі кулі, затрашчалі стрэлы. Немцы беглі ўжо не залягаючы.

— Уніз!! Быстра!

Крот тупацеў лапцямі проста на Мікульскага — па шпалах, між рэек. Цімох адскочыў з дарогі, ірвануў хлопца за рукаў, яшчэ і рукою паказаў пад адхон —

«Уніз! Туды!». Паспеў заўважыць, што чырвоная кашуля на яго спіне распаласавана ў некалькіх месцах. Сам упаў, прыклаўся да аўтамата. «Прыкрыць... Спыніць... Задужа разагналіся...» Страчыў і чуў паміж чэргамі, як ламаўся цераз кусты, чвякаў па гразі, нібы рукамі яе мясілі, Крот.

— А-а, гады!.. Не падабаецца! — Мікульскі цэліў па жыватах, і зялёныя фігуркі нібы падломваліся, асядалі ці ныралі пад ногі іншым. Аўтамат троссся ў руках, аж пакуль не кляцнуў затвор. Усё!.. Мікульскі тут жа павярнуўся на бок, дастаў з сумкі другі дыск-магазін, памяняў. Семдзесят адзін патрон, і ў сумцы яшчэ столькі...

Немцы больш не ўставалі, пастрэльвалі лянiва. Спадзяваліся на мінамёт. І той зноў азваўся. Адна міна жахнула недзе ззаду, гарачая, тугая хваля здзьмухнула з галавы шапку. Пусціў чаргу па мінамётчыках. Па пыле, што выбілі кулі, убачыў: недалёт! Забыў пераставіць на большае дзяленне прыцэльную рамку. І зноў бэхнула міна — ужо справа. Мяняць пазіцыю трэба... Адбегчы на выспу...»

Не паспеў ні дадумаць, ні адбегчы. Спераду, мо ў якім кроку, бліснуў вогненны ніцы куст. Нібы ў самой галаве ўзарвалася штосьці яркае, і тут жа — пякельная, з чырвонымі кругамі, чарната...

Схапіўся за твар рукамі, цярнуў... Рукі сталі мокрыя і ліпкія. Левае вока не бачыла. У вачніцы пякло агнём. Правае — то бачыць, то не, яго залівае кроў. Зашарыў, замацаў перад сабою і ўправа-ўлева — шукаў шапку. На рукі наліпла кара пяску. Цярнуў аб штаны, узяўся за аўтамат. Стракануў дзвюма кароткімі чэргамі ўздоўж палатна чыгункі, счакаў — і яшчэ чаргу, доўгую. На рукі струменямі льецца кроў — ненатуральна гарачая, бы падагрэтая.

«Колькі ў мяне патронаў? Тут з паўдыска і яшчэ адзін поўны... Патронаў сто... Пратрымацца, пакуль хлопцы вернуцца...»

А цела ўжо слабее, цяжэюць, робяцца вялымі і непаслухмянымі рукі...

Нехта раптам тузануў за абцас. Крутнуўся туды з аўтаматам — «Немцы?». Ледзь не ўсадзіў чаргу...

— Таварыш камісар!..

Жаночы голас... Знаёмы і незнаёмы, нібы чалавеку цяжка гаварыць, варочаць языком.

— Гэта я — Анюта... Вас перавязаць трэба...
— Немцы ідуць?
— Ага... Блізка!
— Вазьмі маю руку, пакажы — дзе...
Мікульскі страляе туды доўгімі чэргамі, аж пакуль зноў не кляцнуў, нібы зубамі, аўтаматны затвор.
Яшчэ адзін застаўся дыск. І пісталет...
Яны ссоўваюцца з насыпу нагамі ўперад, не ўстаючы. Ныраюць пад кусты, дзе яшчэ цёмна. «Хутчэй! Таварыш камісар, хутчэй!» — Анюта і вядзе, і падтрымлівае Мікульскага пад локаць. А ён закрывае твар рукою з аўтаматам. Бягуць пад навіссю галін, па карычневых гразкіх прагалках, усыпаных гнілою лістотаю, паміж кустамі хмызу, прадзіраюцца праз гушчар маладога ельніку, лазы і крушыны, па выспе-пагорку з зарослымі неглыбокімі ямкамі. Зноў спусціліся да балота — Мікульскі гэта адчуў нагамі: раптам пачаў дрыжаць і асядаць дол. І тут Анюта спынілася, дастала да яго пляча, аберуч націснула:
— Прысядзьце ці прыгніцеся... Перавязаць...
Яна нечым змочвала ватку, пазвоньвала пуставатая фляжка. Здаецца, пахла самагонкаю...
Як дрыжаць у Анюты рукі!
— Ну, ну... Супакойся... Што — вельмі страшна... на твары?
Анюта пачала ўсхліпваць.
— Ну, перастань жа, танкіст!..
— Я так... Нічога... Пасечана асколкамі... У трох ці чатырох месцах — вымазаны ўвесь твар у кроў, не пазнаць.
— Вока левае... што? Пячэ, як хто шворан распаліў і ўсунуў.
— Няма... вока...— Анюта на імгненне прыціснулася лбом да яго рукі.
— Ну, ну...— пагладзіў яе па плячах, чуючы, як уся яна трапеча, нібы злоўленае птушанё. Не ведаў Мікульскі, што гаварыць, як суцяшаць яе. Ці сябе...
У Анюты язык не мог павярнуцца сказаць: замест левага вока ў камісара — крывавая ямка з астаткамі зморшчанай рагавіцы і радужнай абалонкі. Нібы шкурка ад бобу, толькі грубей...
Адхіснулася Анюта ад Мікульскага, пачала бінтаваць. Хутка, але няспрытна, бінт блытаўся, скрутачак выпадаў з рук.

— Пацярпіце, таварыш камісар... Пацярпіце...

І другі, і трэці скрутачак зматала... Ці не ўсё, што было ў сумцы? Не, не ўвесь бінт... Скруціла яшчэ адзін на вяроўку, заціснула ім пад бараду і ўгору, паўз вушы. Вузел завязала недзе на цемі.

— Немцы — што?

— Цс-с-с... Прабеглі дарогаю далей.

— Сабак не чуваць з імі? — у Мікульскага і шэпт атрымліваўся басісты.

— Не.

— Без сабак не захочуць лезці ўслед... Ты помніш, кудою на «жалезку» выходзілі?

— Ну! Балотам, што за рэчкаю, па вадзе... Дайце аўтамат, вам цяжка будзе...

— Адсунь трохі бінт з правага вока... Пратры...

— Ага... Зараз! Во... Ну — во...

— Пайшлі!

— Аўтамат дайце!

— Кнопка, ці не думаеш ты, што здаравейшая за мяне?

— Крыві многа страцілі...

— Нічога... Ты не турбуйся... Галоўнае — хвост пісталетам дзяржаць...— Мікульскі паспрабаваў адцягнуць жгут ад падбародка. Маленькія ручкі ў Анюты, а закруціла дай бог... Душыць, як пятля.

— Пацярпіце, потым паслаблю... Кроў прыпынім — і паслаблю.

— Нічога не разбяру на компасе... Паглядзі ты... І вазьмі сабе на руку — будзем трымаць норд-вест. Мінём мост шасейны цераз Бобрык і там пакіруем проста на возера Клады... Ну — што ты не бярэш?

— Шкло раструшчана... І стрэлкі няма.

— Н-да-а... Халера ясная.

Мікульскі падчапіў пальцам стары, сапрэлы і слізкі раменьчык трафейнага компаса, тузануў. Шпурнуў чорны карабок компаса цераз плячо.

— Здаецца, сонца сёння будзе... Паглядзі, як узыходзіць.

— Чырвона ў тым баку, але неба зацягнута, не сіняе. І туман трошкі.

— Калі туман, то павінна быць сонца. Будзеш глядзець, каб з правай рукі яно было. З гадзіну так будзем ісці, а там і мост...

* * *

Мікульскі помніў у гэтым месцы карту на памяць. Столькі папаглядзелі ў яе, як намячалася аперацыя! З гэтага месца, дзе яны цяпер, трэба ісці ад чыгункі пад вострым вуглом. Чыгунка і шлях іхняга адыходу, калі кіраваць напрасткі, разыходзіліся між сабою, як рагулькі ў хлапчукоўскай рагатцы. Па правай «рагульцы» ім і трэба ісці, тады акурат трапіш на мост цераз Бобрык — той, што на гравейцы-шашы, за які кіламетр ад чыгуначнага. Праз яго пераходзілі, як і сюды дабіраліся. Ён чамусьці не ахоўваўся, не тое што чыгуначны.

Але гэта — калі ісці ідэальна проста, як некалі цар намячаў чыгунку з Пецярбурга ў Маскву, прыклаў лінейку да карты, чыркнуў алоўкам — «Быць па сяму!». А лезучы па балоце і кустах, так не бывае, мо ніводнага кроку проста не зробіш. Абмінеш дзве-тры купіны, высозныя, вышэй чалавечага росту, ажно свету з-за іх не відаць, і ўжо глядзі на компас. А калі яшчэ на балоце кусты, трыснёг, то арыенціроўку можна згубіць ураз — асабліва калі не відаць сонца, няма ветру, як зараз. У добрым лесе лягчэй, там кожнае дрэва падкажа, кожны пень, мурашнік. А на тым балоце, якім яны прабіраліся ноччу ад Кладоў, вялікія ўчасткі ржавай, маслянiстай вады, станеш — па пояс, па грудзі. Добра, што дно пераплялі карані чароту, трысця, затрымліваюць, не даюць угразнуць. Партызаны і стараліся брысці па вадзе — лепш, чым па балоце, якое выгінаецца, як падушка, па самы нос. Калі правалішся ў багну, гразь, то без дапамогі не выберашся — можа засмактаць.

У прамежку паміж чыгункай і шашою, дзе яны зараз ішлі, не было такога балота. Кустоўе, непралазная гушчэча лазняку, крушыны, альхі. Месцамі дром — высокая, у рост чалавека, крапіва, ажыннік, скрыпень з ружовымі, трошкі паніклымі мяцёлкамі-суквеццямі, велізарныя, як не ў рост чалавека, кусты-карункі папараці. Ажыннік дзярэ, хапае за ногі, за адзенне — не ступіць... А трапіцца сподачак-яма з вадою, і вакол яго буяе блакітнаваты, з жоўтымі патлатымі кветкамі касач, раскашуе асака. Дзе больш тупка, на грудах дзярэцца ўгару, як не навыперадкі, асіннік або бярэзнік з густым падсевам елак.

Не, немцы не такія дурні, каб на скрут галавы перці за імі ў гушчар, не ведаючы, што іх чакае за кожным кустом. Але каб хацелі акружыць іх, злавіць, то зрабілі б гэта лёгка. Над Мікульскім і Анютаю дакучліва віліся, прарэзліва крычалі дзве кнігаўкі.

Анюта то падтрымлівала Мікульскага пад локаць, то прапускала перад сабою, адхіляючы галлё, то вяла за руку, як вялікае, бездапаможнае дзіця. Хоць і працерла Анюта, Мікульскі бачыў уцалелым вокам кепска — толькі каб не ўзбіцца на дрэва. У галаве пульсаваў гарачы боль — нібы хто напампоўваў праз вачніцу распаленае паветра: коль... коль... коль... Здаецца, вось-вось не вытрымае чэрап, разарве яго знутры, лопнуць нейкія невідочныя абручы. І правае, уцалелае вока гэтак бачыла — прабліскамі: то цемра, то шарае, дрыготкае святло. Твар Анюты, калі яна паварочвалася да яго, раз-пораз расплываўся,ператвараўся ў невыразную белую пляму. Не заўважалася ўжо яе страшная, аднабокая ўсмешка...

Мікульскі трываў з усяе сілы, каб не застагнаць, не паказаць свае слабасці перад гэтым дзяўчом. Яна ж сама сёння мела патрэбу ў падтрымцы — і фізічнай, і душэўнай. Мікульскі і верыў, і не верыў, што гэта яна, Анюта, выводзіць яго з «жалезкі», што яна знайшла ў сабе сілу і мужнасць, адарвалася ад Васіля, ад хлопцаў, вярнулася паглядзець камісара. Нібы чула яе сэрца яшчэ адну бяду, вяло да яго. Мусіць, і ёй стаіць у вачах той выбух міны, бачыць яна, як слепа Мікульскі мацае рукамі вакол сябе, як стракоча з аўтамата — наўгад, з гарачкі, а кулі рвуць пясок у якой паўсотні метраў уперадзе, далёка ад немцаў. А магло ж яшчэ і так здарыцца: і яна паспела б якраз пад той удар міны...

— Чакай... Пратры вока... Сляза забівае, нічога не бачу...— папрасіў Мікульскі, ухапіўшыся за нейкае дрэўца.

Анюта працерла — нечым мяккім, асцярожліва.

— Вы не плачце... Усё будзе добра, от паглядзіце... Урачы вылечаць. А хлопцы вернуцца па нас... Даганяць партызан, перададуць Васіля і вернуцца. Я так дамовілася з імі — калі прыпазнюся, значыць, нешта здарылася, хай ідуць на помач.

— Мацней тры, не шкадуй... Ад напружання гэта слёзы, а не ад плачу...

Анюта пацерла яшчэ — ватка рабілася ружовай, слёзы былі з кроўю.

Лепш не стала, і Мікульскі ўздыхнуў:

— Ну — ладна... Не выдушы апошняга...

Некаторы час ішлі маўчком.

Ужо мільгнуў наперадзе ў прагалку, крыху правей ад кірунку іхняга шляху, насып шашы, ужо вось-вось павінен быў паказацца драўляны мост з учарнелымі парэнчамі і патрушчанымі дошкамі насцілу. Мікульскі помніў гэты мост, нібы ён быў сфатаграфаваны ў памяці. Ляжалі размолатыя коламі дошкі дзвюма палосамі на шырыню, як праехаць калясьмі. А так, акрамя гэтых палос, дошак не было, адны бярвенні, у шчыліны відаць вада. Мусіць, гэтыя дошкі паздзіралі, гацячы ў выбітыя ямы перад мостам і пасля яго, на з'ездзе. Бо, калі нічога не падмосціш, нават галля, цяжка каню ўсцягнуць калёсы: першае бервяно тырчала, як высокі, у калена парог.

Раптам у тым баку, дзе павінны былі паказацца парэнчы, нервова, нібы з пярэпалаху, затрашчалі стрэлы. Мікульскі і Анюта інстынктыўна прыселі: здалося, што над самым вухам.

— Ах, усэ злэ на тваю маты...— вылаяўся Мікульскі Васілёвай прымаўкай і спахапіўся — як зрэагуе на гэта Анюта? Не, нічога...— Чуць самі ў лапы не прыйшлі! — сплюнуў ён.— Немцы, почырк аўтаматаў нямецкі... Куды кулі паляцелі? Куды страляюць, не па нас?..

— Не, туды недзе, за раку, на дарогу, на балота.

— Хм, чаму туды? Мо Лысуха з хлопцамі зноў высунуўся... Эх, напароліся хлопцы на ражон... От ужо безгалоўе!

Мікульскі пачуў, як усхліпнула Анюта.

— Перастань... І вось што... Падкрадзься хіба да дарогі... Зірні, што там, на мосце... Ага, пушку вазьмі...— Мікульскі дастаў з кабуры пісталет, злавіў Анютчыну руку — цёплую, кволую, дрыжачую.— Ды не бойся ты!.. Асцярожна цікні з-за куста — і назад. Без крайняй патрэбы не страляй, не выяўляй сябе... А то накрыюць абаіх, як курапатак...

Анюта тут жа шорхнула кустом, расхіліла галіны.

— Стой яшчэ! Паслаб спачатку павязку, бо ўдушуся...

Анютаваждалася з бінтамі некалькі хвілін, нешта

разблытвала, адпускала крыху, зноў намотвала, завязвала.

— Быць табе пасля вайны... старшай аперацыйнай сястрой...— гаварыць Мікульскаму зрабілася лягчэй. Ён прыслухоўваўся да страляніны — то густой, то адзіночнай. Прыціскаў кожны новы віток бінта пальцамі — памагаў. Навобмацак стараўся зразумець, як яна завязала там — па-новаму, і не ўяўляў. Не прывыклі пальцы распазнаваць на дотык, загрубела скура на іх. «Навучышся яшчэ, як давядзецца... Навучышся...— варухнуўся ў грудзях калючы халадок.— Яшчэ ж толькі трыццаць гадоў...» У трыццаць гадоў — сляпы, бездапаможны калека! Калі выберуцца, зразумела...

— Ну, ідзі...— яшчэ раз злавіў яе руку.— Ідзі, Анютка...

Выслізнулі з яго вялізнай далоні яе тонкія пальцы. Прашалахцела лісце...

Мікульскі ўздыхнуў, патупаў каля сябе ботам, памацаў. Ён ужо нічога не бачыў і правым вокам: нейкая ружовая шэрань, а на ёй больш цёмныя, як размытыя, плямкі. Правёў рукою перад тварам... А-а, галінка з лістамі!

Пусціў галінку, памацаў рукою ўнізе. Нейкі куст, нізкі, кучаравы навобмацак... Лісцейка прадаўгаватае, як у вярбы, толькі драбнейшае. Улавіў моцны, як дурнап'ян, пах. «Багуннік... А я думаў, што зранку, мокры, ён не пахне... У поўдзень, як сонца прыпячэ, моцна дурыць...»

Стрэлаў больш не было. Кнігаўкі віліся і крычалі ўжо не над Мікульскім, а там, дзе мост і немцы. І не дзве, а больш — мо цэлая чарада. Ускрыкі іх рэзкія, пагрозлівыя: «Кіг-гі! Кіг-гі!» Следам за крыкам ці перад ім чуваць, як свішчуць-вуркочуць крылы, нібы круціць хто прывязаную за аборку лучыну. Пікіруюць на немцаў.

Мікульскі сціснуў галаву аберуч. Здалося, што нехта ці нешта злёгку хіліць яго то ўправа, то ўлева, расхіствае, як слуп, каб вырваць, выцягнуць з зямлі. Захацелася аперціся рукамі, але замест гэтага сціснуў галаў мацней — расхістванне спынілася, зачаўся звон — нудны, перарывісты, нібы дзесьці далёка ляцелі на бамбёжку цяжка нагружаныя «юнкерсы».

У рукі запякло, нібы хто іголкамі калоў. Моцна

пацёр іх аб кіцель, пачухаў. Упершыню за раніцу пачуў, што енчаць, ліпнуць камары. Адламаў галінку, захвастаў па руках, па твары.

«Колькі прайшло ўжо мінут?» — ён згубіў усякае ўяўленне аб часе. То здавалася, што Анюта запрапала даўно, скора полудзень, а яе няма і няма... То думалася, што яна ніяк не адыдзецца ад яго, а ўсё шастае і шастае ў кустах, ніяк не можа выблытацца, як птушачка-крапіўнік з бружмелю.

Перасунуў аўтамат з боку на грудзі, зняў з шыі пачапку. Навобмацак адняў пусты магазін, дастаў з сумкі апошні, зараджаны. Пусты карабок-дыск ашчадна схаваў у сумку. Усё, што ён рабіў, стараўся ўявіць зрокава, і было лягчэй, чым давярацца аднаму абмацванню. Часам, праўда, бянтэжыла: уяўляў сумку на каленях, упэўнена лэпаў рукою, а яе не было. І тады ўжо мацаў, мацаў — ага, на бок яе зноў змахнуў... «Прыйдзем у атрад, то Эдзік наб'е дыск...»

«Наб'е... Прапаў жа недзе, падшыванец... Неяк жа ўмудрыліся размінуцца... Адступіў мо з партызанамі, забыўся на мяне... Не падобна на яго, не падобна... А мо і ён дзе... «спатыкнуўся»? Але нехта ж ды бачыў бы, сказаў... А каб паранены быў, то падабралі б... Анюта нешта ведае, а маўчыць... Я ў яе, здаецца, пытаўся ўжо, а яна маўчала... А можа, недачула? Не да мяне ёй было тады... Спытаць, не забыць, як прыйдзе...»

Мікульскі паспрабаваў узнавіць падзеі гэтай ночы, гэтага досвітку дваццатага чэрвеня сорак чацвёртага года. На заданне пайшлі ўсе атрады злучэння — адны на чыгунку Баранавічы — Лунінец, другія — на чыгунку Брэст — Лунінец. Іхняму атраду ўчастак выдзелілі канкрэтны: Ломча — Парахноўск. Абедзве дарогі загадана было ўзняць за адну ноч.

Да шасейнага моста праз Бобрык ішлі ўсе тры ўзводы разам. Пакуль падыходзілі, яшчэ здалёк чулі, як стогнуць рэйкі пад цяжкавагавымі саставамі. Немцы перакідвалі цягнікамі падмацаванні на поўдзень, думалі, што наступаць будзе Першы Украінскі фронт. Засеклі нават інтэрвалы: дзесяць мінут — і эшалон, дзесяць мінут — і эшалон...

Мікульскі сказаў тады каля моста кароткую прамову:

— Чуеце? Перакачваюць немцы «кроў», падмацоўваюць часці на фронце... Наша задача — перарваць гэ-

тыя артэрыі, ударыць пад дых. Пачынаецца генеральная бітва за Беларусь... За нашу Беларусь, дарагія мае! Не пасаромім жа званне беларускіх партызан! Уперад!

Тады, каля моста, раздзяліліся на тры групы. Першы ўзвод, ім Мікола Лапуста камандуе, выходзіць на чыгунку правым берагам Бобрыка, знішчае блок-пост, захоплівае чыгуначны мост, рассыпаецца ўправа-ўлева і ўзрывае першы зарад за кіламетр ад моста з боку Пінска. Каб адразу спыніць усякі рух, каб з Пінска не маглі падысці падмацаванні.

Лявей, побач з першым, высыпае на чыгунку другі ўзвод. Меркавалі, што яму будзе лягчэй — не трэба штурмаваць блок-пост, выдзяляць ахову ад Пінска, яму і ўчастак адвялі шырэйшы. Трэцяму ўзводу — на самым левым флангу: адсякаць падыход немцаў ад Ламчанскай блок-будкі, падрываць рэйкі на сваім участку.

Як разыгрывалі на базе штурм чыгункі і падрыў рэек, выходзіла ўсё гладка і маланкава, працу падраздзялялі на аперацыі: адзін выгрэбвае яму, другі падкладвае шашку і ўстаўляе запал, трэці завіхаецца з цыгаркаю — падпальвае шнур. Пяць заходаў, пяць залпаў. Кожны партызан нёс па пяць толавых шашак, парваць павінны былі не менш пяцісот рэек.

Дамовіліся, што першы залп прагучыць, як успыхне зялёная ракета. Па чырвонай — агульны адыход.

Але адразу пачаліся неспадзеўкі. Першы ўзвод не паспеў падарваць рэйкі з боку Пінска, і нечакана наскочыла дрызіна. «Прапусціць!..» — загадаў Мікульскі. Пакуль перадавалі па ланцугу каманду, другі і трэці ўзводы выткнуліся на самае палатно. І тут у кагосьці не вытрымалі нервы — стрэліў. З дрызіны адразу хлынулі вогненныя струмені куль. Адзін — у бок моста, другі — уперад, трэці, веерам, ва ўпор,— па кустах. Партызаны пападалі, залеглі. Сітуацыя імгненна змянілася. Цяпер дрызіну нельга было прапусціць да Луніца.

— Па дрызіне!.. Агонь! — крычаў Мікульскі.

Білі па ёй з аўтаматаў і карабінаў, прарашэцілі ўсю, не засталося ў вокнах ніводнай шыбіны. Паспелі шпурнуць і дзве гранаты. Але дрызіна ляцела на ўвесь дух, ляскацелі колы. Граната ўзарвалася ўжо ззаду, другая — збоку, пры рэйцы, і шкоды дрызіне не зрабілі. Даскочыўшы да павароту, яна знікла ў лесе.

Ад перастрэлкі з дрызінаю ажыў і блок-пост каля моста. Лапуставым хлопцам давялося штурмаваць яго пад моцным агнём. Першы зарад узарвалі мо перад самым носам у цягніка. Але паспеў машыніст заўважыць, затармазіць. Паравоз закрычаў, зароў дурным голасам і здаў назад, папхаў эшалон у Пінск. Усё цішэў і цішэў яго надрыўны крык, пакуль і зусім не заглушылі выбухі і аўтаматная стракатня.

«Хай ідзе, чорт з ім... І слава богу, што ідзе! — думаў тады Мікульскі.— Добра, што не пасыпаліся з яго немцы, маглі б сарваць усю музыку...»

І ці не з дрызіны падбілі тады Шыпняка, камандзіра трэцяга ўзвода? А мо потым налучыла куля, калі ад Ламчанскай будкі пайшлі ў наступ немцы?

А колькі ў другім і першым узводах параненых, колькі забітых? «Камісар, а нічога не ведаю аб стратах... І Анюта пра гэта ні слоўца...»

На шасейным мосце зноў заляскалі стрэлы, Мікульскі падхапіў аўтамат, асцярожна прыўзняўся, пакручваючы галавою і сяк і так,— куды ляцяць кулі? Ці не выявіла сябе Анюта? А мо зноў заўважылі хлопцаў?

«От каб можна было сказаць па тэлефоне ці па радыё... Каб не лезлі на ражон, самі выблытаемся, выйдзем паціху...— падумаў і тут жа пакруціў галавою: — Вар'яцею, мабыць... Які тут можа быць тэлефон, якая рацыя! Дарэмна будуць хлопцы рызыкаваць...»

Стрэлы заціхлі, даляцела нямецкая гаворка, але невыразна, нельга было разабраць ніводнага слова. «Мо сышлі з моста, ідуць па дарозе? Хаця б на Анюту не насунуліся...» — Мікульскі зноў закруціў галавою, сілячыся ўлавіць шастанне ў кустах. Але пабольшалі толькі ад напружання звон і даўкі боль у галаве, гарачае патузванне ў левай пустой вачніцы.

Анюта падышла амаль бясшумна і не з боку дарогі, а адтуль, адкуль яны толькі што ішлі.

— Праскочыла... Вы прыселі, дык я адразу і згубіла прыкметы...

— Ну, што там?

— Стаяць на мосце, гергечуць.

— Колькі іх?

— Чалавек пятнаццаць... Не лічыла...

— Будзем абыходзіць... Адыдзем больш управа і там перакінемся цераз шашу.

— А цераз Бобрык як? — толькі крыху ўздрыгнуў голас Анюты. Але Мікульскі заўважыў гэта.

— Плаваць як? Умееш?

— Не...

— Кепска... Будзем тады шукаць брод. Ну, давай руку! Дзе сонца?..

У Мікульскага незабінтаванымі былі толькі нос, рот і крыху шчакі пад правым вокам, само вока. Ён і паварочваўся праваю шчакою, спрабаваў злавіць ёю промні сонца, вызначыць напрамак. Але сонца не хацела прарэзвацца скрозь сухмаркі, не хацела грэць.

— Пойдзем проста на сонца...— сказаў Мікульскі.— Можна нават правей трошкі... Каб далей абысці...

Мікульскага раптам павяло, пахіснула ўбок, і Анюта пусціла яго левую руку, падскочыла справа, падставіла сваё плечыка.

— Малая! Ты гэтак раптам не кідайся пад кола... Раструшчыць магу, як рухну.

— Ой, спужалася... Вам нядобра, таварыш камісар?

— Каўтнуць у цябе нічога няма? Вязка ў роце, языком не варухнуць.

— Няма. Першаку толькі крапля, самагонкі... для дэзінфекцыі.

— Давай... дэзінфекцыю...

Анюта адшпіліла сумку ад процівагаза, на якую нашыла была чырвоны крыж, дастала салдацкую алюмініевую фляжку — голую, не абшытую сукном, адкруціла накрыўку. Мікульскі піў і не чуў ніякай моцы ў гарэлцы. Лягчэй не стала, не прагнаў і смагу — у грудзях яшчэ больш занудзіла, язык зрабіўся сухі і шурпаты, як наждачная папера.

— Ну, рушым памаленьку...— аддаў фляжку.

Ён зноў закрыў твар рукою з аўтаматам. Анюта ўзяла яго правую руку, павяла за сабою. Спыняліся часта, і яна то шаптала — «Нахіліцеся!», то адводзіла ад яго твару мокрыя галіны. А раз забылася: паднырнула сама, а галіна хлісь камісара па руцэ, па аўтамаце. «Вой!» — спалохалася Анюта, папрасіла прабачэння. Нібы ёй самой забалела, нібы па яе ране хвасянула.

— Нічога, нічога... Хутчэй толькі.— Мікульскі паставіў аўтамат на засцерагальнік, зноў падняў перад сабою.

Яны ўсё аддаляліся і аддаляліся ад моста ўправа. Мікульскі разумеў, што цяпер партызанам шукаць іх

будзе цяжэй. Але нічога не паробіш, не сядзець жа на месцы. Невядома, колькі будуць тырчаць немцы на мосце...

Мікульскі спяшыў. Ён адчуваў, што сілы ў яго меншае і меншае, і баяўся, што можа зусім занядужаць, упасці. Што тады гэтае дзеўчанё зможа ім зрабіць, здаровым мужчынам? Хутчэй бы трапіць на вочы ўрача, партызанскага ўрача Адама Палуяна... Ніхто ў брыгадзе не ўспамінаў, што Адам усяго толькі фельчар, сельскі фельчар. Для ўсіх ён быў чараўніком-урачом... Хто-хто, а ён зможа яму сказаць — чаму не хоча бачыць і другое вока? Пашкоджана ж адно, а правае — не... Няўжо назусім гэта?

Да Анюты вярталася пакрысе здольнасць думаць. Яна разумела: Мікульскага трэба хутчэй у партызанскі шпіталь, хутчэй на аперацыю. А мо і не ў шпіталь, а ў тыл... Выклікаць самалёт — так і так, паранены камісар. Цяжка паранены, самі не можам даць рады. Асколак міны, мабыць, сядзіць недзе на дне вачніцы, каля мозгу. Замест вока — крывавая ямка з рэшткамі рагавіцы. Гэта проста цуд, што засеў асколак, не пайшоў далей...

Цуд? Які цуд? Яна толькі санінструктар, гора-санінструктар, і то разумее: можа пачацца запаленне мозгу, і тады...

«Божа, які ён цярплівы...» — думала Анюта, раз-пораз азіралася на Мікульскага. Але і гледзячы ўперад, інстынктыўна выбіраючы, як лепш прайсці, яна нібы ўвесь час бачыла перад сабою плячыстую і высокую постаць Мікульскага ў чорным нямецкім кіцелі, з белай ад бінтоў, як качан капусты, галавою.

Чужое няшчасце вымушала забыцца і на сваю бяду-гора. А мо і не забыцца, мо проста свой боль прытупляўся ад таго, што бачыла чужы — страшны, неймаверны... Яна ж чуе, як скрыгіча зубамі камісар, як прарываецца часам з-за сціснутых зубоў: «М-м-м...» Толькі яна можа выратаваць гэтага чалавека, толькі яна можа яму памагчы! Без яе Мікульскі не зробіць і сотні крокаў па балоце, па кустах, а не толькі дваццаць кіламетраў...

Не менш дваццаці кіламетраў да іх базы, за возера Клады трэба прабірацца, у бок Лагішына... А па цяжкасці гэтыя дваццаць пацягнуць на ўсе сорак. Няма

цяжэйшай дарогі, як прабірацца па балоце. І хоць бы відушчы быў, а то...

Ад чарады кнігавак зноў адлучыліся дзве, залёталі над імі, закружылі. Яны нібы пыталі: «Куды-ы вы? Куды-ы вы?»

* * *

Анюта спыніла Мікульскага на абрыве. Унізе быў зарослы густым асіннікам і лазою катлаван-кар'ер. Паўзверх зарасніку ўжо відаць быў насып шашы.

— Што? — Мікульскі як не вырваў сваю руку з Анюцінай.

— Яма... А за ёю дарога метраў праз сорак.

— Чакай, таварыш інструктар...— Мікульскі рвануў каўнер, цяжка задыхаў.— Забыла ты... Абяцала паслабіць павязку і забыла...

— Таварыш камісар!.. Я ж паслабляла... Перад тым як дарогу глядзець выходзіла.

— А-а... Ага... Дарогу... Дарогу нам перайсці трэба. Колькі мы адышліся?

— Метраў чатырыста.

— Ну й до... Скрытна да насыпу, а тады — бягом!

— Тут кар'еры... Зямлю, мабыць, на дарогу бралі. Зарасло, руку не ўсунеш. І вада, здаецца, блішчыць на дне.

— Абыдзем іх... Глядзі, дзе кусты старэй і вышэй. Каб падлазіць пад іх можна было.

Але яны яшчэ пастаялі на месцы. Мікульскі ўжо не бачыў нічога і сіліўся ўявіць сабе, як выглядае гэты зарослы гушчэчаю катлаван, і не мог.

На самым краечку абрыву, ажно звісалі карані, учапілася невысокая сасна-калека. У яе быў адцяты верх, аблузаны бок, але дрэва ўсё роўна хапалася жыць, цягнулася ўгору крывымі стволікамі-галінамі, зацягвала раны смалою. Чамусьці Анюта не магла адвесці ад гэтай сасны свайго позірку.

Пачалі абыходзіць кар'ер, Мікульскі ступаў асцярожліва, абмацваючы дол нагамі. Бераг рабіўся ўсё больш спусцісты. На самым перападзе, у лагчынцы, ён пераходзіў у невысокую перамычку-сценку, за якою пачынаўся новы, меншы кар'ер.

— Тут пойдзем...— Анюта паціху звяла Мікульскага ўніз.

Мелка, паўметра якога... Тут, у другім катлаване, адразу пасля перамычкі раскінуліся ўмітусь купкі ніцай лазы. На шэрай глiністай зямлі раслі пучкі жаўтлявага сіўцу, зелянелі плямкі моху. Добра тут ісці — няма на што спатыкацца, не трэба нагінацца.

Метры за два да дарогі копанка сышла на нішто. Яны абышлі вялізны, як стог сена, вербалозавы куст, прыстоялі за ім, набіраючыся духу. Дарогу трэба было перабягаць адным махам — гэта самае небяспечнае месца.

— Тут насып высокі... Будзеце ступаць — ногі падымайце як найвышэй, нібы па лесвіцы ўзбіраецеся...— павучала Анюта.— Ну, давайце руку!..

Не яна, а Мікульскі сціснуў яе далоньку. Дрыжаць пальчыкі, дрыжаць...

— Спакойна, малая... Ну, уперад!

Ногі адразу натыкнуліся на насып. Мільганула думка: «Зірнуць бы яшчэ раз, праверыць дарогу!» — але тут жа знікла. Ад нервовага напружання правае вока зноў пачало бачыць, нібы хто сцягнуў з яго густую заслону. Ён нагнуўся ў імклівым рыўку і проста перад тварам убачыў высокія вішнёвыя сцяблiны быльнiку. «Сам!» — пусціў Анюціну руку і схапіўся за куст быльніку — няўпэўнена, нават не пацэліў спачатку злавіць, тады за палыновы, нібы выбелены на сонцы куст, тады за маладую цёмна-зялёную сасонку... А ногі саскоўзвалі, не знаходзілі для сябе апірышча, падміналі белы дзяцельнік, крышылі ломкі высокі святаяннік.

— Я ж казала, што вы будзеце бачыць! Я ж казала! — нібы ўсхліпнула Анюта, заглядваючы яму ў твар, не ведаючы, ці памагаць, ці кідацца першай цераз дарогу.

— Бягом! — Мікульскі рвануўся наперад. Бег, як бягуць спатыкнуўшыся,— галава і тулава наперадзе, а ногі адстаюць, не спраўляюцца, нібы ачужэлі. Паспеў заўважыць, што каляіны закарэла-сухія, іх не разбілі, не перамалолі колы. Мусіць, некалькі дзён тут не ездзілі. Анюта ж убачыла больш — справа, метраў за пяцьдзесят, быў завал — паваленых з абодвух бакоў дарогі кронамі насустрач адна адной дзве сасны. Разгатыя абламаныя сукі тырчаць у розныя бакі, як пікі. За дрэвамі праглядваецца свежы пясок — мусіць, шлях акрамя ўсяго яшчэ і перакапаны. А злева... Злева, у лагчынцы, ішлі ў іх бок два немцы! Глядзелі сабе пад но-

гі, абыходзілі якраз, адзін з аднаго боку, другі — з другога, зялёную, напалову загачаную фашыннікам лужу. У абодвух у руках аўтаматы.

Анюта першая зляцела з насыпу, крутнулася насустрач Мікульскаму, расставіла рукі — хацела злавіць яго, прытрымаць.

— Немцы!..— выдыхнула спалохана.— Двое!

Мікульскі абрушыўся на яе, ледзь не збіў з ног.

— Заўважылі?

— Не, здаецца!

Пабеглі далей. Трава густая, у калена... Зачвякала вада, залопаў, захрусцеў пад нагамі лапушысты падалешнік, крохкі хвошч. Пачыналася балота — вунь ужо і купіны з асакою, і мяцёлкі трысьнягу, і ланцужок кустоў... «Хутчэй! Хутчэй!» — сэрцы іх бухалі ў грудзях, як не лопалі ад напружання. Мікульскі чуў, што Анюціна ручка дрыжыць у яго руцэ дробненька, несціхана. Не зразумець гэтае дзеўчанё: заўсёды лезе ў самае пекла і так баіцца. А мо гэта не страх, мо нервы?.. Ірвануліся цераз кусты і тут жа шамнулі, плюхнулі ў «чортава акно»... Не, не «акно» — канава, старая, напалову зарослая канава... У боты хлынула ліпкая калатуша, холад падступіў да пояса. Мікульскі чарпануў далонямі з сярэдзіны канавы, дзе ў прагалку між зелля варушылася плынь, прагна каўтнуў. Здаецца, лягчэй стала ў грудзях...

На дарозе пратупалі, і ў той жа момант па кустах у якім кроку ад іх секанула чарга, звонка трэснуў аўтамат. Мікульскі інстынктыўна нагнуўся, ціскануў на плячук і Анюце.

— Цс-с-с...

Але немцы больш не стралялі, на шляху было ціха. Мікульскі і Анюта не разгіналіся, чуючы холад вады і гразі аж пад грудзьмі. З галавы Мікульскага спаў і целяпаўся віток бінта, і Анюта пачала развязваць вузел, каб пераматаць. Мікульскі памахаў пальцам каля губ: «Ціх-х...» Маўчалі і немцы на дарозе — таксама прыслухоўваліся. Ад аўтаматнай чаргі кнігаўкі адляцелі былі ўбок і зноў вярнуліся, закружылі над немцамі.

— Es scheint dir einfach, Kurt...[1] — данеслася з дарогі. Выразна, нібы гаварылі побач.

Мікульскі нямецкую збольшага разумеў, нават вы-

---

[1] — Табе мо здалося, Курт...

кладаў адзін год — не было настаўніка-прадметніка — і папрасілі яго.

— Keine Spur. Bin noch nicht verrückt.

— Die tolle Geschichte, die von heute, läßt einen zum Idioten werden [1].

— Што яны гавораць? — прашаптала Анюта, узіраючыся ў незабінтаванае вока Мікульскага.

Ён зноў паківаў пальцам каля вуснаў.

— Потым...

— Mein Gott, was steht uns bevor?! Ostfront...[2] — даляцеў зноў малады, знерваваны голас немца. Гаварыў ён занадта голасна — мо яму рабілася ад гэтага смялей?

— Dummes Zeug... Nichts Fürchterlicheres, denn je...

— Doch! Scheint dir der ganze Dreck ein dummes Zeug zu sein? Es wird eine russische Offensive erwartet. Fraglich nur, wo es kracht. Meine arme Elsa! Nur zweimal im Bette geknetet. Schade, nicht einmal an ihren süssen Leckerbissen satt genascht [3],— ледзь не хліпаў носам той, што назвалі Куртам.

— Ganz egal, wo man krepieren soll. Wenn du verreckst, wird sie einen anderen recht schönen Beischläfer finden... und nicht einen...[4]

І тут Курт як не завішчаў:

— Halt die Fresse, sonst knalle ich dich wie einen Hund ab!

— Da habe ich einen... einen Idioten, wie schon gesagt [5].

Мікульскі пахітаў галавою:

— Даваяваліся, цуцыкі... Ідыётамі, гавораць, парабіліся ад сённяшняга... Перастраляць гатовы адзін аднаго...

---

[1] — Ну але! Я не такі вар'ят, як ты думаеш.
— Пасля ўсяго, што сёння нарабілася, і звар'яцець не доўга.

[2] — Божа, што будзе?! Не мінаваць усходняга фронту!

[3] — Глупства... Там страшней не будзе, чым тут.
— Будзе! Ты думаеш, што ўсё гэта так сабе? Чакаецца наступленне рускіх. Толькі дзе яны ўдараць? Бедная Эльза! Я ўсяго два разы з ёю пераспаў, нават не рассмакаваў добра, што гэта такое...

[4] — Усё роўна, дзе здыхаць. А здохнеш, то знойдзецца ў яе хахаль, і не адзін...

[5] — Сціхні, а то я цябе застрэлю, як сабаку!
— Ну во... Ці не казаў я, што ты крыху не таго...

Анюта памагла сабе зубамі, развязала вузел, нахіліла галаву Мікульскага, пачала замацоўваць бінт нанава. Рабіла ўсё механічна, як заведзеная.

Немцы, мабыць, стаялі на адным месцы, бо размова іх чулася ўсё ў тым жа баку. Але, здаецца, стаялі не там, дзе пакінулі Мікульскі і Анюта, перабягаючы, сляды. Мо не дайшлі? А каб дайшлі, убачылі? Ці стралялі б яны больш? А мо паклікалі б астатніх з моста, пачалі праследаваць? Мікульскаму выразна ўявіліся прадушаныя на ўсохлай гразі сляды — вялізныя яго і мо напалову меншыя — Анюціны...

— Zum Teufel, wir brauchen keine Anhäufung auf dem Weg zu untersuchen. Es genügt vollkommen dem Leutnant zu melden, wir hätten nichts Besonderes bemerkt [1],— зноў данеслася з дарогі.

— Na, schön! Dann schneller zurück! Es ist so, als ob man mir gleich den Bauch durchlöchert. Mich schaudert's. Ich fürchte mich, einen Schlag auf den Rücken zu bekommen.

— Geh schon, du Held! Eine Schande — krebsweise wegzukriechen! [2]

На шляху не то ўздыхнулі, не то ўзвылі,— і боты зашкробалі назад.

Толькі цяпер пачуў Мікульскі, як ныюць глыбокім касцяным болем, нібы хто выкручвае ў суставах, ногі. Азваўся раматус... За два гады партызанства ён уеўся ў косці назаўсёды. Ногі ўязджалі ў халодную твань усё глыбей і глыбей, і здавалася, што хутка дастануць да вечнай мерзлаты, як на поўначы.

У тым баку, дзе, па іх меркаванні, павінен быць мост, пачулася доўгая, часценькая траскатня-рокат: «Тр-р-р-р-р... Тр-р-р-р-р...»

— Матацыклы...— прашаптала Анюта.— Пад'ехалі новыя...

Мікульскі ссунуў крыху бінты з вуха, услухаўся. Так, рокат вельмі падобны на далёкі трэск матацыклаў. Але далятаў чэргамі, нібы страчыў адразу на поўны дыск аўтамат.

---

[1] — Не пойдзем к таму завалу на дарозе — ну яго к чорту. Скажам лейтэнанту, што нічога падазронага не заўважылі!

[2] — Ага, хутчэй назад! У мяне такое адчуванне, што вось-вось прастрочаць з аўтамата жывот... Нават баліць ужо... А спіною дык баюся і павярнуцца.

— Ідзі, ваяка! Не будзеш жа адпаўзаць, як рак!

— Ф-фу... Казадой, мабыць... Точна — казадой! Мы раз былі каля шашы залеглі, пачулі «матацыкліста». Ну, думаем, схопім! А гэты «матацыкліст» падляцеў бліжэй, сеў на пень і туркоча... А каб жа ты выдах!

Анюта трымалася за локаць Мікульскага і шырока расплюшчанымі вачыма ўглядалася ў нешырокі, мо з метр усяго, прагалак вады. З дна ад іх ног усплывалі ўгору, выцягваліся на сярэдзіну канавы травінкі і рудыя камячкі муты, заварочвалі ўлева, да ракі. І толькі па іх руху можна было пазнаць, што вада ў канаве не стаіць.

Каб была якая доўгая ламачына, Мікульскі памераў бы глыбіню на сярэдзіне канавы. Але нічога пад рукою не было, дый некалі тут доўга мерацца.

— Ты не за локаць бярыся, танкіст! За рэмень... І мацней!

Анюта ўчаперылася за пояс.

— Дайце мне аўтамат! Вам цяжка... Ці сумку...

Мікульскі зняў аўтамат, але Анюце не аддаў, а ўкараціў почапку і павесіў зноў на шыю. Аўтамат апынуўся пад самым падбародкам.

— От так, ясна? Сваю глядзі... Ага, а пісталет куды дзела?

— Во тут...— паказала ў запазуху.

— Перахавай у шлем...

Анюта зняла танкісцкі шлем, паклала туды пісталет, зноў паволі надзела і старанна зашпіліла гузікі. Перасунула на плячы пад самую патыліцу санітарную сумку, а почапку склала ўдвая і завязала зашмаргам. Яна рабіла гэта хутка, а сама ўсё паглядвала на вадзяны прагалак канавы з зялёнай раскай, цінай і шчупаковым зеллем каля таго берага — якая глыбіня? І мусіць жа, п'явак, п'явак... У такіх канавах іх да гібелі, як не кішаць... А што, калі залезе пад адзенне?

— Ну, з богам, Параска, калі людзі знайшліся...

Мікульскі ўзяў сваю сумку ў зубы і паварушыў нагамі. Гразь не давала іх вырваць, пераступіць, чапляліся за ногі карані плюшчу. Але вырваў неяк адну, падаў як мага ўперад. І ніякай апоры пад ёю не адчуў... Рынуўся ўперад грудзьмі, злавіў галіну куста. Анюта тузанулася за ім... «А-а!» — правалілася ледзь не з галавой. Вада вакол іх ускіпела — клекаталі, вырываючыся наверх, лопаліся велізарныя пухіры газу.

Мікульскі біў пад вадою нагамі, не даваў ім лезці

на той свет, перахопваў па галіне рукамі далей, вышэй... Вось і ўся сцябліна ў руках... Падцягнуў і сябе і Анюту паволі... Яшчэ крыху, яшчэ... Без рыўкоў, плаўна... Драбнейшае вецце не вытрымлівала, трашчала пад каленямі, пад жыватом і грудзьмі. За куст учапілася ўжо і Анюта...

— Во...— выпусціў сумку з рота.— Каленямі станавіся, большая плошча апоры будзе...

Успаўзлі на бераг амаль адначасова, распласталіся, падмяўшы куст. Ляжалі і дыхалі, дыхалі, няўцямна азіраючыся па баках. Першы загаварыў Мікульскі:

— Мурзілка ты, а не танкіст... Пратры левую шчаку і падбародак.

— Мне так сорамна: не памагаю вам, а яшчэ і сама чапляюся.

— Палічымся як-небудзь... Вугельчыкамі.

Анюта паглядзела на свае рукі — рудыя, як у салярцы, на рукавах мужчынскага пінжака, які яна насіла, начаплялася твані і раскі. Цярнула падбародкам па сухім плечуку.

— У рэчцы спаласнуся лепш.

Мікульскі сарваў лісток, хацеў выцерці ёй шчаку, зняць пляму руды. Але гэта была тая шчака, і рука ўздрыгнула, сама апала на вецце. Добра, што Анюта не заўважыла!

— Ага... У рэчцы добра спаласнёмся...— інтанацыя ў Мікульскага была такая, што не зразумееш — ці пацвярджае сказанае, ці мае на ўвазе яшчэ што.— Ведаеш, якое першае правіла мы забылі?

— Якое?

— Правіла хадзьбы па балоце. У гарах страхуюць адзін аднаго вяроўкаю, звязваюцца. А тут трэба, каб у руках шост быў ці кій моцны. Не выламалі там, за шляхам, а тут ужо, мабыць, да самага Бобрыка не будзе нічога людскага — хмызняк адзін...

— Уг-гу...— трэслася Анюта.

— Дрыжыкі прадаеш?

— Сціснула ўсю, калоціць... Каб хутчэй сонца...

— Адкуль толькі ўзялася гэта канава — не разумею. Здаецца, на карце яе няма...— Мікульскі павярнуўся на бок, выцяг з-пад сябе процівагазную сумку-торбу, дастаў з яе камандзірскую планшэтку з празрыстым слюдзяным бокам.— Паглядзі... Ёсць тут гэта

канава ці не?... Знайдзі спачатку чыгунку, Бобрык... Ёсць?

Анюта цярнула аб грудзі руку, павяла пальчыкам па слюдзе ў адзін бок, у другі.

— Ну, што ты маўчыш? Трохвёрсткі ў вочы не бачыла?

— Ой, як цікава!.. Кожная вёска, кожны хутар... Нямецкімі літарамі напісана. У нас у школе дык паўшар'і былі — заходняе і ўсходняе. А яшчэ «Палітыка-адміністратыўнае дзяленне СССР». Мы на марлю карту наклеілі...

— Эх ты, паўшар'і...

— Нашла і Бобрык, і чыгунку, і шлях... Тут заштрыхавана такімі сінімі штрышкамі па абодва бакі рэчкі.

— Балота, значыць... Змахляваў немец-геадэзіст. Па аэрафотаздымку маляваў, мабыць... Балота — дык чаго доўга чыркацца? А балота — яно living бывае... На ім і такія канавы-душагубкі ёсць. А возера Клады бачыш?

— Ага!

— Пакладзі планшэтку... Каб лінія дарогі супала па напрамку з гэтай во, натуральнай. Каб паралельныя былі...

— Ну! Пакруціла...

— А цяпер бачыш, у які бок ад нас павінна быць возера? Засякай, прыкінь арыенціры на мясцовасці, не забудзь на сонца глянуць. І пойдзем напрасткі да Бобрыка.

— Ой, я ўжо лепш без карты...

— І то праўда. Нямая для цябе карта — кепска, таварыш урач.

— Я не ўрач. Я настаўніца малодшых класаў.

— Ну, добра, калега. Не крыўдуй. Шкада, што компас не ўбярог... Сонца дзе — тут? — паказаў Мікульскі на паўночны ўсход.

— Ага. Толькі не сонца — светлая пляма. Неба каламутнае...

Анюту пакрысе адпускала скамянелая зацятасць, што скавала была сэрца. З жаночай жаллівасцю зазірала яна ў незабінтаваны лапік твару, у вока Мікульскаму. Няўжо зноў не бачыць? А такое ж нармальнае з выгляду... «Але каб бачыў, то сказаў бы: «Чаго любуешся?»

— Гм, не відаць, кажаш... Не відаць... Яно зусім можа схавацца, значыць, арыенцір не надзейны.

— Ды тут блізка да Бобрыка. Я і так выкірую!

— Ты слухай, што я кажу... Хмары куды плывуць? Уздоўж шляху?

— Нікуды не плывуць... Шэрая нерухомая пялёнка.

— Падкінь травінку... Куды гоніць?

— Травінку... Зараз... Не ўздоўж шляху, а як бы з-за яго крыху, пад вострым вуглом. Слабы вельмі вецер.

— Пад вострым... А дакладней? Колькі прыкладна градусаў? Геаметрыю не забыла?

— Трыццаць... А мо і сорак...

— Трыццаць — сорак... Ну і добра. Галоўнае — часцей падкідвай траву. І запомні: вецер павінен дыхаць у левую шчаку.

Мікульскі навобмацак схаваў планшэтку ў процівагазную сумку, а пусты дыск выкінуў. Кожны лішні грам цяпер здаваўся кілаграмам. А сілы растаюць хутка, ачужэлай, цяжкай, што бабіт, здаецца галава. Ён і Анюце стараўся растлумачыць усё найлепш, каб больш не вяртацца да гэтага. Мо зусім закружыцца галава, мо прытомнасць згубіць, мо... Ці мала што можа быць? Дык няхай хоць гэтае дзеўчанё выберацца...

— Няма ў цябе больш гэтага... дэзінфекцыі? Пагрэлася б сама на дарогу... А мне душна і як бы кіслароду не хапае... Нібы пад зямлёю, у нары сяджу...

— Няма... Той раз вы дапілі... Можа, вам вады дастаць? Я прывяжу да галіны фляжку...

— Дастань... На во...— Мікульскі сеў, абмацваючы каля сябе таўшчэйшую і даўжэйшую галіну.— На во... От, халера ясная! Калі не трэба — ломіцца, калі трэба — не адкруціць... А чым ты прывяжаш?

Села і Анюта, перакруціла з-за плячэй на грудзі санітарную сумку, развязала вузел, і почапка зноў падаўжэла. Дастала флягу, дастала кавалак ссуканага, як вяровачка, бінта. Яна не адказвала на яго пытанне, бо раздумвала, ці добра робіць, што будзе паіць балотнаю вадою?

— Увогуле, я забараняю вам піць гэтую ваду. Можа, пацерпіце да Бобрыка?

— Што т-ты гаворыш!.. А куды ж, па-твойму, гэтая канава муту нясе? У раку... Эх ты, фармалістка.

Бюракрат ты, Ганна Сямёнаўна! Быць табе загадчыцай санэпідстанцыі «Смерць тараканам і мухам!».

— Ведаеце, колькі ў гэтай вадзе ўсялякіх мікробаў?

— Угу... Несць им числа... А што, па-твойму, зменіцца, калі я да мільярдаў падкіну яшчэ мільён? Я ж піў ужо... На во лепш, паспрабуй маю вудачку!

Анюта ўстала, і пад ёю бераг задрыжаў, закалыхаўся, трэснулі галіны. Яна пераступіла боты Мікульскага — раскіслыя, аблепленыя гразёю, адышла крокі чатыры ўлева. Тут вада чысцейшая, з гэтага боку яна цячэ. А там, дзе боўталіся, усё яшчэ дымяцца, завіваюцца струмені гразі, бы выяргаюцца падводныя маленькія вулканы. Усплываюць, пахіставаючыся, бурбалкі паветра, ледзь чутна лопаюць. Мітусяцца патрывожаныя казюркі.

Анюта зазвінела, заплюхала фляжкай — з першага разу ў яе не атрымлівалася...

«Як там нашы?..— думаў тым часам Мікульскі.— У пункце збору, угавор быў, чакаць да сямі гадзін раніцы... Камандзіры ўзводаў да гэтага часу павінны былі выявіць усе свае страты, далажыць яму. Забітых, сказана, не пакідаць... Колькі людзей нясуць?»

Але не было ва ўгаворы такога варыянта: што рабіць, калі не з'явіцца на пункт збору сам камісар — кіраўнік дыверсійнай групы? У загадзе камандзіра атрада Прымака быў, праўда, пункт: намеснікам Мікульскага на час аперацыі назначыць камандзіра трэцяга ўзвода Васіля Шыпняка... А Васіля таксама няма... Спатыкнуўся Васёк... Васылю... «Там Васы-ылю сіно косыць, тонкый голас пэрэносы-ы-ыць...» Адспяваў сваё хлопец з вясёлымі і нібы вечна здзіўленымі вачыма... Зялёнымі вачыма і дзявочымі вейкамі... «Васылю сіно косы-ыць...» Ад першых дзён з ім былі разам, ад Востраў-Камарова ў Польшчы, ад лагера палонных... Пачатак — і фініш...

— Таварыш камісар, вам кепска? — нібы здалёк чуецца голас Анюты, і ў руку торкаецца халодная фляжка.— Змачыце ў роце... Выпіце трошкі... Не трэба многа, бо аслабнеце горш... Гадкая гэта вада... А мо вам сухара даць? Заваляўся ў мяне ў сумцы адзін...

— Не...

Мікульскі спяшаўся дадумаць, пакуль маглося думаць, пакуль адчувалася ад вады ахаладжэнне ў грудзях. Галаву нібы хто разгушкваў на арэлях — управа-

ўлева, угору-ўніз, ад вады амплітуда нібы зменшылася, як хто прытармазіў крыху гэтыя нябачныя арэлі...

Лагічна думаць, што камандаванне прыняў камандзір першага ўзвода Мікалай Лапуста. Калгасны брыгадзір з-пад Чырвонай Слабады, у бок Слуцка тая Слабада... Гаспадарская ў яго хватка, галавасты мужык. У яго ўзводзе зямлянкі — пашукаць такіх. Выконваць загады ўмее. А вось распараджаецца... «Хлопчыкі, гэта... Хлопчыкі, тое...» Нібы на работу ў брыгадзе просіць выйсці. Слухалі яго добра, хоць і не камандаваў Лапуста. Якое ён зараз прыме рашэнне? Тыя чацвёра, што выносілі Шыпняка, пэўна, вярталіся па Анюту і па яго. Самі, па сваёй ахвоце. Пёрлі да моста праз Бобрык і трапілі пад абстрэл. Ці ўцалелі хоць? Калі ўцалелі, то дзе яны? Гойсаюць па балоце, шукаюць іх ці вярнуліся назад? Калі далучыліся да групы, то, канечне, далажылі — так і так... Якое ж рашэнне прыме брыгадзір у такой сітуацыі? А можа, і не ён прыняў камандаванне групай, мо Русаковіч — з другога ўзвода... Якуб Русаковіч...

— Таварыш камісар! Што з вамі?

— А-а, ты гэта, Анютка... Нічога, пакуль — нічога... Пойдзем! Аддыхаліся трохі і пойдзем...

«Ідыёт! — вылаяў сябе Мікульскі.— Нельга яе пакідаць адну, саму з сабою... Трэба ёй зубы загаворваць... Каб часу не мела думаць ні пра Васіля, ні пра наша становішча, ні пра свой твар... Цікава, гэта ў яе так, як бывае сутарга схопіць нагу? Калі так, дык гэта ж невыносны боль...»

— Вам, мабыць, кепска... Давайце памагу ўстаць!

— Нічога — сам... Я — сам... Вазьмуся за тваё плячо, і пойдзем. Ты, галоўнае, не забывай пра вецер... І глядзі, мо дзе куст добры — кій выламаць. Без кія мне як без рук... Па гэты бок рэчкі не павінна быць вялікага балота... Гэта немец ад страху начарціў на сваёй карце: «Балота! Нетры! Дрыгва! Караул!» А балота — наш родны дом... Камары за дваровых сабак служаць... Куслівыя сабакі, праўда? Не разбіраюцца, хто свой, а хто чужы... А? Што маўчыш?

— Думаю, як камароў выдрэсіраваць.

— Ага! Каб толькі на немцаў кідаліся. «З-зіў!!» — як «месершміты»... А?

Анюта не адказвала.

— На Палессі мора калісь было... Герадот пра яго

пісаў, старажытнагрэчаскі гісторык. Мора Герадота... У Беларусі мора было некалькі разоў. Апошні раз — трыццаць мільёнаў гадоў назад...

Анюта бачыла, як Мікульскаму кепска, разумела, што ён бадзёрыць і сябе, і яе. Але ў яе хапала душэўнай сілы падтрымліваць гэтую гульню. Не было толькі чамусьці слёз, каб зарыдаць-захліпнуцца, закусаць сабе рукі ў адчаі — чыста па-бабску. Усё нібы спяклося ў грудзях. Ёй здавалася, што рухаецца, нешта нават старанна робіць, як заведзеная, не яна, а хтосьці іншы, а ёй можна нават падзівіцца на тую, другую, збоку...

Ісці пакуль што было не цяжка. Траплялiся ўчасткі забалочанага лугу, амаль цупкага, з высокаю травою, і яны брылі ўпобачкі, Анюта трымала яго пад руку. Былі і горшыя ўчасткі, калі раптам дзярон з моху і чэзлай травы пачынаў пухкацець і дыбіцца перад носам, сыкаць, як патрывожаныя гады. Небяспечныя месцы стараліся прайсці як не ўподбежку. Анюце было лепш, яна бачыла, куды ступаць. А Мікульскаму не ўкіруеш кожны крок — сюды ступай, сюды... Хоць і высока стараўся падымаць ногі, але часта спатыкаўся на купіны ці карчы, угрузаў у рудой, з фіялетавымі, нібы нафтавымі, плямамі гразі. Анюта памагала яму вырваць боты, падтрымліваючы за халявы, памагала выціраць іх аб мох — то зялёны, то бела-кудзелісты. Выбіраліся на сушэйшае і стаялі, учапіўшыся адно ў аднаго, аддыхваліся. Часам Мікульскі забываўся, дзе ён, што з ім, і пальцы неміласэрна сціскалі яе плячо — як абцугамі. А яна стаяла і цярпела, сілілася не пахіснуцца і ўсё глядзела са страхам на яго пацямнелую на лбе ад поту і гразі, ад усохлай крыві павязку, на брудныя кроплі, што з'яўляліся на незакрытым лапіку шчакі і спаўзалі ніжай, усмоктваліся ў бінт.

— Гэта ўсё — глупства. Лета, цеплыня... А вось у сакавіку сорак трэцяга, як з блакады выходзілі... Помніш? У самых першых чыслах сакавіка... Помніш?

— Помню... Серафіма тады ўтапілася... Стогава...

— Ага-а... У самым пачатку сакавіка. Мора вады... Ледзяное!.. Вы тады, санслужба, з ног падалі... Ты чаго ўздрыгнула? Плачаш?

— Гадзюка вільнула з-пад ног... Х-ху, аж сэрца захаладала...

— Ёсць гэта дабро, ёсць... І вужоў многа... Паўзу-

ны... Так што яшчэ невядома, каго ты напалохалася. Ты жаб таксама баішся?

— Вой, яшчэ як... Малою была, кінулі раз морквы кавалак за каўнер. «Жаба!» — крычаць. Дык я і самлела...

— Ага-а... Страшней за жабу... звера няма...

— Не смейцеся. Напраўду!

— А італьянцы палююць на жаб. І французы... З сцегнячкоў кансервы нават робяць. Смаката: як крабы...

— І вы іх каштавалі?!

— Еў, не толькі каштаваў. У лагеры ваеннапалонных, у Востраў-Камарове, у Польшчы... Там у адной казарме французы былі. Ім Чырвоны Крыж прысылаў такія кансервы. На абмотку ў іх выменяў. Яны рэзалі абмотку на кавалкі, зашывалі з аднаго боку... Хвацкія шкарпэткі рабілі!

— Вэ-э...— заплявала Анюта.

— Гэта што! Дзед Шула казаў — італьянцы ў сорак першым спыняліся ў яго...

— Шула — наш? Гэты, што з трыма сынамі і жонкаю ў атрад прыйшоў?

— Гэты... Дык італьянцы смажылі лягушак на патэльні... Налавілі вялікіх, зялёных, што ў сажалках... Дык дзед казаў: толькі выбраліся, паехалі — трах малатком па скавародзе, павыкідаў чарапкі за хлеў.

— Вой, не вытрываць...

— Якая ў каго завядзёнка. У Індыі каровы лічацца за святых жывёлін. Іх не забіваюць, бадзяюцца беспрытульныя, хістаюцца ад старасці... У Афрыцы змяя — далікатэс. Хто зловіць — нясе правадыру племя... Або насушаць саранчы, хрумстаюць, як семкі...

— Перастаньце!..

— От дзівачка... Не верыць... Не ве-е...

Мікульскі не зразумеў, што з ім зрабілася. Нібы хто гушкаў яго на арэлях, гушкаў — і тузець! Вырваў з-пад ног дошку, і ён паляцеў у цёмную бездань. Здалося, што падаў доўга, як зацяжным скачком з парашутам: куляецца, лунае — угору-ўніз, галава-ногі, ногі-галава...

Ад удару аб зямлю, ад болю, які, здавалася, расколоў чэрап, знепрытомнеў. Але, мабыць, ненадоўга, на долі секунды, бо тут жа ўбачыў над сабою яшчэ горш скрыўлены з перапалоху твар Анюты. Губы ў яе вару-

шыліся, але ён не чуў, што яна гаворыць. І раптам пачуў, нібы знайшоўся кантакт у правадах:

— ...вамі? Спатыкнуліся?

— Аб'яўляеш прывал? Суха, здаецца, тут...

— Я не ўтрымала вас, даруйце... Бобрык блізка, яшчэ крокаў сто... Там сушэй!

— Бобрык — гэта добра... Да Бобрыка мы дойдзем... Мы яшчэ пазмагаемся... з Бобрыкам...— гаварыў ён, адарваўшы галаву ад травы, і не ўставаў, а ўсё шырэй расстаўляў рукі, апіраўся аб зямлю...

«Вось так... Аперціся — галоўнае... За зямлю трымацца... ніхто не саб'е... Не выб'е з-пад мяне зямлі... За зямлю трымайся — і не прападзеш... Апірышча — зямля...»

Здалёк даляцеў ледзь чутны стукат аўтаматаў.

«Цім, ці жыў? Цім, ці жыў?» — пацікавілася з прырэчных зараснікаў сініца. Прарэзліва ўскрыкнуў дзікі качар — папярэджваў качку з качанятамі.

Мікульскі нічога гэтага ўжо не бачыў і не чуў. Чуў толькі і бачыў нешта сваё, што наляцела на яго з сорак першага, з першых дзён вайны...

Сядзела каля яго, затуліўшы твар, не варушачыся, Анюта...

## 2

Сорак першы...

Сорак першы...

Які ты ўжо далёкі — сорак першы! Цэлых тры гады да цябе... Тры гады...

У той дзень Мікульскі прыехаў да сястры ў Купенск, на Украіну. «Акцябрыцца», святкаваць нараджэнне пляменніка... «Гэта ж мо сын! Першынец! — пісала сястра Зіна.— І каб ты бачыў, який гарний парубок!» Ад Миколы свайго набралася, спрабавала пісаць крыху па-ўкраінску.

Паставіў чамадан, выцер пот. «Гарачыня якая тут... А ў нас, у Мінску, мо паўмесяца халады былі — у паліто хадзілі».

Хацелі ісці з Миколам на рэчку. А потым перадумалі: лепш у лазню. Напарыўся з дарогі — усе костачкі сталі васковыя. Хвастаў яго венікам Микола, а ён думаў пра халоднае піва, пра добрую чарку, пра песні застольныя... А толькі выйшлі — нібы абухом па галаве: вайна! Молатаў па радыё гаворыць. Прыйшлі дадому,

а Зінка ўжо знепрытомнела. Ашчаперыла рукамі свайго «парубка» і самлела...

І тры гады ўжо Мікульскі на вайне... Больш тысячы дзён! А калі дакладна — тысяча дзевяноста. Дзевяносты — гэта, мабыць, сённяшні, сённяшнія суткі. Вайна пачалася дваццаць другога чэрвеня. Дзень тады выдаўся — цуда: сонечны, ціхі... Паветра мядовае — сама цвілі, буялі травы... Сёння дваццатае чэрвеня... І таксама цвітуць травы... Во, як густа пахне любізнік — кудзелістае, з дробнымі белымі кветачкамі зелле. Дзявочая прысуха...

«Няўжо некалі і гэты чэрвень, сорак чацвёртага года, і той адыдуць далёка-далёка ў гісторыю? І будуць успамінаць пра яго і ў школе вучыць — як гісторыю. Няўжо для нашых наступнікаў усё гэта будзе толькі гісторыя, пра якую можна спакойна чытаць у кніжках, як пра Карфаген і яго разбурэнне?»

А пайшоў Мікульскі на вайну нават не на першы дзень і не на другі. На трэці — калі на вакзал прыйшлі эшалоны з параненымі і ён з другімі актывістамі арганізоўваў іх перавозку ў першую школу, выкідваў на двор парты... Камісар Купенскага ваенкамата меў нейкае ўказанне, штосьці плёў пра чаргу для такіх, што маюць адукацыю. Два дні адмахваўся ад яго: «Пагодзь!.. З вышэйшай адукацыяй — пагодзь!» На трэці здаўся... Не, грозьба не магла на яго падзейнічаць, многія тады і ўпрошвалі, і гразілі ваенкому... Глупства гэта — грозьба... (Гразіў прыстаць да любой часці і трапіць на фронт без ваенкамата.) Проста ваенком быў смяртэльна стомлены чалавек... Божа, якія ў яго былі хворыя ад бессані вочы: павекі набраклыя, ажно сінія, бялкі чырвоныя, а ў куточках вачэй, абапал носа — белыя камячкі...

...Дзе было ў Мікульскага першае баявое хрышчэнне?

І першае, і няпершае — на Паўднёва-Заходнім фронце, у 66-м палку сувязі... У ляску, за якія тры кіламетры ад Палтавы, стаяў штаб фронту, а яны забяспечвалі яму сувязь з арміямі... Світанак быў ружовы, празрысты, быццам не ліпень, а ранняя вясна... На нямецкія самалёты спачатку не звярнулі ўвагі. Ляцяць? Хай... Яны і дасюль лёталі, куды хацелі. І толькі калі ў Палтаве ледзь чутна прапелі трывогу трубы і пачулася «Воздух!», убачылі, што ўсё неба ў белых крапінках —

спускаліся парашутысты... Хацелі немцы дэсантам захапіць і знішчыць штаб. Дзівіўся тады Мікульскі, як усё ў немцаў прадумана: адны бамбяць, другія на брыючым палёце спускаюць танкеткі, і тыя з ходу ўступаюць у бой, трэція сыплюць, як жменяю, дэсантнікаў. «На штыкі іх, рабяты! На штыкі, гадаў!» — як не ў істэрыцы крычаў камендант палка. Эфектна! Карцінна — прыняць дэсантніка на штык! Хоць кіно здымай... Але чаму на штык? Іх трэба было пачынаць біць яшчэ ў паветры. Яны ж нас білі, касілі з паветра, не чакаючы прызямлення...

А можа, каля Безмяцежнай, у Курскай вобласці было тое хрышчэнне? Гэта ўжо амаль на самай перадавой, а недалёка ад фронту. Адпрасіўся-такі ў начальніка сувязі штаба... Той ледзь не задыхнуўся, калі прачытаў яго поўны гарачых слоў рапарт: «А мы што — адседжваемся ў тыле? Качак б'ём? А ці вядома вам, таварыш сяржант, на якой адлегласці павінен быць штаб фронту ад пазіцый?»

Дзіўная вёска гэтая Безмяцежная, хаты стоўпіліся на пагорку, як статак авечак. Ні вуліц, ні завулкаў... З захаду ўрэзваюцца ў пагорак каньёны-яры, па іх ідуць дарогі, інакш не ўзбярэшся. І зноў усё здарылася на дасвецці — туманным, дажджлівым. Вярталіся яны ўтрох, Мікульскі і яшчэ два байцы, з начной праверкі кабеля — разрыў на разрыве быў... Вымаклыя, стомленыя — ледзь ногі цяглі... Прысунуліся да каньёна, а там маршыруе калона немцаў! Пад узгоркам — марудна, як не вобмацкам, фарсіруюць рачулку сем танкаў... А ў Безмяцежнай цішыня, «храп з прысвістам». «Хлопцы — давай! Накрыюць нашых, як куранят!» Упалі на глісты абрыў каньёна, ударылі з аўтамата і дзвюх вінтовак па немцах. І тады ўжо пярэпалах у вёсцы — «У ружжо-о-о!!!». Пачалі выскакваць з хат, займаць абарону. А немцы рассыпаліся ў ланцужок па агародах і не стралялі, чакалі танкаў. «Што? Танкі? Сем штук? Ад рэчкі ідуць? — адрывіста перапытваў Мікульскага палкоўнік Каўрыгін.— Ты што — танкаў не відаў, да?» Хахмач быў той палкоўнік з аператыўнай групы. Вынес табурэтачку на двор з хаты, сеў з кубкам і п'е чай. Махнуў у бок танкаў: «Прыбярыце гэту гадасць! Снедаць мяшае!» Ардынарац вынес за ім на двор тэлефон, пакруціў, падаў трубку. «Слухай, пяты! Стукні са сваімі малайцамі на Безмяцежную... Абходзяць

нас... Ад рачулкі зайдзіце, у спіну ім... Ага, гэта я, Каўрыгін, цябе спазаранку...» Так і не сышоў са свайго табурэціка да канца бою. Арыгінал! Напалеон Банапарт! Але добра, што тады падмаглі суседзі, што танкі не палезлі ўроссып па касагоры, а ўцягнуліся ў каньён... Кідалі пад іх з берагоў-абрываў звязкі гранат, чатыры падбілі. А тры далі задні ход, пайшлі ў абход вёскі. Былі тады і палонныя, і трафеі, і, мусіць, заліхвацкую рэляцыю начальству склаў Каўрыгін: «Вось як трэба фашыста біць! Не адступаць — а біць! Не лічыць свае страты — а біць!»

...Ах, як расшкуматалі, скрывавілі, перамяшалі з зямлёю тое аўсянае поле!.. Авёс вялікі ўжо, у калена, можна было залегчы... Шалахцяць мяцёлкамі ўцалелыя сцяблінкі, нібы дачасна ссівелыя... Чарнее яма на яме — ад бомбаў, ад снарадаў... Па краях навернута, як плугам, чарназёму, за ім абпаленыя, учарнелыя ці збялелыя сцяблінкі, і зноў валам зямля і яма, і зноў валам зямля і яма, і зноў яма...

Сярэдзіна мая, сорак другі. Наступалі нашы пад Харкавам. Хутка наступалі, дайшлі нават да Вялікамі-хайлаўскага раёна... Даваў Мікульскі са сваім узводам сувязь дзявятай арміі. Бой грыміць, гараць вёскі — Красівая і Лазавенькі... За Красівай, за гародамі — балацяная рачулка, грэбля і масток. Усе падыходы да пераправы і грэбля забіты тэхнікай... Прыцемак ужо... Крыкі, мацяршчына, надрыўнае выццё машын... Кожная другая засела, невядома, хто каго выцягвае, каго спіхвае пад адхон. За рэчкаю, над Лазавенькамі, успыхваюць ракеты...

На захад! Уперад!.. Бяжыць жа праклятты фрыц, драпае... Зайграюць нашы «кацюшы» — і такога драпака дае! Га-а, нясмачна! Не даспадобы.... От бы толькі пераправу знайсці другую, бо па гэтай грэблі да раніцы не выберашся... Шлёпалі па балоце, па кустах і ўправа і ўлева — няма больш зручнага месца. Убіліся і яны з палутаркай і машынай АСК у калону, узлезлі на разбалабучаную да самага чарцячага пекла грэблю. Машыны параўлі, пабуксавалі і селі мастамі.

«Во-оздух! Во-о-оздух!» — закрычалі і там і тут. Але не ўдарыла па самалётах ніводная наша зенітка, ніводзін кулямёт. Ніхто ў суматосе не арганізаваў супрацьпаветраную абарону. Над галовамі завыла, заенчыла, як не ўціснула ў гразь саміх. Бухнула ўперадзе,

якраз на грэблі — узляцелі ўгору і апалі марудна ўніз, нібы пускалі запаволена кіно, камякі зямлі і друзу, зачмякалі абломкі нечай машыны. І адразу там драпежна захісталіся ў бакі крывава-чорныя, дымныя языкі, запахла паленай гумай і мазутам. І яшчэ адзін выбух бачыў Мікульскі — ля самага моста, у вадзе, нібы вырас раптам высозны белы кіпарыс з гразёю і агнём замест камля... І яшчэ выбух, і яшчэ... Людзі рассыпáліся ў бакі, па кустах, па балоце, кідаліся ў ваду. А потым ужо выбухі зліліся ў суцэльны гул-землятрус. Толькі заціхла, як над пераправай з'явілася яшчэ адна група бамбардзіроўшчыкаў, скінула на парашутах асвятляльныя ракеты. Яны паволі сплывалі з ветрам на ўсход, заліваючы ўсё навокал жудасна-белым святлом. А самалёты вылі, пікіравалі, гахалі бомбы, стукацелі зверху кулямёты. Трэслася зямля, хісталіся фіялетавыя сполахі...

Вярнуліся да сваіх машын раніцаю. На грэблі — абгарэлыя шкілеты, перамешанае з зямлёю, абрынутае ў варонкі скарэжанае жалеза. Шафёры машын, байцы, што засталіся ў жывых, пераходзілі па астатках моста на заходні бераг. Там за ноч збілася чарада машын і павозак з параненымі. А Мікульскі ішоў са сваімі байцамі ўгору, потым зноў крыху ўніз — Лазавенькі стаялі не то ў вялікім яры, не то ў лагчыне, зноў узбіраліся на пагорак, ужо за вёскаю. Ішлі, хоць ужо пранеслася чутка пра акружэнне, хоць пачалася мітусня... Паўзлі і ішлі, падтрымліваючы адзін аднаго, уніз, да Лазавенек, параненыя чырвонаармейцы. Божа, якія ў іх былі вочы! І мальбу аб паратунку, і асуджанасць на пагібель, смяротны смутак, і адчай, страх, і праклёны ўсяму свету — усё ў салдацкіх вачах можна было ўбачыць. Толькі май мужнасць, глядзі ў іх, не адводзь сваіх, не ўтароплівай долу позірк...

Ах, авёс, авёс... Кожную тваю сцяблінку на ўзрытым, здратаваным полі бы хто знарок абмачыў у кроў... Кожная мяцёлка — як гронка чырвоных ягад.

Не наступаць трэба было, не адрывацца ад флангаў, а адступаць. Улезлі самі ў пастку — грыміць кананада з усіх бакоў: і цішэй, нібы далёкі гром, мабыць, прарываюцца нашы часці за Данец, і мацней, бліжэй, на левым флангу.

Хутка пачалося і ў іх. Дыбаром уставала зямля, падымаліся калахматыя, у агні і чарнаце, сырыя сцены

чарназёму, ападалі, хаваючы пад сабою ўсё жывое. Пачварная сіла то гушкала, шпурляла, адрывала ад долу, то біла ўсёй планетай у грудзі, хоць, здаецца, упіваўся ў яе кіпцямі да крыві, і зноў уздымала, зноў убівала ў гразь...

Бамбёжка — артналёт... Бамбёжка — артналёт...

А потым пайшлі танкі...

Леглі на тым аўсяным пагорку ўсе з яго ўзвода. Да аднаго! Шафёр АСК — цуда-машыны, сама падбірае кабель — сплываў крывёю, канаў на руках Мікульскага. А ён, глухі, абалдзелы, не верыў, што хлопец канчаецца, і, сцягнуўшы яго ў свежую, поўную смуродлівага куродыму варонку (Цімоха тут жа вырвала), садраў з сябе гімнасцёрку, пашматаў яе на палосы і ўсё матаў, матаў іх на Сенькавы грудзі. І не заўважаў, што на брустверы ўспыхваюць султанчыкі зямлі, жыхаюць кулі — сподняя кашуля яго бялела як мішэнь.. А танкі ўсё бліжэй і бліжэй, усё шчыльней агонь іх гарматаў і кулямётаў, і бягуць за імі ўподбежку, ланцугамі немцы...

І бачыў Мікульскі ў тую крывавую раніцу чалавечы адчай — ляцеў адзін з шабляю, на кані ў бок танкаў, пакуль не зрэзала чарга з кулямёта... Бачыў, як паднёс да скроні пісталет маладзенькі лейтэнант з адным «кубаром» у пятліцы... Бачыў, як піў з бутэлькі,узахлёб, скурчыўшыся на дне ямы ад бомбы, сівы ваенны з трыма шпаламі ў пятліцах, а вочы ў яго былі ўжо, што ў мерцвяка.

І бачыў мужнасць. Адна «кацюша» прыкрывала адыход іншых, у яе было яшчэ некалькі зарадаў мін. І тыя «кацюшы» зніклі з вачэй, а сама шугала мінамі да апошняга, хоць яе акружылі ўжо з усіх бакоў, і падыходзіла, угнуўшыся, група афіцэраў. Такі трафей, такі трафей! І раптам у самыя твары ім ударыў вогненны смерч, раскідала ў бакі скарэжаныя рэйкі, узляцела, перакруціўшыся некалькі разоў у паветры, кабіна.

Мужнасць была і ў тым, каб у гэтай калатнечы не страціць здольнасць думаць, паспрабаваць арганізаваць байцоў на прарыў. Падняў іх разам з Мікульскім батальённы камісар Палішчук, павялі людзей за аўсянае поле, дзе чырванелі на ўскрайку першыя макі, да кустоў у лагчыне. Там, здаецца, было цішэй, там не было танкаў, там чакала збавенне... І толькі высыпалі на траву — паласнулі па іх з кустоў аўтаматы. Падалі бай-

цы, нібы падцятыя косамі, і самы першы — Палішчук. «У яр! У яр!» — крычаў тым, што яшчэ былі жывыя, Мікульскі. А таго не ведаў, што ў яры таксама ўжо прасачыліся немцы, расчляняючы на часткі нашу абарону. І людзям уткнуліся ў грудзі аўтаматы — «Хэндэ хох!..».

Той яр, куды скаціўся Мікульскі з трыма байцамі, быў яшчэ не заняты. Прадзёрліся праз кусты да выхаду на луг, на Лазавенькі, а там ланцужкі немцаў — і бліжэй, і далей, уцягваюцца ў вуліцы палаючай вёскі.

Слухаліся ўжо інстынкту. Крутнулі назад у яр, пашыліся ў хмыз, якраз самым нізам, дзе бег калісь ручаёк, па спаласованым вадою пяску. Але іх шастанне пачулі зверху, і над калінавымі кустамі закуляліся ў паветры гранаты з доўгімі ручкамі. Паспелі ўпасці ніц... Звонкія выбухі аглушылі, нібы бабэхнулі над самым вухам у дно тазіка. Пасыпаліся на спіны, на галовы галінкі, закружылася матылямі лісце...

Мікульскі ўсхапіўся, мацнуў за сцёгны, за лыткі... Здаецца, не зачапіла нідзе. А байцы не варушыліся... Тузануў аднаго — скрываўлены, пашкуматаны бок, правая рука ненатуральна вывернута, замест прадплечча — дзве пашчапаныя, аголена-крывавыя косткі. У другога знесла паўчэрапа...

Хістаючыся, што п'яны, ён прабіраўся ў вярхоўе яра. Там было мяльчэй, там лягчэй выбрацца. І толькі ўскарабкаўся па стромым схіле, хапаючыся за кусты, падцягнуўся на руках, закінуў на беражок нагу, як ледзь не ў вока тыцнуў яму немец пальцам. «Ком, ком, ком, майн лібер!» — засюсюкаў ён, выцягваючы губы трубачкай, нібы забаўляў груднoе дзіця, і зноў ківаў, выманьваў яго пальцам: «Ком, ком, пошэму ты не шоль?» «Го-га-га!» — рахталі астатнія немцы — іх многа сядзела на ўскрайку яра і на кукішках, і паспускаўшы ўніз ногі: бялявыя, нібы выгаралыя на сонцы, запыленыя, прапахлыя потам. У Мікульскага абвялі, падкасіліся рукі, хацеў кінуцца назад у яр. Але яго імгненна падхапілі пад локці, ірванулі ўгору... Крутнулі тварам на Лазавенькі, таўханулі ў спіну. І ён, каб не ўпасці, астояцца на нагах, прабегся ўніз па схіле, блытаючыся ў аўсе, аступаючыся на разорах, спатыкаючыся на забітых, саскоўзваючы ў варонкі. Але не ўпаў, не даў немцам яшчэ раз парагатаць з яго.

Пад пагоркам, на лузе фарміравалася калона палон-

ных. Не калона, а разнамасная пляма на цёмна-зялёным фоне. Якога колеру ў гэтай калоне было больш — хакі? Чорнага? Белага і чырвонага ад скрываўленых бінтоў? І з усіх бакоў брылі сюды пад аўтаматнымі дуламі, ледзь перастаўляючы ногі, то групкі байцоў, то адзіночкі — знясіленыя, знявечаныя, абяззброеныя...

Толькі потым, брыдучы ўжо ў гэтай страшнай, поўнай жальбы і бяссільнай нянавісці калоне небаракаў — на захад, у бок Краснаграда, Мікульскі мацнуў сябе за грудзі. Не было ні кішэнь, ні гімнасцёркі, адна толькі перапэцканая, падраная нацельная кашуля. Сцепанула нібы токам: партыйная кандыдацкая картка засталася разам з трантамі гімнасцёркі... Недзе там, на аўсяным полі, на скрываўленых грудзях Сенькі — шафёра АСК...

* * *

«Сеў... А як больш не ўстане? Як я яго падыму?.. А цераз Бобрык як?» — Анюта ў адчаі глядзела то на Мікульскага, то ў бок моста, то за рэчку. Моста за хмызам не відаць, значыць, і немцы іх не ўбачаць. Абы не надумаліся спусціцца, прайсці ўздоўж рэчкі, як прайшлі перад гэтым ад чыгункі да моста на шашы... З кіламетр ісці да іх паўз рэчку, за лічаныя мінуты даскочаць...

«Мо вады яму халаднейшай... Мо палягчае ад вады?»

Адмахваючыся аберуч ад камароў, яна выйшла на бераг. Якая шырыня! Божа, метраў пяцьдзесят... І якая рудая вада — дна не відаць. А на тым беразе ўсё затуліла гушчэча зараснікаў, тое вялікае балота недзе за імі, перасвістваюцца нейкія пташкі. Спуджана ўскрыквае, заўважыўшы Анюту, качар, выблытваецца з трыснягу пад правым берагам і раптам лапаціць крыламі па вадзе, узлятае, робіць імклівы круг. Фіў-фіўфіў! — высвістваюць крылы. А качкі з качанятамі няма, зашылася недзе пад бераг, пад навісь кустоў...

А з іх боку бераг спусцісты, забалочаны. Анюта ступіла, і ногі загрузлі, іл і твань хапілі мёртвай хваткай. Адразу сцепанулася ад страху і агіды: успомнілася, як яны бултыхаліся з Мікульскім у той гнілой, забытай богам і людзьмі канаве.

Абышла балоцістую западзіну, падалася ўверх, су-

праць цячэння. Крокаў за сто трапіўся травяністы грудок, над ружавата-белым дзяцельнікам мірна зумкалі пчолы, стаяў густы мядовы пах. Падтачыла грудок вада, як укроіла нажом, але далей размываць не далі карані вольхі, кустоў. Анюта сарвала з куста некалькі шышачак хмелю, панюхала. Моцны пах дурнап'яну забіў, заглушыў мядовы пах белай канюшыны. Няўцямна сунула шышачкі ў кішэню. Трымаючыся за галіны вольхі, ступіла на чорны, падобны на спрута, корч. Адсюль можна было дастаць да вады, і Анюта спаласнула фляжку, набулькала чыстай вады — поўненькую. Каўтнула сама, закруціла накрыўку. Чамусьці нудзіла пад грудзьмі...

Кінула фляжку на бераг, прысела зноў, каб памыць рукі, апаласнуць твар. Угледзелася ў люстэрка вады і ўсхапілася на ногі, ускарабкалася на бераг, спуджана зноў азірнулася на ваду. Але ўбачыць тое жахлівае, што ўбачыла — свой твар,— ужо не змагла. Падняла фляжку, подбежкам пусцілася да Мікульскага.

А ён усё сядзеў у той жа позе, упёршыся рукамі ў дол абапал сябе, белую ўбінтаваную галаву апусціў на грудзі, злёгку ківаўся ўправа-ўлева.

— Я вады лепшай прынесла!.. Вады каўтніце!..— укленчыла перад ім і пачула пад каленямі халадок макраты.— Цімох Андрэевіч! Цімох Андрэевіч! — церабіла яго за плячо, прыўзнімала далонькамі пад шчокі галаву.

Мікульскі мо не пачуў яе голасу, і тады яна закінула яму галаву больш, прытрымала. Вусны крыху прыадкрыліся, а зубы так і не расшчаміліся. Прыставіла рыльца фляжкі, лінула вады... З куточкаў губ на шыю, за каўнер пацяклі струменьчыкі. Урэшце Мікульскі зрабіў глыток, і вялікае «адамава яблыка» на горле тузанулася ўгору-ўніз. І зноў галава апала падбародкам на грудзі. Ён не падаваў голасу, хоць і не завальваўся на траву. Дзіва, быў мо без памяці, а не падаў!..

Анюта ўкінула фляжку ў сумку, падхапіла Мікульскага пад пахі і пацягнула да берага, на сушэйшае, да таго альховага куста. Колькі тых метраў, а спынялася адпачыць і раз і другі. Мікульскі стагнаў скрозь зубы і не абзываўся, хоць Анюта тармасіла яго і тармасіла, як мурашка жука. Урэшце пасадзіла, трымаючы за спіну, і ён зноў у паўсвядомасці ўпёрся абапал сябе рукамі.

Анюта апусцілася ўпобачкі. Падняла да падбародка калені, тужэй напяла на іх мокрую і брудную спадніцу — не пазнаць, з чаго пашыта, абшчапіла калені рукамі і як здранцвела.

«Хай бы хоць пастагнаў больш, мо б яму лягчэй было...— думалася ёй.— І што рабіць далей? А калі не прыйдзе да памяці? Як я дам яму рады — адна? А мо ён проста стаміўся?.. Вось адпачне — і ўсё будзе добра... Няхай пасядзіць...»

«Не ведае ніхто, што мы па гэты бок рэчкі... Думаюць, што паспелі праскочыць мост, там нас шукаюць... А можа, ніхто і не шукае? — ад гэтай думкі стала горш зябка.— Не-не, не можа быць гэтага... Партызаны павінны пацікавіцца, што з намі... Дзе мы... Яны не могуць... не павінны без камісара вяртацца ў лагер — хоць з жывым, хоць з мёртвым...»

Анюта ўстала, палезла зноў на той корч-спрут. Не ўглядаючыся ў ваду, плюхала і плюхала сабе ў твар. Умылася і пачала рабіць сабе халодныя прымочкі на шчаку: набірала ў далоні ваду і акунала твар у рудаватае азерца, замірала надоўга, наколькі хапала дыху. Потым пасаскрэбвала збольшага гразь са спадніцы, замыла рукавы і крыссе пінжака. І кінула: хопіць. Пакуль пераплывуць Бобрык, то абоўтаецца добра.

Выбралася зноў на бераг, прысела каля Мікульскага на кукішкі, прамыла яму, паліваючы на далоньку з флягі, незабінтаваны кавалачак твару пад правым вокам.

І Мікульскі раптам уздыхнуў, як прачнуўся, расплюшчыў вока.

— Дзе я?.. Ты тут, Анютка? Дзе мы ўжо?

— Тут, тут... На беразе Бобрыка.

— А чаму так ціха? Здаецца, стралялі...

— Далёка недзе... Мо на чыгунцы — з таго боку, пад Пінск.

— А з моста, з шашы — не?

— Не... Ціха...

— Бобрык, значыць... Ну, вось... выйшлі на Бобрык. А ты казала — компас. Стратэгічную задачу ты ведаеш — дабрацца да лагера. А бліжэйшая, тактычная — фарсіраваць раку... За ракой дарогі, за ракой — людзі... Сувязны там блізка... Будзем разважаць... Мост маўчыць, так? — Мікульскі схіліўся ўперад, паклаў рукі на брудныя калені.— Калі маўчыць, значыць, нем-

цы больш нічога падазронага не чуюць і не бачаць... А можа, і пайшлі зусім... А можа, схаваліся, засаду зрабілі. Якія яшчэ варыянты могуць быць, га?

— Не ведаю... Гэта чыгуначныя немцы, ім на шасейным мосце няма чаго рабіць.

— Малайчына, і так можа быць...— Мікульскі намацаў у кішэні кіцеля кісет з тытунём, запальнічку. Дастаў кісет, сціснуў — з яго цурком палілася вада.— Капут курыву... Халера-а... А калі гэта з якой палявой часці з Лунінца ці фельджандармерыя? То-та ж... Можа, у іх якая задумка... Не прадугледзіш — трапіш, як варона ў суп. Калі б можна было вярнуцца на мост, то не трэба было б і думаць пра фарсіраванне...

— Зноў назад?! Цераз тую гнілую канаву?! Лепш у пекла...

— Затое калі пакінулі мост, то і рызыкі менш, чым на рацэ... Канава — што? Канава — гэта не рака. Калі не скакаць з пуду, як мы, можна лепшае месца знайсці...

— Столькі мучыліся, абход рабілі... Маглі б пасядзець у кустах, пачакаць, пакуль немцы пайшлі б...

— «І ты разумны, Кандрат. І ты, і Мікіта». Ведаеш, адкуль гэта?

Анюта пацiснула плячыма.

— Не помню...

— Эх ты, вучыцелка... Гэта ж «Стараста» Якуба Коласа... Там стараста ўсіх называе разумнымі, хто яго хваліць. Хочаш, у «ліцах» раскажу гэтае апавяданне?

— Не...

Анюта пакрыўджана адвярнулася, пачала глядзець на плынь. Пасярэдзіне ракі вада закручвалася ў вірызавітушкі. Мікульскі ўлавіў перамену ў яе голасе, працягнуў руку, наткнуўся на яе плячо.

— Ладна, не крыўдуй... Я табе як-небудзь... «изображу». Калі жывы будзем... Раскажу і як у артысты паступаў. Трагікамедыя! Не ў якія-небудзь там драматычныя... Каб у оперы спяваць... Рашыў, што ў мяне шаляпінскі бас... Да-аа... Пра што мы гаварылі?

— Ісці назад к мосту ці не...

— Ага... К мосту... Разведку зробіш... Калі не выявіш нічога падазронага, пойдзем назад — на мост... От ты кажаш, чаму не пасядзелі, не пачакалі. А калі б сядзелі дарэмна? Калі яны ўстанавілі кругласутачныя пасты?

— Нашто ім гэты мост? Дарога ў многіх месцах перакопана, завалы парôблены... Даўно ніхто па ёй не ездзіць.

— Даўно не ездзіць... «І ты, Мікіта...» О, прабачай... Дарога такая штука — тут ёсць рух, тут няма. Канавы засыпаць, завалы расцягнуць — плёвае дзела. Гэта не новы мост пабудаваць ці кіламетр чыгункі аднавіць... Цяпер немцы за ўсё будуць хапацца — трэба ж фронт забяспечыць! Яны не дурні, разумеюць: сённяшні «канцэрт» — не так сабе... Мы сядзелі ў канаве, а тыя двое немцаў на дарозе таксама пра гэта гаварылі... Што рускія ў наступленне пойдуць...

— Не паспеюць адрамантаваць ні чыгунку, ні шлях.

— Дай-то бог! А як паспеюць? А як выганяць усё насельніцтва з вёсак? Хіба ж не было так?

Анюта варухнула плечуком, і Мікульскі прыняў руку.

— Ну, ладна... Калі не ўдасца нічога з мостам, будзем шукаць брод. І лодку заадно — а раптам дзе стаіць пад кустамі? Але гэта так — «мечты и звуки»... Вёсак паблізу няма, адкуль тым лодкам быць... А брод, ведаеш, што гэта такое?

— Вам абы кепікі строіць.

— Не, Анютка, гэта не так смешна, як здаецца. Ну — як ты пазнаеш, дзе брод?

— Дзе мяльчэй... Кіем памацаю...

— Правільна, мераць трэба. Але ж усю рэчку не перамераеш, да сярэдзіны не далезеш... Брод можна пазнаць... Прыкметы ёсць... Ты, здаецца, ваду свежую брала?

— Ага! — падхапілася Анюта, дала яму ў рукі фляжку.

Мікульскі адпіў некалькі глыткоў, скрывіўся — «Цёплая...». Рукі зноў абяссілена апусціліся на сцёгны, у адной — фляжка, у другой — каўпачок.

— Значыць, так... Глядзі, дзе рака ўшыркі раздаецца... Дзе цячэнне больш павольнае.

— Вой, яно ўсюды — чуць варушыцца.

— Не кажы... Ні вадападаў, ні бурных патокаў на Палессі няма... Але ж пазнаць можна, дзе хутчэй цячэ, дзе павальней... Траву кідай на быстрак... Выбірай тыя месцы, дзе берагі больш спусцістыя, палогія... Ну, і расліннасць падказаць можа: дзе ерніку многа, аер на

бродзе далёка ў ваду забіраецца, чарот... Збаночкі ўсякія, лілеі... Не, на збаночкі не глядзі... Яны і на глыбокім могуць быць... У якой завадзі... Боўтнеш, бяды з табой... не абярэшся...

Мікульскі гаварыў, і перапынкі паміж сказамі, часткамі сказаў рабіліся ўсё большыя і большыя. Цяжка было варочаць языком. Думкі ўмесца не збіраліся, уцякалі, бы вада між пальцаў.

— Вой, я і не запомню ўсяго... Я лепш схаджу на мост, пагляджу.

— А-а, во як ты загаварыла ўжо, таварыш Карпушонак... А я ж яшчэ не ўсё сказаў...

Мікульскі раптам выпусціў з рукі фляжку, і з яе забулькала, палілася на траву вада. Зноў упёрся абапал сябе рукамі, і Анюта бачыла, як пальцы яго паволі, сутаргава падгіналіся, дзеручы дзярон, упіваліся ў зямлю...

— Яшчэ... плюшніку сухога... Ці сена... Прыплаўнік паўз берагі павінен быць... Паводка нанесла... Паплаўкі паробім. А то чэмпіёны мы з табою... па плаванні...

Камісар дыхаў цяжка, як не задыхаўся, шыя набрыняла чырванню. Анюта, кусаючы губы, хуценька расшпіліла яму кіцель і кашулю, змачыла незабінтаваныя частку твару і шыю.

Мікульскі не чуў ужо гэтых слабых дотыкаў. Не чуў нават, як доўга, вельмі доўга тузала Анюта яго за боты... Хацела разуць, каб адпачыў, пакуль яна ўсё выканае: нагаварыў жа работы не на адну гадзіну...

* * *

Колькі ж гэта разоў спрабаваў ён шчасця, уцякаў з палону? Тры ці чатыры? Здаецца, чатыры...

Спачатку двое сутак гналі да Краснаграда. Канваіры мяняліся, а іх гналі без адпачынку. Упаў — смерць... Нагнуўся ўхапіць рукою вады з капытка, з ямкі — трэ-тэ-тэ! Юзік з Рэчыцы так упаў. Той, што світэр яму даў... У Юзіка была гімнасцёрка, а пад ёю яшчэ і шэры світэр. Ноччу, у самы холад, зняў і аддаў Мікульскаму: «Не сваці целам, загнешся!» А загнуўся сам... Побач яны ішлі ўвесь час, і трэба ж было Юзіку не вытрываць, калі бліснуў пры месяцы капыток вады!.. Трэснуў суха аўтамат, і Юзік накрыў грудзьмі

той няшчасны капыток. Мікульскі яшчэ доўга пасля таго нёс пустую гільзу. Як яна апынулася ў яго? Мусіць, жмакнуў якраз у гневе кулакамі, а гільза і злавілася...

А ён і смагу, і голад, і што іншае, для чаго не дазвалялі адыходзіць з калоны, цярпеў лепш чым хто: памагала спартсменская вытрымка. Яшчэ студэнтам бегаў на вялікія дыстанцыі, не кідаў фіззарадкі і будучы настаўнікам.

Пасля двух сутак ходу — прывал. Зварылі ім невядома з чаго рудую, смярдзючую жыжку. А ён, і не толькі ён — многія не сталі ў чаргу. Хто не меў сілы, хто знарок зваліўся: «Лепш пасядзець, чым браць тую атруту...»

І тут падскочылі да седуноў ахоўнікі, замалацілі прыкладамі па плячах, па галовах: «Эссен! Эссен!» Асмеліліся парушыць нямецкі парадак? Раз была каманда разбіраць яду — бяры! Хоць у пілотку, хоць у прыгаршчы. Будзе іншая каманда — выконвай... Мікульскаму дастаўся ўдар па галаве — як молатам, ажно бліснулі аранжавыя і зялёныя кругі ў вачах... Далучыўся да чаргі, падставіў пад чарпак прыгаршчы.

Лічба два была для Мікульскага нейкая магічная. Як заганялі ў эшалон-таварняк, трапіў у другі вагон ззаду. Два дні ехалі да Шапятоўкі. Гэтыя два дні таксама не давалі ні есці, ні піць, раз толькі на нейкім прыпынку загадалі выкінуць з вагонаў трупы. І ў Шапятоўцы, у канцлагеры, прабылі два дні. Гэта, мабыць, лічыўся не стацыянарны лагер, а перасыльны. У казармах ажно біткам, і навічкі размясціліся пад сценамі, на зямлі, проста ўпокат. Добра, што было лета, чэрвень...

Другі ваенны чэрвень...

Мікульскага не браў сон, бадзяўся з месца на месца, падсаджваўся да старажылаў, частаваў тытунём. Завязваліся гаворка, узаемныя роспыты. «Камсастаў?» — асцярожна пыталі ў яго. Мо рабілі такі вывад, што быў не ў гімнасцёрцы, а ў світэры. Пэўна ж, скінуў яе не так сабе. З якіх мясцін? Дзе загрэблі ў палон? І даведаўся ён, што рыхтуецца ноччу паўстанне. Сігнал для выступлення — на апель-пляцы ўспыхне вялізны факел. І тады трэба бегчы на дрот — закідваць шынялямі, трантамі, ірваць каламі, дошкамі, лезці напралом. Многа загіне, вядома, але многа і прарвецца.

Гэта быў жэст адчаю, амаль стыхія — альбо пан, альбо прапаў. А мо і правакацыя — каб прарэдзіць трохі скучанасць. Хто тады ў гэтым мог разабрацца? Ахова пра паўстанне ведала: за ноч прыйшлі на падмогу танкі, наставілі дадаткова вакол лагера кулямётаў...

Факел загарэўся пасля поўначы. Пакуль кулямётная чарга зрэзала факельшчыка, ён паспеў уторкнуць кій у зямлю. Хлынулі на штурм тысячы, страшнае, поўнае адчаю «ўра!» уздымала, здавалася, на ногі і мёртвых. І тут разам успыхнулі пражэктары і ракеты, ударылі ва ўпор і з флангаў кулямёты... Людзі як звар'яцелі — лезлі і лезлі на агароджу, завісалі на калючках, завальвалі целамі прагал паміж першым і другім радам дроту, а новыя шарэнгі лезлі наперад і ўгору — па целах таварышаў, зрываліся мёртвымі ўніз, раскінуўшы крыжам рукі...

Нямногім тады ўдалося прарвацца, нямногім — выбегчы з-пад агню назад, схавацца за сцены казармаў. Бег з усімі назад і Мікульскі, спатыкаўся на трупы, коўзаўся ў лужах крыві...

Ціша пасля той крывавай бойні панавала ў лагеры жудасная. Рэшта ночы і дзень прайшлі ў чаканні — а што далей?

Пад вечар ахова заварушылася, пачуліся каманды, сабачы брэх. Выганялі з казармаў сілком, строілі ў калоны. Параненых загадалі адцягнуць убок, да гары трупаў, што засталіся пасля штурму, і прыкончылі з аўтаматаў.

Вялі іх на станцыю подбежкам — «Шнэлер! Шнэлер!». Хто адставаў — пускалі сабак: «Фас!» І людзі беглі, колькі было змогі, хістаючыся, а перадначвальнічны вецер шкуматаў на іх падранае адзенне, забіваў пяском нос і рот, засыпаў вочы.

З захаду напаўзала велізарная, на паўнеба, чорная хмара. Яе крамсалі, нібы распаленыя ў горне, крывыя кінжалы маланак. Мусіць, немцам самім не хацелася трапіць пад дождж...

І ў таварныя вагоны беглі трушком, караскаліся, падцягваліся на руках — высока падлога ў вагоне, на ўзроўні грудзей. А хто не мог, канвойны падмагаў прыкладам. І зноў стралялі: людзі падалі ўмітусь, крыжнакрыж, усё вышэй і вышэй, і наступным трэба было падымацца ў вагон па гэтых варухлівых, зыбастых прыступках. «Драй унд драйсіг... Фюнф унд зэгцых!..

Гундарт!» Забівалі вагоны дарэшты, па сто і больш чалавек...

«Навальніца будзе... Гэта добра! — падумаў Мікульскі.— І добра, што не краты на акенцах, а толькі дрот, калючкі...»

Пачакаў, пакуль ад'едуць ад Шапятоўкі, стаў лазіць-прадзірацца паміж палонных, намацваючы нагамі падлогу, каб не наступіць на каго.

«Таварышы, можна выратавацца! Таварышы, дрот можна паламаць, вылезці ў акно! Гэта ўсяго звычайны калючы дрот!» — Мікульскі тармасіў палонных за плечы. Бляск маланак вырываў з цемры зямліста-сінія, у шчаціне, людскія твары — зацятыя, з заплюшчанымі вачыма. Хістаецца, падрэгвае вагон. Хістаюцца ў бакі, уперад-назад спакутаваныя твары...

«Зломленыя ўжо... Няўжо гэта — толькі запужаны чалавечы статак?» — паліла горкая думка.

Тады сам будзе ламаць, адзін... Знойдуцца ахвотнікі... У гатовую дзірку лягчэй лезці... Столку за столкай... Тры драты ўдоўжкі, пяць — упоперак акенца... І два па дыяганалі... Гэта не так і многа...

Згінаў у пальцах сюд-туд, сюд-туд... На дзевятым ці дзесятым згібе пякло ў пальцы, як запалкай, і драціны бязгучна ламаліся. Выблытваў з драцяной сеткі-мярэжы канцы, загінаў угору або ўніз, улева ці ўправа... І зноў ламаў, зноў...

Воля дыхае з-за акна свежасцю, вецер студзіць спацелы твар... Бляск маланак высвятляе лес, блізкія кусты... Лес! Нібы знарок тое, што трэба... Такі блізкі, такі варухлівы, з шэра-серабрыстым лісцем... Здаецца, выцягні добра руку — і зловіш дубовую галінку, адчуеш прахалоду прыгожых, нібы выразаных, бліскучых лісцікаў...

І зноў трос людзей за плечы, цёр за вушы, будзіў:

— Таварышы, акно свабоднае! Я паламаў дрот, хто са мною?

Ніхто не адгукваўся, нібы ўсе разам аглухлі і анямелі. Ніхто не ўставаў...

І Мікульскі палез адзін... Спяшаючыся, пад гулкі стукат сэрца, стукат колаў... Штурхаў яго інстынкт самазбавення, голас гэтага інстынкту затуманьваў мозг, не даваў прадумаць усё да канца.

Світэр пасля начнога штурму ў Шапятоўцы быў парваны ў многіх месцах, матляліся ніткі. А цяпер, пра-

соўваючы рукі, галаву і плечы ў тугую свежасць ветру, пачуў, як упіліся калючкі і на грудзях, і на плячах, нібы драпежныя кіпцюры здзіралі адзежыну разам са скурай. Упёрся рукамі, падаў плечы яшчэ больш уперад, хоць калючкі рвалі, рэзалі цела па жывому. «Не згінаць трэба было... Зусім адкручваць...» — мільганула было ў галаве.— Але ж не вяртацца, не адступаць, не пачынаць усё спачатку!.. Толькі б ухапіцца за што рукамі, толькі б ухапіцца... Тады можна вывалачы і азадак і ногі... Не ляцець жа ўніз галавою... Верная смерць...» Залапаў далонямі па сценцы, намацаў жалезную ўточыну-рабрыну... Не, за яе не ўчэпішся... Хіба за дах? Хацеў крутнуцца ў акне-дзірцы на бок ці нават тварам дагары, каб дастаць рукамі дах, і пачуў, як за ногі ўчапіліся некалькі рук — ні адбрыкнуцца, ні асцяпнуць іх з сябе. «Нэт давай! Назад давай!» — закрычалі знутры. У вагоне варушыліся, тупаталі, саплі... Уцягнулі назад сілком, вылузваючы са світэра, і калючкі зноў распаласавалі яму цела.

Мікульскі яшчэ нібы адчуваў шчокамі, ілбом тугі паток прапахлага прэлымі лісцямі і дажджом ветру, адчуваў, як цякуць па твары халаднаватыя кроплі-дажджынкі. Ах, воля, воля!.. Удыхнуўшы таго паветра, ён ужо задыхаўся ад вагоннага духу — смуродна-густога, распаранага ад гарачых, даўно не мытых цел.

— Чаго маўчыш? Задушыць махноўця к бісавай матэры! — выкрыкнуў нехта з бліжэйшага кутка.

А яшчэ двое, што памагалі цягнуць Мікульскага назад, сядзелі на кукішках спінамі да сцяны з акном, маўчалі, бы набраўшы ў рот вады. Мікульскі сарваў з калючак світэр і таксама абсунуўся на падлогу, чуючы, як макрэе на грудзях і жываце — ад поту ці ад крыві — сарочка. Затрымцела маланка, і Мікульскі разгледзеў палоннага, што сядзеў першы ад яго: доўгі бледны твар, тоўстыя, як не свае, губы.

— Да, лучше сядь, паря... — прабасіў губаты.— Не время... Вишь — изнемогли все... А за тебя — каждого десятого расстреляют.

Мікульскі не адказваў, у яго кружылася галава — мо ад недахопу кіслароду, мо пачынаў захворваць. У дальшых кутках, за частаколам галоў, людзі ўжо стагналі, трызнілі, здзіралі з сябе адзенне. Ён чуў, як на грудзях і на плячах прыкарэлыя было струпы крыві

зноў размяклі, з-пад іх, казычучы, папаўзлі па скуры кроплі.

— А об этом не беспокойся...— махнуў даўгатвары ўгору над сабою.— Я все заделаю, замаскирую... Покури лучше... Эй, кто там дымит? И так люди задыхаются... Передайте цигарку к окну!

Агеньчык цыгаркі плыў да акна зігзагамі, то ўспыхваў ярчэй, то ледзь свяціўся. Мусіць, кожны, хто браў цыгарку ў рукі, зацягваўся сам і перадаваў далей. Мікульскаму дастаўся пляскаценькі, заплямканы губамі акурак, не было чаго ў пальцы браць. Смактануў, апёкшы пальцы і губы, і закашляўся: у акурку ўжо не было тытуню, і дым быў едкі, пякучы, як саламяны. Кашляў даўгавата, угнуўшы твар да каленяў, і яму хацелася плакаць — ад чалавечай спагады і чалавечай жорсткасці.

...И беспреры-ывно гром греме-е-ел,
И ве-е-етры в дебрях бушевали-и-и...

Гэта нечакана праспяваў таўстагубы. Паціху, нібы ўсю песню да гэтага перабіраў у думках, а гэтыя словы вырваліся выпадкова. І далей песня ад яго не адставала, бо, намаўчаўшыся, праспяваў: «С рассветом глас раздастся мо-о-ой» — а радок «На славу и на смерть зовущи-ий» прамармытаў без слоў, адным голасам, не разлепліваючы губ. Бас у даўгатварага быў мала не гусцейшы, чым у Мікульскага...

...А трэцяя спроба была ўжо ў Польшчы, у Востраў-Камарове. Кожны раз прыдумляў новы спосаб. І гэта, мабыць, была памылка: лепш было б удасканальваць адзін. Аналізаваць недахопы, больш старанна рыхтавацца, правільней вызначаць час уцёкаў...

Выгрузілі эшалон у Востраў-Камарове. Мітусня, вэрхал, крыкі каманд... Частку палонных адразу пагналі далей сваім ходам — у Востраў-Мазавецкі, у Грэнды. Згубіўся недзе і даўгатвары — ці не трапіў ён у калону, што пагналі далей?

Шталагаў, пастаянных лагераў ваеннапалонных, было ў Польшчы многа. І канцэнтрацыйных лагераў... Гэта ён потым даведаўся, размаўляючы то з адным, то з другім. Дзіва, як у людзей усё пераварочвае вайна... Раней, каб спытаў,— скуль ты, чалавеча? — пачуў бы, з якога горада, мясцовасці ці краіны. А цяпер спачатку называлі лагер: Грос-Розэн, Борген-Бельзэн, Аўшвіц-

першы, Аўшвіц-другі; і з-пад Баранавіч, з Колдычаўскага, з-пад Мінска і Гродна; з польскіх лагераў — з-пад Дэмбліна, Любліна, Пшэмысля, Пікуліцы, Хелма, Влодава, Замосця, Равы Рускай, Чэнстахова і нумарных шталагаў, дзе лік ішоў на сотні: офлаг 77, шталагі 315, 326, 328, 333, 366, 370, многіх шталагаў VIII з дадаткам літар «S» «C», «B»...

І ■ Востраў-Камарова ледзь не штодзень кудысьці вывозілі, ніхто не ведаў — куды. Крыгсгефангенаў — ваеннапалонных — тасавалі, як карты. Пагаворвалі, што знарок: каб хутчэй распаўсюджваць тыф і ўсякія хваробы, заразу, каб больш паміралі... І каб не паспявалі згуртоўвацца, наладжваць падпольную работу...

Паміралі многа — дзесяткі, сотні людзей штодзень. Іх вывозілі ў шырокі роў за паўночныя вароты, прысыпалі нейкім парашком, што з'ядаў плоць да касці за некалькі дзён, і крыху зямлёю. Укладвалі трупы радамі — ногі да галоў, галовы да ног. Каб не было перакосу...

А спачатку, у першы ж дзень, абышоў Мікульскі ўвесь лагер. У плане ён прамавугольны, крыху выцягнуты. Старыя, яшчэ, царскія артылерыйскія казармы, ёсць і драўляныя баракі, і нейкія нізкія пабудовы з чырвонай цэглы — не то павеці, не то канюшні. Абнесена ўсё цагляным мурам. Паўзверх яго наснавана і наблытана калючага дроту. З унутранай стараны ідзе яшчэ адна агароджа — дрот на драўляных слупах. Слупы высокія, па метраў пяць, зверху прыбіты з нахілам у лагер надточыны-скосы. І на слупах, і на скосах — калючы дрот, дваццаць пяць столак — руку не прасунеш. З даўжэйшых старон агароджы па кутках і пасярэдзіне драўляныя, падобныя на пажарныя, вышкі. Адтуль тырчаць, скіраваныя на лагер, дулы кулямётаў, паглядваюць, як сычы з дупла, вартавыя. Меншыя стораны чатырохкутніка — з поўдня і поўначы, і там і там — вароты. Галоўныя тыя, што з поўдня. Пры іх прахадная будка і двое вартавых. Злева ад варот, калі глядзець з лагера, у кутку прыземісты будынак камендатуры лагера, яшчэ далей улева — кухня для палонных. Хоць камендатура і па гэты бок мура, яна не лічыцца на тэрыторыі лагера. Драцяная агароджа адыходзіць ад мура, выгароджвае камендатуру з лагернай тэрыторыі.

У паўночна-заходнім кутку лагера стаяла дашчаная

пуня. За мурам і агароджай з заходняга боку блізка праходзіў тракт, за трактам чарнеў лес...

Не мог ноччу заснуць. Чаму гэта пуня так запала ў вока? Чаму не выходзіць з галавы? У думках ён зноў і зноў ішоў міма тарцоў казармаў, уздоўж агароджы... Ах, вунь яно што! Змяншаецца ў вартавога на вышцы сектар агляду, утвараецца невялікая мёртвая зона. І для другога вартавога так, для другой вышкі... Цікава, цікава... Ці нельга гэта як-небудзь скарыстаць?

Назаўтра ён яшчэ раз прашлёпаў па пыле драўлянымі башмакамі ў той бок. На такія дзеравяшкі ўжо многім палонным памянялі абутак. Процьма людзей бадзялася паўз агароджу — згорбленыя, угнутыя, кідалі сумныя позркі па баках, цікавалі, каб не прапусціць дзе траву — авось адскочыла, адрасла, можна сашчыкнуць і пакласці ў рот? Бачылі яны і лес за дротам, глядзелі і на пуню...

«Цікава, ці заглядаў хто з іх у гэты будынак?» — Мікульскі падышоў да сцяны... Шэра-чорныя, падгніўшыя дошкі прыбіты да шулаў, ёсць стойка і паміж шулаў, на ёй сходзяцца, сточваюцца кароткія дошкі. Павыкручваліся, пажалабаціліся, некаторыя ледзь трымаюцца... Адарваў адну, зазірнуў... Цемнавата, у супрацьлеглай сцяне, што ад агароджы, прадаўгаватае акенца, заплеценае дротам. Вочы прывыклі, і ён убачыў, што падлогі ў пуні няма — ні драўлянай, ні цэментаванай. Ля аднаго, левага тарца,— вялікая яма, нібы абрушыўся склеп. Усюды нацярушана многа друзу — сена, трэсак, у кутках праглядваецца нейкі хлам. Мусіць, тут калісь было сена.

Прытуліў дошку зноў, прыстукнуў кулаком. Адыходзіў і чуў, як тахкае, аж у вачах цямнее, сэрца.

Да канца дня хадзіў як сам не свой: вось жа ён — шлях на волю! Можна з гэтага хлеўчука зрабіць падкоп... Пракапаць падземны лаз — туды, за дарогу, у лес... А там — памінай як звалі!

«Не, аднаму не справіцца з гэтым дзелам... Некалькі чалавек трэба: і капальшчыкаў падмяняць, і зямлю адносіць, маскіраваць, і на шухеры стаяць... Чалавекі чатыры трэба, не менш... І не больш... Бо дзе гарантыя, што не павялічыцца і небяспека правалу?»

Не выстраіць у лад думак... Калі капаць? Па начах, вядома, як усё замрэ ў лагеры... Па начах? Значыць, трэба мець, чым свяціць у нары... Калі не ўвесь час, то

хоць сяды-тады пасвечваць, каб праверыць — ці туды, куды трэба, капаецца. Лепш за ўсё — электрычны ліхтарык. Ці захавалася ў каго такая бескарысная ў іх умовах рэч? Гэта не кацялок, ці лыжка, ці кансервавая бляшанка, якія хавалі за пазухі, клалі пад галовы нанач — каб не сцібрыў хто... А як знайсці аднадумцаў? Каб такіх, што на ўсё гатовы былі... Каб папаўся, скажам, адзін — і смерць прыняў, а не выдаў таварышаў...

Кожны вечар цягнула яго да пуні як магнітам. Яшчэ і яшчэ раз шпацыраваў ён сам-насам са сваёй тайнай, сваімі думкамі.

Раз убачыў: тую ж самую дошку, што і ён адрываў, адхіліў яшчэ адзін палонны. Танкіст — здалёк відаць па чорна-шэрым, у валіках і падушачках, шлеме... Прыхіліў назад дошку, прыстукнуў кулаком — ідзе насустрач. Значыць, не толькі Мікульскі такі разумны, многія заглядваюць у тую пуньку з-пад сена. Але чаго? Адно, калі шукаць якую пажыву, пацука ці мыш, а калі ў іх такія ж думкі, як і ў яго?

Размінаючыся, абмацалі адзін аднаго з ног да галавы позіркамі. «Якія ў яго цікавыя вочы...— здзівіўся Мікульскі.— Нібы толькі што нарагатаўся ўволю... Ці задумаў якую хітрасмешную штуку...» У іншых палонных галодны бляск у вачах, ці абыякавасць, здранцвенне, ці ўпартая зацятасць. Ёсць і зусім патухлыя вочы — што ў мерцвякоў. Гэта і кандыдаты ў мерцвякі: не сёння-заўтра іх вывезуць за паўночныя вароты, у роў... А ў танкіста такія вочы, нібы і не ў палоне ён. Нібы дзівіцца і не можа надзівіцца з усяго, што бачыць. І дужа твар шчыры...

Мікульскі не дайшоў да канца свайго маршруту, павярнуў назад. І той дзівак ішоў ужо насустрач. Параўняліся...

— Закурым, зямляк? — першы азваўся да яго Мікульскі.

— Закурымо...— аж схамянуўся палонны, нібы і сам хацеў штосьці сказаць, ды перахапілі.— А вы звідкіля? Хіба з Полісся?

— Амаль што... З-пад Слуцка. Мінская вобласць.

— А рычка Случ у вас е?

— Ёсць, а як жа.

— Чудасія... Ха-ха!.. І ў нас е, у Ровенскай вобласці...— раскінуў рукі для абдымку палонны. Яго

ўсмешка была белазубая, з тых, што зразу абяззбройваюць.

Абняліся. Відаць было, што і смехатун пранікся даверам да Мікульскага.

— Білорус, значыць!.. Цэ ж трэба, а? Зэмлякы!

— Землякі... А што ў цябе з рукамі? — кіўнуў Мікульскі на яго рукі, насыпаючы яму ў паперку махорку. Навыменьваў на хлебныя пайкі.

— А тэ, мабуць, шчо і в тэбэ...— кіўнуў на ўскалмачаны світэр Мікульскага. Цыгарку круціў ён спрытна. Левая кісць у яго была сіняя, у шрамах. Мезенага пальца зусім не было, а безыменны — скурчаны маленькі сучок-култышачка, з яго нешта тырчала каструбавата-шэрае. Няўжо костка, фаланга?!

— Сакрэт?

— Які сакрэт? Вівчаркі...

— Аўчаркі?! Сабакі?!

— Захышчаўся рукамы, шыю прыкрываў — шчоб за в'язы не здавылы... Чуць нэ з'ілы... І тут порвалы, і тут, і тут...— ляпнуў і па плячы, і каля локця левай рукі, і па сцёгнах. Ляпнуў па азадку: — А ось тут добру котлэту вырвалы... Паганыя зубы ў вівчарок... Довго нэ гоілася...

— Ясна... А ў мяне другое. На калючках пакінуў палавіну світэра... У Шапятоўцы ішлі штурмам на калючкі... Горы нашых наклалі... Зямля ад крыві чвякала, як цеста...— Мікульскі ўздыхнуў, выпусціўшы струмень дыму.— А другі раз спрабаваў з акна вагона вылезці... Назад уцяглі, не далі ўцячы...

Абодва ішлі ўжо разам, зноў у бок той пуні. А параўняўшыся, абодва разам зірнулі на дашчаную сцяну, разам адвялі позіркі, пераглянуліся.

— Цімох мяне завуць. А цябе?

— Васыль... Шыпняк Васыль... Я розумію, шчо ты хочаш сказаты... Трудна і доўга...

— Зато вярняк... Абы падрыхтаваць усё як след, арганізаваць... За тыдзень-паўтара можна пракапаць.

— Да ну-у!.. Хоч бы за місяць, та і то гаразд.

Дамовіліся, што падбяруць па аднаму чалавеку, але каб надзейнаму на ўсе сто працэнтаў. Хопіць для падкопвання чатырох. А тады, як усё зробіцца, можна яшчэ каму падказаць. Таксама надзейнаму... Але гэта — паўсправы. Больш складана, як замаскаваць уцёкі. Бо за кожнага ўцекача расстрэльвалі па дзесятку

чалавек. Лепш за ўсё было б, каб іх нумары прышыць трупам... Ды каб тыя трупы былі палічаны двойчы — раз за саміх сябе, а раз за іх... Толькі як ухітрыцца гэта зрабіць? Без надзейных таварышаў цяжка ўсё ажыццявіць... Значыць, хочаш не хочаш, а кола змоўшчыкаў расшырыцца...

Але гэта потым, потым... Спакваля будуць прыглядвацца да людзей, лезці ў дружбу да капо [1], заваёўваць іх давер...

Таго даўгатварага рускага сустрэў Мікульскі выпадкова. Разыходзіліся з апель-пляца пасля вячэрняй пераклічкі і сутыкнуліся ў таўхатні паміж будынкамі.

— А-а, это ты, паря...— узрадаваўся вагонны знаёмы.— Жывы яшчэ, не вывезлі на фляйшвагене? [2]

— Як бачыш. Цябе ў які блок сунулі?

— У чацвёрты.

— А я ў першым. Капо ў вас як — звер?

— Га-ад... З «зялёных», рэцыдывіст. Выслужваецца. Блок-фюрэр і то ўжо лепшы, з немцаў Паволжа.

— А ў нас капо, здаецца, нішто хлопец. Крычыць, праўда, як недарэзаны, калі гоніць на пастраенне.

Яны ў той раз пра справу не пагаварылі, толькі абмяняліся «каардынатамі». А з наступных сустрэч Мікульскі даведаўся, што даўгатварага зваць Кім Акцябрскі. Не Клім, а Кім, ён сам расшыфраваў — Камуністычны Інтэрнацыянал моладзі. Мог бы і выдумаць якое прозвішча — усё роўна дакументаў няма. Прозвішча ўвогуле тут мала каго цікавіла — у кожнага прышыты на грудзях нумар. А вось жа не замяняе, не маскіруецца. Гадаваўся ў дзіцячым доме, там і падабраў сабе такое імя. У трэцюю ці чацвёртую сустрэчу-гаворку прызнаўся Кім, што камуніст. У першы дзень, як выстраілі на апель-пляцы, загадалі ўсім камуністам, камісарам і яўрэям выйсці на тры крокі ўперад. Акцябрскі тады не выйшаў, як не выйшаў і Мікульскі. А некалькі чалавек выйшла. Іх тут жа адвялі да драцяной загарадкі, паставілі тварамі да тыльнай сцяны турмы і пастралялі. Немцы выконвалі спецыяльны «камісарэн-эрлас» — «загад аб камісарах». Выклікалі потым інжынераў, урачоў, усіх, хто мае вышэйшую

---

[1] Капо (Capo — Kameradschaftpolizei) — прадстаўнікі ўнутрылагернай паліцыі, вербаваліся звычайна са здраднікаў ці крымінальных элементаў.

[2] Fleischwagen — аўтамашына, на якую збіралі трупы.

адукацыю... Мікульскі не выйшаў, не аб'явіўся і Акцябрскі, хоць здаў ужо, як потым расказваў, кандыдацкі мінімум, збіраўся стаць вучоным-фізікам. Афіцэр, капітан па званні...

Усе гэтыя весткі пра яго Мікульскі ўведаў паступова. А пакапалі разам, то і зусім прыцерліся, пасябравалі.

Шыпняк парушыў угавор, падабраў не аднаго, а двух чалавек. Прывёў для знаёмства і адрэкамендаваў: «Свае ў дошку!» Адзін назваўся Міронам. Ваяваў у тых мясцінах, што і Мікульскі, у палон трапіў таксама пад Лазавенькамі. Мясцовасць ведаў да драбніц, пра перыпетыі тых баёў расказваў падрабязна. Здаровы быў дзядзька, не такі схуднелы з твару, як астатнія палонныя.

Паверыў яму Мікульскі...

А другі быў маладзенькі хлопец — Тоня.

— Як гэта Тоня? Ты ж не дзеўка!

Засаромеўся, счырванеў.

— Мама гэтак звала... А так — Антанін... Загадвай, камандзір...— а сам глядзіць Мікульскаму ў вочы, на павеках трымцяць слёзы. Чамусьці ўсе яны былі ўпэўнены, што Мікульскі — з камсаставу, толькі не прызнаецца.— Што хочаце буду рабіць... Хочаце — пайду голымі рукамі дрот ламаць?

— А нашто? Было такое ў Шапятоўцы, кінуліся з голымі рукамі... Сотні людзей ляглі. Нам пад дрот трэба! Ну, а як зловяць, катаваць пачнуць — вытрываеш? Не выдасі нас?

— Мяне доўга не будуць катаваць. Я адразу на кулю нарвуся.

— Куля — не самае страшнае. Многія хацелі б, каб адразу куля — і ніякіх пакут...

Тоня закрыў твар рукамі і пайшоў.

— Стой! Вярніся! — загадаў яму Мікульскі. Хлапчына яму спадабаўся больш, чым той здаравяка Мірон.

— Я ж добраахвотнікам пайшоў на фронт. Не бралі з ФЗН мой год, разумеце? Хацелі нават бронь прышпіліць... Добраахвотнік — і палон... Як гэта можна сумясціць?

І яшчэ многа чаго гаварыў ашчасліўлены Тоня, і хлапчукоўскія, мо па паўкулі, слёзы цяклі па схуднелых, абапятых скурай шчоках.

Тысячы людзей, тысячы лёсаў... І, можа, столькі ж

варыянтаў запалонення. А такога, як у суседа па нарах — цераз праход ён ляжаў, на трэцім ярусе,— такога варыянта яшчэ не сустракаў.

— А я сам кінуў вінтоўку... Сам! Вера мая не дазваляе браць аружжа... Отча наш, іжэ ясі на небясех... Да свяціцца імя твае, да прыйдзець воля твая, яко на небясі і на зямлі... Хлеб наш насушчны даждзь нам днесь...

Моцныя нервы былі ў гэтага багамольца. Яго абсмейвалі там, наверсе, і справа, і злева, і з сярэдніх ярусаў закідвалі па слову, а ён гундосіў сваё.

— Ты ж прысягу прымаў, святая душа?

— Прымусілі — прыняў.

— Дык жа ты парушыў яе, злачынства зрабіў!

— Не павучай мяне, ліцамер... Вымі прэждзя бервяно са свайго вока, а тады ўбачыш, як выняць сучок з вока брата твайго...

— М-мяне кантузіла, вош... ты... тыфозная... Іначай не ўзялі б! — заікаўся ад гневу нехта над галавою Мікульскага.

— Не пераступай клятвы, сказана, але іспалняй перад госпадам клятвы твае... Калі вы будзеце прашчаць людзям саграшэнні іх, то просціць і вам айцец ваш нябесны.

— Цьфу, каб ты прапаў! — нерваваўся той, што ляжаў над Мікульскім.

— Ды не зважай ты! Што індык, што ён талдыча — адзін клёк! — уступіў у размову і сусед, што ляжаў пад багамольцам, як і Мікульскі — на другім ярусе.

Чарнявы, з пажоўклым тварам, ён адмоўчваўся больш за ўсіх. Мікульскі звярнуў на яго ўвагу яшчэ ў першую ноч — браў чалавек жменяю валасы, знімаў з цемя, нібы яны былі толькі слаба, як не адным потам, прыклееныя. Разглядаў іх цёмнымі, нібы два патухлыя вугельчыкі ў ямках, вачыма, моўчкі абцярушваў з пальцаў на праход.

Багамолец пасля кожнага адбою доўга разглагольстваваў на сваім логвішчы, крахтаў, уздыхаў, прапаведаваў святое пісанне, маліўся, нешта хаваў, масціў пад галаву, прывязваў да ног і да рук коўдру, каб ноччу не ўкралі. І хроп так, нібы круціў хто трашчотку.

Мікульскі, хоць і выматваўся за дзень да апошняга,— выганялі, разбіўшы на каманды, будаваць даро-

гу,— засынаў не скора. Перашкаджаў і гэты трэск-храп, і стогны-трызненне людзей, і раз'юшанае расчэсванне нямытых, абкусаных скочкамі, клапамі і вошамі цел, і ўдушлівае, мо без кропелькі кіслароду, паветра...

Для падкопу ўсё амаль гатова. Ёсць рэчавы мяшок, ёсць полка рагожы. Караткаватая, праўда, вяроўка: сточвалі, звівалі, што толькі можна было знайсці — кавалкі кабелю і рамянёў, шнуркі ад башмакоў, разрэзаныя ўдоўж абмоткі, рубцы ад адзення, парваў Мікульскі, пакруціў на вяроўкі нават свае споднікі. Капаць вырашылі вечкам ад кацялка — Тоня ахвяраваў,— абломкамі дошак — гэтага хламу валялася ў пуні нямала. І ліхтарык электрычны выменялі на тры пайкі хлеба — добра ім падсвечваць у нары.

...Багамолец перастаў храпці, перавярнуўся на бок, прамармытаўшы: «Ізыдзі, сатана, сказаў Хрыстос, і бесы пакінулі яго...»

Пачнуць з заўтрашняй ночы капаць. Выйдуць праз гадзіну пасля свістка капо — «Спаць!». Каб ніхто не чуў, не бачыў і не ведаў... Бо людзі ёсць усякія...

* * *

Анюта зняла з шыі Мікульскага аўтамат — мо спатрэбіцца... Падумала, патапталася — зняла з сябе санітарную сумку, кінула тут. Набрала свяжэйшай вады, паклала фляжку каля правай рукі Мікульскага... Што яшчэ? І шкада, і боязна пакінуць — каб хаця чаго не здарылася, каб не зваліўся ў рэчку. Але і зрабіць больш для яго нічога яна не магла...

Не, усё-такі ён не пераканаў яе... Яна ўсё яшчэ лічыла, што іх абходны манеўр — дарэмшчына, пустая трата сілы. Немцы пакінулі мост на шашы — нашто ён ім? Яны ж, мабыць, з аховы чыгункі, а да шашы не маюць ніякага дачынення... Пастаялі, пастралялі і пайшлі... «А мы, дурні, палезлі з пуду ў балота...» А калі не з чыгуначнай аховы немцы, а з якое часці з Лунінца? Такое магло быць, мог паслаць камендант падмогу... «Хэ, пятнаццаць чалавек? На мосце ж чалавек пятнаццаць было...» Яна на вока тады прыкінула, больш пятнаццаці не будзе. Ну, забілі мо яшчэ столькі, мо на чыгунцы засталося некалькі... Дык што — адзін узвод? Такое малое падмацаванне? Камендант каб пасылаў, то не менш роты ці батальёна... Як збіраліся на

блакаду партызан, усе райцэнтры былі забіты войскамі. Нават рэгулярныя часці з-пад фронту завярнулі сюды... Сама бачыла, сама данясенне пасылала партызанам з Бялевіч.

«Забылі правіла хаджэння па балоце...» — успомніліся ёй словы камісара. І яна, ідучы, пачала прыглядвацца да прырэчных зараснікаў. Паклала аўтамат, паспрабавала зламаць алешыну — таўставатую, з руку. Нават не нагнуць!..

Каб быў у яе крыху большы вопыт ды выбрала такі адростак-ствол, што адскочыў ад старога карча, то магла б адшчаміць, адкалоць. Анюта такіх тонкасцей не ведала і пусціла вольху. Выламала дзве такія, як лыжныя палкі, мо крыху таўсцейшыя. Наламала абярэмак вецця — мо спатрэбіцца дзе падмасціць?

Пад нагамі закалыхалася, засіпела...

Не зразумець было, хто на каго наступаў — балота на рэчку, засяваючы берагі аерам і чаротам, сітнікам, ці рака наступала на луг, усё больш і больш забалочваючы яго. Ісці было цяжка, вязка, у ботах-хромавіках Анюты даўно ўжо чвякала слізкая гразь, асабліва ў правым — адарвалася падэшва.

Не дабралася яшчэ да канавы, а карацейшае вецце ўтахціла дарэшты. Кінула алешыны, на іх — аўтамат, вярнулася на сушэйшае. Трэба наламаць яшчэ, можа, каля канавы і не трапіцца... Прыступілася да вербалозавага куста — гнула, ламала, круціла, а сцябліны не пераломваліся. Паспрабавала і зубамі грызці, аддзіраць галіны-атожылкі, і тады лазіны раздзіраліся напалам ажно да кораня, і гэтыя палавінкі сцяблоў таксама было не адарваць. Намучылася, пакуль наадрывала невялікі пучок галін, пайшла сваімі слядамі да аўтамата.

Прымайстравала аўтамат пад самую шыю, як Мікульскі, кідаючыся ў канаву, падхапіла алешыны. Лісце іх чаплялася за трысцё, шамацела так, нібы везлі па вузкай лясной дарозе воз ламачча. Яна аглушвала гэтым шумам сама сябе і раз-пораз прыпынялася: ці не чуюць ужо немцы? Ці не бягуць на перахоп? Але перамагала страх, зноў падавалася наперад...

Здаецца, і галінку кінула на багністае месца, а правая нага ўсё роўна правалілася да калена. Выбавіла яе, апёршыся на алешыны, і ўбачыла — бот разявіўся, бы кракадзіл. «О божа...» — як не прастагнала ў роспачы Анюта ад гэтай новай напасці, хоць на яе пачало звалъ-

ваўца ўсё ўсякае яшчэ з досвітку, калі... Калі Васіль...

Не, не, яна ні пра што не будзе думаць, звязанае з Васілём. Толькі пра цяперашнія клопаты... Будзе вызначаць сабе заданне нават на кожную наступную секунду... Хоць дробязнае... «Сесці трэба...» На галлё. Выскрабці з бота гразь... Вось так... Выціснуць, выкруціць крыху шкарпэтку...» — і яна сцягла шкарпэтку, не знімаючы бота, праз дзіру-«рот», пажмакала яе рукамі. Не выціснуць, як у клеі ці ў цесце... Гразь — лепятуха на Палессі яе завуць... «Ну — і куды цяпер гэтую шкарпэтку? От, дурніца, не трэба было выцягваць...» З грэблівасцю адкінула яе ад сябе.

«Падвязаць бы чым падэшву, не пройдзеш, не падвязаўшы...»

Добра, што акрамя штаноў надзела на сябе яшчэ і спадніцу... Упілася зубамі ў ніжні край-рубец, ірванула... «Ого, перагрызаць трэба... Дурная, не зняла з той ламачыны аборку з бінта, як флягу прывязвала... Цяпер бы спатрэбілася». Яшчэ раз, мацней ірванула — тр-р-р... Хопіць рубца ўвязаць бот і з аднае полкі, пярэдняе...

Здаецца, і добра прывязала, а бот усё роўна шчэрыўся, чапляўся «зубамі» за траву. А горш за ўсё было тое, што нага слізгала па вусцілцы, пальцы вылазілі ў дзірку і наколваліся на «зубы»-цвікі... І ад гэтых уколаў ажно прысядала, хоць, здавалася, ішла асцярожна, наровячыся, накульгваючы.

Умасціла ўсё вецце, яшчэ не дайшоўшы да канавы. Алешын не кідала. Усё валакла за сабою, глушыла сябе шумам. «Трапіш немцам у лапы, трапіш...» — стукала-пульсавала ў галаве.

Канава каля рэчкі была намнога шырэйшай, чым там, дзе фарсіравалі з Мікульскім. Берагі бугрынкамі-купінкамі шыліся ў трысцё, у раку нават далекавата, паступова сыходзілі на нішто, знікалі пад вадою. А ўлева, далей ад ракі, раскашавала кустоўе, гушчэча лазняку была першабытна дзікай. Анюта азірнула свае алешыны, паглядзела на ваду ў канаве — сцялося сэрца: і аднае і другое хопіць толькі, каб дастаць да зялёнай раскавай плёнкі каля таго берага. Каб воз такіх угаціў сюды!..

Тады ім куст памог, куст выратаваў. А тут добрага куста пры вадзе няма ні з гэтага, ні з таго боку.

Абцырклявала адну алешыну, паторкала ў ваду,

узяўшы за гузыр. Не зразумець, ці на паўметра вады, ці на метр... А колькі на дне яшчэ гразі? Перакруціла таўсцейшым канцом уніз, зноў папоркала... Гразь на дне, здаецца, тужэйшая, чым на месцы іхняй пераправы. Але ж куста няма з таго боку, няма за што ўчапіцца!..

Занудзіла пад грудзьмі ад страху. «Божа, і чаму я так баюся вады?.. Можа, мне суджана ад яе загінуць?»

На мяцёлку трысціны, сіва-рудую, як спіна ў зайца, села тоненькая блакітная стрэлка, пагойдалася. Каля самага твару Анюты... «Ваяка... Нават нейкая казяўка цябе не баіцца».

Пайшла ўлева, у гушчар кустоў, алешын не кінула. Яна не ведала яшчэ, што рабіла памылку, не скарыстаўшы намацанае больш тупкае дно. А яно і праўда было цвярдзейшае каля рэчкі, сюды нанесла ў разводдзе пяску.

А вось і куст на тым баку — ракіта з жоўта-чырвонымі галінкамі, доўгімі серабрыстымі лістамі. Галоўны ствол, трохі разгаты ўжо, і атожылкі-сяголеткі, яшчэ не ўдзеравянелыя, травяністыя. Ёсць і леташнія дубцы, у палец тэўсці. Як скарыстаць гэту ракіту? Як яна можа памагчы? Думай, Анюта, думай... У цябе ж галава, у цябе ж розум... Хоць мо кароткі, а валасы доўгія... Не, і валасы ў яе кароткія, грабянец не закладзеш. Хлапечая прычоска, лепш з такою ў лясных умовах...

І на гэтым баку недамерак-куст, хоць і нахіліш яго да вады, нічога не паможа...

Думай, Анюта, думай... Калі хочаш сама ўратавацца і камісара ўратаваць. Ён жа дзіцё бездапаможнае... Невідушчы... Ён прападзе адзін. Значыць, табе, Анютка, нельга захлынуцца... Твая пагібель — і яго пагібель...

«Думай, Анюта, думай!» — нібы пачула яна загад камісара.

Каб той куст прыгнуць сюды... Таго б куста да палавіны канавы хапіла б... Да палавіны...

«Думай жа, думай!» — загадвала яна сабе.

Нельга паварочваць назад, не выканаўшы задання. І час ідзе, як хутка ідзе час! Нават прыпарваць пачало ўжо, хоць і сонца не відаць... А мо проста ў пот яе кідае?

Каб пятлю якую на канец прута прывязаць... Накінуць на ракіту, пакруціць трохі, каб не саскоўзвала, і

цягнуць сюды, прыгінаць... А можна і не прыгінаць... Галоўнае — каб за той куст трывала ўчапіцца, тады можна і ў ваду лезці... Трымацца за прут, перабіраць рукамі, падцягвацца...

Дык жа добра прыдумала! «Ай ды Анюта! Хто сказаў, што ў цябе кароткі розум?» — нібы пачула яна голас Мікульскага.

Зноў упілася ў ніз спадніцы зубамі — р-раз! А цяпер і рукамі можна... Пакручвала на сабе спадніцу, адрывала стужку ўжо з задняе полкі. «Схуднела як... Целяпаецца, як на калу...» Дайшла да рубца, дзе сточаны полкі ўмесца, зноў пусціла ў ход зубы... Спадніца ўкарацілася сантыметраў на дзесяць, унізе целяпаліся мохрыкі. «Во — і новая мода! Здохне Райка ад зайздрасці...» — успомніла санінструктара Раю Дышаль. Прыгажуня, модніца, многім партызанам галовы задурыла.

«Прывязаць пятлю трэба не за абсмыканую алешыну... За другую, у тае ўсе галіны на вяршэчку. Мацней будзе, не саскаўзне. А ніжнія можна паадрываць, каб не перашкаджалі брацца за гузыр... «Быць табе, Анюта, пасля вайны...» — нібы зноў пачула насмешлівы голас Мікульскага і адагнала яго, пачала думаць пра мост... Мост, вось што для яе галоўнае зараз, трэба добра разведаць мост... «Пагляджу, што там каля моста... Быць не можа, дабяромся з камісарам да лагера... А там можна і пад кулю. На любое заданне папрашуся... Чым хутчэй налучыць куля, тым лепш... Няма жыцця мне без Васіля... І не будзе! Але спачатку — камісара ўратаваць...»

Пятля доўга не надзявалася на верх куста ракіты, а трошкі надзеўшыся, не хацела налазіць далей, перашкаджалі галінкі. Млела выцягнутая над пратокай рука, нямелі пальцы. Далікатныя пальцы... Пакручвала імі алешыну, каб лепш укруціць, увіць пятлю ў вяршаліну ракіты, і ажно трымцела ад напружання і страху: вось-вось упусціць сваё прыладдзе. Нават уяўляла ў думках, як гэта здарыцца: чыркне, падаючы, гузыр па вадзе, уздрыгне, выпростваючыся, ракіта, тузане за сабою яшчэ далей алешыну. А яна астанецца ні з чым, зноў будзе адкінута ў сваіх намаганнях на зыходны рубеж. І, калі не скрышыць яе адчай, пачне ўсё спачатку: пашукае новую ламачыну, адарве ад спадніцы новую стужку...

І Анюта ўсё пакручвала ў пальцах няўклюдны, слова добрага не варты альховы цурбалак, і вяршаліна яго разам са стужкай і верхам ракіты звівалася ў жгут. Нешта злёгку патрэсквала... Толькі — што: вольха ці ракіта? Цягнуў яе самую ў ваду мо пудовы аўтамат...

«Ну — до...» — пусціла раптам з левай рукі каўтуны купчастага куста і кінулася бокам у ваду. Пырскі ўзляцелі вышэй галавы, раска каля таго берага выплеснулася на траву і завісла зялёнымі капейкамі. Аўтамат увесь схаваўся ў ваду...

Анюта хутчэй заперабірала рукамі па дзеравяцы, падцягваючыся, а ракітавы куст спружыніў, не хацеў згінацца, і нешта ўсё больш патрэсквала ў жгуце за кожным яе рыўком. Боўтала нагамі, мясіла твань, не даючы ботам апусціцца глыбока ў гразь, і чула, што дно тут такое ж, як і ў тым месцы, дзе яны «купаліся» з камісарам. Ствол алешыны прапускала паўз левы бок, пад руку.

І раптам у жгуце пачуўся мацнейшы трэск, алешына моцна каўзанула ёй пад паху — плюх! Нібы ўзрадавалася ракіта, устрапянула галавою — выпрасталася...

Ногі адразу паехалі ў твань, у ледзяную калатушу, і перасталі слухацца — не варухнуць. З адчаю яна замалаціла па вадзе рукамі, а холад падымаўся па целе ад ног усё вышэй, ціснуў за сэрца...

Над галавою, адкуль толькі яны і ўзяліся, закружыліся, роспачна закрычалі кнігаўкі...

## 3

...Ах, якая задуха была ў той нары, у тым доўгім і цёмным лазе!.. Бедны Тоня-Антанін не мог вытрываць і сямі мінут. Мікульскі трываў дванаццаць — пакуль удыхі і выдыхі не рабіліся сутаргава-бязладнымі, а сэрца пачынала трапятацца, як звязаная птаха, недзе пад горлам. Чыста рабочых мінут — дзесяць, дзве мінуты на тое, каб залезці, вылезці. Мірон па гадзінніку засякаў, у яго чамусьці не адабралі гадзіннік немцы. Усё справядлівасці дабіваўся — каб пароўну кожнаму сядзець. Над Тонькам насміхаўся, сволач, і той упаў раз без памяці: «Кругі закруціліся ў вачах... Чырвоныя, зялёныя...» — гаварыў. Ледзь вывалаклі адтуль за ногі...

Ліпкім потам заплываюць вочы, пясок набіваецца ў

валасы, у вушы, наліпае на твар, на карак... Скура робіцца спачатку як наждачная папера, а тады з яе ападаюць, саскрэбваюцца калюча-ліпкія скарынкі...

Мусіць, здуравалі яны крыху... Чаму б не рабіць лаз з самага пачатку і шырэйшым і вышэйшым, каб можна было хоць на каленях і локцях прапаўзці? Пашырылі толькі тады, як з Тонькам бяда здарылася.

Дурні... Думалі: меншае сячэнне нары — хутчэй пракапаюць. Баяліся, што, калі капаць і шырай і вышай, не змогуць замаскіраваць увесь пясок у пуні і давядзецца выносіць на двор. Тую яму ад склепа даўно ўжо засыпалі пяском, прысыпалі пацярухай.

Амаль трэць лаза засталася вузкая, не папраўлялі, не пашыралі. А далей браліся ўжо свабадней, каб можна было паўзці на каленях і руках, лягчэй было капаць. Затое шанцаў ўратавацца ад абвалу паменела: пашырылася столь, вышэйшымі сталі сцены.

У пуні было цёмна. Праз шчыліны ў сценах ледзь прыкметна цадзілася ружаватае святло — ад ліхтароў на слупах агароджы. Святлела толькі тады, калі вартавы з вышкі, кончыўшы абмацваць пражэктарам блокі, двор, апель-пляц, пераводзіў сноп святла на агароджу, на страху пуні. І тады ва ўсе шчыліны нібы хто ўбіваў сліпуча-белыя пласціны і кінжалы, яны пранізвалі, успорвалі цемру. Людзі зміралі, хапаліся за вочы.

— Хлопцы, бярыцеся як мага раўней...— Мікульскі выпаўз з нары, дыхаў глыбока, на ўсе грудзі...— Скляпенне вырэзвайце паўкругам... Мацнейшае будзе...

Мірон з Шыпняком забралі з рук Мікульскага мяшок, высыпалі з яго на рагожу зямлю.

— Ты, Мірон, быў перада мною ў нары... Залішне ўзяўся ўправа: так не выправіш, а зноў у лагер завернеш...

— А чорт яго зарыентуецца ў цемры! — вылаяўся Мірон.— Корпаешся, як крот.

— Ліхтарыка другога няма, а гэты трэба берагчы. Батарэйка садзіцца: не будзе нават чым пасвяціць, каб замаскіраваць накапаны пясок.

— Глыбамі на галаву падае! Магілу сабе капаем!— голасна шаптаў Мірон, адносячы з Шыпняком у кут зямлю.

— А што ты прапануеш? Адмовіцца? — Мікульскага нерваваў яго занудлівы шэпт.

— Цс-с...— цішыў і Шыпняк.— Стаміўся — адпач-

ні шчэ раз. А дурную балачку кынь... Я магу без чэргі лізты.

— Тише и ты, горячка. Моя очередь...— Кім забраў мяшок, прысеў каля сцяны, дзе пачынаўся лаз, і знік. Мяшок прымайстраваны прыкладна пасярэдзіне цяжа, за адзін канец можна даставаць яго з нары, за другі — цягнуць унутр, і не трэба самому лазіць сюды-туды.

Мікульскі і Тоня прыселі каля лаза, прыслухаліся, як замірае там, у сырой цемры і цеснаце, шоргат. Абодва нібы бачылі, як Кім паўзе на локцях, папіхваецца каленямі, трэ спінаю па скляпенні. Паўзе спачатку крута, градусаў пад сорак уніз, на глыбіню метр — метр дваццаць... Тады гарызантальна — метраў пятнаццаць. А можа, і больш. Як паўзеш па нары, дык здаецца доўга, доўга — як на той свет.

— Давай мне... Ідзі павартуй...— лёгка пастукаў Тоньку па плячы Мікульскі, забраў канец вяроўкі.

Тоня ідзе да той сцяны, дзе ў іх адарваны дошкі, укленчвае каля шчыліны. З яе відаць амаль увесь двор.

У кутку шэптам сварацца Шыпняк і Мірон.

— Чы тобі павылазыла? Відгарны... Нэ сып, кажу, на цю труху... Маскуватэ нэ будэ чым.

— А хто ў гэту хібару палезе? Дзверы дошкамі забіты... Нікому і ў голаў не стукне.

— Нам жа стукнула!

За ноч паспявалі злазіць у нару па тры, ад сілы па чатыры разы кожны. Чыстага рабочага часу мелі гадзіны тры, і пачынала світаць. А трэба ж было яшчэ замаскіраваць добра ўсё, што выграблі з нары, пачысціць адзін аднаго...

Начныя «бдения» (слоўца Актябрскага) выматалі ў іх, здавалася, апошнія сілы. Пры тым мізэрным харчаванні, што ім давалі,— літр баланды і сто пяцьдзесят грамаў шэрага, з тырсы і вотрубяў хлеба,— людзі хісталіся нават ад лёгкага ветру. Многія распухалі, набрыньвалі вадою. Паходзіць. пасоўваецца, растапырыўшы рукі-ногі,— кулець! Той сусед злева, што жменямі здзіраў з галавы валасы, сказаў быў Мікульскаму ў першы ж дзень: «Займай гэту дзіру... Учора вызвалілася... Ледзь дасталі з клеткі папярэдніка твайго... Як калода...» Сам чарнявы не пух, ён ссыхаўся, як мумія, усе суставыператвараліся ў няўклюдныя булдавешкі.

І Мікульскі не пух, ён таксама худзеў і ўсыхаўся. А багамольца не мінула «чаша сия». «Не забоццеся для

душы вашай, што вам есці, што піць, ні для цела вашага, у што адзецца...» — прапаведаваў ён і, здаецца, гніў зажыва. Ад яго ішоў цяжкі дух, палонныя адганялі прапаведніка ад сябе, не давалі станавіцца побач на паверцы. Замахнецца хто, а ён захіліцца рукою: «Любіце ворагаў вашых, благаслаўляйце праклінаюшчых вас, благатварыце ненавідзяшчых вас і маліцеся за абіжаюшчых і ганяшчых вас...»

...Пад раніцу адзінаццатай ночы Тоня вылез з нары і заскакаў, як вар'ят, палез абдымацца.

— Машына над галавою праехала! Да дарогі дакапаліся! Таварышы, няўжо праўда?! Няўжо свабода скора?! — і абсунуўся, абяссілены ад гэтага выбуху пачуццяў, не то смеючыся, не то хліпаючы ў нервовым плачы.

Пад дарогаю пабраліся яшчэ глыбей. Там вялікі пласт насыпнога грунту, думалі, што ад сатрасення ён можа абваліцца. Яшчэ дзён праз тры пачулі — грукочуць машыны па нагах. Дарогу, значыць, мінулі...

— Пяць тысяч чалавек! Пяць тысяч, не лічачы жанчын і дзяцей, накарміў Хрыстос пяццю хлябамі... І яшчэ дванаццаць карабоў кавалкаў назбіралі... Во якія цуды былі на свеце! Во якую сілу меў сын божы!

— Чаго ж ты, Ілья-прарок, не ўпросіш свайго Ісуса, каб цяпер цуда сатварыў? Няхай бы хоць адну буханку скінуў табе...— гаварыў яхідна сусед, што ляжаў над Мікульскім.

— Па веры вздаецца... Калі верыце, значыць, будзе тое, у што верыце. Перапраўляўся Хрыстос з вучанікамі ў зямлю Генісарэцкую... Ішоў Хрыстос па моры, акі па суху. А Пётр пытае: «Калі ты — гэта ты, зрабі, каб і я прайшоў». І пайшоў Пётр па моры, але раптам стаў правальвацца, тануць. «Нашто ж ты ўсумніўся ў маёй сіле?» — Хрыстос яму на гэта. І прасцёр руку над ім, і выратаваў Пятра...

— Цецярук! Хіба ад адной веры рухнуць аковы і цямніцы? Пад ляжачы камень і вада не цячэ...— хваляваўся той, што ляжаў над Мікульскім. Цімох Андрэевіч ужо ведаў, што ён з Краматорска, токар з машынабудаўнічага завода. Не раз і размаўляў з ім, упэўніўся — свой чалавек. Яму ён скажа пра іх намер уцячы, пра падземны лаз... Токар паможа яму прарабіць маніпуляцыю з трупам... А тады хай карыстаюцца лазам, хто захоча.

Капалі яшчэ дзве ночы, каб быць пэўнымі, што

прайшлі за кювет, у кусты. І рашылі так: адну ноч адпачнуць, падрыхтуюцца, а наступная — іх...

Адразу пасля адбою стаў задыхацца і драць сябе за грудзі «Ілья-прарок». А малітвы не пераставаў шаптаць:

— Госпадзі... Паклаў ты ўжо сякеры пры смакоўніцы, не прынасяшчай плоду... Ачышчаю душу сваю перад табою, госпадзі... Спасі і памілуй мя... Не ўвергні ў геену вогненную... Ці не ты казаў: уніжаюшчый сябе вазвысіцца? Ці не ты казаў: ядушчый маю плоць і піюшчый маю кроў набудзе жыццё вечнае? Прасці, госпадзі!.. Прасці і памілуй мя, грэшнага, да ізбаві ад лукавага... Іба ўвёў ён ва іскушэніе... Еў я чалавечыну, акі пёс смярдзяшчы, адвергнуты...

Хто яшчэ не спаў на бліжэйшых нарах, той доўга пасля гэтага не мог заснуць. Шмат наглядзеліся людзі, а ад гэтага шэпту кроў стыла ў жылах і варушыліся на галаве валасы.

Мікульскі спазніўся ў пуню ў тую ноч на гадзіну.

— А мы думалі — ты таго...— Мірон схіліў набок галаву і вываліў язык.— Капут, думалі, табе...

Мікульскі расказаў, якія малітвы шаптаў на адыход багамолец. Гаварыў, а самога аж патрэсвала, халаднела скура на спіне.

А пад раніцу, пасля работы ўжо, калі краўся ён на сваё месца і завярнуў у свой цёмны закутак паміж нарамі, штосьці халоднае стукнула-драпнула ў лоб. Адхіснуўся, ледзь не ўскрыкнуў: зверху звісала слізкая, з тоўстымі, крыху растапыранымі і сагнутымі пальцамі рука «Ілы-прарока». Нагнуўся пад гэтую руку, залез у сваю ячэйку. Прыплюшчыў вочы, каб засяродзіцца, падумаць, а ўваччу ўсё пагойдвалася рука нябожчыка — сагнуты пытальнікам указальны палец нібы пагражаў, папярэджваў аб нечым. Шчымела на лбе тая мецінка, дзе шкрабнулі пазногці нябожчыка, і Мікульскаму здавалася, што ад гэтай драпіны разыходзіцца па целе нейкая зараза. Не мог звесці павекі, нават баяўся заплюшчыцца, уздрыгваў і расціраў сабе рукі-ногі, прамываў слінаю драпіну.

«Труп ёсць, і паблізу... Памяняць трэба анучку з нумарам, прышыць яму на грудзі свой... Цікава, ці ёсць у токара ці ў таго, што валасы скуб на галаве, іголка з ніткаю? Будзіць трэба, пытаць... А пасля пад'ёму аб'явіць, каб усе пачулі, што памёр ён, Мікульскі, свой

нумар капо сказаць... Гэта раз... А труп трэба самому напрасіцца вынесці... Да пад'ёму яшчэ, як на двары людзей няма... Разбуджу пайду капо і скажу — так і так, трэба даваць рады, а то не вытрываць, аж нос зрывае... Засуну труп у прыямак каля падвальнага акна, прыкрыю смеццем... А пасля ночы, як уцяком, токар дастане труп, другі раз прад'явіць, пад сваім нумарам ужо... Прыхаваць трэба чужы нумар... От зараз, крыху паляжу і пачну... Адну хвіліначку... Хай крыху аціхне ў грудзях...»

Здаецца, нейкую хвіліну-дзве паляжаў Мікульскі, прыслухоўваючыся, як коле пад левую лапаткаю, а паспеў, мабыць, задрамаць і нават сасніць нейкі жах: быццам цягне ён гідкае і слізкае цела багамольца і ніяк не можа выцягнуць: расцягваецца яно, як цеста ці смала, ужо наскідаў сабе пад ногі гэтага цела аж да грудзей, прываліла самога, душыць...

І раптам прачнуўся: нехта моцна тузануў за нагу. Падскочыў, стукнуўшыся аб верхнія нары. Немцы!.. Блок-фюрэр з волгадойчаў, памочнік каменданта лагера і два з аховы.

— Прагуляемся з намі. Быстра! — аб'явіў блок-фюрэр.

Вялі, а ў галаве ліхаманкава стукала: «Хлопцы — як? Мо не зачэпяць іх, не возьмуць? Мо выпадкова, на якую праверку?»

Павялі ў камендатуру.

У прыёмнай за сталом шамаціць паперкамі эсэсаўка. Павялі міма яе, у кабінет каменданта.

Дарэмна спадзяваўся: і Кім, і Васіль Шыпняк, і Тонька-фабзаяц стаялі спінамі да ўваходных дзвярэй перад сталом каменданта, Мірона — не было.

Яшчэ двое дзвярэй — справа і злева ад стала каменданта. Сам камендант азызла разваліўся не за сталом, а ў масіўным, з чорнай скуры, крэсле каля глухой сцяны. Курыць вялізную сігару, чухае пад незашпіленым кіцелем грудзіну, пазяхае. За камендантавым сталом упэўнена, як за сваім, сядзіць незнаёмы штурмбанфюрэр, у яго фігура барца, карак — дугі можна гнуць, на цемі сівая шчэць, тугія, ажно блішчаць, чырвоныя шчокі. З-за шчок амаль не відаць маленькія, ружовыя вушы. Гэты курыць не сігару, а цыгарэтку, попел страсае ў жоўтую попельніцу — нібы адпілаваная з какосавага арэха місачка. Зачэпіць крыху цыгарэтаю, і по-

пельніца адразу пакачваецца, ледзь чутна грукоча... «З чаго гэта попельніца?» — думаецца Мікульскаму, і раптам здагадваецца: з чалавечага чэрапа!

Мікульскі сіліцца адарваць позірк ад гэтай попельніцы, разглядае дэталёва камендантаў стол. Старасвецкі, з выразнымі на кутах тумбачак і ножках кветкамі, грушамі, вінаградам, фантастычнымі птахамі. На стале каля попельніцы мармуровы чарнільны прыбор з бронзавымі чарніліцамі. На накрыўках — ангелы і завітушкі. У куце стала лямпа з абажурам у кветачкі, нібы ў спальні якое паненкі. З левага боку ад эсэсаўцаафіцэра столік з двума тэлефонамі, з другога — высокая жалезная шафа, расфарбаваная пад дрэва.

Некаторы час маўчаў і афіцэр за сталом, і камендант. Разглядалі іх, як дзікуноў ці прышэльцаў з іншай планеты: адзін — збоку, другі — ва ўпор.

Маўчанне гняло, і арыштаваныя таропілі вочы хто куды — пад ногі, пад столь у куток, дзе павук душыў муху, і яна цененька ныла-енчыла, міма блок-фюрэраў і памочніка каменданта — у вокны. Прэнцікі-краты на іх стваралі малюнкі — узыходзяць сонцы, распырскваючы праменні...

Блок-фюрэры два — з казармы Мікульскага і Кіма, у аднаго ў руках гумавая дубінка.

— Ну-с, пазнаёміліся, а цяпер пачнём...— чыста паруску сказаў афіцэр-эсэсавец з-за стала.— Пачнём наш адкрыты прафсаюзны сход. Хто першы просіць слова? — і зачапіў цыгарэтаю чэрап. «Гыр, гыр, гыр...» — азвалася попельніца.

Палонныя пераступалі з нагі на нагу.

— За гэты час, што вы ў лагеры, хоць якія весткі мелі з фронту? Не? — паглядзеў на гадзіннік, адшморгнуўшы рукаў чорнага кіцеля.— Шкада, няма якраз перадачы ў гэты час, паслухалі б апошнія паведамленні. Дык вось, вайна скора скончыцца. Нашы доблесныя войскі авалодалі Данбасам, Крымам, ідуць на Кубань і Каўказ, падыходзяць к Дону і Волзе... Хто адкуль родам? Можа, хочаце напісаць пісьмы дадому? Скора можна будзе пісаць аж да Урала...

Ніхто нічога яму не сказаў.

— Не жадаем, значыць... Дарэмна! Сваякам прыемна атрымаць вестачку, што жывыя і здаровыя, што фюрэр забяспечыў вас усім неабходным... Га? Я ведаю, вам вельмі хочацца напісаць... Я дваццаць гадоў жыў у

Ленінградзе, не мог сваякам у фатэрлянд пасланць ніводнага слоўца. Я ведаю, як гэта пакутліва...

«Шпіёніў, значыць... Дванццаць гадоў! Бог мой, няўжо ён не хлусіць? Няўжо можна беспакарана дванццаць гадоў шпіёніць і не быць выкрытым? — з нянавісцю думаў Мікульскі.— Мацёры воўк...»

— На што ж вы спадзеяцеся пры такім ходзе вайны? Ну пракапалі б, ну ўцяклі б... А куды? — афіцэр выйшаў з-за стала, паказаў цыгарэтаю на Шыпняка.— Куды?

Васіль агледзеў штурмбанфюрэра сваімі дзіўнымі, поўнымі іроніі вачыма.

— Не ведаю, гер... пра што вы гаворыце.

— Я пра падкоп гавару. А ты таксама нічога не ведаеш пра гэта? — падчапіў Тоню за падбародак тымі ж пальцамі, што трымалі і цыгарэту. Хлопец адхіснуўся: мабыць, пекануў знізу агнём...

— Не прыкідвайцеся дурнямі і мяне не лічыце дурнем...— афіцэр-эсэсавец націснуў пад сталом кнопку, і ў кабінет зайшла тая мадама ў мундзіры, што сядзела за столікам у прыёмнай.

— Ахову!

Іх вывелі цераз той жа прыёмны пакой. Каля стала эсэсаўкі ўжо сядзеў і папіваў каву... Мірон! У незнаёмым, колеру тытуню, мундзіры.

— А-а, гніда... Эрзац-кавай брацкую кроў запіваеш? — Мікульскі падаўся да яго, і Мірон ускочыў, адхіснуўшыся.

— Сабака яму брат...— працадзіў скрозь зубы Кім.

Іх павялі міма казармаў проста да той пуні-хлеўчука. Дзверы ўзламаны, усярэдзіне ўсё здрасавана, успорана — нешта шукалі. Мо зброю? Падвялі і да дроту. Ход быў абвалены праз кожны метр.

— Вось ваша работа. Як бачыце, не ўсе так шчыра капалі, іврваліся на волю...— пацяшаўся здаравякафіцэр.

— Неразумна капалі... Укосікі... Многа лішняй работы... Мы б такую дарэмшчыну не рабілі,— сказаў Мікульскі.

— А гэта... А гэта што? — паказаў эсэсавец на іх зашмальцаваныя аб пясок штаны — на баках, там, дзе падраныя кішэні.— А такое чым растлумачыць? — вывернуў ён кішэню Шыпняку, вытрас на далонь мо жме-

ню пяску.— А можа, Мірона пазваць, ен раскажа, як капалі, пра што дамаўляліся, гаварылі.

Далей адмаўляцца не было сэнсу.

Зноў паставілі іх у кабінеце каменданта, толькі ўжо тварам да вокнаў. Блок-фюрэры і памочнік каменданта стаялі пры дзвярах. Камендант сядзеў за сваім сталом, зашпілены на ўсе гузікі.

— Дык што за мэта вашых уцёкаў? — нервова прабегся перад палоннымі штурмбанфюрэр, тыцнуў пальцам у Шыпняка.— Адказвайце вы!

— Праверыць, ці хлусяць зводкі гэрманьціў.

— Вы! — паказаў на Мікульскага.

— Дабрацца да фронту і біць вас зноў.

— О-о! — адкінуў назад галаву афіцэр, а камендант адразу перапытаў, што яны адказалі. Калі штурмбанфюрэр пераклаў, камендант таксама сказаў — «О-о!» і дабавіў: «Гу-ут зольдатэн!»

«Хутка Мірон пачапіў мундзір... Даўно спецыялізуецца на правакацыях... Знарок падсаджваюць, каб выяўляў змоўшчыкаў... Шкада — не задушылі гада...— думаў Мікульскі.— Ішлі міма, трэба было хапануць за шыю — хрэп гарлячыну... Усё роўна расстрэл...»

— Пытанне фармулюю так: хто кіраваў падкопам, хто арганізоўваў уцёкі?

Дурное пытанне задаў эсэсавец. Раз падказалі, каго хапаць, хто ўдзельнічаў у падкопе, то сказалі ж, хто і кіраваў.

Злева ад Мікульскага стаяў Кім, справа — Шыпняк. Тонька замыкаў левы фланг.

Не прыглядаўся раней добра да твару Акцябрскага... Ён не проста доўгі, не толькі тоўстыя ў яго губы. Нос цікавы: востры, храшчаваты, закрылкі ажно прасвечваюцца. Бровы вечна насупленыя, між іх дзве глыбокія складкі. Позірк шэрых вачэй проста ніжа... Вушы адтапыраныя, нібы ў хлапчука... А Тонька збялеў, глядзіць сабе пад ногі, пакусвае губы... А Васіль нібы знарок сочыць за кожным крокам і рухам мардатага афіцэра-эсэсаўца, нахабна ўтаропліваецца яму ў вочы. І эсэсавец часам не вытрымлівае: унікае яго погляду.

— Хто яшчэ ўваходзіў у вашу арганізацыю? — мардаты ўзяў з рук блок-афіцэра дубінку і стаў насупраць чацвёркі, падчэкваецца на дыбачках.— З цябе пачнём... Вочы твае не падабаюцца,— ступіў крок да Васіля, рэзка ўзмахнуў гумаю — г-гах!

Па шыі каля ключыцы ўдарыў... Васіль адразу расставіў рукі, як лунацік, захістаўся, і Мікульскі абхапіў яго за сярэдзіну. А эсэсавец, раз'юшваючыся, біў Васіля і па руках, і па галаве, пападала і Мікульскаму.

— Генюгенд! — спыніў яго камендант.— Даволі! — і загаварыў быстра, Мікульскі не мог улавіць пра што. Здаецца, пра тое, што тут не месца для экзекуцый, што ёсць для гэтага спецыяльныя памяшканні. І што не ўсіх адразу трэба дапытваць, а па чарзе... І не аднюю жорсткасцю трэба дзейнічаць...

Іх вывелі ў правыя дзверы, што за спінаю ў каменданта. Чаму не цераз прыёмную? Хіба там яшчэ сядзеў Мірон?

Трапілі спачатку ў невялікі, без акон, пакой, а з яго — у калідор, паўзмрочны, з лямпачкамі на столі. Справа і злева па трое дзвярэй. Калідор заканчваўся дзвярыма на дзве палавінкі. Праз іх выйшлі на дворык з кветнікамі. З дворыка праз тыя ж варотцы ў драцяный агароджы, праз якія яны ўжо праходзілі, міма вартавога. Потым цераз апель-пляц і да выхаду з лагера. Вартавы прачыніў толькі адну палавіну варот — бярвенчатую раму-крыжавіну, пераплеценую калючым дротам. З варот павярнулі ўлева. Тут, з усходняга боку лагера, стаяла казарма эсэсаўцаў-ахоўнікаў. За ёю, яшчэ далей, аднапавярховы будынак-турма. І казарма і турма былі з цёмна-чырвонай цэглы.

— Пачакаць! — загадаў мардаты і зайшоў у казарму ахоўнікаў. На першым паверсе была эсэсаўская сталоўка і кухня. Праз кухоннае акно, зацягнутае пацямнелай ад копаці марляй, вылятаді такія пахі, што рабілася млосна, а страўнік хапалі сутаргі. Мікульскі задраў галаву, стаў глядзець на высокія ліпы. Раслі яны паўз казарму і паўз турму. Другі рад дрэў ішоў каля самага мура — цаглянай сцяны. Якраз пасярэдзіне паміж радамі ліп была праскрэбена ў траве і высыпана пяском дарожка метры на два шырыні.

Адцвітаюць ужо ліпы... Але пчолы яшчэ сям-там зумкаюць у голлі, шукаюць спажыву... Задраў галаву і канваір, глядзіць угору.

Афіцэр-эсэсавец вынес перад сабою вялізную місутаз рысавай кашы — ірдзее, пабліскваe на сонцы ад тлушчу, як скрышталізаваны снег. Ад аднаго выгляду гэтай кашы ў страўнікі нібы ўвагналі кожнаму па нажы. «Сволач... Ух, сволач!..» — Мікульскі зноў падняў

вочы на ліпу. Лепш глядзець туды... Адцвітае ліпа... Ліпавы цвет — лякарства... Маладыя лісцікі ліпы ідуць на салату... А цвет, калі высушыць, ад прастуды добра...

— Ну — што ж вы, героі, не бераце? Хто не будзе вельмі ўпарты, такую кашу зможа есці кожны дзень — во, дасхочу! — чыркнуў далонню па горле афіцэр.

Ніхто з чатырох не працягнуў да місы рукі.

— Ешце, ешце, яна не атручаная! — прыціснуў афіцэр місу да грудзей леваю рукою, а праваю падчапіў трыма пальцамі кашы, кінуў у рот.— Ах, смаката...

— Дешевый прием, гер офицер,— паківаў галавою Кім.— Мне стыдно за ваши умственные способности.

Афіцэр закашляўся, стаў ліловы ад натугі.

«Усё роўна якім паміраць,— галодным ці пад'еўшым... Усё роўна расстраляюць...» — падумаў Мікульскі, а таварышам сказаў:

— Ешце, хлопцы, сілы спатрэбяцца...

Але толькі зачэрпнулі далонямі Васіль і Тоня, як афіцэр шпурнуў місу пад казарму і доўга, па-нямецку, вылаяўся.

— Марш! Форвертс! — паказаў на прыземісты будынак.

«У турму...» — здагадаліся ўсе.

Сустрэў іх начальнік турмы Зелянеўскі — у такой жа форме, што і Мірон. Не разабраць было па вымаўленні — паляк ці апалячаны беларус.

— Якія ёсць рэчы і дакументы — здаць! Рамяні — здаць!

Хлопцаў павялі ўлева па калідоры, пасадзілі, здаецца, разам, а Мікульскага спусцілі ў змрочны, халодны падвал, адамкнулі дзверы адзіночкі-карцэра. У нос ударыў едкі пах хлёркі...

Не пакой, а пенал для алоўкаў. Паўтара крокі ўшыркі, чатыры ў даўжыню. Замест дна — жолаб з белаю ад хлёркі вадою. Паўз берагі застылі шматкі брудна-шэрай пены, мутныя пухіры плаваюць па ўсёй паверхні ад дзвярэй да знадворнай сцяны з закратаваным невялікім акенцам. Ні сесці, ні стаць... Паўз самую сцяну, на скосе, як мага прыціскаючыся лапаткамі да халоднай цэглы, доўга не настаіш...

Узяў з кутка ля дзвярэй вялікаватую, мо двухлітровую, кансервавую бляшанку, што служыла за парашу. Пераскокваючы ад аднае сцяны да другое, наблі-

зіўся да акна-амбразуры, паставіў кансерву ўгору дном, ступіў на яе дзеравяшкаю. Падаконнік скошаны, рукамі не ўтрымацца — саскоўзваюць пальцы. Але можна крыху так пастаяць-павісець, каб твар быў бліжэй да свежага паветра. Але ўсё роўна вочы слязяцца ад хлёркі, і калі працерці іх, відаць за акном дзікі бур'ян, далей — верх драцянай агароджы лагера і кавалачак неба над ёю...

Мікульскі то пераступаў з правай нагі на левую, з левай на правую, то растапырваў локці ў бакі і стаяў без падстаўкі-бляшанкі і ўсё задзіраў галаву, каб лягчэй дыхалася. Але дыхаць рабілася ўсё цяжэй і цяжэй, хлёрка пякла ўжо не толькі ў нос, у вочы, але і ў горле. У грудзях шчымела і балела, амаль няспынна дзёр кашаль.

Колькі так можна прастаяць, колькі вытрымаць? Ну — гадзіну, дзве... Паўдня... А далей што?

Калі забалелі ў каленях і клубах ногі і ён першы раз не стрымаўся, стаў у ваду, забразгалі ля дзвярэй ключы.

— Дэзінфекцыі загадана падбавіць табе...— усунуў галаву Зелянеўскі, гыгыкнуў і адступіў з дзвярэй, расчыняючы іх насцеж, даючы некаму прайсці. Паказаўся сагнуты ў крук вусаты наглядчык — выплюхнуў пад ногі Мікульскаму вядро свежага раствору хлёркі...

«Падлюгі...» — Мікульскага затузалі шалёныя прыступы кашлю...

* * *

...Анюце хацелася закрычаць, нешта хрыплае сарвалася нават з губ. Але яна прыдушыла гэты крык-стогн. Каму крычаць — немцам? Мікульскаму? А сама плюхала нагамі, грэбла і рукамі, і шастом, кінула алешыну ўперад. Канец яе ўткнуўся ў сухую асаку і нейкае зелле каля ракіты. Нагамі не пераставала бултыхаць пад вадою, а рукі то круцілі алешыну, то ўсё ўзмахвалі, загрэбвалі ваду; калі пагружалася да рота і каламута дыхала ў самыя вочы жудасцю, зноў хапаліся круціць алешыну... І ўкруціўся сучкаваты кончык, як кручок у кудзелю, і пачула Анюта, што трымаецца алешына моцна, нават мацней, чым за ракітавы куст, і падцягнулася ўсім целам раз, другі, і яшчэ, і яшчэ...

Ужо седзячы пад кустом, на той сухой асацэ, усхліп-

ваючы наўзрыд ад перажытага страху, яна няўцямна глядзела, як сцякаюць, споўзваюць з яе камякі калатушы з раскай, як капаюць з махроў падранай спадніцы рудыя буйныя кроплі, і думала, што памерці, выходзіць, не проста. Страшна паміраць вось такою смерцю, захлынаючыся ў гнілой канаве, на балоце, як ваўкалака які, у адзіноце, калі ніхто не бачыць і не ведае — як ты гінеш, дзе... Страшна паміраць, калі ведаеш, што не зрабіў тут, на гэтым свеце, усяго, што мог, чаго ад цябе чакаюць... Калі ад твайго жыцця ці смерці залежыць — жыць ці загінуць яшчэ і другому чалавеку.

Анюта агледзела аўтамат. Увесь мокры і брудны, можа, і страляць не будзе... Але няма калі разбіраць і чысціць — зняла толькі з яго наліплыя травінкі і зелле, цярнула па ім рукавом і ўстала. Трэба ісці, і так ужо прайшло ліха ведае колькі часу...

Прыгнуўшыся і накульгваючы на нагу, абутую ў падраны хромавік, яна шылася па трысці ўсё ўперад і ўперад, а калі скончылася яно і па ўзбалатку густа рассыпаўся хмыз — ад куста да куста. Анюта дзівілася з сябе, што абудзілася ў ёй нейкая звярыная прыроджаная чуйнасць і асцярожлівасць, што яна не адчувае на сабе ні мокрага адзення, ні аўтамата, не чуе болю ў праколатых пальцах — нібы прыйшло другое дыханне. Здаецца, менш і галіны кустоў шамацяць, цішэй сіпіць і чвякае пад нагамі вада.

Апошнія дзесяткі метраў да дарогі ледзь не паўзла. Па адхоне на шашу ўскараскалася па-пластунску — і замерла за апошнім, ля самага палатна дарогі кустом, у нейкіх пяцідзесяці метрах ад моста...

Як у ваду глядзеў Мікульскі: маглі пайсці немцы з моста, а не пайшлі, нават ахову выставілі. Адзін вартавы з аднаго боку, другі — з другога. Падыдуць насустрач адзін аднаму да сярэдзіны насцілу — разыходзяцца. Пастаяць з краёў, стане сумна — зноў ідуць. За мостам, пад старадрэвінай-вярбой, дуплістай, з абламаным голлем, сядзяць і ляжаць немцы, стаяць у козлах карабіны, валяюцца аўтаматы і круглыя, доўгія, як чурбакі, процівагазы. Вывернуўшы пярэднія колы на сярэдзіну дарогі, прыткнуліся адзін да аднаго тры матацыклы з каляскамі, за імі — адкрыты зверху, плямісты бранявік з гумавымі торамі спераду і гусеніцамі ззаду. Над кабінаю браневіка тырчыць павернуты ства-

лом у бок балота кулямёт. Каля кулямёта сядзіць з падкасанымі рукавамі, курыць немец.

Калі яны пад'ехалі? Здаецца ж, дарога перакапана і завалена не толькі на левы бок ад Бобрыка, а і па той... Чаму не чуваць было гулу і траскатні матораў? «А мо і чулі, а палічылі за далёкую страляніну...»

Не збіраюцца, значыць, кідаць мост на тракце... Наадварот, нібы чагосьці ці кагосьці чакаюць... Значыць, пра вяртанне сюды не трэба і думаць. Адпадае гэты варыянт канчаткова...

Недзе з-за насыпу, з кустоў, падняўся на дарогу афіцэр, штосьці скамандаваў. І немцы адразу паўсхопліваліся, загагакалі, як гусі. Палавіна іх хутка пачала раздзявацца — дагала, пасыпалі ўніз, да ракі. Перасталі хадзіць вартавыя па мосце, падышлі да парэнчаў. Павярнуўся тварам да ракі і той, што сядзеў на бранявіку каля кулямёта. Тыя, што засталіся на ўзбочыне, з зайздрасцю глядзелі, як іх таварышы галяком, узбрыкваючы нагамі, сыпаліся ўніз, да ракі.

Анюта ссунулася назад па адхоне асцярожліва, не скаціўся ніводны каменьчык.

Так, немцы чагосьці чакаюць. Мо падыдзе якая рамонтная часць? А мо ўжо гоняць сюды людзей з няблізкіх вёсак?

Анюта ішла назад сваімі слядамі хутка, манеўравала ад куста да куста. Усё даводзілася рабіць у адваротным парадку ды часцей азірацца...

«А мо і не спяшыць перабірацца на той бок Бобрыка? З гэтага боку менш дарог, менш людзей... І немцаў, паліцэйскіх менш. А тады ўжо, як мінём возера, перабярэмся... Не, не, не — менш людзей, менш шанцаў і на помач... Што я зраблю адна з камісарам? А раптам зусім абнядужае!.. А па той бок і сувязны, і партызаны хутчэй трапяцца...»

Вось яна, тройчы выклятая канава... Вунь і той ракітавы куст... Няўклюдны шасток-алешына так і застаўся плаваць, уткнуўся вяршалінай у асаку пры камлі. Каля яго, як каля загаты, назбіралася ўсякіх церушынак і смецця, зялёнай раскі. Каля алешыны нешта варушылася ў вадзе, расштурхоўвала зялёныя кружочкі раскі ў бакі, закружвала іх. Раптам на альховы масток ускарабкалася жабянятка. Пасядзела секунду, перадыхнула — клёўк! — паплыло зноў, пакіравала сю-

ды, да ракітавага куста. Відаць было, як рытмічна падрыгвала яно заднімі ножкамі...

Анюта пацягнула алешыну да сябе і ўбачыла, што раска зусім не падобна на капейкі — лісцікі намнога драбнейшыя і не такія ўжо круглыя. Па тры, па чатыры разам, а знізу целяпаюцца белыя бародкі карэньчыкаў. Маленькія бародкі, па сантыметру...

* * *

Пры кожным уздыху, кароткім і сутаргавым, калола і нудзіла ў грудзях. У горле і ў носе шчымела, нібы там садралі скуру, фізічна адчувалася, як распухае слізістая абалонка, сухім і непаваротлівым робіцца язык. А слёзы цякуць і цякуць, і Мікульскі перастаў іх выціраць.

Лёгкія зноў нібы ўзарваліся. Мікульскага скурчыла ад прыступу кашлю ў крук. Здаецца, усё рвалася ўнутры на шматкі, выварочвала вантробы, таркаю дзёрла гартань.

Зверху ў столь нечым пастукалі, мусіць, бляшанкай — гук металічны, брынклівы. «Мо хлопцы? Можа, іх камера якраз нада мною?» — Мікульскі пераключыў увагу і думкі на хлопцаў, і кашаль нечакана сціх. «Дзіва... Выпадкова, ці ў гэтым ёсць нейкая заканамернасць?» Ён пачаў услухоўвацца ў стук, але зразумець нічога не мог. Ці гэта выстукваюць што па азбуцы Морзэ, ці ёсць якая спецыяльная турэмная? Шкада, што ён не ведае ні той, ні другой... Хадзіў некалькі разоў у гурток Асавіяхіма да вайны, вучыўся стукаць на ключы. Інструктар у тым гуртку смешны быў — на кожную літару ці лічбу лічылку гаварыў, каб лягчэй было запамінаць. Та-та-ці-ці-ці — «Дай, дай, закурыць!» Ці-ці-ці-та-та — «Ідуць танкісты!» Ці-ці-та-та-та — «Я на горку йшла!». А што гэта — лічбы ці літары? Начыста ўсё з галавы выветрылася. На фронце яго ўзвод таксама займаўся дротавай сувяззю, а не радыё...

«Хто гэта з іх стукае? Васіль? Тонька ці Кім? Што яны хочуць сказаць?.. Быццам упрасціліся іх сігналы... Та-та-та... І зноў: та-та-та... Тры разы, іх таксама трое... Усё ясна, хлопцы, вы гэта, вы! Усе разам, значыць... Усе жывыя...»

Мінула паўдня, надышоў вечар, а Мікульскага не чапалі, не трывожылі. І ён то стаяў каля акна, то ся-

дзеў пад ім на бляшанцы. Спрабаваў быў зноў стаяць на ёй — то на адной, то на другой назе. Дзве не месціліся... Ногі дрыжалі, падкошваліся, пруцянела спіна...

Ён і спаў так, прыхінуўшыся спінаю ў кут, каб не было куды падаць у бакі, верхам на бляшанцы. Прачынаўся мо праз кожныя дзесяць мінут, выпроствваў-згінаў ногі, расціраў іх рукамі, біў сябе па здранцвелых сцёгнах. Вострыя краі бляшанкі, здавалася, прарэзалі скуру да касцей... І зноў садзіўся, прыплюшчваў вочы — не так выядала іх хлёрка, не так рэзала святло лямпачкі — адной-адзінай лямпачкі пад столлю з уздзетым на яе драцяным чахлом-сеткай.

Кароткая летняя ноч, а не пераэкыць, не перачакаць. Змучаны дашчэнту, ён урэшце заснуў больш моцна, падклаўшы пад сябе падэшвамі ўгору дзеравяшкі. Босыя ногі растапырыў на плінтусы, каб не так шчыпала іх, раз'ядала хлёрка.

Чаму ён так жадаў раніцы? Мабыць, жыла нейкая спадзеўка, што развіднее — і скончацца пакуты. Але пакуты сама пачыналіся...

Разбудзілі яго крокі і шум у калідоры, наверсе недзе. Ці не бралі на допыт хлопцаў? Як толькі заціхла там, у столь пастукалі: та-та... та-та... та-та... Па два разы ўсё. Але чаму па два, а не па тры? Дзе трэці? «Узялі трэцяга...— здагадаўся ён.— Толькі — каго?»

Праз якую гадзіну прыйшлі і па Мікульскага — незнаёмы ахоўнік і Зелянеўскі. Павялі ў другі канец турмы, таксама ў падвале.

Пакой, амаль пусты... У кутку, пад такім жа закратаваным акенцам, як і ў яго адзіночцы, невялікі столік з грубых дошак. На табурэце сядзіць, узлёгшы локцем на столік, учарашні афіцэр-эсэсавец з барвовай мордай. Зайшлі, і ён адразу падняўся, паказаў цыгарэтаю на прычыненыя дзверы ў сумежны пакой.

— Прашу азнаёміцца і зрабіць вывады. Думаю, што вы будзеце больш згаворлівыя...— і пайшоў паперад Мікульскага, таўхануў далонню дзверы. Эфектна адступіў убок, даючы яму дарогу.

Мікульскі ўхапіўся за вушак.

На жалабастай, з драўляных рэек, лаўцы тварам уніз ляжаў Кім Акцябрскі. Ногі прывязаны да лаўкі рашоткі рэменем, шыя прышчэмлена жалезнаю, як літара «С», скабою, рукі скрыжаваны пад лаўкаю і таксама звязаны. Голая спіна скрываўлена — рваныя ра-

ны, палосы-кровападцёкі. Пад рашоткаю на цэментнай падлозе матава бліскаюць лужы крыві. За лаўкай, кулакі ў бакі, стаіць у майцы здаравіла, раздзімае ў цяжкім дыху ноздры, губы скрыўлены ў нялюдскай ухмылцы. З правага кулака звісае паўз бок канчук — некалькі столак рамянёў, змацаваных заклёпкамі з ірванымі, няроўнымі краямі, на канцы бізуна — тры драцяныя кручкі.

— Налюбаваўся? І вывад зрабіў? Абліць вадою — хопіць яму адпачываць...— выставіў афіцэр палец на Кіма і дабавіў нешта па-нямецку.

Кат развёў рукамі — хвост канчука матлянуўся, як гадзюка з трайным языком:

— Капут!

— Ідыёт! — вылаяўся эсэсавец і першы выйшаў у пярэдні пакой, паклікаў за сабою Мікульскага.

«Загубілі, гадзюкі... Ах, Кімушка, светлая галава...» — Мікульскі спыніўся за тры крокі, амаль не бачачы стала, расставіў шырэй ногі, каб не збілі з першага ўдару, і прыплюшчанымі вачыма пагардліва ўтаропіўся ў афіцэра.

На срабрыстых маланках у правай пятліцы эсэсаўца пырскі крыві — мусіць, і ён прыклаў рукі да Кіма. Ці стаяў блізка...

Афіцэр прабег пальцамі па борце кіцеля, расшпіліўся, зайшоў за столік.

— Хто яшчэ ўваходзіў у вашу арганізацыю? — забарабаніў па стале.

— Кепскія ў вас агенты. Я не трымаў бы такіх ні аднаго дня, калі за імі трэба пераправяраць,— сказаў Мікульскі.— А за лжывыя весткі павесіў бы ў першую чаргу іх.

— Чаму дрэнныя? Узялі ж вас як міленькіх, у самы крытычны момант. Па-другое, мы самі як-небудзь разбяромся, у якім парадку і каго вешаць.

— А калі вы задаволены імі, то вам даўно данеслі, хто ўдзельнічаў у падкопе. Вы ўсіх і ўзялі — пяць чалавек... Правільней — чатырох. Каб былі замешаны яшчэ людзі, то іх таксама прадалі б усіх. Як вы думаеце — лагічна?

— Лагічна.

— Дык прашу вас — не здзекуйцеся над людзьмі, ніхто вам больш нічога не скажа. Прымайце хутчэй рашэнне — расстрэл дык расстрэл, пятля дык пятля.

Мы ўсе салдаты, і добрыя салдаты — сам камендант сказаў, пастараемся імі і застацца.

— І вы былі арганізатарам?

— І я быў арганізатарам.

— Пахвальна, пахвальна...— Трык-трык-трык пальцамі па стале.

Невядома, што было пахвальна: ці тое, што Мікульскі пацвердзіў вядомае ім, ці тое, што аказаўся арганізатарам і прызнаўся.

— І вы можаце даць чэснае слова савецкага афіцэра, што больш ніхто не ўваходзіў у вашу групу, не збіраўся ўцякаць?

— Магу даць чэснае слова, калі для вас яно нешта значыць. Толькі не афіцэра — не лавіце мяне. Я — салдат.

— Ну, што ж — так і даложым... Так і даложым...— схіліўся над сталом, крамзануў нешта ў паперах.— Засталася фармальнасць: запоўніце самі тытульны ліст пратакола допыту...— і ўстаў з-за стала, даючы месца Мікульскаму.

Цімох Андрэевіч прысеў да хісткага століка. Пісаў механічна: год нараджэння — 1914, месца нараджэння — Мінская вобласць, партыйная прыналежнасць — беспартыйны, адукацыя і спецыяльнасць — настаўнік геаграфіі. Ці прыцягваўся раней да крымінальнай адказнасці... Ці супрацоўнічаў з германскімі ўладамі... Ці жанаты... Хатні адрас сваякоў... Не пратакол допыту, а чорт ведае што... Адказаў на першыя чатыры пункты, больш нічога не пісаў. Мог бы наогул пайсці на той свет з адным лагерным нумарам ваеннапалоннага...

Калі перастаў пісаць, афіцэр вышмаргнуў з-пад яго рук лісток, прабег вачыма.

— Вы смелы чалавек, у вас выдатныя дадзеныя. Вы маглі б заняць афіцэрскі пост у рускай нацыянальнай дружыне Блажэвіча, непадалёку адсюль яна фарміруецца. Што вы на гэта скажаце?

— Я савецкі салдат, а не здраднік. Больш ад мяне не пачуеце ні слова.

Афіцэр падпёр губамі нос, паўглядаўся ў яго празрыстымі, бы вадзянымі, вочкамі, кінуў на стол пратакол, нібы якую непатрэбшчыну, махнуў на Мікульскага рукою.

Яго завялі назад у карцэр. Зелянеўскі суправаджаў ахоўніка да самых дзвярэй і радаваўся:

— Жывы? Цэлы і непашкоджаны? Даўно б так! Так яно, браце, лепш!

«На здраду, сука, намякае...» — змераў яго Мікульскі пагардлівым позіркам.

— А мы тут табе апартаменты абнаўляем... Каб не гаварыў, што германскія ўласці ніц не клапоцяцца аб здароўі сваіх супрацоўнікаў.

Дзверы карцэра былі адчынены, каля ўвахода стаяла вядро, цераз берагі збягалі пацёкі густога шумавіння — набоўталі свежай хлёркі. У камеры шкрабаўся той вусаты наглядчык, збіраў бляшанкаю лішкі вады ў другое вядро.

— Вось... Ты ж не хочаш плаваць, не? Бяры тады вядро і збірай сам. Маглі б, зразумела, абслужыцьваспана па вышэйшай катэгорыі, але...

— Ладна, заткні халяву...

— Ай-я-яй... І такі інтэлігентны твар носіш... Такая каралеўская асанка — і грубіян? Не сорамна? — Зелянеўскі ўкрадліва-спакойна ступіў у камеру і нечакана ўдарыў яго з ляўшы пад дых. Мікульскі схапіўся за жывот, скурчыўшыся ў тры пагібелі.

— Што, шкура... за гэта табе здзельна аплочваюць? — Мікульскі задыхаўся, не мог удыхнуць, нібы паралізавала лёгкія.

Зелянеўскі зноў ступіў да яго на крок, але Мікульскі хуценька чарпануў вядром у жолабе, замахнуўся на яго. Зелянеўскі выскачыў у калідор.

— Адрыгнецца гэта табе, галубок...— асклабіўся ён з-за дзвярэй.

Калі Мікульскі даліў вядро, чэрпаючы бляшанкаю, зайшоў вусач, забраў. Зелянеўскі ледзь даў старому выйсці, як схапіў другое, з растворам, шухнуў у камеру. Мікульскі паспеў адскочыць, але папала крыху на бок і на штаны, у дзеравяшкі.

Бразнулі дзверы, загрымелі ключы...

«Паяц і садыст... З людскіх пакут пацеху сабе робіць...» — Мікульскага затрос цяжкі, балючы кашаль.

Праз мінут дваццаць ці паўгадзіны каля дзвярэй зноў забразгаталі ключы. Вусач прасунуў конаўку вады...

— Загадана пасуду забраць...— прагаварыў змрочна, расцягваючы кожнае слова.

Мікульскі каўтнуў. Вада была салёная і з хлёркаю. А можа, здалося? Можа, у яго ў роце скісла ўсё, згоркла? Кожная клетачка цела енчыла, пакутавала ад атруты — хлору.

— Вы не ў курсе, як там трое навічкоў? — спытаў у наглядчыка, аддаючы конаўку. Мікульскаму здавалася, што вусач яшчэ не страціў усяго чалавечага, хоць і страшэнна хмуры быў на выгляд. Сказаў «трое» знарок, каб лягчэй было зразумець, каго меў на ўвазе.

— Трое? Было трое... Стала двое...— вусач на момант падняў на яго вочы, нібы зацягнутыя плёнкаю смутку, і зачыніў дзверы, замкнуў.

«Было трое... Стала двое...— паўтарыў пра сябе Мікульскі.— Двое... Ах, Кім, Кім... А ты ж мне здаваўся стальным чалавекам... І на сэрца нікому не скардзіўся... Хаця розная бывае і сталь. Залішне загартаваў ты сябе... Перагартаваў... І стаў крохкі, ломкі. Сэрца не вытрывала, нервы пэнкнулі. А ў нашых умовах толькі «адпушчаная» сталь вытрымае, не скрышыцца... Гібкая, як спружына. Каб згіналі цябе і не маглі сагнуць да канца... Каб можна было імгненна разагнуцца — і ўдар, як з прашчы...»

Да фізічных пакут дабавіліся душэўныя. Яны то заглушалі боль у целе, то адступалі, і верх браў фізічны боль, у грудзях гарэла агнём. Усё мацней пякло ў горле і ў носе, няспынна цяклі слёзы. Толькі ў страўніку боль прытупіўся, як выпіў вады, але было млосна і нудзіла.

Не вельмі ўжо сцерагучыся вады, але па звычцы кідаючы ногі ў дзеравяшках управа-ўлева, ад сцяны да сцяны, дайшоў да акна, зноў стаў, упёршыся ў сцены, задзёр падбародак — як учора. Можа, правентыліруе крыху лёгкія, зменшыць у іх боль, асадзіць млоснасць... Але зноў усчаўся кашаль, закружылася галава, пацямнела ўваччу. Упёрся мацней рукамі ў сцены.

«Вампіры... Па кроплі жыццё высмоктваюць... Сыпнулі б вядро парашку ў гэту ваду пад ногі, то доўга і не мучыўся б... Усё ў іх разлічана — у якой прапорцыі разводзіць, колькі разоў на дзень падліваць... Каб адразу не здох... Каб канчаўся і кожную мінуту адчуваў, што канчаешся...»

Напаўнялася цяжкім, злым болем галава, пранізліва звінела ўвушшу... Паспрабаваў затыкаць вушы, каб прыглушыць звон, але ён не аціхаў, а мацнеў. Зняў

світэр-транты, прысеў на перавернутую бляшанку. Адразу кінула ў дрыжыкі. Даўжэйшыя ніткі паадрываў, каб не целяпаліся, сям-там пазвязваў канцы, пазапіхаў махры пад петлі, зноў надзеў. Большага рамонту голымі пальцамі не зробіш... Добра, што ёсць у яго світэр: можна і без хлёркі дайсці ад сырасці і холаду. Не верыцца, што за акном — лета, што недзе ёсць сонца і спяваюць птушкі.

«А можа, у мяне падымаецца тэмпература? Калі гарачка, то таксама кідае ў дрыжыкі...»

Больш ні ў гэты дзень, ні ў наступныя Мікульскага на допыт не вадзілі. Не выклікалі і хлопцаў, ён пытаў пра гэта ў вусача. Ды яны і самі стукалі на дзень па некалькі разоў: тук-тук... тук-тук... тук-тук... Удвух, значыць, сядзяць... Жывыя пакуль што.

Кожную раніцу паўтараўся рытуал з вёдрамі: спачатку Мікульскі набіраў вядро старога раствору з-пад ног, і тут жа замест яго ў жолаб улівалі свежы. Канцэнтрацыя яго кожны раз павышалася... З харчу — конаўка вады на дзень.

З носа кроў пайшла на трэці дзень. Кашляць кроўю пачаў на чацвёрты.

Першы раз згубіў прытомнасць на пяты дзень. Закружылася вельмі галава, павяло ўбок — і як у чорную прорву праваліўся. Колькі праляжаў бокам у вадзе, прыхіліўшы абабітую галаву да сцяны, не ведае — не мог ужо арыентавацца ў часе. Ачуняў і доўга не мог зразумець, дзе ён, што з ім... У гэты ж дзень некалькі разоў млеў ад голаду, слабасці, страты крыві...

Трызненні, галюцынацыя...

То здавалася, што яго вараць у кіпені — шчыміць і гарыць ад болю скура, злазіць кускамі са сцёгнаў, з бакоў, з локцяў... То нібы наяву бачыў, як прывязалі яго дагары на рашотчатую лаву і сілком улівалі кіпень у рот, зацiскалі нос і рот падушкаю, каб задыхнуўся...

Боль быў зверху, боль шкуматаў нутро, расколваў галаву... Цяжкую галаву, нібы налітую чыгуном...

Нашто яны яго падвесілі ўніз галавою і раскачваюць? Новы від катавання?

Вісіць учыгунелая галава, матляецца. Кроў прыліла да галавы, стукае ў скроні, ледзь не лопаюць вочы ў вачніцах. А-а, гэта ён за акном матляецца, пастуквае патыліцаю і цемем аб дошкі, аб жалезныя канты-рэбры вагона... Зачапіўся за калючкі ў акне вагона, за дрот

і не можа адарвацца, бомкае патыліцаю, а поезд імчыцца хутчэй і хутчэй... Тах-тах, тах-тах, тах-тах! — стукаюць колы... Па два разы, па два ўсё... Цяжэе, як не адрываецца галава, наліваецца крывёю, выпучваюцца, вылазяць з вачніц вочы...

«Пралез-такі праз акенца... Пралез... Адчапіцца б толькі ад дроту. Нічога, што ўпаду ўніз галавою... Гэта не страшна... І не балюча... Не так балюча, як цяпер... Абы вырвацца... Пусціце ж, не хапайце за ногі!.. Ідыёты, куды вы цягнеце! Адчапіце лепш... Мір-рон?! У морду б-ботам... У морду... я табе зараз... Сволач, не цягні, грудзі рэжа... Нажы прымі! Нажы!»

— Таварыш камісар, што з вамі? Вы мяне чуеце? Гэта я — Анюта... Таварыш камісар, ну міленькі, ну ачніцеся!..

«Хлусіш, гад, не падловіш! Ніякі я не камісар — салдат я, салдат — зразумеў? Я прысягу прымаў!..»

«Брот! Эй! Брот, біттэ... Клеб! — нехта бубніць над галавою і чымсьці тоненька звініць.— Брот!.. Эссэн!.. Ам-ам!»

«Ах ты, гад, падкупіць хочаш?! Падавіся сваім сабачым куском! І шукай пятлю... Сам шукай! Па шматку раздзяром, пападзіся толькі ў рукі...»

«І вівчаркам выкынэмо... Нас воны ілы, хай і його... Сабакі сабаку зжаруць... Ха-ха!»

«Васіль, дружа, ты тут? Цябе таксама ў кутузку пасадзілі? Дай тваю мужную пажаваную руку... Як твая галава — не баліць? Моцна той бегемот па галаве табе здзяжыў...»

«Та нічога... Эссэн, біттэ... Брот!»

«І ты па-нямецку шпрэхаеш? А я і не ведаў... Заспяваем давай што-небудзь... На развітанне... Украінскую якую давай, я люблю твае песні...»

— Хлеба хочаце? Я пайду сухар размачу... Падмацавацца нам трэба, чуеце? Цімох Андрэевіч, гэта я, Анюта, не біцеся!..

«О скалы грозныя... д-дробятся с р-ревом-м волны!!! И, белой пеною крутясь...»

— Ціх-ха! Даражэнькі, ціха! Немцы блізка — пачуюць...

«Не заціс... Не заткнеце рот, г-гады! Я скажу ў вочы... Хоць расстрэл... Не перастраляеце ўсіх!»

«У яр, у яр скатвайцеся, абыдзем іх ззаду!»

— Ціха, ціха!..

«Дайце да канца арыю праспяваць. У мяне яшчэ ёсць голас, я ж лячыўся!..»

...Нешта злёгку стукнула Мікульскага па галаве, скацілася на рукі... Дзіва — зусім памаленьку стукнула, а быццам ачнуўся. «Што гэта ўпала?» — Мікульскі няўцямна таропіў вочы на рудаваты кавалачак і не разумеў, што ён бачыць. Урэшце ўшалопаў — хлеб... Акрайчык... Упаў удала, каля самай сцяны ляжыць, толькі з аднаго боку паспеў ужо набрацца хлёрнай вады, раскіснуць...

«Хто кінуў — вартавы? Быў, значыць, голас — «Брот! Брот!». Быў... Вартавы клікаў, хацеў у рукі даць... Паклаў на падаконнік, а хлеб з'ехаў — спадзіста вельмі... Есці ці не?» — вагаўся ён, а рукі рабілі сваю справу — крышылі, кідалі па крошачцы ў рот... Нічога, што падмок... І так увесь арганізм набрыняў хлёркаю.

На які ж гэта дзень быў той кавалачак хлеба? На шосты ці на сёмы? «Цікава, што за вартавы тады пахаджваў за акенцам? Калі яму зноў заступаць? Як часта мяняюцца вартавыя?»

Паставіў бляшанку дагары дном, але падняцца на яе не змог — выскоквала з-пад ступні, падгіналіся, як без касцей, ногі. Адгроб бляшанку нагою, упёрся рукамі ў сцены — пастаяць крыху, падыхаць. Але і рук было не ўтрымаць — млелі, ападалі, як не свае...

Прашасталі за акном кароткія і шырокія, як раструбы, боты, наблізіліся. У разбітую шыбу прасунулася сівая галінка палыну, пахвастала з боку ў бок, нібы ганяла муху. «Эй, рус! Біттэ!» З-пад верхняга абрэзу акна паказалася далонь, на падаконнік упаў акурак, пасунуўся, пакаціўся. Мікульскі злавіў яго...

Колькі ж гэта ён не курыў? Мо вечнасць... Зацягнуўся з прагнасці глыбока — і кальнула ў грудзях, закружылася галава. Не даў страціць прытомнасць кашаль, кашаль і кроў... Абсунуўся наніз, шоргаючы спінаю па шурпатай сцяне, і доўга адплёўваўся крывёю, угінаючы галаву між каленяў...

Ну яго, гэты акурак... Лепш схавае надалей. Можа, гэтага «далей» і не будзе, але няхай...

На ўзроўні вачэй крышку відаць драпіны-літары. Драпалі па завэдзганым тынку, мабыць, пазногцем: «Матанька мая, бывай! Карасёў П. К. 14/X-41 г.» Можа, і яму пакінуць які пасмяротны надпіс? Бляшан-

каю можна больш глыбока выдрапаць... Але ж трэба ўставаць, дацягвацца да яе аж пад самыя дзверы. А дзе ўзяць сілы? І ён сядзеў, няўцямна сочачы, як лунае шматок тапалёвага пуху. Заляцеў калісьці праз выбітую шыбу з волі і ўсё лятае і лятае... Падставіў далонь, хацеў злавіць, але варухнулася паветра, пушынка паплыла вышэй...

І зноў не то ява, не то сон-трызненне: шыбае ў нос пах свежага подавага хлеба — толькі што з печы. Быццам дома ён, на канікулах, спіць «без задніх ног». Накасіўся перад гэтым з мужчынамі, нагуляўся з дзеўкамі — ледзь не да раніцы ладзілі танцы каля Самковых. Насілі вёдрамі ваду, палівалі пыл і зноў тупацелі — «адчабучвалі» — танец за танцам.

— Уставайце ж! Цімох Андрэевіч, родненькі, ачніцеся! — будзіць маці, не дабудзіцца. Чаму на «вы», чаму «Цімох Андрэевіч»? Ён жа Ціма, Цімоша для яе заўсёды быў... Голас хоць і знаёмы, але ці матчын? Далікатна будзіць маці, бы шкадуючы: хай бы і паспаў, дзе ж толькі і паспаць, як не дома? Але трэба ўставаць, трэба кляпаць касу. Добра касіць з расою, а не тады, як падымецца сонца, прывяне, паробіцца, як ніткі, трава...

«Заспаў? Я заспаў, мама?» — «Не, не, яшчэ толькі пяць гадзін...» — «А во — чуеш? Кляпаюць косы...» — «Гэта Дразду старому не спіцца...»

Цімох выскоквае на двор, хапае пад паветкай цяжкую калодку з кавадлачкам, пачынае з ёю «забаўляцца»: перакідваць з рукі на руку і перад сабою, і за спіною, выжымаць яе, прысядаць з ёю, ківацца ў бакі...

Раніца свежая, ядраная, пахне сырадоем і рачною цінай ці рыбай. Малыя боўталіся ў Лакнеі, навыцягвалі на бераг зелля і ціны, і цяпер яна пахне каторы ўжо дзень. Заліваюцца, шчабечуць на тэлефонным дроце ластаўкі...

Кляк-кляк-кляк! — чуецца з Драздовага двара.

«Ой, які ты засмалены ўжо — як цыганчук!» — дзівіцца, нібы пужаецца, маці. Як для жанчыны яна высакаватая, статная, з тоўстаю «куклаю» кос на патыліцы. Стаіць каля ганка (ганак — два пляскатыя камяні), наглядае за яго практыкаваннямі. Твар яе таксама загарэлы, але лінія загару нібы ачэрчана цыркулем: толькі твар бронзавы, а каля вушэй і ўся шыя белая — ад хусткі. Рукі пад грудзьмі, схапілі адна адну, кісці

таксама загарэлыя, ажно карычневыя. «Каро-овы выганя-я-ай!» — нясецца пастухоўскі голас, «страляе» пуга. «Клён-клян-клін...» — няўмела звоніць малатком Аніська, гультаяваты хлопец-сусед. «Лопатняў наробіць, парве касу...— думае пра яго Цімох і абліваецца вадою.— У-ух! А-ах!» — «Застудзішся, глядзі...» — не то трывожыцца, не то захапляецца яго выдумкамі маці і падае яму ручнік. Цімох расціраецца, а маці глядзіць не наглядзіцца, як пад ручніком загараецца, яшчэ больш цямнее і чырванее яго мускулістае цела. Шырокі Цімох у плячах, тонкі ў поясе — «Кропелькі бацькавы пабраў!».

Каровы раніцаю тупацяць больш жвава, не сунуцца так засяроджана і задумліва, як вечарам. Маці адчыняе вароты на вуліцу, выпускае сваю Красулю, паляпвае яе па баку — «Хадзі, ну — хадзі ж...».

Цімох садзіцца на чурбачок каля калодкі з кавадлачкам, прыладжвае касу-метроўку. Дын-н, дрэн-н!.. Не, нядобра, горш, як у Аніські. Клек-клек-клек!.. Во, гэта амаль так ужо, як у Дразда, шчыльненька прыклаўшы да кавадла лязо, раўнамерна стукаючы, не больш двух разоў на адным месцы...

Смешны стары — гэты Даніла Дрозд. Пачынаецца сенакос, а ён усё трэцца каля магазіна — выбірае косы ўсім, хто папросіць. Кос усё менее і менее, скора і выбіраць няма з чаго, а ён выбірае — з дваццаці адну, з дзесяці адну, з трох адну... То важыць косы на вагах, торкаючы пальцам у адну ці ў другую шалю, і моршчыць лоб, то чыркае наском касы аб падлогу і слухае звон, то выстуквае касу пстрычкаю. «Ну што?» — у кліента ажно смягне ў роце ад хвалявання. А Дрозд не адказвае, вышчыквае з-за вуха волас, спрабуе перарэзаць яго касою. Глядзіць, як іграе «палатно» на сонцы, ці ёсць на паверхні фіялетавыя разводы — «Вараненая ці не варанёная?». «Ну — ужо?» — пераступае з нагі на нагу заказчык. «Імею паняцце — вось гэта лепшая...» — гаворыць урэшце Даніла. «Ну, то хадзем мо, дзядзька, зробім па сто грам...» — расшчодрываецца касец.

Але ж і касіў Дрозд! Ну й касіў! Як галіў — ні чубка, ні грыўкі, усюды роўная белавата-рыжая шчэць пакошы, нават на стыках, пад валком...

«Выпі цёпленькага...— выносіць маці Цімоху кубак малака і глядзіць, як ён цубіць, высмоктвае да кроплі

і пастуквае пальцамі па донцы.— Мо яшчэ?» — «Не, до... Падрыхтую касу, а тады ўжо чаго ўкушу больш».— «Хочацца мне, Цімоша, папытаць і баюся... Каб не засердзіўся... Кажуць, ты за Валяй Макарэвічавай вельмі ўлёг...» — «Не слухайце, мама, што вам нагавораць...» — «Глядзі, сынок, я не няволю цябе. Але ж табе трэба яшчэ канчаць вучыцца... Хай-то Зіна выскачыла — дык тут ужо не адробіш. А ты ж мужчына, ты вучыся. І Валя не пара табе: шалапутная дзеўка...» — «Брэшуць, не слухайце... Яна харошая, баявая...»

Кляп-кляп, кляп-кляп...— мерна стукае малаток.

Ду-дах, ду-дах...— няроўна і гулка адгукаецца сэрца. Па два разы ўсё, па два...

А можа, гэта хлопцы зверху сігнал падаюць? Такі самы стук... Што яны хочуць сказаць?

Бразгацяць ключы за дзвярыма, скрыгічуць нязмазаныя завесы — здаецца ж, не скрыгаталі раней?

— Эй, вызваляй памяшканне! Чуеш? — памаўчалі і зноў: — Скапуціўся, ці што? Стары, страсяні, каб ляснуў зубамі...

Хтосьці нямоцна пацепвае за плячо, бурчыць:

— «Ляснуў»... «Ляснуў»... Выседзі тут восем сутак, то і здаровы дойдзеш... Слухайце, вы жывыя яшчэ? Уставайце... Пад рукі яго ўзяць, ці што?..

* * *

— Уставайце... Вам жа лягчэй седзячы... Вы мяне чуеце? Гэта я — Анюта... Вярнулася ўжо...

— А-а, санэпідстанцыя... Здарова! А я думаю — хто гэта мне галаву адкручвае, за плячо трасе... Ты, здаецца, хныча, танкіст?

— Не... Гэта я так... Я думала, ужо не ачуняеце...

Анюта плакала, старалася, каб ні гуку не праранiць, а ўсхліпы ўсё роўна прарываліся. Плакала, ненавідзела сябе за гэту слабасць і нічога не магла парабіць з сабою. Нібы адтайвала яе душа, брала сваё за той момант, калі закамянела была ад уструсу — смерці Васіля. Непрытомнасць камісара напужала зноў: а што, як не ачуняе? («Памрэ» — не давала сабе такое і падумаць.) Што тады яна будзе з ім рабіць — такім мажным мужчынам? Як будзе ратаваць, дастаўляць у атрад?

— Аг-га-а... Маўчыш? Каб ты, дзяўчынка, ведала, дзе я за гэты час пабываў!.. На тым свеце, у самым пекле... Такое праплыло перад вачыма! Як з голаду даходзіў у палоне... Як хлёркаю труцілі ў карцэры...

— Я вам сухар прапаноўвала, а вы адмахваліся, брыкаліся... Хочаце пажаваць?

— А ў цябе адзін ці два?

— Адзін, але вялікаваты... Не разламаць...

— Давай я...— Мікульскі працягнуў да Анюты руку, крануў яе за рукаў пінжака.— О-о, здорава, відаць, ныралa...

— Хадзіла... Немцаў намнога пабольшала, чалавек пяцьдзесят цяпер. Бранявік, матацыклы... Быццам нечага чакаюць, мо якая часць будзе рухацца. І патрулі два ходзяць, насустрач адзін аднаму.

— Значыць, шлях на мост заказаны... Не-е, даражэнькая, не кожны такое зможа... Сама, свядома палезла ў тую гідоту. Не-а, малая, ты проста малайчына. Ты яшчэ не ведаеш усіх сваіх здольнасцей і якасцей... І ніводзін чалавек пра сябе ўсяго не ведае. А прыцісне бяда ці патрэба — і чалавек паказвае ўсе свае магчымасці... патэнцыяльныя... Геніяльныя задачы нават у такім стане рашаюцца. Нібы ўспышка маланкі — так прасвятляюцца мазгі...

— І патэнцыяльныя слабасці... У мяне — адны слабасці.

— І слабасці. Колькі табе гадоў стукнула?

— Дваццаць другі ідзе. Я пасля сямігодкі педтэхнікум закончыла і адразу папрасілася, каб у Заходнюю Беларусь паслалі на работу. Год толькі і панастаўнічала... Я вам казала калісь, ды вы забылі...

— Чаму — забыў? Я так спытаў пра гады... Многія паўтараюць, звычка, ці што: сталасць не адnымі гадамі вымяраецца... А правільней — не столькі гадамі. Чаму на вайне чалавек сталее не па гадах? Бо многа перабачыць усяго, перадумае, перажыве! Другому і сотай часткі хопіць — на ўсё жыццё! Пры іншых умовах, мірных...

— А тым, ці можа чалавек прымусіць сябе не думаць пра нешта, не перажываць, ці можа трымаць сябе ў руках — хіба гэтым не вымяраецца сталасць?

— Брава-бравісіма! Толькі гэта, Анютка, крыху з другой оперы... Па-мойму — больш ад загартоўкі характару, выхавання пачуццяў і волі залежыць.

— А я не магу сябе перавыхаваць. Я палахліўка, румза і размазня...

— Ну, не карай сябе так ліха... Падолець у сабе страх, палезці зноў у канаву, падабрацца к мосту — трэба мець волю... Дзе тут фляга была? Памачыць сухар...

— Во... Чакайце, я ваду змяню... Нагрэлася ўжо.

— Што — можа, сонца паказалася?

— Не, няма... Смуга нейкая шэрая, усё неба зацягнула. А на ім цямнейшыя воблачкі праступаюць.

— Не распагодзіцца... Збярэцца, мабыць, на дождж. Але ж раса была!

— І ёсць, толькі невялікая. Тыя раніцы — хоць прыгаршчамі грабі. А сёння — не... Нам трэба далей адысці... Цімох Андрэевіч... Пачнецца на шашы вялікі рух, то...— даносся трохі здалёк голас Анюты.

— Я хацеў табе гэта самае сказаць. Раз варыянт «мост» адпаў канчаткова, то трэба падацца вышэй. Ты правільна надумала.

— Во... Свяжэйшая...

— Слухай, а ў цябе там нічога больш у сумцы не завалялася?

— Яды? Не-а... Сухар гэты выпадкова застаўся... Усе думалі, што да снедання вернемся ў лагер.

— Раздражніш толькі апетыт...

— А вы кажаце, што я не дурніца... Схрумстала свой! А трэба было вам аддаць. Вы столькі крыві страцілі.

— Ну, што ты! Гэта я так... Засмактала ад успамінаў пра лагер... Ну, глядзі, каб нічога не забылі. І аўтамат гані сюды — дала ты яму дыхту... Ага, а пісталет дзе?

— Пісталет?.. Тут во, у шлеме...

— Не згубі. Хай пабудзе ў цябе пакуль што...

Анюта ўзяла Мікульскага пад руку, і яны паволі пайшлі ўзбярэжжам. Каб не такое незвычайнае іх убранне, каб не зняможаны выгляд, не аўтамат у руцэ Мікульскага, можна было б падумаць — прагульваецца закаханая пара. І яму самому нечакана падумалася, што гэта яго «падчапіла» Макарэвічава Валька. Valio — як смехам называў ён гэту круцёлку з хлапечымі замашкамі.

Час ад часу спыняліся, і Анюта, пусціўшы Мікульскага, знімала з кустоў навіслае сена, сухі плюшнік

і аер. Напрыганяла, начапляла паводка... Анюта камячыла гэта ў жмут, падсоўвала сабе пад руку і зноў вяла Мікульскага. Груд то пераходзіў у поплаў і ўзбалатак з асакой, хвашчом і трысцём, то зноў пад нагамі пераставала цмокаць, рабілася сушэй. Кожны раз, як ісці рабілася цяжэй, Мікульскі прапускаў Анюту ўперад, браўся за яе плячо...

* * *

Яго і вусач тады вывеў з карцэра пад руку. Ногі ў Мікульскага нібы паралізавала, перастаўляў іх, падцягваючы і адстаўляючы ў бакі, як пратэзныя. Збалелыя лёгкія не адчувалі, што паветра стала ўжо чыстае. У грудзях гарэла, смылела, не разляпіць было губ...

Так дацягнуліся да канца падвальнага калідора, другога канца, не таго, у якім была камера допыту. Тут была лесвіца наверх. Трэба было адолець два пралёты, васемнаццаць прыступак. А тады ісці да сярэдзіны будынка, дзе выхад на двор. Не адразу на двор — вестыбюль ад калідора адгароджаны дашчанай перагародкай з шырокім, на ўсю перагародку, невысокім акном. Пасярэдзіне перагародкі дзверы, пры іх стол і крэсла вартавога-дзяжурнага. За дзвярыма ў перагародцы, Мікульскі добра ўспомніў, яшчэ два разы па тры прыступкі ўніз — у вестыбюлі і на ганку.

Яшчэ на тых двух пралётах лесвіцы з падвала Мікульскі чуў, што ногі перастаюць быць чужымі, пачынаюць ажываць — іх «точаць мурашкі», у лыткі ўпіваюцца тысячы іголак, а косці дрынкліва, нібы расколатыя, гудуць і дрыжаць.

Вусач правёў яго толькі да стала дзяжурнага. Акрамя дзяжурнага пры выхадзе стаялі яшчэ Зелянеўскі і салдат-ахоўнік, які павінен быў суправаджаць Мікульскага. Пакуль падыходзілі, Зелянеўскі глядзеў на яго ўпрышчур, выпнуўшы ніжнюю губу.

— Вось твая дзяга...— сунуў яму начальнік турмы замест яго добрага рэменя кавалак аборкі.— Вось пропуск...— кінуў паперку дзяжурнаму.— Вось на яго дакумент...— падаў канваіру.— І нех бэндзе, як бэндзяло, нех смердзі, як смердзяло.

— А тытунь? — пранізаў яго пагардлівым позіркам — на гэта толькі і засталося сілы — Мікульскі.

— Які тытунь? — прыкінуўся дурнем Зелянеўскі.

— Той, што забраў, як садзіў восем дзён назад.

— Ах, той! Няма, і дым развеяўся... Кісет бяры... Кісет бальшавіцкі мне не трэба,— дастаў ён з кішэні згорнуты трубкай і абмотаны шнурком бліскучы шаўковы мяшэчак з вышытай чырвонай зоркай.— Ведаеш, даўно я гродзенскай махоркі не курыў... Добрая была махорка, царства ёй нябеснае... Ты сам не гродзенскі? Мы хлапчукамі ўсё пыл тытунёвы збіралі пад вентылятарам фабрыкі. Навіснуць рудыя камякі, як снегу начапляецца мокрага — і бух!.. Прадавалі мы той пыл нюхальшчыкам. І курыць спрабавалі, змешвалі з тырсаю... Не той смак, а дым ішоў, уга!

— Падлюга ж ты...— абарваў яго балбатню Мікульскі.— Апошняе, што было, і тое выдраў.

— Н-ну-о, н-ну-о! Пагаворы тут... Курэц знайшоўся... На тым свеце не спатрэбіцца.

Канваір яго не павядзе пад руку, гэта не вусач. Такіх дахадзяг, як ён, на маршы проста прыстрэльвалі. Трэба, значыць, самому пераадолець апошнія дзесяткі крокаў...

Падвязваў аборкаю штаны доўга, выгадваючы час, абдумваючы словы Зелянеўскага. «Значыць, расстрэл такі... Гады, маглі ж адразу хлопнуць — і ўсё па ўсім. Дык не — спачатку духі па кроплі выціснуць, скалечаць...»

— Шнэль! — падагнаў канваір, паказаў карабінам на выхад.

Мікульскі таўхануў кулаком дзверы, прытрымаўшыся рукою за вушак... Тры прыступкі тут... і тры на ганку... Не ўгору, а ўніз. І не лягчэй па іх ступаць, калі яны — крокі да твайго канца, калі з ног спадаюць непаслухмяныя дзеравяшкі...

Але чамусьці не было на двары машыны — ні газэнвагена, ні звычайнай пад расфарбаваным у плямы брызентам. Значыць, не павязуць яго нікуды. Тут будуць канчаць. Завядуць да рова з трупамі — кулец! На вачах у вязняў, у павучанне іншым... Там тысячы ляжаць ужо — рад на радзе. А роў усё прадоўжваюць і прадоўжваюць. Нядаўна пракапалі паралельна яшчэ два — глыбейшыя, чым супрацьтанкавыя. Нічога не зменіцца, калі да тых тысяч дабавіцца яшчэ і яго труп... Ці тры трупы — і Тонькі яшчэ, і Васіля. На апель-пляцы вунь ужо нейкі рух, мнагалюддзе... Ці не зганяюць гледачоў?

Ён ішоў, кашляў ад свежага, едкага ў сваёй свежасці паветра і амаль не хістаўся. А мо яму здавалася, што не хістаўся?

Самае небяспечнае месца для Мікульскага было, калі міналі нямецкую казарму. Ад смачных пахаў, што шыбанулі ў нос з кухні, закружылася галава, зарэзала ў жываце, і ён паспеў аперціся аб сцяну, каб устояць. Ішоў далей, перабіраючы па сцяне рукамі, ішоў сам, хоць здавалася, што зямля зыбаецца, хоча ўцячы з-пад ног, становіцца як не дыбара — нібы ў час тае бамбёжкі на аўсяным полі.

Колькі дзён прайшло, а ліпы адцвілі падчыстую. Чашалісцікаў, тычынак і песцікаў нацерушылася ў траву, ляжыць паўз краі дарожкі столькі, што хоць далонямі згрэбай. Акурат як гродзенская махорка!..

Зноў камендатура...

Толькі расчыніліся дзверы, як убачыў Тоньку і Васіля. Яны стаялі перад камендантавым сталом і зразу азірнуліся на скрып: твары пасвятлелі з радасці, хоць былі зарослыя, як у катаржнікаў. Пакуль Мікульскі дашкандыбаў, каб стаць побач з імі, глядзеў толькі на іх — змарнелыя, але, здаецца, без слядоў катаванняў.

Усё ў кабінеце было тое ж самае, як і ў ноч арышту. Толькі блок-фюрэраў няма каля вокнаў, а камендант за сваім сталом.

— А-а, прашу, прашу... Біттэ! — нібы зарадаваўся і мардаты афіцэр. Ён стаяў побач з камендантам, упёршыся кулакамі ў стол, абмацваў усіх позіркам.

Мікульскі, як стаў побач з Васілём, адразу намацаў за спінаю Шыпняка яго рукі. І Васілёвы адразу горача, сутаргава ціснулі яго. А далей трымаліся так: за скалечаную — Мікульскі, за другую — Тоня. Усе ўтрох шчыльна прытуліліся плечукамі адзін да аднаго. І ад таго, што ён стаіць нібы ў страі і адчувае плячо сябра, Мікульскі на імгненне адчуў сябе як не шчаслівым.

Пачаў гаварыць камендант. Пакручваючы попельніцу, як ваўчок: гр-гр-гр... Паволі гаварыў камендант і ціха, нібы стомлена, затое мардаты перакладаў яго словы з халодным пафасам.

— Наш фюрэр вучыць не толькі дабівацца перамог у славу найвялікшай германскай нацыі ва ўсіх краінах, на ўсіх франтах... Наш фюрэр вучыць паважаць сапраўдных салдат, вучыць быць велікадушным да пе-

раможанага праціўніка. У гонар нашых выдатных сёлетніх перамог мы даруем вам жыццё... Мы даём вам магчымасць аценіць нашу... як гэта... душэўную высакароднасць... Вы будзеце адпраўлены на работу ў райх...

Паспрабаваў сказаць па-руску камендант:

— Сейчас вы хадзіль па сваіх блоках... Будет дзелаць для блок-фюрэр даклад: усё ёсць благополючно. Будзет собіраць свой хаб унд гут — барахлішка. Потом камісія, многа ўрачы будзет пасматрэць здароф'е.

Не, рана ім яшчэ паміраць! Ім яшчэ столькі ўсяго трэба зрабіць, за столькі людзей адпомсціць.

Мікульскі ішоў да блока сам. Хлопцам дазволіў адно злёгку страхаваць сябе з бакоў. Спыняўся праз пяць, праз дзесяць крокаў, спыняліся і яны, выстаўлялі да яго рукі — каб не ўпаў! Нібы бацькі сачылі за першымі крокамі дзіцяці. Пры выхадзе з двара камендатуры стаяў у брамцы салдат-вартавы. Ён правёў за імі вытрашчанымі вачыма — зусім не арыйскімі, нейкімі цёмнымі, вераб'інымі.

Ля сцяны першага блока-казармы пад камандаю капо палонныя стаўлялі сталы. Паасобку, але ўпобачкі. Тры сталы... Ад лагерных варот да іх набліжалася група афіцэраў. Сярод іх былі людзі ў белых халатах, і не пазнаць — у цывільным яны ці ў мундзірах.

## 4

Моташна, аднастайна выстукваюць колы вагона. Нібы выгаворваюць: «На за-хад! На за-хад! На за-хад!»

Цесната і задуха яшчэ горшыя, чым тады, як ехалі з Шапятоўкі ў Востраў-Камарова.

Вагон меншы, нейкі гібрыд паміж таварным і пасажырскім, з прычэпленымі знадворку лаўкамі ўздоўж сцен. А напхалі палонных больш. Тады, здаецца, у іх вагоне памерла два чалавекі, цяпер не праехалі і трыццаці кіламетраў — чацвёра. Уяўляліся ж яны мацакамі, урачы адбіралі прыдзірліва: слухалі сэрца і лёгкія, мацалі суставы, заглядвалі ў зубы і ў вочы, правяралі скуру...

— Колькі кіламетраў да Віслы, хто ведае? — то ў аднаго, то ў другога пытаў Мікульскі.

Ніхто не ведаў, гаварылі па-рознаму: і сто, і пяцьдзесят. А хто і сарака не даваў.

Мікульскі разумеў — трэба выбрацца з вагона да

Віслы. Паспрабуй потым перабярыся цераз такую раку!..

Былі ў гэтым вагоне і Тоня з Васілём. А каб крыху, то і раздзялілі б. Ішлі на станцыю доўгай, шчыльна збітай, ледзь насамі да патыліц пярэдніх не даставалі, калонай. Па чатыры ў рад... Аўтаматчыкі трымалі зброю напагатове.

На станцыі калону раздзялілі на чатыры калоны па аднаму. Кожную накіравалі ў асобны вагон, нібы распускалі вяроўку на столкі. Ішлі побач, іх павінны былі рассадзіць у тры розныя вагоны. Мікульскі імгненна ацаніў абстаноўку: на яго і Тоньчыным вагонах — рашоткі, на Васілёвым — калючы дрот! «Сюды!» — тузануў за рукаў Тоню і стаў за Васілём. Канваіры не заўважылі ператасоўкі...

Шнуркі людзей уцягваліся ў вагоны хутка. Клёк! Клёк! Клёк! — грукалі дзеравяшкі. Раслі каля дзвярэй горы драўляных чаўнакоў. Абутак адбіралі...

«У-ця-каць!.. У-ця-каць!» — настойліва ўгаворвалі колы вагона. «Не спі-це! Не спі-це! Не спі-це!» — свістаў за акном вецер.

У іх трох намеры ясныя, яны заадно. І спосаб той самы, які ўжо Мікульскі спрабаваў у Шапятоўцы. А тады знімуць закрутку з дзвярэй, насцеж іх — «Разбягайцеся, хто хоча!».

Ці многа захоча ўцякаць? Гэта не абы-якое пытанне... Каб не атрымалася так, як па дарозе ў Востраў-Камарова,— не ўцяглі за ногі назад. Палезлі па вагоне, не зважаючы на лаянку, штурханіну ў адказ, наступаючы на ногі, працуючы локцямі. «Хто... Хто хоча ўцякаць? Падрыхтуйцеся, збярыцеся з сілаю...»

Ахвотнікі знайшліся, але многія і не адважваліся. Страх глушыў у людзей розум — ці ўдасца выбрацца з вагона? Ці ўдасца дайсці да сваіх? Гэта ж не прагулянка, будзеш прабірацца па варожым тыле... А як зноў трапіш у іх лапы? Ды пачнуць катаваць?..

Тыя ж, хто намерыўся, збіліся ў кучку бліжэй да акна. Дрот ламаў Васіль, ён быў здаравейшы з іх тройкі. Памацаў праз колькі мінут Мікульскі яго рукі — ліпкія ад крыві. «Адпачні, недагрызены!» — адхіліў яго, пачаў сам. Важна было мець не толькі сілы, але і вопыт.

З бакоў і зверху драты паадгінаў да сцяны, знізу —

паадкручваў, пазнімаў кавалкі з цвікоў і выкінуў за акно...

Ах, які ён яшчэ слабы! Як усё дрыжыць у ім ад напружання, залівае пот вочы...

Добра, што пагналі іх на камісію не ў той самы дзень, як выпусцілі з турмы. За суткі і выспаўся, і крыху адпачыў. Яму збіралі крошкі хлеба з усяго блока. Размочвалі ў вадзе і давалі жыжку праз гадзіну, праз дзве, як толькі маглі дабудзіцца. Сусед стараўся, што скуб жменямі сваю галаву. Той краматорскі токар меў нейкі блат у рэвіры, лазарэце, выпрасіў у знаёмага ўрача дзве галеты і грудачку самага сапраўднага маргарыну. Растаўклі тыя галеты, размачылі ў вадзе, заправілі маргарынам. Ежа багоў!.. Спажыў у два прыёмы, нанач, а пустую міску тут жа выхапілі з рук, каб вылізаць — мо дзе засталася хоць крошка?

«Хут-чэй жа вы! Хут-чэй жа вы!» — Змяніўся рытм стуку колаў.

Праўда, што дзіўны ў іх вагон. Тамбуры з аднаго і з другога канца, з дзвярыма ў абодва бакі. Дзверы ёсць і пасярэдзіне бакавін вагона, шырокія, на дзве палавінкі. Ніжэй дзвярэй на ўсю даўжыню вагона лаўкі; над дзвярыма, над акенцамі, што абапал дзвярэй,— жалезны прэнт. Трымацца, мабыць...

Лезлі не так, як Мікульскі тады. Адмоўны вопыт дае большую карысць, чым дадатны. Падымалі чарговага чалавека, як бервяно, соўгалі галавою ўперад тварам дагары. Чалавек адразу хапаўся за прэнт над акенцам. Хто выбраўся, выстройваўся на лаўцы, прыціскаліся да боку вагона. На тамбурнай пляцоўцы з аднаго канца вагона не было вартавога, не было і ў пярэднім вагоне.

Ужо стоячы на лаўцы, убачылі, што бакавыя дзверы закручаны тоўстым стальным дротам. Тоўсты дрот, ледзь не з аловак, і прасунуты ў прабоі, што на краях створак, канцы скручаны, як канат. Спрабавалі адкруціць дрот, і адной рукою, і дзвюма, трымаючыся толькі за гэты скручаны кончык, рызыкуючы сарвацца і паляцець уніз патыліцаю. Не мог даць рады нават самы здаравейшы...

Пакуль важдаліся з гэтым дротам, колы вагонаў нечакана застукалі на стрэлках, цягнік стаў прыцішаць бег.

Станцыя!.. Ніхто так хутка яе не чакаў...

— Саскоквай! Быстра! — гучна прашаптаў Мікульскі.

Пасыпаліся, пакаціліся пад адхон людзі.

— Ну!!! — прыкрыкнуў Мікульскі на аднаго палахліўца. Той і сам не скакаў, і другім замінаў прабірацца ў пачатак вагона: скакаць трэба было толькі там, каб не бачыў вартавы з задняй пляцоўкі.

Небараку Тоньку не пашанцавала: трапіў жыватом на рэйку-слупок... Тырчаў узбоч пуцей абрубак рэйкі з намаляванымі на белым крузе чорнымі лічбамі «32». Тоня і завіс на ім, як жук на шпільцы. У Мікульскага заняло дых ад болю, здалося, нібы яго самога працяла тая рэйка наскрозь...

Васіль скокнуў, здаецца, удала. А вось сам ён, пакуль прапусціў усіх, хто выбраўся, скінуўся ўжо на станцыі. Цягнік і ходу прыцішыў, а махнула яго ўперад так, што ледзь не адарвалася галава, ляснулі зубы. Ударыўся грудзьмі аб бетонны перон, на імгненне страціў прытомнасць...

Аббег перон з канца, ён толькі пачынаўся, пераскокваў рэйкі запасных пуцей, ламануў за штабель шпал, адтуль — за кусты-прысады елак і амерыканскага клёна... А на станцыі пачуліся крыкі, бабахнуў стрэл — мусіць, нешта заўважылі, падымалі трывогу. Але цягнік не думаў спыняцца, толькі крыху прыцішыў бег. На шчасце, і ніхто з канвою не тузануў ручку стоп-крана.

Убіўся Мікульскі ў загон бульбы. Сям-там на больщых кустах бялелі ўжо кветкі. З цяўніку падалі на босыя ногі буйныя кроплі расы — халоднае, намнога халаднейшай, чым зямля, што ліпла да ног. На ўсходзе ўжо святлела неба, і на яго фоне мільгнулі дзве пастаці ўцекачоў. Мікульскі яшчэ крыху прабег разораю і ўблытаўся ў цяўнік, без сілы ўпаў у міжраддзе, крышачы крохкія, сакаўныя сцяблiны. Канец! Сэрца разрывалася, лёгкія адмаўляліся ўдыхаць паветра, грудзі ўстрэсала бязладна і сутаргава. Адкашляўшыся, хацеў свіснуць тым двум, але губы не слухаліся, лёгкія былі пустыя, без паветра. Урэшце слаба свіснуў, і постаці, угнуўшыся, падаліся да яго...

Пакуль чакаў тых, пальцы паспешліва разрывалі зямлю пад адным кустом, пад другім... Ёсць ужо клубянькі — як жалуды... Цярнуў аб сябе, пакідаў у рот.

Язык злёгку зашчымеў ад церпкага, вязкага соку, затрашчаў на зубах пясок.

Падышлі Шыпняк і незнаёмы палонны. Здаецца, той малы, што баяўся скакаць з падножкі.

— Каго яшчэ бачылі? Дзе астатнія? — сустрэў іх пытаннем Мікульскі.

— Нікога... Розбіглыся хто куды...— Васіль прысеў побач.

— Кепска, што не паспелі дамовіцца.

— А нашто домовлятыся? Токою юрбой й нэ пройдэш. Зразу зловляць... Найкрашчэ па аднаму ці дрыбнымі групкамы. Вам поміч трэба?

— Не... Мо сам як...

— То побіглы!.. Нам цількі б Антаніна найты...

— Не знойдзем... Яму ўжо ўсё роўна.

— Ш... Шчо?!

— Я апошні саскочыў. Бачыў — забіўся Тоня, на рэйку напароўся.

Васіль схапіўся за вочы, глуха застагнаў.

— Ну, уставайма...

Хутка бульбяны загон скончыўся. Лужок, у ногі закалола пакоша... У прыцемку бялеюць укарэлыя, прыплюснутыя копкі ўчарнелага сена. І касілі, відаць, тут позна, і сена не ўправіліся забраць — штосьці перашкодзіла.

Кіравалі проста на ўсход, дзе ўжо прасочвалася з-за берага зямлі чырвань. Ішлі паспешлівым крокам. Потым хаду давялося запаволіць — адставаў Мікульскі: не было сілы, як ён ні прымушаў сябе ісці. Пальцы на нагах пападколваліся, і кожны раз, калі трапляў у ранку новы ўкол, ногі самі падкошваліся ў каленях і ажно рабілася горача. Кульгаў, хоць і крочыў бадзёра, Шыпняк.

Дапалі да звілістага і вузкага ручая, разам панагіналіся ўхапіць вады. Мікульскі чуў, як па страваводзе каціліся тугія халодныя шарыкі вады, як ледзянілі яны пусты страўнік.

— Нам трэба збіваты слід... Шчоб вівчаркі нэ взялы...— Васіль кідаў у твар прыгаршчамі ваду.

— А што — з аўчаркамі будуць гнацца? — азваўся ўрэшце трэці спадарожнік. Голас яго палахліва ўздрыгнуў.

— Пакажы яму, Васіль, рукі. Не ўбачыць добра, то хай абмацае...

Васіль выставіў куксаватую, і незнаёмы са страхам утаропіўся ў яе.

Між алешын курыўся, нібы датлявалі нябачныя вогнішчы, туман. Брылі ручаём па калена, а то і па пояс у вадзе. Асвойтаўшыся, вада ўжо не здавалася такою халоднаю. Ногі амаль не грузлі, пясчанае дно было цупкае і спружыніла. Часам траплялі пад ногі слізкія камякі і карчы з вострымі патырчакамі, і трэба было асцерагацца, каб не прасадзіць нагу. Ішоў першы Васіль, за ім Мікульскі, апошні — навічок. Ішлі доўга моўчкі, потым Васіль прапусціў Мікульскага ўперад і, як бы працягваючы гаворку, паказаў незнаёмаму на свае сцёгны, локці, азадак.

— І тут, і тут, і тут порвалы... Іх спецыяльна трэніруюць на людыну кідацца, яны ведаюць, дзе хапаць. За гарляк! Крутывся, як вуж, а воны рвалы...

Праплюхалі вадою яшчэ метраў сто і выбраліся на пакошу, на другі бераг. Першы ішоў ужо той малы палонны. Праз некалькі дзесяткаў метраў пачалася няскошаная трава, і той палез цераз яе напрасткі да лесу.

— Стой! — вярнуў яго Мікульскі.— Раса вялікая, здалёк сцежку заўважаць.

Незнаёмы сышоў з някошанага, павёў рэй паўз траву, па пакошы, хоць гэта мала набліжала да лесу.

Зноў калола пад пальцы, і Мікульскі кволіўся, адставаў усё больш і больш. Ледзьве ішоў і Васіль.

Лес то праступаў з туману цёмнаю сцяною, то яго затушоўваў туман, то зноў праступаў, вабіў да сябе. Хутчэй бы туды! Хутчэй адолець гэтую адкрытую прастору! А там можна і прыцішыць тэмп, можна адсапнуцца. Гэта ўжо будзе кіламетры чатыры-пяць ад станцыі.

Душыла задышка, хворыя лёгкія не спраўляліся пастаўляць арганізму кісларод. Зноў пачаўся кашаль, часам адхарквалася з кроўю. Мікульскі адчуваў, што вось-вось упадзе — каб не ўстаць. І так невядома, з якіх засекаў знясіленага ўшчэнт арганізма выскрэбваў ён рэшткі сілы. Мусіць, перастаўляў ногі як не з гарачкі, і гэты нетрывалы «порах» ужо выходзіў.

Навічок, прыціснуўшы да бакоў локці, шыбаваў ледзь не бягом — ужо цераз траву, напрасткі да лесу, і Мікульскі больш не крычаў: няхай!.. Можна ўжо... А сам спыніўся, хістаючыся, прыцісНуўшы далоні да грудзей.

Васіль узяў Мікульскага пад руку.

— Не трэба... Ты сам кульгаеш...

— А-а... дрыбніца... Расцяжэнне, мабыць. Нэ пэршы раз! — і не выпусціў яго рукі, павалок ледзь не сілком уперад.

Лес сустрэў маўкліва і змрочна. Пад шатамі ялін-старадрэвін было яшчэ зусім цёмна. Але вочы хутка абвыклі, і можна было заўважыць, што дол засланы пластам рыжай ігліцы. Ніякая трава не расла, толькі зрэдзь тырчалі з шыгульніку не то грыбы, не то нейкія храбусткія, сакаўныя храсткі — светла-жоўтыя, з размохранымі кончыкамі. Прарэзліва ўскрыкнуў, мільгануў у галінах дзяцел. Як заведзеная, пачала моцна папіскваць, свістаць, як хлапчук на пішчалцы з аеру, нейкая пташка.

Многа было е́лак-вываратняў — мабыць, папрацавала бура: дыбара тырчалі высозныя, у рост чалавека, земляныя пліты, пераплеценыя каранямі. Потым ельнік памаладзеў і пагусцеў, усохлыя ніжнія галіны тырчалі, як пікі, перапляліся між сабою, прабрацца праз іх не змаглі. Забралі правей і ішлі, аж пакуль не скончылася гушчэча, не пачаўся змешаны лес. Густая, у рост чалавека, папараць, палянкі з зараснікам маліны і крапівы, скрыпеню. На адным прагалку, зарослым густою травою, стаяў ракам той, трэці палонны, і хапатліва шарыў каля сябе рукамі, паспешліва кідаў штосьці ў рот.

— Відпачнэм...— сказаў Васіль і ўпаў каля высокага яловага пня, выгаралага з сярэдзіны.

— Хлопцы, рана... Хоць бы яшчэ з кіламетр углыбіцца...— сказаў Мікульскі, але тут жа зваліўся і сам.

Уся паляна, як згледзець вокам, была ўсыпана перапелымі суніцамі, у траве — буйныя, па напарстку.

Забылі пра час, пра ўсё на свеце. Поўзалі па траве, выбіраючы суніцы аберуч, хапаючы нават ротам, зарываючыся тварам у халодную, мокрую траву. Ягады раставалі на языку, хмелячы духмянасцю, нечуванай смакатою, як чарадзейным бальзамам, лагодзячы збалелыя ад галадухі страўнікі...

Нібы трапілі яны ў казку, жывую казку... Воля!.. Лес!.. І самыя смачныя ягады, якія толькі можа прыдумаць фантазія...

Мікульскі дапоўз да сеткі-павуціны, распятай паміж елачкай і бярэзінкай. Яна была ўсыпана тысяча-

мі драбнюсенькіх кропелек, і кожная кропелька жыла, блішчала... Не хапіла адвагі парушыць гэтую прыгажосць. Упаў дагары, раскінуўшы як мага шырэй рукі ў казытліва-халодную траву, прыплюшчыў вочы...

— Божа, як у нас у ярах...— стагнаў дзесьці побач Васіль, таксама лежачы ў траве, але не перастаючы цмокаць.

— Не — якраз як у нас, пад Мінскам...

— Што ў вас за лес! Смех... От наша пушча — гэта лес...— азваўся малы палонны. Ён усё яшчэ поўзаў і чаўкаў. Твар яго можна было ўжо добра разгледзець: нібы завостраны, у буйных плямах рабаціння... Не, не рабацінне ў яго — пелагра. Ёсць такая хвароба, скура робіцца, як геаграфічная карта...

Мікульскі насіліўся і сеў.

— А ты адкуль будзеш? Завуць — як?

— Антак... З-пад Белавежы... Мястэчка тут ёсць непадалёку, па гэты бок граніцы, у Польшчы.

— Антон, ці што?

— Хай будзе Антон.

— Паляк?

— Мы беларусы, але католікі.

— Антак з Маняй жылі ў згодзе, збудавалі дом на лёдзе... Гэта не пра цябе?

— Не-а...— адказаў усур'ёз.

— Паставім кропкі над «і». Мы з Васілём будзем на фронт прабірацца. А ў цябе якія намеры?

— Фронт?! Дык немец жа Маскву забраў! Дзе той фронт!

— Гітлер тобі доклад робыв, шчо забрав Москву?

— Не ведаю, куды я...— адвярнуў твар Антак.— У мяне яшчэ замарачэнне ў галаве: так ніўзапна ўсяго нарабілася... Хіба я ўчора мог сніць, што буду тут пазёмкі есці? Што па лузе прабягу, па лесе? Сп'янеў я ад усяго...

— Та-а-ак... Можа закружыцца галава, можа... Ахвотна верым у гэта... Але і цверазець пара. П'янаму часам не тое здаецца, п'яны можа і такога нарабіць, чаго і сам не хоча...— Мікульскі сарваў чысты, падобны на капыт лісток, сівы і мякенькі спадыспаду, як замшавы, асцярожна працёр пад пальцамі ног праколы.

— А мо і на Урале ўжо немец... А ў нас ціха, можна жыць.

— Як зважаты на цю брахню, то й жыты нэ трэба.
— Так, лёгка ў гэтай катавасіі згубіць галаву...
— Не проста ўсё... От ты лісток сарваў... Адненькі лісток, а і тут загадка: адзін бачок у яго мякенькі, цёплы, другі халодны. Падбел, маці-мачыха, па-вашаму... Як да каго якім бокам прыхінешся... Халодным — то і да цябе будуць холадна.
— Бач ты які, зубр белавежскі...— нахмурыў бровы Мікульскі.— Чаго ж ты не пайшоў услугоўваць немцам яшчэ ў лагеры? Яны шукалі гэтакіх «лаяльных»...
— Я ім не слуга... Я сам па сабе...— Антак вышчоўкваў сцяблінкі метлюку, аджоўваў светла-зялёныя сакаўныя кончыкі.
— Дрымучы філосаф...— Васіль устаў і адразу охнуў, ухапіўся за бярозку. Каля костачкі нага выпухла, пасінела. Было такое некалі і ў Мікульскага: скакаў на фізкультуры цераз «каня» і няўдала прызямліўся. Тады яму нагу туга ўбінтавалі, вызвалілі на некалькі дзён ад заняткаў, сказалі ляжаць, не вярэдзіць. Спадала пухліна і сінюха марудна, а балела больш за месяц.
Цяпер жа ім трэба ісці, цяпер не было чым бінтаваць, і Васіль зламаў бярозку, абарваў вецце. Ішоў, скрыгочучы зубамі, апіраючыся на кіёк. І папіхаўся гэтым кіем, і спрабаваў скакаць на адной назе — часценька, высока, як заяц у густой сырадэлі ці канюшыне. І зноў ішоў, аддыхваючыся, змахваючы з ілба буйныя кроплі поту.
— А як ты ў палоне апынуўся? — гучна спытаў Мікульскі.— Антак мог не пачуць, ішоў уперадзе далекавата.
— Я ў польскай арміі быў. У трыццаць дзевятым здаўся, страляць не было чым.
— Каму здаўся?
— Вы падумалі — немцам? Вашым... А вашы пусцілі дадому. А перад вайною незадоўга мабілізавалі ў Чырвоную Армію...
— «Вашы»... «Нашы»...— нездаволена прабурчаў Шыпняк.
Выбіліся на сцежку. Яна вяла на паўночны ўсход, якраз насупроць сонца. Ішлі пад ляшчыннікам, дзе ўвесь дол быў у кратовых капцах, амаль без травы; па палянах, цераз зараснікі высокага, па плячо, малі-

навага скрыпеню. У буйных ружовых мяцёлках-суквеццях ужо зумкалі пчолы. Зноў прабіраліся густым чарналессем, ныралі пад елкі ў лагчынах, па дубровах, па пагорках з бярозавымі і асінавымі гаямі. Праз якія кіламетры тры наперадзе засвятлела вялікая паляна...

Пад дубамі стаялі хата і хлеў, пакрытыя ўчарнелаю дранкаю. Паляна вакол хаты акуратна агароджана, стала дваром, каля свінушніка прыхоплена ў агароджу нават некалькі арэхавых кустоў. Пад імі зямля ўзрыта, настармачана, відаць, лёжбішча свіней.

Прыстоялі за апошнімі кустамі, панаглядалі за сядзібай.

Цішыня...

У правым кутку двара, падалей ад будынкаў — маленькая стрэшка на двух слупах, калаўрот пад ёю — калодзеж. Пасярод двара пад высокім і гонкім, з абцярэбленымі ніжнімі галінамі дубам нешта дзяўбуць з карыта куры.

Хто тут жыве? Сябра ці вораг? Прачнуліся ўжо гаспадары ці яшчэ спяць? Не, мусіць, не спяць, курам жа штосьці кінулі, мо варанае бульбы... От бы заглянуць у тое карытца!

Васіль даўно ўжо апусціўся на дол, а Мікульскі і Антак рашыліся зайсці на двор. Антак адразу павярнуў да калодзежа, мо захацеў вады, а Мікульскі — да ганка. Кіраваў знарок паўз карытца, каб зазірнуць у яго. Але не зрабіў і колькі крокаў, як дзверы рыпнулі і на ганку паказаўся гаспадар. Высокі, відаць, калісь быў брунет, а цяпер пасівеў, у твары нешта каўказскае. У камізэльцы, сівых, з даматканага сукна галіфэ і добрых ботах. Ён не здзівіўся, убачыўшы іх, а адразу прыклаў палец да губ, як змоўшчык.

— Ціха, прошэ... У мяне начуюць гаёвыя... Добрага ранку, панове! — сказаў моцным шэптам і павёў Мікульскага за локаць да Антака.

Той замітусіўся, быццам заспелі на месцы злачынства. Да слупка калаўрота была прывязана вяроўка, канец з нейкім грузам апушчаны ў ваду, і Антак паспеў ужо яго напалову выцягнуць.

— Так, так, прошэ... Там млека... Я тэраз хлеба вынесу...— гаспадар павярнуў да ганка — спакойна, са стрыманай годнасцю.

— Стойце! — гэтак жа моцным шэптам загадаў яму Мікульскі.— Калі што надумаеце, то во — граната...—

паляпаў сабе па адтапыранай кішэні, дзе было некалькі на хаду падабраных грыбоў-чырвонагаловікаў.

— Пано-о-ове! Панове, я не фашыстовец...— прыціснуў далонь да грудзей і гэтак жа спакойна і рашуча падняўся па прыступках.

— Хто такія гаёвыя? — спытаў у Антака Мікульскі, калі хутаранец схаваўся ў сенцах. Антак усё яшчэ камячыў вяроўку, не ведаючы, апускаць груз назад ці даставаць на борт.

— Гаёвыя — леснікі.

Дастаў-такі груз, алюмініевы бідончык, паставіў на зруб калодзежа. Зняў вечка — малака было да беражкоў... Адразу прыхапіўся піць, пырхаючы, захлёбваючыся.

Прыкульгаў з-за варот Васіль, а гаспадар якраз вынес круглы з белым ад мукі сподам пачаты ўжо бохан хлеба, тры алюмініевыя самаробныя конаўкі.

— Адвяжы пасудэк,— сказаў Антаку гаспадар.— Ходзьце тутай...— паказаў на вароты.

Паселі за плотам, пад арэхавым кустом, на рэдкай траўцы. Гаспадар выцяг за ланцужок вялікі складаны нож з крывым лязом, мусіць, садоўніцкі. Прыціснуў да грудзей бохан, адрэзаў тры вялікія лусты. Тут жа разліў па конаўках малако, падаў кожнаму. Усе жэсты яго былі закончана адточаныя, не мітуслівыя, у чалавеку адчувалася нейкая ўнутраная сіла і выхаванне.

— Сконд, панове, ідзеце? — спытаў як бы між іншым, адрэзаў адну скібку запасную.

Мікульскі ўсміхнуўся сам сабе: «Нішто панове... Босыя і абадраныя, скура ды косці...» Нечым брунет выклікаў давер, і Мікульскі хацеў быў сказаць праўду. Але не сказаў.

— Адтуль...— махнуў рукою на захад.— І туды — на ўсход.

І тут жа папытаў, ці не праходзілі тут такія, як яны, сёння?

— Не... Нех вас буг броні... Не заходзьце нігды да гаёвых... Ім загадана такіх, як вы, затшымліваць, перадаваць немцам. А людзі ест усякія... І ўсе маюць зброю. Мне таксама выдалі карабін, я таксама естэм ляснік...

«Забраць бы зброю! — мільганула ў Мікульскага.— Але як ён тады адбрэшацца, дзе падзеў? Могуць замучыць... А чалавек, здаецца, неблагі...»

— Тэраз у вас ест мацунак... Бэндземы робіць так: пойдзеце напшэціў дома во па гэтай сцежцы... Там таке галэ мейсца ест. Вам тшэба схроніцца, спаць...— голас у лесніка быў такі, што не дапускаў спрэчак.— Я адпраўлю гаёвых, а мая гаспося згатуе сняданак... І тады паклічу. Млека можна браць, і хлеб, і нож...— ён адшпіліў ад дзягі ланцужок складанца, падаў Мікульскаму.— Беж, беж, ён вам спатрэбіцца. Бяры, кажу! Вам бардзо лекаж тшэба, але нема... О Езус, така навальніца на цалы свят...

І яны забралі з сабою, што недапілі і недаелі. Знайшлі і тую паляну, пра якую ўталкоўваў ляснік. Але ў апошні міг Антак спалохаўся: знарок сюды паслаў!

— Заснём — пабяруць, як куранят! Тут акружыць лёгка!

Перайшлі на метраў сто ўправа, на невялікі верасовы прагалачак, хоць Мікульскі быў чамусьці ўпэўнены: не падобны ляснік на фашысцкага прыслужніка, хоць і на службе ў іх.

Не спалася: а можа, лепш забраць астаткі малака і хлеба ды ісці далей? Каб не нарабіць якога глупства, затрымаўшыся... Але ж удзень многа і не пройдзеш у такім убранні, нават каб і сілы былі... Ночы трэба чакаць.

Заснуў ён пазней за ўсіх.

І ў сне — уцякаў... Між палаючых хат роднай вёскі, ажно, здавалася, скура лопаецца ад гарачыні, высмальвае вочы. Вось ужо і канчаецца вёска, пажар ззаду, і раптам у вочы б'юць пражэктары, слепяць — як тады ў Шапятоўцы. «Пан! Пан!» — чуе ён нечы агрубелы, хрыплаваты голас і чамусьці перакананы, што гэта — голас маці, а зычачыўся гэты голас ад перажытага, ад вялікай бяды. «Пан!» — трасуць яго за плячо...

Аж падскочыў: здалося ўжо, што гэта не маці, а немцы, як у тым бараку, успорваюць яго з нараў...

Сонца сляпіла вочы, скрозь сасновыя шаты цягнуліся долу залатыя драцінкі промняў.

Ляснік сядзеў побач з Мікульскім, спакойна курыў. Рэзка пазначыліся на яго кашчавым твары насагубныя складкі, большай здалася гарбінка на носе.

— Для чэго вы гэта зрабілі? Мы ест людзі лясныя, кажды сляд, як ксёнжку, чытам...

— Даруйце, мы не хацелі вас пакрыўдзіць...

— Я не мам кшыўды. Можа, і сам на вашым мейсцы зрабіў бы так.

Прачнуўся Васіль.

— Ш-шчо — ужэ? — смачна пазяхнуў ён.— Цількы вочы наламаў...

— Вы спалі...— дастаў ляснік з кішэні камізэлькі гадзіннік, шчоўкнуў вечкам.— Вы спалі тшы... тшы гадзіны. Таке буты з халявамі... Я чакаў тут пулгадзіны... Шкода было будзіць.

Васіль патузаў за вуха Антака. Той прачнуўся і адразу пацягнуўся да бідона, заглянуў — ці асталося ў ім што? Ускінуў яго нагном, пацяклі па барадзе струменьчыкі — закашляўся.

— Ты, жлукта... Разарваць можа ці пранясе з непрывычкі,— зірнуў на яго Мікульскі.

— У мяне страўнік жалезны... Ну во, цяпер можна ісці і падмацавацца.

— Так, так... Чэкам на вас. А то астыла ўсё.— Аднак ляснік яшчэ не ўставаў, а чакаў, калі разварушацца яго няпрошаныя госці.

Хата знутры выдавала пяцісценкай: перашалявана напалам, за перагародку вядуць дзверы з філёнкі. Страшэнна смачна пахла смажаным салам з цыбуляй і верашчакай.

Гаспадыня хутара стаяла пры печы — ненатуральна, як па стойцы смірна, прытуліўшы да сябе рукі. У адной — чапяла, прыціснутая да бока. Вочы яе нейкія бялёсыя, круглыя, як у птушкі. Яна спалохана азірала твар кожнага. Жанчына была ніжэй за лесніка, адзетая ў паўкажушак без рукавоў, нібы ціснуў калядны мароз, а не была сярэдзіна лета. Кожнаму яна не то ківала галавою, не то парывалася пакланіцца. Яна і гаршчок з верашчакай несла на стол, дробненька, па паўступні, соўгаючы нагамі, нібы баялася ступіць на поўны крок. Паставіла пасярод стала, азірнула ўсіх, здавалася, не ведала, што далей рабіць. І гаспадар паказаў у мыцельнік. Гаспадыня патупала туды, за другім разам прынесла лыжкі і чатыры глыбокія талеркі. Паселі за стол яны ўчатырох, адны мужчыны. Гаспадар адразу нарэзаў гару хлеба, сам разліў драўляным апалонікам верашчаку па талерках. Лыжкі былі металічныя, грубаватай работы, але лёгкія.

Ляснік заўважыў, што Мікульскі разглядвае лыжку.

— Сам адліваў... Тут самалёт недалёка спалёны...

Браў пясэк, фармовал, растапліваў бляху і адліваў.

— Наш?

— Самалёт? Так ест... Радзецкі... Лётчыка там пахавалі мы, каля самалёта. Таке буты з халявамі...

Гаспадар еў спаважна і, пакуль жаваў, трымаў лыжку каля рота. Вочы невідушча глядзелі пад гаршчок, у цэнтр стала. Яны ж, палонныя, елі хутка, ледзь не давячыся. Ім здавалася, што нічога на свеце і няма смачнейшага, чым гэтыя свіныя шкуркі з тонкім слоем сала і мяса, скурчаныя, храбусткія, чым гэта густая поліўка з кавалачкамі падсмажанай цыбулі.

— Скажыце, а ў вашым лесе тыгры ёсць? — спытаў Антак гаспадара, сцэджваючы астаткі верашчакі ў лыжку.— Кажуць, немцы ў пушчу тыграў напускалі.

Зарагаталі ўсе, акрамя Антака.

— Ваўкі ёсць... І псы... Вільчуры здзічалыя... Як бо то... Аўчаркі нямецкія... Горш за ваўкоў — на людзей нападаюць.

— А то не дубы смалёны? — Антак перастаў аблізваць лыжку.

— Я хцял бы, жэ бы то была плётка...— ляснік развёў рукамі.

— А чаго ж хадзяюшка з намі нэ снідала? — позна спахапіўся Васіль, скробаючы па дне свае талеркі.

Гаспадар памкнуўся штосьці сказаць, зірнуў паўз-верх галавы нізкага Антака туды, да печы, але не паспеў. Жонка заплюшчыла вочы, часценька заківалася ў бакі, пераступаючы з нагі на нагу: «Ой... Ой...» З кожным кіўком прыгаворвала, як стагнала, усё мацней і на паўтоне вышэй: «Ой! О-ой!! О-ой!!!» І ўжо хісталася ў бакі, як бяроза ў навальніцу, схапіўшыся рукамі за галаву, забыўшы, што ў адной руцэ чапяла.

Ляснік хуценька выскачыў з-за стала, прыабняў старую за плечы, асцярожна адабраў чапялу, кінуў у качарэжнік, павёў у пакой, таўхануўшы каленам дзверы. Мікульскаму відаць было, як ён сцеражліва кладзе яе на абы-як, па-мужчынску засланы жалезны, з завітушкамі ложак.

Cтановішча... Ці сядзець, ці вылазіць з-за стала, дзякаваць? Лыжкі паклалі, але яшчэ не ўставалі. І тут выйшаў гаспадар, асцярожна прычыніў за сабою дзверы.

— Што яна ў цябе — хворая? — заглядаючы ў гаршчок, бесцырымонна спытаў Антак.

— Так ест... Дужа ценжка! Сын застшэлёны пшэз немцув... Забілі швабы...— ён заміргаў часта-часта, левае брыво скокнула ўгору-ўніз.— Прошэ зачэкаць... Прошэ зачэкаць! — падняў папераджальна руку, выйшаў у сенцы.

— Што ж ён не...— паглядзеў Антак на прыпечак, дзе стаяла скаварада з насмажаным салам.

Усе ўжо вылезлі з-за стала і тапталіся пасярод кухні, не ведаючы, што рабіць.

Увайшоў гаспадар. На бохане хлеба прынёс кавалак сала ў крапінках кмену.

— На дарогу...— апусціў ношу на зэдлік.— У вас жа ніц нема... У торбу кладзіце...— зняў са сцяны прадаўгаватую, учарнелую ад старасці скураную сумку на раменьчыку, падобную на паляўнічы ягдташ. І сала, і хлеб запхнуў у сумку сам — як не сілаю. Накрыўка адтапырылася ўгору.

— Можа, у вас колькі запалак знойдзецца! І кавалачак каробкі з серкаю...— папрасіў Мікульскі.— Не ведаем, як вам ужо і дзякаваць... Вы столькі для нас зрабілі...

Ляснік крутнуўся да печы, стаў поркацца ў пячурыцы. Падаў Мікульскаму не карабок, а заклееную ў сініюю паперку драўляную пласцінку, падобную на грэбень, і кожны зубчык быў з налепленай чырвонай серкаю.

І тут рыпнулі дзверы, рыпнулі і расчыніліся павoлі, паволі.

У дзвярным праёме, як устаўленая ў раму, з'явілася леснічыха. Замерла пад іх позіркамі, як перад фотаапаратам. На галаве ўскінуты набакір, як у падгуляўшага панка, капялюш. У правай руцэ на вешалцы, выструганай з крывое палачкі, пакручваўся касцюм — карычневы пінжак і святлейшыя, у буйную рудую клетку, штаны. У левай трымала чорны бліскучы кіёк. Мікульскаму падалося, што леснічыха вельмі старая, як не маці гаспадару. Твар змарнелы, увесь у драбнюткіх маршчынках, вочы бляклыя, нібы патухлі навечна. Павяла гэтымі дзіўнымі, нібы сляпымі вачыма па Васілю, па Мікульскаму, падышла да Цімоха Андрэевіча, моўчкі працягнула яму адзенне.

— Так, так... Адзецься вам тшэба, мо падыдзе...—

гаспадар хуценька забраў з рук жонкі касцюм, сказаў ёй: — Полбуты тэж давай... Гэта нашага сына... Нема для когось хаваць... Бярыце гарнітур, вам пільна тшэба... Зайдзіце да святліцы, скіньце гэту одзеж...

Мікульскі паслухаўся, ступіў быў у дзверы, халадзеючы сэрцам. «О божа... Як трываюць гэтыя людзі жыць на свеце?!» Але насустрач ішла ўжо лесніччыха, у руках — той жа кіёк і туфлі, на галаве ўсё гэтак жа зухавата, па-клоунску ўскінуты капялюш. Паставіла туфлі перад Мікульскім, прыўзнялася на дыбачкі. Ён нахіліў галаву, і яна наклала яму капялюш, сунула ў рукі кіёк. Схіліўшы да аднаго пляча галаву, палюбавалася на яго... І адступіла ўбок, абмінаючы, пакіравала ў кухню. І раптам заспявала:

Йшла цурэчка по лесе,
по лесе,
Под фартуськем цусь несе,
цусь несе.
Кош чэрвоных груш!
Кош чэрвоных груш!..

Ужо з таго пакоя, пераадзяваючыся, Мікульскі бачыў, як ляснік, расставіўшы рукі, загароджвае дзверы ў сенцы, не пускае жонку на двор, і куточак вуснаў яго тузаецца ў нервовым ціку.

Мікульскі прычыніў дзверы... У вочы, у нос пякло, душыла і дзёрла ў грудзях, нібы ён зноў дыхаў хлёркаю, дрыжалі рукі. «Хутчэй адсюль... Самому звар'яцець можна, нагледзеўшыся...»

Касцюм падышоў, капялюш і «паўбуты» былі малыя, а кіёк — без патрэбы. «Нішто сабе панок — босы... Трэба даставаць дзе абутак, бо гэтак не вытнешся на людзі...»

Выйшаў на кухню, і Антак здзіўлена працягнуў:

— О-о-о, пан выглёнда на тысёнцу даляраў... Босы ходзіць, а з пепшам есць... Каб мне гэтакі гарнітур, то я пайшоў бы ўдзень, па дарозе.

— Нэ довго б ты походыв...— зазначыў Шыпняк, прымяраючы туфлі. Падышлі! Адну нагу можна абуваць, а як от быць з другою, з другім «паўбутам»? У кішэню засоўваць? На пояс чапляць?

Ляснік стаяў з жонкаю пры печы, супакойліва гладзіў яе па плячах. А яна ўткнулася яму тварам у грудзі, пераступала з нагі на нагу, нібы пачынала вальсіраваць, і напявала без слоў. Пагладжваў ляснік ёй пле-

чы, а сам невідушча глядзеў на гасцей пачырванелымі, поўнымі слёз вачыма. І не было ўжо ў ім ні той паважнасці, ні самавітасці, з якімі сустракаў іх. Была безабароннасць і бездапаможнасць.

Горача падзякаваў гаспадару, падаўся з хаты... Хутчэй бы дыхнуць лясным паветрам! Бо разравецца, як хлапчук. Мікульскі сам дзівіўся — што з ім стала? Чаму гэтак нечакана размякла сэрца, нібы адпусціліся, разам «здалі» ўсякія тармазы.

— На... Беж, беж! — зняў з ног ляснік самаробныя скураныя тапкі.— Нядобра, пан зусім босы.

Тапкі падышлі, толькі трохі ўпіраліся вялікія пальцы. Мікульскі зноў памкнуўся да паляка — ці руку пацісну́ць, ці абняць гэтага добрага чалавека, але ў таго рукі былі заняты, трымаў жонку і толькі ківаў Мікульскаму: «Прошэ... Прошэ... Таке буты з халявамі...» Маўляў, «добра, добра, чаго там...». І нібы ён у іх прасіў прабачэння.

Пайшлі ўсе.

Следам за імі вывеў на ганак жонку і ляснік. Трымаў яе адною рукою пад локаць, другою махаў — «До відзэння!». І яны махалі гаспадару і гаспадыні і бачылі, як старая зноў закívалася ў бакі, завальсіравала на месцы. Чакалі, што яна вось-вось загалосіць, як тады каля печы, павышаючы кожны наступны ўскрык па тоне — «Ой... Ой!.. О-ой!!!». А яна заспявала:

Ты мне бузе даш,
Я це бузе дам...
Ты мне не выдаш,
Я це не выдам!..

І ўсё парывалася скрануць з месца і лесніка, каб той патанцаваў з ёю...

* * *

— Колькі ты назбірала сена?

Анюта перадала Мікульскаму абярэмак, сабрала з долу тое, што натрусілася, падаткнула яму пад руку.

— Мала... Разоў чатыры-пяць па столькі трэба.

— Капу?

— А што? Глядзі, мо дзе накошанае ёсць.

— Не відаць... Тут мо зроду не касілі — пераблыталася трава са старою...

— Асаку павінны ўжо касіць. Састарэе, то карова не ўесць...

— Хто палезе ў гэтыя нетры? Калі дзе і косяць, то бліжэй да хаты.

— Выпальваць давядзецца... Зімою лепш гэта рабіць, як ударыць галашчокам мароз... Мала цяпер касцоў у вёсках...

— Чакайце... Тут паварот у ракі, на кусты начаплялася ўсякага.

— Мяці пад мятлу... Плюшніку больш бяры, сітніку — яны напоўнены паветрам, лёгкія...

Мікульскі асцярожна прысеў, дзе стаяў. Пад нагамі было суха і тупка, мусіць, грудок. Бераг у ракі павінен тут быць вышэйшы, абрывісты.

— Асцярожней шчамляйся... Боўтнеш у ваду раней часу...

— Я асцярожна... Тут жмукамі вісіць.

Мікульскі паклаў на калені тое, што раней назбірала Анюта, перамацаў. Дзе сырэйшае, вывернуў наверх, расскуб. Мала аеру, сітніку — навобмацак пазнаць можна...

Паляпаў па грудзях кіцеля, па рукавах — сырая адзежка, цяжкая. А ў Анюты пінжак зусім мокры, яна яшчэ два разы акуналася...

Калі напхаць у кіцель і пінжак сена, пацярухі, толку будзе мала, уся пад'ёмная сіла паплаўкоў звядзецца на нішто, растраціцца на само адзенне. А мо якая крыха і ім перападзе? Пакуль праз тканіну пройдзе вада, пакуль змочыць усё сена...

Не, лепш павязаць тугія вязанкі сена. Чым найтужэй... Папругай са штаноў можна вязаць, два паскі ёсць — у процівагазнай сумцы і ў санітарнай... Паадрываць іх, паразрэзваць удоўжкі... «А рэзаць жа няма чым... І зубамі не парвеш...»

Як ён выскачыў на гэтую аперацыю на «жалезцы» без нажа? Насіў увесь час на поясе нямецкі штык-цясак, а на гэты раз вырашыў, што не спатрэбіцца, зняў. Нельга дараваць такую прамашку... Вопытным сябе лічыў, іншых вучыў, як лепш падрыхтавацца ў паход, экіпіраваць сябе. Ужо колькі разоў сёння спатрэбіўся б гэты нож...

— Анюта, нясі. І нарві мне травы... Глядзі, дзе даўжэйшая і больш змешана з леташняю. З яе добра віць вяроўкі.

— З травы — вяроўкі?

— Не бачыла хіба, як з саломы круцяць? Раней авёс жалі, ячмень — уручную... А яны нізкарослыя — чым звяжаш? От і круцілі з жытняй саломы... Наробяць дома вялізны пук перавяслаў і нясуць на яравы палетак... Ты калі-небудзь жала сярпом?

— Адзін раз спрабавала... Тут ужо, у Заходняй... Гаспадыня вучыла, у якой я на кватэры стаяла... Перапужала толькі і яе і сябе: шарах па мезенаму пальцу — скура і павісла. Во, шрам які, абмацаць можна.

— І я жаў. У дзяцінстве, праўда, маці памагаў... Займу палоску і ганю. А падрос, то снапы вазіў, касіў, за жняяркай вязаў... На канікулах... І малаціў, снапы падаваў.

Анюта кінула каля Мікульскага прыплаўнік. Цімох Андрэевіч абмацаў яго.

— Яшчэ хаця б столькі... Падвядзі і мяне да травы, у чатыры рукі будзем ірваць.

— Ой, вы б адпачывалі, набіраліся сілы...

— Набярэшся... Гэта ж не вады з рэчкі: захацеў — зачарпнуў.— Ён нагнуў галаў, і ў пустой вачніцы зноў запульсавала так, што, здаецца, расколвала, ламала на кавалкі чэрап. Мікульскі стаў на калені, потым зноў сеў, пачаў ірваць. «Хаця б не брыкнуцца тут... Трэба што-небудзь гаварыць, гаварыць...»

— Я нават матрацы ткаў з саламяных ці сенных жгутоў-вяровак і партызан навучыў. Гэта яшчэ ў першым партызанскім атрадзе.

— Як гэта?

— Проста, як у два ніты ткуць.

— А як гэта — у два ніты? Я бачыла толькі, як гаспадыня збіраецца ткаць... Але якраз на зімовых канікулах было, дык я дадому ездзіла. Прыехала, а яна наткала ўжо.

— Інтэлігенцыя... Дзе ж ты расла?

— У Гомелі... Я ж вам некалі казала: бацька — машыніст паравоза, маці — фарбавальшчыца на «Гомсельмашы». Мо чулі ці чыталі да вайны пра Сямёна Карпушонка? Грымеў мой бацька да вайны: давёў са сваёй брыгадай сярэднесутачны прабег лакаматыва да 750 кіламетраў. Рэкорд!

— Не чуў, Анечка... Хто якую партыю спяваў у Мінску ў оперным спектаклі, мог бы сказаць. Ніводнай прэм'еры не прапускаў.

— Дзіўна...
— Што?
— Колькі часу ўжо ведаем адно аднаго, як сто гадоў, а такія падрабязнасці даведваемся. А вы раскажыце...
— Пра оперу? Значыць, так. У спектаклі «Кармэн»...
— Не! Як вы матрацы ткалі...
— А-а... Навілі тоўстых вяровак... Дзесяць штук больш чым па два метры. Дзесяць — па тры... Кароткіх многа — па метру. Змацавалі тры калы. Футбольныя вароты бачыла? Два ўбілі, адзін зверху на іх прывязалі. Нізкія, у калена, вароты... Адступілі на два метры і ўвагналі дзесяць колікаў сантыметраў па дванаццаць адзін ад аднаго. Да кожнага кала і да перакладзіны ў «варотах» прывязалі двухметровыя вяроўкі. Палавіна асновы ёсць... Даўжэйшыя, трохметровыя, папрывязвалі ў прамежках паміж двухметровымі, а свабодныя канцы — за палку. Ты слухаеш мяне? Што ты смокчаш?
— Пальцы парэзала... Як брытвай...
— Нá табе... Як маленькая. Не ведаеш дасюль, што такое асака.
— Я сцераглася...
— Глыбока? Доўга будзе кроў ісці... І зажываць доўга... Крата ж мо ведаеш, кулямётчыка? У яго ступня сорак восьмага памеру. Шымшалевіч абяцаў яму боты сшыць, але доўга нешта калодкі стругае — так і вызваленне дачакаецца босы... Ішлі раз цераз балота, дык хлопцы падвучылі: «Знімі штаны, нашто вэдзгаць у твань? Выйдзем на сухое, тады і адзенеш...» Ён і паслухаў... І споднікі зняў! Скрывавіў ногі па самае... не ведаю што... Вызваляў яго Палуян на тры дні ад усяго — хадзіць не мог. Рая Дышаль усё вязалася да Крата: «Знімі штаны, ёдам памажу! Ходзіш, растапырыўшыся». А той і палыхае, як агонь...
— І ў Крата клёпкі не хапае, і ў Райкі... І сёння Іван, бачыла, не ў ботах, а ў лапцях.
— Сёння хоць у штанах... Ах!.. Каб цябе... На нейкія патырчакі ўзбіўся... Чакай, я адсапнуся трохі.
— Лявей бярыцеся.
— Вядзі лепш на сухое... Кажаш, ненармальны гэты Крот... Хто яго ведае! Цыбуліну з кулак — хруп, хруп, кусне два разы — і па ёй. Не зморшчыцца нават.

Асілкі ўсе выдаюць ненармальнымі... Рахманыя ў душы, як дзеці... Ты не бачыла, як ён спіць? Ляжа дагары, закіне рукі да вушэй, сагнуўшы ў локцях... Пацеха — як дзіця... А ў партызаны ведаеш чаму Крот пайшоў?

— Чула крыху... Нявесту паліцай адбіў, ці што...

— Партызан з апошняга «прызыву»... З тых, што ішлі ў лес, калі асабіста ім прыпякала... А з дзеўкай яго так было: прыставаў да яе, заляцаўся адзін бобік. Ну, Крот яму раз прыгразіў, другі — «Не ліпні, не лезь!». А таму начхаць, сілу за сабою чуе... З Хартыніч, з гарнізона, спецыяльна да яе на веласіпедзе ездзіў... да дзеўкі... Праўда, і яна заігрывала з тым паліцаем: абяцаў заступіцца за яе, каб у Германію не забралі... Выйшаў раз Крот па ваду — босы, у адной кашулі... Чуе, хіхікае яго дзеўка, папісквае... Цераз вуліцу іх хаты стаялі, наўкасяк. Ён туды — сядзіць той паліцай на лавачцы, ціскае яго нявесту... Прабач, ну абдымаюцца там, ці што... Іван і ўзяў яго адною рукою пад калені, другою — за карак: ціскануў... А хрыбетнічак слабы ў паліцая быў — хрэп! Абмяк адразу, як мяшок... Дзеўка ў голас! Дык ён яе згамтарыў пад паху і панёс у хату — да яе бацькоў. Нясе і шлёпае па тым месцы, адкуль ногі растуць: «Не гуляй з паліцаем! Не гуляй!» Вярнуўся назад да паліцая, а той і не дыхае. Пагнуў яго веласіпед на калена, закінуў на страху. Карабін схапіў за дула, хацеў джвэгнуць аб дрэва. Раздумаў — пачапіў на плячо і — у лес.

— Збіраць больш сухога?

— Збірай, збірай... Ды будзеш памагаць вязаць.

— Вы не кончылі расказваць...

— Пра Крата? Пра яго на цэлы дзень хопіць анекдотаў.

— Не — як матрацы ткалі.

— Усё сказаў, хіба ты не зразумела? За палку даўшэйшыя вяроўкі то падымалі, то апускалі... Паміж вяроўкамі першай асновы яны заходзілі. А ўпоперак падкладвалі кароткія — уток. Так і перапляталася.

Анюта пацiснула плячыма.

— Не ўцямлю...

— Э-э, ткачыха з цябе... Падыдзі сюды... Сашчапі свае пальцы... Та-а-ак... Як жабяняты рукі... Сярод лета... Не вырывай, давай пахукаю, пагрэю.

— Мне цёпла.

— Ну, добра. Бачыш, пальцы сашчапіліся праз адзін... Так і ў нас перакрыжоўваліся ніткі асновы... А во так... Дай я закладу ўпоперак пальцаў некалькі травінак... От гэтак мы клалі ўточныя вяроўкі... Апускалі ўніз — клалі, падымалі ўгору — клалі...

— А-а-а...

— Бэ, вэ, гэ, дэ...— Мікульскі не пускаў яе далоняў.— Так і праходзілі азбуку ляснога жыцця. Добрыя матрацы атрымліваліся. Яловых лапак наломіш, потым паверсе матрац — пад бокам суха... Шкада, не маглі з сабою насіць тых матрацаў — цяжкія.

Анюце здалося, што Мікульскі даўжэй, чым трэба, затрымаў яе рукі. І сцялася ў камячок — вырвала, пайшла да берага.

Мікульскі сумеўся, хмыкнуў.

Ён не бачыў, як Анюта адчайна шчамлялася, лезла на кусты, здзірала з сучча закарэлыя, выгнутыя дугамі жмені сена. Крыху распраствала іх, каб пакласці на руку, і выпетралыя на сонцы і ветры «пэйсы» трашчалі, курыліся пылам, з некаторых сыпаліся драбнюткія, як грэчка-ядрыца, ракавінкі.

Мікульскі круціў жгут, прыціснуўшы адзін канец яго ботам да зямлі, увіваў траву жменю за жменяй. Калі рукі, уючы, падымаліся да барады, абмотваў той канец, што пад ботам, вакол ступні. Зноў віў, зноў намотваў...

— Таварыш камісар! — азвалася Анюта.

— Угу...

Твар Мікульскага, убачыла яна, скрыўлены ад болю.

— Вы нічога не чуеце?

— Не... А што? Страляюць з моста?

— Гудзе нешта... Цяжка, цяжка... І густа... Не разабраць, у якім баку.

— У мяне ў вушах званы звоняць. Мо на шляху? Мо танкі ідуць? Слухай лепш...

Анюта ўслухоўвалася, круціла галавою, як птушка. Тузанула з галавы шлем, з ягоываліўся, стукнуў па руцэ пісталет. Механічна сунула яго за пазуху ва ўнутраную кішэню пінжака і зноў прыслухалася.

Гуло на ўсходзе, дабіралася да зеніту, узмацняючыся да магутнага, аж но стагнала паветра, рокату-рову, прыціхала на захадзе. А з усходу зноў падымалася хваля — тугая, ажно гняла, уціскала ў зямлю.

— Самалёты!.. Нашы!.. Ляцяць немцаў бамбіць! — закрычала яна.— Нашы, Цімох Андрэевіч! Нашы! Я па гуку пазнала!

— Ціха ты! Немцы блізка... Палічы, колькі самалётаў.

— Не відаць жа! Там недзе, над воблакамі... Нашы! Нашы!!!

— Цішэй, кажу... Я чую трохі... Цяжка нагружаныя...— Мікульскі ссунуў з вуха столкі бінтоў.— Стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі...

— Мо на Берлін!

— На Берлін ці не — не так важна. Значыць, скора фронт пасунецца.

— Вам мо лягчэй стала? Здаецца, весялейшыя...

— Не ведаю, Анюта...

— Я адбягуся, журавін назбіраю. Бачыла на купінах, як ішлі ад канавы.

— Журавіны яшчэ цвітуць, інструктар...

— Леташнія. Вісяць — мякенькія, як капшучкі з сокам. Жалеза многа ў журавінах, кроў робіцца з іх.

— Няма калі забаўляцца...— Мікульскі сціснуў далонямі галаву, мо хацеў спыніць звон у вушах.

— Ой... зноў? — наблізілася да яго Анюта.— Мо вады халоднай даць?

— Не... Пакуль што не трэба... Гудуць яшчэ самалёты?

— Равуць!

— Скора, скора нашы наступаць будуць... Ты куды пасля вызвалення падасіся?

— Не ведаю... У Гомель... Я ж тры гады пра бацькоў ніякай вестачкі не маю.

— А ты ж бы пісьмо напісала сваім. Гомель летась у канцы лістапада вызвалілі.

— Пісала... Ніхто не адгукваецца... І суседзям напісала — маўчаць.

— Вазьмі...— Мікульскі расшпіліў і скінуў кіцель.— Задрай на ўсе гузікі і набі сенам. Туга набі... Эх, каб які мяшок быў сухі, брызянтовы!

— А во — у сумку санітарную... І ў вашу з-пад процівагаза.

— Малыя... Торбачкі...

— Тады і ў мой пінжак або ў спадніцу.

Яна адшпіліла каля шыі шпільку, хуценька зняла сваю брудную і цяжкую апранаху.

— Што ты робіш? Адубееш, ты ж казала, што холадна.

— Я казала, што пацяплела.

— Адзень, пакуль не астыў з сярэдзіны. Мокры, цяжкі, зменшыць плывучасць паплаўка.

Анюта паслухала яго неахвотна. Набівала кіцель сенам, а ў галаву лезла жывасілам: «Як мы паплывём? Я ж па плаванні другое месца пасля сякеры займаю... А ён такі слабы... І не бачыць нічога...» І ў грудзях яе халадзела і халадзела, нібы піла яна крынічную сцюдзёную ваду.

* * *

Анюта і блізка не ўяўляла, які боль ён церпіць нават у такія вось, «зацішныя» хвіліны. Мікульскі часам не чуў самога сябе, часам забываў, пра што гаварыў, і стоена напружваўся, каб успомніць або ўцяміць сэнс слоў, каб не сказаць чаго лішняга...

Калі Анюта хацела пашукаць яму журавін, ён ледзь не расказаў ёй, як з Шыпняком елі грыбы... І спахапіўся: не трэба лішні раз пры ёй называць Васіля... Не трэба вярэдзіць свежую рану. Той шок і здранцвенне часткова ўратавалі яе — ён гэта разумеў. Але такі стан прайшоў ужо, яна ўсё больш ачуньвае... Ачуньвае і, малайчына, бярэ сябе ў рукі. А што з ёю будзе, як застанецца адна і надоўга, калі пачуцці зноў нахлынуць на яе? Вось толькі перабяруцца на той бок, дабрыдуць да партызанскага лагера, скіне з плячэй клопат аб ім... Гэты клопат толькі і ратуе яе.

Калі пытаў у яе, чаго ёй зараз больш за ўсё хочацца, думаў і пра сваё жаданне: добра паснедаць сопкай бульбай з мёрзлым салам! І адразу спахапіўся: уявілася тая скураная сумка з салам і хлебам, якую наладаваў на дарогу ляснік, уявіўся Васіль, такі, які быў пасля адной той вячэры...

Хлебам і салам лесніка яны толькі раз і паласаваліся.

Нёс сумку з харчамі Антак — самы малы, нягеглы з выгляду, але на той час самы дужэйшы з іх. У карцэры ён не сядзеў, нагі пры саскоку не выкруціў — чаму б яму і не несці?

Пакуль быў лес, ішлі ўдзень. Але скончыўся ён кіламетраў праз дзесяць ад сядзібы лесніка пагоркам, з

якога было відаць кіламетраў на шэсць. З узлеску праглядваліся палоскі жыта і папару, цёмныя плямы хутароў, пустошы з вострымі пірамідкамі ялаўцу, абкружаныя каронамі кустоў.

Сонца было яшчэ высакавата, і Антак настойваў ісці далей, хоць бачыў добра, што яго спадарожнікі валяцца з ног: людзі ўмываліся потам, на касцюме Мікульскага праступілі белыя плямы солі. Большасцю ў два галасы рашылі застацца на гэтым пагорку. Нагу ў Васіля яшчэ больш расперла, напятая скура каля костачкі сіне пабліскваЛа. Натрудзіў ён і руку, апіраючыся на кіёк, нацёр і расцёр вялікі мазоль пасярод далоні. А здавалася ж, што ўсе сучкі абрэзаў нажом лесніка, выгладзіў добра. У Мікульскага смылела ў грудзях, а ў крыжы нібы грызла што і тачыла.

Пападалі сярод верасу, чуючы, што зямля нібы прысмоктвае іх, нібы павялічылася ў некалькі разоў прыцяжэнне. Ляжалі і доўга зняможана маўчалі.

Антак сеў першы.

— А як жа з шамоўкай? За цэлы дзень не аграшыліся...

— Скора ты забыў...— гаварыў Мікульскі, не разлепліваючы цяжкіх, набрынялых павек.— Па той зарадцы, што атрымалі ў лесніка, можна яшчэ двое сутак нічога не есці... А калі раскінуць калорыі на лагерны рацыён — на паўмесяца хапіла б.

— Я прапаную — пошукаты воды, і на сёння хопіць,— дабавіў Шыпняк.

— Калоры, калоры... Нахапаліся вучоных слоў... Мы ж не ў пустэлі ідзём... Дасць бог дзень, дасць і харчы.

— Ну, калі ты гарантуеш, што будзеш даставаць прадукты хаця б дзён пяць, пакуль мы не станем на ногі...— сказаў Мікульскі.

Яму самому зараз горш хацелася есці, чым у карцэры на пяты-шосты дзень. Ад галадоўкі да яшчэ большага голаду не такі ўжо і рэзкі пераход. Цяпер жа страўнік раз'ятрыўся, нібы разам абудзіліся ў ім, прыйшлі ў рух усе сокі, балюча пяклі сценкі...

— У любой вёсцы, у любой хаце дастанем,— запэўніў Антак.— Тут жа наш народ жыве, амаль усе беларусы — Беласточчына...

— Давай цількі сюды партфэль...— пазяхнуў, устаючы, Шыпняк.— Давай, давай, не саромся... А то дай

тобі волю распараджатыся... Ну, што ты мэнэ змушаеш уставаты?

— На! — пакрыўджана буркнуў Антак, перакінуў сумку бліжэй да Васіля.

— Ось так... Дай, будзь ласка, нож...— працягнуў Шыпняк руку да Мікульскага.— О-о, дывысь, Ціма, што оцэ куркулэня наробыла! Та він ужэ з'іў піўхліба! Як пацюк выгрыз...

— Я не грыз... Я пальцамі шчыпаў...— шморгнуў носам Антак, ледзь не плачучы.

— То і сашчыкаў сваю пайку... На, колы хош, шматок сала і — гэць!

— Ага-а! Вы не неслі... Вам д-добранька б-было...— Антак не то ўсхліпваў, не то заікаўся.— А я не мог т-трываць, такі пах ідзе з сумкі. Я хацеў не думаць пра яду, а сумка ўсё бух ды бух па сцягне...

— Васіль, за праяўлены гераізм у змаганні з самім сабою ўзнагародзь яго скібачкай...— Мікульскі яшчэ не ўставаў, а глядзеў, як павалі хістаюцца над галавою шаты соснаў, як прутка выгінаюцца, спружыняць камлі, і злёгку кружылася галава, здавалася, што вагаецца, як параход на акіянскіх хвалях, зямля...

— На! За тэ, што нэ ўсэ з'іў! — нарэзаў Васіль Антаку ў прыгаршчы крошак, падраўнаваў скарынку.

Мікульскаму ён працягнуў большы кавалак хлеба, чым сабе, амаль у два разы, ладны кавалачак сала. Убачыўшы, якімі вачыма правёў Антак і лусту, і скрылёк, сказаў:

— Еш, Ціма, табе трэба папраўляцца... Заўтра мусымо прайты кіламетраў з дваццяць.

— Замахнуўся! Гэта з тваёй нагой?

— Нага — што? А ось колы о тут...— ён пастукаў у грудзі,— підводыць, зовсім друге. Я чуў, што патрыбно багата тлушчу істы тому, у кого хворы лэгені.

— Гэта што — лёгкія? Не можаш сказаць па-чалавечы... Я чуў: у каго беркулёз у лёгкіх, трэба сабачае мяса есці і сабачы тлушч піць. У нас да вайны адна цётка вылечылася сабачым тлушчам і зёлкамі. Усіх шчанят у сяле пераела, людзі знарок не закопвалі малых сабачанят, а гадавалі для яе.

— Цьфу, шчоб тобі!.. Каму піп, каму попова дочка. Нэ сухоты ў нёга... Ему лёгкія раз'ела хлорам у карцэры, у турмі. Зумыснэ труцілі, гныдзяныя хрыцы...

— Але ж усядно хворыя!

— Я прайдуся ўзліскам, розвідаю дэшчо...— Васіль лёг на бок, падцягнуўся да свайго кійка.

— Ляжы! Ці сядзі...— ацішыў яго імпэт Мікульскі.— Дай спакой назе. Антак сходзіць...— І ўжо да Антака: — Ідзі асцярожна. Паглядзі, ці ёсць паблізу дарога на ўсход... Ці ёсць вялікія паселішчы... Ці ёсць у іх немцы або паліцэйскія... Ці далёка лес... Калі лес не скора, прыкінь, як лепш ісці цёмначы. І вяртайся хутчэй, будзем шукаць месца для начлегу — бо тут як на далоні. Выходзім гадзіны ў тры ночы, на досвітку.

— Нож дайце... У мяне ніякай зброі — як голы ўсядно...— папрасіў Антак.

Не было яго гадзіны дзве. Мікульскі з Васілём сышлі было ў даліну, паляжалі, пасядзелі, вярнуліся зноў на ўзлобак. Пачалі трывожыцца...

Урэшце ўбачылі — ідзе... І ён і не ён. На вушах завісла старая шапка, на плячах марынарка — пінжак ці світка з сівога даматканага сукна, з вялікімі накладнымі кішэнямі на крысах. Марынарка была вялікая яму — як балахон.

— Гэта вам...— дастаў з запазухі бутэльку малака, налітую па самы корак з кудзелі. Сеў, шумна, нібы супакойваючыся, уздыхнуў.

— Адкуль гэты маскарад? — суха спытаў Мікульскі.

— Х-хэ... пастух даў.

— Так і даў?

— Папрасіў — і даў. І малака... Вы — піце, піце, я ўжо напіўся.

— А як цэ бувае, шчо вжэ вэчар, сам пастух нэ раз ів, і ты пыв, а пляшка повна? — здзівіўся Васіль.

— А ён... гэта... Сеў пад карову і падаіў.

— У пляшку?!

— У пляшку. Два разы даіў.

Васіль паглядзеў на Мікульскага, Мікульскі — на яго, абодва — на Антака.

— А мэні здаецця, шчо ты сам загарбав яго одзяг. Ограбыв людыну! Для цёга ты і нож просыв...

— Мы мірна гаварылі, чынна. А тады я малака папрасіў... А тады шапку і марынарку...

— Нож даставаў?

— Ну-у... быў нож у руках, я ім дубчык стругаў. Ды піце малако! Яно яшчэ цёпленькае. Хворым добра сырадой...

Мікульскі выцягнуў зубамі корак, адпіў з паўбутэлькі, працягнуў Васілю і пляшку, і корак. Той піць не стаў — закаркаваў.

— Бачыў пастух, у які бок ты пайшоў? — толькі і спытаў у Антака.

— Не ведаю... Бачыў, няўжо ж не... Часта азіраўся ў мой бок.

Распытвалі ў Антака ўжо на хаду — што разгледзеў сам, пра што даведаўся. На паўночны ўсход ёсць вёска, Падляссе, у ёй, здаецца, няма ні немцаў, ні паліцаяў. Вёску з двух бакоў, поўдня і ўсходу, аточвае лугавіна. На ўсход лугі цягнуцца далекавата, кіламетры на тры, там рачулка, а за ёю зноў пачынаюцца лясы...

Ішлі ўзлескам на поўдзень кіламетры два і яшчэ па забалочаным лясным паўвостраве з паўкіламетра на ўсход — чарналессі, лазе, па крапіве ў рост чалавека...

Васіль спатыкаўся на лам'ё, скрыгатаў зубамі і памінаў усіх чарцей.

— Усэ злэ на тваю маты...— лаяў ён і Антака.

Надумаў чапацца з пастухом!.. А раптам той падняў у сяле шум? А раптам ёсць там немцы і паліцэйскія і яны ўжо ідуць на той сасновы ўзлобак, каб злавіць іх? Не распытаў жа па-добраму ў пастуха, не пагаварыў па-чалавечы...

Сноўдаліся яшчэ па кустах у прыцемку з паўгадзіны, пакуль не натрапілі на леташні стажок сена. Звалілі паўстога набок, дабраліся да свяжэйшага сена, хоць таксама густа пахла цвіллю і мышамі. Недзе гулі патрывожаныя чмялі ці восы: зачапілі гняздо...

Антак лёг з краю, побач з Васілём. Сумка з правіянтам ляжала паміж імі...

Прачнуўся Мікульскі ад таго, што Васіль поркаў кіем у сена і памінаў «бісаву маты».

— Што?

— Антака нэ мае... І харчы — цю, цю... Біля мэнэ сумка була — начэ віл языком злызав.

— Та-а-ак... Куркуляня ты на яго казаў, ці як?

— Яке куркулэня? Цэ справжній глытай... Навіць ту пляшку, што ты нэ допыв, забрав.

— Гэтага трэба было чакаць... Помніш, што ён гаварыў пра лісток падбелу? Што ў кожным чалавеку два бакі...

— У нёга дэсяць бокіў... Спасыбі, што хоч гэрманцаў нэ навіў на нас.

Трава ўжо была мокрая, але раса, мусіць, сама садзілася, бо хмызы заснаваны туманам. Ён не так бачыўся, як угадваўся па халодных хвалях, што часам патыхалі імжой у твар.

Першы кіламетр новага дня Мікульскаму даўся цяжэй, а Васілю лягчэй. А можа, і наадварот, ніхто з іх не скардзіўся ні на што...

Выбіліся на састарэлую дарогу-летнік з глыбока прарэзанымі чорнымі каляінамі. Вяла яна, здаецца, якраз на ўсход.

— І нож у яго застаўся...— успомніў раптам Мікульскі.— Абяззброіў нас зусім.

— А сірныкі е?

— Запалкі? Тут... Каб палез мне ў запазуху, то я пачуў бы...

Дарога часам перарывалася глыбокімі, шырэйшымі за адлегласць паміж каляінамі, выбоінамі. Возчыкі, мабыць, браліся, аб'язджаючы разбалабучаныя западзіны, управа-ўлева ад каляін, па цаліку, яшчэ больш пашыраючы выбоіны.

Дарога заломвала ўсё далей на поўдзень. Хацелі ўжо яе кідаць і праставаць па лузе на ўсход, як раптам натрапілі на ўдзірванелую нізкую грэблю. Яе густа абселі, нават павыбягалі на само палатно, невысокія кусты. Дарога, не прабегшы па грэблі і ста метраў, сцуралася яе, сышла ўправа. Пастаялі, падумалі — рашылі трымацца грэблі. Ісці тупка, лягчэй, чым па забалочанай сенажаці. Але хутка грэбля перарвалася чорным правалам. Цьмяна паблісквала вада, тырчалі палі моста — радок паўз іх бок, радок — з усходняга боку. Ці не тая самая рачулка, пра якую гаварыў Антаку абрабаваны ім пастух?

Вяртацца на дарогу, што ўцякла ўправа, няйначай на брод, не схацелі. Раздзеліся дагала...

Вада была халодная, выдавала зблізку, асабліва калі заняла па самую шыю, цёмна-рудою. Пераходзілі, падняўшы адзенне на руках, і бачылі, што пáлі зялёныя і ўчарнелыя ад старасці, месцамі падзёўбаныя дзятламі, паточаныя жукамі і восамі. Спатыкаліся на нейкія слізкія карчы і бярвенні і, перш чым зрабіць чарговы крок, мацалі нагамі.

— Рыбная рэчка...— заўважыў Мікульскі, адзеючыся. Не сталі чакаць, пакуль абсохнуць. Сонца яшчэ не паказвалася, яно ўгадвалася на паўночным усходзе па агніста-залатых, дробных, як луска, воблаках.

Зноў ішлі грэбляю і праз якія паўкіламетра сустрэлі дарогу-бяглянку — вярнулася-такі да іх на грэблю. Выбегла і сцяжынка злева, з густога арэшніку з адзіночнымі старымі соснамі. Тут ужо грэбля мела больш выцерты выгляд. Нечакана, як хто адсунуў глухі занавес, пачулі кукарэканне пеўня і сабачы брэх — лявей недзе, з таго боку, дзе збіралася ўсплыць сонца. І, відаць, недалёка... Што там — хутар, вёска? Калі вёска, то пра яе нічога не гаварыў Антак. А можа, гэта ўсё-такі тая, пра якую ўспамінаў пастух? Можа, знарок сказаў ім няпраўду?

— Не, гэта другая... Тую мы даўно пакінулі ззаду і злева,— сказаў, паразважаўшы ўголас, Мікульскі.— Не могуць так далёка ганяць кароў, ды яшчэ на другі бок рэчкі...

— Заглянэмо...— прапанаваў Васіль.

Палезлі ўлева, у арэшнік. Пад высознымі кустамі яшчэ прыцемак. Сям-там бялеюць лысінкі арэхаў. Паспрабавалі на зуб — нават трашчаць слаба, ядраў няма, адна сухая, як вата, мякаць. Перайшлі маленькі ручаёк з халоднаю, што жалеза, вадою. За ручайком кустоў не было, прaглядвалася вялізная, як згледзець вокам, паляна-пагорак. Адразу за ручайком стаяла невялічкая лазня, вышэй, на грудку, хаты вёскі. Стаяць рэдка, вакол кожнай сядзібы плот-пляцень. Садоў каля хат няма, мала іншых дрэў. Пракідаюцца толькі кусты ядлоўцу. Чахлыя, відаць, тут і гароды — пясок. Жывуць людзі з грыбоў і ягад — прапахла ўсё наваколле сушанымі грыбамі.

Перайшлі зноў ручаёк — вады па костачкі, прыстаялі пад лазняй, наглядаючы за вёскай. Тут ці не самы край паселішча, тры хаты. З-за крайняй справа выбягае, як атожылак, жоўтая сцежка, кіруе паўз ручай на грэблю. Асноўная ж дарога, шырэйшая, вядзе з вуліцы на паўднёвы ўсход, у лес. Вагаліся, заходзіць у якую хату ці не? Калі пачнецца сапраўдная пушча, не скора трапіцца ім чалавечае жытло. А ім жа трэба харчы...

Парашылі так: пойдзе Мікульскі, у яго больш «рэспектабельны» выгляд. Васіль пабудзе за лазняй, а потым пяройдзе ўзлескам на бітую дарогу, што вядзе на

паўднёвы ўсход. Зборны пункт — метраў праз трыста на гэтай дарозе.

— Дай сірныкі, закурымо...— сказаў Васіль Мікульскаму і дастаў з запазухі папушку тытуню.

— Адкуль гэта ў цябе? — шчыра здзівіўся Цімох Андрэевіч.

— А цю «пушку» мэні ліснык дав, як ты пераодзягався.

— І маўчаў! Ну і сыпняк, ну і тыфус...

— Маўчаў... Баровся сам з сабою. Баяўся, што табе зашкодыць.

Васіль спрытна пагарнуў малесенькія цыгаркі, адкруціўшы з рулончыка паўліста. Без паперы, як горнуць сігары. Мікульскі адразу закашляўся, схапіўся за грудзі.

— А што я казаў? Кідай к бісу, бо здохнэш.

Махнуў на яго — «Адчапіся!» — і пайшоў з-за лазні. Якраз убачылі: ад крайняй хаты, спачатку па гародзе, потым, ад дзверцаў, па сцежцы спускаецца ўніз маладзіца ці дзеўка ў доўгай даматканай спадніцы. Мусіць, да ручая: на плячы каромысла і два вядры. Мікульскі выйшаў ёй насустрач, азірнуўся на ручай. Сцежка збягала да невысокага зруба, складзенага пасярод ручая, пад пагоркам. Вада вылівалася са зруба невялічкім вадаспадзікам. Глянуў зноў уперад і сумеўся: дзеўка ўжо стаяла, здзіўлена выцягваючы шыю, углядваючыся ў яго. Раптам віскнула, як парася, крутнулася бегчы назад. Адно вядро саскочыла з крука, брынкнула ёй пад ногі. Спатыкнулася на яго, ледзь не стала ракам. Упала і другое вядро з каромыслам... Адцуралася ўсяго, падхапіла рукамі спадніцу, прыпусцілася дадому.

— Татусь! Татусь!

Мікульскі падняў вёдры, нёс за восілкі ў левай руцэ, каромысла — у правай. «Во, дурніца... Пярэпалах падымае...»

Толькі дзеўка схавалася, праскочыўшы гародзік, у хаце, як з хаты выбег прысадзісты мужык са стрэльбай у руках. Угледзеўшыся, што Мікульскі ідзе не цераз гарод, а паўз плот, выганам, мяркуючы выбрацца на вуліцу, і мужык аббег хату з вуліцы, зайшоў яму насустрач.

Цімох Андрэевіч пакінуў вёдры, сваю «сігару» цісkануў у пальцах і ўпусціў знарок дадолу. «Папрашу

закурыць для пачатку...» Калі паміж імі засталося метраў дваццаць, мужык наставіў на яго стрэльбу.

— Палахлівая ў вас дочка... Кінула вёдры, пабегла...— сказаў Мікульскі, набліжаючыся.

— Хто ты естэсь? Проша пшэдставіць паперы! — варухнуў тубылец квадратнымі вусікамі пад вялікім носам, утаропіўся ў яго цёмнымі і малымі, бы ў вожыка, вочкамі.

— Я ж у вас, дзядзька, дакументы не патрабую... Давайце лепш закурым! — палез у кішэню па пусты кісет. Бліскучы кісет, чорны, згорнуты ў трубку...

Мужык адскочыў крокі два назад, ускінуў угору стрэльбу — бабах!

— До мне! До броні!!! — закрычаў тонка, як заяц, якога дзярэ сава. Зноў наставіў разраджаную стрэльбу на Мікульскага, воч з кісета не зводзіць. Здаўся, мабыць, яму пісталетам.

З левай хаты і трэцяй, што стаяла за вуліцай, выбегла адразу трое чалавек. Адзін цыбаты з павязкай на рукаве забягаў злева, два беглі проста на яго. У двух у руках былі драбавікі, у левага нешта кароткае, ці не абрэз.

Мікульскі скеміў — «Жыўцом хочуць узяць...». Ямчэй узяў кісет, каб яшчэ больш быў падобны на пісталет.

— Вуйка! — раптам закрычаў той, злева.— Огень! Пожар! — паказаў абрэзам уніз, пад ручай.

Азірнуўся і Мікульскі — займалася полымем саламяная страха лазні. Васіля не было відаць.

Плот канчаўся метраў праз дзесяць, і Мікульскі рвануў наперад, на вуліцу, наставіўшы кісет на дзядзьку са стрэльбай. Той падняў рукі ўгору, адступіў убок. Другія два, чуў, хапалі ўжо вёдры, што кінуў Мікульскі, і крычалі:

— Пожар! Пожар!

Даўно ўжо так не бегаў Мікульскі.

Сустрэўся з Шыпняком там, дзе ўмовіліся. Саплі, як загнаныя.

— Ты ўсмаліў?

— Нэ знаю, як цэ і сталася. Бачу: вліп ты! А рука сама — чырк сірнычка...

— Не трэба было гэтага рабіць. Мы ж не бандыты якія.

— Здорованькі булы! А як бы ты выкрутывся?

Воны ж, як хыжакы, выскочылы, думав, што злапають... Самаахоўцы...

— І ўсё роўна не трэба было. Цяпер яны цвёрда пераканаліся, што трэба ахоўвацца ад бадзяг.

— Ну іх під тры чорты! Ты жывы, здоровы,— а на ўсэ друге начхаты. Воны да вэчара новую лазню поставяць. Ліс кругом... Будзівля бо така...

Ішлі лесам, арыентуючыся па сонцы. Спыняліся толькі там, дзе былі чарніцы ці шчаўе.

— Ну, тэпэр мы злі, як звіры...— жартаваў Шыпняк.— У нас кажуць, колы ў хорта, у сабакі, чорна ў році, то він дужэ злы і зайців ганяе.

Ад ягад, і праўда, было чорна ў роце, губы ссінелі, як у тых мерцвякоў, што выцягвалі за канцлагер у равы.

Начавалі пад густою елкаю, на шыгульніку. Назаўтра таксама ішлі ўдзень, бо лесу хапала. Ішлі аб адных ягадах, ад іх мучыла пячайка і натха — смуродная адрыжка, ад аскомы балюча было звесці зубы ці моцна ўдыхнуць праз іх паветра.

Пад вечар другога ягаднага дня Мікульскі прылёг адпачыць, а Васіль развёў агонь, назбіраў грыбоў, наўзбіваў іх на галінкі, як шашлык, і смажыў — рыхтаваў больш пажыўную вячэру. За кіламетр ад іх на тракце гулі машыны. Але так было мо цэлы дзень, і на гэта не звярталі ўвагі. Мікульскі неўпрыкметку задрамаў.

Разбудзіў Васіль яго, як усё было гатова.

— Ось табе два шампуры шашлыку... Тай нэ кажы, шчо нычога нэ даў...

Елі і не маглі нахваліць яду: смачна, нібы адбіўная катлета, толькі што без солі. Мікульскі другі «шампур» не адолеў — стала прытарна, а Васіль умалоў абодва.

Падмасцілі пад бок яловых лапак, прыціснуліся адзін да аднаго, палеглі. Мікульскі — бліжэй да агню. Ноччу павінны былі памяняцца месцамі, падживіць агонь...

Ачуняў Мікульскі ад болю — тлеў рукаў касцюма. Ляжалі яны чамусьці далёка адзін ад аднаго і ўмітусь — ногі да галавы. Мусіць, адкінуўся так у непрытомнасці, не чуўся, калі яго і званітавала,— заўважыў сляды гэтага на другім рукаве. Васіль яшчэ не ачуньваў, стагнаў скрозь сашчэмленыя зубы.

«Атруціліся!» — зразумеў Мікульскі. Хацеў устаць і адразу ж упаў: ніякай раўнавагі! А галава ўжо працавала: «Васіля ратаваць... Васіля...» Падпоўз да таварыша, пачаў тузаць яго, варочаць, прыслухоўвацца да дыхання. Пульс слаба намацваўся, лоб быў халодны, у ліпкім поце. Яшчэ мацней затузаў Шыпняка, прыпадняў за плечы — і таго пачало страшна рваць — прыступамі, сутаргава... Да памяці не прыходзіў, на сваё імя не адгукваўся.

І як гэта ён не паглядзеў ці хоць не спытаў звечара, што за грыбы падабраў Шыпняк! Вырваліся з пашчы смерці, з лагера, а тут ледзь не аддалі богу душу з-за нейкіх паганак. Яму нават не ў галаве было, што нехта можа не ведаць грыбоў. А выявілася, што такія людзі ёсць — Васіль... Няўжо ён не бачыў грыбоў хоць на малюнках? Ды ў іх жа, у Ровенскай вобласці, і лясы ёсць...

Пацягнуў Васіля — паўзком, як параненага з поля бою — на чысцейшае месца, падклаў яму пад галаву свой пінжак, кінуў на вуголле сушняку. Перасоўваўся на карачках, на ногі не падымаўся — не трымалі.

Толькі пад раніцу ачуняў Васіль.

— Пачастунак твой, грыбавар, выходзіць бокам... А ты з такім апетытам уплятаў — за абедзве шчакі!.. Ражна хоць не праглынуў разам з мухаморамі?

— Та цэ нэ мухаморы... Цэ дужэ гарні булы грыбы...

— Маўчы хоць... Устаць зможаш?

Шыпняк паспрабаваў — дыб, дыб, павяло паўкругам, брык!

— Будзь каля вогнішча... Нікуды не адпаўзай! Пайду вады пашукаю ці чаго.

«Пайду»... Каб жа ён ішоў! Падпоўз да сасны, падняўся на ногі, чапляючыся за камель... Разгледзеўся: блізка стаіць другая сасна, намерыўся на яе, махнуўся — хап. Нацэліўся на трэцюю — павяло, павяло ўбок... Злавіў! На чацвёртую — міма... Бурдэнц!

Галава была ясная ўжо, а ногі не трымалі.

Да брукаванкі дабіраўся доўга. Учора на ёй гулі машыны, цяпер яшчэ рана — цішыня...

Похапкам, азіраючыся, ідзе кабета. Загадзя хіснуўся з-за дрэва, ухапіўся за галінкі куста каля прыдарожнай канавы, каб не перапужаць жанчыну знячэўку.

— Не бойцеся...

Жанчына паволі, насцярожана падышла.

— Вы паранены? — голас лагодны, спагадлівы.

Расказаў, што і як здарылася, хто яны, што Васіль выкруціў нагу.

— Вой, божухна... Мае ж вы людцы, а як жа вам памагчы? Я ж яшчэ і ў печы не паліла... У сястры ў Сойках начавала — баюся дома... Толькі Сойкі ды мой хутар ацалелі... Папалена ўсё ў пушчы... Людзей і павывозілі і пабілі... Чакайце тут, у мяне малако ёсць, і кіслае, і салодкае.

Дзякуй добрай цётцы, адратавала іх тады малаком. І на дарогу яшчэ дала бутэльку, і цэлы клінковы сыр, і тры халодныя, мо ўчарашнія, блінцы. Прынесла стужку з палатна і ў чарапку мазі — «З рагулек, жывакосці! Дужа памагае, як пералом ці скрут». Змазала Васілю каля костачкі, туга ўвязала.

Паспавядалася цётка ім:

— Вы не чулі пра Коўратаў? Во тут недалёчка быў яшчэ адзін хутар... Людзечкі мае, такога нарабілася — дасюль валасы не ўлягуцца на галаве... Зайшла вечарам да іх нейкая хеўра. Сваімі прыкінуліся, партызанамі... Ну, Коўраціха і пачаставала іх, і ўсё такое, пахвалілася, што давала ўжо партызанам не раз прытулак... А раніцаю... А раніцаю зайшла суседка, з Падгайскага хутара,— і як справіць лямант на ўвесь лес! Усе парэзаныя ў хаце — і гаспадар, і жонка, і дзеці... Адной толькі Юзі няма, старшанькай: выскачыла, мусека, у адной сарочцы, бо ўся адзежа на стульчаку ляжала, складзена акуратна... І дасюль не найдуць! Сойкаўскія сваякі шукалі-гукалі яе па лесе трое сутак... А хіба дагукаешся? Вялікі лес... Яны, сойкаўскія, і хавалі Коўратаў у адной магіле... Ой, а грудзі ў Коўраціхі паадрэзваны, і запіска шчэпкай з лучыны прыколата: «Так будзе з усімі, хто памагае немцам». І падпісана: «Партызаны»... Але гэта не партызаны нарабілі, каб я так жыла!.. І хіба немцам памагалі Коўраты? Воя-ёй, і ў мяне душа не на месцы... І я шкадавала людзей, брала грэх на сябе... Таму і дома баюся быць...

Маўчалі, адчуваючы, як студзянее ў жылах кроў, як расце, сціскаецца сэрца ад гневу. Правакатары!..

— Шкадаваць людзей — не грэх... Вылюдкаў — грэх! — толькі і сказаў жанчыне Мікульскі.

Далей Мікульскі з Васілём пайшлі толькі пад вечар. Усё чакалі, калі перастане правальвацца, уцякаць з-пад ног зямля.

5 Мікульскі выкручваў гімнасцёрку на беразе, за дубовым кустом. Анюта паласкалася ўнізе, пад абрывам. Заходні бераг у гэтым месцы быў намнога круцейшы, чым усходні, па плечы Анюце.

— Ну, як ты там — справішся адна? — гукнуў ёй Мікульскі.

Анюта не адказвала, плюхала і плюхала. Не чуе, ці што?

— Я кажу — мо памагчы выкруціць? — Мікульскі асцярожна наблізіўся да самага берага.

— Ах!..— прысела Анюта, прыкрыла рукою выраз у сарочцы на грудзях.— Як вам не сорамна!

— Дзівачка, я ж нічога не бачу...— збянтэжыўся Мікульскі, павярнуў назад.

Ён бачыў. Як скрозь частае сіта, але бачыў непашкоджаным вокам. Зрок крыху вярнуўся да яго ў самы напружаны момант, мо на сярэдзіне ракі,— як і тады, калі перабягалі шашу. Ён паспеў заўважыць дзіўнае ўбранне Анюты: танкісцкі шлем на галаве, мокрую сарочку, што абляпіла дзяўчыну, падкрэсліла формы яе цела. Спаднічка, штаны, мужчынскі пінжак ляжалі побач, на прыгнутым зеллі — няўклюдныя чорныя жгуты-скруткі. Анюта паласкала яшчэ, здаецца, кофтачку.

Каля рассцеленай на верасе гімнасцёркі прысеў. Закурыць бы!.. Як яму хацелася курыць — здаецца, усе клетачкі цела нылі-стагналі, прасілі дыму...

— Інструктар, што ў цябе ўсё-такі было ў сумцы? — спытаў зноў у Анюты.

Маўчыць...

Мікульскі хмыкнуў. Асцярожна, каб не парушыць на галаве бінты, сцягнуў споднюю кашулю, не напружваючыся, каб не так аддавала болем у вачніцы, выкруціў, страпянуў і зноў надзеў. Хай на плячах сохне — не так будуць дапякаць камары.

Дастаў з сумкі планшэтку. Мокра ўсярэдзіне, папсуецца карта. Накінуць на куст трэба, хай абветрае... Добра, што процівагазную сумку начапіў на руку, не ляжала на вязанцы-паплаўку, як Анюціна.

Штаноў не хацеў здымаць, выкручваць. Саромеўся? Можа, і так. Не трусы былі пад імі, а звычайныя салдацкія споднікі не першай свежасці. Не знімаў і ботаў, не выкручваўануч. Ваду, праўда, збольшага выліў адразу, як выбраліся на бераг — задраў спачатку адзін.

а потым другі бот, чуючы, як па лытках і сцёгнах цякуць халодныя, не паспелі нагрэцца, струмені.

На добрае месца яны выбраліся... Палянка на беразе, на ёй кусцікі бярэзніку і асінніку, хваінка, бліжэй пад гушчарнік, на захад, два ці тры пні і зараснік скрыпеню каля аднаго. Старыя ўжо, не пазнаць, ад якіх дрэў. З трох бакоў палянкі гушчэча — ельнік, затула ад чужога вока. І з-за ракі цяжка ўбачыць. Намацаў зноў кісет у кішэні, зноў выціснуў з яго ваду. «Закурыць бы!..» Развязаў, узяў шчопаць мокрага, з кісла-едкім пахам тытуню, пажаваў, з агідай выплюнуў.

— Ты што — засердзілася на мяне? — азваўся да Анюты. І зноў ні гуку ў адказ, толькі ціха плюскоча вада.

«Сама ўжо мыецца, ці што?» — стараўся па плёскаце пазнаць Мікульскі.

Анюта і праўда мылася, была ўпэўнена, што ён больш не будзе выходзіць на край, глядзець на яе. Скінуўшы і спаласнуўшы сарочку, яна не спяшыла адзявацца, а набірала прыгаршчамі ваду, акунала ў яе твар, узлівала ваду на плечы, на ўсю сябе, паціху гладзілавадзіла далонямі па грудзях, па жываце. І заміралі рукі, нібы да чагосьці прыслухоўваліся, што было ў ёй самой.

Была ў руках і нейкая трапяткая боязь, асцярожлівасць да таго, што яна чула ў сабе...

Каб Мікульскі мог у гэты момант глянуць у яе твар, то таксама здзівіўся б: вочы прыплюшчаныя, нават аднабокая ўсмешка-грымаса не такая страшная, нібы памякчэла яна, стушавалася, палагоднела.

«Хай умываецца... Хай купаецца...» — думае ён.

Гэтыя словы нібы набраны вялікімі афішнымі літарамі. Трымцяць, пакручваюцца, як вярбовыя лісты на вадзе. Мікульскі нібы бачыць іх унутраным зрокам і дзівіцца такому дзіву...

З глыбіні памяці ўсплывае перажытае, спазнанае і не спазнанае ў свой час...

Ён на рэчцы, вечарам, у выхадны дзень. Сонца зайшло, з-за Лакнеі, з кустоў, насоўваецца густы морак і прахалода. Ніхто так позна не купаецца. А ён любіць такую пару, калі вада здаецца цёплай, як шчолак, і не хочацца вылазіць наверх, у вячэрнюю прахалоду. Купаецца ён і Valio — Валька Макарэвічава. Не дамаўля-

ліся так сысціся, само атрымалася. Тады наогул у іх усё ішло стыхійна... А можа, Валя і знарок прыйшла ў такі час, каб ён заспеў яе ў вадзе? Ніколі не здагадаешся, якога «коніка» яна магла выкінуць у наступную хвіліну.

«Успамінаецца што...» — гнаў ён ад сябе ўспаміны і не мог з імі саўладаць. Яму, цяжка параненаму, змучанаму чалавеку, у якога і сілы засталося нейкая крыха на самым донцы, успаміналася вельмі мірнае, даваеннае, казачна-летуценнае... Па кантрасту... Чалавеку ўласціва ў нейкія моманты марыць пра нязбытнае, немагчымае на тую хвіліну. Або пра тое, што магло калісь быць, але не адбылося, упусцілася, і невядома, па чыёй віне... Хоць чаму ж невядома? Па яго віне... па яго...

На вайне, у ваенных снах, Valio не раз прыходзіла да яго. У снах ён быў смялейшы, намнога смялейшы... Не раз ён думаў, як бы ўсё склалася ў яго жыцці, каб тое, што так імкліва насоўвалася на іх, адбылося, каб ён паддаўся стыхіі пачуццяў, акунуўся ў іх з галавою. Куды б яно ўсё выкіравала, колькі цягнулася б, чым скончылася?

Шлюбам? Ці толькі мужчынскай прыгодай?

Узбаламучаны тады, захмелены да дурнаты абуджанымі, дагэтуль не спазнанымі пачуццямі, ён гатовы быў боўтнуць у гэтае таемнае, як у вір галавою... Нават маляваў у разгарачаным уяўленні, як вядзе яе ў сельсавет рэгістравацца — на вачах ва ўсяго сяла, пад кплівыя ўхмылкі жанчын і хлопцаў! Як вязе яе з сабою ў Мінск... Хай гавораць-абгаворваюць, хай «мыюць костачкі» — напляваць яму на ўсё гэта. Ён дарослы чалавек, ён мужчына, ён — першы адказчык перад сабою, перад сваім сумленнем за свае ўчынкі...

Уяўленне тады не ішло далей — як яно складзецца ў Мінску? Дзе яны знойдуць прытулак са сваім каханнем? Як будзе з вучобай? Свядома абрываў свае думкі перад гэтымі пытаннямі — неяк жа будзе, не прападуць, яны ж дарослыя людзі...

А нават прыгодай не скончылася... Мо таму, што ён быў такі нерашучы, такі сарамяжлівы ў душы — у дваццаць тры гады! Раз на нейкай студэнцкай пірушцы прысталі да яго хлопцы, каб расказаў і ён пра свой першы грэх. Самі яны пляскалі языкамі ўсякае з бессаромнасцю і п'янаватай шчырасцю, а хто, можа, і вы-

думляў на хаду (ды напэўна ж выдумлялі). А ён памкнуўся было, ды так і не расказаў, як ні наставалі. Выпіў за гэта «штрафака» і заваліўся на ложак спаць...

Хіба можна пра такое, пра самае інтымнае — і некаму? Як плявузгаць пра яе? Пра тое, з чым чалавек даверыўся толькі табе?..

Не мог ён расказаць пра той спякотны, пераспелы жнівень... Малацілі жыта каля Вялікага гумна. Старанілі ў гумне толькі кожны другі ці трэці воз, калі не спраўлялася малатарня глытаць. А так возчыкі ўскідалі снапы з воза адразу на стол малатарні, выстойваючы адзін за адным у чарзе. І пакуль стаялі вазы, хлопцы лезлі да дзявок на салому...

«МК-1100» то прарэзліва, на высокіх нотах, завывала, то раўла густа, узахлёб, як не давілася, крэкала-ахала ад шкадобы, што не спраўлялася «жаваць». Працавалі з імпэтам, як часта было на тых перадваенных нядзельніках. Спяшаліся хутчэй намалаціць, першымі пусціць чырвоны абоз з хлебам у раён. Усе намагалі на малацьбе — і канторскія работнікі, і настаўнікі, і тыя, хто папрыязджаў на лета з горада. Мікульскі і на стале малатарні завіхаўся — рэзаў перавяслы, падсоўваў распатрошаныя снапы старому Лабашу, і той пускаў у цапы... Саскокваў на вазы падаваць снапы на малатарню, калі хлопцы-возчыкі лішне загульваліся на стозе... Кідаўся на дапамогу дзвюм жанчынам, што адбіралі салому ад малатарні — закручаныя ў хусткі, адны шчылінкі для вачэй пакіданы, на хустках пласты пылу і мякіны. Ён адзін адсоўваў ад жэрла малатарні больш, чым яны ўдзвюх...

«Ты нам памажы, нам! Таптаць не спраўляемся!» — задзірліва крычалі яму са сцірты саломы дзяўкі і маладухі. З хлопцаў з імі быў адзін толькі Аніська. Той не так фармаваў сцірту, таптаў, як яго самога таптапі, закідвалі. Дзяўчат на стозе добры гурт, і маладух колькі... Паглядаў на «бабскае племя» Аніська з панічным страхам — маглі і штаны садраць, як нападзе на іх шал, напхаць у іх саломы. Праўда, і Аніська часам казырыўся, хапаў каторую назолу, куляў у салому, спрабаваў «дурэць», як кажуць у іх сяле. «Вой, яшчэ і яно бярэцца!» — кпілі над ім дзяўкі. І гэтае слоўца «яно», быццам хлопец і праўда быў ні сё ні то, ліпла да яго абразаю.

«Трымайся, іду на помач!» — крыкнуў раз яму Мі-

кульскі. Якраз малатарня спыніла свой ненажэрны гул — ці зляцеў пас, ці «пуцілавец» заглох. Усе, хто дзе стаяў, пападалі адпачыць: даваўся ў знакі тэмп.

«Трымайся!» — крычаў Аніську і карабкаўся на сцірту. На яго наваліліся, як на мядзведзя. Віск, крыкі... Хапаў па адной, па дзве, шпурляў у салому, падаў сам, зноў усхопліваўся, валіў усіх у «малакучу», на аграмадны варухлівы камяк разгарачаных цел клаўся зверху сам. У іх не лічылі такія жарты за грубасць, усё было звыклае і натуральнае...

Але неяк распаўзаліся, выбіраліся, зноў нападалі на Мікульскага. Валя Макарэвічава ўчапілася ў яго з усёй моцы, і ім адразу далі падножку, закідалі саломаю, наваліліся зверху — гнялі каленямі, падскоквалі і вішчэлі ад першабытнай, дзікунскай радасці: «Жаніцеся там! Хопіць вам прыглядвацца адно да аднаго!» У калючай духаце і цеснаце Валя раптам прыпала да яго твару, пякуча-кусліва пацалавала ў губы і раз, і другі, і трэці... Рванулася ад яго ўюном, выкоўзваючыся з рук. Не паспеў ні сціснуць яе добра, ні затрымаць: і разгубіўся, і вельмі ж забухала сэрца, кінулася ў галаву кроў. А Валька тым часам выбралася з-пад саломы і — гэх! — ускочыла зверху на дзяўчат. Крык і рогат пабольшалі...

А Мікульскі і не хацеў вылазіць на святло, паказвацца на іх вочы, чакаў, калі супакоіцца. Дзяўчаты раптам прыціхлі, прыслухаліся... «Ой, мо прыдушылі яго там!» — «Не задушыш такога здараўца... Эй, прасіся, выпусцім!» — «Здаюся!» — жаласна прастагнаў Мікульскі.

«А-а-а!..» — загарлалі ад радасці і задавальнення. З яго тут жа ссунулі салому, але ён не ўставаў, а толькі сеў, ніякавата ўсміхаючыся. І ўсе пападалі каля яго, зняможана задыхалі. «Во як табе, студэнцік! Мы не гарадскія паненкі, далікатнасцей не ведаем!» — «А які клёк з гарадскіх, які навар?» — «Будзеш весці пад ручку кралю з радзікюльчыкам, дык нас не забывай!»

Апошняе — «Не забывай!» — Валя сказала...

Не забывай... Паспрабуй забыць! У яго мо і сёння губы свярбяць ад яе пацалункаў-наскокаў...

Помніць ён прыемна-вабнае цяпло яе цела — тады, як купаліся змярканнем. Ён вучыў яе плаваць «на спінцы», а яна дурасліва, без толку біла нагамі па вадзе, «тапілася»: «Ой, нічога не выйдзе, няздольная вуча-

ніца...» Ён падтрымліваў яе пад плечы, і яна станавілася на ногі блізенька ад яго. Вада ў «ямцы» ёй ледзь не па шыю, яму — па грудзі. І ён незнарок, а часам і знарок прытуляўся да яе пад вадою, а яна быццам і не заўважала. «Ой, якая ў цябе прыгожая скура — як атласная...» Праводзіла пальчыкамі яму па загарэлых плячах. Прыціскаў яе да сябе мацней, і яна спалохана-насцярожана зазірала яму ў вочы вялікімі-вялікімі зрэнкамі. Насмеліўся, пацалаваў сам у вочы, у губы, гатовы быў сціснуць яе так, каб хруснулі костачкі, а яна, гнуткая, трапятала ў яго руках — і раптам ірванулася, выскачыла на бераг, схапіла мокрымі рукамі адзенне, схавалася ў кусты адзявацца... А ён, аглушаны стукатам крыві ў вушах і страхам за яе і за сябе, не пабег следам, застаўся ў вадзе — «адмакаць»...

Так і не была пераступлена «мяжа»... Так і дасюль не ведае Мікульскі, што ў іх было — каханне ці толькі прага кахання, бунт хмельнай крыві.

Яму неўзабаве давялося выехаць у Мінск — выклікалі раней як камсорга факультэта, трэба было падрыхтаваць да адкрыцця заняткаў нейкае мерапрыемства для першакурснікаў.

Гэта было перад апошнім курсам вучобы...

Была і яшчэ адна рамантычна-вар'яцкая гісторыя... Можна сказаць, уліп, як муха ў патаку... Вінавата было яго захапленне операй і аперэтай, вінаваты быў адзін украінскі перасоўны тэатр. Так сабе тэатрык, але багема як не лютавала ў ім. Тады гэты тэатр прабыў на гастролях у Мінску больш за месяц. Мікульскі не прапусціў ні аднаго спектакля, у яго ажно галава кружылася ад голасу адной спявачкі...

— Вось і я!.. Ой, як на свет нарадзілася... Як добра, калі ў вадзе толькі мыешся, а не топішся...

Анюта падышла... Анюта...

«Грыпіна, яна ж Генрыета — на сцэне... Як правільна называўся ў тае спявачкі голас? Меца... меца-сапрана? Забыў...» — не адпускалі ўспаміны Мікульскага.

— Ведаеце, што я надумала, пакуль паласкалася? — падышла бліжэй Анюта.

Мікульскі на яе голас падняў галаву — і нічога не ўбачыў. Зроку зноў як і не было!

— Можа, што і добрае надумала...— уздыхнуў ён стрымана.— Я разоў тры цябе аклікаў, а ты — ні гу-гу...

— Не трэба спяшыць лезці ў балота. Тут паселішчы ўжо ёсць, дарога на Заграддзе. Нам бы да возера дабрацца. Дасталі б лодку — і цераз возера. А там бы каня...

— Паглядзі на карту... Небяспечны гэты шлях, што на Заграддзе... Там жа гарнізон. Там, паглядзі, павінны быць дарогі ў наш бок, з поўдня возера агінаюць.

Анюта падышла да куста, абапятага картаю, паўглядалася.

— Ёсць, але не зусім у наш бок... Некаторыя на заштрыхаванае вядуць, на балота... Пункцірам паказаны, настрочана ўкосікі...

— Непастаянныя, значыць... Калі не «прывяжаш» карту да мясцовасці, мала яна табе паможа. Распытваць трэба ў людзей...

— Я падумала... Можа, мне часова пакінуць вас тут на беразе? На якіх пару гадзін... Пастараюся каня дастаць, калёсы... Вы толькі не хвалюйцеся і чакайце.

— Ага... У лесе мала для цябе арыенціраў, не знойдзеш мяне... Што ж, рабі, як надумала. Толькі асцярожна. Да Вайчука нам трэба, ён паможа...

— Толькі вы не ўставайце, самі нікуды не адыходзьце! А я скора вярнуся, от пабачыце. Я адна, без вас, ведаеце, як скора буду ісці? І есці чаго прынясу... Шкада, што сумка сплыла і фляжка ў ёй... Я вам у шлеме вады пастаўлю, не скора з яго выцячэ...

— Не трэба... Мне ўжо менш хочацца... Дый глыталі ж, як плылі...

— Дайце мне руку, я вас зарыентую на палянцы...

— Я напачатку трошкі бачыў... Агледзеў... Вунь там пні, каля елак...— Мікульскі паказаў на захад, але намнога правей тых пнёў.

— Трошкі не там... І нашто вам тыя пні? Гэта далёкі арыенцір для вас... Вось тут... Дайце ж руку!.. Упоперак палянкі, з лесу да берага вядзе маленькая разорка, ці раўчук. Зарасла чырвонымі дубчыкамі... Памацайце... Гэтая разорка, значыць, спускаецца да рэчкі, глыбее. Дзе мы стаім, пукацінка невялікая, а пад ельнік на захад, зноў спусціста. Там трава гусцейшая, сакавітая навобмацак... Запомнілі?

— Дзіва што... Каб яшчэ мне твае вочы...
— Раўчук, галоўнае, запомніце, ён к берагу вядзе.
— Прыпяла б мяне за куст, як цяля...
— Выдумваеце... Дый няма чым, каб і хацеў.
— Ты — золата, Аня... Я даўно гэта ведаў.
— Ой, перастаньце...
— Галоўнае, ты сама не хвалюйся. Думай, як ідзеш... На камлях дрэў з паўночнага боку моху больш... Мурашнікі — заўсёды з паўднёвага боку дрэў... І паглядай, куды хмары рухаюцца... Ідзі! Са мною нічога не здарыцца... Даю табе слова — не паміраць, пакуль не вернешся.
— Не гаварыце абы-чаго.
— А калі што — адратуеш... Я слокіту баюся — казытнеш за бок, і я ачухаюся... Пісталет мне пакінеш, ці як?
— Не ведаю...— прыціхла Анюта.
Змоўк і Мікульскі. Ён думаў не пра пісталет, а пра Анюту. Нешта ў ёй змянілася, нібы завялася спружына. І выгавар пачысцеў, не так ужо замінае тая сутарга-грымаса. Інтанацыі ў голасе інакшыя — рашучасці стала больш, упэўненасці, нават загаднасці. За адну ноч і раніцу аформіўся новы чалавек. А мо і не толькі за гэты час? Дасталося і на яе долю прыгод...
— Не моршчы лішне лоб...— Мікульскі асцярожна, наставіўшы перад сабою рукі, пайшоў назад — туды, дзе па яго разліку павінна быць гімасцёрка і карта.— Самае непрыгожае, калі ў маладой дзяўчыны лоб у маршчынах.
— Я старая, старая жанчына... Мне сто гадоў!
— Бяры пісталет... Толькі прыхавай добра.
— Стойце, на гімнасцёрку наступіце...— Анюта ўзяла Мікульскага за локаць.— Лявей крыху...
Мікульскі апусціўся на дол.
— Сляпому пісталет — як зайцу барабан. Непатрэбны гук.
— Я забяру... Ой, ну што яшчэ для вас можна зрабіць? — усклікнула Анюта з болем у голасе, усхліпнула.— Таварыш камісар... Міленькі, даражэнькі, толькі нічога не думайце на мяне... Я не кіну вас! І мацуйцеся... Дайце я вас пацалую...— Анюта ўсхліпнула мацней.
— Па-а-айшла Мар'я за Якава зноў... Мы ж дамовіліся паменш вільгаці рабіць. І так... мокрыя ўжо ка-

торую гадзіну... Дзе ты выбераш месца, каб пацалаваць! Заматала ўсяго... Хай бы ж прадугледзела такую магчымасць.

— Знайду! — Анюта стала каля яго на колінцы, пацалавала ў шчаку пад незабінтаваным вокам.— Знайду! — прытулілася губамі да барады, да губ.

Далікатныя, мацярынскія пацалункі... Губы цёплыя, мяккія, крыху шурпатыя... Мікульскаму раптам стала горна, упершыню пашкадаваў самога сябе. І не столькі сябе, як маці. Уявіў, што гэта і праўда цалуе яна яго, цалуе і плача над сынам-калекам.

— А цябе... можна?

— Пацалуйце...

Мікульскі злавіў «вуха» яе шлема, пацягнуў да сябе, прыгінаючы Анюціну галаву бліжэй. Прытуліўся губамі да яе шчакі, да лба... Хоць хацелася прыгарнуць яе да грудзей, зноў пачуць шурпатасць яе губ на сваіх...

— Ну — у добры час!

Анюта падхапілася на ногі.

— Я ўсё-такі пакіну вам вады... Не грэбуйце толькі...— сцягнула шлем з асцярогай, нахіліўшы галаву, выняла пісталет, сунула за ліф. Бр-р, які халодны. І нагрэўся, здаецца, у шлеме, а ўсядно...— Скокнула з берага да вады, зачэрпнула шлемам. Хуценька ўскараскалася наверх.

— Во тут вада будзе, пад кустом, справа ад вас.

Мікульскі сядзеў сцішаны, не адгукаўся.

Анюта зноў энергічна махнулася да вады. Дасюль яна завіхалася ў штанах і кофтачцы, цяпер устрэпнула спадніцу, накінула на сябе. Хай будзе, хоць абарваная... А пінжак страпянула і не надзела, ускінула на руку. Пранясе так крыху, можа, хутчэй абветрае.

— Ужо ідзеш?

— Іду, Цімох Андрэевіч. Пад ляжачы камень, як кажуць... Там мо разгон дае Прымак усім, а мы...

— Праўду кажаш... Ну, ідзі...

— Да сустрэчы!

— Чакай хвілінку... Скажы мне, медык лейб-гвардыі гусарскага палка... Ты напраўду нічога не ведаеш пра Эдзіка, ардынарца? Дзе ён мог дзецца?

Маўчанне... Доўгае маўчанне!

«Што яна — пайшла?»

— Аня! — крыкнуў моцна, як спужаўшыся.

— Я тут...— ціха адгукнулася яна.— Я тут... Няма Эдзіка... Мінаю яго, прамое пападанне...

Мікульскаму здалося, што нешта аглушальна пэнкнула ў вушах, нібы той выбух міны, што знявечыў яго. Моцна гайданулася, як ад фугаскі, зямля.

* * *

Анюта прыкрыла локцем твар і бокам рынулася ў немарач ельніку. Добра, што ў яе не доўгія валасы, а кароткая хлапечая стрыжка!

Адзін свой намер яна ўсё-такі ўтаіла ад Мікульскага: перш за ўсё дабрацца да шляху, што вядзе ад шашы на Заграддзе, на ўсходні край возера. Выйсці на бальшак і рэквізаваць самую першую фурманку, якую толькі можна будзе. Куды б яна ні ехала — да шашы ці да возера, абы толькі ехала адна, не ў гурце. Такіх шанцаў мала, людзі баяцца цяпер ездзіць па адным, але ж калі гэта ўдасца, то яна сэканоміць шмат часу. А да паселішча якога і дабірацца далёка, і ўсякае можа там здарыцца: удзень ты навідавоку ва ўсяго сяла.

Яловыя іголкі калоліся неміласэрна, даставалі праз кофтачку, і яна патрапала пінжак, прыгладзіла яго далонямі, патузала, распростваючы, рукавы. Апранала так, як вучыў яе калісь Васіль — павярнуўшы ўніз каўняром, да сябе гузікамі. А тады кідзець цераз галаву за спіну! Цяпер гэты фокус не ўдаўся, сажвакаамыя, сырыя рукавы з цяжкасцю ўссунула на рукі, а махнула пінжак цераз галаву, дык ён засеў на плячах, ледзь справілася абцягнуць уніз.

І зноў — уперад. Рашуча, з адчаем... Наперад, наперад!.. Адны думкі заставаліся ззаду — там, на рацэ... Яна яшчэ перажывала пераправу і — тое...

Нязведанае, дзіўнае і... нечаканае.

Хвалюючае, трывожнае і... радаснае.

Яно нібы прабудзіла яе ад здранцвення, і ўжо захацелася жыць, выжыць. Выжыць, што б ні здарылася, даць пачатак новаму жыццю.

Таму жыццю, што гэтак уладна пастукала ёй пад сэрца ў самы страшны момант пераправы...

Ішла з Мікульскім у ваду, наколькі можна было. Ногі грузлі ў іле, але пакуль выдзіраліся — ішлі, трымаючы перад сабою ўзбітыя на прут тры вялізныя па-

плаўкі — кіцель і дзве вязанкі. Кіцель быў пасярэдзіне, на ім ляжалі аўтамат, Анюціна санітарная сумка. Початкі прасунулі пад гузікі, прывязалі, каб маёмасць не саскаўзнула ў ваду. Сваю сумку з планшэткай Мікульскі хоць і паклаў на кіцель, але запятліў почапкай за руку. Побач быў камісар, і Анюта ішла наперад пакуль што без страху — па грудзі, па шыю.

— Так ідзём? Ты глядзі, каб упоперак...— гаварыў Мікульскі. Паплаўкі леглі на ваду, закрылі ад вачэй заходні бераг, вада плюхнула ёй у нос, у рот, забіла дых. Анюта адразу закашлялася... «Бі нагамі па вадзе!» — скамандаваў Мікульскі. І яна заварушыла пад вадою ботамі часцей — каб адарвацца ад гразі. Іх збудаванне перакасілася, вязанка з яе боку ўся схавалася пад ваду. Мікульскі, каб ураўнаважыць, націснуў на свой бок, штурхнуў «плыт» уперад, замалаціў нагамі. Ад штуршка аўтамат плюхнуў у ваду, завіс на рэмені дзесьці пад кіцелем, у вадзе. «Нічога, ён прывязаны!..» — сказаў Мікульскі і грабануў рукою — раз, другі... «Па цячэнні плывём!» — закрычала Анюта. Камісаравы грабкі развярнулі «плыт» на дзевяноста градусаў. «Я прытармажу, ты грабі!» Анюта спрабавала грэбці левай рукою, мацней плюхаць нагамі, але «плыт» не слухаўся яе, паварочваўся яшчэ больш, пагружаўся глыбей. Не слухаліся ногі, нібы хто спутаў іх і моцна цягнуў на дно. Яна зноў удыхнула вады, закашлялася. Ад страху, што блізка канец, варухнуліся валасы на галаве, здалося, прыўзняўся нават шлем, зрушыўся з месца пісталет у шлеме...

У гэты момант і **яно** заштурхала — уверсе жывата, пад самымі грудзьмі... Востранька, мо хіба пяткаю.

«Абедзвюма трымайся! Я пацягну за сабою!» — крычаў Мікульскі, цягнучы за прут. У тую хвіліну, мабыць, убачыў і ён ваду — рудавата-зялёную, каламутную. Гэта было на самым воі, на самым быстраку.

Анюта ж задыхалася ад дзікага, з ірвотаю кашлю, ад страху, вочы як не лопалі з натугі. Вязанка выкаўзнулася з-пад рук... Мікульскі кінуў «плаўсродак», схапіў яе за каўнер.

— Бераг жа блізка... Бераг... Трымайся на вадзе! Нагамі, нагамі працуй!

Ён плыў на спіне, цягнуў за сабою Анюту. І тут яна зноў пачула, як застукала, заварушылася ў жываце —

ужо крышку ніжэй, не пад самымі грудзьмі, нібы хто злёгку пабарабаніў пальцамі па сценцы жывата — трум-па-па...

«Няўжо... дзіця?!» — яе страпянула, нібы токам. Крутнулася са спіны на грудзі... Раптам паслухмянымі сталі рукі і ногі, спрытным зрабілася цела. Яна тады нечакана адчула, што можа плысці сама — абудзіўся мільённагадовы інстынкт. Так нават сляпое шчаня, якое кідаюць тапіць у ваду, раптам пачынае грэбці лапамі, карабкацца на бераг.

— Я... сама...— вывернулася з-пад рукі Мікульскага.

— Ну, ну... Не храбрыся... Дзяржыся за маё плячо.

І яны плылі так да самага берага, бо з заходняга боку было намнога глыбей.

...Цяпер яна адна і не адна. Куды б ні ішла, што б ні рабіла — не адна. З ёю — **яно**.

Яна ўжо чуе гэтую яшчэ лёгкую, але такую важкую ношу. Чуе перамены ў сабе, бачыць іх... І як гэта яна, дурная, не звярнула на гэтыя перамены ўвагу раней? Нават адсутнасць той прыкметы, што вядома кожнай жанчыне, не насцярожыла яе. Бо часта і дасюль было, што па два, па тры месяцы прападала тая прыкмета. Чула ад вопытных жанчын, ад той жа Райкі Дышаль, што гэтак можа быць — ад launch ператомленасці, ад нервовага перанапружання, ад знясілення арганізма. І не прыдавала значэння... Ажно вунь што!

«Мо хлопчык будзе? Нарабіў грукату, партызан... А можа — дзеўка? Усё роўна хто, абы знайшлося... Абы ёсць... Чуеш, Васільку? Ты са мною, ты не паміраў... Ты ніколі не памрэш... У нас будзе сынок... А можа, і дзеўчанётка, ты не крыўдуй... Яна будзе з тваімі вачыма дзівавіднымі, з тваімі вейкамі... А ў дзяўчынкі вейкі павінны быць яшчэ большыя, яшчэ гусцейшыя... Міргне — ветрык пагоніць, як матылёк крылцамі... Прытуліцца да майго твару, як ты... Будзе казытаць шчаку вейкамі, як ты,— мірг, мірг...»

Анюта змахвала са шчок слёзы і ўсё прыспешвала хаду — ныряла, падлазіла пад навісь галін, наступала на ссохлыя, без шыпулек, ялінкі, выварочваючы іх з коранем. Спынялася, прыслухоўвалася і зноў крочыла, не адчуваючы стомы.

Каб не гэты разяўлены бот, каб не так злямчылася, збілася ў насок шкарпэтка ў другім боце!.. Нацерла і

над пяткамі, і на костачках, параздзірала ламачынамі, папраколвала пальцы ў разяўленым боце...

А трэба ўсё вытрываць, адужаць... З ёю Васіль цяпер, з ёю — яно. Анюта ўжо не баіцца думаць пра Васіля, не баіцца «раскіснуць»... Яна плача — у асалоду, дае волю слязам — нібы адпусціліся ўсе тармазы. Балазе ніхто не бачыць... Ніхто не перашкаджае...

І слёзы падалі перад ёю, як вялікія, бліскучыя градзіны — на дол, на лісце кустоў, на грудзі, на боты, падалі густа, як капеж у час спорнага дажджу... Такога доўгачаканага, такога выратоўчага для змарнелага, спакутаванага сэрца.

«Жывы ты, мой Васілёк, жытняя красачка... Жывы! І будзеш жыць, пакуль я жыву, пакуль дачушка твая будзе жыць... Я ёй усё-ўсё пра цябе раскажу... І пра яе самую раскажу, колькі яна перанесла ўсяго, яшчэ не нарадзіўшыся... Каб дзеткам сваім пераказала... Каб праклялі вайну на векі вечныя... Твая доля, дачушка, і дзетак тваіх будзе шчасная... Не то што наша...»

Анюта раптам спынілася як укопаная. Паволі расшпіліла пінжак, прыціснула да жывата і адну, і другую далонь — і квола заўсміхалася. Яно зноў абзывалася, заяўляла пра сябе! Грукала мо рукамі і нагамі — незадаволена, патрабавальна, настойліва.

«Чую, дачушка, чую... Дурніца я, прыпусцілася, як на пажар... Я цішэй пайду, з асцярогаю, ляжы спакойненька... Набірайся сілы...»

Прайшла колькі крокаў, не адымаючы далоняў ад жывата, пакуль дзіця не ўціхамірылася. І было ёй самой уцешна, што ніхто не бачыць у лесе, як яна ідзе, што робіць з сабою. Ніхто не ведае, што яна зараз перажывае... Палова шчасця ў жанчыны — пабыць часам на адзіноце са сваімі думкамі і перажываннямі.

«Бунтарачка ты мая... Цярплівіца... Я пад кулямі поўзала, а ты маўчала... Я ў канавах тапілася, і там ты маўчала, чакала, калі ўсё гэта скончыцца... Не стрывала толькі, як у рацэ хлыналася: «Колькі ж можна? Я жыць хачу! Я хачу нарадзіцца!» Не нарадзілася яшчэ ты, а ўжо лопнула ў цябе цярпенне... Голас свой падала... Хто сказаў, што чалавека няма, пакуль не народзіцца на свет? Брахун ён, брахун няшчасны... Такое толькі мужчына мог прыдумаць... Толькі не жанчына, не маці... О, каб усе слухаліся вашага голасу!

Колькі б вы маглі сказаць людзям! Сказаць, яшчэ не з'явіўшыся на свет!..»

Ніхто такога мо не перажываў, ніводная маці... У іншага каго можа быць толькі падобнае, але не такое. Як і каханне — у кожнага чалавека сваё.

Яна была ўпэўнена, што ідзе строга на захад. Старалася кіраваць просценька, калі і абмінала дрэва ці куст, то тут жа азіралася на свае сляды, праводзіла вачыма ад іх уяўную прамую лінію і зноў падавалася ўперад.

Урэшце наўкол пасвятлела, пад нагамі пацупчэла. «Дарога... Ну, вось, а то баялася пакінуць Мікульскага аднаго». Паскорыла зноў крок, на апошні грудок як не ўзбегла...

У вочы бліснула вада!

Анюта замерла, як аглушаная, нават вочы працерла. Што гэта — возера ці яшчэ адна рэчка? Але ж няма на карце тут ні рэк такіх, акрамя Бобрыка, ні азёр, акрамя Кладоў... Клады ўправа, на поўнач. Да возера не магла яна так хутка прыйсці, каб хоць неўзабачкі і звярнула...

«Няўжо Бобрык?.. І бераг другі відаць...» — Анюта спусцілася да вады, сарвала травы, кінула на чысты прагалак. Плынь павяла былінкі направа. «І тады цякло направа, як мылася... Управа поўдзень, там мост. А хмары куды плывуць? О бож-жа, Бобрык!» — ледзь не крыкнула яна. Значыць, калі ісці паўз раку,— толькі ўправа ці ўлева? — і яна натрапіць на Мікульскага?.. Значыць, яна зрабіла па лесе круг, зноў прыйшла да ракі. Больш гадзіны блыталася ўпустую! «Добра, што хоць пад мост не заджгала, не ў лапы да немцаў!»

Зноў сыпанулі слёзы — ужо ад крыўды на сябе, ад прыкрасці. «Чалавек чакае не дачакаецца... А тут столькі часу сцерла!» Прамакнула вочы кулаком — ці сунецца куды шэрае покрыва хмар? Вучыў жа Мікульскі па ветры арыентавацца... «Ціха, супакойся... Плывуць жа, можна пазнаць...» Падкінула яшчэ ўгору травы... «Ага, ясна!..»

Рынулася ў гушчэчу кустоў са злосцю і з яшчэ большай зацятасцю. І ўжо не забывала часценька паглядваць угору, а не толькі пад ногі. Злосць на сябе не ўлягалася, не праходзіла. Сэрца тузалася ў грудзях, як непрывязанае, але Анюта не зважала на гэта. Не

думала і пра яго. Думала толькі пра свой абавязак, пра віну перад Мікульскім. Пра тое, як самая маленькая расхлябанасць на вайне тут жа помсціць.

«Нічагенька яшчэ для камісара не зрабіла... А ён мо думае, што ўжо назад прабіраюся, каня вяду...»

«Добра, каб ён заснуў там, на беразе... Хутчэй бы дачакаўся... Хоць бы боль не павялічыўся, не згубіў прытомнасць... А чаму б і не? Ахоўная рэакцыя арганізма. Мозг сам рэгулюе, адключае пачуцці, калі няўцерп робіцца. Можа, яму нават лепш — згубіць прытомнасць...»

«Ой, дурніца, што ты чаўпеш!..»

Спынілася, прыслухалася. Недзе справа натужна павіскваді калёсы. Штосьці часценька і глуха пагруквала, скрыпела, церлася.

— Н-ну-о! Гэх ты... Н-но-а...— падганяў каня мужчынскі голас.

Анюта павярнула правей, проста на гукі. Асцярожна, уважліва, без шуму. Вось і невысокі валік зямлі перад кюветам, густа зарослы маладою лазою. Не адна фурманка скрыпіць — многа... Злезла ў канаўку, цікнула з куста ўправа-ўлева. Фурманак было многа, занялі ўсю, як згледзець, дарогу. Везлі бярвенні з разабраных хат, уроспуск — даўжэйшыя, проста ў драбінах — каротшыя. Ішлі паўз калёсы дзядзькі, жанчыны, падлеткі — хмура, угнуўшыся, як на пахаванні. Праз кожныя тры вазы на чацвёртым тырчаў на бярвеннях немец або паліцэйскі. Узброеныя... Целяпаліся на бярвеннях пляскатыя скарынкі зляжалага жоўтага моху, на іншых — ашмоцце шпалераў, газет...

Анюта адпаўзла з кювета глыбей у лес, стаілася за ялінкамі. Можна і адсюль панаглядаць...

Ехалі не ўправа, не да возера, а наадварот, адтуль, мусіць, на шашу.

Параўнялася з Анютай сівая, нізкая кабылка. Дзядзька ў рудым суконным балахоне, з башлыком на галаве, ішоў побач з возам. Ускінуў раптам лейцы на бярвенне, гукнуў, павярнуўшы галаву назад:

— Банэдык, ты багаты на курыва? — і зноў зірнуў на свой воз — ці не ўпалі пад колы лейцы? Пад башлыком было цёмна, як у пограбе, і твару мужчыны Анюта не разгледзела. Другі дзядзька на наступных калёсах ехаў, а не ішоў упобачкі. Без шапкі, лысы, у кашулі наросхрыст. Пачуўшы запытанне, схіліўся на

адзін бок, дастаў з кішэні штаноў жоўты капшук з тытунём і крэсіва з кнотам.

Дзядзька ў башлыку прыстояў, пакуль параўняецца з ім воз лысага.

— Ты не паспеў намеціць свае? — спытаў цішэй башлык.

— Бярвенні? Не-а... Прасіў не чапаць хату, дзеці малыя... Дык траха вока не высадзіў немец...— дзядзька без шапкі асцярожна памацаў шчаку і пачаў выкрасаць агонь. Анюта ўжо разгледзела, што касмылі валасоў вакол лысіны ў другога дзядзькі тырчалі, як рожкі, шчака барвовая і апухла, прыкрыла вока, кашуля разадрана ў манішцы да штаноў.

— А я паспеў пазначыць даўжэйшыя...— сказаў башлык, угнуўшыся над кнотам і цмокаючы.

— Утахцяць у гразь, то аднакава будзе — і з меткамі, і без.

— Не кажы... Пажар і то абміне, бывае, каго, а гэта ж падчыстую. Было Гацішча — няма Гацішча... Курмель, кажуць, навёў немцаў...

— Адны прасценкі міжаконныя засталіся. Кажу Адэлі: «Не чакай, пакуль вярнуся, капай зямлянку... Накат зробім з кароткіх». Галосіць, рукі ломіць...— гаварыў лысы і нібы не слухаў башлыка.

Злева, з галавы абоза, ляцеў матацыкл з каляскаю. У ім сядзелі два немцы з аўтаматамі і паліцэйскі.

— Не збірацца! Разыдзісь! — закрычаў на сялян паліцэйскі з бліжэйшай фурманкі. Ён таксама баяўся тых, на матацыкле.

— У цябе можна капаць — высока... А ў мяне возьмеш на штых — вада! — дзядзька ў башлыку трушком пабег да свайго воза.

— Шнэлер! Шнэлер! — пакрыквалі і немцы з матацыкла, і паліцэйскі. Заварушыліся і тыя немцы, што ехалі на вазах, пасаскоквалі з бярвенняў, пачалі падганяць возчыкаў: — Бістро!

Матацыкл раўнуў як не ў самыя вушы Анюты, газануў міма. Клубкі пылу паволі нанізваліся, завісалі на яловых лапках, іголках. Запяршыла ў горле, і Анюта папаўзла глыбей у лес, каб не раскашляцца. Потым падхапілася і яшчэ прайшла, пакуль лёскат колаў і галасы сталі ледзь чуваць. Ішла ўздоўж дарогі на поўнач, прыслухоўваючыся, і калі на дарозе заціхла, зноў павярнула да яе.

На шляху было пуста і ціха, і Анюта рызыкнула выйсці на абочыну. І небяспечна, і Мікульскі забараняў, але ісці дарогаю лягчэй, мо ўдасца нагнаць дарэмна страчаны час.

Але не знойдзе яна ўжо растрачаную сілу: кульгала, кволілася, ногі згінала ў каленях як не сілком. Яны гарэлі і шчымелі невыносна, нібы іх абдалі кіпнем і дзяруць, рэжуць па жывому. Зноў ісці гушчарнікам, адчувала, проста не змагла б.

«А куды ісці? Няма ж Гацішчаў, няма там коней — пагналі ў абоз... Павезлі людзі свае хаты, пакідаюць у гразь бярвенні замест фашыны». Бачыла Анюта такія дарогі на Палессі — нібы бясконцы, бервяно да бервяна, мост, укладзены проста па балоце.

Вакол Гацішчаў павіны быць хутары. Яна ж бачыла на карце Мікульскага россып чорных, як актывіраваны вугаль з працівагаза, квадрацікаў. Трэба ж было добра прыгледзецца, дзе шукаць селішча, куды паварочваць з дарогі...

Неўзабаве лес адступіўся ад высыпанкі ў бакі, грэбля павышэла. Тут яна амаль напалам перасякала вялікую балацявіну, усю белую ад пушыстага падвею, нібы нападалі камячкі адлежнага снегу. Паўз дарогу блішчалі шырокія калюгі цёмнай вады, як у люстэрку, адбіваліся лісты-мячы рагозніку, бухматыя, як мядзведзі, зялёна-бурыя купіны.

Анюта памарудзіла — ісці па дарозе далей ці збочыць у лес і абыходзіць балота лесам? Калі ў абход — лішнія два кіламетры. Ды якія два! Пацягнуць яны на ўсе пяць.

А на дарозе можа здарыцца такое: дабярэцца да сярэдзіны грэблі — торк з абодвух канцоў немцы ці паліцэйскія!.. Куды кінешся? У балота, у твань? Калі не ўтопішся, то падстрэляць: месца адкрытае, хутка не прабяжыш...

І ўсё ж пайшла грэбляй. Шкандыбала няўклюдна, як на прамых нагах, уся падаўшыся наперад, прыспешвала сябе як мага. Хутчэй бы адолець гэты адкрыты ўчастак!.. Яна нават уявіла сябе адненькую, як тычка, на гэтым дарожным грэбні, і сэрца сціснулася ад страху: быццам яе ўжо ўзялі на мушку і вядуць, вядуць дулам... Вось-вось націснуць курок...

Як перагаварыла ўсё роўна: азірнулася на лёскат колаў і ўбачыла, як у самым пачатку балота каціўся

па грэблі лёгкі вазок. Гняды ўсхропваў, задзіраючы храпу, раз-пораз зрываўся на галоп. Анюта прыкінула розніцу ў скорасці — якраз нагоніць пасярэдзіне балота... Бегчы ўперад? Не паспее даляцець да лесу, хоць бы і крылы выраслі... А можа, гэта якраз той выпадак, на які яна разлічвала? Адна фурманка, і чалавек адзін у ёй — усё ў рукі само бяжыць...

Прыцішыла крок, сышла на абочыну. У галаве мітусня: што рабіць? Заступіць дарогу з пісталетам у руках? От толькі падпусціць трэба бліжэй, каб не ламануў, не даў дзёру назад... Але і лішне блізка не трэба — ірване ўперад, стопча канём — не дагоніш. Не страляць жа, сапраўды, па ім... А заступаць дарогу, калі будзе далекавата, можа здагадацца пра яе ліхія намеры... Калі ён узброены, здалёк можа расстраляць яе. А можа, ён і не адзін едзе, мо яшчэ хто ляжыць у вазку?

Азірнулася зноў — не, адзін... Каня не чукуе больш, а нібы прыцішвае, напяў лейцы аберуч. Па-гарадскому адзеты, у паўпаліто, на галаве капялюш ці магерка. Не паліцэйскі — ні формы чорнай, ні павязкі на рукаве, ні зброі... Хаця не — зброя можа і ў нагах ляжаць.

Яшчэ раз азірнулася. Здаравіла гэты возвік, плечы — як печ... Вусы падстрыжаны коратка, яны ненатуральна шырокія, нібы шчотка чысціць адзенне.

«Папрашуся, каб падвёз... Сяду ззаду... Пачну гаворку па-добраму, папрашу каня. Калі наш чалавек — паслухае... А не — дула ў спіну і прымушу...»

— Дзядзечка, падвязіце!..— падняла руку.

— Пыр-р-р! — затрэслася шырокая губа з вусамі.— Садзіся, нябога! — напяў лейцы. Скрыгатнулі цуглі аб зубы каня, упалі на дарогу шматкі зялёнай пены.

Пасярэдзіне драбін білы вельмі ўвагнутыя, лёстачкі кароценькія, на пядзю. Ззаду драбін таксама лёсткі-рашотка, каля яе капа сена. Дзядзька ўгнёў, сплюшчыў сена шырокім азадкам. План Анюты адразу парушыўся — сесці ззаду не было як.

— Хутчэй, сваячка, калі напрасілася! — у голасе дзядзькі пачуліся ўладныя ноткі. Варухнуў лейцамі, узяў з-пад ног пугу з елаўцовым, у гузаках, пугаўём. Глядзеў, прыплюшчыўшы вочы, як яна задзірае падраны бот на жалезную, бы павялічанае стрэмя, прыступку, як няўклюдна паварочваецца і садзіцца на біла, звешвае набок ногі. Анюта толькі на долю секунды ўба-

чыла яго светла-шэрыя, з рудым абадком вакол зрэнак вочы і адразу адчула на сабе іх таемную сілу. Не вочы — крывасосныя банькі.

— Но-о! — тузануў дзядзька лейцы, прыўзняўся, ляснуў пугаю па кані. Анюта схіснулася да дзядзькавых каленяў, учапілася ў біла аберуч.

— Здалёк ідзеш, пляменніца? — мільгнула з-пад вусоў нешта падобнае на ўсмешку, прыадкрыліся рэдкія, як праз адзін, верхнія зубы.

«Зноў прамашка... Мне трэба было першай папытаць, куды едзе...»

— З гэтага... З Парахноўска. А вы не ў Заграддзе, не пад Клады едзеце?

Вазок быў без рысор, трэсла моцна, кожнае Анюціна слова як бы перарывалася — бу-бу-бу.

— Туды, туды... Пад Клады. З паўстанка ты ці з самога сяла?

— З сяла.

— З-за чыгункі, значыць... Як там на чыгунцы сёння? Кажуць, партызаны папрацавалі здорава — усё ў паветра пусцілі...

— А я не ведаю, дзядзечка. Я цераз пераезд ішла, там паглядзелі аўсвайс і пусцілі.

— Дык у цябе і аўсвайс ёсць?

— Агы...

— І-іч ты-ы... Хм...— недаверліва працягнуў вознік. Анюта зірнула яму ў твар — што значыць яго хмыканне?

Дзіўны быў твар у чалавека: ад носа да губ мо ўдвайне шырэй, чым ад губ да падбароддзя.

— А да каго ж ты там, у Заграддзі? — возчык падцягнуў пад сябе ногі, нібы збіраўся ўставаць.

— Вы мо і не ведаеце... Там, над самым возерам, на пабярэжніцы, матчын брат жыве... Бутылёнак прозвішча... У іх куча альховых акораных бярвенцаў пад плотам і лодка з гнілым дном...— пляла, што ў галаву лезла, Анюта.

Грэбля канчалася. Уперадзе, дзе коса збягаўся да дарогі справа і злева лес, зноў паказаліся маленькія, як мурашкі з іглiцай, фурманкі з бярвеннямі. Папераддзе абозу ледзь чутна трахкацеў матацыкл з каляскаю. «Упусціла момант... Упусціла! Трэба было адразу даставаць пісталет...» — думала Анюта і не магла прыдумаць ніякага выйсця са становішча.

— Н-но, воўчае мяса! — гаркнуў раптам, прыўзняўшыся, дзядзька. Апускаўся і наводмаш сакануў Анюце далонню па шыі.

У вачах яе бліснулі чырвона-чорныя кругі, і ўсё памеркла...

Яна не чула, як возчык ірвануў яе за плячо, каб не выпала з вазка, заваліў глыбей у драбіны. Пачула толькі, як крутнуў яе тварам у сена, ціскануў каленам між лапатак, заломваючы, аж хруснула ў плячах, рукі за спіну...

* * *

Эдзік, Эдзік...

Яго спаткалі ў лесе напалову адзічэлага. Гэта было ўжо на гэты бок граніцы з Польшчай, як павярнулі з пушчы на поўдзень. Хацеў Васіль паказаць месца баёў трыццатай танкавай дывізіі, яго дывізіі, у першы і другі дзень вайны...

Хаця не, хутчэй гэта Эдзік іх запыніў. Іх завабіў малюсенькі дымок, што падымаўся з зараслага і заваленага бураломам яра на беразе Лясной. У іх была яшчэ адна запалка, яе ашчаджалі як недатыкальны запас, таму адразу і затупалі каля яра, бы лісы вакол заечай лежні. Не ўбіцца, не ўлезці, каб паглядзець, адкуль точыцца той дымок: ажыннік, крапіва роўна з берагамі. У іх некалькі сутак не было нічога гарачага ў роце, хоць займелі ўжо і кацялкі — знайшлі на месцы прыгранічных баёў.

Пакуль перагаварваліся, тут ці не тут спыніцца на адпачынак, іх аклікнуў хлапечы хрыпаты голас:

— Ану — падыміце рукі!

Рук яны не спяшылі падымаць, павярнуліся назад, пазадзіралі галовы. Голас даляцеў з дуба.

— Не варушыцеся, вы пад прыцэлам кулямёта! — нешта ў голлі гучна ляснула, бы метал аб метал.— Хто такія?

— А ты хто? Калі хочаш знаёміцца, называйся першы,— міралюбна сказаў Мікульскі.

— Лічу да трох і страляю. Раз!..

Васіль абыякава павярнуўся спінаю да дуба, прамармытаў: «Скажэнны!» — і сеў на бераг яра.

— Сідай, Тыміш... А то оцэй партызан-одынэць шчэ доўга будэ нас дапытваць.

Мікульскі не сеў, а лёг, з асалодаю выпрастаў ногі.

— Два!..— затрэсліся галіны дуба.— Тры!!!

Гуп! — скокнуў нехта на дол. Знарок не адварочваліся, не глядзелі. Зайшоў з другога берага яра, агледзеў іх хлапчук-абарванец гадоў трынаццаці. Твар, рукі, босыя ногі пакрыты чырвонымі балячкамі, нібы ў яго была воспа-вятранка.

— А вы адкуль ведаеце, што я партызан-адзіночка? — спытаў ён задзёрыста.

— Голас у тэбэ дужэ смілывый, тай вэсь выгляд, начэ ў орла.

Падлетак прыняў гэта як належнае, абышоў вяршавіну яра, наблізіўся да іх.

— А вы таксама партызаны?

І Мікульскі, і Васіль прамаўчалі. Яны яшчэ не задумваліся дасюль, хто яны такія. Ішлі на ўсход, і ўсё, намерваліся так ісці месяц, паўгода, колькі спатрэбіцца, пакуль не дабяруцца да фронту.

— А што, у цім лісі е партызаны? — пацікавіўся Васіль.

— Сышлі... Тут блакада нядаўна ішла... І цяпер ёсць, але не бяруць мяне. Першы раз сказалі: без зброі не прыходзь. Я дастаў кулямёт ручны, без дыска, праўда, але добры. Я разбіраў яго, чысціў... Не бяруць! «Дзіцячы сад нам не трэба!» — гавораць. А я не з дзіцячага сада, а з Дамачаўскага дзіцячага дома. І я ўжо не маленькі!

— Як цябе завуць, хлопча? — як мага лагодней спытаў Мікульскі. Нечым гэты натапыраны вожык пачынаў яму падабацца.

«Партызан-адзіночка» падышоў яшчэ на адзін крок, даверліва прысеў.

— Эдзік. Галубоўскі Эдуард Браніслававіч.

— Што гэта ў цябе на твары, на руках?

— Ат... Так...— адмахнуўся Эдзік.— Камары накусалі, параздзіраў.

Хлапчук быў худы, скура ды косці, твар бледны, мурзаты.

— Што за рэчка, каля якой ты пасяліўся? Ваду не любіш...

— Правая Лесна... Чаму не люблю? Я нават рыбу лаўлю.

— Не мыўся мо год...

— А-а, гэта з-за вавак. Хай зажывуць, тады.

— А як тут апынуўся? Дамачава недзе каля Украіны.

— Немцы нашых дзяцей пачалі вывозіць. У меншых кроў бралі, а тады стралялі...— Эдзік гаротліва зморшчыўся, шморгнуў носам, затрымцелі і губы.— Большых на машынах у Брэст везлі ці куды... Я выскачыў на хаду... Во, шрам на барадзе: да касці рассек аб брук. Я тут з самай вясны, ішоў сюды, дык яшчэ вады поўна было. Думаў, раз тут большыя лясы, Белавежская пушча, значыць, і партызанаў больш...

На шчырасць трэба было адказваць шчырасцю. Расказалі яму, хто яны, куды ідуць. І тут разыгралася немаведама што: Эдзік раптам заплакаў, закалаціўся, стаў поўзаць каля іх на каленях, прасіцца, каб узялі з сабою на фронт. Хапаў іх за ногі, за рукі, мачыў слязамі.

Васіль урэшце прыкрыкнуў на яго:

— Я розумію, чаму тэбэ нэ бралы ў партызаны! Тобі шчэ сіська трэба, шчоб нэ плакаў!

Эдзік адвярнуўся ад іх, пасядзеў, угнуўшыся, а тады паволі споўз у яр — на жываце, як яшчарка, шмыгнуўшы пад ніжняе голле кустоў. З дна паваліў гусцейшы дым. Сядзеў там доўга, мусіць, пакрыўдзіўся.

Паклікалі да сябе... У Эдзіка былі нажыўлены тры самаробныя донныя вудачкі. Дастаў — на адной пакручваўся ладны, з кілаграм, сомік, на другой трапятаў акунь. Пакуль пяклі на кастры і елі — пасябравалі.

Эдзік забраў са свайго гнязда на дубе толькі старую фуфайку, якая служыла яму і за паліто, і за коўдру. Кулямёт так і пакінуў вісець прывязаным да галіны.

Ён паказаў ім спачатку лабаты, шэра-зялёны ад моху і лішайніку дот, з якога дастаў той кулямёт. Жалезныя дзверы з усходу завалены зямлёю на дзве трэці. Канты ў амбразуры няроўна аббітыя, нібы павыгрызаныя, ды і ўся заходняя сценка, якая больш узвышалася над зямлёю, у неглыбокіх мецінах-ямках ад куль. Мусіць, немцы доўга абстрэльвалі яго.

— Во паўз гэты край я лазіў, тут выламана шырэй...— паказаў Эдзік на амбразуру.— Там тры нашы салдаты ляжаць, шкілеты ўжо... Гільзаў — па калені!

— А дзе тыя партызаны атабарыліся — не забыў? — папытаў Мікульскі.— Трэба было б пазнаёміцца.

Эдзік павёў. Пераходзілі нейкі звілісты ручай, перасякалі лясныя дарогі, прабіраліся лесам, пакуль не засвяцілася вялікая, гектараў на два, паляна-лужок з двума стажкамі сена.

— Вы пастойце тут, на ўзлеску, я потым дам сігнал,— і Эдзік адзін пайшоў да стагоў, насвістваючы «Кацюшу». Пароль, мабыць...

Да яго выйшаў з-за стога адзін чалавек, потым яшчэ адзін, пагаварылі. Эдзік замахаў рукою — «Да мяне!».

Падышлі. Тыя двое былі напалову ў ваенным. На пятліцах у аднаго, круглатварага, цямнела па квадратнай плямцы ад «кубароў» — малодшы лейтэнант, значыць. У другога, сяржанта, трохкутнічкі былі на месцы. «Хто такія? Ці ёсць зброя? Куды ідзяце?» — засыпалі Мікульскага і Васіля пытаннямі.

— Эх-ха... Гора з гэтымі рамантыкамі!..— уздыхнуў лейтэнант знарок падкрэслена.— Усё парываюцца недзе ісці...— і раптам як узарваўся, закаціў істэрыку: — А куды ісці? Дзе той фронт?!

— А з такім настроем, як у цябе, толькі і сядзець у балоце. Падкарчэўныя настроі! — павысіў голас і сяржант. Мабыць, так яны спрачаліся ўжо не раз.

— А калі ты такі ваяка, то чаго кінуў атрад? Чаго ўцёк ад партызан?

— Ты выбірай выражэнне!.. «Уцёк, уцёк...» Я гаварыў ужо: раз-бі-ілі той атрад немцы... Разбілі, панятна? Мала хто і вылузаўся...

Лейтэнант стаяў згорблена, з крывой недаверліва-іранічнай усмешкай глядзеў на сяржанта. Цыркнуў слінаю, адвярнуўся да Мікульскага.

— Заставаліся б з намі... Былі б і сытыя, і абутыя-адзетыя... На зіму на хутарах уладкаваліся б... Мы ўжо раз зімавалі так...

— Далёка яшчэ да зімы,— сказаў Мікульскі.

— От ты ваяка! — усё не мог супакоіцца сяржант.— Абоз нямецкі высачылі і то ледзьве рашыліся напасці...

— Усё гора — ад розуму, правільна класік сказаў. Вельмі ўжо разумненькія ўсе сталі, усім пакамандаваць хочацца...— лейтэнант плюнуў на пакошу.

— Ніхто на тваё камандзірства не кваціцца! Цешся сабе на здароўе! А я больш тут заставацца не магу...— сяржант пайшоў за стог.

— Ладна, Іване... Пакрычалі — здаволіліся...— лейтэнант адгарнуў ад стога наскубленае сена.— Бярыце, таварышы, абувайцеся! З савецкіх складаў. Людзі паразбіралі было, а потым нам пааддавалі...

Пад стогам ляжала куча абутку. Толькі аднаго абутку, адзення — ніякага. Мікульскі падабраў Эдзіку салдацкія моцныя чаравікі, без абмотак. Васіль абуў боты — «паўбуты» лесніка ўжо развальваліся. Шкада, што безануч, без шкарпэтак. Ды разжывуцца калі-небудзь і на гэтую дробязь. А сабе зноў не мог нічога падабраць — малое!

Мікульскі спрабаваў распытаць у былога лейтэнанта, колькі іх тут, якія баявыя аперацыі правялі. Той крыва ўхмыльнуўся:

— Дванаццаць было... Пасля кожнае аперацыі — меншае...

— Гінуць?

— У прымаках застаюцца. Удовушак па хутарах багата! А мы яшчэ трымаемся з Іванам, не паддаёмся... Спяць двое, «перабралі» пасля аперацыі... Двое па прадукты пайшлі.

З-за стога ў гэты час пачулася магутнае, як ільвіны рык, пазяханне.

— Малодшы, што за гамана? Што за шум?

— Спі, цябе не датычыцца.

— А ў вас яка зброя е? Падарувалы б нам...— сказаў Васіль.

— Мала. Зброяй падзяліцца не можам. Дык што — не застанецеся?

— Ні! У нас часу нэ мае для цёга! — Шыпняк памкнуўся ўжо ісці.

З-за стога выйшаў сяржант Іван — у шынялі, падпяразаны рэменем.

— Я з вамі, таварышы.

Былы малодшы лейтэнант раптам загнуў трохпавярховага мацюка.

— Ідзі! Баба з воза — каню лягчэй. Ідзіце, пакуль я не ўсадзіў у кожнага па кулі!

Сяржант Іван адказаў са стрыманым яхідствам:

— Прыберажы для сябе. Могуць спатрэбіцца самому...

— Заткні халяву, прыблуда! Я яшчэ не папытаў, чым ты займаўся да нашага атрада!

— Я ваяваў.

— Ваяка!.. Растакую тваю...

— Ых-хыў-хэў... Ну, што там за грызня зноў? — глуха данеслася з-за стога.— Калі вы скончыце высняць анкетныя даныя?

— Хадзем, хлопцы...— Мікульскі першы павярнуў на ледзь прыкметную ў траве сцежку.

На душы была каламуць, прыкрасць. Якія ж гэта партызаны? Жменька акружэнцаў, якія ніяк не могуць пра гэта забыць. А за год можна было б такі атрад згуртаваць!

Распытвалі пра мясцовых партызан у Івана Пыкава — ён урэшце сказаў сваё прозвішча. Што гэта за пушчанскі атрад, пра які ён памінаў? І расказаў ён, што ведаў: так, быў на поўначы пушчы вялікі атрад з мясцовых актывістаў і былых чырвонаармейцаў. Добра ваявалі, даліся ў знакі. Гэта супраць яго і першых партызанскіх груп Белавежы рабілі немцы блакаду. Пыкаву ўдалося паваяваць разам з гэтым атрадам, ён проста цудам уратаваўся, прыстаў потым да групы лейтэнанта. Падбіваў іх, каб шукаць новы атрад, далучыцца да яго. Не хочуць — «Свой атрад збяром!». Але і тых людзей разгубілі, што былі.

Ішлі на ўсход, а не на поўдзень. Не схацеў Мікульскі рабіць крук. Пасля сустрэчы са «стагавымі партызанамі» і яму, і Васілю як у пяты запякло: вельмі ж марудна яны ідуць! Ліпень на зыходзе, вайне другі год пайшоў...

А пра бітву трыццатай танкавай на дарозе Пружаны — Відамля Васіль і так расказаў. Гэта было на другія ці трэція суткі іх сумеснага з Эдзікам і Пыкавым паходу, як абагнулі з поўдня вялікае Дзікае балота, прайшлі амаль усю Ружанскую пушчу.

Днявалі на бярозавым узлеску, смажылі на агні каласкі пшаніцы, і Васіль расказваў. І чым больш хваляваўся Шыпняк, прыкрываючы вочы скалечанаю рукою, тым больш пераходзіў на «рыдну» мову і заікаўся. Ва ўяўленні Мікульскага паўставалі малюнкі вялікай бітвы першага і другога дня вайны... Нечуванай па лютасці і самаахвярнасці... Бітвы, пра якую мо ніхто і не ведае, якую нельга было нават уявіць ва ўсёй паўнаце.

Расказ-рэквіем, расказ-памінкі...

Расказ-споведзь...

Мікульскі мо не помніць з таго расказу ніводнага прозвішча, хоць Васіль называў, здаецца, многа. Камандзір Васілёвага танкавага батальёна быў маёр — Бандарын, Бандурын ці Бандаронак... І ў камандзіра роты было падобнае прозвішча, і ў камандзіра батальёна...

А сам Васіль у час таго расказу запомніўся добра. Як жывы стаіць Шыпняк у вачах...

Мікульскі памацаў каля сябе шлем, што пакінула Анюта,— вады было на донцы, адзін глыток. Падняў яго — цяжкі, набрынялы, што губка,— сцадзіў у рот...

«Ах, Васіль, Васіль... Праз сто смерцяў прайшоў... А скасіла сто першая...»

...У пункты збору з летніх лагераў танкі прымчалі ў чатыры пятнаццаць раніцы. Напрасткі, па драбналессі, падмінаючы гусеніцамі, ломячы маладыя бярозкі і сосны. Ажно цешыўся Васіль: якая тэхніка, якая магутнасць! Як садзіліся ў танкі, яны былі сівыя ад кропель расы, а прымчалі — брудныя, абляпаныя гразёю, пакрытыя карою пылу.

Палалі Пружаны, палалі казармы, склады паліва. Узрываліся цыстэрны з бензінам, і ўгору ўзляталі, як пратуберанцы, клубы агню і дыму. Гэтага дыму і агню было паўнеба, і меркла за ім, ніяк не магло прабіцца сваімі промнямі вялікае, крывава-чырвонае сонца. А самалёты ўсё пікіравалі на ваенны гарадок, на Пружаны, заход за заходам рабілі на аэрадром, кружылі, як варанне. Трэслася, біла ў ногі зямля — ажно падгіналіся калені. Асінкі ўздрыгвалі кожнай галінкай, а не то што лісточкам. Гул выбухаў бомбаў быў басавіта-раскацісты, далятаў пасля, нібы гэты землятрус рабіўся асобна, а грукат — асобна, і адно з другім не было звязана.

Добра, што і людзі, і тэхніка былі ў летніх лагерах, на вучэбным палігоне! Добра, што немцы не ведалі дакладна яго размяшчэнне, як ведалі месца казармаў і складаў!

Рыхтаваліся ў мірны час да ваенных дзеянняў ста-

ранна, лепшыя месцы ў акрузе займалі па танкавай стральбе — а застала вайна знянацку...

Два танкавыя палкі мела трыццатая дывізія, а вайну сустрэў адзін іхні няпоўны полк — два батальёны ўстарэлых танкаў. Другі полк пааддаваў старыя танкі Т-26, Т-28 у другія часці і чакаў новыя, Т-34, без нічога, ледзь не з голымі рукамі.

Дваццаць другога чэрвеня зранку Васіль яшчэ не ведаў, што ў камандзіра іх дывізіі палкоўніка Багданава няма ўжо сувязі з вышэйшым начальствам, што яны імчацца на захад — «затрымаць, адкінуць ворага за межы дзяржаўнай граніцы» — толькі па загадзе, што быў у чырвоным пакеце за пяццю пячацямі, пакеце, які дазвалялася ўскрыць толькі пры абставінах звышнадзвычайных. Паслаў танкі насустрач ворагу Багданаў упершыню не па статуце — паперадзе, а не за часцямі прыкрыцця, і нават не ў адных шарэнгах з імі, як рабілася дасюль на вучэннях.

Ляцелі па шашы з адкрытымі люкамі, як на парадзе. Так лепш было сачыць за сцяжкамі сігналістаў, за танкам камандзіра батальёна, з якога павінны ляцець ракеты-каманды.

На маршы іх і накрылі самалёты. Ляцела чарговая эскадрылля на Пружаны ці далей, і раптам частка самалётаў легла на крыло, зрабіла разварот. Падалі на калону з боку сонца, адзін за адным. Енк і скрыгат, нібы па жывому разрывалі паветра... У Васіля спацела ад напружання патыліца, быццам усе самалёты цэліліся толькі ў аднаго яго. Але не хаваўся ў люк, не закрываўся. Высунуўшыся, лягчэй было сачыць за камандзірскім танкам, за самалётамі. «Прыбавіць хуткасць!» — прасігналілі з галавы калоны. А яны і так ужо ляцелі на гранічнай хуткасці, выціскаючы з машын усё магчымае і немагчымае. Над галавою махнулася зялёная, з чорна-белымі крыжамі на крылах, махіна, засланіўшы паўсвету. Каля трэцяга з галавы калоны танка ўздыбілася велізарная скала агню і камякоў зямлі, каменняў. Танк стаў на дыбы, нібы наляцеў на гэтую скалу, і zаваліўся набок, удзёўбнуў гармату ў броўку кювета. Разарваная гусеніца бліснула тракамі і звілася ўперадзе колцамі, як змяя. А самалёт зноў набраў вышыню, паўкругам заходзіў з усходу.

«Хто ж гэта? Хто накрыўся?» — сіліўся адгадаць па бартавым нумары Васіль, зноў выглянуўшы з лю-

ка. Ён зусім забыў пра асабістую бяспеку, ніяк не верыў, што чарговую бомбу маглі прызначыць ужо яму. Зноў стогн-енк самалёта над галавой, ледзь справіўся ляснуць, прыкрыць вечка люка, і танк здрыгануўся, пасунуўся ўбок, па брані аглушальна зазвінелі асколкі. Васіль зноў выглянуў, ён хваляваўся, перажываў за ўсю калону. Уперадзе быў затор, танкі стоўпіліся каля падбітага, не рашаючыся аб'язджаць. «Рабі, як я!» — узвілася з камандзірскага танка ракета, і машыны павярнулі з дарогі, да бярозавага гаю за палоскамі жыта. Васіль цапнуў вадзіцеля за плячо, і той выключыў правы фрыкцыён, тармазнуў. Танк крутнуў з дарогі, ажно прысеў на левую гусеніцу. Гахнула ў канцы калоны, ядрамі разляцеліся ў бакі камяні бруку. Чарговы самалёт выходзіў з піке над Васілёвым танкам, стаўшы на хвост. Матор чыхаў, даваў перабоі, здавалася, пульні ў самалёт з рагаткі, і ён тут жа зваліцца. «Гады... Запячатаць хочуць калону з двух канцоў... Расколваць будуць па адным, як арэхі...» Яшчэ дзве бомбы гахнулі па калоне — адна на шашы, другая паўз дарогу, у жыце. Не пацэлілі!

Танкі, паласуючы пасевы, спяшаліся ўкрыцца пад голлем бяроз, і астатнія самалёты ўжо не пікіравалі, а праляцелі над шашою, палеткам і гаем, сыпнуўшы бомбы ўроскідку, як са жмені.

Адсталі, павярнулі на Пружаны...

У гэтым лесе, паміж вёскамі Дымнікі і Завершы, сабраўся амаль увесь батальён. Пылалі на дарозе два танкі, бронеаўтамабіль, ляжаў адзін танк на баку з разарванай гусеніцай.

Выслалі разведку ўбок — на дарогу Рэчыца — Камянец.

А з галоўнай паходнай заставы — узмоцненага ўзвода танкаў з бронеаўтамабілямі і матацыкламі — перадаў па радыё лейтэнант Іван Сталяроў (рацыі былі толькі на яго танку і ў камандзіра батальёна): «З боку Відамлі ідзе да халеры танкаў. Уступаю ў бой!»

І зноў імчалі на захад на гранічнай хуткасці. Чулі грукат няроўнага бою ўперадзе, бачылі, як устаюць з-за рэдкага лесу высокія чорныя дымы — чатыры ці пяць, два надта шырокія, нібы здвоеныя.

Лес расступіўся, адбег ад дарогі, рассыпаўся кустамі і драбналессем па пагорках. Убачылі, што дымы, вялікія і злавесныя, былі яшчэ далей на захад, узні-

маліся з-за другога лесу — шыза-сіняга, густога. Навісалі дымы каўтлякамі, расшыраліся хмарамі ўправа-ўлева, паўзлі, распасціраліся насустрач ім, на ўсход, сеючы трывогу і няпэўнасць. Што там? Якая разыгралася трагедыя?

Дарога разрэзвала той цямнейшы лес на дзве няроўныя палавінкі, нібы выламала некалькі зубцоў грабянца, і з гэтай расколіны-шчарбіны выпаўзалі, варушыліся, як зялёныя клапы-чарапашкі, нямецкія панцыры.

Калона спынілася, залязгалі, заскрыгаталі гусеніцы.

«Чаго сталі?» — «Немцы! Баявы парадак трэба прымаць!» — застукалі вечкамі люкаў, перакрыкваліся камандзіры танкаў. Сустрэлі, аказваецца, сувязнога ад Сталярова. Ехаў на матацыкле насустрач — укосікі, як п'яны. Толькі і сказаў: «Хутчэй!.. Гінуць хлопцы... Танкі ў немцаў Т-ІІІ і Т-IV... Снарады ў лоб не бяруць...» — і зваліўся на рукі танкістаў.

Галаваcты мужык быў той маёр Бандарын, Бандурын ці Бандаронак — камандзір батальёна. Першай і трэцяй танкавым ротам ён скамандаваў размясціцца па ўзлеску, на пагорках, замаскіравацца. У гэтых ротах многія Т-26 былі з 37-міліметровымі гарматамі. Іх задача — біць з засады па бартах, па баках з палівам, падпускаючы як мага бліжэй. У другой роце большасць машын была з 45-міліметровымі гарматамі, другая і кінулася насустрач немцам...

Мабыць, панцыры лёгка справіліся з групай Сталярова. Бо, нават заўважыўшы нашы танкі, яны не спяшаліся прымаць баявы парадак, усё яшчэ грузна валюхаліся ў паходнай калоне, выпаўзалі з лесу, як доўгі, пасечаны на членікі ўдаў.

Справа ад шашы на схіле пагорка быў папар, а далей пад цёмны лес ружавела канюшына. Па левы бок дарогі каля ўзлеску зелянела ярына, бліжэй да дарогі і ледзь не да самых нямецкіх танкаў стракацеў кветкамі луг з нізкімі купчастымі кусцікамі. Нашы танкі рассыпаліся ўступамі ўправа-ўлева ад дарогі, прыбавілі хуткасці, каб хутчэй абагнуць нямецкую калону. Хто быў бліжэй да дарогі, да немцаў, не вытрывалі, павялі агонь па шчылінах для назірання, каб асляпіць, аглушыць немцаў. Снарады чыркалі, рыкашэцілі або ўзрываліся, асыпаючы панцыры асколкамі. Але яшчэ

ніводзін нямецкі танк не спыніўся, толькі вежы з гарматамі варушыліся. Пярэднія танкі нязвыкла прыплюснутыя, з прамавугольнымі зрэзамі вежаў і кароткімі таўстаствольнымі гарматамі пачалі агрызацца ў адказ, спаўзаць з дарогі ўправа і ўлева, выстройваючыся клінам ці ромбам. Але час яны ўжо ўпусцілі!..

«51» і «17» наблізіліся да нямецкіх менш чым на сто метраў. Збоку! «Страляйце ж! Страляйце!» — захацелася закрычаць Васілю на ўсё горла. І тыя прыпыніліся, з гармат выкінуліся тонкія язычкі агню — проста па крыжастых бартах... Ёсць, гарыць адзін Т-III! Прабілі!.. Можна і іх прабіваць!.. Рванулі нашы з месца, каб яшчэ больш зблізіцца, нібы збіраліся ісці на таран. Але ўжо некалькі нямецкіх танкаў развярнулі гарматныя ствалы ім насустрач. Гах! — і ў «51» у дыме і агні варухнулася, як шапка грыба, уся вежа. Над «17» выбухнуў фантан агню — узарваліся бакі з бензінам. З гэтага пекла яшчэ выкінулася, прачарціўшы агністую дугу, фігурка чалавека. Пылаючы, як паходня, прабегла колькі крокаў і рухнула вобзем...

Стральба з абодвух бакоў усё гусцела, ператваралася ў кананаду. На лузе і на полі ярыны нібы хто імгненна высаджваў фантастычныя земляныя дрэвы, а яны не слухаліся, ападалі камякамі, слаліся над зямлёй удушлівым дымам-прахам. Ужо гарэла да дзесятка нашых і нямецкіх танкаў, а карусель смерці ўсё кружылася ў дыме і чадзе, бляску выбухаў. Нашы лёгкія танкі нібы танцавалі наўкола нямецкіх, выкручваючыся ад іх удараў, наровячы самі ўтнуць ім у борт ці ззаду, у маторную частку.

Васіль «на асляпленне» зрабіў толькі два стрэлы — пашкадаваў снарадаў. Ён не паспеў абысці нямецкія танкі злева, але ўбачыў, што адзін T-IV, ці не той, што падбіў «семнаццатку»,— падставіў яму свой борт. Бах! — і панцыр успыхнуў мо праз хвіліну пасля «17». Расстраляў з кулямёта яшчэ двух нямецкіх танкістаў у чорным, што выскачылі з люкаў. З-за падпаленага танка тут жа выпаўзла другое страшыдла — здалося, надта шырокае, пляскатае, павяло гарматаю ў іх бок. «Сямён!!!» — закрычаў, угнуўшыся, вадзіцелю, але той ужо сам скеміў, ірвануў Т-26 уперад, бліжэй да палаючага нямецкага. Можа, таму, што блізка, але здалося: палаunion гітлеравец па іх, як з агнямёта. Міма! Далей паварочваць за імі немцу не было як — перашкаджаў

гэты, што гарэў. А Сямён крутнуў вакол агню і апынуўся ў немца ззаду. Паляўнічы і ахвяра памяняліся ролямі. «А-а, фашысцкая морда!» — ажно стагнаў, як ад зубнога болю, Васіль, ліхаманкава круцячы ручкі пад'ёмнага і паваротнага механізма гарматы, да болю ціснучы брыво да трыплекса, узіраючыся. «Давай!» — крыкнуў вежаваму стралку, і тут жа грукат невыносна балюча ўдарыў па барабанных перапонках — забыў разявіць рот. Ёсць, гарыць і другі!

Адскочылі на святлейшы прагалак у дыме, далей ад дарогі, адкінулі накрыўкі люкаў — каб выпусціць трохі парахавы смурод і чад. Убачылі: па лузе адпаўзалі, адплёўваючыся агнём, некалькі панцыраў. «Ага-а!!! Апякліся!»

Каля самай дарогі палыхала куча металу. Таран... Наш танк расколаны, як запалкавая каробка, вежа ажно заскочыла на нямецкі. І яшчэ таран, дымны магутны касцёр, бліжэй да іх...

Усяго ў розных месцах — і па гэты бок дарогі, і па правы, на пустэчы папару, палыхала вогнішчаў дваццаць. Тры нямецкія панцыры прарваліся паўз дарогу да таго месца, дзе сходзіліся да шашы крылы ўзлеску. Тры прарваліся, тры і дымілі — падбілі іх з засады.

Эх, каб не бензін быў у нашых машынах! Каб хоць на міліметраў дваццаць была таўсцейшая браня! Каб не толькі ад куль і асколкаў!.. Ды больш магутную гармату!.. Ды каб засталася такая ж хуткасць і манеўранасць! «Броня крепка и танки наши быстры, и наши люди мужеством полны...» Праўда ўсё, праўда, хапае мужнасці і стойкасці... А от браню, то трэба было б мецъ супрацьснарадную. «Цікава, якая браня ў Т-34? Столькі шапталіся пра гэты сакрэтны цудатанк...»

«Што далей рабіць? Чаму ніхто не камандуе?» — Васіль намагаўся разгледзець сярод гушчарніку дымоў танк камандзіра батальёна. Ці ён застаўся ў засадзе з першай і трэцяй ротай, ці атакаваў з другой ротай нямецкую калону?

Бой заціхаў, снарады рваліся ўжо зрэдку, татакалі сям-там кулямёты. Раптам Васілёў танк здрыгануўся ўсім корпусам, яго прыўзняло і зноў кінула вобземлю. З-пад правай гусеніцы ўскінуліся касмы агню і зямлі, дзынкнулі па днішчы асколкі. Аглушаны, Васіль амаль упаў у вежу, накрыўка люка балюча ляс-

нула па пальцах. Застагнаў Сямён. «Ты паранены?» — зачапіў яго за плячо. «Нічога, нічога... Ты зірні гусеніцу, здаецца, спякліся...» — «Што зірні?» — «Гусеніцу!!!» Васіль адкрыў зноў люк, падцягнуўся на руках, вылез з вежы. І толькі скокнуў, мо яшчэ ў паветры ляцеў, як новы аглушальна-звонкі выбух ударыў па перапонках. Снарад разарваўся ў сярэдзіне танка, машыну ўраз ахапіла полымя.

Васіль выплюнуў з рота зямлю, адпоўз далей ад танка, зноў уткнуўся тварам у сакавітыя, халодныя сцябліны ярыны і зарыдаў: няма Сямёна, няма цёзкі — Васіля, вежавага стралка. Калі ён зноў падняў галаву, то ўбачыў, што яму махае рукою, бязгучна разяўляючы рот, танкіст з вежы танка «13» — белагаловы, без шлема. Выцягнуўшы на вежу кулямёт, ён страляў па гусеніцах нямецкага Т-III, які моцна нахіліўся набок, але яшчэ не здаваўся. З-пад танка адстрэльваліся з аўтамата, адзін немец тузаў парваную гусеніцу, спрабуючы даць ёй нейкай рады, і таксама страляў па «трынаццатым» з пісталета. Варушылася вежа, ведучы ствол гарматы ад Васілёвага танка. «Гад! Дык гэта ты расстраляў маю машыну!..» Т-III ужо скіраваў гармату да «13». Выратаваў дыферэнт: як ні апускаў ствол гарматы нямецкі танкіст, «трынаццатка» заставалася ў мёртвай зоне. «Сюды!» — не пераставаў махаць яму белагаловы. З дула кулямёта выскаквала полымя — біў кароткімі чэргамі па гусеніцах панцыра, не даючы немцам падпаўзці да яго з гранатамі.

Паміж пылаючым Васілёвым танкам, «трынаццаткай» і падбітым нямецкім можна было вычарціць трохкутнік. Васілю, каб дабрацца да белагаловага танкіста, трэба было прапаўзці па гіпатэнузе, упоперак разораў метраў пяцьдзесят. І калі ён выпаўз на грэбень палоскі, немец з пісталетам пачаў цаляць і ў яго. І тут жа змоўк — ці патроны скончыліся, ці белагаловы яго падстрэліў. Васіль усхапіўся, крыху прабег — рой куль праляцеў дзесьці за плячыма. Упаў у разору, у якой стаяў і нахілены панцыр. Аўтаматчык зноў стракануў па ім, успароў кулямі зямлю каля самага боку... Васіль скокнуў, як мячык, з ровіка, перамахнуў цераз пукатую, як вал зямлі, палоску колішняй раллі, упаў у суседнюю разору. Та-та-та! — запазніўся аўтаматчык, кулі свіснулі над галавою, Шыпняк пачуў ужо іх. Зноў падхапіўся... Тэ-трэт! Аўтаматчык

біў раз па ім, раз па «13». Паспрабаваў шлегнуць чаргою па Васілю і кулямёт з панцыра, але кулі празвінелі надта высока. «От, сволачы, да апошняга змагаюцца...» — са злосцю і нейкай павагай да мужнасці ворага падумаў Васіль.

— За рычагі сядай! У мяне ўсе загінулі! — пракрычаў яму на ўсё горла, мусіць, таксама аглушаны белагаловы. Васіль пачуў ужо яго, а мо здагадаўся па артыкуляцыі губ, зрабіў яшчэ адзін, апошні рывок — ёсць! Прыкрыўся танкам...

«Трынаццатка» стаяла ў паўабарота да панцыра — перадам і крыху левым бокам. Люк вадзіцеля быў пад прамым абстрэлам.

— Давай!.. Я прыкрыю! — зноў пракрычаў яму белагаловы, і Васіль выскачыў з-за танка, ірвануў за скабу накрыўку пярэдняга люка. Не паддаецца... Уся ў выбоінах, умяцінах, краі накрыўкі заклінены завусеніцамі.

— Не адчыніць! — кінуўся зноў за танк.

Белагаловы перастаў страчыць, юркнуў у сярэдзіну танка... Вынырнуў зноў, кінуў яму ломік-манціроўку.

— Давай! Я заткну яму хайла! —зноў застрачыў па аўтаматчыку.

Васіль падскочыў да люка, падчапіў ломікам накрыўку, націснуў. Ёсць! Адкінуў і зжахнуўся: убачыў скрываўленую патыліцу вадзіцеля, цела яго было нахілена ўперад, нібы нанізанае на рычагі бартавых фрыкцыёнаў. Перамагаючы млоснасць, прыўзняў вадзіцеля за плечы, зваліў убок. Але адсунуць добра не было куды, перашкаджала цела вежавага стралка, куча снарадных гільзаў. І ён перагнуўся, падхапіў вадзіцеля пад пахі, з усяе сілы пацягнуў на сябе. Калі ўжо цела перавесілася з люка, з-пад нямецкага танка зноў паласнулі з аўтамата. Апякло, нібы распаленым жалезам, бок, уздрыгнула ў руках і цела вадзіцеля. Мёртвы, ён прыняў на сябе ўсю чаргу, абараніў Васіля ад вернай смерці... Адцягнуў забітага за танк у яму ад снарада, перамагаючы боль, хутка забраўся на месца вадзіцеля. Бок макрэў усё больш, здавалася, разам з крывёю расцякаўся па целе і боль.

Згадзілася навука ўзаемазамяняльнасці членаў экіпажа. Матор зароў, як узрадаваўшыся, танк тузануў з месца. «У спіну... немцу зайдзі!» — пракрычаў, угнуў-

шыся да яго ў танк, белагаловы камандзір «трынаццатага», паспешліва зняў кулямёт з вежы, уставіў яго ў гняздо.

Васіль зманеўраваў...

Балюча ўдарыла па перапонках паветра, «трынаццатка» ўздрыгнула... Гарыць немец! Коратка татакнуў кулямёт, і аўтаматчыка, які выскачыў з-пад танка, нібы перасекла папалам — зваліўся на зямлю.

Шыпняк адчыніў свой люк, каб лепш бачыць, дзе што робіцца. З-за дарогі, з трохвежавага Т-28 штосьці перадавалі сцяжкамі, але дым то засланяў танк, то зноў адсланяў, і разабраць сігналы было цяжка.

Ад цёмнага лесу з захаду выстройваліся ў баявы парадак новыя нямецкія танкі. Уперадзе іх ужо не было ні матацыклаў, ні браневікоў. Рухацца ўперад яны не спяшылі, нібы чагосьці чакалі...

Дзе танк камроты? Мусіць, згарэў, загінуў...

З узлеску таксама махаюць сцяжкамі... «Далучыцца да засады... Загадвае камандзір батальёна...» — нахіліўся да Васіля белагаловы.

Павярнулі да ўзлеску і паўз яго — да дарогі. Тут дымоў было менш, проста ў вочы біла сонца. Зноў сігналяць — «Заняць пазіцыю!». Васіль ехаў зігзагамі — перашкаджалі вялікія ямы ад снарадаў, свае і чужыя падбітыя машыны. І пры кожным павароце зіркаў назад. Колькі нашых танкаў выходзіць з гэтага бою? Што засталося ад іх роты? Мусіць, правільнае рашэнне — засесці яшчэ раз, сустрэць ворагаў флангавым агнём... Да таго ж немцу і сонца будзе ў вочы.

Заняўшы пазіцыю ў неглыбокім яры, выцягнулі нежывога вежавага стралка, паклалі пад елку, прысыпалі цела ігліцай. Не было калі і не было чым капаць магілу.

Самалётнага гулу яны спачатку не пачулі. Толькі як засвісталі бомбы, і скрозь па ўзлеску, і глыбей, у драбналессі, і на полі ярыны, і па той бок дарогі, на папары, пад лесам, і на самой дарозе ўскінуліся ў неба раскідзістыя, колеру жалобы кусты, зразумелі, чаго чакалі немцы. Выццё бомбаў і выбухі ўсё гусцелі, зліваліся ў невыносную какафонію. Самалёты не пікіравалі, сыпалі бомбы ўмітусь і густа, апрацоўваючы метр за метрам. Усё завалакло дымам, разам з кустамі і дрэвамі куляліся ў віхуры выбухаў не толькі глыбы зямлі, але і нейкія жалязякі, часткі ад танкаў і

бронеаўтамабіляў, колы, тракі гусеніц... Іх «трынаццатку» таксама падгушквала, пасоўвала з месца на месца, абкідвала зямлёю і асколкамі, галінамі дрэў. Зямля штурхала іх у грудзі, падкідвала, вырывалася з-пад рук, як жывая, здавалася, што і ёй баліць, і яна не знаходзіць сабе месца ў гэтай калатнечы...

Яны згубілі ўсякае ўяўленне аб часе: колькі працягвалася бамбёжка — гадзіну ці паўгадзіны? А мо якія дзесяць мінут?

Калі ўсё сціхла і яны падхапіліся, вылезлі з-пад танка, па лесе поўзалі агнявыя драконы з распушчанымі па ветры то белымі, то чорнымі грывамі дыму. Агонь нібы стараўся хутчэй захапіць месцы, якія яшчэ не перакапалі, не засыпалі бомбы, дзе было больш спажывы. Гарэў лес, гарэлі раструшчаныя, перакуленыя танкі... Стагналі, ускрыквалі параненыя, мітусіліся чорныя ад пылу і копаці танкісты... Уцалелыя машыны выбіраліся на голае месца, на дарогу, каб не загарэцца ад лесу...

Рэшткі батальёна — не больш трэцяй часткі — паспешліва адступілі да Дымнікаў. Там таксама былі зручныя лясістыя ўзгоркі абапал дарогі, і там стаялі ўжо батарэі «саракапятчыкаў» з асобнага супрацьтанкавага дывізіёна іх дывізіі. Там паспешліва акопвалася мотапяхота.

Занялі пазіцыю і яны. Але чым было страляць? Тры снарады, крыху патронаў да кулямёта. Не лепшы боекамплект быў і ў іншых машын, канчалася ў баках паліва. На чым свет стаіць крыў забеспячэнцаў Бандарын, Бандурын ці Бандаронак — такі ж падкопчаны, мурзаты, як і ўсе, з забінтаванай галавою. Не мелі батальёны сваёй службы забеспячэння. А так бы яно спатрэбілася!

На новым рубяжы бой трываў мо паўдня. Варожыя танкі падпускалі блізка, білі па бартах прамой наводкай, без промаху. Каля разбітай «саракапяткі», дзе нікога ўжо не засталося жывога, Васіль набраў дзве скрынкі снарадаў. І зноў стралялі, пакуль не дзынкнула апошняя гільза...

Яшчэ раз адкаціліся немцы, пакінуўшы на полі бою больш дзесятка машын. І зноў наляцелі самалёты, зноў астаткі батальёна вырываліся з-пад бамбёжкі, шукалі ратунак ва ўцёках, у хуткасці, манеўранасці. Гуляў з самалётам наперагонкі і Васіль: то рэзка тармазіў і

чуў, як крые яго мацюгамі белагаловы, без шлема, камандзір танка — паразбіваў аб браню галаву, то прыбаўляў хуткасці, то ламаў убок, а немец усё пікіраваў і пікіраваў на «трынаццатку», і ўставалі перад танкам, з бакоў і ззаду высозныя выбухі. Белагаловы зноў паставіў кулямёт на вежу і, прысеўшы, біў і біў па самалёце, пакуль не выпусціў апошнюю кулю, і, мабыць, ніводная з іх не трапіла ў цэль — не тое браў «упреждение».

Гэта была апошняя Васілёва бітва. Немец зрабіў яшчэ адзін заход, і Васілю раптам здалося, што танк прыўзняло і кінула ў прорву і ён ляціць, ляціць разам з ім у бяздонне...

Калі ён ачуняў і вылез з перакуленага набок танка, белагаловага спачатку не знайшоў. Бой грымеў ужо каля Паддубна, адкочваўся да Пружан. Па полі ад адной кучы абломкаў да другой хадзілі немцы, дабівалі цяжкапараненых, а тых, хто мог ісці, успорвалі на ногі, зганялі ў гурт...

Уставаў Васіль на ногі не вельмі хутка і атрымаў ногца пад зад. Падыбаў, хістаючыся, да гурту байцоў. У галаве ўсё гуло і трашчала, нібы хто драў па жывому брызент, кепска бачылася навакольнае. Толькі стаў, як да яго падаўся белагаловы.

— Жывы ты?! — узрадаваўся ён.— А я думаў — капут табе. Пацягаў за рукі, пацягаў...

Васіль у гэты час схіснуўся, і белагаловы танкіст падтрымаў яго ззаду пад пахі.

На дарозе быў вялікі рух, з захаду ішлі нямецкія танкі, машыны з будамі. Адарваліся ад калоны, звярнулі ў бок да палонных і пабітай савецкай тэхнікі два браневікі з крыжамі на баках, доўгімі антэнамі. Следам за імі павярнула і некалькі матацыклаў суправаджэння. Да іх падляцеў, ужо з усходу, таксама звярнуўшы з шашы на поле, яшчэ адзін бранявік. У гэтага броніраваны кузаў нагадваў труну — як і ў тых браневікоў, што ехалі з захаду.

З браневікоў выйшла група вышэйшых афіцэраў, а з таго, што прыпёр з усходу, двое. Сустрэліся, пераціскалі адзін аднаму рукі і ўжо разам, перагаворваючыся, пайшлі да групы палонных. Афіцэр з салдатамі, што табунілі палонных, павыцягваліся ў струнку.

Белагаловы танкіст схіліўся ззаду да пляча Васіля, шапнуў — «Генералы...» — і стаў следам перакла-

даць іх гаворку. «Да, мілы Нерынг... [1] — гаварыў высокі і сухі з твару афіцэр да другога, таўсцейшага, што пад'ехаў з усходняга боку.— Паўтараецца гісторыя, дружа... Усё вяртаецца на тыя ж кругі».— «Не ўсё, Гейнц... Прабач, але трэба быць трохі дыялектыкам, як вучаць бальшавікі».— «Паўтараецца, паўтараецца... Ты хіба не пазнаеш мясціны? Я ўсё добра памятаю... тут праходзілі ўжо мае войскі, аж пад Кобрын. У 39-м. Я начаваў у Высока-Літоўску ноч з 14 на 15 верасня... Потым камандны пункт корпуса быў у Камянцы. Калі б тады трошкі інакш дэмаркацыйную лінію правялі, то не давялося б другі раз браць Брэсцкую крэпасць...» — «А што... туга там?» — «Вельмі... Я скора зноў туды махану».— «Пра раз'яднанне войск у 39-м, дэмаркацыйную лінію не будзем гаварыць. Гэта не нашага розуму справа, Гейнц... Я чую няшчырасць у тваім голасе... Ты сам добра разумееш, што не справа танкістаў — браць крэпасці. Нам уперад трэба, уперад!» — «Я з табою згодзен, але ж...»

Прайшлі міма, нават не глянуўшы на палонных. Каля абломкаў савецкага танка БТ-7 пастаялі, памацалі разварочаныя, скрэмсаныя снарадам кавалкі брані. Пра што гаварылі там, не было чуваць, але белагаловы шаптаў, скрыгочучы зубамі: «Каб гранатку, адну гранатку!..» Павярнулі генералы назад, усё гэтак жа перагаворваючыся на хаду. Дайшлі да групы палонных, гледзячы сабе пад ногі, і раптам спыніліся, як спатыкнуліся на іх. Васіль стаяў з краю і спадылба глядзеў на генералаў. Зусім блізка спыніўся ад яго той, што называлі Нерынгам.

— Пух! — сказаў ён начакана, папхнуўшы пальцам у грудзі,— якраз у прапаленую дзірку на гімнасцёрцы.

Васіль не схіснуўся.

— Ого! — здзівіўся генерал і штурхнуў у грудзі.

Васіль адступіў крок назад, але не ўпаў, і гэта яшчэ больш здзівіла, развесяліла генералаў: ты бач, а здаецца ж, на нагах ледзь стаіць!

— Сымболь? — сказаў сухапары, прыплюшчыўшы чырвоныя павекі. Абодва абвялі вачыма палонных, пайшлі да браневікоў. За імі — уся світа.

---

[1] Нерынг — камандзір 18-й танкавай дывізіі вермахта. У 1939 годзе ён быў начальнікам штаба танкавага корпуса, якім камандаваў Гейнц Гудэрыян.

З канваіраў, што збіралі ў кучу палонных, сыходзіла ўтрапенне — заварушыліся, заўздыхалі.

Белагаловы зашаптаў Васілю:

— Сімвал Расіі, гаворыць... «Усё не так проста, Нерынг... З рускімі не проста... Гэта не Польшча і не трыццаць дзевяты год... Я зараз у Калодна, на камандны пункт».

Шыпняк толькі паспеў здзівіцца, адкуль белагаловы так добра ведае нямецкую мову, як той і сам сказаў:

— Я — таксама немец... Напалову. З Паволжа.

— Дык ты супраць сваіх?! — яшчэ больш здзівіўся Васіль.

— Якія ж яны мне свае? — горка пахітаў галавою белагаловы.

Іх раз'ядналі, развялі па розных камандах.

Пра лёс рэштак іхняга батальёна Васіль даведаўся праз некалькі дзён, сустрэўшы ў перасыльным лагеры ваеннапалонных саслужыўца з першай роты. Іх разбамбілі ноччу, некалькі танкаў далучыліся да батальёна капітана Лысенкі і біліся за Пружаны. У мітусні і неразбярысе мост праз канал Мухавец не паспелі ўзарваць, і немцы з ходу ўварваліся ў горад. 23 чэрвеня, раніцай, у адчайным штурме танкісты выбілі немцаў з Пружан. Але паступіў загад ад камандзіра палка Танасчышына — адыходзіць.

Апошнія пяць танкаў з іх батальёна танкісты падарвалі або, калі не мелі чым падарваць, утапілі ў Шчары. Абы не дасталіся ворагу.

## 6

Грубыя рукі абмацалі Анюту пад пахамі, паляпалі па бакавых кішэнях пінжака, крутнулі яе тварам дагары. Тр-р! — ірвануў вознік у бакі крыссе пінжака, пасыпаліся гузікі. Абшарыў і ўнутраныя кішэні...

Не лапнуў толькі за грудзі, за ліф.

— Ну, а цяпер што ты запяеш, крываротая? Дзе твой аўсвайс?

Анюта маўчала. Шчымелі і торгалі пад спінаю рукі — мо скуру аблузаў, звяруга, круцячы...

Баялася аднаго: што ляжыць дагары, што зверху апынулася — такое безабароннае і кволае! — **яно.** Ту-

занулася, каб сесці і хоць крыху прыкрыць сабою жывот.

— Не дрыгай нагамі, бо...— занёс,вознік над яе жыватом вялізны бот з шырокаю падковаю на абцасе. Не хромавы бот, а моцны, з юхты, з набітым ззаду на пятцы з кавалачкаў скуры пупком. Мусіць, каб чапляць за што-небудзь, сцягваць.

— Гавары хутчэй, хто такая і куды ідзеш! Толькі пра Заграддзе кашалі не пляці — я там усіх ведаю.

Анюта маўчала. Ад крыўды на самую сябе, ад такой няўдачы ныла сэрца. У галаве ліхаманкава, бязладна мітусіліся думкі: «Уліпла... Прапала... Як выратаваць і сябе... І яшчэ дваіх? Як?»

У гэты час вазок матлянула на каляіне, і Анюта скарыстала момант, крутнулася, легла крыху бокам, адвярнулася, каб не бачыць бульдожую морду вусатага.

— Маўчыш? Ну — нічога, загаворыш... Развяжуць табе язык... Н-но, бандыцкае мяса! — рыкнуў па-мядзведжы на каня, лупцануў пугаю ўперад, цераз Анюту.

«Выкінуцца з вазка? Заб'ешся... А ці не ўсё роўна? Не сама сябе, дык ён... У яго павінна быць зброя, такія з пустымі рукамі не раз'язджаюць... А мо і добра, што прыстрэліць? Усе пакуты скончацца... Як аддасць у СД, то мала не будзе... Ды яшчэ як пісталет знойдуць... Але тады абавязкова загіне і камісар... А партызаны ж ведаюць, што яна вярнулася да Мікульскага... Тая група ведае, што Васіля панесла...»

Пісталет пад ліфам пакідаў ёй нейкую надзею, нейкі шанц. Мізэрны, але ўсё-такі шанц. Можа, удасца развязаць ці перацерці рэмень... Мо ён развяжа... Абы толькі развязалі рукі!

Матацыкл затрахкацеў як не каля вуха, і Анюта прыўзняла галаву. Другі абоз з бярвеннямі быў ужо зусім блізка.

— Пыр-р-р! — нацягнуў лейцы гаспадар вазка, загаварыў па-нямецку, марудна падбіраючы словы. Спыніўся побач з вазком матацыкл, матор трахкацеў зрэдзь — трэх-ра-рах, трэх-ра-рах... Затпрукалі на коней і сяляне. Немцы з матацыкла, мабыць, не ўсё разумелі, бо перапытвалі: «Вас, вас?» Анюта зразумела толькі адно слова — «партызанен». Хтосьці падышоў да вазка, шамнуў сенам каля яе галавы. Раптам Аню-

ту тузанулі за валасы, паварочваючы тварам угору. Над ёю навіс доўгі твар немца ў высокай фуражцы з арлом.

— У-у-о!...— здзіўлена і трохі з зайздрасцю загукаў немец. Загаварыў да гаспадара вазка хутка, паўтараючы некаторыя словы, каб той зразумеў яго. Анюта ўцяміла толькі адно слова — «шысэн», страляць. Мо прапаноўваў рэдказубаму паслугу — застрэліць яе? Потым гыкаў, памінаючы нейкія «фігі-фігі», а з матацыкла памагалі яму рогатам: «Гох! Гэх! Гах! Аг-га-га!»

— Вэкфарэн! Ехаць! — крыкнуў афіцэр не то абозу, не то гаспадару вазка. І па дарозе пачуліся каманды-пераклічкі: «Паганяй! Шнэлер! Хутчэй! Чаго раты паразяўлялі!» Занукалі, зацмокалі і возчыкі-сяляне, заскрыпелі калёсы.

Рэдказубы люта захвастаў пугаю па кані, і той ірвануў з месца, як не лузаючыся са скуры. Анюту трэсла неміласэрна, целяпаліся, тузаліся, нібы іх адрывалі, ногі. У біле, мабыць, была адшчэмлена і тырчала стрэмка, бо нешта калола пад калені, як відэльцам... Хоць і на сене ляжала галава, але дрыгат не даваў засяродзіцца, думкі нібы растрэсваліся.

«Куды ён гоніць? Што будзе рабіць гэты звяруга? Немцы ж адмовіліся ад мяне... Не паліцэйскія часці, мабыць, а рэгулярныя...»

Падлятали да апошняй фурманкі абоза, і гаспадар вазка зноў напяў лейцы. Конь ажно прысеў на азадак, тоненька віскнуў: мусіць, парвалі яму цуглямі губы. Прыўзняўшы галаву, Анюта ўбачыла, што ззаду абоза таксама сунецца матацыкл з аўтаматчыкамі.

— Усё забралі?

— Не ведаю, спадзін начальнік!..— паспешліва злез з бярвенняў на дол сухенькі дзядок.— На Выселкі пагналі разбуральную каманду...

— Маўчаць!.. Колькі коней яшчэ трэба?

— Гэта вы ў мяне? Не ведаю, спадзін начальнік...

І зноў шалёны галоп. Ногі між сцёгнаў у каня як намыленыя, камякамі адлятае шумавінне...

І адну, і другую, і трэцюю гразкую лясную дарогу, што адбягала ад шляху ўлева, заўважыла Анюта. Колькі ўправа, у бок Бобрыка — не бачыла. Каб сачыць, трэба было падымаць галаву, трымаць навісу. А «спадзін начальнік» усё ляцеў шляхам, нікуды не зварочваў. Адна з гэтых лясных дарог, мусіць, вяла да тых

разбураных Гацішчаў, пра якія ўспаміналі, закурваючы, сяляне, іншыя — на хутары, на выселкі.

Рукі зусім анямелі, іх «тачылі мурашкі», у плячах ныў тупы, раматусны боль...

«Спадзін начальнік» нечакана звярнуў управа на лясную дарогу — досыць шырокую, выбітую. Не чуліся нават пад коламі карэнні. Дарога перасекла лясісты нешырокі паўвостраў і непрыкметна ператварылася ў палявую, аброслую густымі кустамі чарэмшыны, ліпняку, сям-там паўз бакі стаялі старадрэвіны-ліпы. Праехаў крыху паўз цагляную, замшэлую, паўразбураную сцяну, з-за якое навісла над утравянелай дарогай густое голле вязаў, і зрабіў яшчэ адзін паварот — улева, у цагляную браму. Адзін мураваны слуп звалены, валяецца вялікай глыбай пры ўездзе. Пад коламі загрукатаў і тут жа скончыўся брук, зашаргацеў і таксама скончыўся пясок насыпу...

«Куды ён прывёз? Навадворцы гэта ці Заграддзе?» — Анюта зусім абмарачылася, не магла ўцяміць, куды яны трапілі. Недзе на дарозе на Навадворцы жыў сувязны Вайчук. Колы ўжо шамацелі па чорных леташніх лісцях, пад навіссю галін было сыравата, панаваў прыцемак. Метраў праз дзвесце ўз'ехалі на пагорак-паляну, у цэнтры яе — руіны нейкай цаглянай пабудовы. Усё зарасло бур'янам, крапівою, лопухам, маліннікам... Вакол руін некалькі старых клёнаў, ліп, дубоў. На адным, вельмі старым і раскідзістым дубе, кожная галіна — як ствол з чалавека таўшчынёю, чарнелі дашчаныя пляцоўкі, нібы падрыхтаваў хто паддоны для буслянак, каб сяліліся, рабілі гнёзды буслы — самыя мірныя птушкі.

З аднаго боку руіны ўзвышаюцца менш, каля іх чарнее прыямак са сходцамі, можна разгледзець іржавыя жалезныя дзверы з заклёпкамі і вялізным вісячым замком. Мусіць, захаваліся скляпы-падвалы пад былымі панскімі пакоямі.

Праехалі міма, дарога ўлілася ў шырокі затравянелы двор каля прыземістага драўлянага будынка пад цынкавым дахам. Насупраць будынка паўз двор цягнуўся доўгі, зарослы зеллем, недагледжаны гарод, за ім віднелася тыльная сцяна доўгай цаглянай пабудовы — ці не канюшні?

Спыніліся каля пахіленага, напалавіну без бланак плота. На ганак запаволена выйшла жанчына ў чор-

ным адзенні. На белым і доўгім, як у боскай маці на старажытных абразах, твары цямнелі вялікія, з сінімі падковамі пад імі, вочы.

— Ну, сабрала шмуткі? — кінуў ёй, саскокваючы з воза і навязваючы лейцы за слупок, «спадзін начальнік».

— Не...— жанчына стаяла, застыглая, як скульптура, рукі пад рагамі хусткі, на грудзях. Яна не зводзіла з палонніцы цёмных вачэй, і Анюта ўлавіла ў іх стоены боль і самоту.

— Дык чаго стаіш слупам?! Спаўняй тое, што загадаў! — вызверыўся на яе начальнік.

Жанчына ў чорным павярнулася паволі, бы ў сне, хацела ісці ў дом.

— Стой! Вынесі ключ ад пограба! — аддаў ён новы загад, а Анюту тузануў на сябе за плячо.— Ўставай, пасядзіш пакуль пад замком! А потым я табе дам рады...

У куточках рота «спадзіна» Анюта ўбачыла ўсохлую ўжо пену заедзі, і яе ажно занудзіла. Скокнула на зямлю — і ўпала як падкошаная. Ногі не трымалі — самлелі, па іх, як ток, перакатваліся дрыжыкі.

— Ты што... раней часу падаеш? Уставай! — устрасянуў за каўнер Анюту «спадзін начальнік». Але ўстаць яна не магла.

— Ужо!.. Ужо дзярэ, як каршун...— абазвалася на ганку жанчына.

— Не суй носа не ў сваё проса! — вызверыўся на яе мужчына.— Ідзі!

Жанчына схавалася ў доме.

— Мы маглі б з табою добра старгавацца, дзеўка...— сказаў да яе рэдказубы, калі жанчына ў чорным знікла.— Я цябе мог бы выпусціць, каб ты завяла мяне да партызан, закінула за мяне добрае слова: так і так, ён даўно памагаў мне, свой чалавек... Га?

Анюта стаяла на каленях. «Прыпякло, значыць... Не ведае, куды кінуцца...» — думала яна.

На ганак выйшла жанчына ў чорным.

— Хм... Маўчыш, значыць? — І да чорнай жанчыны: — Ідзі паперадзе, адамкнеш! — кіўнуў на склеп пад руінамі.

Чорная жанчына, праменькая, як скамянелая, ступіла з ганка, павярнула з двара на сцежку, пакрытую лістамі трыпутніку і мяккай траўкай-мураўкай — ту-

ды, на пагорак з руінамі, да тых жалезных дзвярэй.

Мужчына тузануў Анюту за звязаныя рукі ўгору, нібы падцягваючы на дыбе. Яна ўскрыкнула: у плечавых суставах паласнула дзікім болем. Хістаючыся, стала на ногі...

Не адпускаючы яе рук, «спадзін начальнік» паштурхаў яе перад сабою за жанчынай у чорным. Кожны крок даваўся цяжка, сцёртыя ногі шчымелі і пяклі, іх увесь час нібы абсыпала халодным пяском-«мурашкамі». Анюта лічыла ў думках крокі, мабыць, яны былі апошнія ў жыцці, кожны набліжаў да смерці...

Жанчына ў чорным ішла паціху, нага за нагу, схіліўшы на грудзі галаву. Нагналі яе блізка каля склепа...

— Я скокну яшчэ да Вышпінга — даўжок спаганю...— сказаў мужчына да чорнай жанчыны.— А ты каб за гэты час сабралася. Трантаў усіх не бяры, вяжы самае каштоўнае.

Жанчына ступіла ўбок, даючы ім дарогу. Не адказала ні слова...

— Чуеш?! — крыкнуў, як стрэльнуў, мужчына.

— Не глухая... Яшчэ нідзе ніхто не шурхне, баёў не чуваць, а мы ўжо ходу...— зноў пайшла паперадзе.

— Сёння рана, а заўтра будзе позна!

— А яна нашто табе? І яе з сабою павязеш? — пытала, не адварочваючыся.

— Зноў нос суеш не ў сваё дзела?!

Жанчына прыпынілася каля цэментавых, зарослых палыном і пучкамі травы, патрэсканых сходцаў. Яны вялі ўніз, да ржавых дзвярэй. Саступала па іх бокам, марудна, нібы абмацваючы кожную ступеньку, перад тым як ставіць нагу. Прыўзняла замок, бомкнула аб дзверы, ажно пасыпалася з іх іржа, пачала адмыкаць.

— Развязаў бы хоць рукі ёй...— азірнулася ўгору, на іх.— У яе і так ледзь душа ў целе... Няўжо ты думаеш, што з гэтых лёхаў можна ўцячы? — апошнія словы гаварыла, гледзячы на замок, тузаючы яго, грукаючы ім.

Паслухаўся, ці што? Развязаў, скруціў раменьчык колцам, сунуў сабе ў кішэню, падштурхнуў Анюту ўніз, на сходцы.

Прыступак сем было да невялікай, як адчыніць дзверы, пляцовачкі на дне прыямка. Анюта сышла на трэцюю. Пацеючы ад болю ў плячах, вывела рукі з-за спіны. Варушыла, устрэсала кісцямі, расцірала іх, па-

цепвала плечукамі, каб разагнаць крыху кроў, ажывіць рукі.

— Гары яно гарам! Тут заржавела ўсё, ключ дзвюма рукамі не павярнуць...— у голасе жанчыны прарэзаліся ўжо гнеўныя ноткі.

— Не каркай... Паглядзі гэту бандытку, я зірну...— штурхнуў ён Анюту яшчэ на адну прыступку ніжэй.

Лесвіца вузкая. Спускаўся міма Анюты і цярнуўся аб яе.

Мужчына толькі паспеў угнуцца каля дзвярэй, як жанчына раптам устрасянула рукавом,— у руцэ бліснуў нож. Ступіла на крок да яго, дзеўбанула ў напяты гладкі карак — раз, другі. Анюта ажно здранцвела ад нечаканасці. І трэці раз замахнулася жанчына, ужо абедзвюма рукамі. Але, разагнуўшыся, мужчына перахапіў іх, крутнуў уніз. У вачах яго гарэла жоўтая воўчая люць...

— Ах ты, змяя-я...

— Бяжы!.. дзеўка... Ратуйся! — угіналася, выкручвалася ад болю жанчына.— А-а-а!

Штосьці хруснула, бразнуў пад ногі нож — кухонны, шчарбаты, з тупа закругленым кончыкам. Жанчына апусцілася на калені...

— Бяжы...— выдыхнула са стогнам.

Анюта адскочыла на дзве прыступкі вышэй, ірванула непаслухмянымі рукамі кофтачку і ліф. Выхапіла пісталет, тузанула затвор назад. Націснула на курок двойчы, цэлячыся зверху ў крутыя плечы «спадзіна». Стрэлы трэснулі суха і нямоцна. Мужчына выгнуўся і павярнуўся да яе, разявіўшы рот, нібы яму здзяжылі калом па спіне, заскроб пальцамі па кішэні паўпаліто.

І тады Анюта стрэльнула яму ў твар — трэці раз...

— Уцякай, чаго стаіш?! — жанчына, не ўстаючы з каленяў, схіснулася ўбок, каб «спадзін» не ўпаў на яе. Мужчына заваліўся ў куток каля дзвярэй.

Жанчына, сагнуўшыся, люляючы правую руку, паволі выбралася з прыямка. Села на беражок, спусціўшы ногі на другую прыступку, схілілася над рукою.

— Ох, гора ты маё... Ідзі-і-і, кажу-у... адкуль прыйшла... Я сама тут... прыбяру яго. Бяжы, гавару, не слупяней!

Анюта ўсё яшчэ не магла скрануцца з месца, круціла ў руках пісталет, нават у дулца зазірнула. Не ве-

рыла: няўжо гэта яна забіла чалавека? Во толькі што, ва ўпор... І не звар'яцела сама? Не раскалолася пад ёю зямля? «Божачка... Божачка...» — шаптала яна перасохлымі, ажно калоліся, губамі. Як страляла ў баі з вінтоўкі ці з аўтамата, дык не бачыла, ці трапляла ў цэль, ці падаў хто ад яе стрэлаў. Было ўсё роўна як на стрэльбішчы ў лесе, у тым яры, дзе партызаны вучыліся цэліцца і страляць. Перш за ўсё цэліцца, бо патронаў — паліць у белы свет, як у капейку — шкадавалі...

— Пакажы руку...— Анюта сунула пісталет у кішэню пінжака, прысела каля жанчыны на кукішкі. Брала яе за руку, а ў самой яшчэ трэсліся.

— Во, як табе душу перавярнула...— жанчына разагнулася, і Анюта ўбачыла на яе твары мокрыя пісягі ад слёз.

— Як вас завуць? — спытала Анюта, абмацваючы дзясніцу — сустаў каля кісці пачаў ужо набрыньваць, апухаць.

— Ваця...

— Як — Ваця?

— Ну — Вацлава... Не марудзь... Бяжы, кажу, дзеўка! Мне ўшыстка прападаць, а ты — уцякай!.. Гатовы карнікі наскочыць... Мо пачулі стрэлы...

— А хто... ён для вас? — кіўнула Анюта, не азіраючыся, на забітага.

— Муж...

— Муж?! — Анюта ажно ўпусціла руку, і Вацлава ахнула ад болю.

— Чаго ты спалохалася? Старшыня воласці Курмель... Запужаў: гразіў мяне ў Германію выслаць, як не пайду за яго, и татусю з мамусяй у канцлагер... Ну, і вяселле справілі... Вунь, бачыш на дубе дошкі? Аркестр туды пасадзіў, каб іграў... У Лагішыне, кажуць, чулі... Было і дзіцятка — пахавала тыдзень назад... Месяца не пражыло... Дзіцем, пакуль не ўбярэцца ў свой розум, бог кіруе... Не павінна быць дзяцей ад такога шлюбу, сам Езус не дапускае.

— А што за карнікаў вы ўпаміналі?

— Не ведаю... Нейкая зондэр-каманда, карны паліцэйскі батальён. У Заграддзі стаяць... Вышпінг імі камандуе, латыш.

— А хіба гэта не Заграддзе?

— Не... Стары Пасадзец... А ўчарашнюю ноч з камандзірам зондэр-каманды Курмель у карты рэзаўся...

Напазычаў Вышпінгу многа... Ды бяжы ты, чаго прыстала да мяне? Руку новую зробіш? Урач ты?

— Урач не ўрач, а крыху разумею... Звязкі ў вас парваныя... У лубкі трэба браць руку, убінтоўваць туга... Бо калекаю застанецеся... А можа, і ў касці трэшчына.

— Мне ўсё роўна ўжо. Дай тваю кароткую стрэльбу, пушчу кулю ў лоб...— выставіла да Анюты левую здаравейшую руку.

— Не дурыце... У жыцці не такое бывае, і ўсё трэба пераժыць. Уставайце, разам пойдзем!

— Куды-ы?! Што ты ведаеш, дзеўчаня, пра маё жыццё? Што?! — жанчына як не апальвала цёмнымі вачыма Анюту.— Нічо-о-ога ж ты не знаеш...— зноў угнулася над рукою, залюляла яе.— Не хачу, каб ты сасніла нават такое... Хіба можа такое на світэ быць, каб класціся ў ложак з ім, як на пакаранне! Як жыўцом у магілу!.. Задыхацца ад паху з яго рота!.. Ты зірні на мяне...— Вацлава змахнула на патыліцу чорную хустку — валасы былі сівыя, як у бабулі.— А мне ж усяго дваццаць тры!.. А цела... Я ўся ў сіняках, у крывападцёках... Працівілася, дык кусаў, шчыпаў... Скарпіён чы хто — чытала я дэсь... Сам гіне, а ўсё другіх кусае, джаліць... Так і ён... І цябе во схапіў... А надумаўся ўжэ цікаты на захад, збіраць клункі загадваў...

— Уставайце! Паедзем са мною...— голас Анюты пацвярдзеў. Яна адчувала ўжо сябе намнога мацнейшай за Вацлаву: яе хапіла адно на імпульсіўны, бяздумны рывок. І багацейшай невымерна: яна ўведала сапраўднае каханне, яна перажыла такія хвіліны душэўнага ўзлёту, за адзін міг якіх можна аддаць многія гады жыцця... А то і ўсё жыццё: усё роўна лепш ужо не будзе і нічога новага спазнаць не давядзецца.— Ды ўставайце ж, уставайце!..— яна тузала Вацлаву пад пахі.— Конь стаіць запрэжаны, а мы тары-бары разводзім!.. Мне якраз і трэба конь, параненага з лесу забраць... Сляпога!..

Вацлава не кранался з месца, паволі, леваю рукою папраўляла, насоўвала на лоб хустку.

— Нікому я не трэба такая апаганеная... Мне толькі пятлю на шыю... Ці камень — і ў ваду... Я ж не магу ў сваё сяло паказацца... Я не магу на бацькоў сваіх глядзець... І яны на мяне не могуць... Яны ж ведаюць:

з-за іх толькі згадзілася я на такі шлюб... Больш з-за іх, чым з-за сябе...

— Вайна ва ўсім вінавата... Фашысты!.. Вам ваяваць трэба, помсціць за ўсё! Як партызаны робяць, як салдаты нашы на фронце!..

Вацлава ўсё не краталася з месца, глядзела недзе ў бясконцасць, пераводзіла позірк бліжэй — на ўсохлую старую акацыю каля рэштак падвальнай сцяны, на бур'ян, і зноў вочы рабіліся невідушчыя.

— Прыбраць трэба... Запраторыць яго, каб і сабакі не знайшлі... Памажы мне, дзверы адамкнёныя — я марочыла яму галаву...

Старшыня сядзеў, угнуўшы галаву з рэдкімі валасамі на цемі. Валялася побач шапка, на каленях, на паўпаліто цямнела загуслая кроў.

Анюта хутчэй адвяла позірк — ёй стала моташна.

Вацлава сышла ўніз, да Курмяля, леваю рукою залезла яму ў адну кішэню паўпаліто — дастала пісталет, у другую — дзве гранаты-лімонкі. Паклала на бераг ямы.

— Каб дабро разам з ім прападала?..— расшпіліла паўпаліто на грудзях Курмяля, выцягнула з-за пазухі ў яго тонкі раменьчык.— Нож давай!.. Рэж во тут!

Анюта знайшла пад нагамі той шчарбаты нож — увесь у чырвоных плямах крыві. Стрымліваючы дых, разанула ім па раменьчыку і тут жа кінула, выцерла аб траву рукі.

Вацлава выбавіла з-пад пахі ў старшыні кароценькі аўтамат і таксама паклала яго на броўку. Не згідзілася яна пашарыць рукою і ў пінжаку Курмяля: з адной унутранай кішэні выцягнула добры жмук марак, з другой — нейкія паперы, таксама паклала на бераг.

— Забірай усё, потым разбяромся! — і яна тузанула былога мужа за каўнер да сябе. Цела звалілася ёй пад ногі. Пераступіла яго, выняла з прабоя замок, ірванула дзверы. І яшчэ раз, і яшчэ! — Памажы, не магу адною... Прэнтка!

Са страхам і гідлівасцю Анюта ступіла цераз старшыню, таксама ўчапілася за клямку. Дзверы ўздрыгнулі, пасыпалася луска ржы. Рыпнулі глуха, у твар дыхнула холадам і сырасцю. Але добра расчыніць перашкаджаў труп. Вацлава трохі патузала за дзверы, каб імі ж адсунуць і цела Курмяля, і раптам брыдка вылаялася:

— Як я ненавіджу баб! Ні на што не здольныя!

Яна схапіла за каўнер Курмяля, учапілася за яго і Анюта, пацяглі старшыню спачатку ад дзвярэй...

Склеп быў глыбокі, Анюта не разгледзела нават дна. Цэментавыя прыступкі, што вялі ад дзвярэй уніз, былі пакрыты нахільна пакладзенымі дошкамі — мабыць, каб лацвей было скочваць туды бочкі.

Пераваліпі грузнае цела Курмяля цераз парог, і яно пасунулася па дошках уніз...

— Замкні! А ключ — у бур'ян! — распарадзілася Вацлава і шпурнула ў лопух нож.

Пакуль Анюта замыкала, Вацлава ўкінула ёй у кішэню лімонкі, у другую, дзе ўжо быў пісталет, яшчэ і пісталет Курмяля. Паперы ж і грошы згрэбла жменяю, папхала сабе ў запазуху. Схапіла аўтамат, цярнула адным бокам аб траву, другім...

— Пабеглі!

Анюта кульгала следам і намнога адставала ад Вацлавы. А тая, проставалосая, сівая — хустка збілася на патыліцу хамутом, і валасы выдавалі надта светлымі — была падобная на нейкага дэмана помсты. На двары кінула аўтамат у вазок, а сама матнулася на ганак...

Пакуль Анюта адвязвала дрыжачымі рукамі лейцы ад слупа, Вацлава вывалакла з дому вялікі клунак. Адною рукою ўкінуць яго ў вазок не магла і паддала пад клунак каленам. Зноў махнулася ў дом...

За старымі кустамі бэзу, у тым баку, дзе пачыналася вёска, пачулася трахкаценне матацыклаў.

«Няўжо сюды?!» — здрыганулася Анюта. Порстка скочыла да акна, стукнула ў шыбу.

— Ваця, немцы!

У пакоі нешта глуха, бы разбіўся посуд з вадою, пэнкнула...

* * *

«Вырвала рукі з маіх... Што яна магла падумаць? Паранены, на нагах ледзь стаіць, а туды ж... Ах, Анюта, Анюта!! Як ты магла... А можа, і не думала нічога такога... Хіба да гэтага ёй... ці мне?»

Мікульскаму Анюта падабалася. Ён злавіў сябе на гэтым яшчэ тады, у час першай сустрэчы. Калі яна была не ў атрадзе, а толькі сувязною... Заходзілі да яе ў

пакойчык пры школе... Як утульна, як цёпла было ў тым пакойчыку! І гасцінна... А яны з Васілём насклеліся, нацягаліся за ноч, змэнчаныя ўваліліся да іх — дзвюх дзяўчат-настаўніц. Трошкі спалоханыя, мілыя, заспаныя, яны мітусіліся па пакойчыку, рыхтуючы чай і не забываючы захінаць выразы ў халаціках на грудзях. Другая дзяўчына-настаўніца родам з Жыровіч — Кісельнікава ці Кісялёва. Ні яму, ні Васілю яна ў вока не запала. А Анюта — зразу: зграбненькая яна тады была, крэпенькая, «усё на сваім месцы». І надта прыветлівая, свая... Збірала сяго-таго на стол і гаварыла, як трапілі ў настаўніцы: тая, жыровіцкая, пад пагрозай пайшла ў настаўніцы. Лепш тут застацца, чым у Германію ехаць. А яна, усходніца, сама, добраахвотна, каб давер быў. Мела такое заданне ад камсамольцаўпадпольшчыкаў... Чымсьці нагадвала Анюта сястру Зіну, мо толькі вышэйшая крыху Зіна... І гэтая падобнасць яе да сястры прымушала тушыць у сабе ўсё, што выходзіла за рамкі простай прыязнасці і сімпатыі. І не толькі гэта...

Пусціла Анюта ў сваё сэрца Васіля... Як прымагніціліся адно да аднаго, і вельмі ж хутка. А мо і не хутка, на вайне меркі часу зусім іншыя... На вайне дзень пражыць — ого-го... І пачуцці больш абвостраныя, і думка пульсуе ў іншым рытме. Часам нервы як не дымяцца ад перанапружання...

«Дзе той шлем з вадою?» — Мікульскі памацаў справа ад сябе. Недзе тут, пад кустом. Анюта ж пакідала яму піць... Рука намацала толькі жорсткія верасовыя цырбуны — ні куста, ні шлема не было. «А можа — злева?» Куст-сасонка, верас, гімнасцёрка на верасе... Мабыць, адпоўз назад. Упіраўся рукамі, седзячы, перабіраў, адштурхоўваўся нагамі — і неўпрыкметку перасунуўся. Не помніў сам сябе, не ведаў, што робіць... «Так і ў раку можна кульнуцца...»

Шлем намацаў у нагах — сплясканы, без вады. Усярэдзіне было мокра, але сцадзіць нельга ні кроплі: ці вылілася, ці шлем набрыняў, усмактаў ваду. «Вось табе і прыгатавала... Токар-пекар... Ладна, пацярплю, колькі змогі...»

У Анюты рукі моцныя, хоць і невялікія... У Valio — далоні шырокія, можна мазалі каля кожнага пальца пералічыць-намацаць... А ў Генрыеты далонь вузкая, пальцы доўгія, белыя... Грыпіна-Генрыета...

Пасля аднаго спектакля ён асмеліўся занесці ёй кветкі за кулісы. Сам з сябе дзівіўся — адкуль што бралася? Такі галантны стаў, у меру развязны... «Прашу прабачэння... Дазвольце... Я ў захапленні ад вашага таленту!..» І не думаў тады, што мо якраз такія пашлаватыя банальнасці гаварыў ёй не толькі ён адзін. Мусіць, усё прытушоўвала, надавала непасрэднасці сарамяжасць, бо як ні стараўся ён выдаць сябе за бывалага маладога чалавека, гэтая сарамяжасць прабівалася напаверх. Мусіць, трохі чырванеў, трохі бянтэжыўся...

Генрыета ўжо трымала ў абярэмку і ружы, і гладыёлусы, але яго калы, купленыя на рэшткі стыпендыі («О-ё-ёй, да новай — цэлых чатыры дні!»), ёй вельмі спадабаліся. Усміхнулася яму белымі роўнымі зубкамі, пяшчотна-ружовымі дзяснамі («Божа, гэта ў яе свае такія дзясны, ці можна нафарбаваць і іх?!»). Пацалаваў Генрыеце руку, трымаючы за далікатныя пальчыкі, і яна не вырывала іх, хоць Цімох затрымаў даўжэй, чым трэба. «Багіня!.. Белы, выхалены прадаўгаваты твар, профіль грэчаскі, пышныя каштанавыя валасы...»

Як на цяперашнюю ацэнку, то ў яго паводзінах тады больш было акцёрства, чым пачуцця. Але сцэну ўручэння кветак ён сыграў з натхненнем. «О-о-о! — праспявала яна такім аксамітна-грудным голасам, што ў яго грудзях штосьці шчымліва адгукнулася, нібы струна.— О-о, які вы Мікула Селянінавіч! І голас, як гром...». А далей здарылася такое, што ён ніяк не чакаў: Генрыета пяшчотна-ласкава правяла пальцамі па яго шчацэ, нібы правярала, ці чыста паголены, і тая струна, што заспявала ў душы, задрыжала яшчэ мацней, абуджаючы цэлы аркестр. «Нічога мне не гаварыце, я бачу — вы шчыра любіце мастацтва і ў вас голас. Вы — унікум! Я хачу вас прадэманстраваць сваім сябрам... Я бяру ваш лёс у свае рукі...» Мікульскі нічога не гаварыў у адказ. «Сёння ў мяне дзень ангела, будзе невялічкая выпіўка з фантамі... Вы будзеце такім сюрпрызам! Вельмі прашу, хадзіце з намі!..» — «Цяпер во, ноччу?! Пасля спектакля?!» — наіўна здзівіўся ён. «Цяпер, верны мой, добры рыцар! Мы — акцёры, людзі мастацтва, мы толькі і можам дазволіць сабе крыху адпачыць і пазабаўляцца ноччу. Дзень для нас свяшчэнны, удзень — работа, служэн-

не музам! Па два спектаклі даём, гэта не жартачкі!» — «Дык у мяне ж... Дык я ж ніякага падарунка не...» — «А кветкі»? Самы лепшы падарунак... Белы колер — пяшчотнасць пачуццяў, захапленне, вернасць... Памажыце мне, каб хутчэй было...»

Яна павяла яго ў свой пакой-грыміравальню за сцэнай. За руку — нібы якога хлапчука...

«Памажыце мне, хутчэй будзе... Расшпіліце... Патрымайце...» — пакручвалася яна перад ім напаўголая, нібы каля яе быў не закаханы студэнт, а служанка. Хтосьці адчыніў дзверы, манерна наставіў рукі — «Пардо-он!», ціха прычыніў. Мікульскі выконваў усё, што яна гаварыла — чырванеючы, бялеючы, уздрыгваючы ад кожнага дотыку да яе, палахліва азіраючыся на дзверы. Каб хаця зноў хто не ўсунуў нос! Калі агалілася яе атласна-белае плячо, ён, разыгрываючы закаханага палюбоўніка (недзе чытаў пра такое), тут жа прыпаў да яго губамі. І яна не вырвалася, а далікатна вызвалілася, павярнулася да яго тварам. «Малад-ы-ы чалаве-е-ек!..» — праспявала, пагразіла пальчыкам. І ў гэтай пагрозе было больш заваблівасці, абяцання чагосьці незвычайнага ў іншых, больш спрыяльных умовах, а не асуджэння. Ён дурнавата ўсміхнуўся, выконваючы яе просьбы: «Зашпіліце... Цяпер можаце глядзець, толькі не сурочце...»

У яго мільганула тады ў галаве, што дзесьці штосьці ён падобнае бачыў — у кінафільме з жыцця вялікасвецкіх паненак. А цяпер і сам быў уцягнуты ў гульню. Рамантычную, незвычайную... «Раскажу сябрукам — лопнуць ад зайздрасці!» Хаця не, не раскажа, ёсць на ўсё мяжа, хіба можна плявузгаць пра такое нават сябрам.

Вечарынка, ці начная гулянка, была ў здвоеным нумары-люксе гасцініцы «Эўропа» на Ленінскай вуліцы... Такога гармідару і галасу ён ніколі не чуў і не бачыў. Нават уявіць сабе не мог, што можна так шалець і хадзіць на галовах! Суседзі і ў сцены стукалі, і ў дзверы, маліла ўгаманіцца і дзяжурная па паверсе — пажылая ўжо жанчына. А яе ўгаворваў Мікульскі, як найбольш цвярозы: «Бывае... Вы даруйце ім, гэта ж артысты! Дзень нараджэння ў чалавека, раз у год бывае!» — «Нешта вельмі часта ў вас дні нараджэння... Госпадзі, каб хаця скарэй ужо яны выбраліся...» — пайшла ад яго, нават не даслухала.

А яны вар'яцелі яшчэ мо гадзіны дзве, поўзалі пад сталамі, танцавалі на сталах, нешта прадстаўлялі, чыталі на памяць, спявалі. Мікульскага прымушалі спяваць у шклянку з тонкага шкла — пэнкне ці не? У Шаляпіна ж разляталася... І захоплена выгуквалі ўслед за Генрыетай: «Унікум! Актава!» Яго разыгрывалі ў фанты, прымушалі бясконца цалавацца. Верціхвосткасубрэтка [1] віншавала Генрыету: «У цябе, як заўсёды, бездакорны густ! І вока!» — «Вопытнае вока!» — зелянела ад зайздрасці паўнаватая інжэню [2]...

Пад канец разышліся па сваіх і не па сваіх нумарах, а хто не мог — зваліўся ў гасцінай на канапе, на дыване. Генрыета пайшла ў спальню... «О Ісусе, як я стамілася... Памажыце расшпіліць...» — паклікала яна яго зняможаным, няшчасненькім голасам. І ён памог, хмялеючы ад блізкасці больш, чым ад выпітага...

І застаўся ў яе да раніцы, хоць была ўжо раніца, і летам у гэткую пару ўзыходзіла сонца.

Астатнія два месяцы, пакуль закончыліся гастролі тэатра, ён быў у яе то цераз суткі, то кожную ноч. Тыя ночы, калі не заходзіў, бегаў на халадзільнік грузіць скрынкі з вялізнаю мёрзлаю траскою, бочкі кількі і селядцоў і доўга адмываўся потым ад гэтага паху. Бегаў і на таварную станцыю за бетонны мост разгружаць баласт з платформаў, на «Камунарку» — збіваць скрынкі на цукеркі. Каханне патрабавала грошай!

Ён ездзіў за ёю яшчэ ў Бабруйск і Гомель, дзе тэатр паказваў па два-тры спектаклі па дарозе дамоў. Зусім задурманены, нікому нічога не тлумачачы, перавёўся ў Харкаўскі універсітэт: каб быць бліжэй да яе, быць з ёю.

Хадзіў у Харкаве на заняткі да прафесара Ноўскага — «ставіў» голас, дыханне. «Ах ты, чалавечышча!..— стрымана захапляўся той.— Асцярожненька толькі, памаленьку... І працуй, працуй! Я зайздрошчу тваёй будучыні!»

«О поле, поле, кто тебя усеял мертвыми костями?» — вёў Мікульскі і пазіраў адным вокам на Леаніда Андрэевіча, і бачыў, як святлее ў таго твар. «Верачка, ты чуеш? Падвядзі мяне да гэтага цуда-юда, а то ён саромеецца сам падысці!» Сляпы, грузны целам, ён не-

[1] Амплуа ў тэатры аперэты, тып разбітной, зухаватай служанкі, майстрыцы на ўсякія інтрыгі.

[2] Актрыса, якая іграе ролю дзяўчат-прастушак.

цярпліва варушыўся ў глыбокім крэсле, чакаў, пакуль жонка падштурхне да яго Мікульскага. І нагінаў яму галаву, цалаваў у лоб, выціраў нават слязу, пакашліваў: «Беражы голас... Гэта не толькі твой голас, твой дар... Гэта багацце ўсяго твайго народа. Ён народу належыць, чуеш?»

Мікульскі схуднеў страшэнна. Ён разрываўся на часткі — дзе на ўсё браць час? Вера Андрэеўна, жонка прафесара, усё часцей зазывала на кухню, налівала талерку наварыстага ўкраінскага баршчу і прымушала з'ядаць, як ні адмаўляўся.

Спакусіў яго д'ябал у масцы добразычліўца — адзін увішны кіраўнік канцэртнай брыгады філармоніі, тоўсценькі дзядзька з гальштукам-«матыльком». Уваліўся да яго на кватэру, мокры ад поту, без запрашэння сеў і расхінуў пінжак. А з грудзей пстрык манішка ўгору, згарнулася пад барадою трубачкай. «О, пардон!» — распрастаў зноў, прыкрыў ёю валасатыя грудзі, захінуў пінжак. Але не ўтрываў-такі, зняў пінжак, манішка зноў — круць! Аднак больш на яе ўвагі не звяртаў, сядзеў напаўголы, без усякага сораму. «Ш-шо ты за людына! Робіш тобі дабро, а ты ўпэрты, як віл... Сцюдзенту ш-шо трэба? Грошы тай харч харошы! Ніхто і знаты нэ будэ — цэ ж на канікулах усэ робіцця!»

Ах, як хацелася яму тады прыходзіць да Генрыеты ва ўсім бляску, шчодрым на ласку і на грошы! Паддаўся ён на спакусы філарманіста... Спяваў каваціну султана з оперы «Запарожац за Дунаем», самога запарожца. З паўмесяца ішло ўсё добра, мільгалі раённыя гарадкі і мястэчкі, адкрытыя пляцоўкі ў парках. Заставалася яшчэ паўмесяца да канца дагавору, і ён поўніўся шчасцем, прадчуваннем хуткай сустрэчы з Генрыетай. І раптам нечаканае: спяваў у парку, на адкрытым паветры — «На майданэ, коло цэрквы, рэволюцыя ідэ...», хватануў соль-дзіез — голас сарваў...

Як не праваліліся пад ім дошкі тых падмосцяў-сцэны! Як не згарэў ён ад сораму! Кінуў усё, прыляцеў у Харкаў — у роспачы, з душэўным надломам. Адразу да Генрыеты, у яе тэатральны пакой-прыбіральню за сцэнай. Думаў суцішыць тут сваё гора, забыцца... Адчыніў без стуку — як свой... І тут жа зачыніў, грукнуў, нават не прамармытаў «Пардон!», як некалі нехта, убачыўшы ў прыбіральні яго...

Каля Генрыеты стаяў іншы паклоннік! Стаяў і памагаў адзявацца... Танклявы, высокі бландзін...

«Ціма! Цімуня!» — мусіць, згледзела яго Генрыета, хацела спыніць, штосьці растлумачыць.

Ляцеў па лесвіцы службовага ўвахода, пераскокваючы цераз тры прыступкі. Перапалоханы дзяжурны-швейцар ажно ўпусціў тэлефонную трубку...

Ноўскі адшукаў яго на Каўказе, у Нальчыку. Усё ўжо ён ведаў, усе яго канцэртныя прыгоды. Вазіла Вера Андрэеўна мужа і ва універсітэт, і ў інтэрнат. Ён распытаў у хлопцаў, куды выехала група студэнтаў-геолагаў на практыку. Уведаў, што Мікульскі, географ, упрасіўся, каб узялі ў геолагаразведвальную партыю і яго. На любых умовах, на любую пасаду — абы [illegible] імі, абы падалей ад Харкава!

Хай бы гром ляснуў сярод зімы, з чыстага неба — і ён бы так не здзівіўся і не спалохаўся, як убачыўшы ў дзвярах здарожаных, ледзь на нагах стаяць, гэтых старых дзівакоў. Вера Андрэеўна трымала прафесара пад руку, моўчкі і дакорліва глядзела на яго, а Ноўскі цяжка, з прысвістам дыхаў, выціраў хусцінкай расчырванелы твар. «Ну што — тут ён? — паціху, паварочваючыся да вуха жонкі, пытаў ён.— Ну — што ж ты маўчыш, Верачка? Тут гэты варвар?» — «Тут, Лёнечка... Нават прысесці не запрашае...»

І тады Мікульскі кінуўся да крэслаў, спатыкнуўся на вялізны заплечны мяшок, што стаяў пасярод пакоя, ледзь устояў на нагах, цярнуў локцем па адным крэсле, па другім — «Праходзьце, праходзьце!».

Вера Андрэеўна правяла прафесара крокі на тры, усадзіла на крэсла: «Наследзілі тут вам...» Азірнулася на белыя плямы ступакоў ад самага парога, ад мокрай, у пабелцы анучы.

Інтэрнат нейкага тэхнікума, дзе далі часовы прытулак украінскім студэнтам, рамантаваўся. І падлога ў калідоры, вокны, нагрувашчаныя паўз сцены пірамідамі ложкі, і нават тут, у адзіным яшчэ занятым пакоі, падлога, усё запэцкана пабелкаю. Пакуль прайшлі Ноўскія да яго куткавога пакоя на другім паверсе, то выпацкалі вопратку і абутак, рукі, у прафесара нават на капелюшы бялела некалькі кропляў. Увішныя былі маляры ў Нальчыку...

«Ну і што? Будзем маўчаць? Мамачка, скажы, якое суемудрые на яго чале? Ці мёртвы штыль?» — «Шторм

у дзевяць балаў... Адчайныя спробы выплыць...» — «Так, так, так, так...» — Ноўскі падхапіўся на ногі, збіраючыся прабегчыся па пакоі, як дома, дзе ніколі амаль ні на што не спатыкаўся. «Асцярожна!..» — ахнула Вера Андрэеўна. Позна! Стукнуўся, ажно пасунуў перад сабою стол...

Як ён тады лаяў Мікульскага! Як чахвосціў! «Варвар» было самым ласкавым словам у яго лексіконе. Сказы былі доўгія, складанай канструкцыі, амаль з адных стараславянскіх слоў і музычных тэрмінаў. Было і камічна слухаць, і рабілася шкада гэтага дабрэйшага старога чалавека, самаахвярнага служку другой музы...

«Я прывёз усе твае ноты! Усе рэчы! Я наняў кватэру тут, з піяніна! Ты будзеш спяваць, галубчык, нідзе не дзенешся! Я цябе з дна марскога дастану! З любога Эльбруса спару!» — «Усё, Леанід Андрэевіч, адспяваў...» — «Маўчаць! Ты што спяваў... тады?»

Мікульскі сказаў — што, на чым сарваўся. «Маўчаць! Калі хворыя звязкі — маўчаць! І лячыцца! Я ведаю тут добрага гарлавіка, урача з курорталагічнай клінікі... Верачка, у цябе ёсць яшчэ сёння кропелька сілы?» — «Лёнічак, хай мо пад вечар, як гарачыня спадзе... Цяжка табе!» — «Я? Я здаровы, прабачайце, як бык! Я магу скакаць па камянях, як каўказскі муфлон! Пайшлі зараз жа! Мамулеча, упляціся-за гэтага варвара другою рукою, каб не даў драпу!»

Ноўскі задыхаўся, абліваўся потам. Насоўка ў яго стала мокрай, хоць выкручвай...

Не змог тады адразу ісці з імі Мікульскі. Трэба было дачакацца хлопцаў — гайсалі тыя па магазінах, закуплялі апошнюю драбязу, якая магла спатрэбіцца ў паходзе.

«Ты яго слухай, Цімоша...— ласкава гаварыла Вера Андрэеўна.— Былі такія выпадкі, і ўсё добра канчалася...»

І ён паслухаў Ноўскіх, уціхамірылі яны тады яго душу, улілі веры ў свае сілы і здольнасці. Здаецца, і сардэчная рана не так смылела. Шкада было развітвацца з хлопцамі, але мусіў, стаў хадзіць да гарлавіка. І нічога не выхадзіў — лячэнне ішло туга. А тут яшчэ Грыпіна-Генрыета недзе дастала яго «каардынаты», пачала закідваць пісьмамі — ахі, охі, кляцьба ў вернасці «па край гроба»...

Развітаўся з мілымі Ноўскімі, падзякаваў ім за ўсё. Забраў дакументы з Харкаўскага універсітэта, зноў перакінуўся ў Мінск. «Вяртанне блуднага сына...»

Да вайны паспеў і універсітэт скончыць, і папрацаваць год у школе пад Рудзенскам...

«Стары які я ўжо... Як сто гадоў за плячыма! А ўсяго ж — трыццаць... Нават няма яшчэ, праз месяц стукне... У сорак першым дваццаць сёмы ішоў, і то матка гаварыла, што ў старых бабылях застануся...»

Перад самаю вайною ён і дадому не паспеў заскочыць. Прыняў толькі ў дзесяцікласнікаў апошні экзамен і адразу памчаў на Украіну, у Купенск, да сястры. А хацеў жа, планаваў на тое лета і дома пабыць, і на Valio зірнуць — ці шчаслівая яна?

«Макарэвічава сарвігалава замуж выскачыла,— пісала маці ў пісьме, здаецца, у верасні саракавога года.— Але нешта не ўжываюцца, уцякала ўжо раз ад яго. Быццам набіць мужык хацеў. У Слуцку, у амтаэсе, механікам ён робіць. Спакойны, здаецца, чалавек... Прыязджаў да яе, перапрасіў. А хай бы і даў трохі, нядократка бо такая! Мо менш зубы скаліла б кажнаму стрэчнаму-папярэчнаму. Добра, што ты тады не злыгаўся з ёю, паслухаўся мяне. Негадзяшчая яна для сямейнай жызні — я так прызнала. Абсыпаць бы мужыку яе дзецьмі, каб не было часу ні пра што больш думаць, то ўраз бы апусціла крылле. Але не дае ім бог дзетак, і праз гэта Іван піць пачаў...»

Ах, мама-матуля... Якія ў яе былі цікавыя пісьмы! Доўгія, па палове сшытка, пісаныя рознымі алоўкамі, не ў адзін прысест. Усе драбніцы перапісвала, што ў сяле робіцца, пра ўсіх суседзяў, а пра сябе коратка: жыва-здарова, штосьці няма доўга ад Зіны пісьма.

А сам ленаваўся ёй пісаць. Як махнуў тады на Украіну да Зіны, нічога маці не напісаў, думаў, і яе там сустрэне. Не прыехала старая, і мо добра, што не прыехала — як бы яна дабралася ў такой калатнечы дадому. Сам ён кінуў пісульку ў паштовую скрынку ўжо з Купенскага ваенкамата, калі стала вядома, што яго бяруць у армію. Не дайшло, мабыць, тое пісьмо да яе...

«Мама-матуля... Ці жывая ты?»

Дзе яна цяпер і што робіць? Ці вярнулася з-пад Рудзенска?

Гэта Valio яму сказала пра гэта: пайшла матка пеш-

кі пад Рудзенск шукаць яго, распытаць у людзей, дзе дзеўся.

А заходзіў ён у сваю вёску, як вярталіся з Магілёўшчыны... У сорак трэцім, у канцы мая. Чалавек часам можа так паджартаваць над сабою, што замест смеху плакаць захочацца. Як з пахмелля... Гэта пасля другога партызанскага атрада, калі яны надумалі стварыць свой. А першым атрадам, у які яго з Васілём прынялі, камандаваў Фядоркаў. Добры чалавек, добры камандзір...

...Як засмягла ў роце! Здаецца, не язык, а кавалак анучы...

Сплыла фляга з Анюцінай санітарнай торбай... Як бы цяпер спатрэбілася гэтая пасудзіна! Каўтнуў бы разок, і палягчэла б.

«Анюта мо ўжо назад едзе?»

Тупы боль ломіць, выварочвае, як ломам, косці чэрапа. Асабліва на той палавіне, дзе няма ўжо вока і сядзіць асколак... Завыць бы, закрычаць па-звярынаму, пакачацца покатам — мо і палягчэла б... Бо няма ўжо сілы трываць гэты боль, няма перад кім стрымлівацца — знікла Анютка...

Каб можна было сціснуць сківіцы, лягчэй трывалася б. Але спрабаваў не раз, і тады напружанне перадавалася ў вачніцу, боль мацнеў. І Мікульскі стагнаў ужо даўно, стагнаў і не заўважаў гэтага, яму здавалася, што трымае сябе ў руках...

Не дай бог расслабіцца зусім, не адолець самога сябе... Ужо даўно недзе на самым дне падсвядомасці гадзюкай звіваецца, пакручваецца здрадніца-думка: а нашто ўсе гэтыя пакуты? Нават калі верыць у цуда, што Анюта не забавіцца, знойдзе фурманку, што ўдасца шчасліва дабрацца да атрада... У тое, што яго адратуюць, вылечаць... Усё роўна ж застанецца сляпы. Сляпы — горш бездапаможны, чым малое дзіця, яму нянька патрэбна да канца дзён. Каму і навошта ён — такі?!

І як можа вылечыць, адратаваць Адам Палуян ці нават урачы са шпіталя Пінскага злучэння, калі ў іх мо і інструментаў такіх няма, і патрэбных спецыялістаў? Калупацца ў воку — гэта не бок зашыць...

А можна ж было разам скончыць... Трэба было настояць, каб пісталет Анюта пакінула яму... «Мы в море родились — умрем на море...» Сам калісь спяваў такую песню варажскага госця. Варта было б толькі паднесці

дульца да скроні, націснуць на кручок — і ўсё па ўсім... Яшчэ можна паспрачацца палахлівасць гэта, здрада самому сабе, таварышам, ці мужнасць, калі няма інакшага выхаду са становішча...

Каб было чым забіць тады сябе, як круціўся ў ярыпастцы, то мо і ён паставіў бы на сваім лёсе кропку. І не было б гэтых двух гадоў пасля вясны сорак другога, не пражылося б столькі ўсяго і не пабачылася б...

«Дзе Анюта цяпер? Ці пашанцавала ёй?»

Мікульскі, мацаючы рукамі перад сабою, папоўз...

Вады... Каўтнуць бы вады... Намацае тую разорку з дубцамі, што вядзе да берага, а тады ўлева па ёй... І там будзе вада... А мо ўправа?

Трымцелі, не трымалі рукі... Здавалася, вось-вось падломяцца, галава пераважыць, і ён перакуліцца стаўма...

Пад здаровым, незабінтаваным вокам казыталі шчаку, як слёзы, кроплі поту...

* * *

...Анюта не пачула, ці адгукнулася Вацлава, і зноў пастукала. Стала на дыбачкі, зазірнула ў акно...

Спачатку нічога не распазнала, здалося, што ў пакоі цёмна. А потым разабрала: на падлозе вялікая лужа, каля яе поўзае на каленях Вацлава, штосьці мітусліва падбірае ў прыпол здаровай рукою. Галавы да акна нават не павярнула...

Анюта разгубілася: ці бегчы ў хату, страсянуць гэту дурніцу за плечы, адарваць ад падлогі, ці яшчэ раз грукнуць у раму — кулаком? Але перш за ўсё падскочыла да вазка, прытрусіла сенам аўтамат Курмяля. Схапіла за аброць каня, ірванула на сябе, каб завярнуць на той след у парк, якім ехала з Курмялём. Конь натурыста задзёр галаву, губы і цуглі ў зялёнай пене, затупаў, як спутаны, і... шлэп капытом ёй на нагу! Анюта ахнула ад болю, выпусціла аброць. «Тр-р! Но-о!» — застукала кулакамі па назе каня, таўханула з усёй моцы яму ў персі. Конь саступіў з бота, абыякава нагнуўся, каб зноў ухапіць доле якога зелля.

Лейцы ўпалі каню пад заднія ногі, але Анюта не падымала іх, зноў мітусліва схапіла за аброць, але ўжо забегла з другога боку храпы, папхала конскую галаву перад сабою. Ёй здавалася, што ўсё яна робіць страшна

доўга, і немцы ўжо зусім блізка, мо цэляцца ў спіну, і між лапатак сыпала холадам. Конь стаў упоперак двара, вазок скрыгатнуў колам і нахіліўся. «Н-но, н-но, каб ты...» — штурхала каня далей, а ён ледзь не ўзлез з нагамі на прыступкі ганка і далей не заварочваўся — перашкаджалі напятыя лейцы.

Выскачыла Вацлава... Зыбнулася назад — ледзь не сутыкнулася з конскай храпай.

— Немцы! — выдыхнула Анюта.— Матацыклы блізка трашчаць!

Ніз спадніцы ў Вацлавы заткнуты за пояс, відаць белая, з самаробнымі карункамі, сарочка.

— Заварочвай! — прытрымліваючы здаровую рукою, каб не апаў прыпол, падбегла Вацлава да вазка.— Ах, такую нашу маць... Баб'ё! — затузала лейцы, вырываючы іх з-пад кола.

Падскочыла і Анюта, ухапілася аберуч — р-раз! Вырвалі...

— Сядай! — Вацлава няўклюдна залезла ў вазок, за ёю — Анюта, укленчыла ў перадку.— Дзе аўтамат?

Анюта нагою саўганула назад — «Во-о...».

Лейцаў конь слухаўся больш, адразу пусціўся бягом.

З-за бэзу, перавальваючыся з кола на кола, выехаў матацыкл, завярнуў у двор, за ім другі. Трэці толькі крыху вытыркнуўся з-за бэзу і стаў.

Немцы з першага матацыкла не ўсе злезлі, а толькі той, што быў у калясцы,— пайшоў у дом. Азіраючыся, Анюта ўбачыла, што хоць яны і глядзяць ім услед падазрона, але з месца яшчэ не кранаюцца.

Выбег той, трэці, з хаты.

— Айн мамент! — крыкнуў ім наўздагон.— Хальт! — і стрэльнуў з аўтамата ўгору. Проста так, каб спыніць іх. Мо хацелі пра што папытаць.

— Не слухай, гані! За паркам — улева! Там лес бліжэй! — Вацлава перацягла вялізны клунак у зад вазка, прылегла за ім з аўтаматам.

Вазок ужо мінаў пагорак каля руін палаца...

Та-та-тах! — мо адначасова пачулі яны і свіст куль над галавой, і чаргу з аўтамата. Стралялі з першага матацыкла, ён выязджаў ужо з двара. Другі штосьці не заводзіўся, каля яго мітусіліся немцы. Трэці, выскачыўшы з-за бэзу, абмінуў другога і газануў за першым.

— Не страляе! Цісну-цісну, а ён...— Вацлава прыўстала на колінцы, працягнула Анюце аўтамат.

— Дзяржы мацней! — Анюта сарвала з месца засцерагальную бланку, тузанула назад рукаяць затвора.— Давай цяпер! Толькі кароткімі... І цэлься добра!

Яны ўехалі ў цяністую алею-калідор, на галоп каня было не пагнаць...

Вацлава застрачыла. Момант быў удалы, першы матацыкл сама ўзляцеў на ўзлобак каля руін. Ён адразу вільнуў убок, убіўся ў куст акацыі. Мо ад нечаканасці, а мо Вацлава падстрэліла вадзіцеля. «Н-но! Н-но!!!» — Анюта лупцавала каня лейцамі, а ён адчуваў жаночую руку і не вельмі стараўся. «Каб пужку... Вытраслі недзе...» Два немцы беглі абапал алеі, тулячыся за дрэвы, і не стралялі, а толькі крычалі: «Хальт!»

Зноў стрэліла Вацлава, мабыць, па левым немцу, бо той зыбнуўся за дрэва...

Другі матацыкл газаваў па алеі на ўсю моц, трэці з'язджаў з пагорка...

«Чаму яны не страляюць? Маглі б як курапатак перастраляць! — думала Анюта, чукуючы каня.— Мабыць, жывымі хочуць пабраць...»

Зноў застрачыла Вацлава, доўгай чаргою. Але, мабыць, у белы свет, як у капейку, бо матацыкл вільнуў крыху да зарослай кустамі канаўкі ўзбоч дарогі, зноў выскачыў на сярэдзіну і прыбавіў газу. Адлегласць паміж ім і возам скарачалася — сто метраў, пяцьдзесят...

Уперадзе засвяціўся выезд з алеі ў поле...

— Тузні за колца і кінь! — падала Вацлаве лімонку.

— Ой, баюся! Я лепш з аўтамата... Я затрымаю іх!— яна нязграбна — перашкаджала хворая рука — вывалілася з вазка, стукнулася аб дарогу. Апаў падаткнуты прыпол, і на дарогу высыпаліся... залатыя рэчы: завушніцы, пярсцёнкі, крыжыкі, кулоны, зубныя пратэзы...

Вацлава не падбірала іх, застрачыла, стоячы на каленях. Немец у калясцы матацыкла клюнуў носам, выпусціў аўтамат.

— Хальт! Хальт! — крычалі астатнія.

Вацлава забыла пра золата, кінулася за абвалены цагляны слуп брамы. Анюта, прытармазіўшы ў варотах, каб не ўчапіцца, вертанулася назад і з усяе сілы шпурнула лімонку: «А трасцу вам!»

«Пацэліла ў матацыкл ці не?» Лейцы перакруціліся, і з-за паспеху Анюта тузнула не за тую ляйчыну — конь завярнуў не ўлева, а ўправа ад варот. Пакуль разабрала зблытаныя лейцы, праехала не ў той бок метраў дзесяць. Напяла з усёй сілы левую ляйчыну, і конь ламануў, прысядаючы на заднія ногі, улева... Па нечым загоне ячменю, вялікім паўкругам, калываючыся на разорах. І тут ударылі па кані з аўтамата. Той ірвануў з месца галопам, ледзь не вытрас Анюту: вазок моцна калыхнуўся на прыдарожнай разоры. А конь пёр, узгуляўшыся, дарогаю паўз цагляную сцяну-агароджу — улева ад брамы, куды і казала паварочваць Вацлава Анюта не кіравала, а трымалася аберуч за біла, каб не выкуліцца. Мігцелі каля вачэй, зліваючыся ў дзве палосы — чорна-зялёную і чырвоную,— прысады і сцяна парку... Ляскацеў, як не рассыпаўся на кавалкі, вазок...

Ззаду, каля брамы, страляніна разгаралася: мабыць, пачалі ўжо біць па Вацлаве ўсе немцы...

Скончыўся парк, міма панеслася шэрая палоса жыта, а конь усё ляцеў, як звар'яцелы. Штосьці пырснула ў твар Анюце, і яна асмелілася адарваць адну руку ад біла, цярнуць па шчацэ. На руцэ была кроў... «Чыя кроў? Я ж не чую, каб мяне параніла...» Зіркнула ўперад — у каня мокра чырванела левае сцягно...

Дарога збегла на луг, пакіравала да ручая — у чорную і шырокую лужыну — брод. Конь сцішыў імпэт, каля самай лужыны спужаўся, скочыў убок. Анюту і клунак Вацлавы выкінула ў гразь...

Падхапілася хутка, як мячык, бо тузанулі за руку накручаныя лейцы, пацяглі за сабою... Прабегла яшчэ колькі крокаў паўз кусты, па асацэ, купінах, ускінулася жыватом на біла. Але груздлі, чмякалі капыты, урэзваліся колы, і конь стаў. Бакі яго сутаргава апускаліся і падымаліся, шкура на прыўзнятай параненай назе дрыжала...

У парку спынілася страляніна.

— Дурненькі ж ты, дурненькі...— ласкава паляпала па крыжы каня Анюта, агледзела на сцегняку рану: куля, мусіць, сядзіць у мяккім, бо выхаду няма. І больш ран не відаць, толькі пашчапаны ў адным месцы вобад кола. «Як робяць, калі параняць каня? Змазваюць ёдам, перавязваюць?» У яе ёду не было, не было чым і перавязваць. Рана не страшная, але можа многа страціць крыві...

Вывела каня пад аброць да броду, і той прыпаў да вады, піў, фыркаючы, порскаючы, нібы злаваў на ваду. Падняла, закінула ў воз клунак Вацлавы. Адарвала каня ад вады — потым нап'ецца... Пераехалі брод, праз метраў пяцьдзесят пачаліся кусты, лес, пры ўездзе — вялікая лужа. Колы па самыя калодкі схаваліся ў зялёную жыжку.

Анюта апошні раз паглядзела назад, на дарогу. Праглядвалася яна мала — кавалачкі каля броду на лузе і каля жыта. Мо там, паўз парк, ужо ляцяць матацыклы, пагоня? Спыніла каня, прыслухалася: траскатні матораў не было чуваць...

Шкада было гнаць каня, але нічога не паробіш, і яна паганяла і паганяла яго ўперад. Зараснік асінніку і цёмных елак абапал дарогі гусцеў, ехаць было ўсё горш і горш: калдобіны, гразкія лужыны, замошчаныя ўчарнелым ламаччам. Вострыя сукі яго дастаюць каню да чэрава, лезуць у спіцы, тармозяць, трашчаць пад коламі, пырскаюцца гразёю. Не то што бягом, і ступою цяжка прабірацца...

«Забілі Вацлаву ці схапілі... От жа няшчасніца...»

Конь прыпадае на заднюю нагу, але цягнуць стараецца, нібы хоча ўцячы ад болю...

Не чуваць больш ні стрэлаў, ні матацыклетнага трэску. «А можа, мы іх пабілі ўсіх?.. Не, вярнуліся назад, адкуль ехалі...»

Злева і справа ссечана некалькі таўставатых асін, звалена верхавінамі на дарогу. «Завал... Не аб'едзеш...» — паглядзела Анюта. Тырчаць паўз дарогу пенчукі ў пояс, цямнее гушчэча. Даўнавата ссечаны дрэвы, лісце ўжо высахла, учарнела...

Анюта злезла з вазка, падышла да завалу. Не, не завал, гэта хтосьці гэтак замошчваў лужу. Відаць сляды колаў на камлях, аблузана кара, наляпана гразі. Праехаў нехта, праедзе і яна... Выламала дубец, залезла ў драбіны.

Пераехала і гэты, і яшчэ адзін. Каля трэцяга, дзе дарога паварочвала ўлева, зноў спынілася. Паглядзела на неба: так і ёсць, паварочвае на паўночны ўсход, куды і вецер дзьме. А ёй трэба на паўднёвы ўсход — у тым баку, па яе разліках, павінен быць Мікульскі.

Што наперад рабіць? Разведаць дарогу? А мо зусім не ехаць далей, а прывязаць каня і ісці па Мікульскага? Але ж кіламетраў пяць давядзецца ісці... Так, не

менш: колькі яна па лесе бадзялася, колькі са старшынёй воласці ехала. «А калі камісар не зможа ісці?.. Выбіраюся па Мікульскага, а не ведаю, куды вядзе гэта дарога. Мо яна праз колькі метраў на поўдзень заварочвае...»

«Не мітусіся!.. Парадкам усё рабі! Ад мітусні хутчэй не будзе... Самае першае — прывязаць каня, каб не ўцёк, даць яму сена...» І яна звяла яго, колькі можна было, з дарогі, прывязала да дрэва, падкінула сена. Забыла толькі расцугляць — яна і не ведала, што гэта трэба рабіць...

А пайшла не дарогу разведваць, а назад. Яна раптам адчула, што, пакуль не ўведае, як там з Вацлавай, не зможа нічога рабіць. Мо там кроўю жанчына сплывае, чакае яе не дачакаецца, каб дала якой рады... Мо паўзе следам за ёю?

Анюта ўсё прыспешвала і прыспешвала крок. Хіба можна кінуць чалавека, які толькі што ахвяраваў сабою, каб выратаваць цябе? А Вацлава ж двойчы ахвяравала... На гэта трэба не абы-якая мужнасць...

«Добрая была б партызанка, каб не ліхая доля... Бунтарка, як той кулямётчык Крот. Пачынаюць тады ваяваць, калі ўжо самому прыпячэ. Але калі б'юцца, то б'юцца насмерць...»

Цішыня стаяла ў лесе. Ледзь скмеціць можна было, як варушыцца лісце, і то на самых вяршэчках. Пачынаў сеяцца драбнюткі, як імгла, дождж.

Анюта прыстояла на ўзлеску, агледзела, колькі відаць было, дарогу — аж да сцяны парку. Нідзе нікога, ціха...

Брадок абышла збоку, пераскочыла ручэй і карча на корч.

Ад ручая — лугавінай, да жыта. Брыла нізкарослым жытам, угінаючыся, чапляючы ашчэраным ботам за сцяблы... Пералезла цераз сцяну ў парк — лепш ісці паркам, чым дарогаю, навідавоку.

Змрочна, сыра... Непадалёку ад сцяны цягнецца на захад зарослая лапушыстым падбелам дарожка. Буяюць кусты воўчага бэзу, крушыннііку, маліны, крапівы... Пахне ўдужліва, тленам, як на старых могілках. Сцяна цягнулася злева роўна, быццам пад яе спецыяльна выраўноўвалі, падсыпалі зямлю, а па гэты бок парку сцежка крута збегла ўніз, у лагчынку. Ногі коўзаюцца на зялёнай слізі сцежкі, храбусцяць пад нагамі

вялікія, нават не бачыла раней на сухазем'і такіх, цёлкі смаўжоў. І па сцяблах кустоў, і па зямлі поўзаюць доўгія, мо на пядзю, агідныя слізнякі... Справа, у самай нізовіне, цьмяна бліснула вада, патыхнула затхла, смуродліва. Дажывае свайго веку сажалка...

Зноў пабралася сцежка ўгору, пасушэла пад нагамі. Парадзеў і падлесак, а дрэвы над ім памажнелі, памкнуліся ўгору раскідзістымі кронамі. Хутка павінна перабегчы шлях тая алея-дарога, па якой яны выязджалі...

Анюта дастала пісталет Курмяля, падкалупіла кіпцем абойму — поўненькая... Узвяла затвор і ішла ўжо асцярожна, ад дрэва да дрэва, ад куста да куста, прыслухоўваючыся так, што звінела ў вушах. Вось і зарослая, закіданая прэлым лісцем канаўка каля той дарогі-алеі... Цішыня... Пуста... Ні немцаў, ні матацыклаў, быццам Анюта з Вацлавай і не падбілі ніводнага. Яшчэ паўзіралася ўгару па алеі, дзе руіны палаца,— нікога... Перабегла да абваленага слупа брамы...

Пясок каля яго стаптаны салдацкімі ботамі — дробныя ўзоры-ямачкі ад плешак цвікоў... Нараскідана пустых гільзаў... Каля самага слупа і пясок, і гільзы густа запырсканы чырвоным. Адсюль вядуць дзве палосы, нібы валачылі жэрдкі... «Вацлавы кроў... Ці забілі, ці параненую схапілі... Калі зраненую, то не скончыліся для яе пакуты...»

Анюце стала і цяжка, і горка.

Нашто было Вацлаве хапаць гэты клунак з адзежай? Нашто было шукаць тое Курмялёва нарабаванае золата?.. Упусцілі некалькі хвілін, а іх якраз і не хапіла, каб спакойна ўцячы...

Магло ж так стацца, што ехалі б яны зараз удзвюх на возе — жывыя, уратаваныя... Паяднаныя адной справай... Дзве сяброўкі па барацьбе...

Анюта ішла назад тою ж сцежкаю, тымі ж паркавымі зараснікамі. Ішла нага за нагу, ледзь не падаючы ад знямогі, хапаючыся за галіны кустоў. Млявасць і душэўная спустошанасць усё больш апаноўвалі яе. Вылазіць назад цераз сцяну было трудней, не слухаліся ні рукі, ні ногі.

У лесе тоненька шалпацеў лісцем, ужо можна было чуць, дождж. Зрэдку вяршаліны дрэў узварухвалі кучарамі, нібы ўздыхалі сцішана, як людзі на пахаванні, і зноў заміралі ў здранцвенні...

7 Першы раз напомнілі Мікульскаму пра кандыдацкую партыйную картачку ў атрадзе Фядоркава.

Сам-то ён памятаў пра яе ўвесь час, балючы дакор сумлення вісеў над ім, як дамоклаў меч. І гэты дакор то прытухаў, то распаляўся не раз і ў канцлагерах, і ў час уцёкаў, і потым — у партызанах. Асабліва як заставаўся сам-насам з сабою, хоць гэта былі рэдкія хвіліны. Неяк атрымлівалася, што яму для капання ў сваёй душы не ставала часу: трэба было ўвесь час думаць пра іншых, браць на сябе клопаты пра некага.

А вось папракнулі адкрыта, у вочы — якраз у лагеры Фядоркава. Першы раз... Сам Фядоркаў... Сцяпан Іванавіч Фядоркаў...

На нейкі дзень, які — згубіў ужо і лік, выйшлі яны да Шчары, селі адпачываць. Набраклыя стомаю ногі сунулі ў ваду. Эдзік завінуўся сюды-туды — прыводзіць хлапчука-пастуха сваіх год. «Коля,— адрэкамендаваў таго.— Яго бацька не любіць немцаў». Гэты Коля вадзіў потым іх на свой хутар, дадому, і бацька, які «не любіў немцаў», пакарміў добра ўвесь гурт заскваранай, з цыбулькаю, бульбянаю кашаю і вывеў да ракі, у дуброву. Махнуў рукою на ўсходні забалочаны бераг.

— Во... Тут Масква, а там немцы, і там...

— Ёсць партызаны?

— Ёсць, ёсць!.. Ад «капітана з бародкай» нядаўна былі ў мяне. Вам бліжэй за ўсё да іх... От як перабярэцеся цераз раку, то бярыцеся правей...

— Лодкі нэ мае? — уздыхнуў Шыпняк.

— Няма, браткі, няма. Сухапутны мой хутар...

Пераплывалі Шчару і раз, і другі, і трэці. Ужо хацелі плюнуць — зусім выбіліся з сілы. Пыкаў Іван адцураўся шыняля — распрануўся за трэцім разам у вадзе, і ён патануў на дно. Траплялі, мабыць, на звіліны, а мо і блудзілі па балотах, зарослых высокім, што лес, лазняком, па пясчаных выспах-сасонніках, па асінавых гаях-гушчэчы. Не вельмі шырокая была Шчара, але вада цёмная, глыбокая. Плывучы, Мікульскі падтрымліваў Эдзіка — у таго адмаўлялася служыць левая рука. Не сказаў тады, пры сустрэчы, што, уцякаючы з машыны, як вывозілі іх «кіндар-хайм», стукнуўся ён аб камяні бруку не толькі барадою, а і локцем. Знёс скуру з мясам ледзь не да касці, выбіў локаць. Спрабаваў сам паставіць яго на месца і нічога не мог зрабіць. Насіў доўга руку на перавязі, зрабіўшы з папругі пятлю. За-

жыла, сышоў струп, а выняў з пятлі — так і засталася напаўсагнутая.

Затрымаў іх партызанскі дазор.

Усе адпачывалі, сушыліся, а з Мікульскім меў размову сам камандзір атрада Фядоркаў. Засяроджаны, спакойны.

— Якая ў вас канечная мэта?

Твар у Фядоркава шырокі, ледзь не квадратны. Трошкі падаўжае твар бародка клінам і паўваеннага фасону фуражка. Вочы цёмныя, уважліва-ўчэпістыя, хоць відаць па чырвоных павеках, што чалавек недасыпае, стомлены.

— Дабрацца да фронту. Ваяваць...— уздыхнуў Мікульскі.

— Біць ворага...— удакладніў Фядоркаў.— Дык от: дабярэцеся вы ці не — бабка надвое гадала. А біць немца і тут можна. Жнівень сорак другога, вайне другі год пайшоў, а вы ўсё ў бягах, у паходах!..

— Мы і ваявалі... Да палону... І наваяваліся, і насядзеліся ў лагерах, і нахадзіліся.

— Камуніст?

— Быў кандыдатам.

— Як гэта — быў? Цябе выключылі? — перайшоў на «ты» Фядоркаў.

— Ніхто не выключаў.

Мікульскі расказаў, як усё адбылося.

— Калі паразважаць, магчымы тут некалькі варыянтаў: таго шафёра пахавалі, прачытаўшы вашу картачку, як вас. Вы трапілі ўжо ў спіскі загінуўшых. Гэта калі хавалі забітых нашы байцы. Але ж вы кажаце, што там каша варылася, нашым не да гэтага было... Маглі потым мясцовыя жыхары хаваць, картачку нават не знайшлі. А калі немцы — і ваша картачка, партыйны дакумент, трапіла ім у рукі? — Фядоркаў утаропіўся Мікульскаму ў вочы, не дагаворваючы. Але і так было зразумела: немцы маглі скарыстаць картачку. Маглі нават агента заслаць у савецкі тыл з гэтым дакументам... Маглі па ўзору картачкі фальшывак наштампаваць... Маглі... Ды ці мала яшчэ што яны маглі прыдумаць! — От такі каленкор...— стрымана ўздыхнуў Фядоркаў, падціснуўшы вусны.

— Такая вайна, фронт ад Белага да Чорнага мора... Няўжо вы думаеце, што не было іншых выпадкаў... Ну — каб не захапілі немцы і кандыдацкіх картачак, і

партыйных білетаў? — Мікульскі стараўся злавіць позірк вачэй Фядоркава.

— На вайне ўсё можа быць,— адвёў вочы ўбок камандзір.— Але гэта цябе не апраўдвае і не знімае з цябе віны... Ну — ладна... Калі вы з чыстым сумленнем — заставайцеся ў атрадзе. Будзем ваяваць тут. Вы — кадравы ваенны?

— Не. Настаўнік.

— А яны? — кіўнуў на паляну Сцяпан Іванавіч.

— Шыпняк Васіль — танкіст, ваяваў у гэтых мясцінах... Вайна ў Пружанах застала. Адступаў з баямі ледзь не да Шчары. Сяржант Іван Пыкаў нядаўна да нас прыбіўся...

— Ну, танкіста мы яшчэ не скора пасадзім у танк,— усміхнуўся Фядоркаў.— А такія магчымасці ёсць: кажуць, недзе тут у Шчары мокне наша «бэтэшка». Якая ў вас зброя?

— Ніякай...

— І ў нас скупа. Трэба адбіваць зброю, патроны ў немца. Людзі трэба, ваенныя асабліва... У нас амаль адны мясцовыя ў атрадзе, цывільныя. Абучаць трэба — са зброяй не вельмі ў ладах. З адзежай хранова, з абуткам... А ў рваных тапачках...— кіўнуў на ногі Мікульскага,— доўга не наваюеш, гэта не ў хаце шлёпаць.

Яны сядзелі на пнях, і Мікульскі хацеў падабраць ногі, прыхаваць свой абутак, і не было куды...

Фядоркаў расшпіліў каўнер цёмна-зялёнага, напаўваеннага фрэнча з вялікімі накладнымі кішэнямі на грудзях, пачухаў валасатую грудзіну. Пераносіў ён гарачыню цяжка, увесь час цёр рукавом па лбе, далонню — па карку. Дыхаў сіпла і часта, як астматык.

— От такі каленкор... Партыйнай арганізацыі ў нас няма. А камуністы ёсць, ты — пяты. Камсамольцаў дзесятка паўтара. Трэба афармляць арганізацыю, выбіраць камсорга ці парторга... Білеты камсамольскія таксама не ўсе маюць...

— Абы чалавек па духу быў наш... Справай даказаў сваю партыйнасць. А білеты... Калі-небудзь усё аформіцца і з білетамі.

— Я думаю гэтаксама. А работы хопіць нам — ага!

Фядоркаў гаварыў так, быццам усё вырашана і яны застаюцца ў атрадзе. А мо і праўда, вырашана? Куды ім далей ісці? І так ужо ў косці ўелася гэтае бадзянне...

Можа, яны і дабраліся б да фронту. Але на гэта трэ-

ба час — такі каштоўны, такі неабходны для барацьбы. Як ніхто іншы, Мікульскі адчуваў імклівы бег часу — усім нутром, кожным нервам. Дзень пры дні гэты нутраны, душэўны боль павялічваўся, здавалася, там завёўся нейкі свой гадзіннік і кожны здвоены ўдар сэрца выстукваў па напятых нервах, як па струнах: «Ці так? Ці так?» Ці так, ці тое ён робіць, ці туды вядзе за сабою хлопцаў? А яны ж даверыліся яму, паверылі ў яго вопытнасць.

Пад канец ішлі яны сутак колькі і па начах і ўдзень — добра, што лясоў было многа. Ішлі, забываючы на сон, на адпачынак, на яду. Бурчаў толькі сяржант Іван Пыкаў, самы здаровы сярод іх, самы ўкормлены. І не такі маўчлівы, як яны. У Мікульскага з Шыпняком шмат было перагаворана ўжо, навучыліся разумець адзін аднаго без слоў ці з аднаго намёку. А той усё гаварыў — спачатку аб тым, як ваяваў, адбіваўся да апошняга патрона на Н-скай пагранзаставе — там, у пушчы, як потым уцалелая жменька пагранічнікаў пайшла ў апошнюю штыкавую атаку. А немцы клалі іх з мінамётаў, касілі з аўтаматаў, не далі нават наблізіцца для штыкавога ўдару... Як кантузіла, як хацелі пасля бою нейкія дзед і баба пахаваць і яго. А потым завялі пад рукі ноччу на свой хутар. Як пражыў у іх цэлую восень і зіму, зранены, не чуў і не мог гаварыць, бы нямко. А потым, як адпусціла, прыбіўся да атрада Казанава, а як разбілі атрад Казанава — да той групы, што хавалася ў стозе.

А першыя дні, як пайшоў ён з Мікульскім, Пыкаў усё радаваўся, што ідуць, што ў іх ёсць мэта, не тое што ў тых стагавых ваякаў. Потым убачыў, што яго балбатня надакучыла ўсім, змоўк, замкнуўся. Намаўчаўшыся, пачынаў наракаць на тэмп і зноў нібы спахопліваўся — «Нічога, нічога! Здужаем...». Быццам хацеў увесь час здавацца лепшым, чым ён ёсць.

Фядоркаву тады Мікульскі адразу нічога не сказаў — «Параюся з хлопцамі...». А сам быў перакананы ўжо: далей ісці не варта. На чалавечую шчырасць трэба адказваць шчырасцю. Фядоркаў мог і не мазоліць ім язык амаль дзве гадзіны, мог і не прыняць іх — без зброі ж людзі, сваіх такіх хапае. А от жа гаварыў з ім як з чалавекам, і недзе, нібы другім планам, праступала з яго слоў скарга: цяжка, браток, усё арганізоўваць давялося з нуля — такі каленкор... І, мусіць, чалавек

крыху змогся ўжо і спадзяваўся на дапамогу Мікульскага. Мо ўбачыў у ім штосьці ад арганізатара, ад камандзіра. А мо ўбачыў, што і Мікульскі ішоў ужо на адных нервах і адчаі, калі крышацца ад зацятасці сціснутыя зубы...

Васіль і Эдзік спалі, як дзеці. Галава ў Эдзіка ляжала на згібе локця, на верхняй губе выступілі расінкі поту. Клаліся ў цяні, а сонца звярнула ўбок і дастала іх, смаліць, як агнём. У Шыпняка па далоні поўзае няўклюдная, з тоўстым брухам мурашка-матка з абгрызенымі крыламі. Мусіць, у гэты дзень было раенне мурашак... Мікульскі пашкадаваў будзіць Эдзіка і Васіля, падышоў да Пыкава. Іван устаў адразу, пазяхнуў. Твар хоць і быў зморачы, але не заспаны. Ці не слухаў ён размову Мікульскага з камандзірам?

— Трэба заставацца, Цімох Андрэевіч,— сказаў цвёрда Пыкаў.— Фядоркаў мне падабаецца, і атрад яго... Парадак, дысцыпліна ёсць... Гэта сапраўдныя партызаны! Ва ўсякім разе я застаюся тут, а вы як хочаце...— і пачаў гарнуць «казіную ножку», паспеў ужо расстарацца ў партызан тытуню.

І яны засталіся...

Першы іх сапраўдны атрад... Урочышча каля вёскі Лісіныя Норы. Бліжэйшы горад — Слонім, мястэчкі — Бытань, Габінавічы.

У гэтым атрадзе больш ніхто не ўспамінаў Мікульскаму пра забытую разам з трантамі гімнасцёркі кандыдацкую картачку. Успомнілі значна пазней пра гэта, у сорак трэцім, у другім ужо атрадзе...

А пакуль што першая вылазка, першая баявая аперацыя. Пайшоў на яе ў ботах Пыкава — падышлі. Пыкаў жа адмовіўся: сцёртыя ногі, не можа хадзіць... А карабін у кухара Серышава папрасіў. Усё роўна ў таго зброя вісела «для красы», на цвіку пад павеццю (кухня называецца: чатыры слупкі, на іх пляскатая, з жэрдак і галля страха — ад сонца толькі). А заржавеў той карабін!

— Ты што — у катле ім мяшаў? — не ўтрываў, каб не папікнуць кухара, Мікульскі.

— Даюць — бяры, б'юць — уцякай. І вабшчэ, ты! Мой селядзец, у што хачу, у тое й фарбую, дзе хачу — там і вешаю...

Серышаў быў дзядзька яршысты, здаецца, гэты чалавек ніяк не падыходзіў да такой пасады: і стары, і

худы на выгляд. Звычайна кухараў Мікульскі ўяўляў ружовашчокімі малайцамі-таўстунамі, абавязкова балагурамі. А гэты калі і жартаваў, то змрочна, і так ужо булькатала ў яго жарце жоўць, што партызаны не ўсміхаліся ніколі.

Першая партызанская аперацыя Мікульскага. Засаду зрабілі на Бытанскім тракце. Разведка падказала, што на Габінавічы праехалі тры машыны з немцамі. А ці будуць вяртацца ў гэты ж дзень?

І дачакаліся, ехалі яны назад. Паперадзе ляцела грузавая з немцамі, затым «опель-капітан» з афіцэрамі, ззаду яшчэ дзве грузавыя, з пярэстымі будамі. Кажуць, што першы бой, хоць і нязначны, урэзваецца ў памяць. Няпраўда, гэта Мікульскі праверыў на сабе. А мо таму гэты хуткацечны бой не запомніўся ва ўсіх падрабязнасцях, што быў для яго не першы? За спінаю ж быў фронт, амаль цэлы год фронту... І баі — асабліва той, пад Лазавенькамі... А мо лагеры зрабілі яго такім стрыманым у час бою, скамянела-спакойным?..

Іх было семнаццаць у засадзе. Ад першага ж залпу пярэдняя машына з'ехала ў кювет, загарэлася. Немцы сыпаліся, выскоквалі з яе веерам... Легкавік хацеў абмінуць падбітую машыну, падбавіў скорасці. На яго дарозе ўскінуў руку паранены немец, валачыў, не мог адарваць ад зямлі азадак... Залямантаваў штосьці, закрычаў... Шафёр збіў яго бамперам, але лопнуў скат, і легкавік увагнаўся пад кузаў падбітага грузавіка. Афіцэры, мусіць, не паспелі прыгнуцца, ва ўсіх былі, Мікульскі потым бачыў, патрушчаныя галовы. Другі грузавік з будаю ламануў улева ад легкавіка і заваліўся ў левую канаву. Білі яшчэ залпам, страчылі па гэтай і па другой будзе, з якіх таксама выскоквалі, выгіналіся з нечалавечым крэканнем, бы хто біў шворанам па спіне, шыліся ў кусты шэра-зялёныя фігуры...

Дзесяткі два жывых немцаў, не аглядаючыся, пакурэлі ў Бытань — іх не сталі даганяць, далі толькі яшчэ адзін нядружны залп наўздагон. Нецярплівыя пасоўваліся з пагорка на дарогу, кінуліся збіраць трафеі.

У кузаве першай машыны лопаліся патроны, палалі падпаленыя другая і трэцяя машыны — з іх патроны павыносілі скрынкамі. А Мікульскі з Шыпняком усё хапатліва мітусіліся сярод гэтага жару і дыму, падбіралі рассыпаныя патроны, напакоўвалі імі кішэні, запа-

зухі, засоўвалі за пояс гранаты з доўгімі драўлянымі ручкамі.

Шыпняк нёс на плячы два карабіны і аўтамат, ён — два карабіны: кухараў і трафейны. У руках Шыпняка былі яшчэ і бліскучыя боты — паспеў сцягнуць з афіцэра ў легкавіку.

— Бяры — прэзент! Фэрштэйст ду? — працягнуў яму боты Шыпняк і ўсміхнуўся на ўвесь рот. Яны якраз ускарабкаліся на пагорак каля лесу.

Мікульскі гідліва скрывіўся.

— Такэ гарнэ взуцця, а він шчэ носам крутыць! Шчоб знав, то й нэ старався б...— пакрыўдзіўся Васіль.

Давялося зняць пыкаўскія керзачы, прымераць хромавікі.

Набасанож нішто, можа, нават на крамную шкарпэтку ўзлезлі б. Але па лесе — і ў хромавіках?!

— Дзякую... Прабач, данке шэн за падарунак.

— Намочыш у балоце, разносыцца і будэ гаразд.

— Хіба каб папамок разам з ботамі ў балоце...

Яму засталіся керзачы, хромавікі раптам даспадобы прыйшліся Пыкаву...

Чамусьці Мікульскаму больш запомніліся дробязі. А мо і не дробязі? Як складаў і перапісваў ад рукі лістоўкі. Капіркі не было, каб паскорыць справу, і на сярэднім пальцы збоку, дзе звычайна ў пішучых робіцца цвёрды мазоль, у яго нацёрся вадзяны. Даўно алоўка ў рукі не браў!.. Запомнілася, як «бралі» радыёпрыёмнік: каб лістоўкі мелі больш фактаў, а не адны эмоцыі і гнеў, хоць і вершаваныя, патрэбен быў прыёмнік да зарэзу. І загад быў катэгарычны — дастаць любою цаною, любым спосабам... Ім самім трэба было ведаць, што робіцца на франтах, бо немцы ўжо трусілі над вёскамі, над лесам лістоўкі: Сталінград узялі, не сёння-заўтра здасца блакіраваны Ленінград. А там і Масква, і канец вайне. І заклікалі: не туляйцеся па лясах, здавайцеся нямецкім уладам, забівайце камісараў і бальшавікоў і пераходзьце на бок немцаў. Абяцалі нават, хто лепш паслухаецца і выслужыцца, надзел зямлі, карову і каня. Або маркі... Рэйхсмаркі, а не акупацыйныя. Немцы самі падкрэслівалі розніцу паміж імі!

«Бралі» той прыёмнік у Клясціцах. Гэта было перад разгромам паліцэйскай кулямётнай школы ў Габінавічах, за нейкіх пару дзён. Зайшлі ў Клясціцы ўтрох, ён, Шыпняк і Пыкаў, пад вечар, не чакаючы змяркання.

Пад платамі на вуліцы, у дварах ляжалі кучы акораных і неакораных бярвенняў. На гэтых бярвеннях, на кладках каля палісаднікаў сядзелі групкамі мужыкі, моладзь, гаманілі. Паліцэйскіх не было відаць, людзі нікога не баяліся... Падышлі да адной групкі, паздароўкаліся, разгаварыліся — пра вайну, пра немцаў, пра тое, што вораг будзе разбіты... На іх «голую» агітацыю дзядзька Солап кінуў: «А от скажы мне, старому цёмнаму дурню... Што гэта немцы плешчуць пра Сталінград? Ці праўда, што ўзялі?» Мікульскі выкручваўся, напіраў на тое, што немцы часам любяць дзяліць шкуру незабітага мядзведзя. І пра Маскву, маўляў, так гаварылі, а цяпер маўчок? Маўчок! Ды лёс яшчэ аднаго горада нічога не значыць, калі фронт расцягнуўся на тысячы кіламетраў.

Хітры дзядзька жмурыў ад тытунёвага дыму вочы, а позірк з-пад павек так і нізаў здзекліва, так і квецаў, нібы намыленым пэндзлем, па вачах, ажно хацелася іх адвесці ўбок, працерці. Адышоўся ад іх Солап да самага краю бярвенняў, загаварыў пра нешта з высокім, з барадою, дзедам. Прысутнасць партызан ён нібы ігнараваў: ат, мяліце, мяліце, калі языкі не баляць... А потым той Солап закурыў, даў усім «Дабранач!» і пайшоў дадому. Дзядзькава прытоеная хітрынка, шматзначная недагаворанасць, тое, што ён устрымаўся каменціраваць іхнія байкі, дзейнічала на людзей больш, чым іх траскатня.

— Шчо — у нёго мо прыймач є? — спытаў Шыпняк, ні да каго канкрэтна не звяртаючыся. Ён на хвілінку перастаў шабуршыць між дзяўчат, і тыя сціхлі, не папісквалі ўжо, не ляпалі яго па руках.

— Не толькі быў, а, мабыць, і ёсць!

— Да вайны ў нашай ваколіцы два прыёмнікі былі: адзін у асадніка, адзін — у яго.

— Ён казаў, што здаў... Кляўся мацерай нават!

— Каб ён так дыхаў! Ого, Солап два піша, а тры ў вуме. Мо і здаў якія бляшанкі, каб не чапіліся...

Яны зразумелі з гаманы: трэба ісці за гэтым дзядзькам, сам лёс пасылае яго ім у рукі.

Хата дзядзькі Солапа стаяла наводшыбе ад Кляйсціц, паўз дарогу на Тартачок, за маленькім пералескам. Яе можна было ўжо лічыць хутарам. Ад дзядзькавага стойбішча сярод мэндлікаў жыта, на ўзгорках, каля балотцаў, лужкоў, узлескаў відаць былі прысады ін-

шых хутароў. Будаваўся дзядзька, нібы крэпасць ставіў: чатырохкутнікам, з двух бакоў двара — хата і хлеў, з трэцяга — падпаветка-дрывотня, з чацвёртага — пруцяны плоцік-частакол і вароты, прывязаныя да грушы-дзічкі.

Цяжка сказаць, чакаў ці не чакаў гасцей дзядзька Солап. Але пачастунак выставіў скора: сала, маласольныя гуркі, мёд, сыр, гладыш малака і пляшку самагонкі. І яны селі спачатку павячэраць, падумаўшы, што за ядой і дамовяцца аб усім. Але дзядзька не паддаваўся і блізка:

— Здаў я, хлопцы, прыёмнік. Хто вам такі мальдунак[1] зрабіў — не верце. Брэшуць!

Прапаноўвалі дзядзьку плату, угаворвалі ўсяк. Пыкаў грaзіў зрабіць вобыск.

— Во! Калі ласка, проша! Ці ж я не даю? Знойдзеце — будзе ваш!..— нібы ўзрадаваўся дзядзька.

На палку каля печы сядзела гаспадыня. Пад яе рукі, як кураняты пад крылы квактухі, пападлазілі дзве дзяўчынкі-блізнючкі ў расшытых чырвонай гаранню кабацiках. Жанчына, як толькі лавіла погляды Мікульскага, нешта мыляла губамі і, здаецца, падміргвала, ажно падавалася ўперад. Твар яе штосекундна мяняўся, нібы адбівалася на ім барацьба пачуццяў.

— Дык вы, дзядзька, выбачайце ўжо... Але раз не супраць, то хай мае хлопцы паглядзяць сям-там...

— Няхай, а я што кажу?

Гаспадар ступіў за Пыкавым і Шыпняком у сенцы. Рыпнулі знадворныя дзверы, і тут жа дзынкнуў званочак. Яшчэ раней, заходзячы, Мікульскі звярнуў увагу на дзядзькаву сігналізацыю: з дзвярэй тырчала ўгору бланачка, біла па званку.

— Ёсць, ёсць у яго радзіва! Здаў пустую каробку і ўсякія жалезкі ломаныя, шкляначкі. А новае недзе схаваў... Родненькія, забярыце, я вас прашу! Загубіць ён і сябе, і нас праз гэта! — жанчына ажно захліпалася словамі — ад шчырасці і страху.

На двары раптам бабахнуў пісталетны стрэл.

Мікульскі кінуўся ў сенцы, ірвануў знадворныя дзверы. Следам, лямантуючы, сыпанулі гаспадыня і дзеці.

Пыкаў цэліўся ў Солапа. Дзядзька стаяў пад гру-

---

[1] М а л ь д у н а к *(польск.)* — данос, рапарт.

шаю-дзічкаю, заскаліўшы вока, спакойна ўглядаўся паўзверх галавы Пыкава на паружавелае воблачка на захадзе. Над дзядзькавай лысінай відаць была мецінка на кары — дзёўбнула куля.

— Адставіць! — Мікульскі загарадзіў выхад з сенцаў дзецям.— Ты што — здурэў?!

Пыкаў бліснуў на яго вокам, ухмыльнуўся. Разыгрываў камедыю?

Жонка Солапа, ломячы ў роспачы рукі, кідалася то да мужа, то да Пыкава, распасцірала рукі, нібы магла імі засланіць чалавека, уратаваць: «Вой! Вой! А што ж вы робіце!»

— Адыдзі, табе гаварат! — цэліўся ў лоб Солапа Пыкаў, клаў пісталет на локаць, адступаў на крок то ўправа, то ўлева.— Мы кроў за іх праліваем! Жызні не жалеем!.. А ён... Паршывага прыёмніка пажалеў!

— Начальнічак, чаго ж ты стаіш слупам?! — працягвала рукі да Мікульскага жонка Солапа.

Дзядзька тым часам павярнуўся да грушы, адламаў сухі сучок, каб не калоў у патыліцу, не замінаў стаяць, і прыплюшчыў ужо другое вока.

— Адставіць! — скокнуў да Пыкава Мікульскі, ударыў знізу пад локаць.

Бахнуў яшчэ адзін стрэл, куля свіснула ў лісці грушы.

Мікульскі адабраў пісталет у Пыкава. Дзядзька Солап апусціў вочы долу і атрэпваў далонню то адзін рукаў, то другі, хоць яны былі чыстыя.

— Так і быць...— уздыхнуў ён.— Бярыце...

— Каб ты ўдушыўся са сваім радзівам! Каб ты не дачакаў заўтрашняга дня, як у мяне ўсё ўмерла ўнутры! — наскоквала ўжо гаспадыня на Солапа.— Казала перад вайною: лепш карову яшчэ адну купім, да гібелі ўсе гэтыя выдумкі вядуць! Дак хіба ж паслухаў?

Жанчына падхапіла на рукі спраўнейшую дачку, што збегла-такі з ганка і ўчаперылася за матчыну спадніцу, кінулася ў дом. Дзвярыма сенцаў гахнула так, што званочак зляцеў і жаласліва дзынкнуў доле.

— Не там ты шукаеш, хлопча...— зазірнуў пад паветку Солап і пайшоў да дзвярэй хлява. Следам, крок у крок, ступаў за ім Пыкаў, нібы баяўся, што дзядзька дасць лататы.

З-пад паветкі вылез, увесь у павуціне і смецці

Шыпняк, асцяпнуўся, ніякавата паглядзеў на Мікульскага.

— Він мэні говорыць: «А што, колы прыпугнуць цёга пшэка?» Я кажу: «Валяй!» Я ж і нэ думав, што він пачнэ бахкаты!

— Абое рабое... Каб я з вамі яшчэ куды пайшо-о-оў — не дачакаецеся...

Мікульскі не ведаў, што рабіць, як выкручвацца з гэтай сітуацыі. Ён гатовы ўжо быў ісці без нічога.

У хляве зусім цёмна. Але прыгледзеліся і ўбачылі, што дзядзька адвязвае варотцы катуха, у якім стаяў конь, выводзіць яго за грыву на сярэдзіну хлява, да каровы, як поркаецца з віламі ў стойле, аж пакуль не скрыгатнулі ражкі аб штосьці драўлянае. Мусіць, дабраўся дзядзька да вечка сваёй схованкі...

Як вынес да дзвярэй усе прычындалы, Мікульскі нават расчаравана свіснуў: невялікая металічная, некалі фарбаваная, а цяпер іржавая скрынка, шкала, дзе пазначаны былі хвалі, круглая, як цыферблат у гадзінніку, са стрэлкай-указальнікам. І батарэі былі смешныя: тоўстыя шкляныя мензуркі з вадкасцю, заткнутыя коркам. Праз коркі ў вадкасць прапушчаны драты з пласцінкамі на кончыках.

— Варвар! Хіба можна прыёмнік у такой сырасці хаваць! — аблаяў яго Пыкаў.

— Можна. От жа вы таксама і не падумалі нават, што там можа быць.

— Слухайтэ, а він працюе? Якыясь шкляночкы...

— За гэта не турбуйцеся. Учора сам слухаў... Сталінград дзяржыцца, за кожны дом ваююць... А кончыцца ток з гэтых шкляначак, як ты кажаш, прыходзьце. Зраблю новыя...

— Адкуль вы ў гэтым разбіраецеся? — пацікавіўся Мікульскі.

— Разбіраюся... Вучыцелем некалькі гадоў працаваў. Але не даспадобы быў польскім уладам — пазбавілі права. А вашы, то ісь нашы... Нашы тожа абмінулі...— дзядзька ўздыхнуў, не ўдакладняючы падрабязнасцей.

Мікульскі аддаў прыёмнік, які дзядзька сунуў у мех, несці Пыкаву, «шкляначкі» — Васілю.

Пыкаў закінуў мех за плечы.

— Асцярожней толькі, хлопцы... І не кажыце нікому, што ў мяне бралі...

— То дзякуй вам, дзядзька! Не памінайце ліхам...— моцна пацісвуў Солапу руку Мікульскі.— І не крыўдуйце на таго гарачку...

— А-а-а... нічога! Нам не прывыкаць...— дзядзька зноў выдыхнуў з горыччу. І толькі, памаўчаўшы, кіўнуў у бок Пыкава: — І што — яны ўсе ў вас такія — партызаны?

Не стаў чакаць адказу, пайшоў у глыб хлява лавіць каня, заводзіць яго на месца.

Мікульскі сварыўся з Пыкавым усю дарогу. Як можна было пускаць у ход зброю — супроць сваіх! Што яны падумаюць пра партызан?

— Як у «Чапаеве» — памятаеце? Стары гаворыць: «Белыя — грабюць... Красныя прыйшлі, тожа, панімаеце, грабіць пачалі...» — сказаў Шыпняк.— Паганэ цэ дзіло!

— Мы ж не марадзёры якія ці бандыты! Так можна перасекчы сук, на якім сядзіш. Дыскрэдытаваць вялікую справу! — даваў волю свайму гневу Мікульскі.

— Дыскрэдытаваць... Вялікую справу... Нахапаліся мудроных слоў, чыстаплюі! Каб не я, то вы б яшчэ ўгаворвалі гэтага тыпа! Дзе гэта хоць раз было ў гісторыі, каб вайну рабілі ў белых пальчатках? — Пыкаў матнуў за спіну мяшок, каб пакласці лацвей, і ў ім штосьці звякнула.

Мікульскі забраў у яго ношу. Павярнулі ўніз, да рэчкі Лахозвы. Тартачок заставаўся справа.

Мікульскаму было агідна глядзець на прадаўгаваты пародзістьі твар Пыкава, на якім было ўсё нібы адмерана лінейкай-міліметроўкай: нос прамы, у меру даўгаваты, амаль грэчаскі профіль, ідэальнай формы падбародак. Іван быў бы мужчына-прыгажун, каб не прытушаны, халодны бляск шэра-сталёвых вачэй.

— Пра гэты расстрэл я далажу Фядоркаву — хай рашае, што з табою рабіць...— Мікульскі абышоў Пыкава і ўзначаліў рэй.

— Правільна, Тыміш... Давай отак самого поставымо тай будэмо цэліцца ў лоб. Цікаво, шчоб він заспівав? Гітлерука поганы, тэпэр нам у тэ сэло і носу нэ кажы.

— Да ты што? За «гітлерука» я магу і ў морду даць!

— Ціха, ціха...— падняў руку Мікульскі.

— Хрэну наеліся, ці што? Ну — зрабіў памылку,

ну — раскайваюся! Але ж не каўтайце мяне жыўцом! Я не вораг які-небудзь! І адкуль мне ведаць, як трэба рабіць партызану — без году тыдзень, як у Фядоркава. Не думаю, што і ў вас больш вопыту!

— Партызаны мы яшчэ ніякія. Але вопыту быць чалавекам ніхто ў нас не адбіраў...— гаварыў знешне спакойна Мікульскі.— Праўда, чалавекам цяжэй заставацца, чым быць мярзотнікам.

— Слухайце, вы! Па якому праву вы мне тут чытаеце мараль? — Іван загнуў мацюка.— Ты такі ж самы начальнік, як я! А па званні я. можа, яшчэ і старэйшы. А ты... Ты маўчаў бы лепш. Сам жа рабіў вобыск... У, чысцюлі! Цяжка з вамі будзе... З адной дабрыні шубы не пашыеш...

За Лахозвай раскашаваў, разрастаўся падлесак, высокіх дрэў амаль не было. Ішлі міма хутароў, потым крыху дарогаю на Колпавічы.

— Скажы мне, Іван... Ты ўсур'ёз так разважаеш, ад глыбокага перакранання, ці набраўся ад тых «стагавікоў», як сабака скочак?

Мікульскі ішоў першы і, адвярнуўшыся, хацеў разгледзець твар Пыкава. Але ў зарасніку было ўжо цёмна, і твар Пыкава выглядаў, як бледная пляма. Гэта падзейнічала на Мікульскага непрыемна: быццам ён не бачыў чалавека, а яго бачылі, разглядалі ва ўпор.

Пыкаў не спяшаў на гэты раз гаварыць, абышоў Мікульскага. Трэба было ўжо зварочваць улева, на прасеку, і ён прыстояў.

«Зараз зноў агрызнецца...» — падумаў Мікульскі.

— Вы даруйце мне, хлопцы... Сарваўся я... Ведаеце, нервы не жалезныя. Вы мяне папраўляйце, калі што не так...

Дзіва проста, як можа мяняцца ў чалавека голас: і глухі зрабіўся, і неразборлівы, а не візгліва-рэзкі, як раней. Нават ноткі падлізвання можна заўважыць...

— Вы даруйце на гэты раз... А калі хочаце, то Фядоркаву я сам усё раскажу.

На тым і парашылі — скажа Фядоркаву сам.

І, мусіць, дарэмна, што не сказалі, даверыліся. «Дурні былі, ёлупы... Божа літасцівы, свет не бачыў гэткіх губашлёпаў! А ўжо ж быў горкі вопыт — прадавалі іх у лагеры... А каб звярнулі тады ўвагу на яго паводзіны... Хаця не, нічога тады яшчэ нельга было даказаць яму...»

Не ведалі тады яны, каго прывялі з сабою ў атрад Фядоркава, адарвалі ад «стагавікоў». А каб ведалі, каб своечасова раскусілі... Як бы павярнуліся падзеі?

* * *

Мікульскі натыкаўся тварам на патырчакі, угінаў рукамі верас, мацаў — дзе тая канаўка, што вядзе да вады? І не мог нічога зразумець... Куды трапіў? Верас скончыўся, пачаўся ельнік... Ніжнія галінкі ў ельніку сухія, колкія, чапляюцца за бінт, зрываюць павязку.

«Не туды я павярнуў... Не туды... А куды трэба? Куды цяпер вядзе «ўлева», куды — «управа»?

«Я хацеў вады... Я поўз да вады... Доўга поўз... Я пагэтаму і спыніўся, што здалося — занадта доўга. А трэба было памалей паўзці, а больш думаць, больш мацаць...»

«Ельнік быў з захаду ад ракі... Падковай агінаў палянку... У якім месцы ельніку я? Пні тут былі... Пні зарыентуюць... Трэба мацаць пні... Яны зарыентуюць...»

Нешта здзяжыла па выбітым воку, як дубінай. У галаве пыхнула маланка...

Колькі праляжаў без памяці — не ведаў. Ачуняў ад таго, што нехта ліў у рот, на твар, на шыю ваду.

Язык ужо не здаваўся такім шорсткім і распухлым, ім можна было варушыць.

— Ты... Анюта?

— Я... Я...— усхліпнула санінструктар.— Ой, і напужалі ж вы мяне! Гляджу — няма... Я — туды... Я — сюды... І ў рэчку, дурніца, лазіла, думала, у ваду ўпалі... Вы не чулі, як я раўла?

— Не-а... А што — дужа музычна на слых?

— А тады гляджу — сцежка прымятая... Паўз самы бераг круг зрабілі!

— Паглядзі, што там ў мяне... Думаў — немцы злапалі, прыкладам па воку гахнулі...

— Кроў з вачніцы прасочваецца... Мо тужэй зноў завязаць? Паслабілася...

— Не трэба... Калі не ападае — не трэба.

— І маленькая галінка стукне, а здаецца бог ведае што. Мне, малой яшчэ, косць во тут, за вухам дзяўблі... Трэпанацыя чэрапа называецца... Дык на гэтым месцы няма косткі... Хай муха прапаўзе, а мне здаецца, як ботамі хто тупаціць: бум-бум-бум!

— Дождж шамаціць, ці што...
— Маленькі...
— Выхадзіла што?
— Ага... Ёсць конь... Зараз пойдзем. Я чарпну яшчэ вады, падсілкуйцеся трошкі. Хлеб ёсць, сала...
— Ого!
— Адна жанчына хацела са мною ўцякаць... У яе клунку было.
— Яна тут? А чаго ты не знаёміш?
— Няма... Забілі, мабыць... Засела з аўтаматам мяне прыкрываць, а я ■ возам уцякала.
— Якім аўтаматам?! Наш аўтамат у рацэ! Нешта ты не дагаворваеш, ясачка... Сама не паранена?
— Не, конь паранены...— усхліпнула зноў Анюта.— Шкада яе... Вацлава зваць...— і Анюта расказала збольшага, як было.
— Далёка... конь?
— Кіламетраў тры ўверх па рацэ... А мо чатыры... І ўбок яшчэ трэба... Там я галін наламала, дзе паварочваць да воза... А праехаць сюды нельга, дарогі няма.
— Слухай,— дождж, а карта... сохне?
— Я схавала ў планшэтку. І адзежу сабрала, пад елку сунула. Выпаўзайце, завяду адзявацца...
Анюта памагае яму выбавіцца з гушчэчы, адхіляе галіны. Потым вядзе крокаў колькі пад руку, зноў садзіць. Кладзе на рукі гімнасцёрку.
— Во... А я зараз вады...
— Ага... У цябе штосьці звінела ў руках.
— Конаўка... У Вацлавіным клунку была. Там у яе яшчэ малака бутэлька. Дойдзем — вып'еце.
Мікульскі адзяваўся паволі. Гімнасцёрка была цяжкая, сырая, ад яе патыхала ачужэласцю.
«Дасталося дзеўцы... Тоіцца, не гаворыць усяго...»
Адзеўся, абмацаў дол каля сябе. Трапіўся палатняны скрутак. Развязваючы, пазнаў: круглы бохан хлеба, вялікі, кіло на два, кавалак сала.
«А нажа няма...»
Мікульскі адламаў з бохана акраец.
— Табе... У цябе зубы маладзейшыя. А сала не адломіш — так будзем грызці... Ну, а цяпер расказвай, што там было з табою.
— То я ж усё сказала!
— Не ўсё. Ты за каго мяне лічыш?
— У Заграддзе прыйшлі карнікі, нейкая зондэр-

каманда... Вышпінг імі камандуе, латыш... Цэлы батальён! Мо збіраюцца на новую блакаду?

— Не паспеюць... Ды на блакаду трэба нямала войска... Мо вёскі паліць будуць перад адступленнем.

— Бедныя людзі... Як ім дастаецца!.. Два разы абоз бачыла — гналі немцы фурманкі, хаты разабраныя везлі... Гаць недзе будуць гаціць...

— Латыш, кажаш... Разумееш гітлераўскую палітыку? Збіраюць, дзе якія адшчапенцы ёсць, і латышоў — на беларусаў, літоўцаў — на эстонцаў, украінцаў — на рускіх, уласаўцаў — на каго папала... Каб перасварыць народы, нянавісць пасеяць, варожасць... А тады «падзяляй і ўладарнічай»!

— Гэта ў мінулыя стагоддзі было. Я помню з гісторыі.

— А цяпер не? Вайна ў Гітлера захопніцкая, імперыялістычная, то і дэвіз той самы... Еш, ды паспяшым... Адзін батальён для брыгады не страшны, нашы, пэўна ж, ведаюць пра яго.

— А вы чаго не ясце?

— Я ўжо мякіш браў...— ён не гаварыў, што не мог сціснуць зубамі — боль па касцях перадаваўся проста ў мозг. А раней, як жаваў Анюцін размочаны сухар, яшчэ мог цярпець.

— Малако вып'ю... Жаваць яго не трэба...

І вось яны зноў брыдуць.

Анюта то вяла яго за руку побач, то паперадзе, калі кусты былі да грудзей, або пад руку, калі можна было свабодна ісці паміж дрэў. Станавіліся і цугам, калі гушчар быў не пралезці і даводзілася адгінаць дрэўцы ў бакі, каб праплішчыцца.

Кожны раз, калі Анюта не спраўлялася ўтрымаць галіну і тая хвастала яму па руках,—войкала сама і ажно прысядала. Прасіла прабачэння, прасіла, каб не адставаў, а ішоў шчыльней да яе. І на кароткі момант дыстанцыя між імі меншала да мінімуму, колькі разоў, нагінаючы галаву, ён чуў, як казычуць яму незакрыты лапік шчакі Анюціны валасы. Чуў пах гэтых валасоў — рачною сырасцю яны аддавалі, аерам і трошкі цінаю ці рыбай. А яшчэ — чалавечым цяплом. Такім родным, хатнім, матчыным... Такім далёкім, забытым!

Душа пераварочвалася...

«Камісар... Камісар... Што з табою робіцца? Вазьмі сябе ў рукі... Мо тры чвэрці да смерці, а ты...»

Пракашляўся.

— Хочаш — камплімент скажу?

— Вы на гэта не здольныя.

— Мокрыя ў цябе плечы... І худзенькія! Кожную костачку можна палічыць.

— Ну й камплімент! Вы паменш мацайце мае косці, таварыш камісар...

— Прабач... Куды ж мне дзець руку?

«І за што гэтаму дзеўчаняці выпала такое пакаранне — пакутаваць тут са мною!»

Мікульскі спатыкаўся ўсё часцей і часцей — і прыстойваў, чапляючыся за вецце, расставіўшы рукі.

— Давайце па-добраму адпачнём,— прапанавала Анюта.

— Сама кульгаеш... І быццам не боты на табе. І пінжака няма...

— Выкінула боты. Чаравікі Вацлавіны абула... Велікаватыя крыху... У клунку знайшла... Даўнеўшыя нейкія, халяўкі на паўлытткі. Кручочкі пляскатыя — чапляць шнуркі... А пінжак на возе недзе.

У аднастайнае шапаценне дажджу ўрывалася лопанне буйных кропель: мусіць, збіраліся дажджынкі на лістах, а потым падалі, ацяжэўшы, зрываліся ўніз.

— Добра, што дождж пайшоў... Хай бы добра лупцануў — спакайней было б ехаць... І ночы не чакалі б.

— Не будзем чакаць і так.

— Перадыхнуў ужо... Пойдзем, дай толькі ўчапіцца...

Калі Анюта падавала яму мокрую, крыху насклелую ад вільгаці руку, ён асцярожна трымаў яе ў сваёй, навобмацак знімаў з яе хвойныя шыпулькі, хацелася, каб яна не прымала рукі назад. Нейкая дзіцячая даверлівасць была ў гэтай руцэ... Але мяняўся лес, зноў трэба было мяняць спосаб перамяшчэння...

— Не вечар яшчэ?

— Не мо... Але быццам сутоніцца... Як год прайшоў пасля ночы.

— А я дык суткамі мераю: да паходу, зборы — адны, пераход да жалезкі — другія, бой на чыгунцы — трэція суткі. А як раніла — і з ліку збіўся: лыпну вачыма, ачуняю — і дзень прайшоў, яшчэ лыпну — зноў дзень.

Цяжэйшая была гэтая частка пераходу. Усё часцей траплялiся суцэльныя зараснікі ельніку, альховы гу-

шчар з грузкім, топкім долам між бугрын-купін. Прамоклі ад расы дашчэнту, выквецаліся ў гразь, пакуль дайшлі да таго ручая, што ўліваўся ў Бобрык. Анюта была ўпэўнена, што гэта той самы ручэй, які яна фарсіравала з канём. Ён, мусіць, зрабіў дугу, перабягаў дарогу.

Анюта расшнуравала чаравікі, скінула. Мікульскі не разуваўся і на гэты раз. Нават прыемна было, калі набралася ў боты халодна-свежай вады: не так гарэлі сцёртыя ногі. А можа, разуцца ўсё-такі варта было б. Спаласнуць анучы, выкруціць добра. Збіліся анучы ў ступаку, злямчыліся... Удваіх бы з Анютай здзерлі... От толькі як іх зноў усцягнуць? Кожная натуга аддаецца ў галаве... І босы не доўга пройдзеш. Гэта Крот можа гайсаць па лесе і балоце босы — і хоць бы што. Загрубела ў яго скура на падэшве, а на пятках пакалолася... Рогату колькі было ў атрадзе: дужаўся раз Крот з другім партызанам-здаравякам, абодва босыя (партызаны так запатрабавалі)... Як шоргнуў расколінаю пяткі таму па пальцы — нібы нажом кіпець знёс. Адразу супернік здаўся, пакульгаў у санчасць, к Адаму Палуяну...

Пастаялі крыху зноў. Мікульскі садзіцца не асмельваўся — баяўся, што не зможа падняцца. І здавалася яму, што чуў пад сваімі пальцамі трапятанне кожнай жылкі на Анюціным плячы...

«Што там цяпер у атрадзе робіцца?» Здаецца, каб былі крылы, падняўся б і паляцеў... Такі момант адказны, яшчэ не перажывалі нічога падобнага. Вось-вось павінен паступіць загад са штаба злучэння: ісці рэйдам перад фронтам, па тылах немцаў.

Апошнюю частку пераходу ледзь перастаўлялі ногі. Анюце не цярпелася ўбачыць каня: ці на месцы ён? Ці не ўпаў, не дайшоў? Магло ж быць, што самай галоўнай раны яна не заўважыла, і конь за гэты час сышоў крывёю, здох...

...Гняды стаяў на трох нагах. Ад дажджу ён зрабіўся цёмна-каштанавы. Левую заднюю трымаў напаўсагнутаю, яна дробна трымцела. Конь адразу павярнуў да іх галаву, слаба рахтануў, нібы пажаліўся, і зноў унурыўся. Сена пад яго храпай было не чапанае. Не зважаючы на дождж, каля параненай нагі віліся сінія мухі.

Мікульскі ўхапіўся за біла, потым наваліўся на яго

грудзьмі. Ён баяўся скрануцца з месца, услухоўваўся ў балючы стукат крыві ў галаве, нібы ўзбунтавалася яна ад хады-ўстрэсвання і без літасці б'е прыбоем па самым балючым, па ране... Анюта шамацела сенам, паварочвала сушэйшым наверх.

— Давайце на воз паціху... Я памагу... Во тут прыступачка...

— Ты не мітусіся... Ён у цябе як стаіць, воз? Заварочваць не трэба?

— Трэба... Але не завернеш — кусты... Каб назад здаць...

— Ідзі пад цуглі вазьмі... Ён у цябе закілзаны?

— Як гэта? Каб жалязякі ў роце былі?

— Жалязякі, жалязякі... Ты калі-небудзь з коньмі мела справу?

— Не.

— О гора маё... І нашто госпад бог пускае на свет беларучак!

— Закілзаны, закілзаны!

— Бяры пад цуглі, пхай узад... А я адсюль падмагну.

— Ой, укусіць!..

— Не ўкусіць — давай!

Занокалі, затпрукалі... Конь навальваўся азадкам то на адну аглоблю, то на другую, пераступаў з параненай нагі на здаровую. Зноў на параненую — і ажно прысядаў, стагнаў, як чалавек...

А воз ні з месца...

— Чакай!.. Паглядзі, мо за які пень зачапіўся вазок.

— Не... Толькі галіны кустоў прыгнутыя...

Мікульскі адхіснуўся ад вазка, абхапіў далонямі галаву.

— Кепска вам?.. Ой, клаліся б на воз...

— Нічога, нічога... Чорт бы яго пабраў! Дзе галава, а вунь дзе ногі, рукі... Аддае, як усядно галавою насільваюся. Напішаш дысертацыю пасля вайны: «Роля мышцаў галавы ў падняцці і пераносе цяжару». Ф-фу... Давай яшчэ я за кола паспрабую...

Мікульскі наступаў на спіцы задняга кола, і пад цяжарам цела кола пракручвалася, шмаравала па зямлі. А воз толькі пагойдвала сюды-туды.

— Конь нам не памагае...

Мікульскі, мацаючы рукамі за слізкае біла, а потым

за аглоблю, дабраўся да храпы каня... Пагладзіў па мокрай галаве, выцяг касмыль грывы з-пад аброці, правёў па трапяткіх і цёплых конскіх губах. Зацугляна было добра.

— Ну — давай! Тр-р-р!.. Тр-р-р назад... Тр-р-р... Во так...

Гняды ўчуў мужчынскую руку, выпхнуў воз на дарогу — якраз упоперак. Цяпер бы падвярнуць і хоць бы трошкі падаць уперад, а тады б яшчэ рэзка ламануць убок і — назад... Але Анюта ўбачыла, як павіс Мікульскі на аброці з падагнутымі нагамі, стаў хіліцца набок.

Цімох Андрэевіч!..— кінулася да яго.

І не паспела падбегчы — Мікульскі заваліўся пад ногі каню...

* * *

Зноў — слёзы...

Цяпер яны былі яе ратункам, як і ў кожнай жанчыны ў горы, у цяжкім, нявыкрутным становішчы. Лягчэе, калі паплачаш, на сэрцы, вяртаецца здольнасць разважаць, больш цвяроза ацэньваць сітуацыю.

Анюта прыўзняла галаву Мікульскага і ўкленчыла, паклала яе сабе на прыпол — як тады Васілёву. І ўкарчанела, гэтак седзячы, баючыся паварушыцца, і не заўважала, як змешваюцца яе слёзы з дажджом, як падаюць, пабольшаўшы, кроплі на забінтаваны лоб Мікульскага. «Хай паляжыць так... Хай адлежыцца... На каленях ямчэй яму: не так кроў прылівае да галавы...» Асцярожлівыя пальцы абмацвалі, пагладжвалі бінты, лёгенька дакраналіся да мокрай шчакі Мікульскага, асцярожна выцiралі яе.

Дождж то спарнеў, то сеяўся цёплай імжакай-пылам, і кустоўе курылася парам. Адны асіны не вытрымлівалі такой лагоды, лісце задаволена паварушвалася, падстаўляючы пад кроплі то верх, то спод...

Ёй успамінаўся другі дождж — з канца верасня сорак другога. Каб не той дождж, мо апошні навальнічны дождж года, глядзі што і не пазнаёмілася б яна з Мікульскім і Шыпняком... З Васілём... І, можа, зусім інакш склаўся б яе лёс... І лёс сяброўкі — Кісялеўскай Марысі з Жыровіч...

Удзвюх з ёю жылі ў пакойчыку-бакоўцы пры пачат-

ковай школе ў Бялевічах. У той школе-хаце былі два пакоі для заняткаў, у кожным сядзелі па два класы адначасова. Па два яны і вялі: Марыся — першы і трэці, Анюта — другі і чацвёрты. У Марысіны класы хадзіла адзінаццацера, у Анюціны — дзевяцера. А магло б назбірацца па сорак — пяцьдзесят — не пускалі мужыкі. «А гавяду куды дзець без пастуха? Прыгляд гавядзе трэба... Такі ліхі час...» А мо толькі хаваліся за гэту прычыну, не хацелі, каб іх дзеці засвойвалі нямецкія навукі? Хто іх тады адразу мог разабраць — гэтых мужычкоў-хітруноў.

Як засяляліся, баковачка іх была без шыб, у пліце не хапала дзверцаў і кругоў на канфорках. Стараста Валасень як ведаў, хто павыдзіраў, бо за два дні арганізаваў і шкло, і дзверцы, прыгнаў і старога Есіпа Каржанеўскага, каб падрамантаваў пліту. Высокі і жылісты, загарэлы, як смалены корч, Каржанеўскі ўсё расказваў свае «вешчыя» сны і шамацеў сівою шчэццю барады, шоргаючы па ёй пальцамі і хітра паглядваючы ў іх бок: як тыя сны прымаюць?

У гэтай баковачцы-пакойчыку з мэблі ўсяго і было, што паўтарачкавы ложак, пры ім на сцяне палатняны дыванчык з аплікацыяй — гусі-птахі каля чырвонага доміка, зялёнай купіны-дрэва і сіняй плямы-сажалкі. Пад акном каля ложка столік і табурэтка: калі рыхталіся да заняткаў, адна садзілася на ложак. Як заходзіш у пакойчык, то справа была пліта, а злева — трохногая лаўка з вядром вады, пад ёю — драўлянае вядро-памыйніца. На левым вушаку і побач на прасценку — тры цвікі, на правым — адзін цвік, ад яго наўкасую, правісшы над плітою, цягнулася вяровачка для прасушкі прання.

У тую рабінавую ноч яны спачатку і свечку не запальвалі. Узлеглі грудзьмі на стол, убіліся ў акно, накінуўшы на плечы хусткі. Глядзелі, як жахаюць маланкі, перыць гром, і Марыся набожна хрысцілася, шаптала: «На сухі лес, у чортава балота...» За траскучымі ўдарамі перуна наступалі хвіліны зацішку, калі здавалася, што перад вокнамі трапечуць празрыста-белымі крыламі гіганцкія, вышэй дрэў матылі, і пошум ветру, цурчэнне струменяў па шыбах здаваліся шоргатам гэтых крылляў.

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла...

Самотным голасам спявала-жалілася Марыся, нібы старац-лернік на базары ў Слоніме круціць корбачку свайго «струменту», а колца трэцца па жылах-струнах, гудзе-стогне. Анюта ўплятала свой голас, танчэйшы, і ён прашываў Марысін, нібы канву ўзорамі. Было і хораша, і горна, і падступалі пад горла, душачы, слёзы...

Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу няволі праліла...

Спявалі «няволі», а не «нядолі», як было ў песні. «Спадар інспектар» дазволіў на спевах «пяяць народныя песні, якія пра каханне», і вось гэту — «Люблю наш край...». Бог іх ведае, на што яны разлічвалі, дазваляючы спяваць гэту песню, якія пачуцці імкнуліся абудзіць... Самі дзеці перайначылі песню, хоць яны, настаўніцы, прадыктавалі яе так, як была надрукавана. Каржанеўскі Янучок першы завёў — «няволі»... Ён пераростак, з чацвёртага класа. Анюта раз папраўляла на «нядолі», два папраўляла — і перастала заўважаць.

Раптам — ці вярнулася хмара назад, ці вецер пераменіўся — у шыбы пачало біць струменямі, як з брандспойта. Пад іх локцямі ўтварылася лужа, палілося па сцяне, на падлогу. Замітусіліся, хапаючы анучы, збіраючы ваду з падаконніка, з падлогі. Трах-тарарах! — устрос наваколле разлютаваны гром. Маланкі сляпілі, і не было відаць, куды пляскаць анучамі. Збіралі ваду навобмацак. Як падышлі пад акно Мікульскі з Васілём, яны не заўважылі, мо нават першага іх стуку ў дзверы не пачулі з-за такой калатнечы. Толькі як пабразгалі ў шыбу — тоненька, мо кіпцем, і ўбачылі іх, прывідна-срэбных, прыціснутых да сцяны, Анюта выбегла адчыніць сенечкі.

«Свае... Свае...» — адказалі з-за дзвярэй на яе спалоханае пытанне, і яна асмелілася, адчыніла.

Першы ступіў Мікульскі, пстрыкнуў запальнічкай. Так і нёс дрыгатлівы чырвоны агеньчык у пакой, прыкрыўшы яго далонню і адварочваючы галаву ўбок, каб не сляпіла самога.

Марыся кінулася завешваць акно, пабіла аб табурэтку калені, завойкала, закульгала.

Запалілі свечку... Мікульскі і Шыпняк стаялі ў парозе, адтапырваючы рукі, і пад імі рабіліся лужы. У Васіля выгляд быў пацешны — разявіў па-блазенску рот, мірг-мірг доўгімі веямі... Дзьмухне на верхнюю

губу, каб збіць кроплі, шморгне носам і зноў — міргмірг.

— Цэ — Васыль...— тыцнуў ён сабе ў грудзі,— а оцэ — Тымохвій...

Зноў пасміхнуўся, як абяззброіў і яе, і Марысю сваёю белазубаю ўсмешкаю.

— Дык вы і жывяце ўдзвюх? — спытаў Мікульскі і страсянуў шапку над брудным вядром, а потым асцярожна, каб не зламаць казырок, круцянуў, жмакнуў. Палілася вада...— І вам не страшна, удзвюх?

— Страшна...— пацепнула, як ад холаду, плячыма Марыся.— Але прывыкаем...

— І нас напужаліся? Незнаёмыя людзі ўрываюцца сярод ночы... Мо якія бандзюкі ці паліцаі...

— А вы не падобныя на іх,— сказала яна, Анюта.

— Гарно як у вас...— уздыхнуў на ўсе грудзі Васіль, абвёў позіркам пакойчык і іх саміх.— І вы гарнэнькія. Ужо з-за цёга можна было б злякатыся.

— Мы сябе ў крыўду не дамо... Во, бачыце? — Марыся паказала на сякеру-тупіцу, якою цяжка было перасекчы нават палку, і прысела каля пліты, пачала распальваць.

Цяга была кепская ў тую ноч, і ўгарвалася слаба. Дым выядаў вочы...

— Як хочаш, Тыміш, а звідсіль я нікуды нэ піду.

Васіль прайшоў да табурэткі, каб сесці, але заўважыў, як Марыся мэнчыцца з дровамі каля пліты, і прайшоў да яе: «Гэ, так цэ ж нэ так робляць». Прысеў на кукішкі, дастаў з-за пояса нямецкі цясак, пачаў стругаць з палена распал.

Агонь падахвоціўся, разгарэўся. Паступова выцягла ў пліту і дым...

Той вечар, правільней, тая ноч памятаецца ёй сумбурна. Партызаны загадалі, напаўсур'ёзна, напаўжартам, пазаварочвацца да акна, а самі параздзяваліся і выкручвалі над памыйным вядром адзенне. А як дайшло да бялізны, то адзін, а потым другі трымалі, разапяўшы, посцілку, адгароджваючы сабе куток-кабіну, і Васіль раз-пораз павісквау, як дзеўка: «Нэ підглядываты, бо зурочытэ, і нэ будэ більшэ росты!»

Потым хлопцы стомлена сядзелі, адзін на табурэтцы, другі — на ложку, і глядзелі, як яны мітусяцца, гатовячы ім чай і сякую-такую вячэру, падсушваючы вугальным прасам з крывым камінком іх адзежу. Прас

дыміў, як паравоз, сыпаў праз дзіркі на адзенне попел і астываў вельмі хутка, як ні дзьмухалі на яго, ні размахвалі. Вугалёў нагрэбваць даводзілася некалькі разоў.

Спаць палеглі пад самую раніцу. Партызаны нізавошта не хацелі класціся на іх дзявочы ложак «з карункамі і пярынамі», хоць не было на ім ні карункаў, ні пярын. Ім паслалі на падлозе спачатку тры нумары «Беларускай газэты». «Прайшлі ўжо іх, можна, можна!.. Гэта ж буквара няма, па газеце чытаем...» Слала яна, Анюта, а Мікульскі браў з яе рук газеты, бегла праглядваў, прачытваў загалоўкі. «А што такое «сяннi»? А «стрымгалоўцы»? Гэта вы такую беларускую мову дзецям выкладаеце?» — «Не мы —немцы... І яшчэ спадары нейкія...» — «Вы! Цераз вас усё гэта ідзе!» А Васіль поўзаў у адных трусах: «Просю пардону за таке, нэглыжэ... Покаж, покаж! — разглядваў здымкі, сіліўся чытаць загалоўкі.— Ні! Ні! Ні! Колы мы сюды головамы ляжэмо, то трэба ныжчэ слаты... Під ногы... А оцю... Оцю стэлы під саму с... А під голову нэ потрыбно. Під голову — во, кулак». На газеты дзяўчаты паслалі свае паліто.

Свечку патушылі, акно адвесілі — трэба была посцілка, каб накрыцца.

— А што вы па геаграфіі вучыце? Як вы межы Беларусі паказваеце? Так, як перад вайною склалася? — дапытваўся Мікульскі.

— Ніяк стараемся не выкладаць.— Але прадэкламавала з непрыхаванай іроніяй: — У «генеральбецырк Беларутэнія» ўваходзіць дзесяць гебітаў, ці акруг: Баранавіцкі, Барысаўскі, Вілейскі, Ганцавіцкі, Глыбоцкі, Лідскі, Мінскі, Навагрудскі, Слонімскі, Слуцкі...

— Слуцкі ў «Беларутэнію», значыць... А, скажам, Пінск, Мазыр — куды?

— «Рэйхскамісарыят Украіна».

— А Віцебск, Магілёў?

— У зону армейскага тылу. Пра іх нічога загадана не гаварыць.

— Ну, а Ваўкавыск, Гродна?

— Усходняя Прусія.

— Здорава ж вышкалілі вас!..— Мікульскі са злосцю штурхнуў у куток табурэтку з адзежай, лёг, адвярнуўся тварам да сцяны. Гэтак лёг і Васіль, але бліжэй да ложка дзяўчат, амаль упобачкі. Як перасталі шор-

хаць адзежай, параздзяваліся і пакладіся ў ложак яны, настаўніцы, Мікульскі павярнуўся на спіну, а Васіль тварам да іх ложка.

— Як жа вы дайшлі да жызьні такой? — уздыхнуў на ўсе грудзі Мікульскі.— Ачмураеце дзяцей, служыце немцам... А нам рэкамендавалі вас, як добрых, сумленных дзяўчат... Н-да-а...

І Анюта расказала: на ўсход адступіць не паспела, яе арыштавалі як «саветку», перасяленку з усходняй Беларусі. Шмат такіх сабралі, звезлі ў Слонім. Яна яшчэ лёгка адрабілася, многіх настаўнікаў-усходнікаў расстралялі. Згадзілася працаваць у школе, а дзе дзенешся? Ды колькі яны папрацавалі — смех адзін!.. Верасень канчаецца, а заняткі разоў шэсць былі, не больш, а то ўсё зрываліся — прыходзіла па два-тры чалавекі. Прымусілі працаваць і Марысю: давалі выбар — або тут настаўнічаць, або ехаць у Германію на тэкстыльную фабрыку. То лепш ужо, разважыла, тут застацца... Невядома яшчэ, якіх бы гадзючак прыслалі сюды на іх месца і як бы яны паводзілі сябе тут. А былі такія, былі! Яны самі бачылі... Настаўнік тут пачынаў арганізоўваць заняткі, Гук Палінары... Быў такі тут настаўнік чахотачны. Са смяротнага ложа ўспаролі яго немцы. Ледзь хадзіў з палачкай, харкаў усё ў чаропачку, завінчваў на яе вечка... Наказ даваў перад смерцю Анюце: «Ты на арыфметыку націскай... На прыродазнаўства... Гэтыя навукі без палітыкі... Нават падручнікамі савецкімі дазваляюць карыстацца». І яна дыктавала ўрокі па прыродзе, дзеці канспектавалі... Почырк ад таго скорапісу — страх... А што паробіш?

Вось толькі без палітыкі не абыходзілася. Каржанеўскі ўсё даймаў, Янучок. «Ганна Сямёнаўна, давайце во гэту задачку рошым, нумар дзевяноста сем. (У яго быў наш, савецкі задачнік.) Во, цікавая надто... «Калгас «Чырвоны барацьбіт» вясною паслаў для конніцы Будзённага дзевяць коней, а ўвосень — адзінаццаць. Летась вясною было выгадавана на два кані больш, а ўвосень — на тры менш. Колькі коней калгаснікі выгадавалі для Чырвонай Арміі за два гады?»

Бальшун і хітрун... Не так яму задачка трэба была, як падбіць на размову пра Чырвоную Армію, пра калгасы, хацеў паслухаць, як яна выкручвалася б...

Ляжалі яны гэтак учатырох, перагаворваліся, і раптам як віскне Кісялеўская!

— Ты чаго — сасніла што? — абаперлася на локаць Анюта, паўглядалася ў яе твар (у гэты час і Мікульскі штурхнуў Шыпняка локцем пад бок: «Ты што?»).

— Ага, сасніла... Дай я лягу ад сцяны, а то яшчэ скачуся...

Марыся палезла цераз яе, не дачакаўшыся згоды. Патарокаліся: не прывыкла Анюта спаць з краечку. Але Марыся як не сілком уплішчылася між ёю і сцяною, адвярнулася тварам да гусей на аплікацыі. Каб зручней і свабадней ляжаць, то трэба было б і ёй, Анюце, пераварочвацца на левы бок — «па прынцыпу лыжкі». А ёй не хацелася класціся на сэрца, і так яно пабольвала, ды яшчэ спіну выстаўляць на пакой. Паляжала дагары, потым, наадварот, павярнулася тварам да партызан. Давялося пачапіцца на самым краечку, а калені выставіць за край мо на пядзю. Яна то і накрыла іх старанна, але вытыркалі — хоць адсекай. І толькі ўладкавалася зручна, кулачкі пад падбародак,— расплюшчыла чамусіць вочы. І ўбачыла ці здагадалася, што і Васіль глядзіць ёй у твар, засынаць і не думае.

У пакоі было цёмна, хоць і акно адвесілі. Але відаць быў то вільготны бляск Васілёвых вачэй, то здавалася, што яны цепляцца ад ціхага ўнутранага агню, то міргаюць, нібы зоркі з вады. Раз-пораз трымцелі ў пакоі, як марлевыя прасціралы на лёгкім ветры, водбліскі зарніц, бурчліва абзываўся недзе гром. І дзіва, ад гэтага прывіднага святла Васілёвы вочы не ўспыхвалі ярчэй, а наадварот, нібы тухлі, але затое льга было разгледзець увесь яго твар: чорная чупрына, чорныя, як не злітыя ў адно, бровы, засмяглыя і ачэрчаныя па контуры палоскай цямнейшага загару прыгожыя яго губы. Васіль не заплюшчваў вачэй ад гэтых зарніц, не заплюшчвала і яна, углядаліся ў твар адно аднаму, і на губах нараджаліся яшчэ далёкія-далёкія ўсмешкі. Ляжалі яны гэтак доўга — вочы ў вочы, і нікому не хацелася адводзіць свой позірк, заплюшчвацца. Гэта была і нейкая зухаватая, таемная ад усіх, гульня, і не гульня — вочы Васіля вабілі, прымагнічвалі. Гэта была іх першая маленькая таямніца. А другая...

Анюта даўно ўжо злавіла сябе на тым, што прыслухоўваецца, ці спіць Марыся (і, мусіць, гэтаксама прыслухоўваўся, ці спіць Мікульскі, Васіль). І калі тыя за-

саплі-задыхалі спакойна і роўна, Васіль украдліва працягнуў сухую гарачую руку, прыкрыў далонню, як верабянят у гняздзе, яе кулачкі: «Нэ вырывай, га?..» Прашаптаў адным дыхам, яна мо хутчэй сэрцам пачула гэта, а не вушамі. І столькі пяшчоты і ласкі было ў гэтым яго міжвольным памкненні, што яна так і не вырвала сваіх рук. Ёй раптам зрабілася ўтульна і хораша, а па целе разлілося зварушлівае цяпло, вочы млява заплюшчыліся...

Яшчэ ніводзін хлопец не браў яе за рукі во гэтак, хоць і спрабаваў заляцацца да яе Сёмка Казёл («Козел! Разумееш? Козел!» — так папраўляў не раз і яе, і іншых скараспелка-настаўнік, што працаваў з ёю ў школе да вайны).

Зноў расплюшчыла вочы, паглядзела на Васіля. Якраз затрапятала лёгкімі крыламі зарніца. Вочы яго былі заплюшчаныя, твар квеціўся рахманай, па-дзіцячы безабароннай усмешкай. І яна баялася варухнуцца, хоць ужо замлеў бок, замлелі рукі,— каб не стрывожыць Васіля, не спужаць яго дзіўны, такі нечакана родны ўсмех.

(Божа, гадзін колькі назад яна нават не ўяўляла, што недзе на свеце ёсць гэты чалавек, а тут раптам... «Божа, што гэта са мною?.. Хіба так каханне нараджаецца?»)

Яны і паснулі так — шчаслівыя, не разлучаючы рук, аж пакуль не ўзняў усіх на ногі будзільнік. Шэсць гадзін...

— Адкуль ты такая? — пытаў ён яе, як развітваліся. Спачатку трымаў за пальчыкі, глядзеў ёй у вочы, як у самую душу.— З Гомеля, кажаш? А шчо? І ў Гомелі люды е! І нэ дрыбнэнькія! — і радаваўся ён, і здзіўляўся.

А яна чула кожны шорхат-дотык яго далоняў — як ласкава вёў імі па яе кісцях да локцяў, пагладжваў, лашчыў. Яму хацелася, мабыць, прытуліць яе да сябе ўсю-ўсенькую. Хацелася гэтага і ёй, і ўжо ныла ад болю-растанку сэрца, і здаваўся Васіль радней маткі, радней бацькі. Ён, родны-раднюсенькі, быў тут, яна адчувала яго на дотык. А бацькі яе недзе за лясамі, за даламі, за морам вайны, морам народных слёз — у тым даваенным далёка.

— Жыві, дзівчынко... Я радый, што ты е на світі!.. Шчэ ўбачымся, чуеш?

І яна схамянулася: «Чую...» Заўсміхалася, а ў вачах ужо расплывалася ўсё ад слёз.

Не магла яна вытлумачыць ні тады, не можа і цяпер — як зразумела, што гэта ў яго не проста залёты, хоць, мабыць, і залётаў хапала ў яго: хлопец-зух. Яна ж чула тады, як віскнула Кісялеўская, пэўна, і да яе быў працягнуў руку Васіль. А от жа ні капялюначкі рэўнасці не было ў яе ні да Марысі, ні да Васіля. Зразумела нейкім пачуццём, што ён хлопец сумленны, хоць крыху і баламут. Але ж гэта ўжо такі характар, тут чалавека не перайначыш. Калі б за ўсякі яго флірцік-жарт яна перажывала, то за ўвесь час іх дружбы не хапіла б і тых раўнопічаў. А мо ў ёй ні тады, на першым часе, ні пазней не прабудзілася яшчэ жанчына?

Як сышліся вучні, Мікульскі выступаў у яе класе, а Шыпняк — у Марысіным. Гэта было рызыкоўна, і не так для партызан, як для настаўніц. «Вы скажаце, калі што... Сілком мы ўварваліся ў класы, зброяй пагражалі...» — вучыў яе Мікульскі, як апраўдвацца.

— Вы не бойцеся нас, дзеці...— сказаў Мікульскі, зайшоўшы ў клас.

— А мы і не баімся! — за ўсіх адказаў Янучок.

І Мікульскі расказаў, як па ўсёй Беларусі, на ўсёй акупаванай ворагам савецкай тэрыторыі арганізоўваюцца партызанскія атрады, народ б'е ворага з тылу, са спіны, байцы — з фронту, і скора ўсіх фашыстаў выганяць. Як ён хораша расказваў дзецям, што за жыццё будзе пасля вызвалення! І нічога ж не выдумваў, гаварыў толькі тое, што ўжо было да вайны ва ўсходняй частцы Беларусі, а расказ гучаў як цудоўная казка.

Цімох Андрэевіч развітаўся, а яна хуценька дала дзецям рашыць слупок задач, пайшла следам. Раптам папрасіўся на двор і Янучок. Спыніў Мікульскага за рукаў:

— Таварыш камандзір, і мяне вазьміце! Я ўсё-ўсё ўмею рабіць, і з вінтоўкі страляць умею!

Ледзь адбаярыўся тады ад яго Мікульскі. А Янучок пашворыў за пазухаю, дастаў Пахвальную грамату за другі клас, хвалепадобна абрэзаную зверху. Затым і абрэзкі дастаў — партрэты Леніна і Сталіна.

— Дзед спужаўся, адрэзаў... А я цішком падабраў... Во як яны былі — у левым кутку Ленін, у правым — Сталін... Скажыце, мне пасля вайны абмяняюць яе на цэлую, перапішуць? — Янучок пацяг носам, нібы збі-

раючыся заплакаць. Але не заплакаў, задзіра гэты. Малы мужчынка...

— Прыгожая была рэч, каштоўная... Баязлівы ў цябе дзед! — пакруціў у руках грамату Мікульскі.

— Ён не баязлівы. Дзед казаў — замарачэнне найшло. Дзед у нас добры. Ён хацеў назад картопляю прыклеіць, але я не даў.

— Ну, што ж — я думаю, што абмяняюць,— падвесяліў хлопца Мікульскі.

Пайшлі партызаны, а настаўніцам гора. Назаўтра, яшчэ да ўрокаў, хтосьці выдраў партрэт Гітлера з рамкі над дошкаю, павыколваў вочы, падмаляваў чырвоныя смаркачы, нібы ў яго быў расквашаны нос, і павесіў на двары, на скасабочанай прыбіральні-шпакоўні. А на дошцы старанна намалявалі кавалкам «галкі», пазнаць можна было па вусах і зачосцы, Сталіна...

Ад некага, а хутчэй ад сына, пранюхаў, што нарабілася ў школе, стараста Валасень. Прымчаў у школу, пачаў чапіцца: чаму не «саабчылі», што такія госці ў школе арудуюць? Чаму дазволілі ім гаварыць абы-што, выступаць супраць нямецкага парадку? «А што мы зробім, бяззбройныя? Наставілі ў грудзі карабін... А ў другога бомбаў вісела на поясе мо пяць штук...»

Не бачыла тады Анюта зброі ў партызан, мо хіба ў адзенні было што прыхавана. Але пра ўзброеных да зубоў партызан Валасень паверыў лепш. Не могуць жа без зброі партызаны дацца ў знакі, як ужо даліся: «пакацалі» ў Падгайнай гарнізон, зрабілі ўсё з хітрасцю — выманілі з сяла амаль усіх, нібыта ўцякалі пасля налёту, і прывялі пагоню акурат пад агонь партызанскай засады. А ў гэты час другая група абышла Падгайную з захаду і амаль без перашкоды перабіла астатніх, спаліла казарму.

А як пахаладзела, задажджыла, пачаліся прымаразкі, пайшлі ў школе заняткі яшчэ горш. То раптам сярод урока гухне ад выбуху печка, ляснуць, адскочыўшы, дзверцы. Дзьмухне на падлогу попелам і вугалямі, кавалкамі гліны. Пакуль Анюта калоціцца ад страху, адбегшыся ў кут, хлапчукі гайсаюць па класе, топчуць, плююць на вугалі, выганяюць апранахаю дым у дзверы і вокны. Ім цікава, ім забава — абы не займацца. То раптам зашыпіць, запеніцца, задрынкае вечкам вада ў бачку, і ўсе пачынаюць чыхаць, кашляць, праціраць вочы ад едкага карбіднага паху. І ніколі

нельга было знайсці вінаватага — ва ўсіх ангельскія твары, усе шчыра абураюцца невядомымі штукарамі. Анюта думала на Янучка, спрабавала гаварыць з ім з вока на вока. «Не я — чэснае слова... Ва ўсіх патроны ёсць, дарэмна на мяне думаеце... А печку можна паправіць, я скажу дзеду...» — хлапчук нахабна ўсміхаўся ёй у вочы. «Дай сюды твае рукі...» — Анюта нюхала яго пальцы. Калі ён трымаў карбід, то павінен жа быць пах. Але ў класе ўсё смярдзела карбідам, і нічога нельга было распазнаць. «І карбід у многіх ёсць... У немцаў на яйкі людзі выменьваюць, газоўкі робяць... Вам мо рыбы прынесці? Мы ўчора вечарам наглушылі, нарабілі гранат: у бутэльку карбіду, затыкаем — і ў ваду!» — пасміхаўся Янучок.

Есіпу Каржанеўскаму даводзілася правіць печкі ледзь не штодня. Пастукваў кельмаю па цаглінах, насмешліва, а мо ад дыму жмурыў вочы: «Гэта вам, паненачкі, не ку́рарт! Не, не ку́рарт!»

Добра, што хоць гэтыя падрыўнікі гранат у печкі не кідалі, а толькі патроны з порахам без куль, сплюскаўшы і загнуўшы рубцом патроннае горлечка.

...Анюта ўспомніла, што недзе ў сене валяецца бутэлька з малаком, і, асцярожна паклаўшы галаву Мікульскага на лісце, падалася да воза...

## 8

Конь не слухаў лейцаў зусім, а як павяла пад аброць — пайшоў. Спыняўся, праўда, праз кожныя трыццаць — пяцьдзесят крокаў.

— Траву давай, падманьвай, як ішака...— параіў Мікульскі.

Гэтыя бясконцыя прыпынкі і старты, патузванні ён цярпеў, колькі мог, а потым, як зноў стаў, калоцячыся, конь, злез з вазка, вобмацкам дабраўся да галавы каня, напалову скінуў аброць, расцугляў, зноў надзеў яе, зашпіліў. Дабраўся да драбін, пераважыўся, спрабуючы пераваліцца цераз біла тварам у мокрае, злямцаванае сена. Ногі памагла занесці, падняць у драбіны, падбегшы, Анюта.

Не было сілы, каб паварушыцца яшчэ трохі, уладкавацца ямчэй. Млявасць разлівалася па ўсім целе, падкочвала млоснасцю пад грудзі. Галава была як чыгун з гарачым варывам — не падняць, не адарваць.

— Вы сюды галаву, во, на клунак...— Анюта спра-

бавала павярнуць яго дагары, падкласці скрутак з адзежай.

Мікульскі маўчаў, сцяўшы зубы, не храбрыўся больш, не спрабаваў ні жартаваць, ні разыгрываць яе, і гэта палохала і нервавала Анюту больш, чым тады, калі ён губляў прытомнасць. Чым яшчэ магла яна памагчы, якую раду даць?

Зноў хапалася за аброць, тузала паціху, нокала...

На хаду зрывала паўз каляіны сакаўную і мяккую, што пакулле, лясную траву, сашчыквала кусцікі лясной канюшыны з густа-малінавымі суквеццямі. Конь лопаў па канюшыне губамі, еў як не сваім ротам. Але еў, падмацоўваўся, і цеплілася надзея, што ён адужэе, весялей затрухае па дарозе... Шкада толькі, што гэтых палосак травы, пучкоў канюшыны было мала. Лес ішоў па абодва бакі, цёмны ды чорны, у гушчары, толькі прадзярыся на які крок, доле нічога не расло — ні травінкі. Цьмяна-металёва ці ржава паблісквала ад дажджу кранутае тленам мінулагодняе лісце, абапал каляін часта ўспучвалі зямлю свежыя поўхавіны-капцы кратоў ці землярыек.

Часам конь спыняўся надоўга, не памагалі ні просьбы-ўгаворы, ні трава. Анюта размаўляла з ім, як з чалавекам: «Ну пастой трошкі, адпачні, а я цікну на дарогу...» — гаварыла яна гнядому, пагладжвала конскую храпу, праганяла ад яго вачэй маленькіх і назойлівых — і дажджу на іх няма! — мушак, праходзіла ўперад. Так было перад кожнаю калюжынаю, замошчанай фашынаю-тапорнікам, а потым і без луж, і чым бліжэй было да канца лесу, тым часцей і часцей. Анюта снавала, як чаўнок,— ад каня ўперад, на разведку, адтуль — назад, да Мікульскага, з трывогай узіралася ў лапінку незабінтаванай шчакі, у дрыгатлівыя, прыплюшчаныя павекі вока, што засталося непрыхаваным. Выцірала гэты лапік шчакі то голай рукою, то ўспамінала пра хусцінку з карункамі, што знайшла ў кішэньцы Вацлавінай блузкі, і тады асцярожна прамакала яму куточкі вока, выцірала вусны.

Мікульскі чуў усё гэта і квола-бездапаможна ўсміхаўся, расплюшчваў вока і часценька міргаў. Зрэнка шырокая, як не да самага бялка... Кідаецца вока ўправа-ўлева, не спыняе погляд на яе твары. Не бачыў нічога! Мікульскі гэтай усмешкай нібы прасіў у яе прабачэння за ўсе турботы, а яна бачыла ўжо ў застыглым

усмеху адвечны выраз усіх сляпых. Дзіва, як адразу ўсе невідушчыя робяцца падобнымі адзін на аднаго! І кроіла Анюціна сэрца па жывому боль, яна прыкусвала да крыві губы, ішла хутчэй зноў да каня, бралася за аброць, каб упрасіць яго зрабіць яшчэ колькі крокаў уперад — абы каб не стаяць. Толькі ў гэтым руху ўперад, у невядомасць — збавенне!

Калі яна зрабіла яшчэ адзін віток — уперад па дарозе і назад да каня, то ўбачыла, што Мікульскі ўжо сядзіць у задку драбін, ухапіўшыся рукамі за білы. Галава апушчана падбародкам на грудзі.

— Ну, што там — ціха? — спытаў Мікульскі, не варушачы галавою, нібы сам у сябе.

— Ціха... Яшчэ з кіламетр — і лес скончыцца.

— А там якая дарога? Роўная?

— Луг забалочаны... Нам бы толькі міма парку праехаць, цераз гравейку перакінуцца... Адкрытыя месцы... А там зацішней будзе. Там дарога глухая.

— Ты была там калі ці так проста гаворыш?

— Я па карце вашай запомніла: там зялёнае намалёвана і плямкамі чорныя рысачкі. З поўдня возера я не была, а з заходняга боку. Ад Ліпнішак туды да сувязнога раз хадзіла... Я вам пра гэта, здаецца, ужо гаварыла.

— Трэба счакаць крыху, мо пацямнее... Кармі каня добра.

— Не, Цімох Андрэевіч... Сцямнее — і той лад прападзе. Трэба цяпер перахопвацца цераз гравейку. І заблудзіць можам, і ў багну трапіць... Ці конь зусім абляжа. От пастаіць трохі — і рушым.

— Паглядзі, што тут муляецца пад сенам. Хацеў падгрэбці пад сябе вышай — намацаў...

— А што там можа быць? Я ехала, дык, здаецца, нічога не было.

— Мо з клунка што выпала... Хаця не — доўгае нешта.

— Ёсць і касцюм новы ў клунку, і боты... Мо трэба было б прымераць вам — а раптам падыдзе? Сухое ўсё, лёгкае.

— Ну яго! І свая сярмяжка не цяжка.

— А я раіла б скінуць гімнасцёрку. У кусты запратарым... Наце, надзеньце хоць пінжак. Добры касцюм — з даваеннага «метро».

— Настырная ты... Учэпішся, як ваўчок з лопуху.

Мікульскі паволі расшпільваў гімнасцёрку і думаў, ці няма чаго ў кішэнях, каб пераклaсці ў новую вопратку. Бо шпурнеш, а тады... Не, нічога... Расчоска толькі, выпілаваная з белай самалётнай бляхі. Прычэсваешся — шчыпле за валасы, як пінцэтам... Што яшчэ? Брудная насоўка... Агрызак алоўка...

— Выкідвайце ваш аловак... Раскіс на чарніла.

— На, правер ты яшчэ...— працягнуў гімнасцёрку Анюце, і яна, беручы, пачула, як дыхнула на яе цяплом і мужчынскім потам.

А пінжак валаснога старшыні быў пашыты з фокусамі: хлясцік, па баках вялікія, са складачкамі па даўжыні кішэні, дзве нагрудныя кішэні з такімі ж складачкамі, дзве ўнутраныя. Па заказу, няйначай, шыты, помесь пінжака і ваеннага кіцеля — фрэнч. І сшыты для здаравілы мужчыны, мо пяцьдзесят восьмага памеру ў плячах. Свабодны Мікульскаму, хоць і ён мужчына не ўломак.

— А боты, штаны — будзеце?

— Пачакай...— пальцы Мікульскага набылі ўжо крыху чуйнасць, нават сам дзівіўся, як адчуваюць яны самую нязначную складачку, рубец.— Паглядзі ты... Здаецца мне, ці ўсё-такі ражок левага крыса таўшчэйшы?

— Гэта проста матэрыял так згорнуты... А мо і не...

— Падпары чым.

Анюта прыгнулася да Мікульскага, упілася зубамі. Затрашчалі ніткі...

— Ой, і праўда ёсць! Кавалачак матэрыі... А на ім надрукаваны лічбы і літары нямецкія... Чакайце... «Цурмел... Генрык...» Гэта, мабыць, Курмяля так запісалі. «Зіхерхайтсдзінст...»

— Што-што?!

— «Зіхерхайтсдзінст». І яшчэ нешта...

— СД! Ён яшчэ, мусіць, і агентам СД быў. Нішто сабе пташка.

— Вой, у мяне ажно рукі затрэсліся...

— Та-а-ак... Інструктар, ты ведаеш, як зносяць ■ дому шкадлівага ката? Не? У мяшок садзяць, каб нічога не бачыў, не заўважаў дарогі. І не ў лес, а куды-небудзь у другое сяло. Дык от так: я табе не кот у мяшку!

— Таварыш камісар! Я ж нічога...

— От іменна — камісар! Пакуль жывы... І нікуды мы, дзеванька, не паедзем, пакуль не раскажаш мне

ўсё падрабязна, як ты здабывала фурманку і што з табою нарабілася... Іч ты, ад мяне хаваць!

Слова за слова — расказала больш падрабязна. Як ішла і блудзіла, як трапіла ў рукі Курмяля, як уратавалася з дапамогаю Вацлавы. І без усякай сувязі дабавіла, што мінулую ноч («Ці пазамінулую?» — забыла, ці так гаварыла Вацлава) Курмель рэзаўся з камандзірам батальёна карнікаў Вышпінгам у карты... І той Вышпінг, мабыць, здорава прасадзіў усё, бо напазычаўся ў Курмяля, і старшыня меўся ехаць да яго спаганяць доўг. Уцякаць збіраўся Курмель, мусіць, нешта недзе пранюхаў...

Мікульскі сядзеў, ашчаперыўшы білы драбін, і нічога не гаварыў — думаў. Але і ехаць далей не забараняў, і Анюта паціху тузанула пад аброць. Ці конь больш адпачыў, падсабраў сілы, ці што на яго найшло, але прадыбаў намнога больш, чым тыя разы.

— Чуеш, Анюта? Хадзі бліжэй, каб не павышаць голасу,— паклікаў Мікульскі. Асцярожна адсунуўся да правага біла.— Ты забыла зірнуць, што тут муляецца.

Анюта падышла да вазка. Пераклала рэшткі клунка ў перадок, дзе ляжаў яе пінжак і танкісцкі шлем. Адгарнула сена...

Паказаўся ўсыпаны пацярухаю бліскучы, з чорнае плёнкі, плашч. Пад ім няроўна вытыркала штосьці доўгае, нязграбнае, цвёрдае, як жалеза.

Пашукала, дзе пачатак-канец плашча, разгарнула.

— Кулямёт ручны!.. Ну і Курмель... Не брычка, а тачанка, узброены да зубоў раз'язджаў.

Мікульскі нагнуўся да кулямёта, абмацаў яго. Працёрты, не ў змазцы... Адшчапіў дыск...

— Ого, цяжкі... Поўны, відаць...

— Поўны...— узважыла ў руцэ і Анюта.— Патрон відзён.

— Та-ак...— Мікульскі навобмацак паставіў дыск на месца, прыстукнуў далонню.

Маўчаў з хвіліну, ціскаючы, пагладжваючы калені. Зноў усчаўся, а мо і не перасціхаў, тупы боль, нібы хто заганяў у суставы кліны.

— Дзе тыя гранаты, што ў гэтага... як ты яго аблаяла... у Курмяля вынялі?

— Адна... Адну ж я кінула тады, каля варот парку.

— Давай адну. Гэта зброя для мяне больш падыходзіць.

Анюта дастала з кішэні свайго пінжака лімонку, паклала ў працягнутую руку Мікульскага.

Той моўчкі ўзважыў лімонку ў руцэ, сунуў пад сябе ў сена.

— Буду як кващтуха на яйках сядзець... Пісталеты дзе?

І пісталеты былі ў кішэнях пінжака.

— Тут...— Анюта дастала абодва.— Вам каторы даць?

— Дай... Курмялёў.

Мікульскі ўзвёў затвор, паклаў пісталет у правую бакавую кішэню пінжака-фрэнча.

— Шлем дзе твой? Выкінь!

Анюце раптам нешта сціснула дыханне... Гэта ж Васілёў шлем, яго падарунак! Адзіная памяць аб ім... Раней амаль не насіла яго, берагла, толькі на гэты чыгуначны «канцэрт» і надзела — сама не ведае чаму. Пасля «канцэрта», думала, прыхавае яго назусім у рэчавы мяшок...

— А планшэтку з картай — як? Мо сунуць пад сена?

— Разабрацца трэба з картай... Дастань, паглядзім, усе паметкі сцёртыя ці не?

Анюта расклала карту ў перадку. І адразу нібы пабольшаў дождж, гулка залапатаў па паперы.

— Ёсць, не сцёртыя...

— Шкада карту... На запальніцу, спалі.

— Цімох Андрэевіч! Дождж ідзе, цішыня ўсюды — мо праскочым...

— А калі не? Нашто ж, каб ім у рукі такі дакумент трапіў? І шлема не шкадуй... Я разумею цябе, але... Трэба! Як не будзе цябе, то і шлем нічога нікому не напомніць. Проста рэч, не новая, заношаная,— неадушаўлёны прадмет... Лепш на сэрцы зарубку мець, гэта і будзе наша памяць пра Васіля...

Анюта паволі, як не сваімі рукамі, сцягнула з сена карту, адышла за воз і кінула яе на ступу-сцежку. Упала натапырана, страхою. Загарацца не хацела, нібы зроблена была не з паперы, а з бляхі.

— Дарэмна мы... У нас жа ўжо кулямёт ёсць. Паставілі б ззаду — як на тачанцы,— гаварыла яна, гледзячы, як дыміцца, тлее, абвугольваецца з краёў карта.

Давялося падпальваць і раз, і другі, і трэці, пакуль загарэла дазвання.

— Расхрабрылася, бачу, ты... А хто з яго страляць будзе? Ты?

— А што? Вы толькі пакажыце — як...

— Лічы — паказаў. Ну — расстраляеш дыск... А далей? Ну — гранату я кіну... У белы свет, не бачачы куды... Ці ты кінеш... А далей? У тачанкі была перавага — тройка ці чацвёрка коней, як птушак, а не адзін недабіты... Быў ездавы-ліхач, быў кулямётчык з другім нумарам, са скрынкамі патронаў... Быў стэп пад коламі, як стол, а не лес і балота... Мы ж будзем стаяць, як на расстрэле!

Мікульскі пракашляўся.

— Малака не засталося больш?

Анюта як не пачула: усё стаяла, угнуўшыся, за вазком, таропіла вочы ў чорны тлен. Потым схамянулася, прайшла да перадка воза, рукі здаваліся ёй доўгімі і няўклюднымі, непаслухмянымі... Столькі нагараваліся і на балоце, і ў канаве, у Бобрыку, у лесе — і такі фінал? Зараней планаваць сабе пагібель?

Падала ў рукі Мікульскаму бутэльку з кудзельным затклам, патрымала ў руках шлем і планшэтку, размахнулася, каб кінуць у гушчар. І не кінула, а залезла на метры два ў кусты, не зважаючы, што за каўнер сыплюцца кроплі, узадрала ўкарэлыя ў шыгульнік ніжнія лапкі елкі, падклала рэчы пад іх, нагрэбла з бакоў больш іголак. Паглядзела наўкол, нібы хацела запомніць гэтае месца і калі-небудзь вярнуцца, забраць.

«Не, так не бывае, каб зараней смерць сабе планаваць... Сам сабе!.. Як жа я магу застрэліць сябе?! А яно? Я ж адным стрэлам рашу і сябе, і яго... І Васіль другі раз памрэ?! А яшчэ ж не ўсё, яшчэ не самае нявыкрутнае становішча... Я ж у горшым была, а вышкраблася...»

— Трымайцеся хіба...— узялася зноў пад аброць.

Мікульскі паспешліва намацаў білы, учаперыўся.

— Інструктар, стой... Стой, кажу!

Анюта тпрукнула.

— Нядобра вам? Пацярпіце, скора раўней будзе...

— Нічога... Я не пра гэта... Твая партызанская адзежка — дзе? Пра тваё старое адзенне забылі...

— Я гаварыла — выкінула боты... Разлезліся зусім. Шаравары на мне, а пінжак...

— Выкінь пінжак. Старастава жонка не будзе ў такім хадзіць. Ты — старастава, ці як там... старшынёва жонка. Курмель яго прозвішча?

— Ага.

Мікульскі чуў, як падышла да воза Анюта, пераклала штосьці ў перадку, шамаючы сенам.

— Калі я старшынёва жонка, то і старшыня трэба каб быў падобны на старшыню. Кажу — тут у клунку ёсць яшчэ штаны ад гарнітура і боты. Рабіце маскарад да канца, я адыду ўперад...

— Які памер ботаў?

Анюта пагрукала падэшвамі бот аб бот.

— Чорт іх ведае, тут не напісана... Шырокія, як лапці, на заказ шытыя. Я к вашаму боту прымеру...— і Мікульскі пачуў, як яна прыўзняла яго нагу, прыклала падэшву да падэшвы.— Э-э, сантыметры два не хапае. Нічога не будзе...

— І я тое самае кажу. Добры кадаўбец быў гэты Курмель. Ладна, паганяй...

Шоргат Анюціных ног заціх уперадзе.

— Стой! Як завуць таго Вышпінга, які старшыні грошы вінен?

— Не гаварыла Вацлава.

— А вялікая сума?

— Не ўпаміняла. Не ведае мо...

— Мала звестак. Ну — ладна.... Вядзі каня паціху... Не — пачакай!

Анюта тпрукнула.

— Які з твару быў Курмель? Падобны я на яго?

— Не-а... Ой, я й забыла: у яго вусы! Во, шырокія, як шчотка.

— Перабінтуй... Усё забінтуй, пакінь толькі нос і рот. І вока гэта не пакідай, усядно не бачу нічога...

— Бінту не хопіць...— Анюта яшчэ раз падышла да клунка Вацлавы, развязала яго. Патанчаў ён утрая, але знайшлася яшчэ ў ім і жаночая нацельная бялізна, некалькі прасцін з вышыўкаю паўз край. Адарвала ад адной шырокую, на пядзю, палосу.

Перабінтоўка заняла шмат часу. Не менш як гадзіну, здалося Мікульскаму. За гэты час пераставаў і зноў пачынаў сыпаць дробны, цёплы дождж.

— Вушы не затуляй... А то буду яшчэ і глухі... І гэта: больш крыві наверх, чырвонага. Псіхалагічны эфект...

— Па гравейцы паедзем да Кладоў? — здагадалася яна.

— Ну!.. Колькі зможам. А потым — улева. Паўз самае возера павінна быць сухая дарога... Не такая, што пункцірам пазначаецца... Значыць так: я — Курмель, ты — мая жонка... Адбіліся толькі што ад нападу партызан, і зараз вязеш мяне ў бальніцу.

Анюта ўзяла пад аброць каня.

— Но ж памаленьку... Ну — хадзі ж, ну!

* * *

На каляінах, дзе вазок калываўся плаўна, па чарзе прыпадаючы на левае, а потым на правае пярэдняе кола, левае і правае заднія (марак бы сказаў — бартавая і кілевая качка), Мікульскі трываў няблага. Ён сумеў ухапіць нейкую заканамернасць і прынаравіцца да калывання, сам хістаўся як не па крузе — улева-ўперад-направа-назад. Плаўна, без рэзкіх рухаў... Ён не супрацiўляўся гэтаму калыванню, не стараўся сядзець напружана: гэтак некалі, як ездзіў да балтыйцаў са студэнцкай самадзейнасцю, вучыў яго ратавацца ад «марской хваробы» адзін зямляк-марачок. І гэтая навука згадзілася — унь калі!..

Так, плаўна хістаючыся, лепш было і трываць і аддавацца паўзабыццю, адлятаць думкамі далёка-далёка, пакідаючы спакутаванае і стомленае цела на вазку. І яму здавалася, што ён пад агульным наркозам, прытупляецца ў галаве боль...

Калі ж кола нечакана стукала ў камень ці корань, усё распырхвалася: у вачніцы аддавала колкім, балючым ударам, бы хто біў палкаю, а ў непашкоджаным воку ўспыхвалі і атухалі агністыя і зялёныя колцы. Атухалі паступова, разыходзячыся шырока, як хвалі-кругі на вадзе. Мацнейшы ўдар — большая ўспышка, большы круг, даўжэй разыходзіцца, свецiцца...

...Эдзік пабіўся з кухарам Серышавым, ці больш праўдзіва — Серышаў лупцануў яго пад гарачую руку. «Ну, чым ён цябе выцяў? Чым?» — дапытваўся Мікульскі, калі Эдзік прыджгаў да яго са скаргай. «Пакупгай!.. Як малога!.. Што я — сын яму? Ды я і бацьку не дараваў бы!.. Каб быў бацька...» — «А за што?» —

«За што... Жабу прывёз з вадою... У бідоне... Я ж незнарок! А ён... А я чуў, што нават у малако цёткі кідаюць, каб халоднае было, не скісла!» — «Ты і яму гэтак сказаў?» — «Умгу... А ён за папругу! Паліцай пракляты...» — «Ты выбірай выражэнні... За такое і я мог бы ляшча даць...» — «А калі ён партызан, то хай не распускае рук!»

Хітрун гэты Эдзік, так і не расказаў у той раз Мікульскаму, а толькі некалькі дзён пазней, каля агню, калі партызаны любілі расказваць пра небывалыя выпадкі, смешныя здарэнні, а то і проста пацешыцца са свайго таварыша (злы жарт!), калі раптам «бычок», якога далі таму дакурыць, сліпуча ўспыхваў — быў з порахам.

Эдзік і ў пачатку бунтаваў, як толькі прызначылі на кухню. Яму — і на кухню?! Столькі марыў пра партызан, пра тое, каб хадзіць у паходы і вылазкі, біць ворага, мець уласную зброю — і на кухню?! Чысціць катлы, мыць посуд, абіраць бульбу, быць на пабягушках?! І толькі загад Фядоркава атушыў яго гнеў супраць такой несправядлівасці: «Дысцыпліна, падпарадкаванне камандзірам — першы запавет партызана. Не хочаш слухацца — можаш ісці на ўсе чатыры стораны! Тут не дзіцячы сад, тут — вайна!» — «І вы пра дзіцячы сад! І вы!.. А я думаў, што вы — сапраўдныя партызаны...» — аж не мог гаварыць ад крыўды Эдзік. «От выпрабуем, на што ты здольны, а тады будзем бачыць...» — палагоднеў Фядоркаў, але загаду свайго не адмяніў.

І мо з месяц мірыўся з лёсам хлапец, бо былі, мусіць, і светлыя мінуты — ездзіў на кані да Шчары па ваду. Мяшок сена замест сядла, перакінутыя абапал звязаныя вяроўкай два малочныя бідоны — «Но, Сіўка-бурка!». Мікульскі нават уяўляў сабе гэтыя паездкі: прабіраецца верхам па сцяжыне, цурбалкі звіняць, барабаняць па бідонах, сам насвіствае ці слухае птушак...

І ўсе разы было добра, пакуль Эдзік набіраў вады кацялком, не знімаючы бідонаў з каня: кацялок у адзін, з аднаго боку, кацялок — у другі, для раўнавагі, і г. д. А ў той дзень, які вёў да сутычкі з Серышавым, рашыў ён не забаўляцца, а чарпнуць адразу бідонам. Хутчэй будзе! А хутчэй не атрымалася: змарнаваў час, пакуль развязваў вяроўку — гэта па-першае. Чарпнуў каламутнай (ды яшчэ з жабай!) вады — па-другое.

Ледзь не ўтапіў бідон — такі быў цяжкі. Падарваўся, можна сказаць, выцягваючы... Гэта — тры. А чатыры — камедыя была, як ён чапляў бідоны зноў на каня. Мікульскі ўявіў сабе гэту сцэнку з яго расказу і то рагатаў. Вяроўчына была кароткая, залыгаў за вушка бідона, хацеў перакінуць цераз спіну каня — не хапае, ападае ўніз! Засунуў пад папругу, якою прывязаны быў мяшок, кончык, а сам зайшоў з другога боку, стаў на бідон. Перавесіўся ўніз галавою, падцягнуў-падняў высока, ледзь не да холкі — скокнуў, каб прывязаць за вушка другога бідона. Не дастае! Давялося хвораю рукою трымаць за вяроўку, а другою прыпадымаць з зямлі бідон, падтрымліваць яго каленам. Пусты, ваду давялося з другога выліць, каб хоць як справіцца, прывязаць. Расказваў пра ўсё гэта Эдзік камічна і сам смяяўся, як «вынаходзіў» веласіпед. А ў той дзень, як прыбег жаліцца на Серышава, пра гэта не гаварыў — лішнія падрабязнасці! Неўзабаве знайшоў яго ардынарац Фядоркава, паклікаў з сабою. Пайшоў за кампанію і Мікульскі — бараніць, калі што, хлопца. Адчуваў да яго ледзь не бацькоўскую шкадобу.

Сцэна ў зямлянцы камандзіра была бурная. Сядзеў там і Серышаў, расчырванелы, нібы яго накаленая на агні шчарбатая скаварада, патрабаваў суда над хлопцам. Эдзік, аказваецца, тады не сцярпеў абразы і крыўды, схапіў са слупа карабін Серышава — кляп, кляп! Не страляе... Добра, што быў не зараджаны, а то невядома, чым бы ўсё скончылася.

«Разжалавалі» Эдзіка з памочніка кухара ў пастухі — пасунулі яшчэ ніжэй па «службовай» лесвіцы. А ў атрадзе былі чатыры каровы, «НЗ», як іх называлі партызаны, і дзесятка паўтара незанятых коней. Іх ён і пасвіў на глухой лясной паляне ўдвух з параненым у руку маладым партызанам Федзем. На кухню ж раптам папрасіўся Іван Пыкаў. Няйначай, як умудраўся ён штосьці рабіць са сваімі нагамі, мазалі яго не зажывалі, а ўвесь час чырванелі і гнаіліся. Пыкаў ахвотна ездзіў на Шчару па ваду, стаў штатным вадавозам. А ў памочнікі кухару вылучалі партызан па нарадзе.

Гэта Эдзік першы і прыгледзеў, як сустракаўся Пыкаў на Шчары з незнаёмым чалавекам. Эдзік якраз сядзеў у кустах, браў у бутэльку ваду і чуў іх гаворку. Незразумелую нейкую, дробязную спачатку. Потым яны перайшлі на шэпт, слоў было не разабраць. Пасля

незнаёмы адштурхнуўся ў сваім лёгкім чоўніку ад берага, паплыў уніз па цячэнні. Эдзік ледзь не пагукаў быў тады Пыкава. Але хапіла глузду, змаўчаў. Магло б трагічна для хлопца скончыцца. Прынёс таму Федзю вады, напаіў. Пра гэтую дзіўную сустрэчу Пыкава з незнаёмым не сказаў ні Федзю, ні каму яшчэ. А каб адразу сказаў каму пра гэтыя сустрэчы Пыкава, то мо і не нарабілася б усяго, што было потым. Ва ўсякім выпадку — не столькі.

Аднойчы ў пагодлівую раніцу выявілі, што атрад акружаюць — і разведка данесла, і сувязны з адной вёскі прыбег — мокры ўвесь, брудны. Памеркавалі і адышлі ў большы лес на ўсход ад Сloніма і Бытаня. У такім лесе лягчэй захавацца, лягчэй манеўраваць. А кальцо, яшчэ большае, зноў замкнулася вакол іх — нібы хто вёў немцаў за руку, даваў самыя дакладныя звесткі. Высланыя на конях дазоры ва ўсе бакі зрабілі ў адным месцы засаду, падстрэлілі матацыкліста і аўтаматчыка-ахоўніка. Афіцэр жа, якога яны везлі, быў няйначай нацыст, бо, пакуль партызаны падбеглі, паспеў тузануць за вяровачку ў драўлянай ручцы і сунуць гранату ў партфель з дакументамі. З ашмоцця папер, з пагроз канаючага фашыста зразумелі, што не над адным іх атрадам навісла бяда, а блакіравана ўся Слонімска-Бытанская зона і што ўсім партызанам нейкая «Альдона» зробіць капут.

Гэта была карная аперацыя «Альдона»...

Пад той час у атрадзе было каля трохсот чалавек, мелі больш трыццаці аўтаматаў і кулямётаў,— разбагацелі, разбіўшы кулямётную школу ў Габінавічах. Нават ротны мінамёт быў з пяццю мінамі. Аднаго не ставала — патронаў.

Але ніхто тады маштабаў гэтай карнай аперацыі не ўяўляў. Саміх сябе нібы загіпнатызавалі: такая сіла — трыста чалавек! Столькі зброі ўжо! Адаб'юцца... Яны ж гаспадары ў лесе, а немцы прыхадні, нічога ў лесе не ведаюць, кожнага куста баяцца. Адаб'юцца!

А трэба было адразу манеўраваць, выбірацца з пасткі...

Ні з адным з суседніх атрадаў яшчэ не мелі пастаяннай сувязі, не ведалі, што плануюць у такой сітуацыі яны...

Занялі абарону на пагорку. Правы фланг і ўчастак тылу з правага боку прыкрывала балота. Не вялікае, не

такое грузкае, як тут, на Палессі, але — балота. Злева і перад фронтам дубы — рэдкія, тоўстыя. Перад захадам немцы пайшлі ў наступ, і сонца сляпіла партызан, пырскала з-за ствалоў і шатаў тысячамі іголак-праменняў. Цёмна-зялёныя фігуркі перабягалі ад дрэва да дрэва скачкамі: не ведалі немцы, дзе партызаны, баяліся. Падпусцілі іх бліжэй, ударылі прыцэльна з усіх відаў зброі. Лямант, енк...

Адкаціліся... Але чуваць былі выкрыкі каманд, пагрозы, і немцы пайшлі ў наступ зноў. Хвалямі і больш смела, нібы выяўленыя партызаны перасталі ўжо быць такімі небяспечнымі, як прыхаваныя. Адбілі і гэтую атаку...

Тым часам сцямнела, і немцы адышлі на ўзлесак, да сваіх кухань і баз. Партызаны групкамі рабілі вылазкі ў лагчыну паміж пагоркамі, шукалі, чым можна пажывіцца. Прынеслі яшчэ некалькі аўтаматаў і карабінаў і вельмі мала патронаў.

Дзіўна і бяспечна паводзіліся немцы: клалі агонь, вячэралі з выпіўкай, галёкалі пад губны гармонік песні. Упэўнены былі, што партызаны не вылузаюцца?

Мікульскага і Шыпняка адшукаў у прыцемках Эдзік. Выгляд у хлопца быў бравы: на грудзях — нямецкі аўтамат, пры боку — цясак. Прынёс кацялок малака.

— А сам ты — іў?

— Еў-еў... Гэта вам...

— А куды «НЗ» дзеў?

— У балоце ляжаць. Яны ў мяне вучаныя: як страляюць — хутчэй кладуцца.

— Аўтамат дзе ўзяў?

— А там! — махнуў на немцаў.

Можна было паспрабаваць гэтай ноччу адысці, прарвацца. Не паспрабавалі... У Фядоркава чамусьці была ўпэўненасць, што немцам надакучыць класці салдат — знімуць асаду...

Другі дзень прайшоў цяжэй. Эканомілі патроны, стралялі рэдка і прыцэльна — каб пацэліць напэўна. Немцы, адчуваючы слабінку партызан, паводзілі сябе нахабна. Але і на ражон не лезлі, нібы чагосьці чакалі. Чаго?

Зноў вечар, зноў карнікі адыходзяць на край лесу. На гэты раз Фядоркаў сабраў камандзіраў узводаў і рот — што рабіць? Парашылі паслаць пошукавыя гру-

пы ва ўсе бакі, каб разведалі, дзе лепш прайсці-выбрацца ў другі лес. Адну з такіх груп павёў Мікульскі — абмацаць напрамак на паўднёвы ўсход, на Палессе. Прапаўзлі міма пастоў ачаплення, перакінуліся цераз высозны насып чыгункі. Ахова яе не ўзмацнела на час блакады, як меркавалі, хоць нядаўна і кульнулі дзесьці ў гэтых месцах эшалон. Дабраліся да ракі Мышанкі. Балота, нетры... Рака запоўнена мулам, ногі лезуць на той свет. Можна толькі плысці... А ці многія партызаны трымаюцца на вадзе? І плытоў няма з чаго зрабіць...

Пад раніцу вярнуліся пошукавыя групы. Не ўсе: тыя, што пайшлі на ўсход, прапалі, у тым баку чувацъ была страляніна. Даклад гучаў амаль аднолькава: заняты немцамі ўсе вёскі і хутары, усе сцежкі-дарожкі, кантралююцца ўсе выхады з лесу. Па ўзлесках немцаў, як саранчы — з браневікамі, машынамі, абозамі. Самы бяспечны, хоць і самы трудны шлях той, што разведала група Мікульскага...

Але лёс, мусіць, вызначыў прайсці блакадную навуку поўнасцю, зведаць тое, што яшчэ не зведалі, аб чым не мелі ніякага ўяўлення, каб на пакутах і ахвярах прарасло зерне партызанскай мудрасці.

— На «ўра!» трэба ісці, у штыкі! Немцы баяцца рускага «ўра!» — даказваў камандзір другой роты Сахараў.

— Куля — дура, штык — маладзец? — гмыкнуў Фядоркаў, і не зразумець было, асуджае ён гэты сувораўскі заклік ці абдумвае, як можна прымяніць яго ў дадзенай сітуацыі.— Падымі́ся на ўвесь рост пад такім агнём, то немец цябе і да зблі́жэння не дапусціць, пашаткуе з аўтаматаў і кулямётаў...

Дамовіліся прарывацца ў паўночным напрамку. Дзесьці там дзейнічаў суседні атрад — злучыцца б з ім, ведаць яго манеўр!..

Досвіткам, немцы яшчэ і паснедаць не паспелі, рушылі. Спачатку вялі коней, гналі кароў, подбежкам, у тэмпе, дзівіліся цішыні. Але як толькі мінулі балота, якое прыкрывала іх былы правы фланг, а цяпер было злева, нечакана з правага боку, з сасняку, сыпанулі з аўтаматаў немцы, пайшлі ў наступ. Кінулі рухомае і нерухомае, непатрэбны, без мін, мінамёт. Беглі з апошніх сіл уперад пад знішчальным фланговым агнём, уперадзе і крыху злева святлела вялікая высечка, там было ціха. Позна раскусілі манеўр немцаў, позна пра-

крычаў Фядоркаў: «На паляну — не выходзіць!» Адзін узвод, што прарываўся на левым флангу, ледзь не ўвесь выскачыў на вырубку — і трапіў пад шквал прыцэльнага агню — мінамёты, аўтаматы, буйнакаліберныя, з браневікоў, кулямёты. Хто ўцалеў, адкаціліся назад, пад ахову дрэў. Стралялі ўжо і самі, хто меў чым, было і «ўра!» — дзікае і хрыплае.

Мікульскі бег побач з Васілём і Эдзікам, не губляючы іх з вачэй, каб памагчы ў рукапашнай, калі дойдзе да гэтага. Не відаць было толькі Пыкава, ды па ім не вельмі балела галава: і не сябра, і чалавек самастойны...

А да рукапашнай не дайшло: тыя немцы, што націскалі на іх справа, каб выгнаць на гала, не вытрымалі, адкаціліся ўбок, нібы знарок даючы іх выхад з кальца. Адолелі яшчэ колькі імшыстых сасновых пагоркаў, кіруючы да пераleску і ўжо радуючыся, што вырваліся, як убачылі, што за полем, ускрай вялікага лесу, куды яны так імкнуліся і дзе быццам павінен быць суседні атрад, кішаць, як мурашы, рыхтуюцца да атакі немцы. Яшчэ адно кола, знешняе? Ці іх зноў паспелі абысці, заступіць шлях?

Ні сілы, ні боепрыпасаў не мелі. Толькі ў некаторых былі па два-тры патроны на вінтоўку, аўтаматы ж апусцелі.

Залеглі ў лясным перашыйку па крузе — ногі да цэнтра, чакаючы апошняга часу: там, адкуль яны беглі, усё гусцела страляніна, падступала бліжэй. Выратавала іх нямецкая самаўпэўненасць: вось цяпер-то партызаны нідзе не дзенуцца, засталося пабраць іх, як куранят. Мусіць, чакалі нейкага начальства, каб браць партызан на яго вачах, каб накруціць кіно пра разгром «бандытаў». Пастрэльвалі немцы зрэдку, партызаны амаль маўчалі. Сяды-тады білі толькі самыя лепшыя цалкі — «варашылаўскія стралкі» — каб без промаху.

Тым часам звечарэла і сцямнела, а немцы так і не адважыліся іх «браць». Паўз рады партызан прайшоў Фядоркаў, аддаў загад: чакаць да гадзіны ночы, а потым самастойна, дробнымі групкамі прабірацца ў розныя бакі. Збор — на рацэ Лань, каля Рахавіч, у глыбінцы Палесся...

Ноччу часам чуваць было, нібы сям-там кідалі ў агонь жмені патронаў. Страляніна ўсчухала і зноў ападала — камусьці не шанцавала. А яны ўтрох цярпліва

чакалі перадсвітальнага часу, калі нават у самага заядлага немца-служакі зліпаюцца павекі.

Гэты іхні паход успамінаецца, як эпізоды страхатлівага прыгодніцкага кіно. Ішлі не на поўдзень ці паўднёвы ўсход, дзе Мікульскі разведваў шлях, а спачатку на захад. Ішлі асцярожна, назіркам адзін за адным — Васіль з Эдзікавым цесаком паперадзе. Часам паўзлі, абмацваючы рукамі дол, каб не трэснула сухая галінка, шыліся ў малады, амаль непралазны ельнік, і на іх шоргат стралялі. Мікульскі картава, прарэзліва крычаў-лаяўся: «Ніхт шыссэн, фэрфлюхтэ! Ляст міх дзі хозэн анціен!» [1] І чулі, як карнікі, што ляжалі ўпокат каля тлеючага цяпельца і было паўскоквалі, зноў пападалі, ужо ад смеху, выкрыкваючы нейкія парады і памінаючы партызан. Калі здалося, што яны ўжо дастаткова далёка адышлі і кальцо блакады засталося ззаду, пачалі забіраць больш на поўдзень, каб, зрабіўшы вялікую дугу, пайсці ў тым кірунку, што разведваў Мікульскі.

Але становішча зноў змянілася, упэўніліся ў гэтым пазней...

Па дарозе трапілася балота, мусіць, не тое, дзе Эдзік хаваў кароў і коней. На тым паўз бакі былі вялікія машары, там можна было хадзіць не правальваючыся. А гэта было балота палескага тыпу, з вадою, вялізнымі купінамі і чаротам. Што там, пад вадою? Луні, бяздонныя «чортавы вокны»? Выламалі кіі, пачалі мацаць — дно здалося тупкім, і, не разважаючы, палезлі напрасткі, па вадзе. Разумелі, што тут менш за ўсё шанцаў натрапіць на карнікаў, і яны брылі, кіруючы на нейкі востраў з кустамі і сухім чаротам. Невялікае было гэта балота, мо калі лічылася яно і возерам, але надта змяльчэла...

Нечакана ўперадзе пачулі кволы дзіцячы плач, і гэтыя незвычайныя гукі ў ранішняй цішыні — далёкая страляніна не ў лік — ажно сцепанулі ўсіх. Павярнулі на голас, і вочы адмовіліся верыць таму, што ўбачылі. Збіўшыся ў цесную кучу, саграваючы адзін аднаго целамі, сядзела ў трыснягу каля сотні старых, жанчын, дзяцей. Было некалькі і не старых мужчын, калі меркаваць па яшчэ не сівых барадах. Усе ў трантах, змізарнелыя ад голаду. Дзеці ледзь жывыя, кеўкалі, нібы ка-

---

[1] Не страляйце, праклятыя! Дайце ж штаны падцягнуць!

наючы. Пачалі распытваць — адкуль? Выявілася, з бліжэйшых вёсак, Бытаня... Ці даўно тут? Не, сутак пяць, а раней былі ў лесе, на сухім. Ім удалося ўцячы, як пачалі немцы паліць вёскі, людзей забіваць...

— Уцякайце і адсюль! Як мага хутчэй! Вы ведаеце, што карнікі кругом? — пачалі і страшыць іх, і ўгаворваць.

І ўсё было дарэмна.

— Калі кругом яны — то куды ж ісці? А тут, на востраве, мо і адседзімся...— гаварыў сівабароды стары ў расхрыстанай, навыпуск сарочцы.

— Сюды немцы не палезуць...— не зусім упэўнена сказала яшчэ адна жанчына.

А больш не азваўся ніхто, сядзелі ў макраце, некаторыя ціха плакалі.

У Васіля быў кавалак сала — аддалі дзецям і пайшлі.

Так, у тое балота немцы не палезлі...

Толькі выглянулі з трысця, выбраліся на сухое, як давялося паўзці пад навісь абымшэлага, у барадах каранёў, травы і моху берага безыменнага ручая, што ўпадаў у балота-возера. Ручэй амаль перасох, толькі на дне крыху вады і гразі. Асцярожна рассунуўшы, разварушыўшы палкаю дзірку ў зарасніку, Мікульскі нагледаў, што рабілася ў рэдкім сасновым лесе, які ўзбіраўся па схіле пагорка аж да палявой дарогі. На самым пуку пагорка, за рэдкімі дрэвамі відаць былі на светлым небе чорныя сілуэты машын, з будамі і без будаў. З аднаго грузавіка немцы ў чорных мундзірах скідвалі металічныя бочкі. Вось ужо некалькі бочак развярнулі, пусцілі па схіле да балота. За імі ішлі немцы, гагаталі, як гусакі, і падкаванымі ботамі штурхалі то ў адну, то ў другую бочку, калі тая засядала, чаплялася за дрэва, і яны зноў каціліся з глухім звонам і плёскатам. Запахла бензінам...

Адзін немец быў у афіцэрскай фуражцы, паблізу яго крочыў даўгалыгі салдат, несучы брызентавую сумку з рацыяй. Афіцэр звярнуў да вываратня пры самым беразе возера, і пакуль салдаты раскочвалі бочкі на метраў трыццаць адна ад адной па беразе, яго ардынарац наладзіў рацыю і падаў яму тэлефонную трубку. Раптам афіцэр штосьці крыкнуў у трубку, і карнікі, што раскацілі бочкі па ўзбярэжжы, адвінцілі затычкі ў бочках, панахільвалі іх у бок возера. Заблёўкаў, закле-

катаў бензін, але паху яго ўжо не было чуваць, мусіць, вецер цягнуў у бок вады, у бок вострава...

Працягнулася яшчэ некалькі даўжэзных мінут, і афіцэр зноў штосьць скамандаваў у трубку. Мусіць, другой групе падпальшчыкаў, што была на супрацьлеглым баку балота-возера. Салдаты ў чорным адным натрэніраваным рухам выцягнулі з-за рамянёў невялікія факелы, памачылі іх у гарлавінах бочак і, адышоўшыся вышэй на бераг, падпалілі. Кінулі яны факелы ў ваду амаль адначасова. «Гух! Фух!» — вухнуў, хапаючыся гарэць, бензін. Полымя імгненна разляцелася ў бакі гіганцкім паўкругам. Ужо добра было відаць, што вецер гоніць агнявы шматязыкі вал проста на востраў. Успыхвалі і звальваліся ў ваду сухія трысціны. Трэск, ненажэрны гул агню, прарэзлівы, шматгалосны лямант: «А-а-а-а-а!!!» Стылі ад такой жудасці сэрцы. Здавалася, што гэта і ёсць той біблейскі канец свету...

А немцы паселі ў траву, паскідалі з сябе круглыя і доўгія, нібы палены, процівагазы, спакойна курылі. Афіцэр, расшпіліўшы кіцель, памахаў на сябе далонню — здушнеў...

— Тыміш, глядзі...— прашаптаў Шыпняк.

Ручэй, аказваецца, не ўпадаў у возера, а выцякаў з яго, і бензін ужо прасачыўся па вадзе сюды, да іх. Нізкія, сіняватыя языкі паўзлі па вадзе, і з берагоў пачалі загарацца сухія травіны і ламачыны — ярка-чырвоным, нібы падфарбаваным, агнём. Жгутамі закручваўся, пралазіў ва ўсе куткі, збіраўся пад навіссю берага дым. Пяршыла ў горле, дыхаць было цяжка, і нясцерпна хацелася кашляць. Але яны сядзелі, адбіваючыся галінкамі ад найбольш нахабных язычкоў полымя, не даючы ім паўзці ўгору, на бераг. З-за шуму і трэску на возеры іх наўрад ці маглі пачуць, і яны ўжо не толькі шмаравалі, збівалі агонь галінкамі, але і спрабавалі таптаць, душыць нагамі.

Да Эдзіка імкліва, віхляючы ў бакі галавою, паўзла, нібы аслеплая, змяя. Эдзік глядзеў на яе, як заваражаны, вытрашчыўшы вочы, баючыся варухнуць рукою ці нагою. Бліжэй да хлопца і змяі быў Шыпняк, ён і падчапіў яе крывулінай за сярэдзіну, сунуў у агонь. Яна вертанулася, скруцілася, як спружына, і ўпала, дрыгнуўшы хвастом.

Над вухам заляскатаў аўтамат, і Мікульскі, уздрыгнуўшы, зноў выглянуў з-за берага. У вадзе, ужо па гэты

бок агню (агонь бушаваў у цэнтры, на востраве), боўтаўся ўчарнелы, як галаўня, чалавек, ён прысядаў у ваду, ляпаў сябе па плячах, збіваючы полымя, зноў акунаўся, ледзь не з галавою, і ўрэшце затушыўся, валюхаючыся, няўклюдна, з нейкім подскакам, затуляючы вочы рукамі, падыбаў па вадзе ўздоўж берага. Крайні немец яшчэ раз прыклаў да жывата аўтамат: та-та-та-та... Уцякач адразу плюхнуў тварам у ваду — і не ўстаў...

Хутка пацішэла, мусіць, агню не было ўжо спажывы, і немцы пачалі ўставаць. Афіцэр скамандаваў штосьці ў трубку і аддаў яе радысту, каб той збіраў сваё начынне. Недзе па той бок балота-возера другая група карнікаў таксама збірала свае манаткі.

Салдаты падхапілі пустыя бочкі і пабраліся ўгору да грузавікоў, каля якіх стаяла купкамі і сядзела яшчэ нямала карнікаў. Дзелавітыя і ашчадныя былі немцы, нават пустую бочку не кідалі ў лесе...

Бух-бом... Бух-бом-м... Пустыя бочкі пакідалі ў кузавы. Прагучалі каманды, загулі маторы, і хутка стала зусім ціха...

Яны выбраліся з-пад берага. Трэба было працягваць свой шлях...

У гэты дзень яны сустрэлі групку сваіх партызан, тры чалавекі, а пасля абеду — яшчэ адну. Другую вёў Пыкаў Іван... Усе далучыліся да групы Мікульскага.

Палалі вёскі, злавесныя дымы засцілалі гарызонт і справа, і злева — па ўсім акаёме. Яшчэ дзень ішлі на захад, потым звярнулі на поўдзень. Мышанка, куды хадзіў на разведку Мікульскі, была дзесьці злева, на паўднёвым усходзе. Выйшлі ж яны зноў на Шчару непадалёку ад вёсак Малы Бор і Шчыры Бор. І тут, у цудоўным, на пагорках, лесе зразумелі: не змогуць больш зрабіць і кроку, пакуль не адпачнуць колькі дзён, не прывядуць сябе ў парадак, не раздабудуць харчоў і патронаў. А можа, калі ўдасца, то пабудуць трохі і больш. Калі ўдасца... Вёскі ж тут засталіся цэлыя, не спаленыя.

Малы Бор... Хоць і малы, а таксама добры і шчыры. Гэта каля Малога Бору Мікульскі і Шыпняк мелі сустрэчу з настаўніцамі, з Анютай. А пакуль што першая разведка ўстанавіла: і ў Малым і ў Шчырым Бары стаяць уласаўцы. У ціхі вечар можна было пачуць вытылінгванне гармоніка, рускія песні. Асабліва ста-

раліся два мужчынскія галасы. З нечалавечай, як не сабачай тугою — кожнае слоўца можна было разабраць — спявалі-выплаквалі «Калінушку».

Ішоў ужо кастрычнік, рэзка пахаладала. Па начах прыхватвалі замаразкі, і ў простым будане жыць было нясоладка. Трэба было рабіць зямлянкі — хоць часова...

* * *

Анюта раз-пораз тузала каня за аброць, азіралася на Мікульскага і таксама думала пра сустрэчу з карнікамі — з гэтымі, якімі камандаваў нейкі Вышпінг. Ці ўдасца разысціся з імі, пазбегнуць сустрэчы? Каб не ехаць па гравейцы, а толькі перакінуцца цераз яе, то, вядома ж, было б спакайней на сэрцы. Але ж, здаецца, ці яна не заўважыла, лежачы тады ў нагах Курмяля, тут, у раёне парку, няма дарогі па левы бок гравейкі. Пакуль будзеш шукаць тую, што паказана на карце рысачкамі, невядома колькі змарнуеш часу. Калі ж праехаць на поўнач, да Кладоў, то скора адыдзе ўбок кружная дарога. Але ж і небяспека ўзрастае неймаверна. Што за чалавек той невядомы Вышпінг? Ці ўсе галаварэзы яго спадручныя?

І ўспаміналася Анюце першае сутыкненне з карнікамі — у пачатку кастрычніка, як былі ўжо ў шчырaборскім лесе Мікульскі і Шыпняк з групай партызан — мо дзён праз дваццаць пасля таго памятнага начлегу, таго выпадку, які падараваў ёй знаёмства з Васілём.

Уласаўцы з Малога Бору і Бялевічаў ужо выехалі. Дзед Каржанеўскі і Янучок збіралі і прыпасалі для партызан зброю і патроны. Але перш за ўсё патроны. Сяляне аддавалі іх ахвотна, яны ўмелі цаніць толькі тое, што можна было скарыстаць у гаспадарцы во зараз, без далёкай прыкідкі на будучае. Свет такі стаў няпэўны, усё нетрывалае, ліпіць як не на валаску, ніхто не ведае, што чакае чалавека заўтра. Дый перадрыжалі многія, як былі ўласаўцы. Трэслі тыя ўсіх па парадку, нават старасту Валасеня, невядома чаго шукалі. І хоць ніхто нічога небяспечнага напашэве не хаваў, баяліся, каб не застрэлілі. Як застрэлілі старую Антолю, што навылоўвала ў бродзе на Шчары жаўтабурых брускоў «мыла» з дзірачкамі пасярэдзіне, як

аловак усунуць, і сушыла на печы, усё спадзявалася, што яно стане мылкае, пачне пеніцца.

У канцы лістапада паспакайнела ў вёсцы: уласаўцы выбраліся ў Шчыры Бор, а потым недзе яшчэ далей, і пайшла пагалоска, што блакада здымаецца, што партызан паклалі як не ўсіх. І зноў узрасла ўстрывожанасць, калі павезлі немцы з вёскі ў вёску на калёсах трупы нейкіх мужчын і жанчын з абсмалена-вугальнымі тварамі, выдавалі іх за партызан. Шапталіся людзі, што некаторым мерцвякам знарок папалілі твары агнямётамі. Для чаго — зразумець было цяжка, і ад жудасці як не чаўрэлі зажыва: а мо сярод тых ёсць і сваякі ці блізкія?

У сялян-фурманаў былі змярцвела-застыглыя ад страху і жаллівасці твары, возьнікі каратка, быццам спазмы перахопвалі дыханне, уздыхалі, божкалі, калі чулі наўкол людскія ўздыхі і ціхі плач. Хто-ніхто спрабаваў выпытаць: «Каго везяцё?» — і возьнікі палахліва азіраліся і, убачыўшы блізка ад сябе ворагаў, каратка ўскідвалі на людзей вочы, як не выплёсквалі на іх застарэлы, пякучы боль: «Кажуць, людцы,— партызанаў...»

Арганізоўвалі народ, каб глядзелі, Валасень і паліцаі з шчыраборскага гарнізона. Стараста і пасля, як не засталося ў вёсцы немцаў і паліцэйскіх, гнаў у карпэнь старых, што адседжваліся ў хатах, каб ішлі ў лес, шукалі ўцекачоў-сваякоў, каб вярталіся тыя ў вёску, прыводзілі назад кароў і астатнюю жыўнасць, якая ў каго засталася. Маўляў, стала ціха, і трэба дзякаваць немцам за ўстаноўлены парадак, малаціць жыта і здаваць нарыхтоўку. Прымушаў, каб дзяцей гналі ў школу, не зрывалі заняткаў. Парадак, парадак, перш за ўсё парадак!

Вярнуліся ў вёску не ўсе. Дзяцей не прыйшло на заняткі і паловы, не было і Янучка. Анюта і Марыся пачалі ўрокі...

Пачалі і не ведалі, што ў вёсцы зноў узнікла завірушка, зноў сыпанулі ў лес людзі. І толькі як загрукатаў хтосьці знадворку ў раму кулаком, ажно дзынкнула і вылецела адна шыба: «Зоцік!!! Дадому, хутко-о!» — усе паўсхопліваліся з-за парт. Гармідар, мітусня, хто ў вокны, хто ў дзверы...Ываліліся на двор, а школа ўжо з усіх бакоў абкружана карнікамі. У чорных мундзірах, з аўтаматамі, яны ішлі ланцуж-

камі і ў садах, агародах, і за агародамі, і па вуліцы. Мусіць, зайшлі немцы і ад Шчары, бо там прагучала некалькі адзіночных стрэлаў — раскацістых, ажно рэха праляскацела па кустоўі ўздоўж ракі. Мо па тых стралялі, хто спрабаваў перакінуцца на той бок, быццам на другім беразе і напраўду можна было ўратавацца.

— Цурык! Бістро! — і дзяцей, і настаўніц стабунілі і загналі ў школьны хлеўчык-дрывотню, без акон, з аднымі дзвярамі, што шмаравалі нізам па зямлі і якія нельга было адчыніць нахлашч. Недзе і замок знайшлі, замкнулі іх, прыставілі вартавога. У шчыліны можна было бачыць, што ён не стаіць каля дзвярэй, а ўвесь час ходзіць наўкол будынка, як заведзены, лезе за тыльнай сцяной у прыхопленую марозам крапіву, лопух, конскае шчаўе, ажыннік. Ці такі загад атрымаў, ці сам баяўся, каб не зрабілі падкоп, не ўцяклі. А ўцякаць з гэтага боку было б лёгка, адразу пачынаюцца зараснікі лазы і альшэўніку...

Сядзелі, збіўшыся ўмесца, прыціхлыя. Што чакае іх наперадзе? Якое выпрабаванне лёсу? І Анюце хацелася, каб раптам выраслі замест рук крылы, каб можна было ўсіх дзяцей прыкрыць імі, абагрэць: няўтульна было ў хлеўчыку, гуляў сыры, марозлівы вецер-скразняк. Многія плакалі, то супакойваючыся да прыдушаных, сутаргавых усхліпаў, гэтак плачуць часам зусім малыя, пакрыўджаныя дзеці, то пачыналі крычаць і лямантаваць: «А дзе наша мамка? А дзе татка?» І ад гэтага крыку не вытрымлівалі ўжо ўсе, і немагчыма было ўцішыць. Добра, што ў хлеўчыку было амаль цёмна, і дзеці не маглі добра разгледзець іхнія твары, твары настаўніц, мокрыя іх вочы... Марыся рабілася ў такія адчайныя моманты горш няўцешнай, чым дзеці, і Анюце трэба было браць апеку і над ёю.

Пасля гадзін дзвюх адсідкі каля хлеўчыка пачуліся галасы немцаў, бразганне зброі, тупат ног. Не разабралі мо ніводнага слова, хоць Анюта ў школе, сама нічога не разумеючы ў нямецкай мове, навучала ёй дзяцей. Не было ў школе больш настаўнікаў, і што яна вывучвала за вечар па падручніку для пятага класа, назаўтра гаварыла тое вучням. Вывучвала толькі па друкаваным, не ведаючы, як гучаць нямецкія словы ў жывым вымаўленні, і каб гэтыя словы прачытаў ці сказаў сапраўдны немец, то мо і сама Анюта нічога

не зразумела б. Але дзеці перабілі яе: «Што яны гавораць? Што збіраюцца рабіць?» — і яна выдумвала абы-што: раяцца, пускаць дадому ці яшчэ пачакаць... Пераганяць іх у цяплейшае памяшканне ці карміць тут...

Дзверы хлеўчыка раптам затузаліся і затрашчалі-задрынкалі, скрабучы кватэрынай па зямлі. Спецыялісты былі немцы адкрываць дзверы: у іх, настаўніц, хапала сілы, каб толькі прачыніць на пядзі тры, абы пралезці ў шчыліну, а гэтыя расчынілі насцеж. Зарэзала ад болю ў вачах, усе закрыліся рукамі. А як расплюшчылі павекі, паадкрываліся, заўважылі каля светлага дзвярнога праёма яшчэ адну кучку дзяцей — усю мнагадзетную сям'ю Кушнераў — двух хлопчыкаў, меншых, і трох дзяўчынак, старэйшых. Адно пад адно, ад дванаццаці да трох гадоў. Пагаворвалі ў сяле — партызанская сям'я, прыбілася яна нядаўна з суседняй вёскі сюды, да сваякоў — з Сярэдзіч у Бялевічы. Мо хацелі перахавацца ў ліхую часіну... Але нехта выдаў, падкусіў — мо той жа Валасень?

— Дзетачкі, а матка ж ваша дзе? — кінулася да іх Анюта, як толькі за дзецьмі са скрыгатам зачыніліся дзверы.

Чакала ад старэйшай адказу, але яна як замерла, бы анямеўшы, каля ўвахода, так і стаяла, і ўсе меншыя, бы грыбы-спарышы, што зрасліся разам, у адно карнявішча, папрыліпалі да яе і не зварухнуліся. Толькі блішчалі ледзь заўважна пяць пар вачанят. Самы меншы быў спуджана ўсхліпнуў, але тут жа змоўк, ледзь толькі дакранулася да яго старэйшая, паклала на голаў яму руку. Гледзячы на іх, і вучні, што пускалі румзы, змоўклі. Анюта ўсё-такі адвяла Кушнярат ад дзвярэй, далікатна падштурхоўваючы ў спіны, да сярэдзіны, дзе было вышэй і сушэй, на шматгадовы пласт трэсачак і ўсякага друзу.

— Ага, сюды хадзеце, сюды...— сказала і Марыся горным голасам, трубнула моцна, смаркаючыся, носам.

Вучні расступіліся, далі месца малым — невялікае, мо метр на паўтара. Але ўсе Кушняраты змясціліся на ім, двое меншых — на каленях у старэйшай. «Божухна, колькі ім, мусіць, перажыць давялося, хаваючыся. Мы дзеці перед імі, мы... У іх ужо вопыт, як у зверанят... І нічога ж мы пра іх не ведаем... Ці не ў лесе

яны хаваліся ўвесь час, пакуль было цёпла... Перабраліся на зіму ў вёску, матка думала, што тут лепш будзе, не прастудзяцца... І не ўхавала... А дзе сама? Мо галавою налажыла...» — Анюта прысела каля іх, прытуліла адну дзяўчынку да сябе, адчуваючы, што сама стала маленькай-маленькай, нібы сціснулася ў камячок. Што чакае і дзяцей, і іх, настаўніц? Нашто паслухаліся гэтага вар'ята Валасеня? Нічога б ён ім не зрабіў, ліхі гэты чалавек... Мо лепш было б даць лататы ў лес, пашукаць партызан... А цяпер яны, настаўніцы, як памагатыя ў карнікаў,— уціхамірваюць дзяцей... «Кіпцікам у сіло, усёй птушцы невесяло...»

Прыкладна яшчэ праз гадзіну пачуўся і змоўк гул машыны.

Зноў скрыгатнулі, задрыгалі, спатыкаючыся аб зямлю, дзверы дрывотні...

«Машыну падагналі, павязуць недзе...» — толькі і паспела падумаць Анюта, і іх пачалі выганяць з хлеўчыка.

Не, у машыну іх не садзілі. На машыне прыехалі немцы — не ў чорных шынялях, а ў зялёных, і нейкімі латуннымі бляхамі на шыі...

Хаты ў вёсцы былі цэлыя, але не відаць ніводнага чалавека. Дзяцей пагналі пустою вуліцаю, і было вусцішна ад гэтай бязлюднасці, ад таго, што ў некаторых хатах і хлявах зеўралі парасчыняныя дзверы, выбітыя вокны, ад сабачага выцця: сям-там сяляне папакідалі «вартаўнікоў», быццам і праўда спадзяваліся нешта ўберагчы, ухаваць. Каля некаторых варот, у дварах ляжалі гэтыя «вартаўнікі», забітыя, так і не змаглі яны ўвартаваць рухомае і нерухомае, што не ўскінеш на спіну каня ці каровы.

За вёскай вецер быў яшчэ больш, і ад холаду дзеці пасінелі і пакурчыліся, ледзь ішлі. Самага малога Кушнера Анюта ўзяла на рукі — дзяўчынка, старэйшая сястра, змаглася яго несці. Канваіры ішлі па адным спераду і ззаду, з бакоў, баяліся, што дзеці пачнуць разбягацца. Не многа было канваіраў — чатыры чалавекі...

У Сярэдзічах да школьнікаў далучылі яшчэ натоўп жанчын з дзецьмі, старых. У некаторых на руках былі нават угорнутыя ў хусткі і посцілкі немаўляты... Сярэдзічы таксама выдавалі бязлюднымі, пакінутымі, хоць тут ужо не было вырваных дзвярэй і, здаецца, цэ-

лымі былі вокны. «Дзе ж астатнія? Чаму немцы зганяюць толькі дзяцей і жанчын з дзецьмі?»

Жменьку сялян убачылі яшчэ здалёк каля могілак — адразу, як толькі завярнулі ў выган-праезд паміж хатамі. І натоўп убачылі, і двух павешаных мужчын на старых бярозах... Выдавала, што павешаныя пакручваюцца і хістаюцца, чапляючы босымі нагамі як не за галовы людзей. Карнікі муштравалі тых жыхароў, што стаялі, чуўся прарэзлівы крык-каманда, людзей выстройвалі ў патыліцу адзін аднаму. Вакол могілак агароджы не было, і ўсё рабілася на схіле пагорка. Людзі стаялі, як на тэрасах: на першым плане, паўкругам, ланцуг карнікаў і дзве аўчаркі, потым, вышэй і далей, сяляне, яшчэ вышэй, ужо на магілках, зноў немцы. І там, сярод тых дальшых немцаў, узвышаўся адзін, афіцэр,— мо ўзлез з нагамі на чыюсьці магілу.

«Шнэль! Давай!» — зрушылі выстраеных людзей з месца, першых — прыкладамі, астатнія самі пайшлі за пярэднімі. Ішлі і заварочвалі паўкругам паўз ланцуг немцаў, паўз сабак, нагіналіся, штосьці бралі ў жменю і ўзбіраліся вышэй, пад таго чорнага немца-афіцэра, што стаяў на магільным курганку.

Анюціну групу таксама пачалі выстройваць у патыліцу адзін аднаму яшчэ на хаду, на падыходзе да могілак. Іхнія канваіры пераклікаліся з тымі, што каля могілак, галасіста, нібы галёкалі ў лесе ў час якой прагулянкі, калі ва ўсёй кампаніі цудоўны настрой ды яшчэ і грыбы знаходзяцца.

Тых людзей, што каля могілак, завярнулі па другому кругу і адразу за імі пачалі прыстройваць бялевіцкіх дзяцей, потым жанчын з дзецьмі, што далучылі ў Сярэдзічах.

— Брацъ! Многа! — пакрыкваў той, што таптаў магілу.— Как ето рускі фольклорэ гаварыт: дзелаць трызна! Пясок, рука і бросаць... Бросаць ін граб... Магіла!

Бралі ўсе пясок каля незасыпанай добра свежай магілы, дзе на берагах яшчэ ўзвышаліся раскоўзаныя нагамі, напалову ссунутыя ў яму копчыкі. Анюта думала, што гэты вільготны пясок трэба ўзяць і тут жа кінуць у яму, але ўсе бралі па жменьцы, толькі ў гэту яму больш не сыпалі, а праходзілі ўгору, бліжэй да таго, што пакрыкваў-камандаваў. У нагах таго раптам

заўважыла Анюта яшчэ аднаго карніка, таксама з чалавечым чэрапам на рукаве і палкаю ў руцэ. Ён быў да пояса ўкапаны ў зямлю... Не, не ўкапаны... «Божа міласэрны, ці бачыш ты, ці чуеш?! На такую галгофу паслаў нас...» — шаптаў, дыбаючы перад Анютаю, сухенькі, мо стогадовы дзед і ўвесь тросся, падскоквала белая, клінком, бародка, падгіналіся яго ногі. Анюце давялося падтрымліваць яго пад локаць, каб не ўпаў. Аднекуль, Анюта не магла разабраць адкуль, чуўся глухі, як з-пад зямлі стогн... Усе сыпалі ў яму, пад ногі таму эсэсаўцу, што быў відзён толькі да пояса, пакрысе — ледзь не шчопцямі. Габлялі, мабыць, па дарозе, высыпаўся пясок скрозь пальцы, трымцелі яны, распростваліся... А карнік, што ў яме, часта і нечакана ўздрыгваў, падаваўся ўгору, зноў ападаў, нібы яго хто падштурхоўваў знізу ў падэшвы. Ён пераступаў вялізнымі, моцнымі ботамі, каб лепш устояць, прыдушыць тое варухліваe, што стагнала пад нагамі. Анюта толькі зазірнула ў яму, і міжволі раскамячыліся пальцы, пясок прасыпаўся на бераг. У яме быў скурчаны, мо на колінцах стаяў, чалавек. Ён ужо быў прысыпаны крыху пяском, але, мабыць, ад варушэння той пясок увесь час ссыпáўся з яго. Абцасы эсэсаўца з хрустам таптaлі яму рэбры, таптaлі закручаныя за спіну, звязаныя і скрываўленыя рукі...

Толькі ўразумела Анюта тое, што ўбачыла, і аж падскочыла: магільшчык рэзнуў ёй палкаю па нагах: «Відэрголен! Ідзі на паўтараць» А той, што наглядаў за працэсіяй з вышыні магілы, віціўстваваў тым часам:

— Дас іст партызан? Найн, бандытэн... Ві не дольжэн ім памагаць і жалець... Ві дольжэн вучыцца сам караць іх! З маленькіх лет! З малаком муттэр! Ві дольжэн памагаць нямецкі зольдат дзелаць парадак ін Беларусьланд. Біттэ, нох айнмаль!

Значыць, і іх усіх заварочваюць на паўторны круг. Круг пекла...

Анюце хацелася тут жа, імгненна памерці, каб нічога гэтага не чуць і не бачыць. Хацелася кінуцца на бліжэйшага карніка, сашчаміць пальцы на яго горле і душыць, пакуль той не капутне ці самую не прашые аўтаматная чарга. Але за ёю чáпалі, учапіўшыся адно за аднаго, Кушняраты, і яна бачыла іх спалоханыя, застыглыя ў неразуменні вочы. Бачыла вочы школьнікаў, у якіх ужо акрамя жаху былі дарослы боль і гнеў.

Толькі трывога за іх лёс не давала зрабіць гэты апошні ў жыцці крок. Ёй здавалася, што пакуль яна будзе з імі, дзеці не прападуць, з імі нічога не здарыцца. Людзі ж даверылі іх ёй — настаўніцы...

Быццам і праўда яна магла іх уратаваць, аблегчыць іх лёс...

Пасля другога круга, калі здавалася, што яна сама ўжо знежывела, немцы адагналі дзяцей у адну кучу, жанчын і старых — у другую. Хто не даваў сваіх дзяцей, вырывалі сілаю, ледзь не раздзіраючы няшчасных папалам. Пакідалі з жанчынамі толькі тых дзяцей, што самі не маглі ісці. Па нейкіх меркаваннях Анюту пакінулі з дзецьмі, а Марысю адагналі да жанчын.

Павялі іх ад могілак у вуліцу Сярэдзіч, і Анюта глухла ад дзіцячага крыку і ляманту, ад галашэння жанчын. Істэрычна брахалі, ірваліся з рук немцаў, становячыся на дыбкі, аўчаркі...

Набліжаліся ўжо да першых хат, як раптам пачуўся пранізлівы жаночы крык:

— Іва-а-нка! Бяжы, сыно-ок! Уцякай!

Хлапчанё гадоў пяці, якое толькі-толькі вырвалі ў маткі, з вялізнымі сінімі вачыма на замурзаным тварыку, раптам кінулася з калоны ўбок. Мусіць, маці разлічыла, што малому будзе лягчэй схавацца сярод будынкаў і агаленых прысадаў. «Хальт! Хальт!» — спынілі канваіры ўсіх, стабунілі ў кучу. Адзін ускінуў быў аўтамат, але адтуль, ад могілак, штосьці пракрычалі, а потым коратка, як ляснулі пугаю, скамандавалі сабаку: «Фас!» І ўслед хлапчаняці панеслася шэрая, што воўк, аўчарка. Імчала яна бясшумна, як цень. Галаву крыху ўгнула да ног, распрастала ў палёце хвост. А хлапчук, мусіць, нічога гэтага не бачыў, шэрая куртачка яго мільгала над паплаўцом. Вось ён схаваўся за азяродам, на жэрдкі было накінута крыху бульбоўніку сушыцца... Выкаціўся на нечы двор... Цішыня стаяла мёртвая, за паядынкам сачылі і людзі, і карнікі. Анюта ўжо ўгадвала канец паядынка, і сэрца калацілася ў грудзях, бы ў агоніі — гэтак праз секунду будзе трапятаць у зубах аўчаркі-людаеда цельца хлапчука. «На шопу! На страху лезь!» — крычала нема кожная клетачка Анюты. У гэтай прыбудоўцы да хлява страха пачыналася зусім нізка, ляжалі яшчэ і бярвенні, і можна было б нават дзіцяці залезці. Хоць наўрад ці ўратавала б гэта ад звяругі...

Аўчарка адолела паплавец у некалькі скачкоў, крутнула на двор, за хлеў, куды пабег і хлапчук... І ўсе пачулі кароткі, поўны жудасці ўскрык-усхліп, гырчэнне сабакі...

...Пагналі іх яшчэ далей, у Аржанава. Канваіраў не дабаўлялі. Наадварот, іх паменшала, затое дабавілі яшчэ аднаго немца з сабакам. Не з тым шэрым людаедам, [redacted] з другім, амаль чорным.

Ішлі як у сне, нервы былі паралізаваны ад убачанага і перажытага. Толькі адзін участачак мозгу яшчэ падаваў сігналы-імпульсы — кіраваў хадою. Усе намаганні скіроўваліся на адно: каб не ўпасці, каб не адстаў ніхто з дзяцей, не трапіў у зубы аўчаркі.

Да Аржанава дапляталіся пад вечар. Надыходзіла змярканне, і ў ім асабліва златвесна палыхала велізарнае зарыва: гарэла на ўскрайку чыёсьці гумно. Ля пажару стаялі ў ачапленні немцы. З вялікай крытай машыны выгружалі, выкідвалі дзяцей-малалетак. Анюту з групай вялі проста да гэтага пажару, проста ў агонь.

Адхіляючы галовы ад гарачыні, двое чорных карнікаў панеслі за рукі, за ногі малога, выкінутага з машыны, падбіраліся да агню бліжэй і бліжэй, каб можна было разгойдаць і кінуць. Дзіця не крычала, не вырывалася, мусіць, было ўжо мёртвае...

Разгайдалі, кінулі ў полымя, адбегліся, цяжка дыхаючы, нібы правалаклі тону грузу. Пачалі лавіць другога, жывога. І тут Анюта пачула, як раптам цеўкнула над галавою. Не паспела ўцяміць, што гэта такое, як пачула стрэлы. Стралялі са стаек, з рэдзенькага бярозавага гаю-ўзлеску. Стралялі кулямёт і аўтаматы, непрыцэльна.

— Сюды... Дзеткі!..— сіганула яна ў баразну бульбянішча.

Большыя пападалі на зямлю, меншыя замітусіліся: «Ма-ама!»

Не чакалі нападу і немцы. Тыя, што вялі Анюту з дзецьмі, кінуліся ў вёску, каб схавацца за будынкі. Але і адтуль, як не ва ўпор, забухалі вінтовачныя стрэлы, затрашчалі аўтаматы. Чорная аўчарка вырвала павадок з рук ужо мёртвага павадыра і пусцілася, падтуліўшы хвост, у поле. Частка карнікаў, што стаяла ў ачапленні вакол пажару, і тыя, што кідалі дзіця ў агонь, сыпанулі да машыны з будаю. Але мала хто ўскочыў у кузаў, машына рванула з месца, як шалё-

ная, крутнула паўкругам вакол пажару і таксама хацела ўскочыць у вуліцу, схавацца за будынкі і прысады. Але позна ўбачыў шафёр, што страляюць і з-за крайніх будынкаў, з агародаў. І тады ламанула ўбок, скрышыла нечы плот і таксама запалала, карпануўшы рылам старую яблыню.

Хтосьці ўжо выбег з-за пажару ў цывільным, у танкісцкім шлеме, страляў кароткімі чэргамі ўроскідку і туды, і сюды, не адрываючы прыклад ад жывата, і Анюта ўсхапілася з-за ўскрыцця, пачала табуніць, збіраць умесца дзяцей.

— Анюта! — паклікаў яе чалавек у танкісцкім шлеме.

— Ганна Сямёнаўна! — гукнуў з другога боку хлапечы галасок.

Анюта пазнала іх, бы ўпала плёнка з вачэй: Васіль! І Янучок Каржанеўскі... Таксама з аўтаматам!

І яшчэ партызаны падбеглі, падхапілі меншых дзяцей на рукі.

— Бягом! Бягом! — скамандаваў ім Шыпняк.

І толькі тут пачулі, як хтосьці крыкнуў: «Гэй!» Азірнуліся і ўбачылі, што за імі бяжыць, падняўшы рукі, немец.

— Я — плен! Плен! — на яго мурзатым твары была нават усмешка.

Пагналі і яго з сабою.

Усе разам з дзецьмі беглі туды, да стаек, адкуль ужо таксама скочвалася насустрач ім другая група партызан на чале з Мікульскім і таксама крычала: «Хутчэй! Хутчэй!» З гэтай, другой, групай быў і дзед Каржанеўскі з бярданкай.

Увязвацца ў вялікі бой партызаны не думалі, бо карнікаў у навакольных вёсках было да халеры, а партызан — жменька. Не паспела тады Анюта падзякаваць ні Васілю, ні яшчэ каму з партызан. Цмокнула толькі ў замурзаную шчаку Янучка, выцерла слёзы.

— От яшчэ! — цярнуў ён рукавом тое месца, счырванеў і хуценька паглядзеў на Эдзіка: хаця б той не заўважыў! — Каб чуць, то і позна было б... Гэта з-за дзеда ўсё... «Ведаю, ведаю, дзе ў партызанаў схрон...» А сам топчацца амаль па зямлянцы, нічога не пазнае. Ну й маскіроўка. Пакуль самі партызаны не затрымалі нас.

— Ой, Янучок! А як жа вам удалося ўцячы з вёскі?

— Удалося, і ўсё! Мы і ў Сярэдзічы яшчэ заскоквалі з партызанамі. Не засталі вас там... Ганна Сямёнаўна, а Кісялеўскую застрэлілі немцы... Мы як нападалі, дык і жанчыны, і старыя з голымі рукамі кінуліся на эсэсаўцаў, памяшалі нам страляць... Аднаго толькі задушыла жанчына... У яе, казалі, сабакі хлопчыка разарвалі...

Ішлі подбегам, потым прыцішвалі хаду, адсопваліся і зноў беглі. У лесе кружылі, заблытвалі сляды. Нястомна ішоў наперадзе з двума малымі Кушняратамі на руках высокі і вынослівы Мікульскі... Урэшце прывялі, прынеслі дзяцей у іх часовы лагер у шчыраборскім лесе. Янучок з дзедам і яшчэ партызаны не з атрада Фядоркава, якія далучыліся да групы Мікульскага напярэдадні гэтай выратоўчай аперацыі, засталіся ў лагеры. Застаўся з імі і палонны немец — Вілі Гот. Захацеў стаць партызанам, змагацца з фашыстамі. Ад яго пачулі, што пад Сталінградам, дзе акружана вельмі многа немцаў, папахвае катастрофай...

— Якы ж ты Гот! Якы ж ты бог? Шмэндрык! — пасміхаўся Васіль.

— І бог на наш бок перайшоў! — жартавалі партызаны.— Ну, цяпер фрыцам нездабраваць...

Тыя, што засталіся, будуць ахоўваць дзяцей, раздаваць паступова жыхарам на рукі і арганізоўваць новы, мясцовы атрад. А Мікульскі рашыў весці сваю групу далей, на Лань, як і дамаўляліся з камандзірам атрада. Было ўжо трохі і адзежы, і сілы, і патронаў.

Дзед Каржанеўскі раздабыў недзе мёду, паналіваў партызанам фляжкі.

«Вам на дарогу...» — «Вы б дзецям пакінулі!» — адмаўляліся партызаны. «Вам больш патрэбна... Ды ёсць і дзецям... Нам не выпадае далёка адыходзіць, хоць і хацелася б...» — «Да-а, усюды вайна, ці тут, ці там...» — «Вы не перажывайце, мы ўхаваемся, прадзержымся да лепшага часу...— уздыхнуў Каржанеўскі.— Вядома, не ку́рарт будзе, але — прадзержымся, таварыш камандзір...»

Кранула развітанне Эдзіка з Янучком. Гэта Эдзікаў аўтамат быў у малога Каржанеўскага, і той вярнуў яго гаспадару. Эдзік і прыняў было зброю, але... аддаў назад: «На разжытак!» І яны пацiснулі рукі адзін

аднаму — двое дзяцей-салдат, два мужчынкі, што заўчасна і назаўсёды развіталіся з дзяцінствам, узялі ў рукі зброю. І раптам няўмела, саромеючыся, абняліся...

9 — Дождж паменшаў?

— Не... Лес кончыўся. То па лісці лапацела, а гэта толькі шэпча... Трава тут.

— Шэпча дождж... Дождж шэпча... Пахне паэзіяй. Прызнавайся, пісала калі вершы?

— Ну што вы!.. Цёмны лес. Гэта вы дык на ўсе рукі.

— Навучыць гора кашу есці... І лістоўкі вершамі сачыняў, і ў насценную газету пісаў... Ды якія там вершы? Раешнік... Кожны адукаваны чалавек можа скляпаць верш.

— Ой, мяне хоць забі, а двух радкоў не складу. Хутчэй мядзведзя можна навучыць чытаць...

— Э, не кажы, інструктар... У нас у вёсцы быў такі Кірылка — двух слоў не скажа, каб не прыбавіць што ў рыфму. Мо і не ўмеў іначай... А пад Слонімам, як яшчэ ў першым атрадзе быў, у Фядоркава... Ён у штабе брыгады цяпер нашага злучэння — Пінскага... Чакай, пра што я хацеў сказаць?..

— Пра вершы, пра нейкага Кірылку, што складна гаварыў... Потым сказалі: «Пад Слонімам...»

— Ага... Ясна... Ішлі раз з задання... Вымерхаліся, галодныя, што цюцькі... Пастукалі ў адной вёсцы ў крайнюю хату... Дзед і баба жывуць... «Адны і жывяце?» — распытваем, за сталом ужо седзячы. Сын у арміі, дачка тут, сваім «хадзяйствам» жыве, гаспадар яе таксама на вайне... Дык дзед гэты мо цэлы вечар нам частушкі свае пра немцаў, пра паліцаяў спяваў... Усякія, скаромныя нават, грубыя... Паэт! Я некалькі быў запомніў, цэлы выпуск лістоўкі прысвяціў гэтай з'яве... Не баяцца ўжо людзі немцаў, насміхаюцца над імі... Значыць, душэўна здаровыя яны, не надломленыя, маральную перавагу над захопнікамі маюць... А гэта, даражэнькая, вялі-і-ікі фактар... Ого, настрой людзей!

— А як жа вы... скаромныя, і ў лістоўкі пісалі?

— Дзе пісаў, а дзе тры кропкі ставіў... Хто чытаў, здагадваліся, самі рыфму падстаўлялі... З песні цяжка слова выкінуць... Амаль увесь народны гумар — салёны... Хочаш — прачытаю адну частушку?

— Ай...

— Не хочаш, не трэба... Дзе мы ўжо?

— Да ручая пад'язджаем... Дзяржыцеся мацней!

Мікульскі пачуў, што пад капытамі зачвякала гучней, потым заплюхала. Вазок нібы асеў на перад, мусіць, пярэднія колы ўехалі ў ваду. Плюханне капытоў спынілася. Анюта ўскочыла і села на біла, каб не замачыць ног, затузала лейцы.

— Н-но! Но! Высмаг вельмі, каб цябе... Няма ж гарачыні...

— Не гані... Хай нап'ецца... І мне дай — кожная клетачка лямантуе...

Анюта саскочыла зноў. Чуваць было, як булькае, палошча бутэльку, потым зноў булькае, набірае чыстую ваду.

— Наце...— адняла яго руку ад біла, уклала бутэльку ў пальцы.

Мікульскі браў бутэльку і пачуў холад мокрай Анюцінай рукі.

— Э-э, ды ты, мабыць, наскрозь прамокла. Скарчанела...

— Не... Дождж цёплы. І гэта ж не ў канаве боўтацца.

Конь, напіўшыся, зрушыў з месца сам. Анюта ледзь паспела стаць на падножку. Мусіць, пазнаваў ужо дарогу гняды, думаў, што едуць яны дадому. Мікульскі, кінуўшы ў воз бутэльку, ухапіўся за білы. Але не даехалі нават да парку, і конь стаў: цягнуць зноў было цяжэй, дарога падымалася ўгору. Анюта і пануквала, і ляпала лейцамі па мокрай і цёмнай спіне каня, і, закруціўшы лейцы за біла, тузала, вяла пад аброць. Давала есці траву — пашлёпаў губамі па сцяблінах, задвярнуў галаву, апусціў. Некалькі травінак так і засталося тырчаць у цёмна-шэрых, нібы з мяккай гумы, губах.

— Ну, што — стоп?

— А хай на яго ўпадкі! Каб ужо здох, то ведалі б, што трэба ісці — і ўсё...

— Дай адпачыць яму... Дай... У што былі ўвязаны Вацлавіны рэчы? Мо ў посцілку? То ўзяла б акрылася трохі...— Мікульскі падаўся ўперад, але нічога не намацаў. Тады асцярожна злаўчыўся, стаў на калені і зноў нагнуўся, памацаў.— Інструктар, ты што ж гэта?! Я ж казаў — выкінь пінжак...

— Ой, забыла!..

— Не выканала загаду... Шпурні ў кусты!

— Няма кустоў... Жыта ёсць.

— Ну — у жыта. Чым падалей!

Анюта падышла да воза, пакорпалася ў перадку. Пінжак і праўда ўзяла, а шаравары, азірнуўшыся на Мікульскага, сунула глыбей пад сена. Шкада іх — цэлыя, няма ніводнай дзіркі. Магла ж насіць такія і Курмялёва жонка... Занесла ў жыта пінжак, вярнулася да воза. Рэшткі Вацлавіных набыткаў таксама сунула пад сена, а посцілку высцепала і накрыла ёю Мікульскага.

— Ты што? За дзіця мяне лічыш?

— Хворы ці паранены — горш за дзіця.

— Загад не выканала, а цяпер падлізваешся...

— Ды мне няма як з посцілкаю, трэба аберуч каня чукаваць...

Анюта зноў узяла каня пад аброць. Той ажно застагнаў, як чалавек, але падаўся, кульгаючы, наперад. Яго заносіла ў аглоблях то да аднаго боку, то да другога.

Так дацягнуліся амаль да самых паркавых варот — тых, праз якія яна вылятала, уцякаючы ад немцаў.

— Цераз парк, цераз Стары Пасадзец было б лепш — вугал зрэзалі б... Але як успомню, што недзе там Курмель ляжыць у склепе — ажно трасе... Як Вацлава дзяўбла яго ў карак тупым нажом — божа мой!

— Перастань пра гэта... Паўтараю: кіруй на гравейку... У Пасадзец не трэба лезці...

Выбраліся на гравейку, павярнулі на поўнач. Ехалі так хвілін дзесяць, і Анюта ўбачыла: уперадзе з-за павароту дарогі паказалася група коннікаў. Сілуэты размытыя дажджом, затушаваныя туманам, не коннікі — прывіды.

— Едуць!..— спалохана прашаптала Анюта і спыніла каня.

— Паганяй, паганяй! Колькі іх?

— Чалавек дзесяць... На конях...

— У што адзеты? Форма — якая?

— Не пазнаць яшчэ: не то шэрая, не то жоўта-зялёная.

— Едзь. Будзем збліжацца... І крычы ім, махай. Пад'едуць — радуйся сустрэчы...

— Во-я-ёй...

— Калі зубы ляскаюць — разяў рот.

Ад гэтай грубаватай парады ў Анюты зменшыўся страх. Але ўсё роўна ўсё напружылася, кожны нерв. Яна нават перастала адчуваць стому ў целе, не гарэлі, здаецца, ногі, не ныла навярэджаная паясніца. І ўсё-такі недзе глыбока-глыбока паспела мільгануць: «Каб паехалі мы на Пасадзец... Авось бы і размінуліся з карнікамі...»

Але трэба было крычаць тым, клікаць, і Анюта закрычала — хрыпла, сама не пазнала свайго голасу. Адкашлялася і зноў — званчэй ужо. Коннікі, відаць, заўважылі іх, бо прышпорылі коней. Сілуэты іх яснелі, павялічваліся, лепш можна было разгледзець мундзіры і шынялі — зялёныя...

Анюта заядла лупцавала лейцамі каня, мітуслівa тупала то да вазка, падпраўляла нібыта сена, то да конскай храпы, тузала пад аброць адною рукою, а другою ўсё круціла, махала тым, у нямецкай форме. І дзвюма рукамі махала, і зноў крычала, зноў бегла да вазка. І каб Мікульскі мог бачыць, то сказаў бы: іграе ўзрушаную жанчыну добра, як не вар'яцее з радасці, што набліжаецца дапамога і ратунак.

— На помач, хутчэй! Конік наш паранены, не ідзе! І чалавек мой паранены ў галаў моцна, крывёю сыходзіць!

Апошнія словы яе заглушыў стукат капытоў, храп і фырканне коней. Азірнуўшыся, у апошнюю хвіліну заўважыла Анюта, што рука Мікульскага міжволі пацала сена ў тым месцы, дзе ляжаў загорнуты ў плёнчаты плашч кулямёт, а другая рука пагладзіла адтапыраную кішэню з пісталетам. Мусіць, і ў яго нервы былі напятыя, як струны.

Наляцелі тлумна, акружылі іх з канём і возам з усіх бакоў, панастаўлялі карабіны. Гарачы дых коней, скрыгочуць аб цуглі зубы, падае шматамі з ратоў брудна-жоўтая пена... Каштанавы пад афіцэрам нібы ў белых шкарпэтках, гарцуе-прытанцоўвае, пераступае нагамі на месцы, адступае ўзад.

— Хто такія? — спытаў афіцэр, а яго конь раптам падаўся ўперад, абдаў Анюту травяным духам, пырснуў пенай.— Абшукаць! — дабавіў ён, не пачакаўшы адказу. Гаварыў ён па-нашаму з дзіўным акцэнтам.

— Я старшыня воласці Курмель! — забасіў Мікульскі.— А хто вы, якая часць?

— Ха-ха! Га-га! — раптам зарагаталі ўсе, як па камандзе.

— Многа хаціце знаць. Абшукаць! — яшчэ больш павысіў голас афіцэр.

Саскочылі з коней двое, у тым ліку адзін, да сядла якога быў прывязаны павадком запасны конь.

— Вацлава, што гэта за людзі? Мо ты памылілася?

Анюта нічога не паспела адказаць: грубыя рукі залапалі яе па баках, па грудзях. Другі вайсковец у гэты час абшукваў Мікульскага.

— О-о! — працягнуў раптам той, што абшукваў Мікульскага,— намацаў у яго кішэні пісталет. Штосьці хутка прагаварыў да афіцэра, а афіцэр да яго. Рухі тых, што абшуквалі, сталі больш грубымі.

Але гаворка ў іх была не нямецкая, Мікульскі зразумеў гэта і пайшоў па «банку»:

— Ну — пісталет... І ў жонкі ёсць пісталет. Вацлава, аддай! У нас яшчэ кулямёт во тут, пад сенам... Толькі што, гадзіны дзве назад, адбіліся ад нападу партызан. Чулі мо страляніну? Сярод белага дня, у парку, ледзь не дома на печы застукалі нас... Гэта ўжо проста нахабства! І куды гледзіцё вы, абаронцы!

Той, што займаўся з Мікульскім, дастаў з-пад сена кулямёт. Загукаў, залапатаў... І ўсе наехалі коньмі, як не на воз. Выцягвалі шыі з-за конскіх галоў, каб разгледзець знаходку і дзіўных затрыманых.

— Дакумент! — прарэзліва скамандаваў афіцэр, і тыя, што акружылі, яшчэ больш пагрозліва наставілі на іх зброю.

— Паўтараю: я старшыня воласці Курмель, а гэта — мая жонка. Едзем у бальніцу, у Лагішын...— Мікульскі начыста забыў пра тую анучку з нямецкімі літарамі.

Анюта раптам загаласіла:

— А мой жа ты галубок! А ніхто ж нас не шкадуе — ні партызаны, ні немцы! А колькі ж ты крыві праліў ад гэтых партызанаў! А конік наш негадзяшчы стаў! А як жа мы дабяромся да якога ўрача! А мо ўжо смерць чакае цябе на гэтай дарозе!

Тады і Мікульскі павысіў голас:

— Паслухайце, вы! Калі не спыніце гэты здзек, я паскарджуся Вышпінгу! Распусцілі рукі...

Анюта заўважыла, як вайскоўцы пераглянуліся з афіцэрам.

Той, што абшукваў Мікульскага, намацаў урэшце ў кішэні кавалачак белай матэрыі і падаў афіцэру. Анюта зноў пачала галасіць...

— Адставіць! — скамандаваў афіцэр таму, што рабіў вобыск: справіўся прабегчы вачыма па тым белым кавалачку.— Просім прабачэння — служба! Вазьміце! — падаў Мікульскаму анучку-дакумент. Але той не бачыў, як узяць, і салдат, што абшукваў, перахапіў клапцік, засунуў яго ў кішэньку фрэнча.

— А цяпер вядзіце нас да Вышпінга. Я так гэта дзела не пакіну!

— Яшчэ раз — прашу прабачэння! Сёння мы затрымліваем і абшукваем усіх. Самі ведаеце, што нарабілася на чыгунцы...

— Мне трэба перагаварыць з Вышпінгам: абяцаў сёння к абеду прывезці картачны доўг — і носа не паказаў. А цяпер невядома, калі аддасць... Такое здарылася са мною...

— Прашу прабачэння, а на многа вы яго?

— Дзве з паловаю тысячы марак.

— Акупацыйных?

— Я яшчэ не здурнеў, каб гуляць на акупацыйныя.

— Фю-ю-ю...

— Вось гэта да!

— Ого! Дзве з палавінаю! — сыпалася з усіх бакоў.

— А нашто табе тыя маркі? — сварлівым голасам жонкі пачала Анюта.— Гарэць яны няхай ясным агнём! Сам сыдзеш кроўю, пакуль туды дабяромся, а адтуль у Лагішын! Папрасі лепш во ў гэтага начальніка каня — у іх ёсць вольныя, без седакоў... І ўсё па ўсім.

— Хлопцы, а мо і праўда старгуемся? Вы мне каня, і чорт з ім, з гэтым доўгам! Перадасце Вышпінгу паклон і скажаце: так і так, уступілі Курмялю аднаго каня. Доўг яму я дарую... А ён ужо няхай з вамі разлічваецца, як хоча.

— Заўсёды рады памагчы! — казырнуў афіцэр, а яго каштанавы адступіў і замахаў галавою, захроп.— Краўзэ! Запражы ім добрага каня!

Яшчэ адзін адвязаў ад лукі запаснога каня, падвёў да воза, закруціў павадок за біла.

Распрог іхняга недабітага хутка, зняў хамут, сядзёлак, астатнюю збрую, пляснуў голага гнядога па мокрым крыжы: «Гуляй!»

— А мо прыстрэліць? — спахапіўся ён.

Афіцэр падумаў з паўсекунды.

— Не трэба.

Сядло з запаснога каня, нейкае дзіўнае, абшытае зверху кавалкам зялёнага плюшавага настольніка, кінуў карнік ім у воз. Запрог новага каня спрытна і хутка, хоць той і не даваўся, каб надзявалі хамут. Лейцы сунуў у рукі Анюце.

— Усё! — пайшоў да свайго каня, якога паслужліва трымаў за повад яго таварыш, мігам узляцеў у сядло.

— З богам! — яшчэ раз узяў пад казырок афіцэр.

— Дзякую, панове. Толькі вы забылі вярнуць нам нашу зброю.

Афіцэр вылаяўся па-свойму, штосьці скамандаваў, і тыя, што абшуквалі, неахвотна палезлі ў кішэні, павымалі пісталеты. Кінулі іх у вазок пакрыўджана, а кулямёт уклалі на тое ж месца асцярожліва.

— Яшчэ раз дзякую,— стрымана і з годнасцю прагаварыў Мікульскі.— Прывітанне Вышпінгу!

— Гут!

Конь пад афіцэрам узвіўся на дыбы, пераступіў заднімі нагамі і гупнуў на зямлю пярэднімі — у той бок галавою, куды ім трэба было ехаць, і з месца ўзяў у кар'ер. Захлісталі нагайкамі, забілі шпорамі пад бакі і астатнія. Коні зрываліся з месца рэзка, ляцела з-пад капытоў мокрая зямля. Праз мінуту-дзве стукат капытоў, дробны і часты, нібы глухія залпы, заціх.

Мікульскі і Анюта некаторы час не гаварылі ні слова, былі яшчэ нібы ў здранцвенні.

— Ну — дзякую, вялікая актрыса! — ажыў Мікульскі.

Анюта ледзьве падняла рукі з лейцамі, здалося, што яны важаць цэлы пуд.

— Ой, вы даруйце мне... Я крычала на вас... І на «ты»...

Падараваны конь круціў галавою, іржаў, паварочваў аглоблі ў бок, куды паскакала група. Вазок быў падцяты, вось-вось перакуліцца.

— Дай мне лейцы... І каня адвярні...— выдыхнуў цяжка Мікульскі.

Анюта ўжо смела ўзяла каня пад цуглі, павярнула куды трэба.

— Сядай хутчэй!

Анюта кінулася ў вазок.

— Н-но! — тузануў моцна лейцы Мікульскі, і конь пусціўся быстраю рыссю.— Гані! Чым хутчэй!

— Дайце мне лейцы... Не вельмі трасе?

— Гані... Пацярплю...

Некаторы час ляцелі моўчкі. Пад шынамі глуха шуршаў мокры пясок, ёкала ў каня селязёнка, ляскацелі калодкі аб восі.

— Глядзіце!.. Ой, вы ж не бачыце... Гнедка паранены кульгае назіркам!

— Доўга не накульгае... Пагана, калі паўжывога кідаюць на волю лёсу...

— Сяляне падбяруць... Вылечаць...

* * *

Сувязны Максім Вайчук глядзеў на Анюту насцярожана — не пазнаваў, хоць яна была ў яго двойчы. Мо прыцемак быў вінаваты, мо яе адзенне: хоць дождж і счарніў яго, нібы наклаў вялізныя цёмныя лапіклы і на хустку, і на плечы, і на спадніцу, яно было святочнае. Кофтачка саступілася ў сузбіны, абляпіла цела. А хутчэй за ўсё не пазнаваў твар яе... Цюкаў і цюкаў сякераю — сек на калодцы ламачча, кідаў на Анюту вычакальныя позіркі: хай падыходзіць, тады ўжо разбярэцца... Дзівілася з яго і Анюта: дождж ідзе, а ён сячэ ламачча. Нашто было выкочваць калодку аж на сярэдзіну двара, накідваць на галаву капюшонам мех? Дровы нарыхтоўваюць у пагоду, а не — пад паветкаю. Вылятаў нейкі глухі стукат і з сянец хаты, і яна зіркала то туды, то на Вайчука. Не дайшла да сувязнога крокі чатыры...

— Не пазнаяце, дзядзька Максім?

— Не... Ой, ці не Ганна гэта?

— Я, дзядзька.

— А дачухна ж мая... Якава ты, на каго стала падобна! А скуль жа ты ў такую пору? Хай бы ж ты прычакала начы...— дзядзька азірнуўся назад, дзе ў канцы агарода стаяла лазня.

— Нічога не пытайце, дзядзька... Ледзь жывая...

Вайчук сekануў па калодцы, каб увагнаць сякеру, але, мабыць, здрыганулася рука, і сякера не ўбілася, а звалілася за калодку. Не стаў убіваць знанава, кінуўся насустрач Анюце, затрос яе рукі, павёў да калодкі.

І яна пакорліва прысела, згорбілася, рукі без сілы ўпалі на калені.

— Не, лепш сюды хадзі! — пацягнуў яе за локаць у дзверы дрывотні, шмаргануў для прыліку рукавом па другой калодцы з убітым з краю клінападобным кавадлачкам-бабкай — кляпаць косы.— Расказвай жа, з чым прыйшла... Вой, зусім здурнеў, стары...— зноў схапіў яе за руку, пацяг ужо ў сенцы.— Гэта ж пераадзецца мо трэба, падсілкавацца чалавеку, а тады ўжо спавядацца...

Анюта каля ганка вызваліла локаць з моцнай дзядзькавай рукі.

— Усё гэта — потым, потым... Я не адна, дзядзька...

— Ну дык і таварыша заві!

— Паранены ў мяне... Учапілася калёсамі на сцежцы — ні ўзад ні ўперад не выеду.

— Дык ты з падводаю? А як жа... А кудэю ж ты ехала? — Ён адразу патупаў за Анютаю з двара.

— Адсюль...— махнула рукою на паўднёвы ўсход.— Нейкая сцежка, а не дарога. А спачатку здалася дарогаю. Ехала-ехала — і заселі. А ў возе цяжкапаранены... На «жалезцы» сёння, мінаю... От з самага ранку і дабіраемся...

— Праўда, праўда... Тут толькі сцяг вядзе напрасткі... Калісь летам ездзілі да балота, да старыцы... Але ўжо гады чатыры як не церабіў сцежкі — зарасла. Па зімніку то і цераз балота перабіраліся. А так мы кружною дарогаю ідзем і адтуль — ву-унека... ззаду пад'язджаем.— Дзядзька павярнуўся назад і павёў рукою, паказваючы недзе за сядзібу.

— Я думала, вас толькі з Лагішына прыкрывае балота-рукаў.

— З двух, з двух бакоў! Як клешчы... Падумаць толькі — прайшла не знай не ведай як... Тут можна і па шыю шчабоўкнуць! — Дзядзька паглядзеў на яе ногі,— не, не вельмі і ў гразі.— Хіба ты знайшла мае кладкі-жэрдкі?

— Знайшла — нюхам... Цэлы дзень боўтаемся то ў балоце, то ў Бобрыку — вопыт ужо ёсць...

Дайшлі да балота, колішняга заліва-старыцы. Дзядзька Максім дастаў з кустоў жэрдку і два кіі, падаў адзін ёй.

— То палезем... А-яй, гэта ж куды заехала!

Дзядзькавы кладкі ляжалі ў шахматным парадку,

і на іх трэба было перабірацца па жэрдцы з дапамогай кія то ўправа, то ўлева...

Перабраліся...

— О, то добры ж у цябе конь... І вазок адмысловы...

— Ну...

Растрэсены ў час скачкі Мікульскі быў, мабыць, без памяці — у тым стане, у якім яна і пакінула яго на возе, спяшаючыся да Вайчука па дапамогу. Цімох Андрэевіч з'ехаў у сярэдзіну вазка, дзе амаль не было сена, і зараз сядзеў, прытуліўшыся спінаю да тае копкі, што была ў задку воза. Пад галаву Анюта намасціла сена вышэй.

Адразу схапілася за пульс — праслухоўваецца, пачасціўся толькі рытм, напаўненне слабае.

Пакуль выбавіліся і завярнуліся, выехалі на кружную дарогу, што ішла наўкола возера, пакуль дабрылі да двара з тылу, прайшло яшчэ мінут дваццаць. Мікульскі, патрывожаны, слаба, не расціпаючы зубоў, стагнаў. Вайчук, пакуль ехалі, ішоў побач з возам, узіраўся ў Мікульскага і толькі ўздыхаў. Заехалі ў двор, і стала зусім цёмна. З сянец усё гэтак жа чуваць былі рытмічныя глухія ўдары — гух! гух! гух!

І тут дзядзька зашаптаў:

— А мо рызыкнуць, мо ў хату яго? Усё роўна ж цёмна ўжо... Як той казаў: спазніўся, то не спяшай...

— Не трэба. Некалі нам...

— То мо ў лазню прыхаваць да заўтрага? Там у мяне схрон, там трое вашых параненых.

— Хто? Не памятаеце прозвішчаў, не называлі?

— Не... Там можна было б, я ж кажу, і чацвёртага ўмесціць... А заўтра абяцаліся забраць іх...

— Не, дзядзька Максім... Буду вас прасіць — памагчы як даставіць яго ў атрад сёння ж. Зараз жа! У яго асколак каля самага мозгу — на дне вачніцы. Вока выцекла...

— А бож-жа мой... Гэта ж трэба, а!

— Мы карнікам з зондэр-каманды былі папаліся — цудам вырваліся. Адзін дакумент памог, і каня нават добрага далі... А дакуменцік гэты і вазок з канём... Таго выпраглі каня — падстрэлілі немцы... Дык і дакумент, і вазок у старшыні валасці Курмяля рэквізавалі... Доўга пра ўсё расказваць, калі-небудзь пасля вайны, як будзем жыць, раскажу. Вазок прыкметны, яго апазнаць могуць, вы яго прыхавайце... І гэта... Тут, пры

боку ў параненага, кулямёт ручны пад сенам... Запраторце куды, спатрэбіцца...

— Ай-яй...— у голасе Вайчука чулася ўжо разгубленасць. Столькі звалілася на яго сёння! Спачатку тыя, трое параненых, потым гэты, відаць, важны чалавек, потым яшчэ вазок і кулямёт... А для таго, каб знішчылі сям'ю, спалілі хутар, дастаткова чаго-небудзь аднаго.— Ай-яй-яй... Ты паслухай мяне, дачухна... Трэба ўсё-такі яго пакарміць, вараным, цёплым... І сама перахопіш крыху. Баба мая павінна ўжо кулеш зварыць, усіх карміць пара... Я ж кажу: мінута туды, мінута сюды... А сілы многа прыбавіцца.

Раптам падаў голас Мікульскі:

— Хто тут? Вацлава, дзе ты?..

— Ціха, ціха, я тут...

— А хто яшчэ тут? З зондэр-каманды? Скажы ім, што я дараваў увесь доўг... Чаго яны яшчэ хочуць?

— Няма ўжо карнікаў даўно... Мы ў дзядзькі Вайчука, у сувязнога. Як вы сябе адчуваеце? Мо ўстанеце? Дзядзька Максім павячэраць прапануе, а тады ўжо...

— Дай руку, дзе ты... Максім Данілавіч разумна гаворыць. Так вас па бацьку?

— Ага...

— А пяршак у вас ёсць?

— Ну... Не пяршак, але кроплю знойдзем.

— То чаго ж спрачацца? Вядзі, Анюта...

— От жа вясёлы чалавек, ха-ха... Чакайце, і я памагу!

— Не трэба, Максім Данілавіч... Мне з дзяўчынай пад руку больш прыемна.

— То заходзьце... Я зараз!

Дзядзька цёмным ценем махнуўся да воза, пачаў намацваць кулямёт. Адразу пабег з ім недзе ў дрывотню.

Адчыніла Анюта сенцы...

Высока ў шчыліну сцяны ўторкнута лучына. Гарыць цьмяна, сіпіць, цягнецца з яе аж пад дошкі вышак сіні струменьчык куродыму. На нечым высока стаіць дзяўчынка гадоў трынаццаці, схілілася да лучыны з падранай кніжкай. Адною нагою яна націскае на канец вузкай дошкі, другі канец падымаецца і тэпае, б'е прымацаваным тоўстым і кароткім таўкачом у яму ў калодзе. Нажная, мабыць, ступа... Анюта чула,

што ёсць такія, а вось разгледзець добра няма калі...

— Не сляпіся, чытачка! Ідзі сюды, пастаіш, паслухаеш, пакуль мы...— заглянуў у сенцы і гаспадар. Голас яго быў ужо не такі, як раней, а цвёрды і ўладарны, нібы падмянілі чалавека.

Дзяўчынка перастала грукаць, прыўзняла адну дошку на вышках, сунула ў шчыліну кнігу. Саскочыла на дол і моўчкі шмыгнула з сянец. Адчувалася, што не першы раз яна выконвае такія даручэнні, ведае, чаго ад яе хочуць.

У хаце было душна, кіславата пахла рошчынай.

Спыніліся ў парозе. Праходзіць далей замінала лапата, што саджаць хлеб: шырокім канцом яна ляжала на прыпечку, тронак — на кухоннай шафаўцы пры акне. Гаспадыня, цётка Хрысця, закасаўшы вышэй локця рукавы, мясіла цеста на хлеб. Дзяжа стаяла пры печы, але крыху збоку, на заслоне. Са смачным чвяканнем кулакі вырываліся з цеста, зноў гнялі яго, мялі, варочалі, прадушвалі да дна, пагружаючыся ў падатлівую і тугую масу.

— Што ж ты... Яшчэ месіш, а ўжо загарадзілася...— сказаў дзядзька Максім, абышоў Анюту з Мікульскім і падняў тронак, як шлагбаум.— Праходзьце далей. Во сюды, на лаву...

Анюта падвяла Мікульскага да лавы, прыселі.

Гаспадыня толькі адказала на прывітанне — «Драстуйця!», а на гаспадарову заўвагу не сказала ні слова. Нейкае ледзь улоўнае напружанне адчувалася ў іх адносінах.

— Як у цябе там — гатова? Людзі здарожыліся, і зноў трэба ў дарогу... Паранены цяжка...

— Зварылася, зварылася... Ото-то, пяць мінутак,— пакідаю толькі хлеб у печ.

Дзядзька Максім не праходзіў, таптаўся ў парозе. Зазірнуў у печ.

— У-у, як ведзьма... Нажарыла!

— Выхвашчы трохі, а то прыгарыць скарынка. Не думала, што так выйдзе, спаліла дзве бярэмкі. А трэба было менш, печ яшчэ ад ранішняга не выстыла...

Гаспадар выйшаў у сенцы і тут жа вярнуўся з венікам на доўгім кіі. Памачыў венік у цэбар і некалькі разоў хвастануў мокрым па раскаленым да белізны паднябенні печы. Зашыпела, павaліла з пелюсцяў пара, запахла разагрэтым бярозавым лісцем, як у лазні.

Зрабіўшы такую невялікую работу, дзядзька выйшаў з хаты.

— Падавай яму ўсё ў той жа секунд...— нібы паскардзілася гасцям цётка Хрысціна.— Гарачка! Гэта ж не зацірку зварыць... Хлеб — ого! Часам усё робіш як трэба, а не ўдасца, сядзе...

Зірнула ўважліва на Мікульскага, гаротліва паківала галавою, хацела яшчэ нешта сказаць і не адважылася. А мо хацела больш наскардзіцца Анюце — лічыла яе амаль сваёй.

Памыўшы рукі ў місцы з белаватаю, нібы забеленай малаком вадою, яна тут жа чарпнула ў каўшы лыжкаю мукі, нацерусіла на лапату. Зноў абмачыла рукі, ухапіла з дзяжы вялізны, ледзь не з галаву, камяк цеста, перакінула з рукі на руку, прыгладжваючы, афармляючы навісу, каб злёпак быў гладчэйшы, паклала на лапату, крыху прыпляскала, закругліла берагі, парабіла пальцам на акрайцах паскі-жалабкі — знізу ўгору. Хутка і спрытна, з любасцю, ажно прыгожа было глядзець на яе, рабіла ўсё цётка Хрысціна. Схапіла лапату — шугець у самы дальшы кут печы. Зноў прымайстравала тронак на шафаўку, пацерусіла па лапаце больш мукі, зноў памачыла рукі, выхапіла з дзяжы, адарвала другі камяк пухкага цеста...

— Вы яшчэ не паснулі? Скора ўжо, скора...

— Не...— азваўся Мікульскі.— Вы мясіце, мясіце... Я слухаю, чмыхаю носам і дом успамінаю, маму... Нават уяўляю, што гэта яна хлеб пячэ... І от скора ўшчыпне крыху цеста, закатае ў яго цытвару, прымусіць пракаўтнуць... Ад рабакоў так лячыла, малога, вельмі не хацелася есці тое цеста... А от зараз успамінаю ўсё, і на сэрцы цяплее...

— А ці жывая ж хоць яна, матка ваша?

— Не ведаю. Тры гады на вайне...

— А самі ж здалёк? Гаворыце па-наськаму.

— Слуцак — чулі? Са Слуцкага раёна...

— Гэта ж можна было хлеб і раніцаю замясіць, удзень выпечы...— павяла гаворку Хрысціна.— Але хіба ўгадаеш, калі яны прыйдуць? Мо ото, скора, мо пад раніцу, мо ўдзень насмеляцца... То лепш хай будзе гатовы. Астыне — паскідаю ў мех, прыгатую...

— Пра каго вы, цётка Хрысціна? — уздыхнула, нібы прачнуўшыся, Анюта.

— Пра каго ж... Пра вашых! Параненых абяцалі

прыйсці забраць... Дык мы надумалі яшчэ і хлеба нарабіць... Заглянула я ў кадаўбец, а там мукі ўсяго як скрашчыніць... Рашчыніла, хапаю, мялю ў жорнах скоранька, а рукі млеюць, слёзы — не суняць...— гаспадыня і зараз горка ўсхліпнула, а з вачэй выкаціліся і ўпалі ў дзяжу буйныя слязіны.— Там забітыя на дварэ, параненыя, а я кручу гэтыя жорны, плачу і кручу... Цішком хавалі іх, паплакаць не было каму над імі...

Зашчымелі вочы і ў Анюты, казытнула шчаку сляза.

«Хлеб і слёзы... Хлеб, замешаны на слязах... Ці ўведаюць калі партызаны пра гэта? Які хлеб ядуць...»

— Але ж, кажуць, паміраць збіраешся, а жыта сей. Так і я... Валька трохі памагла, накруцілі з горам папалам. А дачка яшчэ і пшана натаўкла, насыплю вам у торбачку... Зварыце там кашу сабе...

«Як матка ў Мінск мяне збірае...» — падумаў Мікульскі.

Анюта ж слухала цётку, не асмельваючыся папытаць, удакладніць адно: ці быў сярод забітых Васіль? Ці прынеслі яго сюды? І дзе падзелі забітых, калі нават параненых пакінулі, не змаглі несці далей? Мусіць, не было каму несці...

І не ўтрывала:

— Цётка... А гэта... Васіль быў сярод забітых? Называлі такога?

Мікульскі адразу сціснуў яе за локаць, нібы прытрымліваў, не пускаў кідацца ў бездань пачуццяў — як з гары, на злом галавы.

— Быў, дзетка, быў... Называлі такога... Прозвішча толькі не ўпамятавала, такі харашэнны хлопец...— гаварыла цётка і выцірала вочы, прыгінаючы твар да аднаго прадплечча, да другога.— Троечка іх ляжала радочкам... Такія маладзенькія!.. Чацвёртага не адкрывалі, у палатку быў увязаны, як клунак. Ніводзін, мабыць, яшчэ не жанаты... Без трун і хавалі, пад вербамі, у адной магіле... Пазакручвалі ў старыя посцілкі з галавою, каб на твар зямля не падала... Не было з чаго дамавін рабіць, і часу не мелі... Баяліся, каб хто не наскочыў... Урэмянна пахавалі, нават капца не насыпалі ўгору, лішнюю зямлю ў балота занеслі... У старога недзе на бумажцы ўсе перапісаныя... Нават дзецям, Ядзі і Валі, наказ даў, каб запомнілі, хто яны і адкуль.

Мо самі не зносім галавы, то хай хоць дзеці помняць, мо ўцалеюць, дык людзям скажуць.

Анюта ўжо рыдала, не магла суняцца. Мікульскі туліў яе плячом да сябе, пагладжваў, абняўшы, другое плячо: «Ну-ну... Ну-ну...» Але і самому было невыносна і душна-балюча — ад фізічных пакут, ад душэўных...

— Нам, жанкам, суджана плакаць...— цётка Хрысця ўкінула апошні бохан і няшчыльна прычыніла печ. Ухапіла дзяжу з пакінутым на дне камячком цеста для закваскі, панесла ў сенцы. За другім заходам вынесла лапату і коўш з мукою.— Во... А цяпер сядайце бліжэй да стала...— змахнула фартухом з заслона нацярушаную паўкругам муку, прыставіла яго да стала з другога боку. Хуценька прынесла драўляныя лыжкі і глiняную, бурую ад старасці, аплеценую дротам, каб не рассыпалася, місу. З загнета — вялізазны, такі ж аплецены дротам, чорны гаршчок, наліла ў місу, не шкадуючы, густаватага, заскваранага куляшу.

— Вас мо карміць трэба? Не бачыце...— сказала Мікульскаму.

— Не! Пацэлю яшчэ ў рот.

— То я вам асобна налью, каб бліжэй было.

Мікульскі ўжо сядзеў за сталом, а Анюта нават не скранулася.

— А дзе іх магіла? — спытала ціха, як сама ў сябе, і ўстала.

— Муж там яе... Васіль Шыпняк...— сказаў Мікульскі.

Цётка завойкала, запрыказвала:

— О божухна, чаму не адсохне да не адваліцца мой язык... Лішняга намянташыла... Хадзем, дзетка, пакажу... Хадзем... Усядно, я бачу, не ўваб'еш лыжкі ў рот.

Цётка павяла Анюту. Мікульскі сядзеў за сталом праменька, трымаючы аберуч драўляную міску-коўш, і чуў, што цяпло ад варыва адчуваецца нават праз дзерава. Ён, пакінуты за сталом адзін, не еў, нібы забыў, чаго і сеў за стол.

— Што ж вы ў цемнаце...— зайшоў Максім Вайчук і замоўк, мо збянтэжыўся: госцю ўсё роўна — ёсць святло ці няма.— Патухла лучына... Недзе яшчэ за комінам ёсць...

Чутно было Мікульскаму, як Максім Данілавіч асцярожна штосьці ставіць на стол, як выгрэбае чапялою з ямкі жар, раздзьмухвае, потым уторквае недзе лучыну.

Сеў насупраць Мікульскага, пасядзеў.

— Дзе ж яна... От так заўсёды — за сто работ адразу хапаецца...— бурчыць незадаволена дзядзька.

— Руплівая яна ў вас, цягавітая...— азваўся і Мікульскі.

— Ну, то хай... Пазней яна...— дзядзька булькае гарэлкай, чуваць сівушны, прыгарэлы пах.— Во... Пускаю да вас чарку: будзьце здаровы, папраўляйцеся...

Дзядзька выпіў паціху — не крэкнуў, не закашляўся, укінуў штосьці ў рот і забулькаў зноў.— Во, бярыце... І сала на сподачку...— прысунуў бліжэй да яго шклянку і сала, дакрануўшыся да рукі.— Дождж перастаў... Добра, што хоць зверху не будзе ліцца... Вельмі ж нядобра ў лесе ў дождж... З усіх бакоў льецца на цябе.

— Нам ужо не страшна... І так мокрыя.

Выпіў і Мікульскі, намацаў скрылёк сала, кавалак хлеба.

Гаворка ў іх не клеілася, нібы абодва прыслухоўваліся: а што робіцца ў іх усярэдзіне ад выпітай смярдзючай гаркаты? А ці не чуваць чаго з двара, дзе стаіць на варце дзяўчынка, дзе ходзяць цётка Хрысця і Анюта? Мікульскаму дзядзькава самагонка здалася слабаю. А хацелася якога спірту, каб аглушыла, затуманіла галаву, як наркозам...

«Дзе і што робіць Анюта? Хоць бы прывяла яе цётка Хрысця сюды... А мо самому пайсці да яе?»

Мікульскаму не сядзелася...

— А скажы мне, чалавеча... Я бачу па размовы, не просты ты чалавек, хоць і прыкідваешся простым... Скажы мне, разумны чалавек: ці скора прыйдуць нашы? Ці скора гэтая праклятая вайна скончыцца? Гэта ж ніякія нервы не вытрымаюць, нават жалезныя... Ніякія!..— дзядзька паспешліва ўліў гарэлкі і выпіў сам без ніякага тосту. Зноў наліў.— Пускаю чарку да вас — піце здаровы...— дакрануўся донцам шклянкі да рукі Мікульскага.

— Прыйдуць, дзядзька, нашы... Скора ўжо... А калі вайна скончыцца, можаце і самі сабе адказаць.

— Як гэта?

— А так. Пакуль не стане Гітлер на калені, пакуль не будзем у Берліне, у яго логаве. Без гэтага ні пра які канец вайны ніхто не будзе думаць. Думаю, што і вы на гэтым пагодзіцеся.

— Так! Гэта — так! Калі ён, гад, столькі гора прынёс, такое вынішчэнне нашаму народу зрабіў, то трэба, каб і сам паспытаў такога.

— Сталін так не ўказвае рабіць. Гітлеры прыходзяць і адыходзяць, а народ нямецкі застаецца. От як... А ні вы, ні я, ні трэці-дзесяты з дзецьмі і бабамі ў Германіі ваяваць не будзе...

— Не будзе — факт... Гэта і я, дурны, разумею.

Памаўчалі.

— Максім Данілавіч, каго чатырох у вас пахавалі?

— Я спісак нават склаў, схаваў у адно месца. Не ў хаце, хата можа згарэць яшчэ. Але і на памяць помню: Васіль Ісаевіч Шыпняк, камандзір 3-га ўзвода, з Ровенскай вобласці; з яго ж узвода Хведар Анісімавіч Барбук, радавы партызан, камсамолец, з-пад Лагішына, з нашай мясцовасці; Мікалай Іванавіч Трыпольскі — рускі, з Урала недзе, трохі нейкае начальства, ніхто дакладна не мог сказаць; чацвёрты, кажуць, малады зусім, хлапчук, Галубоўскі Эдзік... Эдуард... Па бацьку не ведаю... Не адкрывалі яго нават...

— Браніслававіч...— Мікульскі сціснуў далонямі галаву.— Мой ардынарац...— ён застагнаў.

— Слухайце... Вам... можа, вады?

Мікульскі пакруціў галавою.

Здагадлівы Вайчук выліў астаткі з бутэлькі ў шклянку, сунуў Мікульскаму ў руку. Цімох Андрэевіч паспешліва выпіў.

— А параненыя... хто-о? — выдыхнуў паветра працягла, закусваць не стаў.

— От чаго не ведаю, таго не ведаю... Не было патрэбы запамінаць.

Ляпнулі дзверы.

— Дзе ты прападаеш? — адразу наваліўся на жонку Вайчук.

— Дзе трэба, там і была... А цябе нешта ўсё дрэнчыць! З Ганнай вунь параненых глядзелі... Яна перавязкі паправіла ім. І зноў пайду ў схрон, карміць трэба людзей. І самой лепш там сядзець. Не дзіцячая гэта

справа... Дзяўчо, а там усе мужчыны... Ім жа то тое трэба, то гэта — падаць, прыбраць... І выражаюцца яны... Я ведаю, што не знарок — боль гэта ў іх гаворыць. Але ж вушы не заткнеш, а ім не забароніш.

— Дык у вас дзве дачкі...— сказаў Мікульскі.

— Дзве: Валя і Ядзя.

— З параненымі большая — Ядзя. Пятнаццаць ёй...— удакладніў Вайчук.

— І сынок быў — першанькі. У трыццаць шостым утапіўся. Кінуўся другога ратаваць, а той учапіўся ў яго — і разам... Дасталі потым двух — так, схапіўшыся адзін за аднаго, і былі...— цётка Хрысціна выцерла фартухом вочы.

— Ладна, баба... Годзе — кажу! Дагледзь людзей, ды трэба збірацца. Верхам пасадзім чалавека, павязём... Будзеце з Ганнай страхоўку з бакоў рабіць...

— Хай бы ж ты сам правёў людзей, а я параненых глядзела б!

— Ядзя паглядзіць. Нічога з ёю не станецца... А я ўперадзе пайду, бо можна і заблудзіць. Скажаш Ядзі, хай светлякоў наловіць у бутэльку... Будзеце ісці назіркам, як за ліхтаром...

Мікульскі хацеў спытаць, а дзе ж Анюта, і не спытаў. Ён разумеў, што яна там, пад вербамі, з Васілём.

Нібы адказваючы на яго думкі, дзядзька Вайчук сказаў ціха:

— У харошым месцы іх пахавалі. Зелена, птушак многа звініць за пагодаю... А ў адной вярбе слепат — дзікія пчолы...

* * *

Анюта як дайшла да таго месца пад вербамі, дзе паказала магілу цётка Хрысціна, то адразу ўпала на сыры дол. І праўда, не пазнаць нічога, ніякага горбіка зямлі, хоць яна абмацала тое месца рукамі — кожны дзярончык-квадрат, кожную шчылінку-паз паміж імі.

Зеленаватым фасфарычным святлом загарэўся перад ёю, мо за які метр усяго, светлячок. Мусіць, там, пад вярбою, у якой дупло з пчоламі. Лявей і далей, але таксама ўперадзе, дзе канчаўся пагорак-выспа і пачынаўся спад да старыцы-балота, свяціліся яшчэ два — нібы кашачыя вочы. Ціха было наўкол, толькі недзе

далёка, мо ў разбураных Гацішчах, выў сабака, клікаў бяду.

Анюта сядзела нерухома, зусім не чуючы ні халоднай макрэчы пад нагамі, ні таго, як бязгучна, казытліва паўзуць па шчоках слёзы, капаюць цёпла на застыглыя ў вечаровай свежасці рукі. Ціхі, густы пошум, як стрыманыя ўздыхі, далятаў з лесу — то справа, то злева, быццам і дрэвы ахапіла журба, быццам і яны памагаюць ёй гараваць гора. І не могуць стрымацца, падаюць голас, а яна, Анюта, нават гэтага не можа тут дазволіць сабе — паплакаць уголас. І за сябе, і за тых матак, жонак і сясцёр ці каханых, якія яшчэ чакаюць з вайны гэтых хлопцаў і мужчын, што ляжаць разам у адной магіле. Брацкай магіле... Браты па зброі, па жыцці, па змаганні... Браты і па смерці...

Паволі хістаюцца над ёю і Васілём, шумяць стромкія сосны. Вяршаліны іх недзе высока-высока ў небе, гайдаюцца і плывуць насустрач воблакам. А тут, унізе, на зялёным, у сонечных плямах, моху ветру ніяк няма. Ён дзесьці там, у шатах, і яшчэ вышэй. Паволі хіліць вецер, учапіўшыся за чубы, сосны то ўправа, то ўлева, то па крузе, і ўніз прарываюцца, слепяць і яе, і Васіля сонечныя промні...

— Вой, у мяне галава кружыцца... Нібы сосны на нас валяцца. Або здаецца, што сама ўпаду — во-о туды, у бездань... У сінюю бездань...— шэпча яна, гледзячы ў неба.

— І ў мяне... Кружыцца... Цэ — від шчасця...

Васіль горне яе да сябе леваю рукою. А правая занята, на правай ляжыць яна, Анюта. Васіль пяшчотна і ўдзячна, ледзь кранаючы губамі, цалуе яе ў вочы, у куточкі вуснаў, прытуляецца вачыма да яе шчакі, казыча вейкамі.

— Ад вышыні ў мяне заўсёды кружыцца галава... І страшна... Баюся я вышыні... Баюся ўпасці... От бывае ў лужу пагляджу, а там неба адбіваецца, воблачкі... І здаецца лужа глыбокая, глыбокая — як мора... І ўсё — ужо водзіць мяне ў бакі...

— За мэнэ дэржысь міцнішэ — нэ впадэш...

— Няўжо калі-небудзь я ўпаду — з вышыні? Аж сэрца халадзее.

— Не бійся... Ты — зі мною...— зноў пачаў ён гара-

ча цалаваць ае.— Ты заўжды будэш зі мною... I нэ пропадэш...

— Страшна... Як не ў пару ў нас усё гэта! Вайна скрозь... Кроў, слёзы, пакуты... А мы...

— А мы чужога нэ крадэмо... Мы цількы свое бэрэмо... I цёго ў нас ніхто і ніщто нэ можа відняты. Воно з намы... До кінця...

— Ой, Васілька...

— Мовчы, мовчы...

Ён цалаваў усё гарачэй, абдымаў усё мацней.

Над імі шумелі хвоі...

Потым яны зноў сцішана глядзелі ў неба. Васіль разлёгся на самым краечку плашч-палаткі, нават крыху прымяўшы мох. Раскінуў рукі, прыплюшчыў вочы... На вуснах блукала, як ледзь прыкметны сонечны зайчык, стомленая ўсмешка. Анюта павярнулася на бок, да яго тварам, падагнула крыху калені. Шырокая, моцная ў Васіля правая рука, далонь не пакалечаная, як левая...

I яна ўклала ў яе два кулачкі, як у гняздо. Васіль усміхнуўся, крыху мацней сціснуў пальцы. А вачэй не расплюшчыў...

Анюта прыўзнялася на локці, каб лепш бачыць яго твар.

— Умг? — спытаў ён, і куточкі губ уздрыгнулі.

— Нічога, нічога... Ты ляжы... Паспі хоць трохі... А я на цябе буду глядзець... Буду вартаваць твой сон.

— На тым свіці адаспімся...

Памаўчалі.

Доўгія, аксамітныя вейі Васіля ўздрыгнулі, крыху расплюшчыліся.

— Ну і шчо? Нэ впізнала?

Анюта прытулілася тварам да яго рукі, легла ніцма. Усхліпнула ад любасці, ад замілавання.

— Эх ты... Яке зворушэння...— павярнуўся ён да яе, зноў абняў.— А знаеш, шчэ мэні ўчора Шымшалевіч з гаспадарчого лагера казав?

— Не-э...

— На вашэ вэсілля, кажа, я такіх ковбас нароблю! Ковтаты будэтэ нэ жуючы.

— Няўжо — каўбас?

— Ага. Штукар, на всі рукы мыстэць.

— Што яны ўсе пра вяселле... Як згаварыліся ўсядно. Мы ж і так ужо жанатыя.

— Змовылыся, а як жэ! Усур'ёз!.. І командыр, і комысар — Тымохвій Андрыйёвіч.

— Даведаюцца ў брыгадзе... Ці ў злучэнні, сам Камароў... Будзе тады нам вяселле.

— Комаров — людына шчо трэба... Ось цількі сходымо на завдання ў цю ніч — і вэсілля... Вжэ, кажуць, і самагон е.

— А куды на заданне? Ніхто нічога не гаворыць.

— На залызныцю. А куды конкрытно — скажуць, як трэба будэ.

— Ніколі па столькі не адпраўляліся на «жалезку».

— Ніколы, цэ правда... Ты сама паспі. Усі сплять, кому сказано готуватыся.

— Не магу я па загаду спаць.

— Значыць, ты шчэ ніякі нэ партызан.

— Там мо шукаюць нас, у лагеры... А мы...

— А мы — вцікачы... Дэзэртыры...

— Ой, што ты пляцеш! За гэта — ведаеш што?

— Знаю... Я сказав вартавому по лагеру: да семнаццаці нэ шукаты. Самы прыйдэм...

— Ой, Васілька... За што на нас такое шчасце звалілася? Можа, мы і нявартьі яго.

— Варты, варты...

— А я не паеду з табою на тваю Случ... Там жа таксама Палессе, толькі па другі бок Прыпяці... Балота, камары... У мяне ўжо крыві не асталося — усю камары высмакталі.

— У нас менш балот. А куды б ты хацела іхаты?

— Паедзем са мною ў Гомель... Бацька мой там машыністам быў на чыгунцы... І ты на чыгунку паступіш... У горадзе будзем жыць...

— Ні-і...

— Што — не?

— Погадаемо: візьмэм карту, очы закрыемо і... Куды палэць попадэ. Союз вэлыкый... А знаеш, кількы трэба будэ будаваты після війны?

— Не кажы-ы...

— Ось бы на яку вэлыку будзівлю! Я ж можу нэ цількі танком чы трактором керуваты. Мэні — любую тэхніку подавай!

— І самалёт?!

— А шчо! Трохы підвучывся б — і на літаку літав бы...

— Я не ведала, што ты — хвалько.

— Тобі обов'язково трэба побуты трохы ў мого бацька, у нэнькі... У мэнэ дужэ гарна мамо... У-у, слів нэ мае, шчоб опысаты...

— Вочы ў цябе — маміны? — Анюта прыгладзіла яму пальчыкам бровы, паспрабавала правесці па кончыках вей. Васіль крутнуў, вывёртваючыся, галавою.

— Лоскіту боюся... О-о, у мамы кращчы!

— Хто ў маму ўдаўся — шчаслівы будзе.

— Ты побудэш у моіх бацьків, а мы сходымо за Буг, а там і війна кінчыцця...

— Куды-куды?! За які Буг?

— Рэйд за Буг, у Польшчу. Братам нашым поміч трэба. Я добровільно запысався... Упросыв командыра, бо нэ всіх бралы... У мэнэ шчэ рахунак з німцямы...

— Я ж помню: пайшла ўжо частка партызан за Буг! У сакавіку ці красавіку...

— І тэпэр... Ды ты нэ лякайся — цількі рэйд зробымо пэрэд фронтам, по німэцькому тылу — і всэ.

Анюта ўжо не слухала яго — плакала. Як ні ўгаворваў яе Васіль, як ні папікаў за бабскую слязлівасць. А што слязлівая яна стала, дык і сама пачала заўважаць. Нервы вінаваты, нервы... Ёй і Адам Палуян казаў пра нервы... Зусім нікчэмныя ў яе нервы сталі за вайну.

— Каб знав, шчо ты так відрэагуеш, то і нэ казав бы. Поставыв бы пэрэд фактом — і всэ.

Васіль спачатку адвярнуўся ад яе. Але, мабыць, палічыў, што занадта гэта груба, і сеў. Пачаў гарнуць папяросу, рассыпаючы тытунь.

— Зайздру запорыжцям... Воны баб до сэбэ нэ підпускалы... Ну як, скажы ты, йты в бій, колы після ціх бабських сліз робышся, як онуча? А трэба буты як залізо, а рухавым і абачлывым — як кіт. Відкіля бы ні падав, а трэба змогты на ногі прызэмлытыся.

— Добра, Васілька... Хай будзе, як ты хочаш... Паеду, як прыйдуць нашы, да тваіх бацькоў... Буду чакаць цябе... Толькі ты вяртайся, чуеш? Васілька, ты ж будзеш сябе берагчы, праўда? Ты ж ведацьмеш, што цябе чакае бацька з маткаю, я чакаю... І пасцеражэшся, добра?

— Добра, добра... І ты будзь обэрэжлівійша... Нам яшчэ трэба довга жыты...

Гэта было якраз перад паходам на чыгунку, на той участак Ломча — Парахноўск. Пракляты ўчастак...

Хтосьці ўзяў Анюту за плячо. Але яна не адразу зрэагавала, не адразу ўздрыгнула.

— Ну, хопіць жа, хопіць... Уставай, дзеўка, кажу! — цётка Хрысціна ўжо добра сцепала яе.— Кулеш даўно прастыў... Укусіш трохі чаго, ды трэба выбірацца... Колькі тае ночы цяпер, перад Купалам... А не блізкі свет, мусіць...

Хрысціна вяла яе пад руку, нібы не давярала яе сіле і трываласці. Гаворка яе журчала, нібы дзесь непадалёку крыніца, якой няма ўгамону, няма стомы і супынку. Вечная крыніца...

— Божа, так зямля агалілася... Столькі людзей харошых з'ела вайна. Многа нам цяпер трэба будзе людзей нарадзіць. І за тых, што з вайны не вернуцца. Бо здзічэе без людзей зямля... Нядобра, што ў цябе дзіцятка няма ад яго. Дарма што вайна. Вайна вайною, а людзям нараджацца трэба, бо так і ваяваць не будзе каму.

— Будзе нешта...— неяк само вырвалася ў Анюты. Яна выцерла далонямі шчокі, не хацела, каб дзядзька Максім убачыў яе заплаканаю.

— Эй?! — ажно спынілася Хрысціна.— А мая ж ты сястрыца... Дай я цябе пацалую! — яна цмокнула яе ў адну шчаку, у другую.— Цяпер табе і гора будзе лягчэй адужаць. От пабачыш!

І ўжо як ступілі ў сенцы, у поўную цемру, цётка Хрысціна нечакана павярнулася да Анюты — ажно чуваць было на твары яе гарачае дыханне-шэпт.

— Мо ацалеем, прагоняць скора немца, то і я свайго паддуру... Дальбог!.. Бо што гэта за сям'я — двое дзяцей? Сына нам трэба... Думаеш, я не бачу, як Максім нудзіцца? Знерваўся зусім... Тут добра, а тут і ўспыхвае, як маланка... Я стараюся ўсё яму ў масць гаварыць, але ж чорт яго вытрывае, каб роўненька нітку весці... Я ж не каменная тожа...

— А колькі ж вам гадоў, цётка?

— Хочаш сказаць: а ці не старая ты качарга, каб пра такое думаць?

— Ой, ну што вы...

— Старая, а што ж паробіш. За сорак перавяліла... Але ж адно дзіця яшчэ прывяду. Мая свякруха ў пяцьдзесят аграшылася... Дзяцей пажанілі, замуж паааддавалі... Унукі старэйшыя ўжо за тую дачку, а от жа...

нарадзілася, дык што? Не нацешацца цяпер на тую дачушку, не нагледзяцца.

Рэзка расчыніліся дзверы хаты. Святло рванулася ў сенцы шырокай палосай. У дзвярах вырас Максім Вайчук. Крыху ўгнуўся ўперад, да правай рукі, што прытрымлівае адкінутыя дзверы, узіраецца. З-пад яго выцягнутай рукі было відаць, як спалохана скалыхнулася ў хаце полымя лучыны, хістаецца, не можа заспакоіцца.

— А-а, вы гэта... Доўга ходзіце!

— Мы, мы... Спакою табе няма.

— Ісці пара!

— А мы гатовы... Каня лепш паглядзі: мо так і стаіць галодны.— Цётка адкінула яго руку з клямкі, зайшла ў хату.

— Конь табе ў галаве... Аседланы даўно! Чалавеку вунь нядобра...

— А божухна...— пасняшыла Хрысціна да Мікульскага.— Мо на ложак давайце яго пакладзём?

— Гаварылі, гаварылі — і раптам раз! Як пад зямлю праваліўся...

— Не чапайце яго, цётка! — спыніла Хрысціну Анюта.— Адпусціць, пачакаем крыху. Было так — не раз...

Мікульскі сядзеў не за сталом, а крыху збоку ўжо. На самым краечку лавы — плечы і галава прыхінуты да сцяны. Рукі абапал упіраюцца ў лаву, пальцы шырока растапыраны, костачкі на іх збялелыя.

Прыселі ў одуме, дзе хто, застылі. У гэтай здранцвеласці была і напружанасць нецярплівага чакання, і спачуванне чужому болю. Анюце на момант здалося, што яна чуе ў хаце нейкі гул, нібы далёкі рокат мора ці гоман вялікага натоўпу, як на кірмашы. І нібы гэты гул ідзе з галоў прысутных тут людзей, з яе ўласнай, і гэты гул пранізваюць, як успышкі маланкі, асобныя выкрыкі-лямант, галашэнне. Яна нібы чула людскія думкі, гул цэлых раёў людскіх думак...

Потым гэта нешта, што было найшло на яе, адступіла, нібы адпусціла... І тады яна пачула, што ёй вельмі душна, што лоб пакрыты кроплямі поту, ліпне да цела адзенне...

Калі зноў ачнулася, другі раз, раптам убачыла каля сябе блізенька цётку Хрысціну.

— Каўтані кроплю... Каўтані... О, мой божа...— га-

варыла Максіміха і совала ёй у губы беражок конаўкі.— Не сядзі, Максім! І яму дай вады... О бож-жа, калі ўсё гэта скончыцца?!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Парная, удушлівая ноч стаяла над Палессем. І ў гэтай начы адной з глухіх лясных сцяжынак прабіралася да Ліпнішак дзіўная група людзей. Уперадзе, крокаў за чатыры ад асноўнай групы, ішоў мужчына ў брызентавым балахоне. Каб не цьмяны зеленаваты агеньчык, што матляўся за яго спінаю з боку ў бок, постаць яго лёгка было б згубіць у першабытнай цемрадзі. Зоркі, што сям-там праглядвалі на небе, мільгалі ў шатах дрэў, ніяк не маглі рассеяць гэтую цемру. За чалавекам-правадніком ступаў сцяжынаю конь з дзіўным коннікам у сядле. Ледзь прыкметна бялела ў якім метры над сядлом, там, дзе павінна быць галава конніка, белая пляма. Галаву і крыху твар конніка прыкрывала ссунутая на вочы і добра прывязаная, каб не зляцела, вялізная нямецкая каска. Але яе нельга было ўбачыць, яе можна было пачуць, калі часам галінка біла, хвастала па касцы — і ў лесе тут жа губляўся брынклівы, глухі звон.

Абапал каня, трымаючы адна леваю, а другая праваю рукою за павадок, а той рукою, што была бліжэй да гарачага боку каня, прытрымліваючы конніка, крочылі дзве жанчыны. Ім было горай за ўсё: ступалі наманы, спатыкаліся ў галінах, хлістала па тварах вецце. Хоць і стараліся трымаць локці тых рук, што ўчапеліся за повад, на ўзроўні вачэй, а ўберагчыся не маглі. Некалькі разоў наступаў конь заднімі нагамі ім то на пальцы, то на пяткі, і жанчыны ўжо кульгалі.

Хто злічыць, колькі ў гэтую ноч на акупіраванай Беларусі не спала людзей? Колькі такіх вось зялёных агеньчыкаў мільгала на яе лясных сцежках і дарогах? Прываблівых і трывожных, як пуцяводныя зоркі...

# Частка другая

1

На гэты раз Мікульскі выплываў з небыцця, як з чорнага прадоння правалу, доўга. І сам дзівіўся, што ў некаторыя імгненні цела свайго не чуў. Але чым больш прыходзіў да памяці, тым важчэйшымі былі стома-гул, млявасць у кожным мускуле. Нават у паўпрытомнасці чуў у галаве даўкі і тупы боль. Выплываў, і здавалася, што ніколі не скончыцца гэта выплыванне, бо зноў цягнула яго недзе, гойдала, апускала на нябачных хвалях уніз і тут жа пачынала падымаць зноў... Угору-ўніз, угору-ўніз... Усё — у вельмі замаруджаным тэмпе.

Не мог уцяміць, дзе знаходзіцца: часам чуў нейкія ўздыхі і стогны, чуў нібы спеў, мармытанне скрозь сціснутыя зубы — без слоў. Урэшце гукі выстраіліся ў словы, напоўніліся сэнсам:

Ажаніла мяне куля быстрая.
Абвянчала мяне шабля вострая...

І зноў няма слоў, ёсць працяглы, з перахопамі дыхання, стогн. Голас здаўся знаёмы, але з-за тугі і стрыманай пакуты тэмбр яго набыў чужое адценне.

Ой ты, конік, мой конь варанеңькі!
К айцу, к матцы скачы дзень і ночаньку,
Да сястрыцы, да меншага брацейкі,
Пакланіся, заві на вяселлейка...

Не чуў і слоў такіх Мікульскі, не з такімі словамі гэта песня спявалася. Партызанскі фальклор? Ці сам спявак прыдумаў?

— Лысуха — ты?

Спеў спыніўся. Пачуўся знарочысты храп.

Да Мікульскага пачало даходзіць — дзе ён. У шпітальнай зямлянцы... Успомніўся начны паход з Вайчуком, Анютай і цёткай Хрысцінай. Паход-пераезд... Але да нейкага моманту, бо потым быў чорны правал, нібы Мікульскага не існавала. Мусіць, страціў прытомнасць, седзячы на кані. Зноў ачомаўся быў на кароткі час пры перавязцы, ужо ў шпіталі... І зноў правал...

Абмацаў галаву — новыя бінты... Так, так, усё так, як успамінаецца. Дабраліся-такі яны да лагера!

— Не прыкідвайся, Лысуха. Я ж чую — ты гэта.

— Агы, таварыш камісар...— азваўся, ўздыхнуўшы, разведчык.

— І ты, значыць, тут...

— Тут!

— І што ў цябе?

— Нага... Укараціў Адам пасляераічных намаганняў сантыметраў на пятнаццаць. Цяпер ты, кажа, будзеш самы вясёлы чалавек... Скакаць табе, не пераскакаць да самай смерці... На адной...

— Як жа ж ты... Я ж помню: пагнаў цябе з дарогі яшчэ здаровага... Бачыў нават, як вы ў кусты шаснулі.

— Было дзела, было... Я тады вас таксама здаровага бачыў. Усё цячэ, асабліва кроў... Усё мяняецца — саміх сябе не пазнаём...

Зноў стогн, сонлае мармытанне... Чуваць цяжкае дыханне людзей. Мікульскі чуе пахі — чагосьці едкага і рэзкага, мо эфіру, мо ёду, мо плесні... Не, здаецца, карбіду... І пах закарэлых бінтоў, і тое, што памяшканне не праветранае... І сырасць — вільготнасць паветра можна памацаць ледзь не пальцамі. А думалі ж, калі апускалі гэты зруб у катлаван, што ў ім будзе суха, як у хаце, а не гэтак, як у зямлянцы. І яшчэ ўсвядоміў Мікульскі, што ён ляжыць, хоць ляжаць яму горш цяжка і балюча. Абапёрся на рукі, сеў.

Зноў нейкае невыразнае, не разабраць слоў, мармытанне, хтосьці ўспамінае бога і тут жа... трохпавярховы, сакавіты мацюк!

— Гэта не ты молішся, Лысуха?

— Не... Нас тут сямёра. Трох учора раніцаю даставілі — з хутара Вайчука.

— Раніцаю... А зараз што?

— Раніца... Шыбы сінеюць. Толькі другая... Вы

больш за суткі спалі... ці без памяці былі. А я не магу спаць...

— Расказвай!..

— Што?

— Ну-у... спярша — хто тут.

— Ян Пюрка... Нядзелька. Харашун... Гэта з хутара.

— Лапуставы хлопцы...

— Ага... Я з трэцяга ўзвода — чатыры... Гагік — пяць... Шула...

— Каторы — Шула?

— Самы стары... Ну — і вы.

— А гэты, што «маліўся»... хто?

— Харашун... Плячо ў яго.

— Адзінаццаць, значыць... Чатырох пахавалі...

— Правільная арыфметыка.

— Даўно мы не плацілі такую цану... Расказвай!

— Што, таварыш камісар?

— Усё... Што было пасля таго, як мы бачыліся. Па парадку...

— А што расказваць? Невясёлая гісторыя... Мост праскочылі, нясём Васіля... Апошнія мы... Да зборнага пункта дабраліся. Ну, а там Лапуста і Русаковіч сварацца... ці спрачаюцца, што далей рабіць. Русаковічавы хлопцы яшчэ трох вынеслі. Двух забітых — Эдзіка вашага і Федзьку Барбука... І во, Гагіка... У жывот яго... сляпое... Ну, пачакалі крыху — няма вас. «Хто апошні відзеў — дзе Мікульскі?» — Лапуста за нас бярэцца. Мы на Крата паказваем... А той кантужаны, ці што: мармыча нешта, не разабраць. Тады гэты, з брыгады... як яго...

— Трыпольскі... Для каардынацыі яго штаб прыслаў.

— Можа, і так. Толькі каардынатар з яго... «Дайце,— кажа,— мне чалавек дзесяць і праваднiка. Адскочу назад за мост, пагляджу. А вы можаце ісці, мы вас дагонім!» — на ўзводных гаворыць. Я выйшаў і яшчэ чатырох з Васілёвага ўзвода. А пяць Лапуста выдзеліў. Русаковіч не даў ніводнага... Дайшлі амаль да моста надзеравянага. «Разрашыце разведаць!» — кажу. «Не нада, няма калі... Ды мы ж толькі што ішлі!» — Трыпольскі гаворыць. Сам наперадзе — храбрэц! Спяшыў, мо баяўся, каб ад нашых далёка не адстаць. Ну і выскачылі мы на тракт, пад мост, выставіўшы грудзі... А там

ужо немцы на мосце, і ва ўпор... Трыпольскага першага скасілі — напавал, і гэтага паляка з-пад Пінска — Пюрку... Нядзельку ў руку параніла, Харашуна — у плячо. Я брык у кавець, прыкрываю агнём, каб вынеслі тых,— і мне разрыўною ў ступок... Каб немцы тады кінуліся за намі, то ніхто не вылузаўся б... Цяглі адзін другога, а як — і сам не ведаю... Каб не Крот, то пакінулі б забітых. Адстаў ён ці зблудзіў... Насунуўся на нас — радуецца, як дзіця. Ён нёс мяне ўсю дарогу, пасадзіў на плечы. Харашун амаль да самага хутара сам ішоў, а Нядзелька і несці памагаў...

— Крот з «дзегцяром» быў? Як жа ён валачыў столькі?

— То-та і яно, што — без... З-за гэтага «дзегцяра» ў яго і катавасія. Арыштаваў яго Прымак, у КПЗ замкнулі. «Дзе кулямёт?» — пытаў. «Не ведаю...» — ціскае Іван плячыма. «Кінуў, такую тваю?..» — «Не ведаю...»

— На пункце збору я бачыў яго з кулямётам...— падаў голас стары Шула.— Добра помню: сядзеў пад бярозаю, апіраўся на кулямёт. Вочы заплюшчаныя, і ўсё плюецца... Бы ото-то бляваць будзе...

— Я скандаліў... Кажу Прымаку: ён жа мяне валачыў, не да кулямёта яму было! Што для вас даражэй — аружжа ці чалавек?! А камандзір: «Для нас і то, і то важна! Вайна не скончана». Так ніхто яму і не ўталкаваў... Вы б з ім пагаварылі, а?

— Чорт ведае чаго нарабілася...— Мікульскі цяжка ўздыхнуў, памацаў за спінаю далей. Блізка сцяна, трэшчыны ў бярвеннях, мох у пазах. А столь, помніць, падшыта фанераю, кавалкамі бляхі, каб не сыпалася зямля. Страхі не было, быў толькі спусцісты, у адносталь, накат бярвенняў, дзе канёк — крыху вышэй, былі наверсе зямля і дзярон. А колішнюю столь з пуні — дошкі — пусцілі на нары.

— Дзе тая Рая?.. О-ох...— прастагнаў Харашун.— Спасу няма...

— Іголкі пайшла кіпяціць,— адказаў яму стары Шула.

— Казала на мінутку... А сама...— падаў голас і Нядзелька.— А што табе, мо я падам?

Заскрыпелі дошкі і стаякі нараў. Мусіць, Нядзелька ўстаў. Ён «хадзячы», не раўня астатнім.

— Яму другога захацелася — хіх-х, хіх-х...— пры-

душыў у сабе смех, закашляўся Лысуха.— Алёша, дык як жа ты тут прыстроішся? Народу многа...

Трах! — штосьці драўлянае, мо палка-мыліца, грукнула ў сцяну — там, дзе ляжаў ці сядзеў Лысуха.

— Ты-ы, псіхапат! Харашун-Гарашун! Гэтак можна і галаву раскалоць...— разведчык падняў палку, чутно — кінуў назад.

— А табе даўно пара!

— Цішэй вы, жарабцы! Совесь майце, тут жа камісар...— падаў голас і Шула.

— Добра, што паспеў убок віхнуць, а так бы ў галаў! — не сунімаўся Лысуха.— Гагіку рэкашэтам папала, а ён хоць бы што... Гага, табе не вельмі стукнула? Гагік... ты спіш? — змяніўся раптам голас Лысухі.— Хлопцы... Хлопцы!!! — закрычаў, як вар'ят.— Грыгаран памёр!..

— Што? Цо тут? — ачуняў і падаў голас Ян Пюрка.

Ніхто яму не адказаў.

Нейкі шум, валтузня... Хтосьці саскоквае на дол, мусіць, падыходзіць да Гагіка Грыгарана і глядзіць, знямелы, глядзіць... Пэўна, Нядзелька.

«Пяты...» — зазначае сабе Мікульскі.

— Нядзелька, ты схадзі па Раю, па ўрача...— гаворыць ён ціха.

— Ага... Ага...— зрываецца з месца Нядзелька. Чуваць, як рыпнулі адсырэлыя дзверы.

— Не паможа яму Палуян,— з нейкай злосцю зазначае Лысуха.

— А мо ён жывы ест? Мо пшытомнасць страціў? — сказаў Пюрка.— Я чуў — сон такі ёсць, літургічны. Месяц чалавек можа спаць...

— Летаргічны,— паправіў Мікульскі.

— Мо і так... У нас, бабкі расказвалі, адну дзеўку былі пахавалі. Дык яна ў тую ж ноч саснілася матцы... Быццам жывая крэнціцца ў труне. Ну, паклікала ксяндза, магілу яшчэ раз асвянцілі. Адкапалі... А яна і праўда перавернутая ў труне ўніз тварам. Счарнела ўся, валасы павыдзірала на галаве. Дык матка зразу тронулася...

— Ой, госпадзі... Памёр-такі... І гэтак ціхенька сканаў — ні гуку...— Шула кахыкнуў.— Ні адненькай скаргі. Учора ўсё Палуяна суцяшаў... Ці чулі такое? Не Адам яго, а ён урача. «Мне харашо... Нэ нада лікарст... Вады нада». От табе і «нэ нада». А вады яму

забараніў Палуян даваць. «Мне харашо...» Та-а-а-к, яму цяпер «харашо»...

— Не трэба, дзядзька Даніла.

— Ага... Не трэба... Слухаюся, таварыш камісар... А толькі ж вельмі шкада хлопца. Мы тут дома, можна сказаць. А ён... Дзе тая яго Арменія? Тысячы кіламетраў...

— Не ўсядно, дзе косці парыць... О-ох...— застагнаў, заварушыўся Аляксей Харашун.— Яму ўсядно ўжэ...

— Жывым не ўсядно... Мой сын адзін тут, каля Святой Волі, пагіб... Дык я хоць прыкладна ведаю дзе... Магілу ведаю...

І змоўк стары Шула. І ўсе маўчалі, нават гаварун Лысуха. Каб Мікульскі мог, то бачыў бы, што разведчыку не сядзіцца, ён увесь час нахіляецца да ўкарочанай нагі, адхіляецца назад, мацае бінты на кульці. Урэшце адкідваецца на падушку, набітую сенам. Ніжнюю губу прыкусіў, круціць галавою, шмарує па падушцы — то на адно вуха ляжа, то на другое. А чало ўкрылі буйныя кроплі поту...

Рыпнулі, адчыніліся і доўга не зачыняліся дзверы. Мусіць, заходзіла некалькі чалавек.

— Падапрыце чым, хай праветрыцца...— голас Палуяна.— Добрай раніцы!

І яшчэ нечыя галасы, шэпт мужчыны і жанчыны. Мо Нядзелька і Рая Дышаль? Штосьці металічнае нямоцна бразнула — мо паставіла на табурэтку Рая сваю бляшанку з інструментам?

— Якая ж добрая, Адамка? Так нядобра пачалася...— азваўся да яго Шула.

Стала напружана ціха, толькі чуваць былі стрыманае дыханне параненых і ўздыхі старога Шулы. Мікульскі ўявіў амаль беспамылкова, што зараз робіць Палуян. Адкінуў коўдру з Грыгарана, мацае пульс, заглядвае, прыадкрыўшы пальцамі павекі, у вочы. Што яшчэ робяць у такіх выпадках? Слухаюць сэрца? Падносяць люстэрка да губ? Рая недзе стаіць у парозе, не адважваецца скрануцца з месца. Мо і Нядзелька каля яе, люляе падвязаную руку... Мо яшчэ хто...

— М-да-а-а... Ахаладаў ужо... Пакліч, Нядзелька, больш хлопцаў...— просіць Палуян.

У парозе шоргат, і зноў усё сціхае.

Палуян не падыходзіць спачатку да Мікульскага, а

пачынае з Харашуна. І гэта Цімоху Андрэевічу нават падабаецца. Параненыя, асабліва перад тварам смерці, усе роўныя. Ды што ён можа памагчы яму? Як не мог памагчы і Гагіку Грыгарану, у якога сядзела ў кішках куля. Умовы трэба для аперацыі, інструменты трэба. Дый умець трэба, быць першакласным хірургам.

— Рая, калі гэтаму. І ўсім уколы! Не чакай, не стой...— з нейкім раздражненнем кідае Палуян, і тая пачынае бразгатаць, збіраючы шпрыц, выбіраючы патрэбную іголку.

— Рая, ты яму па старой дружбе самую тоўстую...— раіць Лысуха.— Ён сам казаў: чым таўсцей, тым лепш.

— Добра, Сцёпачка...— адказвае Рая.— Таварыш Харашун, на бачок і здымай штаны.

— «Здымай», «здымай»... А праз штаны нельга?

— Нельга, нельга... Чаго саромеешся? Думаеш, Рая не ведае, якія ў цябе прэлесці? Здзяры, Рая, сама, калі не даецца! — не сунімаецца Лысуха.

Ніхто не рэагуе на яго жарты. Ва ўсіх у галаве смерць Грыгарана.

— А-ё-ячкі!..— якоча Харашун тым часам.

— Рая, ты яго больш не любі... Мяне любі. Не глядзі, што нага ўкарочана — я не падвяду.

— Добра, Сцяпан...— у голасе няма какецтва, сум у голасе.

Тапочуць ногі, у зямлянку заходзяць людзі. «Катарага? Во таго?» — «А як браць — з адзіялам?» — «Кладзіце на насілкі, прыкрыйце... Коўдру вернеце потым!» — голас Палуяна. І раптам нейкі рух, грукат на нарах у тым баку, дзе ляжаў Харашун.

— А-а-а... Не хачу! А-а-а... Такую вашу... Самі накрывайцеся такімі! — закатвае істэрыку Харашун. Гух! — аб штосьці мякка бухае згорнутая коўдра.— Спачатку мерцвякоў накрываюць, а тады нас! Няма для вас розніцы!

— Ціх-х-а! — грыміць Палуян.— Яшчэ адзін канцэрт, і я загадаю, таварыш Харашун, звязаць вас! Во, у чалавека нагі няма, а не закатвае істэрыку! У камісара асколак ля самага мозгу! І ўсе маўчаць... А ў яго плячо пракалола куля, а ўжо куксіцца... Па гэтай ране і жывы будзеш, і дзеці будуць...

— Гэта ён з-за рэўнасці, мабыць...— збянтэжана гаворыць Лысуха. Невядома толькі каму: Раі, Палуяну ці сам сабе. І сам зноў адчувае, што жарт не ўдаўся.

Чуваць усхліпванне Раі. А мо ёй кінуў Харашун коўдру ў твар?

Дзіўны гэты Харашун. Памяняў прозвішча, хоць усе ведаюць, што ён Гарашун. «Алёша Паповіч». як ахрысцілі яго ў атрадзе. Сын папа...

Тупат ног... Выносяць Гагіка.

— Дай яму бром,— гаворыць да Раі Палуян.

— Што?! Яшчэ адзін укол? — крычыць Харашун.

— Давайце мне замест яго,— згаджаецца Лысуха.

— Ці мне... О-ха-ха, добры ты, Адамка, на ўсіх лагоду хочаш навесці,— гаворыць Шула.

Адам Палуян спыняецца каля Мікульскага. Бярэ за руку, пальцы ў партызанскага доктара тонкія і халодныя, здаюцца стэрыльнымі.

— Ну, як вам спалася?

— Не помню... Нічога не ведаю, доктар.

— Спалі. Мы памаглі вам са сном. Будзе самалёт з-за лініі фронту. Але толькі заўтра абяцалі. Вы павінны пратрымацца.

— Пастараюся, доктар.

— Аперацыя трэба складаная, электрамагніт трэба... А што мы можам — у лесе? Нагу нажоўкай адпілаваць — самае большае. Вы хадзіць можаце?

— Не ўставаў... Але, здаецца, магу.

— Рая! Завядзеш таварыша камісара ў камандзірскую зямлянку.

— Ды мне і тут добра, Адам...

— Прымак загадаў. А я да вас яшчэ раз зайду — потым.

— Скажы, Адам, Анюта дзе? Як яна?

— Гаспіталізавалі таксама... Даём на сон, каб спала... Крайняе нервовае знясіленне.

Мікульскі яшчэ некаторы час услухоўваецца, як Палуян размаўляе з параненымі, распытвае іх. Як звініць сваімі жалязякамі, пераходзячы ад аднаго да другога, Рая.

Во, ужо каля Лысухі...

— Раечка, табе якая мая палавінка падабаецца?

— Абедзве харошыя, магу ў дзве ўкалоць.

— О, не! Глядзі, каторая менш пачырванела.

— А чаго ёй чырванець?

— Як чаго? Ад сораму.

— А-а... Во гэта... У верхнюю...

Вось ужо Рая і каля Мікульскага.

— Таварыш камісар...— нясмелы ў яе голас і нават сарамлівы. Проста не верыцца, ці тая гэта Рая?

Мікульскі адкідвае коўдру, паціху паварочваецца да яе спінаю...

Два самыя лепшыя камандзіры рот пабіліся з-за яе — Малібожка і Цурчэня. Хапаліся нават за зброю. Да абодвух Рая ставілася прыхільна, абодва мелі доступ да яе багатага на каханне сэрца. І нават некаторыя партызаны. Як пакруціліся ўсядно, падпалі пад агульную эпідэмію. Самы разгар эпідэміі быў, як кіраваў атрадам Канькоў. Цяпер Канькоў не камандзір атрада — камандзір гаспадарчага ўзвода... Працягвала Рая свае штучкі і пры новым камандзіру атрада, Прымаку, хацела нават падкаціцца да яго. Выклікаў Прымак яе для размовы-праборкі. Але выйшла яна з яго зямлянкі з такім выглядам, так пацягвалася і пацеплвала плечуком, што ўсе, хто ні бачыў, думалі: «Аг-га... І камандзір новы спёкся...»

Паклікаў да сябе Прымак Мікульскага і доўга не мог супакоіцца, пляваўся.

— Цімох, гэта па тваёй лініі. Трэба нешта рабіць... Так недалёка і да разлажэння... Дысцыпліна ў атрадзе зноў падае. Рая гэтая, каб на яе немач...— Прымак стараўся не глядзець на Мікульскага, не сустракацца з ім позіркам.— Ты адказваеш у атрадзе за выхаванне, за палітмасавую работу!

— І камандзір таксама.

— Ты — у першую чаргу. Вот і выхоўвай...

— Скажы, Міша, у цябе з ёю — нічога не...

— Не, можаш не дагаворваць... Канешна, выгнаць яе з атрада прасцей за ўсё. Але ж рукі ў яе залатыя, такую медсястру пашукаць...

— А чым твая размова з ёю закончылася?

— Ат... не пытай. На шыю кінулася, думала — я так і брыкну з ног. А яе і пакахаць можна — я пачынаю разумець хлопцаў. А можна і другое — выхапіць шаблю і разваліць ад пляча да пояса... Ты ёй пра адно, а яна скаліць зубы, вочкамі плюсь-плюсь: «А калі ж мне шкада іх! А мо ім пагібнуць заўтра суждзяно! А мо каторы яшчэ і жанчыны не ведаў...» Пагавары, пагавары ты з ёю, а я не магу!

— Ладна, пагавару.

А гаворка была такая. Падабраў некалькі здаровых хлопцаў, павырэзвалі дубцы, нарвалі крапівы. Зрабілі засаду каля вялікай паляны з рошчай — густой пасадкай гадаванага хвайняку. Па Раю хадзіў Аляксей Харашун — яшчэ адзін Раін кавалер, толькі адрынуты. «Камісар кліча... У лес... Разумееш? Толькі — цс-с-с...» — сказаў ёй па сакрэту.

Што яна падумала, можна здагадацца, бо прыджгала да рошчы мігам. Чарнявая, гараць шчокі, як макаў цвет, пунсавеюць поўныя губы, блішчаць вочы... Не проста прыгожая — маляваная прыгажуня.

— Ну — прывет, красавіца,— пайшоў ёй насустрач, працягнуў руку.

— Здрастуйця... О-о, які сюрпрыз для мяне! — падала какетліва сваю.

І раптам Рая адчула, што далонь сціснулі, бы абцугамі.

— Хлопцы, сюды! — паклікаў Мікульскі засаду.

Вывалілі з шумам, акружылі з насмешкамі.

— Давайце!

Лішнюю адзежку з яе садралі, хоць і супраціўлялася, спрабавала нават кусацца. Распласталі самую «тылам» дагары на траўцы. Засвісталі дубцы, розгі, крапіва...

«Паліттутарку» вёў з ёю Мікульскі пад гэты свіст.

Лямантавала спачатку, выкрыквала: «Другім дык можна!.. Анюта з Шыпняком вунь...» Адказвалі ёй самі хлопцы: «У іх жа каханне, дура... Сапраўднае каханне! А ў цябе што? Блудніца ты вавілонская...»

Гэты ўспамін прамільгнуў у Мікульскага за тыя некалькі мінут, пакуль вяла яго Рая да камандзірскай зямлянкі. Ішоў у скураных шлёпанцах, боты былі невядома дзе. І штаны былі на ім другія. Хтосьці ж яго разуваў, пераадзяваў... А ён нічога не ведае, не помніць...

Смачна цягнула аднекуль дымком і смажанінай. Сям-там ужо гучалі галасы людзей — смех, нейкія каманды, размовы, выкрыкі. Хтосьці прабег міма іх, працягнуўшы здзіўлена — «О-о-о!», звенькаючы нейкімі жалязякамі амуніцыі. Ля канавязяў усхропвалі, трэслі цуглямі коні.

— Ну — во... Хоць раз з камісарам пад ручку прай-

шла...— уздыхнула яна амаль шчыра, калі яны спыніліся перад сходцамі. Трэба было яшчэ спускацца па прыступках уніз, да дзвярэй, але ўдваіх побач у выкапе яны не маглі памесціцца.

— Ну і як? — падтрымаў яе тон Мікульскі.

— А ведаеце — прыемна. Мужчына што трэба... Не параўнаеш з тымі недаросткамі.

— Мала цябе лячылі хлопцы. Не кідаеш свайго...

— Госпадзі, калі ўжо гэтая праклятая вайна скончыцца! — раптам з непадробным болем усклікнула Рая.— Каб скарэй не было гэтых званняў, пасад!.. А то хочаш прызнацца чалавеку ў каханні, а ён табе — «Смірна!».

— Эх, Рая ты, Рая...

— Шчаслівa, таварыш камісар, на новым месцы... Асцярожна ступайце, тут адна прыступачка ліхая — збуцвелі жэрдкі, а Крот як шлэпнуў...

— Праходзь, праходзь... Во, кладзіся на тапчан.

Мікульскі выставіў перад сабою рукі, асцярожна пасунуў па зямлі ногі. Ён хоць і памятаў гэты тапчан з чорнай патрэсканай цыратай справа каля сцяны, але ў яго выпрацоўвалася ўжо асцярожнасць.

— Э-э, дык ты зусім не таго... А я гляджу — вока адно адкрыта... Думаў, хоць адным чалавек...— Прымак узяў яго за правую руку, давёў да тапчана.— Кладзіся... Тут табе будзе спакайней.

— Я прысяду толькі... Мне горш лежачы.

— Чай піў?

— Яшчэ не.

— І я яшчэ. Вот разам і пап'ём.— Прымак, чутно, адчыніў дзверы: — Коля! Гані чай! І яды пабольш! — крыкнуў ардынарцу.

— Добры ў цябе хлопец... Кахы...— Мікульскі пачуў, як штосьці перахапіла горла.— А мой Эдзік... Кахы... У плашч-палатцы прынеслі, што можна было сабраць... У Вайчука пахавалі.

— Ведаю... Дакладвалі... Чорт вазьмі, нарабілася такога, што...— Чуваць было, як Прымак падсунуў бліжэй да тапчана табурэтку і, мусіць, сеў на яе верхам, як любіў садзіцца.

— Як сірата цяпер... такое адчуванне. І Васіля, і Эдзіка няма... Адным махам, можна сказаць.

— Да-а... Добры хлопец быў Васіль. І Эдзіка шкада вельмі: чаму яшчэ і дзеці павінны гінуць на вайне?

— Добры — не тое слова. Я з ім яшчэ ў канцлагеры разам вошай карміў. Радней брата...

— Да-а-а... А я тут чорт ведае што перадумаў. І пра цябе, грэшным дзелам... Ганяю гэтых калгаснікаў, а яны толькі вачыма лыпаюць.

— Каго гэта?

— Ну — Лапусту, Русаковіча...

— Лапуста быў брыгадзірам, а Русаковіч — настаўнікам.

— Усё роўна гэта не камандзіры.— Прымак не дагаварыў, бо зайшоў Коля, і зямлянка ўраз напоўнілася смачным пахам.

— Здравія жалаю, таварыш камісар! — паздароўкаўся Коля і адразу забразгатаў нечым металічным, раскладваючы на стале.

— Здароў, здароў... У-у, нават цыбулькаю пахне,— Цімох Андрэевіч пацягнуў носам паветра.— Някепска сталі вы жыць.

Любіў Коля, каб яго хвалілі. Мікульскі нават уявіў, як ардынарац, худзенькі і белабрысы, з маленькім дзявочым роцікам, залівaецца чырванню.

— Гэта яшчэ не цыбуля, таварыш камісар. Шчыпер! Зялёную ў нас так называюць, пёрцы. Сваёй гадоўлі!

— Ты гэта... Давай сюды і чайнік і можаш пакуль што быць свабодным,— сказаў Прымак.— Мы самі будзем упраўляцца.

— І гэта самае даваць?

— А «гэта самае» мы самі возьмем.

— Нейкія ў вас зашыфраваныя размовы,— сказаў Мікульскі, калі за Колем апошні раз піскнулі дзверы.

— Ага...— Мікульскі пазнаў па тоне, што Прымак, мусіць, усміхнуўся на ўвесь свой магутны твар, варухнуў калматымі пшанічнымі бровамі. Уявіў сабе яго шэрыя, са сталёвінкай вочы, жорсткі, непаслухмяны чуб, выпуклыя сківіцы, што надавалі твару нейкую квадратнасць.

У конаўку, пазвоньваючы, штосьці палілося. Вось ужо глушэй, блёўкаючы.

— Табе ж, я думаю, можна кроплю ўзяць?

— Кроплю... Іменна! Учора нават Палуян даваў.

Прымак наліў і сабе ў нейкую пасудзіну.

— То возьмем пакрысе. Дзень жа наперадзе, цяжкі дзень... Ну — бяры во... Памянём Васіля.

— За Васіля... І за ўсіх, хто адваяваўся.

Выпілі. Прымак тут жа накалоў на відэлец кавалак мяса, падаў Мікульскаму, даў і хлеба.

— Не адкушу... Не сцісну сківіцы моцна... Хіба мо кныр які?

— Чуць не ўгадаў. Секача ўчора падстрэлілі хлопцы. Вепра.

— Не магу... Я хіба хлебам памачаю трохі,— адклаў Мікульскі відэлец.— Ты што — перайшоў на самастойнае харчаванне? Агульны кацёл — па баку?

— Не... Чаму? Гэта спецыяльна загадаў Колю прыгатаваць. Каб з табою пасядзець, пагаварыць...

Мікульскі перастаў есці, абхапіў далонямі галаву.

— Што?

— Зноў загуло ўсё, затузала...

— Н-да-а... Дурань я... Усё на свой аршын мераю. Забываю, што ты цяжка паранены, хоць і «хадзячы»... А добра, што ты ўсё-такі знайшоўся. Я чуць не арыштаваў усю пошукавую групу.

— Зрабіў бы вялікую памылку. Ды там і саджаць не было каго: палавіна то забітыя, то параненыя.

— Уяўляеш? Вярта-а-юцца!.. Ніхто не ведае, дзе камісар. Цямці-лямці гэтыя плячыма пацiскаюць.

— Ф-ф-фу-у... Адпусціла трохі... Крот — сядзіць?

— Сядзіць... У КПЗ. Разгільдзяй... Кулямёт кінуў — уяўляеш?!

— Выпусці. Загадай выпусціць... Ён кантужаны, мог і несвядома забыць яго дзе... Ваяваў Крот добра. І чалавека тарабаніў на сабе ўсю дарогу... Лысуху...

— А кулямёт — кінуў? Гэты факт — астаецца? Перадам у асобы аддзел!

— Не гарачыся, ты ж мо не цыган Канькоў. Той спачатку наломіць дроў, а потым думае. Трэба добра расследаваць усё, распытаць. Часам абставіны вышэй за чалавека... От мы плылі цераз Бобрык з Анютай. Адзін паранены, сляпы, другая не ўмее плаваць... І такая сама было — ці зброю ратаваць, аўтамат, ці яе. Чалавек пры ўсіх абставінах вышэй за ўсё па цане.

— Што ты мне прапісныя ісціны талкаеш?! — у гэты момант Прымак абавязкова адкінуўся назад, трымаючыся за стол. Ён заўсёды гэтак рабіў, калі здзіў-

ляўся ці абураўся. Сківіцы, пэўна, сціснутыя і яшчэ больш вытыркалі ў бакі.

Рыпнуў стол — прыхінуўся зноў.

— Ладна. Раскажы... калі можаш... як з табою ўсё было. Столькі людзей выйшла са строю!

Мікульскі расказаў коратка, не ўспамінаючы ўсіх перыпетый. Хоць сам за тыя суткі нібы пражыў яшчэ адно жыццё. А пад канец тонам даклада:

— Заданне выканалі поўнасцю. А мо і перавыканалі: пад канец клалі шашкі пад стыкі — адным махам дзве рэйкі. Так што больш за пяцьсот будзе.

— Да-а-а... А я думаў, што ты са мною пойдзеш у рэйд. Правільней, не я думаў: з брыгады такая дырэктыва прыйшла, ад Антончыка.

— Калі?

— Яшчэ да выхаду на «жалезку».

— І нічога мне не сказаў!

— Не сказаў. У цябе хапала клопату з «жалезкай». Было пра што думаць.

— Цяпер я разумею твае выкрунтасы...

— Якія?

— З адборам людзей на «жалезку»... З адной роты ўзвод, з другой, з трэцяй... У цябе ў галаве было ўжо другое — як лепш скласці рэйдавы атрад.

— Не толькі... Ты ж ведаеш, што ўсе тыя дні лезлі немцы на Краі, Ліпнішкі. Арджанікідзеўцы з нашай брыгады трымалі абарону. А раптам падмога ім трэба будзе? Дый хацеў, каб ты пра адно думаў: як лепш сыграць «канцэрт».

— Гэта была твая памылка, што не сказаў. А наша памылка, агульная — не трэба было рабіць такое часовае вайсковае фарміраванне. Усё часовае — нетрывалае. Узводы не прыцёрліся адзін да аднаго, не было ў іх трывалай сувязі паміж сабою, якая ёсць ужо ў пастаяннай роце. І я — часовы камандзір... Уяві, якое ў мяне становішча...

— Уяўляю.

— Ты скажаш: камісар павінен ведаць людзей атрада. Усіх! Так-то яно так, але ж камроты — лепш ведае, бліжэй! Трэба было пасылаць адну роту цалкам, не «мудрстваваць лукаво». Калі мала адной, то часова падпарадкаваць ёй маглі яшчэ які ўзвод. Але каб быў камроты ў дадатак! І ўсё магло б не так скончыцца...

— Ладна, што было, тое прайшло. З настроем людзей таксама трэба было лічыцца. Кожнай роце хацелася на «канцэрт».

— Не магу я так спакойна адносіцца да ўсяго! Мне здаецца, толькі я і вінаваты ў іх смерці.

— Не думай, што я спакойны. Але трэба выпрацоўваць у сабе зацятасць... Не, не зацятасць, я не тое хацеў сказаць. Мужнасць браць у адказныя моманты жыццё і смерць людзей у свае рукі. Часам зараней ведаеш, што нямала паляжа, а пасылаеш... Заведама пасылаеш на смерць! Калі ты сябе не пераламаў на гэта, значыць, не дарос да камандзіра.

— Ты разважаеш, як Канькоў. Прызванне камандзіра — так распарадзіцца, каб найбольшыя мэты былі дасягнуты цаною найменшых ахвяр.

— І я за гэта! Мы проста гаворым пра розныя рэчы.

— А я не магу так... Мне будуць сніцца хлопцы да канца жыцця...

— Ладна, што было, тое прайшло. Давай лепш возьмем яшчэ па кроплі ды...

— Не-не, я не буду.

— ...ды будзем развітвацца.

— Як?.. А нехта ж... Палуян казаў, што самалёт будзе толькі заўтра!

— Заўтра, і то як змеркнецца. Нейкая нявыкрутка ў іх там... Ведама, перад наступленнем... Але я пра другое: выступаем праз гадзіну. Я з намеснікам павяду атрад.

— А хто ж астаецца? Ці ўсе ідуць?

— Не, не ўсе. Прыкладна трэцяя частка будзе на месцы. Да прыходу арміі... Частка Малібожкавай роты... Гаспадарчы ўзвод, узвод аховы лагера, шпіталь.

— Скажы, хай Крата выпусцяць. І яму адпачынак трэба... Хай Палуян абследуе.

Рыпнула табурэтка. Прымак пайшоў да дзвярэй.

— Я ўпарты, а ты ўдвайне... Люблю ўпартых! — прагаварыў на хаду.— Коля! — крыкнуў, адчыніўшы дзверы.

— Я, таварыш камандзір! — данеслася знадворку.

— Скажы там, што я распарадзіўся... Хай выпусцяць Крата, накормяць добра. І хай Палуян паглядзіць яго!

— Слухаю!

Прымак вярнуўся да стала.

— Што ты курыш? Згарні мне суслу,— папрасіў Мікульскі.

— Махра. Дастаў Коля недзе бесарабу. Аднаго ліста не ўкурыш, трэба карашкі дабаўляць... Дык я і нашу так: дзе шчолач — ліст накрышаны, дзе масла — карашкі.— Прымак гаварыў і, мусіць, адкручваў накрыўку ружэйнай маслёнкі — жшын-н... жшын-н...— Табе чаго больш?

— Моцную не рабі. А то яшчэ з капытоў звалюся.

Закурылі. Мікульскі тут жа закашляўся.

— Ну й звяруга... Адразу галава закружылася... Не, не магу — аслаб...

— Прыляж мо... Зямлянка ў поўным тваім распараджэнні. Ніхто цябе тут не патрывожыць.

— Не магу ляжаць. Таке буты з халявамі — як казаў адзін паляк. Кроў прылівае да галавы — не вытрымаць.

— Да-а... Скора і да іх вайна дакоціцца.

— Міша, хто застаецца за цябе тут?

— А што? — насцярожыўся Прымак. Пачуў, мабыць, у голасе Мікульскага нейкую трывогу.— Самсонаў, начштаба. А што? — зноў паўтарыў пытанне.

— Што разведка прынесла за гэтыя дні? — папытаў Мікульскі замест адказу.

— Усякае.

— Мы як прабіраліся з Анютай сюды, сустрэлі карнікаў. Ледзьве выкруціліся, выпадак памог. У Заграддзе прыбыла іх зондэр-каманда. Мо зноў задумваюць блакаду?

— Ёсць пра іх данясенне ад сувязнога. Але з іншых вёсак нічога пакуль што. Мо лакальная з'ява.

— Пацікавіўся б у брыгадзе... Мо ў іх больш звестак. А то ведаеш што тут можа натварыцца? Людзей застаецца мала!

— Пацікаўлюся. Ды не думай ты, што тут нікога не застанецца. Усім хопіць работы... Ад Камарова са злучэння дырэктыва: патроіць намаганні ў барацьбе з ворагам, граміць апошнія гарнізоны, не даваць пазліць, нішчыць, вывозіць дабро і людзей, пры падыходзе часцей арміі — захопліваць і ахоўваць пераправы, масты. Калі цікавішся, у Самсонава паглядзі.

— Каб мог — паглядзеў бы.

— Прабач... Усё ніяк не верыцца, што...

— Я і сам сабе не веру.

— Слухай, Цімафей... Невядома, канешна, які самалёт прышлюць... Угаварыў бы ты, узяў з сабою на Вялікую зямлю і Анюту, а? Я ўчора з ёю сам гаварыў — на дыбы! Нават ірвалася яшчэ ісці з рэйдавікамі. Добра, што Палуян умяшаўся...

— Да-а... Такое патрасенне...

— Не толькі пагэтаму. Палуян па сакрэту сказаў: яна цяжарная. Недзе каля палавіны ўжо...

— Н-ну?! От гэта сюрпрыз... Ай да Васіль...

— Ты лепш гавары: «Ай да Анюта!»

— Сама сказала пра гэта Палуяну?

— От чаго не ведаю, таго не... Мо сама, мо Адам пры аглядзе выявіў.

— Ай-я-яй, я-яй... І ні слоўца мне! — Мікульскага захістала ў бакі.

— Дапусцім, такімі рэчамі не хваляцца... Асабліва ў нашай сітуацыі.

— Я пра другое. Было ў нас... некалькі момантаў цяжкіх і небяспечных... пакуль дабраліся. На некаторыя я яе штурхаў, на некаторыя сама ішла, свядома... або напаролася... А-яй, от дурань я!

Мікульскі раптам адчуў перад ёю невымерную віну. І за тое, што давялося ёй двойчы боўтацца, ледзь не тануць у той праклятай канаве, а хапіла б і таго разу, калі ўскочылі ўдваіх, і за тое, што дазволіў ісці шукаць каня, і ёй давялося столькі ўсяго перажыць, і многа яшчэ за што. Нават за свой тон паводзін — як з дзяўчуркаю размаўляў, а яна ж была ўжо вось-вось — маці...

— От так... Ну — мне пара. Ты тут еш яшчэ, пі.— Прымак устаў, пасунуўшы з грукатам табурэтку.

— Не — до...— устаў і Мікульскі.

Яны абняліся, пацалаваліся.

— А-а!..— крэкнуў Прымак.— Давай яшчэ возьмем кроплю — тарбавога...— і забулькаў гарэлкаю.

Чокнуліся. Каўтнулі... Зноў абняліся.

І Прымак адарваўся, крута павярнуўся і пайшоў да выхаду.

Праз адчыненыя дзверы даляцела працяглая каманда камроты Цурчэні: «Ста-а-анавісь!..» Нібы той толькі і чакаў з'яўлення Прымака. І яшчэ яго голас: «Ну — што вы там расселіся, як бабы на прызбе? Каманда ўсіх касаецца!»

Мікульскі намацаў тапчан. Сеў...

І адчуў сябе вельмі самотна і адрынута. Нібы вось ішоў-ішоў па вайне, і раптам выкінула яго пад адхон, як з эшалона — на поўным хаду. А састаў недзе грыміць-грукоча далей, ляскочуць колы на стрэлках. Тых стрэлках, што пераводзяць яго баявых таварышаў на іншыя пуцявіны вайны.

Чалавеку астаюцца ў такой сітуацыі толькі ўспаміны...

* * *

Ішлі цэлую ноч, прыхапілі і раніцы крыху. На адпачынак завіталі на хутар Выгоддзе Малашкі. Праўда што выгоддзе: за сцяною хаты лес, пагоркі, перад хатаю — поле, луг і ручаёк. Руплівыя, мусіць, жылі тут людзі: ад ручайка, намочаныя, былі расцягнуты стужкі палотнаў. Поле тое справа, яно падковаю агінае луг. Па той бок ручая і лугу — яшчэ адзін хутар, Заступічы. Ён застаўся ўжо на захадзе, яны абмінулі яго і не заўважылі.

Добра, што спыніліся ў Выгоддзі: тут жыла ўдава з дзяўчынай гадоў семнаццаці. Не ведала Алена, дзе пасадзіць гасцей, дзе пакласці — каб дагадзіць. Анюце паслала на печы, укрыла коўдрай — яна прастуджана кашляла. Папрасіла Алена «заціснуць» падсвінка, бо яна не можа, баіцца. А скора каляды, і ў хаце няма і грама скораму, падмазку і тую кот, пранцаваты, з'еў.

Памаглі жанчыне, і яна тут жа напякла ўсім крывянкі, насмажыла мяса з салам. Эдзік лёг на палок каля печы, але ўсё перашэптваўся і хіхікаў з дачкою Алены, і маці скора сагнала яе з печы, каб не замінала Анюце, не замінала людзям. Хай лепш пагуляе на двары, паглядзіць — мо хто будзе ісці незнаёмы, ці што.

Мікульскаму чамусьці не хацелася спаць, і ён прасядзеў з Аленаю гадзін да чатырох, памагаючы давесці да ладу свежыну. За «работу» Алена ім насмажыла на дарогу ледзь не палавіну кабанчыка. А напаследак пагадала Мікульскаму на карты: доўгая дарога і кароткая дарога выпадае... Доўгая вельмі небяспечная, чарнаты многа, а там, дзе кароткая, чакае яго «дама трэф» і шчасліваe-шчаслівае жыццё да глыбокай старасці. Калі ж усё-такі пойдзе доўгаю — ую-юй, што будзе...

Павыскаляўся з яе няхітрага намёку, але далікатна, каб не скрыўдзіць добрую жанчыну. І прыгожую: мажная, высокая, ружовашчокая, з густымі чорнымі валасамі — нібы і не сялянка-беларуска, нібы і не мае ўжо дарослую дачку.

На змярканні пераходзілі чыгунку Баранавічы — Брэст. Іх абстралялі патрулі. У бой з імі не ўвязваліся, не з рукі было звяртаць на сябе ўвагу. А цераз шашу Масква — Брэст перакінуліся без прыгод і амаль адразу павярнулі на ўсход.

Хоць Пыкаў хацеў прайсці крыху дарогаю ў напрамку да Дабрамышля — надакучыла ўжо біць ногі без дарог.

Марозу не было, тэмпература трымалася каля нуля. Гразь, халепа, мокры снег з дажджом, вецер-скавыш. Вымерхаліся і вымаклі дашчэнту. Пад раніцу, грабучыся ў тумане, дабраліся да Асавецкіх хутароў. Анюта і Эдзік ледзь трымаліся на нагах. Анюту ўсё больш забірала прастуда, а ў Эдзіка былі нелады з жыватом — мусіць, перабраў свежыны ў Выгоддзі Малашкі. Ён увесь час то адставаў, то наганяў групу, арыентуючыся на плюханне, кашаль і цяжкі дых людзей.

Хату знайшлі па паху дыму: палілі ў печы.

Дзядзька і цётка, больш нікога няма. Хата прасторная, як абозня. Пад столлю вісела на дратах бляшаная труба ад грубкі, вяла ў комін печы. Грубка цікавая — круглая, закаваная ў круглы бляшаны кажух, як рыцар у латы. Гаспадары з самага пачатку нечым Мікульскаму не спадабаліся. Прысеўшы з боку ад печы на калодцы, мужык плёў з лазовага лыка лапці, дыміў цыгаркаю. Дым ішоў у яго з рота і з носа, дымілася ўся шырокая, як венік, барада, здавалася, нават з вушэй і вачэй сачыўся дым. Зіркаў коса на прышлых і зноў таропіўся ў падвірку, калупаў ёю падплеціну, разварушваў дзіру, каб можна было прасунуць стужачку кары, але рабіў гэта з нейкім напружаннем, нібы калоў швайкаю вепрука. Гаспадыня была таксама насцярожаная, увесь час сачыла за гаспадаром, нібы лавіла якія яго сігналы ці адабрэнне сваіх паводзін.

Як заваліліся ў хату, пападалі на лаву, каля лавы, на ложак, на палок, на падлогу за печкаю — дзе хто мог, амаль усе адразу паснулі.

— Гаспадынька, бульба ёсць? Зварыце нам вядро

бульбы...— як мага ласкава звярнуўся да цёткі Мікульскі.

— Яно-то...— і адразу зіркнула ад печы на гаспадара, і тут жа паправілася: — Няма, усю пазабіралі.

— Намый, чаго там! Не адваляцца рукі...— буркнуў раптам гаспадар.— З лупінамі звары...

І ўстаў, асцепнуў крошкі кары з шэрых, грубага даматканага сукна, штаноў.

— Ну — я ў млын.

— Заўтра, дзядзька. А сёння — з двара ні шагу,— не павышаючы голасу, але цвёрда загадаў Мікульскі.

Дзядзька выплюнуў з рота недакурак, харкнуў на яго і растаптаў гумавым бахілам.

— Як гэта? — наставіў на Мікульскага цёмныя, учэпістыя вочы.— Ці я дома ўжо не гаспадар?

— Гаспадар, чаму ж не... От дома і гаспадарце,— паказваючы, што размова з ім скончана, звярнуўся да Васіля і Сашкі-кастраміча: — Ідзіце павартуйце. Адзін ад шашы, другі — ад дарогі на Дабрамышль... Праз дзве гадзіны вас зменяць Пыкаў і Дубінскі.

— Так, так, так...— пайшоў і зноў сеў на калодку барадач.— От настала ўрэмячка... Ты ўжо ў хаце не гаспадар. Любы вылезе... з кустоў...— гаварыў і паглядваў на Мікульскага — як той зрэагуе на яго словы? — і ўжо камандуе... Мешалка бо ў яго ў руках! Лезь, чаго стаіш? — раптам гаркнуў ён на жонку, якая тапталася з кашом каля печы і больш чым хто прыслухоўвалася да яго размоў.

— Ага... Я ўжо...— нагнулася яна, тузанула за кальцо, прымацаванае да падлогі. Паднялася квадратная накрыўка лаза — тут жа, каля печы, мабыць, быў ход у склеп-пограб.

— Вайна, дзядзька, усім нялёгка,— не знайшоў што сказаць Мікульскі.

— Вайна... Дык і ваюйце, калі вам хочацца! А мяне чаго гвалтуеце, уцягваеце?

— Думаеце адседзецца? Ці ўдасца?

Дзядзька гаварыў сваё:

— Хто ні зойдзе — давай! давай! давай! А дзе ж таго «давала» набрацца? — узяў зноў лапаць у руку, пакруціў — шпурнуў са злосцю пад палок.

— А хто яшчэ заходзіў да вас?

Дзядзька нібы не чуў яго пытанняў.

— Скрыгочуць, грукочуць жорны вайны... Іскры

з-пад камянёў ляцяць. Засыпкі патрабуюць камяні! О-ха-ха...

— Дзе тут бліжэй за ўсё гарнізоны, у якіх вёсках?

— А хто іх ведае, мы людзі цёмныя,— барадач пакрочыў да лаза, бо з пограба даляцела: «Хама!» Стаў на колінцы, нагнуўся, падхапіў кош з бульбаю, выставіў яго на падлогу. Услед за кашом паказалася галава гаспадыні, пачуліся яе ўздыхі.

Мікульскі выйшаў на двор. Ног было не пацягнуць. Раскіслая, набрынялая юхта ажно пахла сырою скураю, у ботах плюхала. Абышоў памалу сядзібу... Яна займала пляц-чатырохкутнік, а правільней — трапецыю. Доўгі шнур хаты, сянец, падпаветкі, цераз шыракі двор насупраць — хлеў, на адной лініі з ім, але наводшыбе — у вострым кутку трапецыі — гумно. Гэта ўжо каля лесу.

Сашка-кастраміч стаяў пад хлявом, сачыў за дарогаю, што вяла на паўднёвы захад, на Дабрамышль, Шыпняк быў за сядзібаю, з паўночнага боку, каля вярбы. Там блізка пачыналася палявая дарога на Падасаўцы і далей, на шашу.

— Толькі не засніце, хлопцы... І не пускайце нікуды Хаму, гаспадара. Нейкі ён памаўзлівы...

— Чорт яго засне ў такую пагоду! Да касцей прабірае! — адказаў Сашка.— І чаго ўдвух тырчаць? Хапіла б і аднаго.

Васіль на такое ж папярэджанне пачаў суцяшаць:

— Тыміш, ты дужэ нэ пэрэжывай. Усэ будэ гаразд, іды спаты! — І пайшоў пад сваю вярбу.

Мікульскі пайшоў у двор. Хлеў быў адчынены, адтуль чуваць быў шоргат. Зазірнуў у прыцемак — Хама чысціў скрабніцаю каня. Заўважыў Мікульскага, павярнуўся да яго спінаю.

— Не бойся, дзядзька. Конь ваш будзе вам.

— А ў гумно можна адысці? Сена трэба жывёле...

— Можна. Хадзем разам.

Хама зняў з драўлянага крука рэзгіны і пайшоў наперадзе. Мікульскі плёўся ззаду, прыціскаючы локці да бакоў — сырасць і холад працінала навылёт. Паліто ў хаце, пасьпяшыў распрануцца...

І туды, і назад не абазваліся адзін да аднаго і словам. Гаспадар застаўся на тачку пры хляве трэсці трасянку, а ён пайшоў у хату, кіўнуўшы Сашку: сачы, маўляў, за ім...

Калі была гатова бульба, Мікульскі набраў з вялікага чыгуна ў міску, панёс Сашку і Васілю. Хама сядзеў ужо ў сенцах каля сцірты старое, навыдзіранае з нейкай будыніны цэглы, абіваў кляўцом старую вапну. Вярнуўся Мікульскі, паснедаў сам, разбудзіў Пыкава і Эдзіка. Дубінскага не дабудзіўся, а Анюта адмовілася — яе трэсла прастуда.

— Я ўжо скінуў крыху сон, пайду раней змяню каго...— сказаў Пыкаў.

— Як хочаш,— дазволіў Мікульскі.

Паставіў каля сябе вінтоўку, лёг на паліто. І — як праваліўся ў глухую цемру...

Ачомаўся ад звону шкла і стрэлаў. Білі па вокнах з двух напрамкаў, шыбы высыпаліся: на лавах, на стале, на падлозе, на распушчанай кулявой саломе поўна было шкляных асколкаў і друзу. Скаціўся дадолу, агледзеўся... Кулі не прабівалі сцен, хата была зроблена з адборных бярвенняў. А рамы акон, мокрыя, учарнелыя ад плесні, былі пашчаманыя... Лаз у склеп прыадчынены, адтуль тырчыць галава гаспадыні.

— Хавайцеся! — стукнуў па накрыўцы.

Нікога з партызан у хаце не было. А страляніна гушчэла, і не разабраць, адкуль і па кім хто страляў.

«Нашы вядуць бой... Добра, што не заспелі знячэўку: пабілі б, як мух!»

Схапіў вінтоўку, угнуўшыся, шмыгнуў у сенцы, прысеў за сціртаю цэглы. Дзверы ў сенцах нахлашч, можна лепш разабраць, адкуль і па кім страляюць. Б'юць з дарогі па хаце і справа, з-за хлява, дзе стаяў тады на варце Сашка-кастраміч. Дзверы хлява таксама адрасчынены насцеж, каня не відаць. Партызаны адстрэльваюцца з-за дальшага канца хлява і з-за гумна... Страляюць недзе і за тыльнаю сцяною хаты, мабыць, немцы абыходзяць. Б'юць і з узлеску, лявей гумна.

Стрэльнуў і Мікульскі — правей хлява якраз паказаўся немец, палез у дзірку ў плоце, каб прабрацца на двор. Там і засеў, тыцнуўся носам у зямлю. На яго месца пад хлеў махнуліся з дарогі трое, зразу залеглі.

— Хлопцы, іх мала! Не трусь! — чуваць крык Васіля.

Немцы перанеслі агонь на гумно, на Васілёў голас.

Мікульскі дастаў з кішэні лімонку, тузануў за чаку і лёгенька ўскінуў яе на страху хлява — на заходні схіл. Граната скацілася і пэнкнула недзе ў паветры, на-

крыўшы тых трох, што хаваліся пад хлявом, веерам асколкаў. Гэтага ён не бачыў, а ўявіў, бо сам, пакуль ляцела і ўзрывалася граната, перамахнуў ледзь не ўвесь двор, скокнуў цераз вароты і заламаў за вугал хлява. І ўбачыў, што якраз адсюль выбег і памчаў да гумна, віхляючы ўкосікі, як заяц, Пыкаў Іван. Напрасткі, цераз лужок, дзе сабралася разам са снегам-журам вада...

Некалькі паліцэйскіх у чорных мундзірах выткнуліся былі і з-за падпаветкі, якая была ў адным шнуры з хатаю і сенцамі. Мікульскі стрэльнуў туды і паўтарыў манеўр — ускінуў на адваротны схіл падпаветкі яшчэ адну лімонку. Колькі там было ворагаў, не ведае, але крыкі і енкі пасля выбуху паказалі — нямала... І тады сам кінуўся перабежкамі да гумна. Пыкаў тым часам ад гумна павярнуў ужо ўправа, да лясістага мыска, адкуль таксама хтосьці з партызан адстрэльваўся, біў па ўваходзе ў двор. Не спынялі страляць і тыя, што былі па левы бок гумна, за крушнямі камянёў. Немцы амаль акружылі хату, але самі апынуліся ў паўкрузе пад перакрыжаваным агнём.

З-за вугла гумна, стоячы на калене, біў з аўтамата Васіль.

— Усе цэлыя?

— Та ўсі, здаецця...

— Не будзем увязвацца... Адыходзь! І тым памахай, што за камянямі... А я патрымаю крыху пад абстрэлам.

— Та в мэнэ ж аўтамат! Я більшэ дам вогню! Бяжы швыдчэ сам!

— А дзе Анюта і Эдзік?

— Та вона! Біля тога лісовага пупка! Цікайтэ!

Але стралялі ўдвух датуль, пакуль убачылі, што паміж дрэў мільгаюць постаці Сашкі-кастраміча і Дубінскага,— адыходзяць лесам да Анюты і Эдзіка.

Ад хаты раптам пачуўся лямант Хамы, хоць самога было не відаць:

— Дак што ж вы ро-о-обіце?! У чым жа я жыцьму? Зіма ж...

Саламяная страха над ганкам займалася полымем, заружавеў туман. Высокі немец, падскочыўшы да хлява, таксама паднёс запальнічку пад страху. Чуваць быў рык каровы, мусіць, яе валаклі з хлява наналыгачы.

— Дак якія ж вы збавіцелі?! — надрываўся Хама. Яго, мабыць, трымалі недзе за локці, не пускалі ратаваць сваё дабро.

Беглі натоўпам па лясной сцяжынцы, раз-пораз азіраючыся назад, дзе праступала з туману вялікая цёмная хмара дыму.

Немцы не праследавалі. Мо і праўда іх было мала, баяліся сунуцца ў лес. Але не мелі і партызаны сілы, каб увязвацца ў бойку і перамагчы.

— Глытайська морда...— Васіль перайшоў на скоры крок, ён цяжка дыхаў. Ззаду недзе задыхалася ад кашлю Анюта.— Думав, шчо хрэста ў німців заробыць, мэдаль. Хай тэпэр ковтае тэ, шчо наробыв під сэбэ...

— А як яно нарабілася? Я ж прасіў-маліў: не пускайце барадача з двара!

— А чорты його бацьку знають! Пыкаў вартаваў... Одынцэм... Бо цількы я ліг спаты, як і Сашко йдэ. «Шчо — і тэбэ пустыв?» — кажу. «Ага, він добрый» — адказвае.

— Так, так было! — пацвердзіў Сашка.

— А чаго ж усім марнець? — азваўся і Пыкаў.— А як гэты стары выкаўзнуўся, й сам не ведаю.

— Дабрак знайшоўся! — Мікульскага разбірала злосць.— А чаму ж мяне не разбудзілі?

— Го! За ногы, за рукы цяглы, а ты, як мішок з глыною. Нэ прокыдаешся, і всэ! Я тады подумав, шчо тэбэ цількы стрэлы і разбудзяць.

— Усе цэлыя?

— Усе-е!

— Якія страты яшчэ?

— Няма!

— Па-ўкраінську страта — смэртэльна кара.

— А дзе ж ваша паліто? — падышла, злёгку патузала Мікульскага за рукаў Анюта.

— Там асталося...— махнуў Мікульскі рукою.— Патроны ўсе павысмальвалі?

Пачалі лічыць, што ў каго засталося,— пара дзесяткаў патронаў на ўсю групу! Амаль тое самае, што і з голымі рукамі!.. Зноў яны абяззброеныя, а ўперадзе яшчэ вялікая дарога.

Некаторы час ішлі моўчкі, Эдзік увесь час трымаўся недалёка ад Мікульскага, некалькі разоў падыходзіў і крочыў побач. Нешта яму муляла, замінала, некалькі разоў ён парываўся гаварыць да Мікульскага,

але азіраўся назад, на партызан, і змаўкаў. Потым адстаў, каб замкнуць шэсце, і ўжо ўвесь час ішоў ззаду, трымаў аўтамат напагатове.

Неўзабаве лес скончыўся, пачаўся сыры, з вадою, луг. Але пад вадою, пад раскіслым зверху неглыбокім пластам дзёрну, было цупка. Мусіць, той мароз, што быў дзён колькі назад, прамарозіў-такі зямлю. Не затрымліваючыся, па нейкім паваленым ствале перайшлі невялікую рачулку Малатоўку і праз кіламетр-два зноў паглыбіліся ў лес. Змрочны быў лес, сыры, з дрэў капала — імжэла морась. Скора ўсе вымаклі ўшчэнт. Мікульскі адчуваў, як сціскае холадам спіну; пінжак прамок навылёт, з валасоў капала за каўнер. Астатнім, здаецца, было нішто, угрэліся, паспяваючы за ім.

Недзе справа, зусім блізка, была Мышанка, яе забалочаная пойма. Але ні ў пойму, ні ў самую Мышанку не хацелася лезці, і яны забіралі ўвесь час улева, браліся грудамі... Месцы былі глухія, і яны ішлі смела, аж пакуль не дасягнулі дарогі, што вяла на поўдзень, на мост цераз Мышанку. Перайшлі раку па мосце і пайшлі далей на поўдзень, у Тухавічы. Трэба было думаць пра адпачынак...

Добрыя людзі ў Тухавічах. Жылі яны як у бога за пазухай. Немцы наведвалі вёску рэдка, паліцэйскіх не было, блакада пакуль што не пачалася. Ішлі і ішлі людзі ў хату да партызан, каб пачуць, што робіцца на свеце, і ці праўда, што немцаў акружылі пад Сталінградам. І даводзілася ў каторы раз паўтараць свой расказ: праўда, праўда... А падрабязнасцей не ведалі, толькі тое, што пачулі ў Аржанаве ад палоннага немца-шафёра. Але і гэтага было досыць, людскія сэрцы цяплелі і нібы расчыняліся насцеж. Назносілі ім сяляне хлеба, каўбас, сала. А адзін дзядзька, як сабраліся ісці далей, вынес Мікульскаму новы кажух.

— Гарачы ты, сынок, вельмі... Не тое цяпер надвор'е, каб так фарсіць, як ты. Бяры і не памінай ліхам.

— Дзякую, дзядзька. Дарагая рэч, калі вярну — не ведаю.

— Жывы астанешся — вернеш, не — і так добра будзе. Пасля вайны на чарку запросіш — так і палічымся.

А другі зняў з галавы заечую шапку.

— Не гадзіцца — у кажуху і без шапкі. На, вот, мерай... Во, бач, як на цябе і шытая...

## 2

— Дазвольце? — у дзверы пастукалі. Але пастукалі проста для прыліку, бо, мусіць, хто стукаў, зайшоў ужо ў зямлянку: дзверы былі адчынены. Мікульскі пазнаў голас Палуяна.

— Заходзь, Адам.

Сказаў ціха, нібы незадаволена, і Палуян зразу ўлавіў гэта. Падыходзіў да табурэткі прыціхлы, быццам і не ён толькі што пытаўся такім прафесійна-бадзёрым голасам.

— Ну, як сябе адчуваеце, хворы? — спытаў Мікульскі ў Адама, падрабляючыся пад яго голас.— На што скардзіцеся? Што баліць? — і гэтым яшчэ больш абяззброіў яго і збянтэжыў.

Палуян сеў на табурэтку, крэкнуў. Доўга варушыўся, хукаў — мусіць, збіраўся праціраць акуляры.

«Цяпер яго хоць за нос хапай — нічога не бачыць...» — Мікульскі ўявіў, як Палуян па-дзіцячы міргае чырвонымі набрынялымі павекамі — вечна недасыпае Адам. Вось, мабыць, пацірае вялікім і ўказальным пальцамі барвовую ўмяцінку на пераноссі, шмыгае вострым, з гарбінкаю, носам. Было не раз, што зрывала яму з носа акуляры галінкаю — лес! — і Адам поўзаў тады, абмацваў пад нагамі кожны сантыметр, пакуль не знаходзіў прапажу. А было раз, што акуляры засталіся вісець на галінцы, і ён не мог знайсці іх.

У двух кроках ад лагера было гэта, а ледзь прыйшоў. Пасылалі на прачоску таго месца цэлы ўзвод.

— Не тры, Адам, так доўга... Чысцей не стануць.

— Ага-а-а... Вы праўду кажаце. Як яны стануць, калі лінзы амаль матавыя парабіліся. Адны драпіны. Трэба было б даўно мяняць, ды няма ў лесе аптэкі. Няма! Ага-а-а... Ну, што ж, як вы пачуваецеся?

— Па-мойму, гэта ў вас ужо другія акуляры? Ці так?

— Трэція! Усё Палессе на сто вёрст ведае, якія мне трэба акуляры — мінус шэсць з паловаю левае шкельца і мінус чатыры правае. Гэтыя з Пінска пераслала «паненка».

Мікульскі зноў усміхнуўся, бо ўявіў тую сувязнуюпольку — «паненку». Прасілі ў яе дастаць карту мясцовасці, а прыслала... калоду карт. Толькі нейкія дзіўныя: замест крэсці — дубовыя жалуды. Ледзь уталкавалі ёй, што трэба карта, мапа па-іхняму. Дастала...

І добрая была карта — тая самая, што спалілі з Анютаю ў лесе.

— Не, дык як вы тут? — зноў папытаў Адам.

— Гадоў праз дзесяць вам акуляры не спатрэбяцца. У пажылым веку людзі робяцца дальназоркія.

— Бывае, што наступае такая раўнавага... Бывае — плюс пагашае мінус... Але рэдка! О, каб заўсёды можна было пагашаць нейкі мінус плюсам ці наадварот! Як вашы мінусы сёння, га?

— Шчыра?

— Ну — вядома ж!

— Няважна, доктар. А паколькі ўсё, што ў вашых сілах, зроблена, не будзем больш пра гэта гаварыць. Як там па-латыні — воленс-ноленс, а трэба цярпець, сціснуўшы зубы... Праўда, сціснуць зубы я якраз і не магу.

— Ага, воленс-няволенс...— уздыхнуў Палуян.— Амаль унум эт ідэм... тое ж самае, што і па-нашаму. Цыркулюс віцыёзус... Парочны, заганны круг. Як мы папрасту кажам: хоць круць-верць, хоць верць-круць. Адна трасца... Я мог бы вас сплавіць у брыгадны шпіталь ці ў шпіталь злучэння. А толк адзін, хоць там і ўрачоў больш. З нашымі інструментамі аперацыю ў воку не зробіш. Самае большае, што я магу — зацыраваць дзірку, адпілаваць нагу ці руку... Перавязкі, уколы, парашкі сякія-такія... Добра, што апошнім часам, як аэрадром зрабілі, падкінулі хоць ёду, медыкаментаў, інструменту, бінтоў...

— Мы ж вас не вінавацім, таварыш доктар. Лечыце вы добра.

— Добра! Добра! — усхапіўся Палуян.— Якое к чорту добра, калі людзі паміраюць! — ступіў крокі два сюд-туд і зноў сеў.— Гагік гэты, Грыгаран... Пакуль даставілі, у яго ўжо калапс быў! Яму б крыві ўліць, аперацыю брушной поласці... Праўда, і аперацыя не памагла б... Перытаніт... агульны... І заражэнне. Усе думаюць, што я — бог. А я не бог! Не! І нічога не магу зрабіць, калі чалавек памірае...

— Адам Іосіфавіч, ніхто так не лічыць.

— Як жа не лічаць! Усе! Вы не бачылі, якімі вачыма глядзелі на мяне і Лысуха, і гэтыя — Харашун, Нядзелька... Яны думаюць: я — калода, чурбак дурны, я перажываць не магу. А я павінен усё ў душы пераносіць ды яшчэ і іншых падбадзёрваць! Слоўная тэра-

пія... А ў мяне ўжо не стае на гэта сілы! На іх нечакана бяда звалілася, смерць гэтая... Ну — стрэс, папсіхавалі, паперажывалі. А я ўжо ўчора ведаў, што памрэ Грыгаран. Калі думаеце, што гэта лёгка — ведаць загадзя, а прыкідвацца, што і для мяне нечаканасць, то...

— Ніхто не гаворыць, што лёгка...

— Тут як зуб ірваць. Я магу шмаргануць — і войкнуць не паспееце. А мой бацька, каваль, тожа некалі практыкаваўся на зубах... Дамарослы эскулап... Людзі прымусілі — спецыяліст жа! Коней падкоўвае! То што для яго нейкі там зуб? Ага... Дык ухапіў абцугамі апошненькі зуб у бабкі Дэрдзіхі... Тырчаў, як кол, бедная і рот замінаў закрыць... Дык дзёрнуць трэба было, а бацька цягне. Бабка ўчапілася абедзвюх за яго руку, павісла, падкурчыўшы ногі... «Стань,— кажа,— каб ты не ўстала!» Расцягвае бабку, як гуму, другою рукою ўніз... за нагу. Паўгадзіны за сабою па хаце вадзіў і насіў на руцэ, ляманту — на ўсё сяло... Ён тады ў сенцы — то добра, што парог быў высокі. Спатыкнулася бабка, і зуб вылецеў.

Мікульскі рагатаў, трымаючыся ад болю за галаву.

— Зайздрошчу вам: заўтра ўжо будзеце на вызваленай зямлі,—чутно было, як Палуян ліў з бутэлькі.

— Мне не трэба — бралі па кроплі з Прымаком.

Адам пажадаў здароўя і выпіў.

— Застыла ваша мачанне...

— Дары лесу. Каштуйце, вяпраціна без усякай падробкі.

— У-у-у, ну і мяса... Як гума. Каб пусціў, то свіснула б па губах, па носе. Кінжал трэба з сабою насіць: адцягнуў — чык! Адцягнуў — чык...

— А што — няма нажа на стале?

— Сяду далей ад сцяны... А то адарвецца кавалак — патыліцу разаб'ю.

Мікульскі зноў зарагатаў, здавалася — расколецца, рассыплецца чэрап.

— Ой, пане Адаме...— сціснуў рукамі галаву.— Хопіць псіхатэрапіі, бо кончуся.

— Мо пазваць Раю, хай кальне зноў?

— Не трэба часта... А то яшчэ марфіністам стану.

— Адыходзяць хлопцы ў рэйд... Харошыя хлопцы. А некаторыя на калені становяцца, вуха — да зямлі. Слухаюць, ці не чуваць фронт... Каму, можа, і не хацелася б ісці. А я — на крылах бы! Хацеў прасіцца ў

Прымака, каб узяў з сабою, каб хоць раз добра пастраляць з аўтамата, каб бачыць, што і ад тваіх куль падаюць фрыцы... А потым падумаў: нашто хлопцам такая абуза? А раптам разаб'ю акуляры ці згублю — што ім рабіць са мною? Цацкацца, як кошка з жабаю? Але каб такое здарылася, то я сам бы сабе кулю пусціў у лоб.

— Адам Іосіфавіч, не прымушайце мяне паўтараць азы: ваяваць можна не толькі кулямі.

— Ведаю гэтыя азбучныя ісціны, ведаю. Але ж на свеце ўсё ўстакроць больш складана, як здаецца...

— Гэта праўда!

— Часам клянеш сябе на чым свет стаіць: чаго мяне чорт узбіў на гэтае фельчарства?! Сотні прафесій ёсць на свеце. Сотні! І ніхто з гэтых соцень не бывае ў такім дурацкім становішчы, як мы — медыкі. Бяссільныя, непатрэбныя... Памагатыя смерці — думаеце, так сабе нас завуць?

— Перастаньце караць сябе! — Мікульскі не заўважыў, як перайшоў на «вы». Нібы чым больш шчыраваў і выказваўся, прыніжаў свае здольнасці і магчымасці Адам, тым больш узвышаўся і ўжо не проста фельчар гэта быў, а праўда — урач, знакаміты і ўсімі паважаны, аўтарытэтны доктар-цудатворца, які з нічога можа зрабіць многае, які нібы па загаду чароўнай палачкі раставіць хворых на ногі, загойвае, бы жывою вадою, раны. І не такім ужо прасцецкім ён быў, як здаваўся Мікульскаму да сённяшняга дня.

Знадворку, мусіць, дзвярэй за сабою Палуян не зачыніў, разам з іншымі гукамі прыляцела лёгкае пакашліванне — але гучна, бы ў мегафон.

— Заходзь, чаго ты мнешся? — выгукнуў раптам Палуян.

— Хто гэта? — Мікульскі глыбей сеў на тапчане, адкінуўся плячыма да сцяны.

— Кашкан... Іллюк... Выздараўлівае ўжо, з палачкай ходзе.

Хтосьці асцярожна спускаўся па прыступках да іх у зямлянку.

— Пісьмо тут... Пісульку Рая пакінула.

— Якую пісульку? Ты што? А сама дзе дзелася? — сыпануў Палуян да Іллюка пытаннямі.

— Пайшла з Прымаком у рэйд... Вот запіска.

Ледзь улоўна зашалахцела паперка.

— От, ліхаматары, верціхвостка! Нічога ж не казала — шморг украдня... Колькі зараз? О, больш дзвюх гадзін прайшло, як выступілі. Цяжка даганяць... Вы не ведаеце маршруту?

— Не...— азваўся Кашкан.

— Я не ў цябе пытаю. Ты можаш ісці... Стой, стой! А чаму так позна прынёс запіску?

— Папрасіла яна: «Праз дзве гадзіны аддай...»

— Ідзі! Спалніцельны вельмі!

— У Самсонава пра маршрут можна спытаць.— Мікульскі чамусьці быў задаволены.

— Няма Самсонава.

Рыпнулі за Іллюком дзверы.

— Ды ці варта даганяць, Адам Іосіфавіч? Яна там больш спатрэбіцца.

— Дык і тут жа трэба! Раненых колькі... А Анюта ў такім стане... Ды я не ведаю, чым больш кіравалася Рая... Пад Прымака ўжо кліны падбівае. А калі ў гэтым дзеле баба ініцыятыву праяўляе, то ніякі мужык не ўстаіць.

— Не трэба так, доктар... Хай ідуць разам. Думаеце, не хочацца ёй сапраўднага кахання?

— Во як вы ўжо... прабачце за грубасць.. запелі? А ці даўно было, што лупцавалі яе?

— То яна ж і прыціхла пасля таго.

— Дзіва што! Гэта вы не ведаеце...

— Што яна накрэмзала?

— А-а... Ёсць што чытаць, ды няма чаго слухаць: «Мой мілы, бурклівы дактарок!..» Кгм... І мяне ўжо ў мілыя запісала, а то казала, што ростам не выйшаў... Кгм... «Я ўяўляю, як тапырацца зараз, калі вы чытаеце гэтую запіску, вашы кароткія вусы, як разбірае вас злосць. Не крыўдуйце на мяне, даруйце нам грахі нашы, як даруе іх гасподзь бог. Я ж не крыўдую на Мікульскага за навуку! Карацей — іду ў паход! Кланяюся і вам, і майму настаўніку — стопрацэнтнаму праведніку. Я буду доўга помніць яго ўрок, хай не перажывае за мяне і спакойна выздараўлівае. А вось калі будзем жывы ды сустрэнемся ў мірны час. Во пацеха будзе! Рая».

— Ну, што ж — нармальная запіска.

— Каму нармальная, а каму і не. Цяпер мне круці мазгамі, шукай другую сястру.

— Банальная ісціна: што маем — не цэнім, губ-

ляем — шкадуем. А галаву паламаць прыйдзецца: як там наш... запасны шпіталь?

— Ну-у... у норме. А што?

— Трэба праверыць зямлянкі, падчысціць, падрамантаваць. І быць гатовым да перасялення... Мо давядзецца манеўраваць.

— Папрашу Самсонава, каб паслаў чалавек колькі — хай паглядзяць, маскіроўку падправяць... А што?..

— Не выключаецца, што немцы яшчэ раз паспрабуюць чысціць свае тылы перад адступленнем. На Ліпнішкі сунуліся былі, на Краі... Тыдня яшчэ не прайшло... Занялі нашы зноў іх. Усё спляжана. Мы з Анютай нарваліся на карнікаў каля Кладоў. Самсонаў нічога не гаварыў? Няма ў яго вестак, адкуль яны ўзяліся?

— Не гаварыў.

— Трэба да ўсяго быць гатовым,— паўтарыў Мікульскі.

— Зада-а-ачку вы мне задалі... І начштаба няма, паскакаў у брыгаду.

— Хвілiначку, доктар. Я ўсё дзяржу ў галаве, каб папытаць... Гэта праўда, што Анюта збіраецца маці стаць?

— Як тое, што я стаю тут перад вамі.— Палуян развітваецца.

— Ясна.

Мікульскі зноў астаецца адзін.

«Хто яшчэ ведае пра цяжарнасць Анюты? Прымак... Прымаку мусіў сказаць Палуян, ён абавязан пра ўсё дакладваць. А мог бы і не гаварыць — урачэбная тайна... Не, не той выпадак, каб маўчаць. Камандзір павінен ведаць усё, што робіцца ў атрадзе. А мо пайшло шырэй? Мо і Самсонаў ведае, і партызаны... I ў брыгадзе... «Во чым займаюцца! Во да чаго ў іх дайшло! Во як ваююць! Ці на сваім месцы там камісар?» Як ведае пра гэта Канькоў, то данёс ужо і ў брыгаду... Толькі і не хапала нам раддом адкрыць... Партызанскі...»

«Хай бы памаўчаў Палуян... Скора нашы прыйдуць, і ўсё было б у норме...»

«Гэта я як камісар лічу? Так ці не так павінен разважаць камісар? Якая мая пазіцыя тут як камісара?

Ну, калі, дапусцім, я не камісар, а проста партызан, чалавек... Ну-у?»

«А цэ ж підлісць, Тыміш! Давысь мэні ў очы... Ты ж нэ підлюка? Ні?!» — нібы чуе Мікульскі голас Васіля.

Не, ніякай розніцы не можа быць. І паспрабуй правядзі мяжу, дзе канчаецца камісар і пачынаецца проста чалавек. «Не, не і не! Ніякай мяжы не можа быць, ніякай супярэчлівасці. Камісар, які мае справу з жывымі людзьмі, і павінен быць увасабленнем вышэйшай чалавечнасці, справядлівасці. Гэтае хочуць бачыць ува мне людзі!»

«Цікава, а што сказаў бы ў такой сітуацыі Камароў? Ён жа нават сватам быць набіваўся... А цяпер мо кумам захацеў бы ці хрышчоным бацькам быць...»

«Не разумею: душна мне ці зябка... Лоб мокры, а трасе... Кажуць, як крыві многа страціш — холадам трэ... Кінулі аднаго... Хай бы хто шынель мой прынёс».

Падняўся, наставіў перад сабою рукі і ступіў колькі крокаў да дзвярэй, арыентуючыся на гукі.

— Іллюк! Ты тут ці не?

— Тут, тут! — данеслася знадворку.

— Памажы, браток...

Іллюк двойчы асцярожна ступіў да яго па прыступках — «руб дваццаць, руб — дваццаць...». Падаў Мікульскаму руку. Намацваючы нагамі ўсходцы, Цімох Андрэевіч выбраўся наверх.

— Павадыр і сляпы... Начапіць нам торбы і можна хадзіць у падарэйкі,— хацеў нібыта пажартаваць.

— Вылечаць вас, казаў Палуян,— суцешыў яго Іллюк.

— Дзякуй за добрае слова. А цяпер вядзі мяне да таго пня ў курылцы... І гэта... заскоч да Самсонава ў зямлянку, папрасі мой шынель і цясак.

— Боязна... Няма яго, у брыгаду паехаў, а ўсядно боязна... Не прывык да начальства хадзіць.

— Прывыкай, спатрэбіцца. А пакуль будзеш ісці туды-сюды, падумай: я хацеў бы, каб ты згадзіўся пабыць сёння-заўтра маім памочнікам... Ты ж ведаеш, што з Эдзікам...

— Ведаю.

— Як твая нага?

— Нічога... Вы трошкі пастойце, я зараз.

Ісці да курылкі трэба цераз усё стойбішча па дыяганалі, бо зямлянка камандзіра ў кутку. З правага бо-

ку — рад зямлянак, дзе жылі партызаны, злева, перпендыкулярна да таго рада, побач з камандзірскай — штабная (там і жылі Самсонаў і Мікульскі), яшчэ далей — жаночая, потым, у другім кутку прамавугольніка, бліжэй да Ліпнішак, шпітальная, той самы апушчаны ў зямлю зруб. Насупраць гэтага рада, па другі бок паляны, склады, кухня, сталы, на якіх і харчаваліся, і чысцілі зброю. Мог бы, каб патрэніравацца, хадзіць тут Мікульскі і без праважатых.

Ён стаяў і слухаў, як стукае дзесьці ў дзверы Ільлюк,— у штабную зямлянку, як заходзіць. Самсонава няма, паехаў у Ліпнішкі, па яго прыязджаў сувязны. Але ж там павінен быць дзяжурны і пісар... Хтосьці з ротных камандзіраў. Калі застаўся хто...

Чуваць няроўны шоргат крокаў. Падыходзіць Ільлюк, накідвае яму на плечы шынель, нясмела бярэ пад локаць.

— Відаць, што ты яшчэ дзевак не вадзіў пад ручку,— пажартаваў Мікульскі.

— Гэ, яшчэ колькі!

— Не ўмееш брахаць. Колькі табе было да вайны?

— Пятнаццаць.

— Ну — во-о... А цяпер семнаццаць.

— Васемнаццаць поўных, адзін месяц на дзевятнаццаты.

— Вучыцца табе трэба. Сем класаў кончыў да вайны?

— Сем. Я і ў восьмы пайшоў бы, але ў нас толькі НСШ была — няпоўная сярэдняя школа. А ў адыход не пусціў бацька — кватэру наймай, у торбу давай. Дзесяцігодка ў нас у Слабадзе, васемнаццаць кіламетраў.

Ільлюк давёў яго да пня. Мікульскі памацаў нагою, асцярожна, не нахіляючы галаў, сеў.

— А цяпер ты мне зрэж арэшынку на кіёк. Толькі не церабі — я сам пазабаўлюся.

Кашкан зашамацеў лісцем, пабраўся ў гушчар. Падалей ад лагера, бо блізка было забаронена зломваць нават і маленькую галінку. Цяпер, калі ён сядзеў тварам да цэнтра лагера, то кухня і склады былі злева, партызанскія зямлянкі проста перад ім, шпіталь справа і канавязі дзесьці побач, справа. За спінаю, як ісці ў суседні атрад, на паўдарозе да ручая, з якога бралі ваду на пітво, лазня — метраў сто ад лагера. Добра наладжаны партызанскі быт, абжыты куток. Што ж, з

самай вясны базу ніхто не трывожыў, а на адным месцы і камень абрастае.

«Ці прывязе Самсонаў якую вестку са штаба? Павінен ужо быць нейкі адказ ад Кляшчова... Няўжо і сакратар абкома не можа вырашыць, як будзе з маёй партыйнасцю?»

Ззаду шоргат і шастанне лісця аб лісце. Вяртаецца Кашкан.

— Выразаў? Ну — маладзец. Давай усё сюды, я сам буду абрабляць. Дзякую за помач.

— Няма за што,— сказаў Іллюк, аддаючы яму ў рукі арэшыну і цясак.

— Ты куды зараз? Ёсць якая справа?

— Ды так... бадзяюся. На світанку ў лісічкі хадзіў. Нарасло — аж дол жоўты. Суп грыбны на абед.

— Ну — дык што?

— Што — што?

— Заштокаў... Як глядзіш на маю прапанову? Не бойся, я цябе вельмі ганяць не буду.

— А-а... Унь пра што вы...— нібы нехаця ці з роздумам сказаў Кашкан.— Дык я й так вам буду памагаць.

— Ну і добра. Гэта — на сёння-заўтра толькі.

І раптам Мікульскі коратка рагатнуў:

— А наогул ты... ганарысты хлопец. От, скажы, каб я здаровы быў, нікуды мяне не адпраўлялі, згадзіўся б ты быць маім ардынарцам?

— Не.

— Чаму? Толькі ўжо шчыра кажы, калі завялася ў нас такая гаворка.

— Чаму, чаму... Не звык я каля начальства круціцца, падхалімнічаць.

— А хто ж цябе прымушае падхалімнічаць? Я і сам такіх не цярплю. Лічу, што гэта — адна з самых гнюсных чалавечых заган. Эдзік малы, лічы, быў, а ён мне такое ў вочы рэзаў — дзяржыся. Ардынарац можа быць свайму камандзіру толькі сябрам... Мая такая думка... Калі ж выконвае свае абавязкі па прымусу, па загаду — гэта ўжо не памочнік. От Прымака возьмем... Думаеш, мала ў камандзіра атрада клопатаў? Галава пухне... Пра сябе няма калі падумаць. Клопаты — не раўня тваім, адказнасць — ты і не сніў такую. Радавому лягчэй, пра радавога камандзір клапоціцца, думае. Прызнайся, пра падхалімства — загнуў?

— Загнуў, таварыш камісар.

Мікульскі паабсякаў навобмацак амаль усе галінкі. Адмераў сажань, націснуў лязом на пруцік, пакруціў. Хрэп! — верх адламаўся сам.

— Дык от, калі загнуў, то давай усё-такі па шчырасці, таварыш ёрш.

— Любіце ж вы душу чалавеку выварочваць...— Кашкан, чувась, устаў з бярвенца, што ляжала каля вогнішча і служыла за лаўку. Абодва пачулі, як пагукаў Іллюка Палуян: «Хадзі сюды!» І тады хлопец паспяшыў сказаць тое, што не сказаў першы раз: — Не хачу, каб на мяне пальцам паказвалі хлопцы: «Во месцейка знайшоў! І сытна, і ціха».

— А хто так гаворыць? Хаця не, прозвішча не патрабую. Так можа пляскаць языком толькі хісткі, анархічны элемент. Куля не разбіраецца, у каго біць — радавога партызана, ардынарца ці камандзіра. А Галубоўскі нават усю міну залучыў — мала кулі было...— Мікульскаму раптам зрабілася цяжка і горна. Махнуў рукою: — Ідзі! Нешта Адам хоча, каб памог. Ідзі...

Каля зямлянак мацнела гамана, лязгат затвораў. Збіраліся чысціць зброю.

— От вы дзе!.. А я аббегала ўвесь лагер...— Мікульскі пачуў каля сябе задыханы грубы голас кухаркі Фядоры.— Наце і вам кубачак малака. Напарыла... Дасталі хлопцы спецыяльна для раненых.

Ад конаўкі патыхала гарачынёй. Здавалася, што гарачыня праменілася і ад задыханай і — пэўна ж! — расчырванелай кухаркі.

Ледзь дачакалася, пакуль ён вып'е, як выхапіла з рук пасудзіну.

— Пабягу яшчэ налью. Заходзіла да Анюты — спіць! І што сабе думае гэты Палуян: у нас адна была накаўталася сонных парашкоў — і не прачнулася...

* * *

Адданасць і здрада... Мужнасць і палахлівасць... Гэта існавала вечна, і няўжо так і будзе існаваць? Як плюс і мінус, як свет і антысвет, дабро і зло? Гэтак закладзена, мусіць, у самой прыродзе чалавека, і нельга нічога змяніць. Тут нават самы перадавы грамадскі лад жыцця мала паможа, сацыяльная структура грамадства, сацыялістычная эканоміка...

Такія думкі былі апанавалі Мікульскага, як ішлі далей ад яра, зарослага яшчэ зялёнай, але нібы апечанай марозам крапівай, дзе засталося цела Пыкава. Думаў, і тут жа ўсё бунтавала ў душы. «Дык як жа так? Адкуль бяруцца такія вырадкі? Аднымі недахопамі ў выхаванні гэта не вытлумачыш... Так, так, вырадкі, іменна вырадкі... У сям'і не без вырадка... Хаця не — так тлумачыць надта прымітыўна. Вырадак — з'ява паталагічная, такое з медыцынай звязана, з фізіялогіяй. А тут перш за ўсё сацыяльны бок з'явы трэба бачыць... Ёсць такое слоўца — міязмы... От такія міязмы і распаўсюджвае капіталізм. У каго больш гнільцы, няўстойлівасці, там і глыбейшы засеў заразы. А ў час вось такіх катаклізмаў гэта найбольш і праяўляецца...»

Мікульскі ішоў ды ішоў спераду — моўчкі, як і ўсе, і сумбурныя думкі доўга мучылі яго. Калі і ўзнікала ў групе якая гаворка, то ўпаўголаса і тут жа затухала. На душы ў яго было цяжка і каламутна. Не лепш, мабыць, і ў астатніх. Асабліва зніякавелаю і нібы расчаўленаю — такое нарабілася на яе вачах! — здавалася Анюта. Смерць увогуле не схіляе да размовы, а такая, што адбылася на тваіх вачах,— асабліва. Самі асудзілі таварыша на смерць, самі выканалі прысуд... Ды, зрэшты, які ён быў таварыш? Не такіх людзей таварышамі называюць...

У Тухавічах адпачывалі і карміліся ў трох хатах: Дубінскі, Сашка-кастраміч і Пыкаў — асобна, Мікульскі, Эдзік і Шыпняк — яшчэ ў адной. Была спачатку асобна, у трэцяй хаце, і Анюта...

Як толькі засталіся ў хаце адны, а гаспадары выйшлі ўхадзіцца па гаспадарцы, Эдзік не вытрымаў, расказаў, што ён бачыў.

— Я за хлеў выходзіў, у кусты... Ну — на хутары, там... Дык Пыкаў дачакаўся, пакуль я вярнуся ў хату, зноў лягу, і да таго дзядзькі Хамы — давай шаптацца...

— Дык ты ж лёг спаты! Як цэ так магло буты: і спаў, і бачыў, чуў іх шэпіт? — не вытрываў Шыпняк.— Іды кладыся зараз та й спі. Усэ бігаеш, бігаеш...

— «Як цэ»...— перакрывіў Васіля Эдзік.— Ён пад акно падыходзіў паглядзець, ці ўсе спяць. Цень па столі махнуўся, а я круць — і заўважыў, што адыходзіць ад акна... І тут мне зноў захацелася на двор... Я ў сенцы і не адчыняю, а пад акенца. Маленькае такое, як

байніца. І ўбачыў: шэпчуцца яны. А тады гаспадар на каня і ходу...

— Та-а-ак... Ну — далей! — падагнаў яго Мікульскі, адчуўшы, як усё ў ім напружылася.

— Далей? А хіба не ясна? Здраднік Пыкаў! Ён знарок паслаў дзядзьку па немцаў і паліцаяў!

— Шчо ты мэлэш?! Він з намы вжэ скількы прайшов! Забув, шчо сам прывів нас да нёго, до ёго групы?

— Прывёў, ну й што? — дзёрзка зірнуў на яго Галубоўскі.— На лбе ў яго было напісана, што будзе здраднікам? Я столькі ведаў яго, як і вас.

— У цябе ўсё, Эдзік? — падагнаў Мікульскі зноў.

— Не, не ўсё. Яшчэ там, у атрадзе Фядоркава, бачыў раз падазронае... Пыкаў з бідонамі прыязджаў на Шчару і таксама гаварыў з незнаёмым чалавекам. І таксама неяк украдкаю... І той чалавек адразу пашыбаваў на чоўне на той бераг.

— Чаму ж ты адразу нічога нам не сказаў? — спытаў Мікульскі. І гэта самае, мабыць, хацеў папытаць і Шыпняк, але толькі разявіў і стуліў рот, чакаючы, калі скончыць гаварыць Мікульскі. Ды так нічога і не папытаў, а толькі нахмурыў бровы, пільна ўглядаючыся ў Эдзіка, бы не пазнаваў яго.

— А таму! Ці мала хто з кім і чаго можа сустракацца. Я бачыў, як вы з Анюткаю-вучыцелкаю шэпчацеся і абдымаецеся, дык што? Адразу крычаць «караул!»?

— От нахаба! Я тобі зараз патылыцю почухаю, то будэш знаты! — у Васілёвых вачах быў і дабрадушны гнеў, і смех.

— Пра што яны канкрэтна гаварылі — не чуў? — вяртаў Мікульскі Эдзіка да той сустрэчы на Шчары.

— Спачатку ерунду нейкую. Той, што прыплыў: «Гузік згубілі, во, ніткі тырчаць». А Пыкаў: «Не згубіў. Слаба трымаўся, то я адарваў. Во ён...» — і паказаў, мабыць, гузік. «Калі няма чым прышыць, то магу даць іголку з ніткай...» — зноў той, што прыплыў. Пыкаў на гэта: «Пакажыце! Не, я суравымі прышываю — мацней. Які нумар нітак?» — «Дзесяты, чорныя». Пасля гэтага ціха гаварылі — не разабраў нічога...

— Што яшчэ заўважыў? — Мікульскі, слухаючы, некалькі разоў зірнуў на Шыпняка, а той, выразна, на яго.

— Нічога больш. Я спецыяльна не сачыў. Але па-

думайце: чаму немцы-карнікі ішлі за намі па пятах? Чаму яны гэтак дакладна ведалі размяшчэнне атрада Фядоркава?

— А ў Шчырым Бары жылі, тай нычого! — задзіраў Эдзіка Васіль.

— Жылі! Бо не паспеў мо перадаць пра нас. Ці чакаў, пакуль больш збярэцца.

— Мо якраз ужо акружылі тых, што асталіся... Н-да-а...

— А там жа дзеці! І Янучок!

Галубоўскага як не трэсла, і ён з дакорам і болем глядзеў то на Мікульскага, то на Васіля. Чаму і яны так не перажываюць, як ён, не абураюцца? Чаму не бягуць, не хапаюць таго гада Пыкава?

— Нэ ку́рарт ім будэ, нэ ку́рарт... Так казав дзід Каржаніўскі?

У гэты час увайшла ў хату гаспадыня, пачала цадзіць малако. Кожнаму паднесла ў вялізнай меднай конаўцы.

— А хлопцу нашаму не давайце: з жыватом у яго —таго...— сказаў Мікульскі.

— Лякса? Гэ, ды як жа вам не сорамна. А яшчэ лясныя людзі! Не ведаеце простага сродку: альховыя шышачкі! Пяць штучак на паўшклянкі, хай закіпяць, пастаяць з гадзінку. Я ото і зраблю...— яна падставіла заслончык бліжэй да печы і палезла наверх. Там пад бэлькаю наразвешвана ў яе многа розных мяшэчкаў з зёлкамі.— У маіх дзяцей, як малыя былі, нічым нельга было направіць жывот — толькі шышачкамі. Адну лыжку нашча выпіваюць, адну перад абедам — і як зарве ўсядно!

Гаспадыня быццам і не збіралася больш выходзіць з хаты, паставіла варыць на прыпечку на трыножках сваё лякарства ў кансервавай бляшанцы. Сама села абіраць бульбу — зварыць ім свежага супу.

— А від прастуды, кашлю ў вас нічога не мае? — падышоў да самай цёткі і даверліва і з цікаўнасцю схіліўся над ёю Васіль.— Одын товарыш у нас дужэ кашляе.

— Ёсць, анягож няма. І бабоўнік, і маліннік, і ліпавы цвет. А яшчэ добра пяткі на чарэні напячы... А таварыш ваш не тая дзеўка, што заходзіла напачатку?

— Вона, цітко.

— Чула, чула... Гадкі ў яе кашаль. Вы сюды яе прывядзіце, то палячу трохі і яе.

— Эдзік, памажы цётцы лупіць бульбу, а мы зараз...

Чуў яшчэ, выходзячы з Шыпняком, як цётка гаварыла:

— Я сама, я сама! Пасядзі, хлопча, аддыхні. Або ляж на чарэнь жыватом, пагрэй. Тожа памагае... Цяплю дзіцяці трэба, хіба я не ведаю? Дзяцей, як і кураня́т, не спяшы на холад выкідваць, бо адсыплюцца.

Мікульскі ўявіў, як круціцца ад такіх слоў Галубоўскі, не знаходзіць сабе месца. Не любіць хлопец, калі напамінаюць пра яго гады. А тут — дзіцем назвалі!

Яны перайшлі ўвесь двор, спыніліся каля азярода. У голых жэрдках (толькі на ніжняй чарнеў забыты бульбоўнік) свістаў вецер. Пасля цёплай хаты ён як не пранізваў іх. Побач стаяў стажок сена з абскубленымі бакамі.

— То шчо будэмо робыты? За таке — расчавыты мало! Як змію́ку!

— Ціха, па-мойму, у хлевушку гаспадар сечку рэжа.— І перайшоў на шэпт: — Калі ўсё гэта праўда — нельга яго весці далей і кроку. Так ён і новае месца атрада выкажа.

— Піду зараз і застрэлю гада!

— Не гарачыся. Судзіць яго будзем. Калектыўна!

— Якій суд?! Ты з глузду з'іхаў, чы шчо? Кажду сэкунду він можэ махендрап зробыты.

— Так трэба. Чуў? А зараз лепш ідзі і прыцягні сюды Анюту... І Сашку заадно... Ён таксама, здаецца, кашляе. Ну — каб і ён нібыта каўтнуў зелля. Дагаворымся, як і што рабіць заўтра.

...Як зноў ішлі, пакінуўшы гасцінных людзей, добрую беларускую вёску, усё і адбылося, пра што зрахаваліся. Хоць крыху не так было павярнулася, але ж...

Спыніліся ў гушчары каля яра, нібы Мікульскі хацеў паглядзець, ці ніхто не адстаў. Нібы незнарок Шыпняк апынуўся справа ад Пыкава, а Сашка злева. Ззаду ў яго былі Эдзік і Анюта, спераду — Мікульскі і Дубінскі.

— Ну, дык скажы нам, куды ты пасылаў Хаму, што яму гаварыў? — як стрэліў, ва ўпор спытаў Мікульскі.

Пыкаў па-звярынаму прысеў. У тую ж секунду Васіль і Сашка схапілі яго за кісці, заламалі рукі назад. Эдзік тут жа звязаў яго рукі тоўстаю аборкаю.

— Нэ ўсю, нэ ўсю! — Васіль наматаў канец на кулак.— Ось так...

— Галубоўскі, раскажы, што ты бачыў,— сказаў Мікульскі.

Эдзік тросся ад хвалявання, цёр свой скалечаны локаць, згінаў і разгінаў, пераступаў з нагі на нагу. Расказаў усё...

— А што я гаварыў Хаме? Што? Хто чуў? Мо наадварот, угаворваў, каб з двара і кроку не рабіў! — крычаў Пыкаў і лавіў вачыма, хацеў злавіць хоць чый погляд, знайсці ў ім спачуванне.

— І пасля гэтага Хама спакойна садзіцца на каня і едзе з двара? — сурова падцісну ў вусны Мікульскі.

— Чарцям на тым світі будэш свае балачкы розповідаты!

— Не трэба з ім цацкацца! Смерць! — выказаўся коратка Сашка, які і ва ўсякай справе любіў катэгарычнасць і яснасць.

— Пачакайце, хлопцы. Хай яшчэ пачуе: Эдзік, раскажы, што ты бачыў на Шчары.

Эдзік пераказаў.

— Гузік... Ніткі — дык гэта ж пароль! — успыхнуў Сашка.

— Няма ў вас прамых доказаў! Няма!!! І гэта самаўпраўства! Бандытызм! Я пра ўсё далажу Фядоркаву! — Пыкаў і думкі, мабыць, не дапускаў пра расстрэл.

— Ах ты... Усэ злэ на тваю маты! Він нас, юда, бандзюкамі абзывае! — варухнуў плячом, скідваючы аўтамат, Шыпняк.

— Стой! — падняў руку Мікульскі.— Абшукайце яго. Я гляджу, і сёння ў яго няма другога гузіка ў гімнасцёрцы.

Абшарылі кішэні Пыкава, знайшлі белы, мо які алавяны, нямецкі гузік. Сходзіцца... У рубашцы тырчаць суравыя ніткі.

— А цяпер раскажы, калі і як трапіў у палон і быў завербаваны. Колькі атрадаў прадаў у Белавежы! Усё падчыстую!

Пра выдадзеныя атрады і палон Мікульскі нічога не ведаў. Проста ўспомніў, як некалі крычаў на яго

каля стога малодшы лейтэнант, называў прыблудаю. Успомніў і тое, што аднойчы Пыкаў сказаў, што яму не шанцуе на атрады — Фядоркава атрад для яго ўжо чацвёрты. І тое, што Пыкаў па-рознаму расказваў партызанам пра бой на граніцы, што пад рознымі прычынамі ўхіляўся ад прамога ўдзелу ў бойках — баяўся трапіць пад кулю. Тон, якім гаварыў Мікульскі, быў такі, што Пыкаў, пэўна, падумаў: ведаюць яшчэ нешта! Дайшло штосьці да іх! І нервы здрадніка, і без таго напятыя кожны дзень, кожную гадзіну, не вытрывалі:

— Г-гады! Нічога я вам не скажу! Усё роўна капут будзе ўсім! Усім! Брахня, што немцаў ад Масквы адагналі, у Сталінградзе акружылі! Няма такое сілы, каб немцаў спыніць! Капут будзе вашым Саветам!

— Дзяржы мацней... Мы адыдзем, параімся, што рабіць з ім,— паціснуў плячо Васіля Мікульскі.

Усе пайшлі за ім убок. Але мо і пяці крокаў не зрабілі, як пачулі глухі, храбусткі ўдар. Як па камандзе, усе павярнуліся назад. Васіль падаў дагары, схапіўшыся рукамі за твар... Пыкаў, кідаючыся ўправа-ўлева, ламаўся ў гушчар. Сашка імгненна ўскінуў аўтамат...

Потым ужо, як сышліся каля цела Пыкава, Шыпняк са злосцю пхнуў яму ботам у бок.

— Сволач! Галавою мне...— адняў далоні ад твару. Нос, губы, рукі былі ў крыві.

...Не мог прадбачыць тады Мікульскі, што скора гэта гісторыя, як і забытая на грудзях шафёра кандыдацкая картачка, будзе выцягнута на свет...

* * *

Анюта прачыналася ўжо раз, але ўсё плыло нібы ў тумане, млява кружылася галава. Помніла, што быццам бы заходзіла Фядора, паіла яе малаком, памінала Крата Івана. Здаецца, і Палуян заходзіў — чаго? Заснула зноў...

Другі раз ачнулася таксама ад басавітай гаворкі Фядоры.

— Ой, вы яшчэ тут... А я, здаецца, зноў задрамала...— праказала кволым голасам, нібы прасіла прабачэння. Паспрабавала ўстаць, але пад горла падкаціла млоснасць, і зноў прылегла. Млявасць і тупы боль ва ўсім целе, ледзь сабрала сілы, каб паднесці да твару

руку, адкінуць з вачэй пасмачку валасоў — ліпкіх, нібы лясная павуціна. Не было дасюль ніколі млоснасці, хоць гэта, чула яна, бывае ў цяжарных. І дзіўна таму ёй усё, нязвычна.

— Я кажу: дзіва што задрамала! — падала голас Фядора.— Я вечарам прыходзіла, а гэта — дзень. Другія суткі ідуць, як ты спіш. Малачка я табе напарыла, з яйкам, мёдам... Пальзіцельна вельмі, доктар кажа.

— Ой, каб чаго кіслага...

— Ёсць! Ёсць і кіслае! Я зараз... Кампот зрабіла з суніц. На ўсіх не наробішся, а для хворых — ёсць.

— То мо салодкі ён?

— Не-не, няма чым саладзіць, няма сахарыны. Бягу! — і Фядора завалюхалася да выхаду.

«Бягу...» — усміхнулася Анюта. Цяжка нават уявіць, як можа бегаць кухарка. Высокая яна і не проста мажная — тоўстая. «Неабдымная»,— як жартавалі партызаны. У адной далоні Фядоры могуць схавацца дзве Анюціны.

Анюта зноў усміхнулася, сама дзівячыся з сябе, са свайго стану. Нібы і не было з ёю ўсяго, што давялося перажыць на «жалезцы», а потым з Мікульскім. Нібы ў сне было ўсё, і не з ёю, а з кімсьці другім. Можа, яшчэ не перасталі дзейнічаць Палуянавы парашкі? Усміхнулася, успомніўшы, як спрабавалі жартам падкаціцца да Фядоры хлопцы і як хапала яна за каўнер найбольш дастатных і памаўзлівых, паварочвала тварам ад сябе і давала такога плескача ніжэй спіны — ляцелі потырч. Лысуха так аднаго разу і схахміў, атрымаўшы «ляшча»: пёр, спатыкаючыся, падаючы, і расцягнуўся каля курылкі, знарок калупнуўшы носам пясок. Партызаны так грымнулі рогатам, што, здалося, раскаціліся з агню галавешкі.

— На, пажыві душу...— з'явілася зноў Фядора.— Ды пабягу камісара пакармлю, Крата. Выпусцілі Івана... Гэта ж трэба — пакалечанага чалавека засадзіць! І дзе ў гэтага Прымака сэрца?

Смачны быў кампот — духмяны, не цёплы. І галоўнае — кіслы. Выпіла і нібы аджыла Анюта.

— Ой, цётка, дзякую.

— Якая я табе цётка! — абурылася Фядора.— Мне толькі трошкі за трыццаць! Ач ты — цётку знайшла... Слухай!..— пацішыла яна свой голас да шэпту.— Як у вас усё з Васілём было, га? Хто першы сказаў — «нара-

вішся ты мне»? Га? — Фядора прысела на палок, ажно ўгнуліся дошкі, і Анюту хіснула ў той бок, да яе.

Анюта счырванела. «Чаго гэта яна раптам? Пра такое пытаецца...»

— Я й не ведаю ўжо... Разам неяк... А мо і зусім не гаварылі такога. Пацягнуліся проста адно да аднаго.

Фядора шумна ўздыхнула — бы кавальскі мех.

— А ён і не глядзіць на мяне... Бо і праўда, старая я ўжо для яго.

— Каго!

— Каго, каго... Івана Крата! Толькі ты нікому ні гу-гу!

— Ага...

— Слухай, а мо які намёк трэба рабіць ці як?

Анюта ўсміхнулася наіўнасці і недалёкасці кухаркі.

— Вы — ласкай да яго, ласкай... Уведайце, што ён больш любіць, і тое рабіце.

— Цыбулю любіць... Пад'есці добра...

— У яго, кажуць, была дзеўка, а паліцай адбіў. Мо забыцца на яе не можа.

— Ой, то чаго я тут прастарэкую, як старая баба. Пабягу Івана пакармлю!..— зарупілася Фядора.— А камісар ужо курыць у курылцы. Калі аддыхалася, то мо і ты выйдзі... Там сонейка сёння, хараша, мякка... І так канаплянка высвіствае — салавей, дый годзе! Самалёт прылятае заўтра па камісара...

Выйшла, ускалыхнуўшы ў зямлянцы паветра.

Анюта ляжала, адчуваючы млява-салодкую стому ў целе, не прыкмячаючы, што ўсміхаецца. Прыслухоўвалася да таго, што робіцца ў ёй. Яно маўчала. Яму было добранька, а значыць, добра і ёй. Адным аршынам мерала цяпер яна ўсё: а ці добра яму? І рабіць будзе ўсё для яго, і жыць для яго. Спачатку — каб захаваць плод у чэраве, каб вынасіць яго да канца. Бо не дай бог, каб здарылася што-небудзь, як з тымі двайняткамі...

Адамам і Еваю, што памерлі гвалтоўнаю смерцю, яшчэ не нарадзіўшыся...

Гэта было ўжо за ракою Лань, пад канец іх пераходу-вандроўкі. У невялікай лясной вёсцы трапілі на пахаванне. Спачатку не на само пахаванне, а даведаўшыся, што ў суседняй хаце ляжаць жонка партызана і

двое мёртвых дзетак, зайшлі туды Анюта, Васіль і Мікульскі.

Анюта спачатку дзяцей і не заўважыла, а толькі жанчыну. Твар у нябожчыцы быў жоўта-сіні, з чорнымі плямамі, спакутаваны. Ляжала яна пад абразамі, на тым месцы, дзе звычайна ў хаце стол, мусіць, на лаве і прысунутым да яе заслоне, на ўпрыгожанай лепшымі посцілкамі пасцелі. Правільней, скрутачкі пры боку нябожчыцы заўважыла, але не звярнула на іх увагі, бо надта ж маленькія яны былі, бы загарнулі па кацяняці. Калі стала на дыбачкі, то разгледзела і жаўтлявыя тварыкі.

«Мой божа, ужо настаяшча харошыя тварыкі...» — гаротліва прашаптала адна жанчына. «Пяць месяцаў, кажуць...» — другая. «Мёртвых нарадзіла і сама сканала...» — «Адарка казала, мыла яе [redacted] бабамі,— усё цела як суконка чорнае... Гэта ж так знушчацца, так знушчацца! Во такія ступакі чорныя адпячатаны...» — «Нагамі білі?! Святы божа, святы крэпкі, святы бяссмертны,— памілуй нас!» Шмыгалі насамі, выціралі вочы... «А гэта сястра яе ўгалавах сядзіць, тая, што недзе ў Палусевічах замужам?» — «Ага, наказалі ёй, прыйшла...»

Сядзелі жанчыны і на палку і пры печы, на драўляным ложку, які стаяў да яго ўпрытык, на лавах паўз сцены. З усіх шэптаў вылучаўся басавіты — папа. У кутку, пры ўваходзе, ён убіраўся ў рызу, надзяваў яшчэ нейкія ўборы на сябе і распытваў, як завуць нябожчыцу, а «младзенцаў, убіенных ва чрэве», хлопчыка і дзяўчынку, сам назваў — Адам і Ева. Іх, няхрышчаных яшчэ, як зразумела Анюта з шэптаў, калі паміраюць, то заўсёды так называюць — імёнамі прабацькі Адама і прамаці Евы. Бацюшку, мабыць, толькі што прывезлі, ён спяшаўся яшчэ на адно пахаванне і ўвесь час паглядваў у бок прыпечка. Бабулька пры печы, уся ў чорным, раздзьмухвала вугалі ў кадзільніцы. Чарнуха, пэўна, была галоўнай распарадчыцай абраду, мо той самай Адаркай, бо ў яе ўвесь час пыталі, што і як, у якім парадку рабіць.

Потым усе маліліся, а поп пахаджваў сюд-туд каля нябожчыцы і кадзіў дымам, звычайным чадным дымам з дамескам чабору (мусіць, не меў ладану), заглушаў сваім голасам усе галасы.

Чуллівая Анюта, паспеўшы наплакацца, выйшла з

хаты. У сенцах убачыла прыхіленыя да сцяны пярэруба-кладоўкі дамавіну і вечка. Дошкі пагаблявалі збольшага, толькі пралысілі, здзерлі крыху шарахавінне.

Мікульскі і Шыпняк, якія таксама заходзілі ў хату, размаўлялі на двары з мужчынамі, курылі. Дзядзькі, мабыць, толькі што вярнуліся з могілак: пры плоце стаялі выпацканыя ў гліну рыдлёўкі. У размове зноў паміналася баба Адарка, якая распарадзілася хаваць усіх траіх у адной труне, у адной магіле — матку і дзяцей.

Калі вынеслі нябожчыцу з хаты і паставілі труну на заслон каля парога, поп яшчэ раз «адправіў» яе, прачытаўшы некалькі малітваў. Ад малітваў перайшоў да казані-пропаведзі. І былі ў гэтай казані непрыхаваныя праклёны супастату, што з мячом і агнём гуляе па сёлах і гарадах, пажырае, «акі Люцыфер», нявінных людзей, нават младзенцаў. І дакор богу: нашто ён так спяшаецца засеяць божую ніву — могілкі. Ці не бачыць ён, што яны і так за паўтара года вайны выраслі ў два разы. Было і суцяшэнне, скора на ліхадзеяў нойдзе карачун, злезе з зямлі гэта пошасць, як каросливы струп. На дварэ бацюшка выглядаў невысокім, не вышэй сярэдняга росту, дый голас яго быў не такі грамыхлівы, і нават бародка — рэдкая і нібы не расчэсаная. Але слухалі яго людзі як зачараваныя, а Мікульскі і Шыпняк нават з захапленнем: незвычайны поп!

Пад вечар іх, вандроўнікаў, запрасілі на памінкі. Мікульскі аднекваўся: якія яны прычыннікі? Але сястра нябожчыцы, гаротна захутаная ў чорную хустку, адны вочы блішчалі, вельмі пачала прасіць: «Няможна адмаўляцца... І я прашу, і айцец Антоній — хоча з вамі пазнаёміцца...» — «А хіба ён зноў тут?» — «Тут! А як жа — абычай патрабуе... Ды памінальнікі разышліся ўжо... Так паседзіце, павячэраеце. І я ж хачу, каб вы Рыгору перадалі... пра такое гора... У партызанах ён, каля Рахавіч яго атрад...»

Партызаны адаспаліся і гатовы былі ўжо выступаць далей у паход. Давялося планы памяняць.

Хоць памінкі, лічылася, скончыліся, але і партызаны падымалі чаргу за «ўпакой душы» нябожчыцы і чадаў, «убіенных ва чрэве»,— такі тост прапанаваў айцец Антоній, і адмаўляцца не было як. А пакуль прыкусвалі, расказала сястра нябожчыцы, што на Саламею хтосьці навёў паліцэйскіх, падкусіў, што яна

жонка партызана. Тыя і пачалі малаціць яе — тут жа, у хаце, дапытвацца, дзе атрад мужа ды колькі ў ім людзей. Хацелі яшчэ з сабою везці ў гарнізон, дык бачаць, што няма чаго — сплывае кроўю жанчына. А мо спяшылі, баяліся, каб не нарваліся партызаны: тут пачыналася ўжо партызанская зона.

Айцец Антоній, ці поп Гарашун, як пачалі яго зваць з гэтага вечара партызаны, быў ужо на падпітку. Сядзеў на покуце ў свецкім адзенні. Чырванелі яго шчокі, пунсавелі губы, у барадзе жаўцелі крошкі хлеба. Пакуль партызаны рассаджваліся і потым, калі прыкусвалі пасля такога тосту, ён разглядаў іх, пасунуўшы бровы на зморшчаны лоб, і вочы яго цікаўна і крыху задзірыста блішчалі, што вельмі дзівіла Анюту. «Не промах поп і выпіць, і закусіць...»

— Першы раз бачу партызан зблізку...— загуў ён і сеў, больш выпрастаўшыся. На твары яго зрабіўся прыветлівы і нават вясёлы выраз. «Забыў, дзе ён сядзіць, якое гора ў хаце...» — тут жа адзначыла пра сябе Анюта. Васіль таксама разглядаў папа з іроніяй. Сашка з Дубінскім налягалі на квашаную капусту.

— Ну і як? Не звяры з рагамі, не нячысцікі?— сказаў Мікульскі.— А то яшчэ гавораць — бандыты з вялікай дарогі...— тон у яго быў задзірыста-наступальны. Хто ведае, што за чалавек гэты поп, хоць і здаўся нашым чалавекам, калі слухалі яго казань.

— Што вы, што вы! Ніхто мо цяпер так не лічыць, акром ворагаў.— Поп крыху зніякавеў, пачаў ганяць пальцам па стале крошку.

— Многія і з вашага брата так гаварылі, мне даводзілася з папамі мець справу да вайны. Аднаго папа нават укралі былі на вялікдзень, сарвалі малебен.— Мікульскі палез у кішэню — хацеў мо закурыць.

— Укралі?! Хо-хо...— пасунуўся айцец Антоній па лаве, налёг грудзьмі на стол.— Ну-ка, ну-ка, паведайце. Люблю забаўныя гісторыі!

— Ат, хай на другі раз,— аднекваўся Мікульскі.

— Да яму та шчэ й сэкрэтару райкома за цэ дзісталося на бублыкы. Як нэпрыемно — хто ж будэ вспомынаты? — падкалоў яго Шыпняк.

— Чаму непрыемна? Я з прыемнасцю ўспамінаю. Прыгода была — дай бог кожнаму. Камсамольцы ў пачатку трыццатых гадоў не спалі ў шапку, нешта рабілі...

— І дроў ламалі нямала,— падкалоў і Сашка.

— Было, што й ламалі.

Айцец Антоній настояў, і Мікульскі расказаў.

Каля галоўнага ўвахода ў царкву пусцілі хадзіць з трубамі самадзейны аркестр. І той рэзаў у час богаслужэння маршы, полькі, «Мы кузнецы...». Не чуваць нават было людзям, пра што казаў з амбону айцец Нікандр. Асіп той, стараючыся перакрычаць аркестр, пайшоў за алтар, каб прамачыць трохі горла. А хлопцы прабраліся з чорнага ходу і чакалі ўжо яго за алтаром. Кляп у рот, мяшок на галаву, увязалі паверсе вяроўкамі і пацяглі. На падводу — і гайда ў лес. Пакуль прыхаджане сварыліся і ганяліся з палкамі за аркестрантамі, пакуль чакалі, каб зноў выйшаў бацюшка, выкрадальнікаў і след прастыў. Тады ўдзельнічаў у гэтай аперацыі і сам сакратар райкома камсамола. Айцец Нікандр пазнаў яго па голасе. Пратрымалі папа паўдня ў лесе і пусцілі. Паскардзіўся айцец Нікандр у вобласць. Сакратара знялі з работы, недзе перавялі ў іншае месца. Мікульскі як сакратар ячэйкі адбыў сполахам — строгаю вымоваю.

Айцец Антоній праслухаў і гагатнуў, як гусак, ускінуў галаву. А потым спахапіўся, пасур'ёзнеў.

— Я павінен вам падзякаваць,— загаварыў Мікульскі сур'ёзна.— Мы слухалі вашу прамову з задавальненнем. Вас яшчэ ні разу не цягалі за гэта немцы?

— Было. Выкручваўся...

— Вялікую справу робіце, Антон... Не ведаю, як вас па бацьку...

— Себасцянавіч,— падказаў бацюшка.

— Антон Себасцянавіч... Мы б хацелі, каб гэту прапаганду і агітацыю вы не спынялі. Вы раз'язджаеце з вёскі ў вёску, у вас добры слых, добрыя вочы... Скажыце, дзе ваш прыход, дзе вас шукаць?

— Няма прыхода... Я, можна сказаць, нелегальны поп. Поп-бадзяга... Раней так шаўцы хадзілі з вёскі ў вёску, кажушнікі, рымары, кушняры... Паробяць, што трэба, скончацца заказы — і далей...

— Многа ў вас заказаў? — Васіль пацікавіўся.

— Многа. Памінаць памёршых і забітых, хаваць... Хрысціць дзяцей часам клічуць. Не малых — пераросткаў... Вянчаць не завуць — няма вяселляў.

— Дык чаму ў вас няма прыхода? Не далі? — вярнуў на тую ж тэму Антонія Мікульскі.

— Язык мой — вораг мой... А імеюшчые ушы да слышат. Знайшоўся Іуда, брахнуў, што я з амбону агітую супраць германскіх улад. От тады мяне і ў эсдэ цягалі, і Філафей пазбавіў прыхода. Выпусцілі толькі таму, што я быў асуджаны пры Саветах, сядзеў год. За што — не буду ўдакладняць. Непаразуменне адбылося.

— Філафей — гэта той галоўны поп, што ў Мінску?

— Той. Архіепіскап. Набрыдзень, выскачыў знекуль, як з-пад варот, усхваляе германцаў, ліжа ім азадкі. Да вайны ніхто яго не чуў і не ведаў.

— Вы — лятучы галандзец, а не свяшчэннік! — паказаў свае веды Сашка.

— М-да-а... А тую царкву, дзе быў мой прыход, спалілі немцы... Нагналі поўную царкву людзей — і спалілі...— айцец Антоній, здавалася, не чуў, што сказаў Сашка. Але так Анюце толькі здалося.— А вы, сын мой, паралель няверную праводзіце... Існавала павер'е: калі хто ўбачыць на моры карабель-здань, таго чакае пагібель. А я не прыношу пагібель нікому.

— Вы не крыўдуйце на яго, айцец Антоній,— нібы папрасіў за Сашку прабачэння Мікульскі.— Маладосць — дурносць... Дык дзе вас усё-такі шукаць, калі патрэба будзе?

— У верных людзей спытаеце — падкажуць.

— Ой, ды што тут пытацца? — умяшалася Ганна. Дасюль яна стаяла каля стала, пахаваўшы рукі пад фартух, і хмура прыслухоўвалася да размовы за сталом.— У Палусевічах знойдзеце Нічыпар Ганну, мяне, я і падкажу. Калі трэба будзе...— паправілася яна.— Толькі я не ведаю, дзе яшчэ буду жыць. Мо сюды перабяруся. Тут хата навейшая і большая: мая ліхенькая зусім.

І яна зноў замерла каля стала, як абсмаленае перуном, чорнае, надламанае дрэва.

— На гэтым і пагодзімся,— нібы падвёў вынік Антон Себасцянавіч.— А дзе вас шукаць, я не пытаю. Думаю, што лепш — не ведаць.

— Правільна думаеце. Праўда, мы пакуль што і не ведаем гэтага... Нам з'яднацца трэба са сваім атрадам,— сказаў Мікульскі.

Айцец Антоній паводзіў сябе за сталом як свой чалавек, наліваў самагонку, падкладваў бліжэй да партызан кавалкі хлеба. Сабе наліў — у цёмна-карычневы драўляны коўшык з ручкай-шыяй, як у качкі.

— Я хачу падняць чашу за тое, каб скарэй прыйшла перамога над супастатамі. Ужо цэлыя рэкі вавілонскія праліта крыві, рэкі слёз. Бог ніколі не патрабаваў такога іскуплення за грахі людскія. Ды дзе тыя грахі? Які грэх быў ва ўбіенных ва чрэве младзенцаў Адама і Евы?

— А фашысцкую кроў праліваць можна? — насуплена, спадылба паглядзеў на папа Сашка і дзеўбануў штосьці на сподку відэльцам з чорнымі драўлянымі лаўкамі, ажно віскнулі зубцы.

— Я пра людскую кроў гавару,— спакойна паправіўся батюшка.— Давайце, Цімафей Андрэевіч!

Ніхто, здаецца, не гаварыў тут, як зваць Мікульскага. Поп Гарашун знекуль гэта ўведаў, беспамылкова вызначыў у ім і старшага. У бацюшкі былі вочы і вушы разведчыка.

— За перамогу абавязкова трэба выпіць,— падтрымаў айца Антонія Мікульскі.

Пасля тосту гаварылі пра справы на франтах, пра Сталінградскую бітву. І Анюта бачыла, як перажывае Мікульскі, не ведае, што там робіцца на Волзе, як паварочваецца справа. А так бы добра было сказаць пра канкрэтныя вынікі Гарашуну — хай бы нёс па акупіраванай зямлі пераможную вестку!

Потым быў тост за новы, 1943 год,— да яго засталося некалькі дзён,— каб гэты год быў годам канчатковай перамогі над гітлераўцамі.

Анюта падымала свой гліняны, вышчарблены кубачак ужо каторы раз, але толькі мачыла губы. Не знаходзіла сілы зрабіць хоць глыток — так смярдзела прыгарэлым і буракамі самагонка.

— А вы чулі пра Клімку Камара? Не-э?! — здзівіўся бацюшка.— Дык гэта ж над усімі партызанамі партызан! Пашукаць — больш такіх не знойдзеш! — айцец зусім расчырванеўся, вочы блішчалі ад узбуджэння. Размахваючы рукамі, перакуліў на стале кантовую пузатую пляшку з недапітай гарэлкай. Кудзелістае заткла выскачыла... Васіль з такім імпэтам падхапіў бутлю, што паспела выліцца мо якая кропля.

— Ай жа спрытны! Чым не Клімка, га? — хітаў у бакі галавою, захапляўся поп.— Во такім бог і дарue бяссмерце — заступнікам народным... Ага... Дык за Клімку Камара Гітлер вялікую ўзнагароду аб'явіў... Хоць за жывога, хоць за мёртвага, абы галаву яго пры-

цяглі напаказ. Чакаюць, чакаюць — няма Іуды. А ўзнагарода не маленькая — сотня тысяч марак!

Усе маўчалі, і Гарашун схамянуўся:

— То што — мо нецікава, не расказваць?

— Кажыце, кажыце!

Поп ажывіўся яшчэ больш. Што там жыціе і дзеянні нейкіх апосталаў ці Хрыста!

— І вот раз блакаду на партызан немцы рабілі. Эсэсаў нагналі, паліцыі з ахоўных нямецкіх батальёнаў, жандараў з бляхамі латуннымі на шыі — «фельджандармерыя»...— Усе пасміхнуліся ад такіх канкрэтных дэталяў легенды.— У мястэчка, дзе важнейшы генерал сваё стойбішча — штаб-кватэру зрабіў, прылятае легкавік — не які там опель-капітан: мерседэсбенц! Афіцэр вылазіць, два салдаты і мужычок у світцы, лапцях і з мяшком. А гэта Камар быў — апрануўся, як палешучок. Ідзе афіцэр да генерала і дакладвае: так і так, затрымалі мужыка. Нясе ў мяшку галаву самога Камара, хоча ўручыць вам. «Праверыць! Можа, абман які, міна!» — генерал загадвае. «Не даецца, каб правяралі, гер генерал. Кажа: «Абдурыце мяне, далажыце, што гэта вы злавілі, а не я. А мне самому грошы трэба — зямлі накупляю, кароў, дом». Сказаў мужычок, што кулаком быў некалі. «О-о, гут, вядзіце сюды гэтага патрыёта!» А той афіцэр зноў: «Так і так, хоча мужык, каб у штабе было менш народу — саромеецца». Ну, генерал «авэкнуў», і ўсе рассыпаліся. Вядуць салдаты мужыка з мяшком, і проста ў кабінет. Афіцэр каля дзвярэй стаў, глядзіць, каб ніхто не зайшоў. «Паказвайце!» — не церпіцца генералу. Дастае мужык пакунак з мяшка — вялікі, круглы... Разгортвае... А там фіга на талерцы, з воску вылеплена! У натуральную велічыню! «Васысдас?!» — вылупіў генерал вочы. «Кіслы квас! — Камар яму па-нямецку шпарыць і рэвальвер пад рабро: — Не пікні, гад, бо зараз капут будзе! Збірай дакументы ў партфель, паедзеш з намі! Скажаце свайму ад'ютанту, што праз гадзіну вернецеся. І не рабіце рэзкіх рухаў, бо ўзарвецца — міну падкладваю!» — і сунуў яму свой партабак у кішэню. Выходзяць, усе казыраюць ім — гер-гер-гер, яволь! Так без перасадкі яго ў лес і прытарабанілі, а там на самалёт і ў Маскву.

Анюта бачыла, з якім захапленнем слухаў расказ папа Эдзік. І вочы гарэлі, і ажно рот разявіў. У астат-

ніх на тварах выраз быў крыху іранічны, паблажлівы.
— А дзе ён зараз? — скаўтнуў Галубоўскі сліну.
— Хто? — бацюшка зноў лінуў у посуд, сабе — кроплю.
— Ну — Камар той!
— А гэтага, отрак, ніхто не ведае. Сёння тут, заўтра — там! Але больш за ўсё ў нашых лясах, паблізу дзесьці... Тут цэлыя арміі партызанскія...
— Скінь ты сваю гармату хоць за сталом! — прашаптаў Сашка Эдзіку і патузаў за яго аўтамат.— Непрылічна!
— Не скіну! — Галубоўскі перасунуў толькі аўтамат з жывата на спіну.
— Він і спыць з ім, і до вітру ходыць! — пажартаваў Васіль.
— А вы ведаеце, як Клімка Камар танк нямецкі захапіў? Не?! О-о, дык гэта ж цэлая камедыя... Адзін танк захапіў, а яго яшчэ штук дзесяць падбіў. Гэта яшчэ ў сорак першым было, як немец пад Пінск падходзіў... А як гарнізон — сто немцаў і паліцаяў! — адзін ліквідаваў, не чулі? Не-е? — айцец Антоній памыляў губамі, пажаваў. Не рашыўся сказаць рэзкае, сказаў нейтральнае: — Здалёку, мабыць, ідзяце...
— З-пад Слоніма,— коратка сказаў Мікульскі.
— То й недалёка ж... І не чулі? Ды пра гэта ўся Беларусь гаворыць. Клімка Камар, кажуць, да вайны вялікім начальнікам быў...
Размаўлялі яшчэ доўга.
У той час ніхто з таварышаў Анюты не здагадваўся, што ўсе гэтыя легенды — пра партызанскага камандзіра Васіля Камарова. Можа, якраз спадручным-таварышам у таго Камара ходзіць Рыгор, якога трэба адшукаць па просьбе Ганны Нічыпар, перадаць яму страшную вестку...
Анюта выходзіла апошняй, за ёю Ганна — каб зачыніць за імі дзверы. І раптам жанчына зноў загаласіла, запрыказвала, нібы вярнулася ў рэальны свет, адправіўшы гасцей...
— А мой жа ты Грышачка-а-а! А ты жывеш і не ведаеш, якая вестачка цябе чака-е-е! А ўжо ж вылецела твая птушачка, мая сястрыца, у вырай! А во-о-ая-ёй, божухна мой! А не будуць шчабятаць табе птушаняткі-і-і... Падзяўблі іх, пахапалі крукі з каршунамі-і-і... А чаго ж ты не прыехаў на коніку, не адбараніў

і-іх?.. А мо твой конік падбіўся, раскаваўся-я-я?.. А можа, твой начальнічак не пусціў? А трэба ж было прасіцца, цалаваць яму ручкі-і-і...

Над прыціхлай вёскай плыла жудасная песня-плач. Дзесьці на ўсходзе небакрай раз-пораз асвятляўся слабай успышкай-заравам: мусіць, у нейкім гарнізоне пускалі ракеты.

## 3

Фядоркава знайшлі ў самым партызанскім цэнтры — на Рахавіцкіх хутарах. Партызаны стаялі і па хатах, і ў зямлянках. Ледзь дапыталіся, ледзь знайшлі — усе былі незнаёмыя, новыя.

Фядоркаў быў у хаце. Без барады ўжо — не пазнаць... Рая Дышаль перабінтоўвала яму далонь. Бінт быў не белы, а шэры, мусіць, не раз ужо мылі яго. Далонь Фядоркаву прастрэлілі ў адной з апошніх стычак, тут ужо, на новым месцы. Дзень быў шэры, вокны хаты маленькія, і ў прыцемку пазналі адзін аднаго хутчэй па голасе. Фядоркаў падхапіўся, тузануў бінт з рук Раі.

— Дык ты жывы, курылка?! — таўхануў яго Фядоркаў у плячо.— Дальбог, жывы... От дык каленкор! — таўхануў і другою рукою [redacted] бінтам — тут жа ахнуў, загушкаў яе, залюляў.

— Жывы, жывы... Вы б памалей...— злавіў яго левую, здаровую руку Мікульскі, горача пацiснуў. Мала ім давялося пабыць разам у атрадзе, а вось жа прывязаліся адзін да аднаго, «праніклiся сімпатыяй».

— А я ўжо хацеў памінкі па табе спраўляць...— Фядоркаў зноў працягнуў Раі далонь, каб завязала. Растрывожыў рану, напаверх павязкі прабілася чырвоная, нібы суніцу раздушылі, плямка крыві.— А хто яшчэ з табою? Ды ты расказвай, як у вас і што было... Ты ідзі, Рая... Дзякую.

— Дык жа кроў во праступіла, мо яшчэ адзін бінт зрасходаваць? — кіўнула Рая на яго руку.

— Сцiхне. Нашто лішне растрачвацца.

Рая, адыходзячы, кінула на Мікульскага цікаўны, учэпісты позірк. Тады яны пабачыліся ўпершыню.

— Бародкі ўжо няма ў вас... Непрывычна.

— Барада — справа нажыўная. Праз месяц-два зноў можа з'явіцца. Ну, то расказвай...

З Фядоркавым прагаварыў больш за гадзіну. Сказаў Мікульскі і пра Пыкава.

— Ач ты, які каленко-о-ор...— працягнуў Фядоркаў.— Але ж выйсця ў вас не было. Я зрабіў бы гэтак жа.

— Гляджу — знаёмых зусім мала...

— На дзве трэці атрад абнавіўся,— нахмурыўся Фядоркаў.— Правільней, нашых трэць у атрадзе, а астатнія— з былога атрада Канькова. Каб які дзень, то ты б мяне ў атрадзе і не застаў бы — забіраюць у штаб злучэння. Ужо загад ёсць — зноў Канькова на камандзіра. Натурысты хлопец... З месяц я быў камандзірам, дык ён месца сабе не знаходзіў: «Як гэта?! Я стварыў атрад, мой мазоль, мой пот — і д'яблу лысаму?» Ледзь управілі яму трохі мазгі... Душа анархіста, атаманскія замашкі... Нібыта абламалі трохі, а ў душы-то застаўся такі, як і быў.

— Дык у вас цяпер злучэнне? — радасна здзівіўся Мікульскі.

— Ага, такі каленкор. Злучэнне, а ў складзе яго сем атрадаў. Атрады па армейскім ўзоры — роты, узводы, аддзяленні.

— Сцяпан Іванавіч, у нас жа так і рабілася, яшчэ ў Лісіных Норах!

— Значыць, мы па правільным шляху ішлі... Тут прадстаўнікі Беларускага штаба партызанскага руху былі. Кляшчоў многа папрацаваў... Усё бярэцца пад адзінае кіраўніцтва.

— Аляксей Яўхімавіч — Кляшчоў?

— Ён самы. Цяпер сакратар Пінскага абкома партыі і ўпаўнаважаны ЦК КПБ па Пінскай вобласці. А камандзір злучэння Камароў Васіль...

«Ці не той гэта герой народны — Клімка Камар?» — адразу ўзрадаваўся і як бы здзівіўся Мікульскі.

— Дык што — нікога не знайшлі замест Канькова?

— Пакуль што не. Прыглядайся ты, прыгледзімся мы да цябе. Канькоў Барыс, як я быў камандзірам, на ўзводзе сядзеў. Гонар не дазваляў, усё ныў: «За што скінулі?» Цяпер я цябе рэкамендую на яго ўзвод. Гэта трэці ўзвод, ён з нашых у асноўным складаецца. А наогул, добра, што ты з'явіўся. Хоць са спазненнем... Трэба нам пашыраць трэці ўзвод, падзяліць яго на два. Каб паступова пераважыць канькоўцаў...

— Я, канечне, не ведаю яшчэ становішча ў атрадзе, і маё меркаванне можа здацца неглыбокім. Але

скажу, што думаю: гэтак вы здасце і тыя пазіцыі, якія ёсць...

— Не. Бычок на правязі ўжо, а на вяроўцы не вельмі пагуляеш.

— Расфарміраваць трэба было канькоўцаў, рассоўваць па іншых узводах, атрадах!

Тым часам за акном пачулася разухабістая песня. Ехала група коннікаў, адзін, у калахматай, як у чаркеса, мо з цэлага барана, шапцы, запяваў хрыплым голасам, пакіўваючы ў бакі галавою ў такт хадзе каня, астатнія падхоплівалі. Спявалі скаромныя прыпеўкі...

— Ат... не звяртай увагі,— махнуў на акно рукою Фядоркаў.— Гэта не самае страшнае... Значыць, сілы такія: у двух узводах, што асталіся ад былога атрада Канькова, чалавек восемдзесят. У трэцім узводзе разам з вамі, прышлымі, пад семдзесят. А трэба, каб вы сваім узводам не толькі ўраўнаважылі тыя два, а і перасілілі.

— Гэтыя... пад семдзесят... Усё, што асталося ад нашага атрада?

— Не, ёсць яшчэ ў атрадзе Герасімава, у іншых. Думаю, што сям-там ходзяць яшчэ, як і вы хадзілі, свае групы стварылі.

— Нямала і загінула...

— Да-а-а... Такі каленкор... Але нямала і мы іх тады паклалі. І ўсё ж, Цімох Андрэевіч... так, здаецца, цябе велічаць? Большы сэнс партызанства ў тым, каб скоўваць ворага, разбураць яго планы, дэзарганізоўваць тыл... Як ты лічыш? Бо калі па-сапраўднаму знішчаць, то трэба мець не такую і не столькі зброі. Але ты зірні, колькі тады кінулі немцы сілы — палкі цэлыя! Ужо дакладна вядома: дзве аперацыі яны правадзілі паміж Слонімам і Бытанем — «Гамбург» і «Альдона». Прадумвалі ўсё, планавалі — а вынікі? За кожнага немца, эсэсаўца, якога мы да сябе прыкоўваем, на фронце дзякуй скажуць...

— Дык я ўсё-такі не разумею, чаму пакінулі канькоўцаў у кучы? Чаму не парассоўвалі іх, не перашарсцілі? — вярнуў Мікульскі Фядоркава да свайго пытання.

— Не думай, што адзін ты такі разумны. І ў Камарова была такая думка, і ў мяне. Але потым парашылі спыніцца пакуль што на гэтым этапе. Чаму? Ты не ведаеш, як цягнулі канькоўцы за сваім камандзірам...

Чуць не бунтавацца пачалі. Неяк жа спаяў ён іх...

— Спаіў мо.

— Можа, і так. Не было яшчэ часу добра разабрацца. Хапіла ўсім работы, пакуль арганізаваліся. А пакуль прытруцца адзін да аднаго атрады, то...

Мікульскаму кінулася ў вочы: апрануты канькоўцы лепш, чым трэці ўзвод. Амаль усе фарсілі ў добрых ботах, кажушках, паліто і паўпаліто, у чырвонаармейскіх, нямецкіх і паліцэйскіх укарочаных шынялях. Ва ўсіх кубанкі ці папахі, на кубанках чырвоныя, наўкос, стужкі. У першых двух узводах бясконца ішоў абмен коньмі: добрага —на лепшага, лепшага — на сапраўднага рысака. Было і рогату, і гвалту, як каля цыганоў, што прадавалі коней на кірмашы, заглядвалі каню ў зубы, мацалі грыву, хвост, капыты, ганялі па крузе, прымушалі прытанцоўваць, сцёбаючы канчуком па нагах, а з бакоў сыпаліся жарты: «А ведаеш, чаго так гарцуе, круціцца? Надзьмулі праз саломінку... Помніце, як у Шолахава... Га-га-га... Як дзеда Шчукара кабылку надзьмулі? Гэй, беражыцеся, хто там ззаду... Зараз засвішча з таго канца!» Можа, гэтыя абмены (ці «абманы», як іх ахрысцілі партызаны) пайшлі ад таго, што сам Канькоў быў завадатарам такіх спектакляў... Сплочвалі адзін аднаму «магарыч» і «прыдачу» ці трафейным барахлом, ці гарэлкаю. Канькоўца можна было пазнаць па паходцы — нейкай віхлястай, фанабэрлівай. Заўсёды ў першых двух узводах многія былі на падпітку.

Сам Канькоў Барыс хадзіў у хромавай тужурцы, перакрыжаванай рамянямі з латуннымі і дзюралевымі, мо з самалётнай абшыўкі, бляшкамі-цацкамі. Адзін рэмень — ад планшэткі, другі, накрыж, ад маўзера ў доўгай драўлянай калодцы-кабуры. Целяпалася гэтая калодка нізка, біла па калене. З шырокага рэменя-партупеі звісалі таксама нейкія ланцужкі і бляшкі, кінжал. Сінія «джыгіналевыя» галіфэ са скуранымі леямі і чырвонымі, ледзь не генеральскімі, лампасамі навісалі торбамі на бліскучыя, сабраныя ў складкі боты-хромавікі, здавалася, вось-вось штаны спаўзуць яшчэ ніжэй і гаспадар гэтай шыкоўнай, на памераў чатыры большай, чым трэба, адзежыны заблытаецца і грымнецца вобзем...

Сустрэча з Каньковым адбылася пад вечар — ён сам зайшоў да Фядоркава даведацца, калі той ад'яз-

джае. Фядоркаў пазнаёміў іх, і яны падалі адзін аднаму рукі. Рука ў Канькова была халодная і потная.

— Вот... будзе камандзірам трэцяга ўзвода — рэкамендую,— сказаў Фядоркаў, кіўнуўшы на Мікульскага.

— Я на сваё месца падабраў чалавека — і кропка! — адразу выпаліў Канькоў і бліснуў на Мікульскага гарачлівымі чорнымі вачыма.

— Ты не спяшы ставіць кропку. Лепш паставім коску — правядзеш загадам на трэці ўзвод Мікульскага... Чакай, я не ўсё сказаў! — суняў Фядоркаў Канькова, бачачы, што той счырванеў, потым пачаў шарэць з твару. Гэта адпавядала стану «халоднай шалёнасці», як потым усякі раз вызначаў для сябе Мікульскі.— Мы некалі палічыліся з хаценнем тваіх малайцоў, не расфарміравалі ўзводы,— працягваў Фядоркаў.— А цяпер палічыся ты: трэці ўзвод хоча мець свайго камандзіра, не з твайго былога атрада. Ясна? — у Фядоркава больш было і волі, і яснага розуму.

— Ясна, але каб не пагасла...— сказаў немаведама для чаго Канькоў і пачаў зноў чырванець. Заставаліся белымі толькі кончык доўгага, з раздвоінкай на канцы, носа, быццам прыхапіў яго мароз, і верхняя губа — падпухлая і ў чырвоных плямках, бы пакусалі яе скочкі.— Выходзіць, што я не камандзір у сваім атрадзе?..

— Чаму не? Камандзір... З цябе і будзе спрос як з камандзіра. Але не забывай, які год пайшоў — сорак трэці... Ёсць ужо і над табою, і нада мною кіраўніцтва.

Калі гэтая размова пад час знаёмства была як бяскрыўднае трэнне, то наступная сутычка, праз некалькі дзён, вылілася ў сапраўдны канфлікт. Фядоркава ўжо ў атрадзе не было, супрацьстаялі сам-насам.

Вяртаўся аднойчы Мікульскі са сваім узводам з чарговай вылазкі — зрабілі засаду на дарозе і добра ўлупілі па нейкім нарыхтоўчым нямецкім атрадзе,— вярталіся і натрапілі ў лесе на якісьці лагер. Сядзелі ў буданах з галля, хоць ціснуў мароз, а снегу навяліла ўкалена, некалькі мужчын і жанчын яўрэяў. Пахаджваў каля буданоў і вартавы — мужчына з чорнай, у белыя пасмы, барадой. Не пазнаць спачатку было, дзе была сівізна, а дзе асеў на бараду ад дыхання іней.

— Чаму не аклікнулі нас? Чаму не падаў сігнал трывогі? Хто такія? — наваліўся на вартавога Мікульскі.

Тым часам з буданоў навылазіла дзесятка паўтара мужчын і жанчын — шкілеты, абцягнутыя скурай, у падранай вопратцы, многія мужчыны па-бабску былі акрыты пледамі, хусткамі, коўдрамі, ногі таксама ўкручаны абы-чым. Былі сярод іх і зусім старыя, і сярэдніх гадоў. У буданы дапытліва і са страхам заглядваў і пакутліва моршчыў твар Арон Дубінскі, выпорваў на святло ўсіх да аднаго.

— Ой, нашто вы на мяне крычыце? Я і так увесь закрычаны...

У голасе вартавога была кволая скарга на лёс. Чырвоныя, у «ячменях», вейкі вінавата міргалі.

— Нашто, таварыш камандзір, адразу столькі пытанняў? — загаманілі ў гурце.

— Што мне — страляць было па сваіх? Дык жа не страляе! Крыкам крычаць? А ці лепш, калі закрычыш? Невядома. А прамаўчыш, то мо яшчэ і міма ліха прасунецца...— гаварыў, спяшаючыся, вартавы.

— Пакаж! — працягнуў Мікульскі руку да яго вінтоўкі.

— Ды мы бачылі, што вы не паліцаі, не немцы... Мы носам чуем, як што не так! — выкрыквалі, памагалі з натоўпу.

— Па адзенні цяпер не пазнаеш — хто...— гаварыў Мікульскі, спрабуючы адкрыць затвор. Не даў рады — усё было бруднае, заржавелае.

— Яшчэ ёсць зброя?

— Ёсць, ёсць! — замітусіліся лясныя жыхары.— Міхель, дзе тыя вінтоўкі, што без затвораў?

З буданоў выцяглі яшчэ тры даўжэзныя бельгійскія бярданы, потым некалькі чорных, пафарбаваных, выразаных з дрэва «карабінаў» — кіёў.

— Усэ злэ на вашу маты... Як цэ вы дайшлі да такога жыцця? — абураўся Васіль Шыпняк і ўсё тузаў сябе за папругу, нібы хацеў зняць яе і лупцаваць усіх без разбору за тое, што апусціліся да такога становішча.

— У іх... у іх...— затузаў рукаў Мікульскага Дубінскі.— Дзеці тут былі... Адзінаццацера...— яго душылі спазмы.— Усе перамерлі. Унь, нават магілкі свае адкрылі...— махнуў на ледзь прыкметны пад снегам пагорак.

— Ага... Так, так... Былі.. — неяк абыякава ўжо, бясстрасна заківалі галовамі.— Памерлі...

— Я піяніст, пан начальнік! Піяніст, а не салдат! — трос перад тварам Мікульскага вартавы, перабіраў свае шыза-цёмныя і распухлыя, што булавешкі, пальцы.— Да вайны на мае сольныя канцэрты ўвесь Беласток сходзіўся... У Варшаву выязджаў на гастролі! У Парыж! Я гэтых вінтовак і ў сне не бачыў! Што ад мяне засталося? Што? — соўгаў бліжэй да вачэй Мікульскага свае скалечаныя пальцы былы піяніст.

— А я кравец! А во гэта каваль... А то — слесар, а вунь кушнер — лепш за яго скуру ніхто не вырабіць... А во Абрам, на ўсю Гродню каўбаснік быў... Шымшалевіч, заклала табе вушы, ці што? Чаму я павінен за цябе гаварыць? — мітусіўся, тузаў, катурхаў сваіх сабрацціяў па няшчасці худы, як асмалены пакалак, стары ў ярмолцы і бабскай хустцы, падвязанай жгутом пад падбароддзе, на вушы.

— А што я? — азваўся той, каго назвалі Шымшалевічам,— нізенькі, захутаны ў коўдру дзядок з сінім носікам.— Ці зменіцца што ад таго, што ты сатрасаеш паветра? — Дзядок сплюнуў у снег, пачаў захутвацца яшчэ шчыльней. У вялікіх, нібы не па росце, і цёмных вачах яго былі і мудрасць і несусветны сум.

Мікульскаму раптам пачало двaіцца і траіцца ў вачах, закружылася галава. І гэтыя няшчасныя людзі, і партызаны яшчэ нешта гаварылі ці выкрыквалі нават, размахвалі рукамі, у скамлычаных вусах і барадах нібы правальваліся чорныя дзіры ратоў, варушыліся губы людзей. А што гаварылі — не чуў: адключыўся начыста.

«Ратаваць людзей трэба... Ратаваць... У таго, з пальцамі, гангрэна скора...» — біла ў скроні.

І раптам адлягло ад вушэй.

— О, вы бачытэ оцю людыну? — тыцнуў Шыпняк скалечанаю рукою ў грудзі Дубінскаму, які па-дзіцячы ўціраў твар ад слёз. Другою рукою Васіль хапаў за грудзі і трос высокага, зарослага чорнаю барадою мужчыну, мо нават хлопца.— Так цэ ж людына! Він нэ сыдыць під кустом, як ты! Він ваюе з гітлерукамі.

— Калі і надалей будзеце так сядзець, пагібнеце ўсе, як мухі,— сказаў Мікульскі і крыкнуў рэзка: — Сабірайцеся!

— А мы сабраныя! Усё наша — на нас...— загамапілі, замітусіліся лесавікі. Але некаторыя ўсё-такі вярнуліся ў буданы, падаставалі клуначкі, зноў затоўпілі-

ся, чакаючы, куды ісці. Яны гатовы былі рушыць у любым кірунку ад гэтага страшнага месца, ад магіл дзяцей сваіх... Ды не ўсе маглі ісці: з-за дыстрафіі некаторых давялося весці пад рукі, а то і падносіць.

Назаўтра, калі Мікульскі вярнуўся з суседняга атрада (дамаўляўся пра сувязь з ім, бо Канькоў нібы знарок ухіляўся ад гэтага клопату), пачуў шмат навін. Камандзір пад пагрозаю расстрэлу выгурыў усіх, каго ўчора прывёў Мікульскі з цывільнага лагера, і загадаў не падыходзіць бліжэй, як на тры «пушачныя выстралы». Раззлаваны ад такога самадурства, Мікульскі адразу пайшоў даКанькова скандаліць.

Хата, у якой кватараваў Канькоў, была зроблена на дзве палавіны. З-за левых дзвярэй даляталі ў сенцы плач дзіцяці, жаночыя галасы. Тузануў дзверы, што вялі прама. Кухня, вялікая печ. Ірвануў за правыя, што вялі ў правую палавіну, адкуль даносіўся спеў напаўголаса.

Ой, з-пад каменя, з-пад бяленькага
Цякла рэчанька да быстрэнькая...
Там дзеванька вымывалася
Да з касы свае дзівавалася...

Гэта спяваў ардынарац Канькова, Лысуха. Сядзеў у пустым пярэднім пакоі пры дзвярах, на нізкім заслончыку, чысціў маўзер.

— Не-э прыма-ае! — адразу, з прыціскам на «не», сказаў Лысуха і працягнуў упоперак увахода ногі.

Да з касы свае дзівавалася,
На каліну жаркую азіралася,—

пацягнуў тоненька песню далей, нібы ўраз забыў на прысутнасць Мікульскага.

— Далажы — камандзір трэцяга ўзвода,— Мікульскі адчуў, як пачаў падымацца ціск.

— Адпачывае, кажу, і не вялеў будзіць. Толькі пры «чрезвычайных обстоятельствах»! — гэткім жа абыякава-спакойным тонам, урасцяжку прагаварыў Лысуха, зазірнуў у дульца маўзера, потым пасунуў ім з ілба на цемя кудлатую папаху.

— Неадкладная справа,— дабавіў Мікульскі, ужо з цікавасцю разглядаючы дзівакаватага хлопца.

— Няма такіх дзел, якія нельга было б адкла-асці...— ардынарац шморгаў па ствале анучкаю, хукаў у дула, смешна адтапырваючы губы. Штосьці было ў яго

ўхватках ад Пятра Алейнікава, якім запомніўся артыст па фільме «Трактарысты».

Мікульскі ступіў цераз яго ногі, цераз маўзер, таўхануў рукою ў дзверы, якія прытрымлівала тоўстая спружына.

— Куды-ы?! — імгненна, як кот, падабраў ногі Лысуха, усхапіўся.— Гэта ж самавольства! — Мікульскі прытрымліваў нагою дзверы, і ардынарцу відаць было, як з канапы ўстае расхлістаны і разбэрсаны, без амуніцыі, Канькоў. Знарочыста загундосіў: — Тава-а-арыш камандзір, я не пускаў! Я гаварыў, што вы занятыя... А ён сілком уварваўся!

— Лан-на, брысь! — махнуў на Лысуху Канькоў.— Вабшчэ запомні: для сваіх камандзіраў выключэнне. Яны могуць прыходзіць у любы час дня і ночы. Панятна?

— Агы.

— Не «агы», а слухаюся, таварыш камандзір!

— Агы. Слухаюся!

Мікульскі азірнуўся на ардынарца: здалося, што ў тоне Лысухі ўлоўлівалася нейкае іранічнае ці нават здзеклівае адценне, непавага да Канькова. Не такі прасцячок Лысуха, намнога хітрэй, чым прыкідваецца. Кожнае слова і жэст яго нібы маска, нібы належаць не яму, а іншаму чалавеку. Рухі яго ад быстрых зноў перайшлі да лянiва-сытых, якія бываюць у кошкі ці тыгра.

Пусціў Мікульскі дзверы — бух! Як з гарматы.

Канькоў кончыў чапляць на сябе амуніцыю, падабраўшы яе з самаробнае табурэткі. Твар у яго быў прыпухлы, пад вачыма адвіслі торбачкі — даў, відаць, нагрузку на ныркі добрую. У Мікульскага адразу запяршыла ў горле ад застарэлага едкага паху тытуню, самагонкі і ануч-парцянак. Абуваючыся, Канькоў спрабаваў размяць анучы ў руках.

— Ч-чорт... Не прасохлі добра... Ядры яго ў Дарданелы маць! Не скажы — не здагадаецца прасцірнуць, ускінуць на печ. Ну — што ў цябе загарэлася? — пазяхнуў, цярнуў далонню па твары, па роце, нібы хацеў бліснуць гэтае пазяханне, пасунуў нагою табурэтку бліжэй да стала.— Хаця чакай, зараз мы што-небудзь сабразім... для бліжэйшага знаёмства.

Ірвануў за кацёлачку шуфляду стала, дзынкнулі пустая бутэлька і шклянка. Мікульскі заўважыў там

яшчэ палавіну цыбуліны, акраец хлеба і ўкачаную ў крошкі скварку сала.

— Сцяпан!

— Нічога не шукай, піць не буду.— Мікульскі рашыў гаварыць з ім на «ты». Як аукнецца, так і адгукнецца.— Я не для гэтага сюды прыйшоў.

— Га? — высунулася з дзвярэй кудлатая папаха.

— Саабразі.

— Агы.— Дзверы далікатна прычыніліся.

— Гавары, што там у цябе за пажар,— у другі раз падкрэсліў Канькоў, што можна было так і не перціся.

— Дзе людзі, якіх мы ўчора прынялі з цывільнага лагера?

— Адсюль не відаць.— Канькоў падабраўся, усё ў яго павузела — і плечы, і вочы, і рот.— І вабшчэ — мы не багадзельня, поняў? — Усхапіўся на ногі, стукнуў не багадзельня, поняў? — Усхапіўся на ногі, стукнуў задалонню па шуфлядзе, ажно дзынкнула бутэлька. Захадзіў па пакоі, сунуўшы рукі ў кішэні, прыгнуўшыся.— Калі кожны будзе цягнуць у атрад усякі зброд... Нам і самім мала жратвы!

— Не зброд гэта,— Мікульскі стараўся гаварыць спакойна.— Усе яны спецыялісты, маглі б працаваць у гаспадарчым узводзе, абслугоўваць састаў. Абшываць, абмываць, абуваць, харч для коней рыхтаваць. Пара і кухню агульную наладзіць... А ў нас кожны ўзвод сам сабе гаспадарыць. Ды дзе ўзвод? Кожны партызан заводзіць свой мяшок ці торбу. А што ў гэтых торбах — вы цікавіліся?

— Не. І не хачу!

— А дарэмна. Я нядаўна ў атрадзе, а ўжо звярнуў на гэта ўвагу. Некаторыя абарахляцца пачалі, спекуліраваць барахлом.

— Трафеі нікому не забараняецца падбіраць.

— Гледзячы якія, у якой меры, для чаго. Вярні людзей! Што яны пасля гэтага пра нас падумаюць?

— Мне на гэта напляваць у вышшай сцепені! І вабшчэ: я забараняю табе распараджацца ў атрадзе. Ты не намеснік мой, не камісар...

— Дадай: якіх у мяне зусім няма!

— Няма! Ты проста Ванька ўзводны!

Гэта ўжо была прамая знявага. Гаварыць пасля гэтага з дурнем адразу расхацелася.

Рыпнулі дзверы, дробна задрыжала, расцягваючыся, спружына. Усунулася спачатку вечка ад дзежачкі-

блінцоўкі з бутэлькай і закуссю, потым і сам Лысуха — з важнасцю і манернасцю, нібы які афіцыянт у парыжскім рэстаране. Але Канькоў махнуў на яго рукою — «Згінь!». Лысуха цырымонна-прабачліва схіліўся, пасунуўся задам назад. Трах! — дасталі яго дзверы — па вечку ці па лбе. Штосьці ўпала, дзынкаючы. І адразу ўзяўся за ручку дзвярэй Мікульскі.

— Так, я — Ванька ўзводны, адказваю за ўзвод. Вот у свой узвод я іх і вазьму. Вас ад клопатаў пра іх збаўлю! — тузануў дзверы...

— Інтэлігенцыя, ядры вашу ў Дарданелы...— раз'юшана тупаў па пакоі Канькоў, а потым таксама рвануў дзверы і выкрыкнуў наўздагон: — Я ведаю! Я ўсё панімаю! Вутка падсадная ты, вот хто! На маё месца меціш!

Пусціў дзверы — трах!

Лысуха стаяў, разявіўшы па-блазенску рот, і кідаў позіркі то на Мікульскага, то на дзверы. Дрыжала, не магла супакоіцца спружына. Выходзячы ў сенцы, Мікульскі глянуў з дакорам на Лысуху, паківаў галавою:

— Табе не абрыдла — паяснічаць тут, прыслугоўваць такому?

Ішоў, а ў вачах яшчэ доўга стаяў твар Канькова, такі, які быў у апошні момант: сшарэлы, кончык даўгатаватага, з раздвоінкай на канцы, носа збялеў больш, чым калі. Нечым Канькоў нагадваў разгневанага гусака, і Мікульскі адчуваў, як у душу трывала ўсяляецца непавага і нават непрыязь да яго.

З тым, што яўрэі апынуліся ва ўзводзе Мікульскага, Канькоў урэшце зміраўся: мусіць, уцяміў, што для яго — клопатаў ніякіх і ў той жа час можна займець нейкую карысць. Неўзабаве Мікульскі заўважыў, што сам Канькоў і два яго ўзводныя фарсяць у шэрых, з нейкага незвычайнага футра кубанках. Папрасіў нават Васькоўскага, камандзіра першага ўзвода, паказаць шапку бліжэй. Круціў, мацаў, дзьмухаў на густую шэрсць. Усе шапкі былі з малінавым верхам, а ў самога Канькова нават звісала на вуха вастрарогая торбачка з кутасікам.

— Што — загарэліся вочы? — падкалоў яго Васькоўскі.— Ні за што не згадаешся з чаго...

— Мо які сабака... Дзе ўзялі?

Васькоўскі рагатнуў.

— Сакрэт праізводства! — забраў кубанку, зухава-

та ўскінуў на макаўку, потым пасунуў на лоб, пайшоў. Нават у паходцы, віхлястай і крыху фанабэрлівай, Васькоўскі стараўся быць падобны на Канькова. Толькі вось у Канькова матляліся штаны, а ў гэтага не.

Крыху праліў святло на таямніцу незвычайных шапак таварыш Шымшалевіча — той доўгі і сухі стары, Мошка, як яго звалі ўсе.

— З нямецкага генеральскага шыняля шапкі. Малпяча футра... Падкладку адарвалі... Люкс, прыма, першы сорт! У Гродне на «обезьяньем меху» было толькі футра ў тытунёвага фабрыканта Шарашэўскага.

Васіль па сакрэту сказаў, што выпадкова высачыў, дзе каньхоўская база-склад розных трантаў. У скрынях, якія закапаны ў сухой пясчанай дзюне каля хутара Сухая Града. Загадвае гэтым складам, прымае ў схованъ барахло сам гаспадар, нейкі Альфонс Палойка. Ён жа дастае для каньхоўцаў, выменьвае на хутарах, а то і сам гоніць самагон. «Шчо робыты?» — пытаў Васіль. «Знішчыць!» — не прыдумаў нічога лепшага Мікульскі. І Шыпняк з некалькімі хлопцамі зрабіў гэта: прымусілі Палойку адкапаць і ўскрыць гэтыя скрыні, пааблівалі іх бензінам і падпалілі. Праўда, трохі і шкадавалі, трэба было рэквізаваць, хоць выбраць з чаго новыя парцянкі...

Шыла ў мяшку не ўхаваеш. Пра ўсё тут жа стала вядома Канькову. Прыбег сам да Мікульскага, хапаўся за маўзер, скроб пальцамі па драўлянай кабуры.

— Застрэлю, як сабаку, і адказваць не буду!

— Будзеш! Яшчэ і як. Не ў беспаветранай прасторы находзішся,— стараўся гаварыць спакойна Мікульскі, і гэта камандзіра яшчэ больш распаляла.— Пара канчаць з анархіяй, Барыс...

— Не Барыс я табе, а камандзір атрада! — у Канькова пабялеў не толькі кончык носа, але і верхняя губа.

— А па паводзінах не скажаш, што камандзір...

— Я не пацярплю падрыўной дымагогіі! Чаго ты хочаш, чаго дабіваешся? — Канькоў раптам атух, нібы з яго выпусцілі лішняе паветра.

— Усё аднаго і таго ж: парадку і дысцыпліны ў атрадзе.

— Табе-то якое дзела? Ты камуніст? Камісар атрада?

— Камуніст! — вырвалася ў Мікульскага.

— Хэх-хэ-хэ! — задаволена зарагатаў Канькоў.— Відалі мы такіх камуністаў, якія знішчалі свае білеты. Я сам двух такіх пусціў у расход.

«Ведае нешта... Мо ў Фядоркава распытваў пра мяне? І ці мог пра такое сказаць яму Фядоркаў?» — замільгала ў галаве.

— Камуніст,— паўтарыў цвёрда.— Не ўся справа ў білеце. А ў тым, кім адчуваеш сябе, як паводзіш. А сам — камуніст?

— Не. Але за Савецкую ўласць я гатовы праліць усю кроў. Я з ліпеня сорак першага года ў партызанах, не так, як некаторыя...

— Кончым гэтую гаворку,— сказаў Мікульскі.

Было непрыемна, што Канькоў усчаў скандал проста на дварэ і не зважаў на тое, што на шум сыходзяцца партызаны, слухаюць то моўчкі, то скалячы зубы: «Во дае!..»

Выбіваючы хмаркі снежнага пылу, прыскакалі двое коннікаў. Адзін Сцяпан Лысуха, ардынарац, другі — веставы са штаба атрада імя Шыша. Веставы перадаў Канькову нейкую паперку. Выклікалі яго на нараду камандзіраў атрадаў...

У той жа дзень, а яшчэ больш назаўтра, стала вядома, што атрады Пінскага злучэння па сутнасці акружаны з усіх бакоў. Немцы знялі з фронту вялікія сілы, іхнія часці забілі вуліцы Старобіна, Чырвонай Слабады, Чудзіна, Дзяніскавіч — гэта з поўначы. Хоць удалося ў апошнія дні падарваць эшалон на чыгунцы Баранавічы — Лунінец, рух быў хутка адноўлены, і гітлераўцы паспелі падвезці і засяродзіць вялікія сілы ў Ганцавічах, Люсіне, Малькавічах, Бастыні — закрылі выхад на захад. З поўдня, ад Прыпяці, разгрузіліся эшалоны карнікаў у Лунінцы, Лахве, Сінкевічах, Мікашэвічах. Многа механізаваных часцей — з браневікамі, белымі танкамі. У небе закружылі самалёты — «рамы»...

Першымі, 10 лютага, выступілі падраздзяленні немцаў з вёскі Вялікі Ражан, нібы прасунулі, абмацваючы, шчупальцы ўздоўж Морачы на поўдзень, у напрамку Баравой, Гаўрыльчыц, Вялічкавіч. Іх удары прыняў атрад Васільева. Вельмі жорсткія атакі немцаў і ўласаўцаў давялося вытрымаць васільеўцам каля хутара Дубіцы. Але супрацьстаяць ім лоб у лоб у атрада не было сілы, і ён паволі адышоў да вёсак Вейна і Гоцк.

На дапамогу васільеўцам спешна падышоў атрад імя Шчорса.

11 лютага калоны немцаў выступілі са Старобіна ў напрамках Яськавіч, Капацэвіч, Грабава. Насустрач ім пацягнуліся шчупальцы спрута ■ Мікашэвіч — на Лепаніна, з Сінкевіч, Лахвы і Лунінца — на Сітніцкія хутары, дзе быў атрад імя Кірава. Інфармацыя аб гэтым атрадзе ў немцаў была дакладная, і над хутарамі закружылі, як вараннё, самалёты, пасыпаліся бомбы.

Са штаба злучэння паступіла ўказанне: заняць жорсткую абарону, замініраваць, наколькі магчыма, усе падходы да лагераў, сем'і і бежанцаў, што сыпанулі з вёсак пад абарону партызан, адправіць у самыя глухія мясціны...

А ў гэты час каля Яськавіч вёў напружаныя баі штабны атрад Камарова. Потым уступіў у бой каля Беразнякоў і атрад імя Шыша, ■ тады і іхні каля Цімашэвіч. Загрукатала і каля Грычынавіч — уступіў у бой атрад імя Дамброўскага.

Неўзабаве немцам, што наступалі з поўначы і ўсходу, удалося заняць Цімашэвічы, Сцяблевічы, Палусевічы і злучыцца з тымі, што лезлі з поўдня, з боку Леніна. Вялікую партызанскую зону на Палессі карнікі рассеклі напалам. Атрады Пінскага злучэння былі адрэзаны ад Мінскага партызанскага злучэння, ад аэрадрома каля Чырвонага возера, дзе рэгулярна прымаліся самалёты з Вялікай зямлі і з якога сяды-тады перападалі зброя і боепрыпасы пінчанам...

* * *

— От вы дзе... А я вас шукаю-гукаю. Дзень добры!

— Анюта? Добры, добры дзень...— зарадаваўся Мікульскі.— Але вы, мадам, какетнічаеце: не чуў я, каб хто мяне гукаў, дапытваўся — не патрэбны я нікому...

— Во-ёй, не прыкідвайцеся казанскаю сіратою.

— Праўда. Не чуў я... А ў мяне, улічы, ужо абвастраецца слых. Ты толькі з зямлянкі выходзіла, а я пачуў — р-рып... Каля канавязі ты спынялася?

— Ага.

— Ну —во. Я і чуў: сціхлі крокі. Сядай, пасядзі са мною. Тут як на курорце.— Ён засунуў цясак у ножны, а ножны схаваў пад сцягно. Абмацаў узор, які вырэзваў,— цяжка ўявіць!

— Ага, дачакаліся курорта мы...— Анюта дзьмухнула на бервяно, потым чымсьці зашастала, зашоргала па ім, мо падняла тыя галінкі, што ён паабрэзваў.

— От сядзеў я тут, і многа ўсякага ў галаву лезла... Пройдзе дваццаць, пройдзе трыццаць гадоў, новае пакаленне вырасце... Прычакаем, скажам, мы ўнукаў. І от які бутуз-карапуз забярэцца да цябе на калені і спытае: «Баба Анюта, а праўда, што ты партызанкаю была?» — «Праўда, унучак»,— прашамкаеш ты.

— Чаму прашамкаю? Вы думаеце, што я і зубоў не ўстаўлю сабе, калі выпадуць?

— «Праўда»,— адкажаш ты. А ён: «Не, няпраўда. Такія партызаны не бываюць. Я ў кніжцы бачыў: там дзядзькі барадатыя з аўтаматамі і на конях. А яшчэ намалёвана: трах-тарарах, у паветра паравоз ляціць, вагоны куляюцца. Баба Анюта, а колькі ты паяздоў трах-тарарах?» А Анюта...

— Ну-ну, і што скажа Анюта?

— А Анюта скажа: «Ніводнага, унучак».

— Ну, і што ўнучак?

— «У-у-у»,— скажа Васілёў унучак, злезе з каленяў і пойдзе ў кубікі гуляць...— (Мікульскі зазначыў сабе мімаходзь: «Не зрэагавала, здаецца, на «Васілёвага ўнучка»).— А што бабка на гэта, ну?

— Што... Скажу: падрасцеш большы, дык я табе многа чаго раскажу...

— Але... Гэта нічога, дзецям дазволена і пытаць такое, і рэагаваць гэтак. А калі дарослыя пачнуць цягнуць гэтае «у-у-у»? Усё, даражэнькая, цячэ, усё забываецца... На скрыжалях гісторыі застануцца контуры толькі найбольш значных падзей... Вынікі, канечныя вынікі... І вось гэтае «трах-тарарах», і найбольш яркія эпізоды, расфарбаваныя ва ўсім «блеске и великолепии», закураныя рамантыкай подзвігаў... Га, чаго маўчыш?

— Я не думаю, што будуць вымяраць вартасць партызанскага руху толькі ўзарванымі паяздамі, падарванымі рэйкамі, забітымі гітлераўцамі. Усё намнога больш складаней.

— Каб жа так было! Каб жа так!

— Хто жывы застанецца, успаміны, ці, як іх,— мемуары напішуць. Раскажуць, як і што было, як ваявалі...

— Праўдзіва?

— А як жа іначай?

— Наіўная ты і светлая душа... Ну, дапусцім, захоча Канькоў свае ўспаміны напісаць. Думаеш, ён праўдзіва раскажа, як ваяваў? Я ведаю столькі аналогій, калі адну і тую ж падзею непасрэдныя яе ўдзельнікі... разумееш? не-па-срэд-ны-я!.. трактавалі па-рознаму, нават з супрацьлеглых пазіцый.

— Ну, дык гэта Канькоў. Канькоў можа прыпісаць сабе ўсе подзвігі, якія дзе былі... Як той эшалон, што хлопцы з суседняй брыгады падарвалі.

— Во-во, цяпер ты больш цвяроза глядзіш на рэчы. Адзін ратунак — не дадумаецца Канькоў да пісання мемуараў... Інтэлект не дазволіць. А пачнуць іншыя пісаць, тыя, што і рангамі вышэй былі... Што, калі і яны пачнуць прыхлушваць, прыхарошваць? Га?

— Настрой у вас сёння... На ўсіх нападаеце, нават на тых, што яшчэ не нарадзіліся.— Анюта адчула: тыя словы пра «бутуза-карапуза» неяк балюча зачапілі яе.

— Цяжка на тых нападаць. Гэта як гульня ў адны вароты, дый тыя нікім не абароненыя.

— Хоць з мяне гулец... але я магу стаць у гэтых варотах,— з нейкай зацятасцю сказала Анюта.

Мікульскі павярнуўся да яе ўсім корпусам, нават утаропіўся ёй у твар незабінтаваным вокам.

«Ой, можа, ён бачыць?»

— Вы ўжо бачыце?! — паўтарыла яна тое, што мільганула ў галаве.

Мікульскі адвёў позірк. Сказаў хрыплавата:

— Чую «речь не мальчика, а мужа». Брава. Ты сталееш не па днях, а па гадзінах.

— Вы бачыце мо? — больш мякка перапытала Анюта.— Зірнулі мне ў твар.

— Не, на жаль... Не бачу... Але штосьці ўлавілася з твайго боку. Нейкія цёплыя праменні, ці што... Прысвеціш потым, пані дакторка, дысертацыю гэтай тэме.

— Добра,— сур'ёзна, з нейкім выклікам сказала Анюта.

Яна крыху счырванела, апусціла вочы, ёй самой стала сорамна за сённяшні тон. Яна нібы і дзівілася з сябе — што гэта з ёю? Ледзь сварку не пачалі... Ну, мо не сварку, мо гэта яшчэ проста «размолвка», але ж яна можа перарасці і ў сварку. Толькі варта падкінуць, як у агонь, крыху больш спажывы... «З чаго гэта? Чаго мяне дрэнчыць?» — ёй і прыкра было заўважаць такое

за сабою, і ў той жа час чула ў сабе абуджэнне нейкіх новых пачуццяў, якія ўладна дыктавалі такі тон паводзін. Мо загаварыў яшчэ адзін прыроджаны інстынкт, уладна падштурхоўваў «тапырыць іголкі», больш актыўна бараніць усё, што звязана з мацярынствам, бараніць будучае дзіця. Бо менавіта ж з-за гэтага «Васілёвага ўнучка», з-за «бутуза-карапуза» пачула яна ў сабе патрэбу «агрызацца».

Ніякавата зрабілася і Мікульскаму: ён канчаткова ўлавіў перамену — не ў настроі, не! — у характары Анюты, і ў спакутаванай, нібы разварочанай болем, галаве як не апошнімі намаганнямі прааналізаваліся яго адносіны да яе. Чым бы ні вытлумачваў ён лёгкае пакепліванне з Анюты ў час бадзяння па балотах, але гэты ўзяты штучны тон, хоча ці не хоча, ставіў яго над Анютай. І зараз ён пачуваў сябе гадка... У паводзінах Анюты было больш самастойнасці, чым здавалася ўвесь час. І яшчэ — натуральнасці. Іменна натуральнасці, яна ішла ад яе чалавечай асобы, належала толькі ёй і была непаўторнай. Сам жа часта рабіў не так, як падказвала сэрца, натура, а зыходзіў з мэтазгоднасці, з вышэйшых меркаванняў. Камісар усё-такі браў часта верх...

Маўчанне зацягвалася.

— Ты прабач мне... Мы яшчэ па балоце лазілі, а я ўсё трымаў у галаве... каб гэта... Ну, прабачэння папрасіць за грубасць... Насмешкі... гэты тон...

— Які? Я нічога не заўважыла. Наадварот, трэба было больш крычаць на мяне, загадваць... Тады мо ўсё лепш рабілася б.— Анюта перамяніла гаворку: — Дык што Палуян вам сказаў? Мо трэба было ў брыгадах перапытаць, мо добры хірург і тут, на месцы, аперацыю зрабіў бы, дастаў асколак?

— Я думаю, што ён усё разнюхаў, што трэба... Толькі пагэтаму і рашыліся прасіць самалёт... Давай лепш пра цябе пагаворым.

— А што пра мяне гаварыць? Я ж не параненая.

— Яшчэ і як! Думаеш, калі кроў не льецца, дык і ўсё нармальна? Нябачныя раны, як і «невидимые миру слёзы», бываюць горш страшныя.

— Няма ў мяне ран, і нічога ў мяне не баліць. От так.

— Здаравяка знайшлася... Думаеш, ніхто не ведае, што ты гэта самае... у цяжку ходзіш?

— Ну й што?

— Як што?

— А так! Каму да гэтага справа? Гэта маё асабістае, глыбока асабістае? Чуеце? І не лезьце ка мне ў душу!

— Прабач... Але я, здаецца, цябе нічым не пакрыўдзіў зараз... Не зняважыў...— Мікульскі патрымаўся за галаву, нібы атушваў дрыжанне-звон.— Не пазнаю я цябе і перастаю разумець... Зацялася ўся... Я ж не асуджаю ні цябе, ні Васіля... Я нават рады, што ты не адна астаешся. Калі я пра гэта гавару, то проста хачу, каб было добра і табе, і дзіцяці.

— Дзякую за клопаты!

— Пачакай, не яхіднічай... Ты ж ведаеш: бліжэй сябра, чым Васіль, не было ў мяне. І я не магу не клапаціцца зараз пра цябе.

— Дзякую,— сказала ўжо без выкліку.

— І я сам... Ты для мяне... Ну — не збоку прыпёку...

— Вы ўжо далі зразумець: друг майго друга — мой друг.

— Язва ты стала...

Звон і дрыжанне ў галаве сталі нясцерпныя. Мікульскі націснуў далонямі на вушы мацней. Як праз сон пачуў голас Анюты: «Вам нядобра? Таварыш камісар, мо ў зямлянку?»

Мікульскі больш чуў іншае, тое, што вязалася ў галаве — як працяг размовы.

«Друг майго друга — мой друг...» — «Язва ты стала... Хай сабе толькі друг...» — «Чаму — толькі? І — хай сабе? Што вы хочаце сказаць?» — «А тое, што ты і сама павінна была ведаць... ці хоць здагадвацца».— «Нездагадлівая я, някемкая».— Анюта нібы пацвельвала яго. «Люблю я цябе! Кахаю, разумееш?!» — «Ціха, Цімох Андрэевіч! Людзі вунь ходзяць блізка...» — «Прымусіла сказаць гэта, а цяпер цішыш».— «Хворы, даўно гэта з вамі?» — Яны нібы памяняліся ролямі. «Перастань!» — «У такога цяжкахворага і такія дзіўныя сімптомы».— «Сімптомы гэтыя даўно — ведай. З першага дня... Правільней, з тае ночы, як навальніца загнала да вас начаваць... Ты помніш тую ноч? У Бялевічах?» — «Помню...» — ціха праказала Анюта, і Мікульскаму здалося, што яна стала зноў татаю Анютаю, што была дасюль і якую ён ведаў. «Я тады таксама доўга не мог заснуць. Думаеш, калі ляжаў

ціха, то нічога і не ведаю, не бачыў, як вы трымаліся за рукі з Васілём... Як у вас твары свяціліся... Я тады сказаў сам сабе: «Нават і не рыпайся...» — Мікульскаму падалося, што ён чуе плач, але спяшыў закончыць уяўную гаворку-споведь.— Не мог я станавіцца наўпоперак Васілю... Не мог... Я даў сабе слова: ніколі нават выгляду не падаць, што ты мне падабаешся. А я ж помню кожны твой дотык да мяне, а свой да цябе... Як вучыў матрацы ткаць, за рукі трымаў... Як ты цалавала мяне... перад тым як ісці каня шукаць... І ранейшае многае помню: як цябе адбівалі ў немцаў — і першы раз, з дзецьмі, і другі. Другі раз ты не магла ісці. Я выносіў цябе на руках з таго скляпення... І хацелася не спускаць з рук, так і несці да лагера. А потым Васіль цябе нёс, Васілю перадаў...»

Не, усё-такі, мабыць, плача Анюта.

«Ну во-о... Як блізка ў цябе слёзы... А я думаў, што ў цябе і слёз ужо не асталося... Але ты плач, калі хочаш, а я буду гаварыць... Больш зручнага выпадку не будзе... каб гаварыць пра гэта...» — «Цімох Андрэевіч... Так жорстка... Васіля толькі што пахавалі...» — «Я не хацеў цябе пакрыўдзіць прызнаннем... І памяці Васіля не зняважыў... Я проста сказаў, каб ведала. А табе ўжо рашаць, як і што...»

Анюта плакала.

— Фу-у... Што я тут гаварыў? Я цябе зняважыў?

— Нічога не гаварылі. Маўчалі.

— Ты не плач... Не будзеш ты адзінокая...— ён уклаў у гэтыя словы свой сэнс.

— Я і так... не адзінокая буду...

«А мо сказаць? А ці не пакрыўджу яе? Падумае ці скажа: во самаўпэўненасць... Калі камісар, то хоць калека, а на шыю кінуся?»

— Невядома, чым скончыцца маё раненне, аперацыя... Мо падамся следам за Васілём... А мо і калекам застануся, сляпым... Сляпога, як дзіця, трэба глядзець... Каб не гэта — усё было б інакш...— сказаў і тут жа падумаў: «Зноў самаўпэўненасць. З чаго ты ўзяў, што здароваму яна кінулася б на шыю?»

— Знойдзецца жанчына, што за шчасце палічыць — памагаць каханаму на кожным кроку.

— Не ведаю, Анютка... Мо... Слухай, давай палясцім гэтым самалётам! Што тут табе рабіць? Мы, што маглі, зрабілі, і нават звыш магчымасцей.

— Ёсць што рабіць — работы столькі... Раі ж, гавораць, няма.

— Я не тое хацеў... Табе ўжо пра малога трэба думаць. І пра сябе... Лепш будзе, калі для цябе і для яго вайна скончыцца.

— Гэта вам Прымак даручыў... ці Палуян... мяне агітаваць?

— Ты занадта прыніжаеш мае разумовыя здольнасці.

— Божа мой, пакруціліся ўсе, ці што? Быццам і думаць больш няма пра што, і вайне — канец. Быццам я нікуды ўжо не варта!

— Паўтараю: ты добра павраявала, зрабіла для перамогі ўсё, што змагла.

— Не ўсё. Не палячу я: мне трэба яшчэ за Васіля помсціць...

— Ох-ха...— Мікульскі разагнуўся. Да гэтага часу поркаў кійком перад сабою, невідушча глядзеў уніз, на зямлю, дзе павінны былі рабіцца дзірачкі. Яшчэ раз уздыхнуў, залапаў па кішэнях — нясцерпна захацелася закурыць.— Цяжка з вамі... ваяваць.

— З бабамі,— падказала Анюта.

— З бабамі! — Мікульскі ўлавіў падсміхванне ў яе голасе і ўпершыню на сваёй шкуры адчуў, як гэта нядобра. А ён жа ўвесь час амаль, пакуль прабіраліся гэтыя два дні балотамі, не мяняў такога тону! — Лепш сысціся на вузкай сцежцы з некалькімі фрыцамі, чым з адною... упартаю... І як гэта людзі жэняцца? Гэта ж або кожны дзень вайна да зарэзу... або поўная капітуляцыя, палон.

— Гэта вам так здаецца. Чакайце, я раздабуду вам курыць.

— Ага... Папрасі ў каго. Толькі што-небудзь лёгкае... Якую цыгарэту трафейную.

«Падхапілася як ахвотна... Нібы чакала і баялася пачуць другое. Тое, што не сказалася...»

«А каб сказаў? Як бы яна рэагавала на прызнанне?»

«А мо трэба было сказаць?.. Мо трохі недарэчна атрымалася б, мо не ў пару — але трэба было! Сказаць, што не кіну яе... Стоп, стоп...— ён сціснуў далонямі галаву.— Не, не павернецца язык. Можа і так падумаць, што я з жаласці... А гэта — не каханне».

«Мо... Мо... Мо... Усё-такі атрымліваецца, што я на-

біваюся да яе са сваім калецтвам... Са сваёй асобай... Я! Не яе бяру пад апеку, а...»

«Здурэў пад старасць. Галаву згубіў... Трэба толькі не забыць сказаць пра адрасы. Каб знайсціся пасля вайны... вызвалення... Спісацца каб... А ўжо тады і відаць было б, што і як... Куды паварочваць... Куды паварочваецца...»

Сонца, мабыць, паднялося высока, бо ён адчуў, як некалькі промняў прарваліся праз лісце дуба, ласкава прыгрэлі руку.

У лагеры было амаль ціха, нязвыкла ціха. Недзе каля кухні шархацела пілка, чуліся «Г-гах! Г-гах!» і ўдары сякеры. Бразгату зброі ўжо не чуваць, затое аднекуль з-за зямлянак асабовага саставу далятае манатонны голас. Прыслухаўшыся, можна разабраць: «Э-э», «Э-э, так сказаць...» Мікульскі ведаў, хто так гаворыць: Варонька, палітрук трэцяй роты. Праводзіць, мабыць, палітзаняткі.

«Значыць, трэцяя рота тут засталася... Чалавек сто набярэцца, акрамя гаспадарчага ўзвода, узвода аховы... Гэта добра, гэта больш, чым некалі было ва ўсім атрадзе Канькова. Што са зброі пакінулі? Пааддавалі, мабыць, лепшае рэйдавікам. І патроны ім аддалі... А мо дамоўлена, што нам падкіне трохі самалёт — той, што прыляціць? Заўтра толькі прыляціць...»

«Як ім ідзецца? Цяжка ў рэйдзе, вельмі цяжка... Ні сну, ні спачыну, ды яшчэ баі... Добра, калі фурманак больш расстараюцца, коней. Але ж і абоз доўгі нядобра, манеўранасць кепская».

«Дзе яны ўжо? Ці мінулі канал Агінскага? Не, наўрад... І дзе яны будуць фарсіраваць яго? Гэта ж трэба пераправу захопліваць... Хай бы ж дамовіліся з 208-м палком, каб памаглі. Мы ж ім памагалі, як на іх былі напусціліся... тыдзень назад...»

Прыслухаўся, паварочваючыся незабінтаваным вухам на захад. Мо чуваць бой, страляніна? Не... Калі і ўсчалося што, то не пачуеш — далёка.

Зноў самота пачала тачыць сэрца, як шашаль сцяну. Усё ідзе сваім парадкам, спружына вайны працягвае распраставацца, трымціць ад напружання, адкрываецца, спалушваецца з яе акаліна, сыплецца на дол, пстрыкае-пырскае ў бакі... Як бы і не было Мікульскага ў гэтай вайне, не пралілася і яго кроў. «Единица — вздор, единица — ноль, один — даже если очень важ-

ный — не подымет простое пятивершковое бревно, тем более дом пятиэтажный...» — нібы чуе ён уласны грамавы голас — чытае на студэнцкім вечары Маякоўскага... Тады яшчэ, у тым даваенным далёка...

І хоць гаварыў Анюце, што яны, яна і ён, і Васіль, як дзесяткі, сотні і тысячы, мо нават мільёны, якія загінулі, што яны зрабілі ўсё магчымае для перамогі над ворагам, зноў і зноў адчуваў: ён, асабіста ён зрабіў да крыўднага мала. І нічога ўжо не паправіш — скончылася яго ваенная эпапея.

Разбірала і зайздрасць — да яе, да сваіх таварышоў-паплечнікаў. Яны яшчэ будуць на вайне, яшчэ будуць ваяваць... Удзельнічаць у бітве за Беларусь — вось што важна! А многім пашчасціць агонь помсты данесці і да Берліна.

Вярнулася, кашляючы і пырхаючы, Анюта.

— Ой, як вы будзеце курыць гэту гадасць... Я прыкурыла, падумала, што ў вас няма чым падпаліць...

Лёгкі шолах, хруст вугалёў пад нагамі... На плячо Мікульскага легла Анюціна рука...

— Наце...— сунула яму ў рот цыгарку.— Трафейная...

— Дзякую,— накрыў далонню яе руку, нібы злавіў птушанё. Але Анюта тут жа вышмаргнула сваю.

Пакашляў і ён.

— Яшчэ ніхто мне так не ўслугоўваў, як ты... І зараз, і ўчора-заўчора... Яечка ды яшчэ аблупленае.

— Вы пасядзіце яшчэ трохі ці завесці вас у зямлянку, прыляжаце? Палуян там адзін ваюе... Я праз хвілін пятнаццаць да вас прыбягу, добра? І ўкол зробім...

— А колькі... націкала ўжо?

— Я ў Варонькі пытала: без пятнаццаці дванаццаць...

— Як час паўзе — не пражыць, не перачакаць!

* * *

Пайшла Анюта, і Мікульскі нібы спалохаўся: дарэмна адпусціў ад сябе. Хай бы завяла ў зямлянку, там было б больш бяспечна. Чуў, што зноў надыходзяць тыя хвіліны, калі ён не валодае сабою ад болю, калі яна саступае месца галюцынацыям. Выхапіў з-пад сцягна, куды сунуў быў, як з'явілася Анюта, цясак, хацеў пастругаць навобмацак кіёк. Мо адцягне на гэта ўвагу,

забудзецца, што ёсць галава на плячах... Мо ашукае самога сябе, адтэрмінуе тое, што так няўмольна насоўваецца.

Чыркнуў па пальцы, а болю амаль не пачуў — як камар укусіў. Камар... Зрокавая галюцынацыя такая яркая — ён бачыць гэтага камара, пузца набрыньвае, ірдзее, раздзімаецца да велічыні нераспелай журавіны... Б'е па тым месцы, дзе быццам бы сядзеў камар, і, здаецца, убачыў, як пырснула ў бакі кроў, нібы бліснуў маленькі выбух. Агністая пляма выбуху не знікае, а трымціць, расплываецца, ірвецца на бясформенныя ашмоціны. Яны закругляюцца, закручваюцца ў спіралі, круцяцца, як парасоны-мухаморы. І раптам зноў замест іх разадраныя на калахматыя стужкі агністыя ўспышкі. І звон... На «жалезцы» выбухі, рэйкі ўздрыгваюць-стогнуць — цяжкі звон балюча адгукаецца ў галаве... А мо сама галава і ёсць кавалак рэйкі, «пажарнай» рэйкі... Такая рэйка вісела ў іх вёсцы каля кузні.

Скокі-ўсплёскі выбухаў зліваюцца ўмесца, ззяюць усё больш зырка і горача... «Локцем трэба закрывацца ад агню... Локцем...» Пячэ ў твар, нібы ад таго пажару, у які кідалі немцы дзяцей... Не, ад таго воза саломы, што ўтахцілі аднаго разу пад чорны прасмолены мост і падпалілі... Было такое, было... У сорак трэцім, здаецца, перад Новым годам. Бачыў пазней рэшткі таго моста, як разганялі на чыгунцы рамонтнікаў, не давалі аднаўляць: пакарэжанымі гіганцкімі змеямі, плямістымі ад іржы, закураласці, ад фіялетавых разводаў, правісалі над вадою рэйкі дарогі-аднапуткі...

А мо гэта сонца прарвалася праз галлё і смаліць у голаў? Не перасунеш пень, гэта не крэсла... Перасесці хіба на бервяно... Але ж нізка садзіцца на яго, горш напружваецца ўсё. Лепш устаць... Гнецца ў руках папруціна, не аперціся... Дурны Іллюк, хай бы таўшчэйшую выбраў!

Запазнілася Анюта... Дзе Анюта? А мо так хто паблізу ёсць?

— Кашкан! Іллюк!

Ніхто не адгукнуўся.

— Анюта-а!

«Ніхто не чуе... Укол зноў трэба... Трэба ўкол, лягчэй з ім...»

Наставіў перад тварам локаць левай рукі, правай пастукваў кійком, абмацваў дарогу... Арыентаваўся па

гуках, браў правей, чым тое месца, дзе разгаманіўся Варонька. Мінуў удала вогнішча, абстукаў кійком бервяно, асцярожна пераступіў яго. Далей перашкод няма, канавязь астанецца справа і ззаду. Ішоў асцярожна, мацаючы зямлю і кійком, і нагамі — ніякага вопыту сляпога хаджэння! І раптам тупат ног, выгукі... Спыніўся, пахістаўшыся.

Яго падхапілі пад рукі партызаны з роты Варонькі.

— Асцярожна!

— Куды вас, таварыш камісар?

— Доктар! Пакрычыце там Палуяну! Распусціў раненых...

Не супраціўляўся, амаль што абвіс на маладыя, дужыя рукі.

— У камандзірскую зямлянку! — пачуў яшчэ, як праз сон, голас Варонькі.

Гукі глушэлі, а ў мазгах займалася вялікае, на паўнеба, зарыва...

...Зарыва... Куды ні глянь, куды ні крутні галавою... Гарэлі вёскі... Дзе не справіліся ўцячы жыхары — разам з людзьмі. У гітлераўцаў ужо была практыка з папярэдніх блакад:ператвараць партызанскія зоны ў пустыні. Людзей зганялі ў адну будыніну, забівалі ўсе хады-выхады і падпальвалі. Для пэўнасці, каб не пакінуць сведак, стралялі па вокнах і дзвярах з кулямётаў, кідалі ўсярэдзіну гранаты. Калі расстрэльвалі, то хадзілі яшчэ сярод забітых, дабівалі тых, хто падаваў прыкметы жыцця. Былі і варыянты: расстрэльвалі мужчын, а спальвалі жанчын і дзяцей, старых або жанчын і дзяцей зганялі ў канцэнтрацыйныя лагеры, вывозілі ў Германію. Следам за людзьмі цягнуліся абозы з нарабаваным, гналіся статкі кароў.

Хмары дыму цямнілі і без таго змрочныя зімовыя дні, дым вісеў у лесе, выядаў вочы едкім і чадным пахам гарэлага мяса. Вылі ачмурэлыя, здзічэлыя сабакі, падцiналі хвасты і баяліся падыходзіць у лесе да людзей...

Мікульскі збіраў потым весткі пра зверствы гітлераўцаў у зоне Пінскага партызанскага злучэння. Ёсць у яго спісак, няпоўны яшчэ, далёка няпоўны... Спісак тых вёсак, што палілі карнікі, знішчалі людзей. Трэба мець такія спіскі, трэба збіраць дакументы, запісы свед-

чанняў людзей і саміх ахвяр. Хай не ўсё яшчэ ясна, не ўсё падлічана — вайна ж не скончана. Але трэба мець — будзе ж у рэшце рэшт выстаўлены рахунак фашысцкім нелюдзям.

Беразнякі — спалена і расстрэлена больш трохсот чалавек...

Хорастава — амаль трыста...

Чаланец — больш трохсот...

Гоцк — паўтары сотні...

Чучавічы — больш двухсот...

Капацэвічы — больш трохсот...

Вялічкавічы — больш двухсот...

Яськавічы — больш трохсот...

Сітніцкія хутары і вёскі вакол іх — больш сямісот...

А колькі вёсак, дзе забіта ці спалена па некалькі дзесяткаў чалавек? Ці будуць калі яны злічаны?

Ён пісаў пра гэтыя жахі ў партызанскіх лістоўках, насценных газетах, рукапісных часопісах, у падпольных друкаваных газетах. Каб ведалі і партызаны і ўцалелыя жыхары. Ведалі і спялілі ў сваіх сэрцах гнеў і помсту.

Патрэбны і іншыя запісы: пра партызанскую мужнасць і неймаверную цяжкасць барацьбы; пра мужнасць тых жа мірных жыхароў: падтрымлівалі партызан да канца і чым толькі маглі. Не было мяжы-падзелу, пасля якога можна было б сказаць: вось тут канчаецца проста чалавек, паляшук, а вось тут пачынаецца партызан. І як шкада, што так мала зроблена запісаў пра гэтую мужнасць! Легенды пайшлі пра братоў Цубаў — Івана і Міхаля, двух старых дзядоў з вёскі Навіны... Загінулі абодва, а не паказалі дарогі карнікам, не прывялі да партызан. Навіны — зусім блізка ад іх атрада, зусім блізка...

**4** Атрады злучэння з баямі адступалі да цэнтра партызанскай зоны. Боепрыпасаў было мала, і іх ашчаджалі, а сілы немцаў намнога пераўзыходзілі партызанскія, і доўга вытрымліваць лабавыя атакі партызаны не маглі. Канцэнтрацыя атрадаў, згортванне іх у адзін кулак мелі і перавагі, і недахопы. Памнажаліся сілы партызан, лягчэй каардынавалася іх дзейнасць, з большым поспехам можна было нанесці ўдар у адным нейкім напрамку, прарваць кальцо блакады,

выйсці самім і вывесці партызанскія сем'і, колькі будзе мажлівасці, мірных жыхароў. Разам з тым кіраўніцтва злучэння разумела, што гэтая канцэнтрацыя на руку і карнікам: хутчэй і лягчэй можна замкнуць кальцо, больш эфектыўна прымяніць авіяцыю і іншую тэхніку.

У ноч на 13 лютага канькоўцам давялося выступаць на падмогу тым атрадам, што змагаліся ў раёне Чаланец — Хорастаў: трэба было стрымаць немцаў, пакуль зможа эвакуіравацца штаб злучэння, будуць выведзены з-пад удару партызанскія сем'і, вывезены склады. Што грузілі на сані, што раздавалі насельніцтву. Дзесятка паўтара мяшкоў мукі, іх нядаўна прывезлі з партызанскага млына, хацелі спачатку падпаліць ці падарваць, пусціць на распыл. Але ў Мікульскага, узводу якога было даручана рашыць гэту задачу, не паднялася рука знішчыць дабро. Зацяглі на Лань, паламалі лёд і пакідалі ў ваду: хтосьці са старых, здаецца, Шула, казаў, што так не раз хавалі муку ад рэквізавання яе немцамі і паліцаямі. «У вадзе хавалі?! Дзеду, а шарыкі за ролікі ў цябе не пазаскоквалі? Наробім жабам заціркі!» — накінуліся былі на дарадчыка маладзейшыя. Але ўсё-такі паслухалі старога, і справа была зроблена. Рассудзіць, хто ў гэтай сітуацыі паказаў сябе больш абачлівым і разумным, мог толькі час. Вярнуцца ж назад у гэтыя мясціны меркавалі ўсе: хай толькі схлыне навала.

З урочышча Вілы пасля нарады камандзіраў Канькоў прывёз загад: адступаць на захад, напрамак — Лагішынскі і Целяханскі раёны. Большая частка атрадаў ідзе проста на захад, частка забірае больш на поўнач (у тым ліку і іх атрад) — Гаўрыльчыцы, Дзяніскавічы, Люсіна — і гэтак далей.

У ноч на 14 лютага першы пакінуў сваю стаянку атрад імя Шыша, потым іхні атрад і атрад імя Баруцкага. Ішлі ўсю ноч фарсіраваным маршам. І за паўночнай групай атрадаў, і за паўднёвай на многія кіламетры цягнуліся санныя абозы.

Мікульскі ўпершыню пабачыў у гэтую ноч Камарова. У ваенным шынялі, фуражцы, шыракаплечы, лёгкі на нагу, гэткі шчырак-здаравец, ён нястомна крочыў разам з усімі: то прыспешваў крок, каб абагнаць калону, пагаварыць з кіраўнікамі атрадаў, то прыадставаў, каб некага пажурыць ці падбадзёрыць. Можна

было прысесці на сані, можна было ехаць верхам у сядле. Але Камароў ішоў.

— Не адставаць, не адставаць! Зброя партызана — рух, манеўр, нечаканасць! — чуваць быў яго голас. І раптам наваліўся на аднаго падводчыка: — Як ты запрог? Як ты запрог, сялянскі сын? Конь удушыцца, ці ты не бачыш? — і тут жа падышоў, паслабіў пасак сядзёлкі.

— Дык спяшаліся... Дык жа цёмна...— мармытаў малады голас.

— Цёмна? Радуйся... Ноч — наш дзень!

— А шчо робыты, колы ў жывоці марш кішкі грають? — кінуў яму Шыпняк.

— Пад марш ісці добра, ногі лёгкія робяцца! — аджартаваўся Камароў. Але дадаў: — От лупцанём па Гаўрыльчыцах, а тады і перадышка будзе, падсілкуецеся.

Голас яго быў то энергічна-камандзірскі, то пабацькоўску ласкавы, турботлівы. То каля адной, то каля другой фурманкі Камароў прыпыняўся, пытаў:

— Не з Хорастава? А адкуль? Многім удалося ўратавацца?

Часам адказы гучалі проста страшна, і Камароў гучна, як не са стогнам уздыхаў.

Разведка выявіла, што ў Гаўрыльчыцах карнікаў чалавек пяцьсот. Партызанаў было разы ў два больш, ды яшчэ дзесьці паблізу рухалася брыгада імя Васільева, якая таксама прабіралася з пасткі на захад. Яна абяцала памагчы, калі што якое...

Каб не замінаў манеўраваць, абоз пакінулі за колькі кіламетраў ад Гаўрыльчыц. Пакуль бралі вёску ў клешчы, акружалі, брыдучы па цаліку (снегу нападала многа), пакуль перарэзвалі дарогі на Чудзін, Ражан і Чучавічы, немцы заўважылі партызан, пачалі біць з мінамётаў і буйнакаліберных кулямётаў. Стралялі ў адказ мала, толькі па тых, што выскоквалі на гала ці перабягалі з месца на месца. Ды нешта перамудрылі з манеўраваннем, бо, калі закончылі акружаць і пайшлі ў атаку, з усіх бакоў, адкрыўшы агонь з усіх відаў зброі, раптам выявілася, што атрад імя Баруцкага пакінуў дарогу на Ражан і наступае таксама з поўначы, з боку Чудзіна. Мітусячыся, падаючы пад кулямі, ворагі хутка знайшлі свабодны выхад. За будынкамі стаяла многа запрэжаных у сані коней. Жывыя кар-

нікі пакідаліся ў сані і галопам памчалі на Ражан.

Праследаваць не збіраліся — ліха з імі. І так далі добрую прачуханку, не адзін дзесятак ворагаў застаўся ляжаць на месцы. А жывыя хай ведаюць, што партызаны не разгромлены, што сілы ў іх ёсць. Да таго ж закруцілі немцам мазгі — не скора ўведаюць, дзе прайшлі з кальца галоўныя сілы злучэння.

Паўднёвая група за ноч і частку дня прайшла больш сарака кіламетраў і спынілася на адпачынак на Валутаўскіх хутарах. 15 лютага немцы зноў замкнулі кальцо, ужо ззаду атрадаў. Пачалася расправа над мірнымі жыхарамі — не ўсе паспелі ўцячы, прыхавацца ў лесе...

Пасля кароткай перадышкі паўночная група зноў пайшла на захад паскораным маршам. Буйныя гарнізоны абыходзілі, у баі не ўвязваліся. Чыгунку Баранавічы — Лунінец пераходзілі ўдзень, спаліўшы на адным пераездзе блок-будку і перабіўшы ахову. Падарваць рэйкі не было чым — павыцягвалі кастылі, занеслі некалькі рэек, боўтнулі ў калюгу. Камароў з некалькімі партызанамі з аховы павярнуў на поўдзень на злучэнне з галоўнай групай атрадаў, якая спынілася на трохдзённы адпачынак у Палотніцы.

Дабраліся да канала Агінскага, павярнулі на поўдзень, каб увайсці ў кантакт з паўднёвай групай, са штабам Камарова. То тут, то там спорвалі з соснаў «зязюль» — снайпераў. У кожнага на вінтоўцы — аптычны прыцэл. Некаторым удавалася ўцячы, і яны падымалі на ногі засады на дарозе, бліжэйшыя гарнізоны. Ясна, што іх, партызан, выявілі, што маршрут іх стаў ужо вядомы для немцаў.

Патрэбен быў адпачынак, людзі проста валіліся з ног. Патрэбна было раздабыць і харчу, асабліва хлеба, бо апошні дзень грызлі адно мёрзлае сала. Лепш з харчаваннем было ў першым і другім узводах атрада, але Мікульскага зноў непрыемна ўразіла дэталь: калі хто і меў што ў сваіх рэчавых мяшках і яшчэ сяк-так дзяліўся са сваімі таварышамі, то пра тое, каб памагчы прадуктамі трэцяму ўзводу, ніхто не хацеў і слухаць. Суседні ўзвод лічыўся ўжо чужым, і Канькоў дазваляў хадзіць па сёлах у раздабыткі кожнаму ўзводу асобна.

Дайшлі да Рудні, дзе быў штаб Камарова і стаяў атрад імя Дамброўскага. Тым часам з бліжэйшых гарнізонаў выступілі ўжо немцы, пачалі ахопліваць Руд-

ню з бакоў. Пасля кароткага бою пакінуў Пучыны і падцягнуўся да Рудні атрад імя Шчорса. Адтуль, з боку Пучын, немцы і ціснулі мацней, хоць шчупальца працягнулася ўжо і да другога боку Рудні.

Камароў разгадаў намер немцаў, выслаў некаторыя атрады ў флангавыя абходы. Клешчы немцаў апынуліся ў партызанскіх клешчах. Асноўная ж сіла партызан выбрала пазіцыю за гумнамі. І адны, і другія чакалі рашучага моманту, пастрэльвалі. Немцы білі запальнымі кулямі, мо хацелі падпаліць хаты, выпужаць партызан на больш адкрытае месца. І раптам штосьці змянілася, немцы раптоўна высыпалі з лесу, пайшлі на партызан на ўвесь рост. Ішлі натоўпамі, многія нават зброю трымалі абы-як, а не напагатове. Гэта было штосьці новае, нябачанае ў тактыцы.

«Псіхічная атака?.. Псіхічная атака!..» — зашапталі партызаны, заварушыліся, прыпадаючы да зброі. «Падпусціць да сасновых кустоў на мяжы... Да кустоў! Агонь адкрываць па камандзе!» — перадалі па ланцугу. І калі параўняліся карнікі з кустамі, лівень куль абрынуў на іх. Хто ўцалеў, кінуліся ў бакі, беглі назад, падалі, паўзлі ракам. І ў гэты час за лесам, на левым флангу, таксама пачалася страляніна — адкрылі агонь атрады, якія павёў у абход Кляшчоў.

У гэтай бойцы каля Рудні захапілі нямала зброі і патронаў, былі і палонныя. Аднаго прыхапіў і прывёў да вёскі, пад гумно, Васіль Шыпняк.

— Впізнав? Такі самы мундыр, як у того Мытрохвана... чы як ёго... Мырона з лагера.

Палонны быў у жаўтлявым шынялі, без шапкі, трымаўся за параненае плячо.

Мікульскі запытаў у яго па-нямецку, потым па-руску — хто такі? Што за часць? З якога гарнізона?

Той адмоўчваўся і вярнуў галаву да прабітага пляча.

— Перавязаць трэба... Ёсць чым? — папытаў у Васіля.

— Ні.

І тут падышоў Канькоў.

— Што за птушка? Адвячай, сволач фашысцкая! — і даў яму знізу кулаком пад сківіцу.

Палонны ад удару адляцеў некалькі крокаў да гумна. Апёрся плячыма аб сцяну, адштурхнуўся і спінаю і здароваю рукою, ступіў крок уперад. Ці спужаўся,

што апынуўся ля сценкі, ці таго, што Канькоў заскроб кіпцямі па калодцы маўзера.

— Я не фашыст! — хутка закруціў галавою, нібы яна была ў яго на шарніры. І загаварыў на ламанай рускай мове, дамешваючы незнаёмыя словы, што ён не немец, а латыш. Быў айзсаргам [1], у карны батальён уступаць не хацеў, прымусілі сілком. Потым трапіў у спецкаманду, прывезлі сюды, на Палессе.

— Добрая цаца ўсё роўна. Адвесці да Камарова ў штаб, хай там паўторыць паказанні.

Да Рудні варталіся атрады, якія былі пасланы ў абход. За немцамі далей не пагналіся. У вёсцы стала яшчэ больш цесна і тлумна. Асабліва вялікі натоўп сабраўся каля пуні дзеда Дамарада. Мікульскі, падыходзячы са сваімі хлопцамі, яшчэ здалёк пачуў рогат і выкрыкі. У цэнтры натоўпу стаялі Камароў і Кляшчоў, перад імі — ружовашчокі дзед камячыў у руках вялікі белы настольнік, толькі што сарваны з шаста.

— Дык хто гэта вас, бацька, навучыў такой хітрасці, га? — дапытваўся Камароў, сурова хмурачы бровы. Але вочы яго смяяліся.

— А ніхто. Я думаў, пастралялі трохі — і хопіць.

— Га-га-га! О-ха-ха-ха! — пацяшаліся партызаны, і Мікульскі разумеў — нервовая разрадка: яшчэ не прайшла ўзбуджанасць, што валодала ўсімі ў час бою.

— Страцег дзед... Маўляў, здаёмся, сцяг белы, а самі... Прыроджаная партызанская хітрасць. Вы не былі ў партызанах ніколі? — дапытваўся Кляшчоў.

— А мо ён хоча ўступіць? Добрым разведчыкам быў бы...— Камарову стары, відаць, спадабаўся.

— Ой, хлопчыкі, каму я, старая порхаўка, трэба: жонку нават не ўпасу: пойдзе па воду — і прападзе.

Зноў, перакатамі, рогат.

— Да партызан маладых бегае!

— Дзеду, вы яе на вяроўцы, як цялушку, пасіце! А то яшчэ нянькаць малога на старасці будзеце: «Уа-а! У-а!»

— Двайняшак! Га-га-га!

Рагатаў і сам стары. Камароў павярнуўся ісці, завучы з сабою Кляшчова:

— Аляксей Яўхімавіч, ёсць размова. Пайшлі хутчэй!

---

[1] Айзсаргі — узброеная нацыяналістычная арганізацыя латышскай буржуазіі і кулацтва.

— То куды ж вы? — спыніў іх Дамарад, страпянуў у паветры настольнікам, нібы высцепаў пыл.— То вы ж бы і ў маю хату зайшлі, паглядзелі, як я жыву.

— Хапае ў вас і так пастаяльцаў. Другім разам! — адмовіліся яны.

Заставацца ў Рудні і надалей было неразумна. Ужо скрозь недзе зумерацъ нямецкія тэлефоны, перагукваюцца рацыі. Склікаюцца свежыя сілы, каб зноў замкнуць вакол атрадаў кальцо. Нельга было заставацца і таму, што Рудня і невялікія навакольныя вёскі не маглі пракарміць такую вялікую партызанскую армію, пратрымаць сотні коней. І некалькі атрадаў са штабам злучэння ў ноч з 22 на 23 лютага перамясціліся ў вёску Бабровічы каля Бабровіцкага возера. Каб адцягнуць увагу немцаў, прыхаваць гэты манеўр, было атрымана заданне — напасці на Святую Волю. Захацеў ісці на гэтае заданне атрад імя Шыша і з не вельмі вялікай ахвотай, толькі падпарадкуючыся загаду, Канькоў. Лічылі, што гэтай сілы будзе дастаткова — у гарнізоне ў Святой Волі па дадзеных разведкі было не болей за трыста чалавек.

На досвітку атрады былі ўжо каля вёскі. Канаводаў з конъмі адправілі ў бок Бабровіцкага возера — хай чакаюць, і пачалі акружаць. Ціха зрабіць не ўдалося, пад раніцу падхапіўся мароз, і снег рыпеў пранізліва і тонка, звінелі на лужынах ільдзінкі. Пачуліся ў вёсцы трывожныя стрэлы вартавых, успыхнулі ракеты. Частка немцаў і паліцэйскіх паспелі заняць пазіцыі, але іх вытурылі адтуль адразу. Больш супраціўляліся тыя, што заселі ў будынку былога пастарунка і ў дзотах. З аднаго дзота кулямёты білі ўсцяж вуліцы, не давалі падысці да пастарунка. І ўсё-такі некалькім партызанам удалося з тылу падабрацца, закідаць будынак гранатамі, а потым падпаліць. Хто астаўся жывы, павыскоквалі і разбегліся. Але з пастарунка вялі ходы ў дзоты, туды перабегла некалькі паліцэйскіх. Здраднікі, адчуваючы, што літасці ім не будзе, агрызаліся люта і не пераставалі пускаць ракеты трывогі.

— Здавайцеся, а то падкоцім гармату і разнясём на друзалачкі! — крычалі ім партызаны.

— А ў вас гарматы нэ мае! — выкрыкнулі адтуль па-ўкраінску.

Хто гэта? Мясцовыя жыхары, якія таксама любяць карыстацца ўкраінскімі слоўцамі, ці яшчэ адна разнавіднасць набрыдняў — ужо з украінскіх нацыяналістаў?

Спрабавалі закідаць дзоты мінамі — быў мінамёт, былі міны. Але міны не бралі. Кулямёты дзотаў амаль не змаўкалі. Не змаўкала траскатня і ў будынку пастарунка — ірваліся патроны. Бязгучна ўзляталі ракеты.

— Канчаць загадаў камандзір! — падбег, прыгінаючыся і хаваючыся за брустверам заснежанага раўка, пасланец ад Канькова.— З адным, кажа, паршывым дзотам не могуць справіцца.

— Справіцца зможам, але і галаву абы падстаўляць не збіраемся,— адказаў Мікульскі.

Тых, што заселі ў дзоце, пачаў «хрысціць» па-ўкраінску Васіль. Далікатных слоў не выбіраў — наадварот. У адказ пасыпалася адборная лаянка.

— Я дапаўзу да здота, я ж малы, і суну ім у дзірку гранату,— з'явіўся паблізу Эдзік.

— Адставіць! — сказаў Мікульскі.— Адкрытае зусім месца, прыстраляны кожны метр. Дзесяць разоў прашыюць, пакуль дабярэшся. Васіль, вазьмі чалавек колькі, збегайце да «дзядзі Васіля», папрасіце саракапятку.

Шыпняк, Эдзік і яшчэ два партызаны, Пятрок і Дзіма, пабеглі на другі канец вёскі, у суседні атрад. Неўзабаве яны прыкацілі гармату, умацавана яна была на колах з сялянскіх калёс. Боезапас выдзелілі ім малы — пяць снарадаў.

Білі прамой наводкай. Спачатку асколачным — не прабівае. Потым бранябойным — прашыў наскрозь, штосьці там абрушылася, задыміла, пачуліся крыкі і стогны. Уляпілі яшчэ адзін дакладна ў тую самую дзірку. Дзот заціх канчаткова. Тыя ж, што заселі ў другім дзоце, здаліся.

Набралі крыху патронаў, знайшлі багатую аптэку, скрынкі з пячэннем, віном. Віно давялося разбіць — гэта не гарэлка і не спірт, сугрэву не дае.

Ракеты трывогі, а мо і тэлефонныя званкі нарабілі клопату. З Ганцавіч, ■ Івацэвіч, а перш за ўсё з Целяхан падскочылі на машынах і браневіках немцы. Адступалі пад іх агнём, агрызаючыся, на поўнач. Тым часам пайшлі ў наступ тыя, што падціскалі партызан з

захаду, з Вулькі, і тыя, што выехалі па трывозе з Івацэвіч.

Пагроза акружэння зноў навісла над атрадам.

Ішлі па нейкіх нетрах, балоце, а потым правальваліся ў возеры. Далёка ўжо было ад берага, выбірацца назад не мела сэнсу — мокрыя ўсё роўна. Рушылі далей, ломячы перад сабою прысыпаны зярністым, калючым снегам лёд, рассоўвалі крыгі то ў бакі, пад лёд, то выварочваючы іх і пляскаючы наверх. Спадыспаду крыгі былі наздраватыя і жоўтыя, у іх умерзлі травінкі, дудачкі трысця. Вада ў возеры была то па пояс, то па грудзі, і людзі брылі, трымаючы над галавой зброю, рэчавыя мяшкі, падсумкі з патронамі. Маларосламу Эдзіку было горш за ўсё, і Мікульскі яго часта прыпадымаў, падтрымліваў. «Прастудзіцца хлопец... Хоць бы потым было дзе абсушыцца, абагрэцца...»

Калі перабрылі возера, узрадаваліся, што коні нідзе не прапалі, што канаводы чакалі людзей да апошняга. Мікульскі патрабаваў, каб верхам селі тыя, хто найбольш саслабеў, і ў першую чаргу параненыя. Астатнім, хто горш трымаўся на нагах, чапляцца за стрэмі і рухацца далей. Наверсе, на ветры было горш холадна, чым у вадзе. І людзі карчанелі, запіхвалі ў адзенне вішу — сухую асаку, мох, клалі мшаныя пракладкі ў абутак.

Выбіліся на дарогу, што вяла ў Баброўчы. Там недзе асноўныя сілы злучэння, там абозы і шпіталь, там — Анюта... Аднак і сотні метраў не прайшлі дарогаю, як ударылі з-за павароту, [redacted] засады, кулямёты і аўтаматы. Але добра, што немцы не вытрымалі, пачалі страчыць раней часу, яшчэ здалёк. Каб падпусцілі бліжэй, то паклалі б нямала. Пярэднія партызаны кінуліся ў лес, тыя, што ішлі пасля, вымушаны былі адкрываць агонь у адказ, прыкрывацца.

І зноў ішлі па лесе і бездарожжы. Натрапілі на спаленыя, адны печы з комінамі маячаць, вёскі. Мусіць, не цяпер спаленыя, бо на месцы сядзіб тырчаць з-пад снегу сухія бадылі бур'яну. Ішлі далей на ўсход да канала Агінскага — партызан каля Баброўч ужо не было, адступілі, не ўвязваючыся ў бой. Але куды? У каго папытаеш? Ні вёсак, ні людзей...

Не дайшоўшы да канала, Канькоў загадаў паварочваць больш на поўдзень, пад Целяханы, і тут натрапілі на сляды партызан. Хутка і злучыліся з імі. Атрады

былі ў паўкальцы, частка іх трымала абарону на пераправе.

Страляніна, то глухая і далёкая, то зусім блізкая, чулася тут і там, справа і злева, і было ўражанне, што паўкальцо ўжо не паўкальцо, што карнікі зноў заціснулі вакол іх пятлю і зараз намацваюць стрэламі, дзе ў партызан слабейшае месца. Стралялі зрэдку і партызаны — бераглі патроны, ва ўсе бакі пайшлі і папаўзлі пошукавыя групы — шукалі слабейшае звяно ў нямецкім кальцы.

Партызаны займалі абарону на краі вялікай паляны. Канькоўцы далучыліся да іх. На другім канцы паляны, метраў за пяцьсот, былі ўжо карнікі, адтуль, з-пад ельніку, і білі іх кулямёты. Некалькі партызан, якія неасцярожна было высунуліся на голае, зараз і ляжалі там — скасілі.

І раптам Мікульскі ўбачыў, што справа, дзе паляна звужалася на клін, выбег за ланцуг у доўгім скураным паліто Кляшчоў. Жаўцізна паліто вылучалася на снезе.

— Лажысь!!! — як не сваім, хрыплым голасам закрычаў яму, і сакратар абкома тут жа расцягнуўся ў снезе — інстынктыўна, мо яшчэ і не ўразумеўшы, хто і адкуль на яго крычыць. У тое ж імгненне кулямётная чарга ўспарола вакол яго снег. Кляшчоў хуценька адпоўз пад прыкрыццё дрэў.

— Хто крычаў? Вы крычалі? Які атрад? — хутка крочыў ён уздоўж ланцуга да Мікульскага.

— Камандзір трэцяга ўзвода Мікульскі...— і Цімох Андрэевіч назваў атрад.

— Перадайце камандзіру — ідзём на прарыў. І зразу пераходзім канал. Небяспечна, каб гэтыя гады за нашымі абозамі не ўвязаліся. Напрамак — зюйд-ост...— мабыць, Аляксей Яўхімавіч бачыў, які спакутаваны і прыгнечаны выгляд мелі байцы атрада, бо дабавіў: — І не вешайце, хлопцы, насы: мы свае задачы выконваем добра, у фрыцаў у тыле сапраўдны другі фронт.

У гэты час да Кляшчова, зрэагаваў урэшце на гаману, падышоў Барыс Канькоў, неахвотна ўскінуў далонь да шапкі:

— Таварыш камісар злучэння, атрад...

— Ладна, ладна... Зверым гадзіннікі...— дастаў свой недзе з-пад крыса паліто.— Зараз шаснаццаць дваццаць. У шаснаццаць трыццаць ідзём на прарыў —

зюйд-ост,— паўтарыў ён для Канькова і махнуў рукою на паўднёвы ўсход.— Усё ясна?

— Ясна...— неахвотна сказаў Канькоў.— А далей куды?

— На тым беразе канала дагаворымся! — Кляшчоў подбегам знік у лесе.

Партызаны падубелі лежачы. Уставалі са снегу з войканнем і стогнам, шкандыбалі ўглыб, скучваліся. Вопратка на людзях патрэскала, звінела — змерзлася. Мабыць, і штаны папрымярзалі да скуры ног, а мо адны толькі валаскі прымерзлі — іх нібы вышчыпваў хто з галёнак і сцёгнаў пінцэтам: калола, што іголкамі. А ступакоў не чулі, боты былі як корчыкі-дзеравяшкі, і ўсе не ішлі, а кульгалі, квола і часценька. Не памагалі мох і сена, многія памарозілі ногі.

Гэта былі апошнія маразы.

Прарыў прайшоў удала. У тым баку немцы не паспелі яшчэ нагнаць дастаткова сілы, і тонкі ланцужок пэнкнуў, як толькі пачулася нядружнае, але працяглае «ўра!». Падбеглі да вузкакалейкі якраз у той час, калі па ёй спяшаўся, цяжка пыхкаючы парай, паравозік — цягнуў за сабою некалькі платформаў з немцамі. Па паравозе стрэльнулі з ПТР, па платформах ударылі на бягу з аўтаматаў, вінтовак, ускінутых на руку «дзегцяроў». Каторыя карнікі паспелі скаціцца з платформы, заселі былі за коламі, залеглі за насыпам. Але штурм быў імклівы, і рэшткі нямецкіх падмацаванняў былі рассеяны па лесе і балоце. А паравозік тым часам спускаў дух — з прабітага катла свістала-шыпела пара, сіпкі свісток, крык аб дапамозе, усё глушэў і чах, пакуль зусім не сканаў.

На другі дзень штаб злучэння выйшаў да вёскі Краі, к першаму сакавіка — да Палотніцы. Мароз прапаў зусім, было некалькі градусаў цяпла, а тут яшчэ прыгрэла сонца — і снег хутка ператварыўся ў калатушу-жур.

Ілюзіі ні ў кога не было, што ўдалося адарвацца. Увесь час над ваколіцай вісела «рама» і, вядома ж, перадавалі каму трэба і што трэба. Карнікі, мабыць, лічылі, што аперацыя «Люты» скончылася вельмі ўдала: партызаны ў Ленінскім і Лунінецкім, Старобінскім раёнах знішчаны, а часткова рассеяны, ліквідаваны іх базы, папалены вёскі разам з жыхарамі. Хто і ўратаваўся з партызан, то не будзе мець ні падтрымкі, ні

дапамогі. Але трэба, лічылі немцы, яшчэ адно намаганне, каб не толькі даціснуць праціўніка, як павержанага байца, лапаткамі да долу, але і знішчыць дарэшты. На змену аперацыі «Люты» пачаліся адразу дзве — «Горнунг», накіраваная сваім вастрыём на поўдзень і паўднёвы захад ад Слуцка, і «Цёплы вецер» — у паўночным напрамку ад Лунінца.

Шостага сакавіка, у суботу, на суседні атрад напалі з поўначы. Памаглі яму адбіцца, вывесці асабовы састаў з-пад удараў. Гэты атрад павярнуў зноў на захад: вагульны кірунак руху — усход — быў, безумоўна, вядомы праціўніку, а вось такі манеўр можа стацца нечаканым. Канькоў, які якраз праводзіў нараду камандзіраў, сустрэў гэтую вестку абыякава. Мікульскі таксама прапаноўваў выкінуць які фінт, нечаканы для ворага, каб таксама незаўважна знікнуць з поля зроку немцаў. Аднак камандзіры першага і другога ўзводаў рэагавалі на гэта вяла, на нарадзе як не драмалі: нікому не хацелася кідаць цёплых хат, не ўсе яшчэ адаспаліся і абсушыліся. Цяпло і сытасць — неверагодныя, казачныя даброты, якіх не мелі ўжо каля месяца, размагнічвалі, забіралі рэшткі волі.

— Маршрут мяняць не будзем — на ўсход, на старое месца. Выступаем праз два дні...— загадаў Канькоў. І невядома было, для чаго ён збіраў такую нараду: ні да адной парады не прыслухаўся.

Выступіць спакойна не ўдалося. Атрады, якія рушылі на дзень раней, прайшлі яшчэ нармальна. А яны тыцнуліся ў адну вёску — немцы, у другую — таксама. Вялікае злучэнне карнікаў ціснула з боку Багданаўкі, Лунінца.

Становішча склалася крытычнае. Балоты ператварыліся ў моры вады, з трох бакоў, на астравах, немцы. Выйсці можна было толькі цераз адно з такіх шматкіламетровых мораў. І ноччу...

* * *

Анюта не пазнавала сябе, сама з сябе дзівілася: пачуваецца зусім-зусім здаровая! У целе лёгкасць і бадзёрасць, хочацца жыць, жыць! І працаваць...

Гаварыла Мікульскаму — прыбягу «праз пятнаццаць хвілін». А паказаў Харашун свой трафейны хранометр — перапужалася: больш за гадзіну прабавіла-

ся. Але ж і работы перарабіла: перамыла бінты, занесла на кухню бляшанку з іголкамі, каб пракіпелі добра, а тым часам папрыбірала ў шпітальнай зямлянцы. Выскачыла за зямлянку памацаць, ці высахлі тыя бінты... Сухія ўжо, але хай выветраюць больш, павісяць. Вярталася назад у зямлянку і толькі цяпер заўважыла, што Мікульскага ў курылцы няма. Папрасіла Нядзельку і Кашкана, каб памаглі,— павыцягвала на сонца некалькі незанятых сеннікоў і коўдраў, падушак. Хай прапячэ іх сонца, менш будуць пахнуць цвіллю і сырасцю. Добра было б памяняць у некаторых салому і сена, перабіліся на пацяруху. «Хай толькі Канькоў вернецца — скажу, каб з-пад зямлі дастаў... Пакладзём параненых на свежыя... Мурагом будзе ў зямлянцы пахнуць, медуніцай...»

Каб хто сказаў ёй на той час, што не сваю ты справу робіш, дзеўка, не ўваходзіць гэта ў абавязкі медсястры-санінструктара, то яна толькі б здзівілася: а хіба гэта ўсё не паўплывае на здароўе людзей?

Прынесла бляшанкі з кухні, хуценька парабіла ўсім уколы. Ніхто не адмахваўся, ніхто не пішчаў, не было і жартаў, як пры Раі. І толькі тады пайшла з усімі прычындаламі да Мікульскага.

«Не дачакаўся, бедны... І не хутка пройдзе прыступ, усё зацяжнейшыя робяцца...» І тут жа прыплылі-завіслі над ёю, як матылькі, здаецца, нават бачыла іх... Не, не як матылькі — як пчолы, словы Мікульскага: «Ты не будзеш адзінокая... Не будзеш... Давай палядім гэтым самалётам...» Круціла ажно галавою, адганяла ад сябе гэтыя словы, адпужвала. А яны зноў вярталіся, тонка звінелі над вухам, як туга напятая струна. «Я ўсё зразумела, Цімох... Што ты хацеў сказаць і не хацеў... Усё разумею... Вам толькі здаецца, што жанчыны някемкія. Але што рабіць, калі я цябе не кахаю? І ці змагу пакахаць? Эх, Цімох... Андрэевіч... Таварыш камісар...»

Мікульскі ляжаў на канапе, плечы — на калодцычурбаку, на які ўскінута скруткам яшчэ і ватоўка. Не ляжыць — амаль сядзіць. Паклікала ўрэшце яго — і ціха, і мацней... Не адгукнуўся на сваё імя, на яе «прафесійна-медыцынскі» бадзёры тон. Яшчэ раз пазвала — «Цімох...», па бацьку не называла, знячэўку так атрымалася. Мікульскі маўчаў, толькі чуваць быў праз сціснутыя зубы лёгкі стогн.

Паставіла асцярожна на краечак стала бляшанку з

інструментам, прыбрала збольшага са стала — і выйшла.

«Хай паляжыць... Хай... Зайду пазней крыху. А цяпер трэба полудзень раздаць... Як там у Фядоры, ці гатова?»

Ішла па выструганай, ачышчанай ад травы сцежцы-лінейцы пад навіссю хваёвых галін. А тут і Фядора насустрач, ды не адна, а [redacted] Іванам Кратом. Толькі што выйшлі з кухні, твар у кухаркі круглы, як месяц-поўнік, свеціцца, у Крата — здаволенасць на тоўстых замасленых губах, санлівасць у вачах. Ён вяла водзіць нізіркам па баках, амаль не паварочваючы галавы, нібы выглядае добры куст, пад які можна было б заваліцца і храпануць «мінут шэсцьсот» — мара на мяжы фантастыкі, як лічылі ўсе партызаны. Добра, мабыць, па завязку накарміла яго Фядора, і Анюта ўсміхнулася сама сабе: «Пажартавала, а яна ўсур'ёз успрыняла маю параду!» Кухарка ж, заўважыўшы ўсмешку на яе твары, і сама расплылася ад шчасця і ўдзячнасці да яе: гэта ж так добра нараіла! Як па масле ўсё ідзе, як па масле...

— Ці гатовы полудзень для параненых, цётка Фядора? — спытала і ступіла трошкі ўбок, даючы прайсці Івану. Адразу ж убачыла, як спахмурнеў твар Фядоры, як яна збянтэжылася і разгубілася, хуценька прашаптала, тузануўшы неўпрыкмет Анюту за рукаў.

— Я ж цябе прасіла — не называй так! — і калі Анюта таксама збянтэжылася і войкнула, дадала ўголас, зноў памяняўшы тон: — Гатовы, гатовы... Іваначко-о-о! То ты ж не ўцякай, паможаш Анюце...

Крот марудна павярнуўся, гэтак жа марудна, нават ленавата пакрочыў назад да кухні. Праз хвіліну-другую ён ужо нёс вядро з супам, якое ўручыла яму кухарка, у другой руцэ — бачок з кашай. Паўвядра супу і гэтая каша былі не вага для яго, Анюта сама справілася б з такім цяжарам, але [redacted] нейкай пакорлівасцю і паблажлівай усмешкай ішла следам за Іванам, несла міскі і лыжкі, азіралася часам назад на Фядору. Тая не адыходзіла далёка ад кухні-павеці, выцірала фартухом рукі і замілавана глядзела ім услед. Пасміхаліся і Кашкан з Нядзелькам, яны стаялі каля шпітальнай зямлянкі, падставіўшы сонцу твары, курылі і глядзелі на гэтае крыху ўрачыстае шэсце. Выгляд у абодвух быў, як у загаворшчыкаў. Яны, мабыць, ведалі ці зда-

гадваліся, што ў кухаркі і Івана завязваліся інтымныя адносіны, і зараней цешыліся, нібы ўжо смакавалі, што з гэтага атрымаецца і як яны будуць яго «разыгрываць».

Супу пасля раздачы засталося ў вядры яшчэ няммала, і Анюта пакінула вядро Крату, сама панесла міску, лыжку і лусту хлеба, амаль адзін мякіш, у зямлянку да Мікульскага. Перад тым як утупіць позірк пад ногі, каб не спатыкнуцца, спускаючыся, паглядзела ў бок шпітальнай зямлянкі: Кашкан, Нядзелька і Крот сядзелі каля шпіталя на выкладзеным дзярнінай крутым схіле, што падымаўся да стрэшкі, і дружна працавалі лыжкамі. Здавалася, нібы Крот і не еў да гэтага. Іллюк штосьці ўжо гаварыў да яго, паглядваючы знізу ўгору ў твар, а ў самога выгляд быў занадта сур'ёзны. Пачынаўся розыгрыш.

Сышла асцярожліва ўніз, да дзвярэй зямлянкі...

Мікульскі сядзеў ці ляжаў усё ў той жа позе. Толькі рукі, помніць, першы раз былі апушчаны ўніз, апіраліся абапал у тапчан. Цяпер жа далоні былі прыціснуты да вачніц, ахаплівалі ўвесь лоб. На рыпенне дзвярэй камісар не зрэагаваў, не пачуў і таго, як яна балюча выцялася каленам аб табурэтку, ахнула, ледзь не выпусціўшы міску з супам.

Паставіла хутчэй на стол суп, прысела, паціраючы балючае месца, паглядаючы на камісара. Потым узлегла локцем на стол, збедкавана схіліла на далонь шчаку. Хоць быў прыцемак у зямлянцы, але чым даўжэй яна сядзела, тым больш, здавалася, святлела, і яна бачыла ўжо, якая шчаціна ў Цімоха Андрэевіча праклюнулася на шчацэ і падбародку. «Гэта ж трэба было неяк прыдумацца Адаму, пагаліць яго... А то адправім на Вялікую зямлю ў такім выглядзе... Лесавік... Ці не варта? Абы чысты быў, памыты. Хай гадуе бараду... Многія бароды ці вусы пагадавалі...— думалася ёй, і незабінтаваныя ўчасткі яго твару здаваліся бледна-шэрымі, пад колер бінтоў.— Напакутаваўся, бедны... І невядома, калі скончацца яго пакуты. Як не вернецца зрок да другога вока, то колькі жыць будзе, столькі і пакутаваць яму. І добра ж, калі хто будзе пры ім... Матка, скажам... А мо і жанчына харошая знойдзецца, што не збаіцца падзяліць яго бяду, паможа гараваць гора. Знойдзецца, няўжо ж не знойдзецца! Павінна знайсціся... Такі мужчына відны... У Васіля твар больш далі-

катны, з нейкай жаноцкасцю. Бровы, вейкі, што ў дзяўчаці — пушыстыя... Прыгажун... А ў Цімоха больш буйныя рысы, высечана з размахам. Па-свойму таксама прыгожы, на такія твары кажуць — валявы, мужны...»

«Як жа ён, няшчасны, усё-такі будзе адзін? Такі стрыманы, недаступны, як Рая казала, нібы ўжо апёкся на нейкай... «Ты не будзеш адзінокая...» Я разумею цябе. Хто сам кахаў, той і другога зразумее. Паважаю, захапляюся... Шкадую вельмі... Але ж гэта не каханне. Хіба так каханне можа пачацца? Не знаю, не ведаю... У мяне не так было, не так... За акном бліскавіцы былі, а мне здавалася — і ў сэрцы. Усе закутачкі засвяціліся ў душы, як падпаленыя. А цяпло ад Васілёвай рукі хвалямі ішло — торг, торг... Як пульс... І па ўсім целе... Дзіва!»

«Васілёчак, Васілька...»

Сама не заўважыла, як успаўзла, казычучы, на пераноссе сляза, скацілася, пеканула ў далонь, што падпірала шчаку. Схамянулася, выцерла вочы і шчокі. Не трэба раскісаць зноў, паддавацца пачуццям. Калі так ужо не ўтрываць будзе, паплача ноччу цішком... Каб ні Фядора, ні Дуся не пачулі... Дуся-то напэўна не пачуе, яна як прыходзіць з кухні, нарабіўшыся, як бухне на сваю пасцель, то мо на адным баку і раніцу прычакае. Дый старая яна ўжо — за пяцьдзесят... Шулава жонка... А от Фядора — тая можа правойкаць, праўздыхаць каля Анюты да світання.

«Нельга да Васілёвых бацькоў ехаць. Хто я ім? Ніхто... Не дакажаш нічым, што Васілёва жонка... А ці трэба даказваць? Калі трэба даказваць, то нашто тая сустрэча? Сама выгадую, сама... А яго бацькам напішу калі-небудзь. Так і так, ёсць у вас унучак. Не загінуў Васіль назусім...»

«Астыла ўсё...— спахапілася.— Прыйдзецца свежага прынесці з кухні... А пакуль збегаю па анучу, вядро, мятлу, прыбяру трохі і тут...» — і яна зноў пабралася наверх.

Недзе блізка вішчэлі непадмазаныя колы, фыркаў, мусіць, здзьмухваючы з губ сляпня, конь. «От ужо вопусцень... Не, каб падмазаць... За кіламетр сябе дэмаскіруе...» — Анюта здагадалася, што пад'язджае да лагера Канькоў. На трох фурманках ён яшчэ досвіткам выехаў на базу брыгады — у мірны гаспадарчы лагер,

дзе былі свае майстэрні — аружэйная, шавецкая, кравецкая, хлебапякарня і «крупадзёрка» — вялікія ручныя жорны, былі склады і брыгадны шпіталь. Пачула гэты віскат колаў і тройца, што сядзела каля шпіталя,— Крот, Нядзелька, Кашкан, усталі і пайшлі насустрач міма конавязаў, дзе ўзбіралася на паляну травяністая дарога. Вядро з укінутымі міскамі стаяла, схіліўшыся, на месцы, дзе яны палуднавалі. «От лайдакі, не — каб занесці на кухню...» — падумала яна, спускаючыся да параненых, у зямлянку.

«Дзе той Палуян дзеўся? Мо прывезлі чаго добрага з лякарстваў... Хай бы ж паглядзеў, мо што новае назначыў бы Мікульскаму...» — і, азірнуўшыся з прыямка, убачыла, што Адам Іосіфавіч выйшаў з-за партызанскіх зямлянак порсткім крокам, на хаду то выціраў рукі, то папраўляў акуляры.

— Цябе толькі па смерць і пасылаць,— адразу пачаў ён прабіраць Канькова.— Два разы можна было ўжо туды-сюды звярнуцца.

— А вам, таварыш эскалоп, ніколі не дагодзіш. Разарвіся надвое, адразу — чаму не на чатыры часці? — Канькоў саскочыў з воза, павярнуў каня да склада і ўскінуў лейцы на мяхі і скрынкі.

Анюта крыху памарудзіла — ісці ў зямлянку ці да вазоў? Вунь ужо хлопцы атачылі вазы з усіх бакоў, па руках пайшлі свежыя газеты...

«Эскалоп, эскалоп... Сам добры асталоп! Слоўцамі кідаецца, а не разумее, што такое эскулап, што эскалоп...»

Не, трэба спачатку тое зрабіць, што надумала. Разгружаць ёсць каму. Адчыніла дзверы шпітальнай зямлянкі шырэй...

Мабыць, і параненыя пачулі віскат колаў і здагадаліся, хто едзе.

— Прыехаў... той? — папытаў Шула, і ўсе зразумелі — хто.

— Сястрыца Алёнушка, скажы братцу Іванушку, што на белым свеце робіцца? Мо ўжо вайна скончылася, а мы й не ведаем,— звярнуўся да яе Лысуха.

— Ну але! — адказаў яму Шула.— Яшчэ толькі за Беларусь армія падышла біцца, а ты — «скончылася»!

— Ціха, палітграматны дзед! — махнуў на яго Лы-

суха.— Дай папытаць... Як там — пайшлі нашы ў наступленне? Замарудзяць, то зноў паспеюць немцы «жалезку» направіць. А саюзнічкі — што? Як там у Нармандыі? Паўмесяца ж як высадзіліся... Сабраліся праз тры гады вайны, як галодныя ў крапіву с...

— Нічога не ведаю яшчэ, не падыходзіла да Канькова,— гаварыла Анюта, адшукала вачыма за жалезнай печкай пры ўваходзе вядро, мятлу і анучу.

— Газетку б свежую... Радыё паслухаць... Тры гады сёння, як вайна пачалася... Тры гады! Ты чуеш, дзед?

— Аг-а-а-а...— уздыхнуў Шула. А Ян Пюрка і Харашун не абзываліся, мабыць, задрамалі пасля полудня.

Лысуха заківаўся ўперад-назад, а рукі яго не знаходзілі сабе месца, парываліся ўперад, да ўкарочанай нагі, нібы збіраліся пачухаць кульцю, пазрываць з яе ўсё. І стагнаў скрозь зубы, камячыў коўдру, драў яе пальцамі.

— Ну, ціха, ціха,— сказала яму Анюта, прайшла каля нараў, сабрала міскі і лыжкі: амаль усе недаелі.— Але ж і едакі вы... Тут жа і мяса варылася, во — скалачкі плаваюць... І пасолена.

На выхадзе працягнула другую руку, укінула ў вядро мятлу, анучу, падхапіла за восілку. Адчыняла і зачыняла дзверы нагою. Выйшаўшы, укінула посуд у вядро з-пад супу і адразу завярнула за зямлянку ў лес, у арэшнік.

Сцежка ішла ўніз, да балота, чым далей, яна рабілася сырэйшая і грузкая. Ля самага балота была выкапана невялікая, тры на чатыры метры, сажалка — спецыяльна, каб мець ваду на тэхнічна-гаспадарчыя патрэбы, толькі не для кухні. Каб лішне не насіцца з вадою, там, ля сажалкі, і мылі што трэба, і сушылі, накідаўшы на кусты. А цяпер Анюта набрала вады, выпаласкала анучу, зноў чэрпнула, чыстай, і пачала падымацца назад па сцежцы. Ужо дабраўшыся да груда, дзе было суха, яна адчула, што ёй цяжка і душна. І тады схамянулася: «От жа дурніца! — і выплюхнула з трэць вядра вады на дол.— Берагчыся трэба, а я...» Пастаяла крыху, супакойваючыся, прыклала руку да жывата, прыслухалася сама да сябе. Усё добра, не стрывожылася... Ускубнула з лапінкі «заечай капусты» жменьку трохлопасных, як у канюшыне-дзяцель-

ніку, лісцікаў. Зжавала іх усмак, не чуючы кіслаты. А раней жа адразу хапала за зубы аскома.

Збочыла са сцежкі ўправа і акурат выйшла да камандзірскай зямлянкі. Не хацелася лішні раз вытыркацца на вочы Канькову — цярпець яго не магла. А з красавіка леташняга года спрацівеў ён ушчэнт. Быў момант, што траха не застрэліла яго...

Спусцілася асцярожна ў зямлянку да Мікульскага. Камісар ляжаў, не мяняючы паставы, трымаючыся за галаву.

Намачыла паціху, паскрэбла цесаком і добра змыла стол. Потым доўгую лаўку з шырокага аполка каля левай сцяны, перастаўляючы і яе назад на стол знятую было бляшанку з інструментам і міску з супам. Узялася падмятаць падлогу з пакладзеных абы-як, абы не тырчалі, дошак падлогі, дайшла да дзвярэй. Што рабіць яшчэ? Выкруціла анучу, працерла дзверы — спачатку з сярэдзіны, а потым і знадворку, расчыніўшы іх насцеж. Знадворку на дзвярах было многа кропель-воспінак засохлага пяску, пырскала з бруствера ў час дажджу. Здрыганулася спуду, як пачула над сабою ўкрадліва-ціхі голас Канькова:

— То здароў мо, работніца...

Разагнулася і тут жа зноў нахілілася да дзвярэй.

— Здрастуйце...— нібы ўперлася яму ў грудзі доўгім кіем — «...це»: і не падступай бліжэй.

Канькоў ступіў некалькі крокаў па брустверы і сеў, спусціўшы ногі ў прыямак.

— Што гэта ты... нейкая на сябе не падобная з твару?

Анюта нічога не адказала. Бакавым зрокам яна бачыла, што праходзіць ёй давядзецца паўз ногі Канькова, а праход там вузкі... Церці дзверы надакучыла — памыла ўжо. Але правяла яшчэ анучаю па вушаках — звычайных, нават не акораных бярвенцах.

— Чуў, чуў, што ў цябе няшчасце...— Канькоў памахаў у праходзе нагамі, нават уздыхнуў.— Прымі і маё спачуванне. Харошы быў хлопец. І смелы — партызан што нада. Я Васіля шчыра паважаў, павер... Камісар тожа, кажуць, чуць не таго?

— Кажуць...— прагаварыла яна, падагнала сябе ў думках: «Дык жа ідзі, калі трэба! Збаялася?»

— Але ты не ўнывай, цвет ліца порціцца. На вайне ўсё бывае. Вайна на тое! Я вот табе... падарунак пры-

вёз... Во! — дастаў ён з кішэні зялёнага нямецкага кісеця каралі з вялікіх, няправільнай формы кавалачкаў бурштыну, прыўзняў над левай далонню і... пусціў пальцамі. Каралі з дробным касцяным стукам апалі на руку. Залацістая горачка, кожная пацерачка, як абсмактаная цукерка-ледзянец.— Во тут, у цэнтральным, самым большым кавалку жучок нейкі... Закансерваваны навекі. З-за гэтага жучка цана караляў знаеш на колькі ўзрастае? У-у-у... А я табе дару.

— Пакіньце іх сваёй нявесце! — Анюта ўхапіла за восілку вядро, у правую руку — анучу і смела пакрочыла міма Канькова. І тут Канькоў выставіў ногі, упёрся ў другі бераг, перагардзіўшы ёй дарогу. Боты ў яго хромавыя, новыя, хоць крыху і падрапаныя ў насках, запыленыя.

— Ну, што ты ўсягда ерапенішся? Я ж па-харошаму з табою...

— Пусціце! — стала каля самых яго ног, звёўшы ад гневу бровы.

— На-а, ідзі... Толькі не трэба разыгрываць з сябе недатрогу.— Канькоў апусціў правую нагу ўніз, і, як толькі Анюта рынулася ўперад, ён раптам падняў апушчаную нагу, ужо ззаду яе. Анюта апынулася, як у клешчах, і тут жа рэзка крутанулася тварам да яго — плюх! — уляпіла скамечаную анучу ў ненавісную морду.

— Ты што-о, малахольная?! Я ж па-добраму ўсё! — брыкнуў ён дагары на бруствер. Ногі задраў угору, перакочваючыся на левы бок. Анюта імгненна шухнула на яго азадак брудную ваду.

— Ты што-о?! У Дарданелы... тваю...— усхапіўся Канькоў на ногі.— Ды я цябе...

Здалёк рагаталі, як не даходзілі, наглядаючы гэтую сцэну, партызаны.

— Анюта, ты каго там апрацоўваеш? Канькова? — пачуўся з зямлянкі бас Мікульскага.— Таварыш кавалер, падыдзіце сюды бліжэй!

Канькоў, нязграбна растапырваючы ногі, ступіў бліжэй да ўвахода. Зашыпеў на Анюту, зрабіўшы воўчы аскал:

— Што ж ты не сказала, што ўжо з камісарам тут... шашні разводзіш?

— Шчасце тваё, што няма ў мяне нічога ■ сабою... Але яшчэ раз браханеш — вазьму аўтамат і прадзіраў-

лю мазгавешку на рэшата. Дурная была, што тады не застрэліла.

— Ты чуў, што я сказаў? — пазваў зноў Мікульскі.

— Тут я... Што такое? — Канькоў схіліў галаву набок, каб заглянуць у цёмны праём дзвярэй.

— Чаму не па форме звяртаешся? Хаця ладна, гэта дарую... Пайдзі да начальніка аховы лагера і скажы, што я загадаў пасадзіць цябе на трое сутак.

— За што-о, тава-рыш камісар?! — працягнуў гундоса Канькоў.

— Фармулёвачку — за што — сам сачыні. А я перапытаю ў начальніка аховы, ці так ты сказаў. Калі не так — дабаўлю яшчэ двое сутак. На адной вадзе! Выконвайце!..

Канькоў закусіў губу, павярнуўся ісці. На Анюту бліснуў цёмным вокам так, што, здалося, выскачыла агністая змейка.

«От жа чалавек...— пачала ачухвацца ад здарэння Анюта.— Колькі крыві папсаваў і мне, і Мікульскаму. Хай бы ж цаніў, што Мікульскі ніякага зла не затаіў на яго за ўсе выбрыкі і даносы, не помсціць...» I тут ёй стала нядобра, завіло пад грудзьмі, дробна затрымцелі ногі, рукі. Упусціла вядро, і яно, брынкаючы, скацілася па прыступках да самых дзвярэй. Села Анюта якраз на тую прыступку, дзе была паламаная жэрдачка. Не будзе зверху нікому відаць.

I млоснасць, і слёзы...

Мікульскі нешта западозрыў.

— Хадзі сюды... I перастань, калі ласка. Ты ўжо не маленькая, каб з-за кожнага дурня расстройвацца.

Яна не магла, здавалася ёй, паварушыць ні рукою, ні нагою.

— Ты ж мо ўкол збіралася рабіць? — напомніў камісар.— Ты мяне зусім не лечыш, таварыш медсанбат. Я буду скардзіцца Адаму Іосіфавічу. От так.

— Ага... Ото-то, я рукі памыю схаджу,— усхапілася яна, жартоўнага адцення ў яго голасе не ўлавіла.— Вы пакуль супу пасёрбайце, асцярожна намацайце на стале — там міска і ўсё такое.— Ёй не хацелася заходзіць у зямлянку, нібы ён мог бачыць яе твар, зразумець, у якім яна стане.— Толькі, мабыць, астыў... Я схаджу да Фядоры, папрашу гарачага!

— Не мітусіся, Ганна Сямёнаўна. Добры і гэты...—

Мікульскі пабразгатаў лыжкаю па місцы — во, маўляў, ем.

— Кавалер навін ніякіх не прывёз? Мо газетка свежая ёсць?

— Газеты ёсць... Хлопцы ўжо расхапалі. Я схаджу вазьму, пачытаю вам.

— Не мітусіся, кажу, не рассыпайся драбней маку... Па парадачку ўсё рабі, спакойна. Мо ж не страляюць па табе.

Ага... Па ёй зараз не страляюць, а на астатняе наплюваць. Яна будзе ўсё рабіць па парадку. І спакойна... Добры лекар — работа.

Падхапіла вядро, выбралася наверх. Пойдзе спачатку зноў на сажалку...

* * *

А спакойнаю заставацца цяжка, нават немагчыма. У яе пры адной згадцы пра Канькова аж дрыжыць усё ўсярэдзіне, узварочваецца клубамі ў душы каламуць.

...Ішлі, плюхалі па вадзе-верхалёдцы, дзе ў калена, дзе ў пояс — увесь дзень да вечара. Цяглі за сабою па вадзе, як бурлакі, тры лодкі. Плысці на іх нельга было — мелка... Вада ледзяная, людзей курчаць сутаргі, некаторыя падаюць знясілена. Было з імі яшчэ дзесятка паўтара коней, змучаных, раскаваных. На іх уссадзілі параненых і хворых — па два, па тры чалавекі. На двух коней начапілі мінамёт з плітою, кулямёт-станкач і сякія-такія клункі з атраднаю маёмасцю, боепрыпасамі. Былі параненыя і клункі і ў лодках, была там зброя. А трох параненых, што не маглі сядзець на кані і каму не хапіла месца ў лодках, неслі на самаробных насілках. Васіль і Мікульскі неслі амаль без падмены. Каб лягчэй было Васілёвай скалечанай руцэ, зрабілі з двух рамянёў шляю, ён накінуў яе на шыю, канцы прывязалі за ручкі насілак.

Яды ні ў кога не было, не было чым падтрымаць нават параненых...

Імжа, туман, змешаны з дымам, выядалі вочы. Карнікі штосьці недзе дапальвалі, чаго не паспелі спаліць да гэтага.

Узбіліся на канаву-яздоўню. Лодкі пусцілі канаваю, папіхаліся шастамі, грэблі вёсламі. Перагружаныя, яны ледзь не чэрпалі бартамі ваду. Людзі ішлі невялі-

кім брустверам-насыпам паўз канаву, дзе было мяльчэй, вялі коней... Расцягнуліся — не відаць з-за туману ні пачатку шэсця, ні канца. Саскоўзваюць у канаву і людзі, і коні: раскаваныя коні аж раздзіраюцца, нема ржучы, скрабуць капытамі пад вадою лёд. Параненыя сыплюцца з іх у ваду — выкрыкі, стогны, некаторыя захлёбваюцца. На конскія і людскія крыкі немцы пачалі шпурляць міны — раптам над галовамі ў тумане павісае скрыгат, то тут, то там чуваць выбухі, узнімаюцца фантаны пырскаў. Шпурляюць міны беспрыцэльна, шкоды не прыносяць, але паніка сярод параненых расце. Серафіма Стогава, фельчарыца, кінулася ў канаву ратаваць параненых, і, мабыць, стукнуў ёй конь капытом пад вадою, бо без прытомнасці абсунулася ў ваду сама. І верху не было ў той канаве, але пакуль згледзелі, што няма самой Серафімы, пакуль выцягнулі — утапілася. Жэня Шаввярда тады быў у атрадзе, падскочыў з адчаю да каня — ба-бах яму з пісталета ў вуха! А хіба вернеш Серафіму? Паклалі яе ў лодку, павалаклі далей. Анюта засталася адна на ўсіх параненых і хворых. І Мікульскі прызначыў ёй у дапамогу «братамі міласэрдзя» Галубоўскага Эдзіка і яшчэ аднаго партызана.

Лодкі стаўлялі і на папярэчныя канавы замест мастоў ці паромаў. Дабіраўся чалавек да лодкі — кулецъ уніз галавою, як сонны ці мёртвы. У некаторых нават сілы не было, каб ногі ўцягнуць у лодку, перапаўзці па ёй на другі бераг.

На змярканні ўвайшлі ў лес, але ў ім таксама была вада. Ні мясцінкі сухое! Толькі і пастаялі, прыхінуўшыся да дрэў, ухапіўшыся за шурпатыя, нібы пафарбаваныя зялёнаю плесняю ствалы. Калі хвост шэсця крыху падцягнуўся, пабрылі далей і толькі праз гадзіны дзве дабраліся да сухога. Пачалі раскладваць агні, каб абагрэцца і крыху падсушыцца. Параненым парабілі ляжакі з хваёвых лапак. Мікульскі тармасіў, падварушваў партызан, каб не звальваліся абы-як, а і сабе рабілі сякі-такі подсціл. Некалькі чалавек, падмяняючы адзін аднаго, дзяўблі ў яшчэ мёрзлай зямлі магілу, адну на дваіх — разам са Стогавай хавалі яшчэ аднаго партызана, што сканаў ад ран.

Канькоў сядзеў на нейкай спарахнелай сасонцы, падставіўшы агню босыя ногі, безуважны да ўсяго, хмурны, рукі бязвольна звісалі з каленяў. Каля агню

круціўся і Лысуха, паварочваючы над полымем на ражнах яго боты — быццам дзічыну смажыў. Зноў Мікульскі нібы падмяніў функцыі Канькова — гутарыў з камандзірамі ўзводаў, каб ведаць, колькі засталося асабовага саставу, хто выйшаў са строю, далажыў пра ўсё Канькову. Камандзір нічым не зрэагаваў на весткі.

Анюта гатавала ваду, падсольвала яе з апошніх запасаў і давала лыжачкай параненым як лякарства.

— Трэба забіць пару коней, накарміць людзей! — чула, як угаворваў Мікульскі камандзіра. І, мусіць, той даў згоду, бо праз некаторы час ад вогнішчаў запахла падгарэлым мясам.

Анюта, як ні ўгаворваў Васіль, не магла ўкінуць у рот нават кавалачка. Хацелася толькі аднаго — паляжаць, заплюшчыўшы вочы, каля агню, падстаўляючы цяплу бакі, ногі, рукі.

— Значыць, ты шчэ нэ голодна... Ты шчэ нэ знаеш, шчо за цітка голад,— гаварыў Васіль.— О, колы б нам таке харчування ў канцтаборы!.. Во така б ражка була! — развёў ён перад тварам рукі на паўметра.

Хоць і выставілі пасты, заставацца доўга на адным месцы было небяспечна. Мікульскі абышоў усіх камандзіраў узводаў зноў, пераконваючы, што трэба рухацца далей, як мага далей. Бо невядома, дзе немцы, якія іх намеры. Варта ім выявіць атрад, як усё можа скончыцца трагічна — бою не вытрымаюць. Пераканаў, а ўсе разам пайшлі ўгаворваць Канькова. Аднак змаглі рушыць у дарогу толькі пад раніцу.

Рэшту ночы і яшчэ паўдня ішлі ўсе, як у сне, знясіленыя дарэшты. Мала ратавала ўжо і тое, што не трэба было брысці па вадзе, можна было манеўраваць, выбіраць, як прайсці сушэйшымі мясцінамі. Менш стала коней, лодкі кінулі, і ўсе амаль грузы леглі на людскія плечы і рукі. Зрабілі і некалькі новых насілак для параненых.

Адпачывалі і зноў ішлі, і толькі пад вечар прыядналіся да асноўных сіл злучэння, іншых атрадаў. Падзяліліся тыя з імі харчам, медыкаментамі, самых цяжкіх параненых забралі на шпітальныя фурманкі. Назаўтра, дзевятага сакавіка, партызанская армада перайшла чыгунку Лунінец — Баранавічы і рушыла ў напрамку Навасёлак. Пасля Навасёлак зноў разасярodзілася па атрадзе, па два, накіраваліся да месцаў былых стаянак. Карнікаў не было чуваць — ці спынілі

новую аперацыю з-за разводдзя, ці палічылі, што з партызанамі пакончана.

Канькоў паслаў авангардную групу на чале з Мікульскім, але не ўвесь яго ўзвод, каб разведалі знаёмыя мясціны. Мо не варта дакладна на старое месца вяртацца, мо лепш пашукаць паблізу больш хлебадайны раён? Праз якія два дні група Мікульскага вярнулася, прынеслі тры мяшкі печанага хлеба. Аблюбавалі для стойбішча чужую лагерную стаянку, там нескладана было паправіць зямлянкі. А хлеба нарабілі так: ныралі ў ледзяную Лань, даставалі ўтопленыя мяшкі з мукою. Захавалася мука някепска: з сярэдзіны мяшкі пакрыліся ліпкім пластом цеста, які і не даў намокнуць усёй муцэ. У нейкай спаленай вёсцы, дзе сіратліва стаялі адны печы, знайшлі людзей. Тыя прыстасавалі пад жытло паграбы, скідалі на скорую руку курані і сядзелі ў голадзе і холадзе. Падзяліліся з людзьмі мукою, і тыя палілі печы, пяклі хлеб і партызанам, і сабе.

Усю другую палову сакавіка абжывалі лагер. Дзе ў каго быў посуд — прыстасавалі на сок. Усе бярозы ў наваколлі пападсекалі наўкасы, нібы смалу-жывіцу збіраць,— лавілі сок. Такі салодкі ён здаваўся, такі п'янкі. Ажываў лес ад цінькання сініц. На пажарышчы ў шпакоўні вярнуліся шпакі. Пасвіствалі то весела, то раптам сумна, як птушка гівал на непагадзь,— нібы спахопліваліся: не да месца весялосць, тут толькі што гулялі агонь і смерць...

Партызаны акрыялі, адпачылі, ужо можна і трэба было думаць пра баявыя аперацыі. І трэба было папаўняцца, расці. Прыходзілі людзі, моладзь, прасіліся ў атрад. Але Канькоў нікога не прымаў: «І без вас жратвы не хапае!» А сувязному, што прыйшоў са штаба злучэння, крычаў, аж пену пускаў: «Нашто нам баласт?.. Зброі — няма, боепрыпасаў — няма! Дайце зброю, а тады і пытайце з нас! І дзе гарантыя, што не падашлюць немцы разам з такім папаўненнем лазутчыка?» — «Правярайце кожнага... А зброю ў ворага трэба здабываць!» — сваё правіў сувязны. Канькоў перайшоў на віскатлівыя ноты: «Спасібачкі, што навучылі нас! А мы і не ведалі! А з чым ісці па тую зброю? Трыццаць патронаў на атрад... І ваабшчэ — прайшлі тыя врамяна, каб толькі за лік трафеяў папаўняцца. Нябось у камароўцаў ледзь не ў кожнага — ППШ, ППД...»

Анюта з Васілём сядзелі каля зямлянкі, адведзенай для параненых, і ўслухоўваліся ў бубненне мужчынскіх галасоў у зямлянцы Канькова, у выкрыкі камандзіра. Вось заракатаў бас Мікульскага, Цімох Андрэевіч стараўся пераканаць і Канькова, і камандзіраў першых двух узводаў, што і праўда, час ужо думаць не толькі пра тое, каб адно раздабываць прадукты. Вунь некаторыя партызаны зноў конікі выкідваюць... А прыклад дурны заразны, гэта можа ўвесь атрад прывесці да ліхога. І зноў уступаў у размову сувязны, зноў даводзіў сваё. Бярыце прыклад з іншых... Вунь з аднаго толькі штабнога атрада Камарова выраслі чатыры атрады, стварылася брыгада імя Будзённага. З атрада імя Шыша за сакавік утварылася брыгада з чатырох атрадаў. Вось-вось гатовы пачкавацца іншыя атрады...

Паехаў ні з чым сувязны. Партызаны ўведалі пра мэты яго візіту, хоць ніхто і не дакладваў ім. Гаворка і крыкі ў зямлянцы Канькова чутны былі ледзь не на ўвесь лагер. У кожнай зямлянцы загуло, людзі крычалі і спрачаліся да хрыпаты. Некаторыя дагаварыліся да таго, што буйныя аб'яднанні не трэба, гэта не па-партызанску, што яны горш непаваротлівыя, меншым атрадам спрытней манеўраваць на выпадак новай блакады, лягчэй можна пракарміцца. І ўвогуле, трэба чакаць цяпла, лета: няма ні ў кога добрага адзення, разваліўся абутак, куды босы сунешся? Некаторыя крычалі, што трэба перавыбраць камандзіра. Яны гаспадары ў атрадзе, а штаб злучэння хай толькі зацвярджае іх рашэнне...

Пад вечар Цанькоў скамандаваў строіцца, а сам зноў пайшоў чагосьці ў сваю зямлянку. Праз мінут колькі выбраўся наверх і быў не такі ўжо расхлістаны, хоць і барвовы, з набраклымі чырвонымі павекамі. Поўнасцю пастроіўся толькі ўзвод Мікульскага. З першага і другога ўзводаў — па некалькі чалавек, дый тыя чухаліся, пазяхалі, канчалі абувацца. Чуваць былі крыкі іх камандзіраў — выпэнджвалі з зямлянак астатніх.

Каньков выхапіў маўзер, двойчы стрэліў угару.

— Трывога-а!!! У руж'ё!

Мала і гэта памагло. Яшчэ хвілін пяць збіраліся, вярталіся назад то па шапку, то па зброю, зноў выстройваліся.

— Растакую вашу... у Дарданелы мацьі Паўторыц-

ца яшчэ такое пастраенне — перастраляю к чортавай мацеры палавіну.

Анюта з Эдзікам стаялі на левым флангу трэцяга ўзвода, ва ўсе вочы дзівіліся на гэты спектакль. Было і балюча, і сорамна за такога камандзіра: страціў ён нават рэшткі свайго аўтарытэту, які меў у першых двух узводах. За час баёў і пераходаў па лясах і балотах прапалі ўсе яго цацкі і бляшанкі з рамянёў. А гэта начапляў зноў...

— Хто не хоча, каб я быў камандзірам... Хто не хоча быць у маім атрадзе — два шага ўпярод! Н-ну?! — правёў маўзерам па шарэнзе і рвануў руку на сябе, нібы падсякаў, вышморгваў з ракі рыбу.

Ніхто са строю не выйшаў. Можна было ні за што скласці галаву. Анюта заўважыла, як паглядваў сюд-туд, крыху выпнуўшыся з агульнай шарэнгі, Мікульскі, сачыў за людзьмі і балюча моршчыўся. І яна трошкі выпнулася, азірнула разнашэрсную масу. Праўда што, ну і выгляд!

— Няма такіх? — Канькоў ужо надарваў голас і хрыпеў.— Дык якога ж хрэ-эна дымагогію разводзіце? Хто будзе ў маім атрадзе — не прападзе! Хто ўздумае што другое — хай крыўдуе на сябе. Р-ра-азыдзісь!

Глыбокай ноччу ў зямлянку да Анюты — яна начавала ў параненых і хворых, каб не пакідаць іх без нагляду (дый дзецца ёй не было дзе, адзінай жанчыне ў атрадзе!), паціху хтосьці зайшоў, намацаў яе, крайнюю на нарах, паціху ўзяўся за плячо.

— Хто тут?! — адразу падскочыла яна. Падумалася, мо хто з параненых заўчасна «акрыяў».

— Тыха... Я гэта... Выйды на хвылыну...— Пачула яна на сваім твары гарачы дых Васіля. Неахвотна адрывалася яго далонь ад пляча, каўзанула крыху ніжэй па руцэ, затрымалася ў цёпленькім згібе локця.

— Зараз, на ногі ўссуну што.

Спала не раздзяваючыся, як і ўсе амаль партызаны, укрыўшыся зверху ватоўкай. Намацала на бляшанай, з малочнага бідона печцы анучы, паспешліва, навобмацак абулася. Выходзячы, трапіла нагою ў лужу і па велічыні гэтай лужы каля парога вызначыла, што, мабыць, скора будзе світаць. Бо звечара, кладучыся, яна выплюхала ўсю ваду бляшанкай за бліжэйшую сасну.

Васіль адразу злавіў яе ў абдымкі, прыцягнуў да сябе. Яе рукі апынуліся ў Васіля на грудзях, і ён схі-

ляўся да іх ротам, хукаў, грэў. Потым Васіль расхінуў свой кароткі нямецкі шынель і акрыў яе крыссем з баскоў. Яна чула сваім целам усё яго гарачае цела, і ёй было прыемна, ажно злёгку кружылася галава. Ён і цалаваў яе сёння неяк інакш, больш балюча, а паміж пацалункамі сказаў, што яны ідуць з атрада — сем чалавек, яна — сёмая. Так будзе лепш... Во зараз ідуць, не трэба нават ёй, калі нічога не забыла, і вяртацца ў зямлянку. Дакуль цярпець такія парадкі, такія павадзіны Канькова?.. Ён зняў з сябе танкісцкі шлем, надзеў ёй на галаву. І зашаптаў горача, што Сашка-кастраміч недзе пад Быхавам, на Магілёўшчыне, прыхаваў у лесе дзве гарматы-саракапяткі, снарады да іх, гранаты. Створаць свой атрад, вернуцца. Прыме Камароў з такою зброяй! А можна і не вяртацца. Беларусь вялікая, усюды лясоў многа, усюды можна партызаніць.

— Не пайду я, Васіль...— зразу адмовілася яна і крыху адхілілася ад яго.

— Ты шчо — усур'ёз?! — ажно страсянуў яе Васіль за плечы.

— Усур'ёз. Мне здаецца, вы робіце памылку: Канькоў без вас зусім расцугляецца.

— А шчэ більша помылка, колы дывытыся на всэ та й нычого нэ робыты!

— І раненыя — чатыры чалавекі, у пятага — запаленне лёгкіх. Я не магу іх кінуць.

— Нэ пропадуць! Воны вжэ выздараўліваюць.

— Не ма-гу!

— Ты мэнэ кохаеш?

— Кахаю.

— Так підэмо!.. Я нэ можу залышыты тэбэ на оцю зграю. Тай одын вожак чого варты! Ты ж казала, што він вжэ підлабуньвався!

— Прыставаў, ну...

— Піду застрэлю цёга падлюку!.. Враз будэ кінэць усёму!

— Сціхні! Гаворыш абы-што.

— Рыбонька... Голубонька...— Васіль сціснуў яе моцна-моцна, задыхаючыся, асыпаў яе твар пацалункамі.— Зора моя ясна, вэсняна... Пішлы відсы! Благаю,— пішлы!

— Не магу...— яе кулачкі, паднятыя ўгору і здушаныя паміж ім і ёю, рашуча націснулі Васілю ў грудзі, адхіляючы яго.

Шыпняк застагнаў ад роспачы, адхіснуўся крыху ад яе, крутнуў галавою па баках. Анюта таксама пачула асцярожлівыя крокі, да іх наблізілася высокая цёмная постаць.

— Выступаем, Васіль...

Анюта пазнала голас Мікульскага. Постаць не дайшла да іх нейкія два метры, павярнула ў лес, ва ўсходнім напрамку. За ёю бясшумна, як цені, мільганулі яшчэ некалькі постацяў.

Васіль адхіснуўся амаль на выцягнутыя рукі, але трымаў яе за пальчыкі, не выпускаў. І зноў наблізіўся, абняў з усёй моцы, як не патрушчыў ёй косці. І боль, які прычыніў ён, быў для Анюты пякуча-салодкі...

— Нэ плач цiлькы... Мы шчэ зустрынэмось... На ось тобi... цяцьку... На памяць... Ця iграшка тобi можэ знадобыцця.

Ён дастаў з кішэні шыняля малюсенькі, хаваўся ў далоні, трафейны пісталецік, уклаў у яе руку.

— Шлем вазьмі! Ты шлем забыў! — ступіла хуценька за ім колькі крокаў.

— Хай табе! — Васіль знік.

Позняй раніцай, калі да Канькова дайшлі весткі — зніклі з трэцяга ўзвода шэсць чалавек разам з Мікульскім, камандзір зноў выстраіў усіх па трывозе. І крычаў, як не пеніўся, што за разлажэнне дысцыпліны, падрыў аўтарытэту камандзіра атрада, варожую прапаганду ноччу расстраляны Цімафей Мікульскі, Васіль Шыпняк, Арон Дубінскі, Яўген Шавярда, Аляксандр Зямельчанка (Сашка-кастраміч) і Эдуард Галубоўскі.

Ніхто не верыў гэтай брахні. Не верыла і Анюта, але недзе глыбока-глыбока засела і тачыла трывога: а раптам ён не хлусіць? Раптам была пагоня, іх перанялі і пастралялі?

Мінуў яшчэ адзін дзень, сапраўды вясновы і цёплы, сонечны. Параненых павыводзілі і павыносілі на сонца, і яны прыкметна павесялелі, слухаючы птушак. Напаілі ўсіх халодным бярозавым сокам...

Вечарам Лысуха адчыніў дзверы ў зямлянку да параненых. Стаяў, расхляпешчыўшы дзверы, пакуль яна не сабралася. Канькоў патрабуе яе, хоча, каб яго нагу паглядзела. Зусім разбалелася, не можа ступіць.

Прыхапіла санітарную сумку, там, акрамя стрэптацыду, бінту, ёду, іхціёлавай мазі, нічога не было. Але і гэта былі лякарствы, з месяц назад і такога не мелі.

Канькоў ляжаў на тапчане, укрыты казачынаю-кажухом да падбародка.

— Што ў вас, хворы, з нагою? Паказвайце...— з парога ўзяла яна дзелавы тон.

— Да-да, паглядзі... Ты ў нас добрая дакторка, параненыя хваляць...— ён сеў, але кажух прытрымліваў рукамі каля падбародка, каб не ўпаў.

Анюта расшпілілася крыху — у зямлянцы было густое і спёртае паветра,— падышла да лежака. Канькоў пацягнуў кажух на сябе так, што агаліліся босыя валасатыя ногі. Яна адразу ўбачыла, што малы палец на правай назе чырвоны і распух, мабыць, Канькоў вырэзваў мазоль і ўнёс інфекцыю. «Ні марганцоўкі, ні борнай кіслаты няма... Ладна, ёдам апрацую, потым пластыр з іхціёлкай... І ўнутр стрэптацыд хай папрымае... Можна было б укол супраць слупняка зрабіць, але ж няма...» — гэта мільганула ў яе галаве, пакуль набліжалася да яго лёжбішча.

Канькоў цярпліва чакаў, калі яна выканае нескладаныя аперацыі. А калі скончыла бінтаваць палец і завязала мохрыкі, раптам ахапіў яе за плечы, пацяг да сябе. Кажух апаў, і яна ўбачыла, што камандзір голы да пояса, у адных споднiках. Змагаючыся з ім, яна з агідай глядзела на яго валасатыя грудзі і рукі і адчувала, што надоўга яе не хопіць, Канькоў быў здаровы, «у целе». Ён ужо ўсцягнуў яе на ляжак, павярнуўся да яе бокам...

— Не бузі, чуеш? Не вырывайся... Азалачу! — мармытаў ён.

І тады яна стукнула яго каленам у жывот. Канькоў крэкнуў і на момант аслабіў рукі. Гэтага было дастаткова, каб усхапіцца на ногі. Канькоў зноў кінуўся да яе, каб абхапіць рукамі, але яна ўжо трымала той, Васілёў, пісталецік.

— Застрэлю! Паўкрока — і застрэлю!

Канькоў адразу апусціў рукі, падхапіў з долу кажух, пацягнуў на сябе.

— Ну-ну, дурніца... Ты што-о-о?! Апусці пісталет, а то яшчэ націснеш ненарокам!

— Я магла б выгнаць цябе голага на двор, каб усе бачылі, і там кокнуць... Магу і тут...

— Дурная, ці ж я не кажу! Дурная...

— Але пашкадую на гэты раз, так і быць... Прыміце, «хворы», яшчэ гэтыя таблеткі. Па адной — тры разы

ў дзень... І вады пабольш піце, а не гарэлкі, бо могуць камяні ў ырках парабіцца.

Не апускаючы рукі з пісталетам, кінула яму левую пачак стрэптацыду, забрала і ўскінула на плячо сумку. Паволі, знарок запавольваючы свае рухі, каб крыху супакоіцца, паправіла ўзлахмачаныя валасы, зашпілілася. Тузанула дзверы...

— Ты ж ні гу-гу нікому! Гэй! — пакрычаў наўздагон прысаромлены кавалер.

Таўханула знадворку нагою ў дзверы з усёй моцы.

«Націснеш ненарокам...» Яна не ведала, як з тым пісталетам «абрашчацца». Васіль не паспеў паказаць. Не ведала нават, ці ёсць у ім патроны.

Не ведала яна ў той час і таго, што група Мікульскага — Шыпняка напаткала на поўдні Случчыны партызан са штабнога атрада Камарова. І таго, што Мікульскі паслаў з імі запіску Камарову: пра парадкі ў атрадзе, пра сваё рашэнне кінуць гэты атрад. Толькі здзівілася Анюта, калі пад канец красавіка ў размяшчэнне атрада прыбыў сам Камароў і з ім некалькі камандзіраў — са штаба мо ці адкуль. Адзін — з фотаапаратам. Правяралі ўсё чыста, нават страявы агляд правялі.

У Камарова просты сялянскі твар, фігура яго камлюкаватая, моцная. Але ўсё роўна выдаваў стройным, падцягнутым. Мабыць, гэтак падчапурвала яго ваенная форма. І побач з ім, і на які крок узад стаялі ўсе тыя, што з ім прыехалі. А міма праходзілі строем каньцоўцы.

— Жываты падабраць! Не валюхайцеся, як гусі! А вінтоўку, вінтоўку як трымаеш? Гэта ж не мешалка свінням мяшаць! А гэта што за пудзіла?! Ха-ха-ха!..— пшчыра рагатаў Камароў, падчэкваючыся на насках ботаў.— Сяргей Рыгоравіч, ты толькі паглядзі на іх: дальбог, матрац паласаты разрэзалі ўдоўж, сшылі калашыны і на сябе напялілі!

Сухарлявы чалавек, які стаяў справа ад Камарова, толькі ўздыхнуў і пакруціў галавою.

— Каньцоў, гэта што — ваенная хітрасць? Знарок? Каб немцы пудзіліся і перлі без аглядкі? — насміхаўся Камароў.

Рагаталі ўжо ў страі і самі партызаны, нібы ўпер-

шыню паглядзелі на сябе збоку, і ад смеху ламалі і без таго бесталковы строй.

Рагаталі над сабою. Над Каньковым і яго парадкамі. І ў гэтым смеху гучала не толькі горыч, але і нейкая надзея, што ўсё пераменіцца да лепшага.

— Ану-к яшчэ разок пройдзем, ды па-сапраўднаму! Не бачыце, чалавек прыехаў здымкі рабіць і сумуе без работы. Для гісторыі здымкі! — разлягаўся па паляне, і яму было прывольна, зычны голас Камарова.

Анюта глядзела на яго збоку і не хавала захаплення: той самы Камароў, Клімка Камар, пра якога расказваў поп Гарашун, а потым — дзед Шула... Той Камароў, што партызаніў на Палессі пры палячках, камандаваў партызанскім атрадам у Іспаніі.

Чалавек — легенда...

...Атрад Канькова расфарміравалі. У лагеры размясціўся новы атрад, у які прынялі толькі рэшткі трэцяга ўзвода і Анюту.

5 Мікульскі ўжо сядзеў на тапчане, звесіўшы долу ногі, калі Анюта зайшла зноў.

— Ну, што, таварыш лекар, падстаўляцца? — сустрэў ён яе пытаннем і падабраў ногі на тапчан.

— Зараз, зараз... Ото рукі пратру спіртам.

— Ого, разбагацела!

— Самагонкаю, першаком.

Мікульскі ўявіў, як яна завіхаецца па зямлянцы, пачуў бразгат — збірае шпрыц. І асцярожна павярнуўся спінаю на зямлянку, зрыхтаваўся.

— Калі, калі... Іглатэрапія карысная... Чула пра такую?

— Штосьці такое... Адным вухам...

— Ёсць, ёсць такое... Да вайны яшчэ пра гэта чытаў. У старажытным Кітаі распрацавана, ужывалася вельмі шырока. Думаю, што і цяпер ужываецца. Эксперыментальна ўстаноўлена, можна вылечыць многія хваробы, толькі трэба ведаць, куды кальнуць. Для розных хвароб свае пункты на скуры, іх сотні... Пры захворванні перыферычнай нервовай сістэмы — усякіх радыкулітах, ішыясах... І гэта... пры запаленні, паралічы тварвага нерва...

Анюта маўчала, і Мікульскі сумеўся. «Нядобра атрымалася... Трэба было Палуяна напусціць на яе...

Каб ад яго такая парада ішла. Урачам многае давяраецца і многае даруецца: што для звычайных смяротных — табу, тое для ўрачоў — бяскрыўдныя рэчы. Яны такое часам могуць пляснуць... Усе ўрачы — крыху цынікі...»

— Ну — даруй, калі ласка... Не будзем пра гэта.

— Не будзем,— азвалася яна суха і коратка.

— Дык газеты як там? Пачытаеш?

— Пачытаю. Але ж вы нічога не елі!

— Абед скора! Ты ж захочаш, каб я і ў абед еў.

— А як жа.

— То гэтым усё і сказана. Не прыставай.

— Цяжка мне з вамі...— Анюта кінула лыжку ў міску, бразнула бляшанкай з інструментамі.

Сказаў напаўголаса, але атрымалася шматзначна:

— Мне і самому з сабою цяжка. Пацярпі... да заўтра... Да вечара... Не буду ўжо тут нікому больш назаляць і замінаць.

Чуў, як Анюта, выходзячы, памарудзіла ў парозе — мо задумалася над яго словамі? І ён тут жа схамянуўся, яшчэ раз перабраў у памяці, што сказаў. «Выходзіць, што даю слова і яе пакінуць у спакоі... назаўсёды? Чорт мяне падбіў пра іглатэрапію плявузгаць!.. Звяжа ў адзін вузел... А сам бы як аднёсся да ўсяго, каб на яе месцы быў? Чалавек амаль прызнаецца ў каханні і зразу ж гаворыць: толькі от не падабаецца твой твар. Прыхарошыць яго трэба, падлячыць...»

«Свінтус грандыёзус ты, таварыш Мікульскі...»

«Цікава, якія сімптомы адчувае чалавек, калі паступова вар'яцее? Кажуць, тыя, на каго гэта сыходзіць, нічога не заўважаюць... Не хапае ўжо ў іх глуздоў для самаацэнкі ўчынкаў, думак... Геніяльнымі здаюцца самі сабе...»

На прыступках пачуліся цяжкія крокі.

— Дазвольце да вас уваліцца?

— Дазволю, як жа не дазволіць...— Увальвайся, Ягор...— Мікульскі пазнаў начальніка аховы лагера Маханька, уявіў, як той ледзь не складваецца напалам, каб зайсці ў зямлянку. Вечна ён прыгорблены, нібы баіцца выпрастацца.— То што скажаш цікавага, добрага?

— А нічога асаблівага...— чуваць, як Маханёк асцярожна прысеў на лаўку каля сцяны.

— У цябе такі тон, як у таго панскага ганца з бела-

рускай казкі... Помніш? Пачаў дакладваць пану з ножыка... Нічога новага, толькі от ножык зламаўся... А чаго ён зламаўся? Скуру лупілі з панскага выжла... А дайшло да таго, што і пані, аказваецца, памерла, і пакоі згарэлі.

Маханёк збянтэжана кашлянуў, і Мікульскі ўявіў, як той адняў ад рота кулак, памыляў губамі.

— Заходзіў Канькоў?

— Заходзіў... Пасадзіў.

— Як ён тлумачыў — за што?

— За грубасць, сказаў.

— Бач ты, які дыпламат... Лез тут нахрапам да Анюты, зарабіў анучаю па мысе.

— Хачу, кажа, зрабіць заяву-пратэст. Паперы патрабаваў, алоўка.

— Ну, і што ты?

— Вусна, кажу, рабі.

— Ну, і што ён?

— Зрабіў вусную заяву. Але, кажа, я пакідаю за сабою права пазней падаць усё куды трэба ў пісьмовай форме. Хай пацікавяцца... А вусную заяву да дзела не прышыеш, кажа...

— Ну і любіш ты мучыць...

— Заявіў: Мікульскі не той, за каго сябе выдае. Ён не беларус, а паляк. У яго сваяк у польскім Лагішынскім атрадзе, таксама Мікульскі... Лемпіцкі-Мікульскі... А што то за атрад, маўляў, яшчэ раскусіць трэба: мо ад Арміі Краёвай...

— Гэта ўжо нейкая паталогія... Хворы ён чалавек... Як квачом з дзёгцем — плясь ды плясь, а вы разбірайцеся... Дык жа разабраліся даўно! З нашай брыгадай, з Антончыкам увесь час гэтыя палякі сувязь трымалі... Яшчэ як у Лагішыне падпольшчыкамі былі. Потым у іх арышты пайшлі, і Антончык загадаў ім перайсці ў лес. Так з'явіўся гэты атрад. І ваююць някепска, і аэрадром памагалі будаваць. Ах, Канькоў, Канькоў!.. Трэба сказаць Палуяну, хай усё-такі абследуе яго. У мяне і прозвішча не аднолькавае з тым палякам, і ніякія не сваякі. А калі б нават і першае, і другое, і трэцяе — то што з таго? Якіх толькі супадзенняў не бывае! У нас партызан Уласаў ёсць, дык што — кідаць усё ды займацца расследаваннем, сваяк ён ці не сваяк таму здрадніку генералу?

— Прабач, Цімох Андрэевіч. Спакой табе трэба, а

я... Можна было і не гаварыць табе гэтай ерунды.

— Не, што сказаў — добра. Дабавіў, праўда, гаркаты на сэрца, ды нічога не паробіш. Я лішні раз пераканаўся, што філантропія бывае шкодная... Ніхто не хацеў, як брыгаду фарміравалі, браць Канькова ў атрад. А я ўзяў, яшчэ і Прымака пераканаў, што перавыхаваем, што чалавек з яго будзе. А цяпер лічу, што нічога з гэтага не выйшла... Крыўдна!.. Ён і пасля вайны наробіць многа шкоды людзям... Думалася, у горне вайны ўсякая нікчэмнасць і мярзоцце спапялеюць. Калі што і было нядобрае, наноснага ў чалавеку, спадзе, як акаліна, людзі выйдуць з вайны абноўленымі...

— Як новыя пятакі...

— Ты дарэмна іранізуеш. Некаторыя ўзрастуць па вартасці да рублёў, чырвонцаў — калі ўжываць тваю тэрміналогію... Чалавек жыў, спакойна араў зямлю, рабіў хлеб, думаў, што на большае і не здатны... А вайна прымусіла асвоіць столькі новых прафесій! Разгарнуцца, паказаць сябе...

— Акаліна тады спадзе, калі нядобрае ў чалавеку — наноснае, не ўласціва яго натуры. А калі гэтае нядобрае якраз і ёсць яго натура? — Маханёк устаў і пастаяў, нібы даючы Мікульскаму лепш зразумець сказанае.

— Выходзіць, што так, Ягор.

— То я пайду — справы. Папраўляйцеся хутчэй.

— Дзякую.

На змену яму, нібы чакала, пакуль выйдзе, з'явілася Анюта. І сказала, што пачытаць яму газеты не зможа — Палуян знайшоў ёй работу — лякарства расціраць, рассыпаць на парашкі. Але яна папрасіла Іллюка, і той хутка прыйдзе.

— Не заўважыла — Самсонаў не прыехаў?

— Не, няма яшчэ,— Анюта пайшла, паклаўшы газеты на стол.

«Вось так... І сядзі тут, як чурбак. Сам сябе абслужыць не зможаш...» — ён намацаў на стале газеты. Навобмацак вызначыў, каторая «Праўда», разгарнуў, правёў далонню па шурпатых старонках. Горшая папера, чым да вайны... Панюхаў, каб улавіць пах друкарскай фарбы, пазнаць, ці даўно выйшла. Ніякага паху не ўлавіў. Хоць ты грызі яе — нічога сам не паробіш...

Намацаў між тапчаном і сталом свой кіёк. Трэба як-небудзь выбрацца самому ў лес, у кусты. Напру-

жыць толькі памяць, уявіць, як стаяць тут дрэвы — і каля камандзірскай зямлянкі, і далей. А галоўнае, трэба мацаць кійком, стукаць, каб ён ператварыўся ў шчуп, як бы пранізаўся тваімі ўласнымі нервамі... Пастукаеш, папораш — і можна пазнаць па гуку, што перад табою. Трэба ж калі-небудзь пачынаць трэніравацца.

Вадзіла крыху ў бакі, але Мікульскі выбраўся наверх сам, зрабіў колькі крокаў у лес. І тут пачуў нечыя таропкія крокі, хтосьці яго даганяў. Няроўныя крокі... «А-а, руб дваццаць...»

— Таварыш камісар, асцярожна! Я памагу... Вам куды? — голас у Іллюка ўжо не абыякавы, як тады, у ім — шчырае спачуванне і жаданне памагчы.

— А туды, браце... Разумееш? Туды...

Іллюк падхапіў яго пад руку.

— Слухай, нам з табою трэба выпусціць «баявы лісток». Рэдактара ж нашага няма, пайшоў у рэйд?

— Іванчанка? Пайшоў.

— От мы за яго і сачынім заметак дзве-тры. У Лысухі верш папросім. У яго павінна быць новенькае ў запасе, але не прызнаецца.

— Таварыш камісар, я ніколі не пісаў заметак. І памылак многа раблю!

— Нічога, падвучышся. На чарнавік з табою сачынім. А перапісаць у лісток Анюту папросім ці пісара са штаба. Толькі ты яшчэ назву намалюеш — «Баявы лісток». Харашун не зможа... Прыедзе Самсонаў, папросім у яго вялікі кавалак паперы і чырвоны аловак. Так?

— Хай будзе так...— Іллюк згадзіўся, але па тону можна было западозрыць, што ён у гэты час паціснуў няўпэўнена плячыма.

Вярталіся назад з лесу, і Мікульскі ўжо ў думках складаў перадавы артыкул. «За нашу Беларусь! За маю і тваю Радзіму, дарагі брат па зброі! Настаў час расплаты за крывавыя злачынствы гітлераўскіх людажэраў... За знішчаныя гарады і вёскі, за рэкі сірочых і марынскіх слёз, мора пралітай крыві...» Эх, каб было ўжо само паведамленне аб пачатку наступлення! Каб зводку Саўінфармбюро паднiз памясціць! «Месца на яе трэба пакінуць, яна будзе, абавязкова будзе... Яны і без мяне яе падставяць, калі... паеду... палячу... І заметку даць пра «канцэрт» на чыгунцы — колькі пада-

рвалі рэек... Добра было б пару малюнкаў. Харашуна выбіла са строю...»

Не «нуль» і не «вздор» адзінка, адзін чалавек. Яна тады нуль, калі гэтая адзінка канае ад нудоты і бяздзеяння.

— Та-а-ак...— Зайшлі ў зямлянку, Мікульскі намацаў знаёмы ўжо тапчан.— Прачытай спачатку мне загалоўкі ў газетах, а я скажу, што пачытаць цалкам і ў першую чаргу. Астатняе — потым, потым...

* * *

Ішлі тады на Магілёўшчыну і не думалі, што іх планы ніяк не стасуюцца з планамі начальніка штаба вярхоўнага галоўнакамандавання нямецкіх узброеных сіл Кейтэля, што яны пераходзяць у зону армейскага тылу, дзе працягваліся дзеянні падраздзяленняў аператыўнага рэзерву групы армій «Цэнтр». Дзеянні па асобым плане, складзеным камандуючым ахоўнымі войскамі і начальнікам раёна гэтай групы армій Шынкендорфам.

Да Быхаўскага раёна не дайшлі, натрапілі за Бярэзінай на атрад партызанскай брыгады Ізоха. Ізохаўцы слухалі расказы Мікульскага і яго спадарожнікаў крыху іранічна і недаверліва. Праўда, гарматамі, якія схаваны ў Быхаўскім раёне, зацікавіліся. І тут жа пашкадавалі: пазнавата «палешукі» прыйшлі! А так бы спатрэбіліся б гэтыя гарматы, вельмі спатрэбіліся б... Ёсць весткі ў штабе, што на іх зону, іх лес рухаецца буйнае падраздзяленне нямецкіх рэгулярных войск.

Аднак накармілі «палешукоў» добра. Загадчык гаспадаркі атрада нават раздобрыўся і выдаў кожнаму з іх па пары новых парцянак: іхнія былі, як сетка-мярэжа — адны дзіркі, гніллё.

Назаўтра, Першага мая, у лесе быў мітынг. Мікульскага ўразіў тон, настрой на гэтым мітынгу: мала гаварылі пра самое свята, не было ўрачыста-звонкіх слоў. Хто і выступаў з камандзіраў ці байцоў, то заклікалі быць пільнымі, усебакова рыхтавацца да баёў. Зразу пасля мітынгу вызначылі разведгрупы — ва ўсе бакі, каб ведаць, што робіцца ў наваколлі, дасканала. Папрасіліся і яны, «палешукі», у разведку. Гэта ж былі канкрэтныя баявыя справы, па якіх яны столькі сумавалі!

Пайшлі ў другой палове дня Першага мая, вярну-

ліся трэцяга. Амаль двое сутак без сну, без адпачынку. Абследавалі дзесяткі вёсак, гутарылі з людзьмі. Сутыкнуліся ў адным месцы з перадавым атрадам немцаў. Далі адзін залп, каб пераканацца, што гэта не галоўныя сілы. Гушчыня нямецкага агню была вялікая, і ўсё ж было зразумела, што гэта толькі авангард.

Адыходзілі хутка, каб адарвацца, каб не сеў вораг ім на пяткі. Дакладвалі аб выніках разведкі пад акампанемент перастрэлкі: дазоры партызан сутыкнуліся ўжо з праціўнікам.

Атрад, да якога прымацавалі «палешукоў», заняў абарону на ўзлеску, у старой, звілістай, ужо крыху абсыпанай і зарослай траншэі — мо засталася з пачатку вайны. Там і сям валяліся ржавыя гільзы ад рускіх патронаў, каскі. Перад узлескам быў вялікі выпас, у канцы яго, каля рэчкі — палавінка вёскі Жабінка, за рэчкай — другая палова. Там немцы і ўласаўцы. Знябыўшыся, «палешукі» пачалі засынаць, першы дзюбнуў носам і соладка засоп Эдзік Галубоўскі. Схаладнелая за ноч зямля так вабіла, прыцягвала да сябе, што не ставала сілы варухнуць рукою ці нагою: павекі былі пудовыя, зліпаліся, хоць Мікульскі шчыпаў сябе, цёр вочы, стукаў кулаком у лоб, як Васіль,— каб паставіць у галаве ўсё на сваё месца, адагнаць крыху замарачэнне. Азіраўся назад, у лес, і бачыў, што там яшчэ паўзмрок. Уперадзе ж, на выпасе, ружовыя ад сонца клубкі туману. Сусед злева, незнаёмы кулямётчык з ізохаўскага атрада, паставіў «дзегцяра» на бруствер і дзелавіта парэзваў ножыкам сала, хлеб, адпраўляў кубікі таго і другога ў рот. Толькі паспеў сказаць яму: «Разбудзіш, як палезуць...» Адказу яго — «Немцы разбудзяць...» — добра і недачуў. Словы гэтыя нібы ўзняліся, расталі ўгары разам з туманам — заснуў, ледзь вылез за траншэю ў лес, дакрануўся шчакою купіны.

Прахапіўся ад страляніны. І першае, што ўбачыў,— як дзелавіта склаў ножык і кінуў яго ў кішэню кулямётчык, прылёг да кулямёта. Стралялі ўжо скрозь па ўзлеску — з вінтовак, карабінаў, аўтаматаў. А на выпасе каля крайніх хат рабілася несусвеціца: дыбіліся, іржалі і падалі коні, падалі з іх людзі — у туман, бы ў казачную раку, прападалі з вачэй. Тыя, што яшчэ не пападалі, паварочвалі назад. Коні былі як без ног, адны тулавы з коннікамі ці часткі тулаваў віравалі, бы ў катле з параю. І гэты конска-чалавечы вір то закруж-

ваўся, то рассыпаўся на шматкі, расцягваўся ўправа-ўлева, спяшыў прыхавацца за хаты вёскі. Урэшце ўцалелыя кавалерысты зніклі за хатамі, а левыя паскакалі нізовінай недзе далёка налева ў абход лесу — верхнія часткі тулаваў людзей, конскія галовы... Яны не ўспрымаліся як штосьці рэальнае, пагрозлівае.

Адзін конь з сядлом пад жыватом бегаў, іржучы, зусім недалёка ад узлеску. І ўрэшце яго пераняў, выскачыўшы, адзін партызан, павёў за шыю ў лес...

— А-а-а... гады! Не падабаецца!

— Добра насыпалі... Як штаны завязаць...

Партызаны злева і справа ад Мікульскага порстка варушыліся, пераразараджалі зброю, кідаліся жартаўлівымі рэплікамі. Азірнуў сваіх: твары ва ўсіх былі яшчэ ўзбуджаныя, гарэлі натхненнем. У Эдзіка блішчалі вочы, як у п'янага — паказаў Мікульскаму вялікі палец, пацерусіў на яго зверху: «Во!»

Па ланцугу перадалася каманда: «Адставіць весялосць! Падрыхтаваць да бою гранаты і звязкі гранат!»

І праўда, было не да смеху. Немцы намацалі слабіну ў абароне партызан — нізовіну, што ішла ў абход левага фланга, там стваралася мёртвая зона, агонь партызан не даставаў, і пусцілі туды конніцу разам ■ браневікамі і танкамі. Танкаў нізовінай пайшло чатыры. Яшчэ тры, выпаўзшы з-за крайніх хат, адразу раз'ехаліся ў бакі, рассыпаліся па фронце. Левы, адпаўзаючы ўбок, раструшчыў па дарозе лазеньку і рушыў проста на іх пазіцыю, на ўзлесак... Адны чамусьці, без пяхоты, мусіць, немцы не хацелі за нішто класці людзей. Паўзлі і стралялі з гармат і кулямётаў — яшчэ здалёк, непрыцэльна. Снарады ўзрываліся то на выпасе, не даляталючы да траншэі, то гулі недзе цераз галовы ў лес, з трэскам разрываліся ў дрэвах. Кулямётныя чэргі то ўспорвалі зямлю на брустверах, то секлі, бы цесаком, вецце над галовамі — кулямётчыкі білі больш прыцэльна. Разлічвалі танкісты на паніку, нібы знарок хацелі выпужаць іх, адагнаць у глыб лесу. І паніка вось-вось магла пачацца. З танкамі не даводзілася партызанам змагацца, не было вельмі і чым, не мелі і вопыту. Каб кідаць звязкі гранат, то трэба падпусціць чым бліжэй або паўзці насустрач. Можна і цераз траншэю прапусціць, кідаць ззаду, ці пад гусеніцу, ці на маторную групу. Але прапускаць не давядзецца, танкі далей траншэй не пойдуць: тут, на ўзлеску, маладняк бярозак,

кусты, а глыбей у лес — тоўстыя дрэвы, танкам не прайсці. Танкі, значыць, дойдуць толькі да траншэі, пачнуць прасаваць толькі траншэю!.. Тым часам мацнеў агонь дзесь далёка на левым флангу, усё больш пагрозліва раўлі маторы танкаў тут, на выпасе... Чуліся ўжо і стогны параненых — дасталі кулямётам, узарваўся ў траншэі і снарад.

У Мікульскага не было сваіх гранат. Адну, нямецкую, з доўгай драўлянай ручкаю, кінуў яму злева кулямётчык, адну, такую ж, Сашка-кастраміч, яшчэ адну, з кароткаю бляшанаю ручкаю, хтосьці справа, адтуль прынеслі і РГД. Ён ліхаманкава звязваў усё ўмесца кавалкам пругкага, мо са стальнымі драцінкамі, кабелю, а гранаты не пасавалі адна да адной, распаўзаліся ў руках. А трэба ж было звязаць так, каб і трымаліся разам, і можна было добра ўзяцца, размахнуцца... Адкруціў на ручцы той, што ў цэнтры, бляшаны каўпачок, з сярэдзіны выпаў шнурок з вузялком на канцы. У апошнюю хвіліну Шыпняк хацеў забраць у яго гранаты, паўзці сам. «Рука ў цябе... Не дакінеш!» — адмахнуўся ад яго. «Так цэ ж ліва, ліва скалечана, а права...» Мікульскі не слухаў яго больш, перамахнуў цераз бруствер, папоўз насустрач леваму з трох танкаў.

Калені, жывот, грудзі, локці дастасоўваліся да кожнай выемачкі, адчувалі кожную складачку, кожны нязначны шрам на зямлі. Усё карацее адлегласць між ім і танкам... Яшчэ метр, яшчэ... Кулямёт ужо біў па ім, з танка заўважылі яго. Адрываючы галаву ад зямлі, Мікульскі бачыў, як патоўшчаны на канцы ствол кулямёта злева ад гарматы паварушваўся разам з нейкім шарнірам у круглай, нібы прыпаяная сталёвая фара, байніцы («Вока хамелеона!») — управа-ўлева, унурваўся ўніз, каб як мага лепш яго дастаць. Але кулі вішчэлі над галавою, успорвалі зямлю ўсё далей ззаду яго. І чым больш імкліва змяншалася адлегласць паміж ім і танкам, тым большая рабілася мёртвая зона. Апошнія колькі метраў ён прабег насустрач танку, сагнуўшыся ў тры пагібелі, хоць і крычалі яму ўслед: «Лажысь! Кідай!» Танк ірвануў уперад, каб збіць яго разлікі, падмяць пад гусеніцы хутчэй, чым збярэцца кінуць. Тузануў за шнурок, шпурнуў звязку справа, знізу. Падаючы, бачыў, што танк у той жа момант крутануў убок, выкручваючыся ад удару. Звязка ўпала не пад правую гусеніцу, а зразу за вядучым вялікім зубчатым колам,

якраз на гумавыя невысокія каткі. Яшчэ мільганула ў Мікульскага, што занадта блізка апынуўся ён сам...

Гахнула, бліснула... Нібы самому здзяжыла доўбняю па галаве. Прытомнасць пакінула яго...

Не бачыў, як дабівалі, расстрэльвалі партызаны танкістаў, што выскоквалі з танка: не бачыў, як танк круціўся вакол парванай гусеніцы, пакуль не заціх; не бачыў, як паўтарыў яго манеўр каля сярэдняга танка камроты Пракапчук і ўпаў, скошаны чаргою кулямёта. Трэці танк здрэйфіў у апошнюю хвіліну, павярнуў назад. Ачуняў Мікульскі толькі тады, як Васіль і Дубінскі ўвалаклі яго назад у траншэю...

У галаве нібы роў танкавы матор, здавалася, што па чэрапе балюча скрыгочуць гусеніцы, а ў мозг як хто соўгае распаленыя іголкі. Было нясцерпна млосна, і гэта млоснасць не праходзіла доўга, хоць давалі яму глынуць з флягі і вады, і гарэлкі.

Тым часам прыйшоў загад — адступаць у глыб лесу, бо суседні атрад адступіў і стварылася пагроза акружэння. Аднак немцы тут дзейнічалі не так, як на Палессі, не спяшылі акружаць і непасрэдна сутыкацца з партызанамі — аж да рукапашнай. Ледзь толькі атрады згусціліся ў лесе, як пачаўся артылерыйскі і мінамётны абстрэл таго ўчастка, потым наляцелі бамбардзіроўшчыкі.

Гэта было страхоцце неймавернае. Невядома было, куды ўпадзе бомба, куды паваляцца дрэвы. Пачварная сіла разам з зямлёю і хмарай дыму вываручвала, уздымала ў паветра адразу не адно дрэва, а і два, і тры. Яны на момант нібы завісалі ў чарнаце выбуху і валіліся ў бакі, страсаючы абсечаныя галіны і камякі зямлі з каранёў. Стагнала ад удараў зямля, раскатваўся пошчак-рэха, нібы рогат д'ябла. Мікульскага хрысціла бамбёжка яшчэ пад Лазавенькамі, тое аўсянае, уздыбленае аж да неба поле запомнілася яму на ўсё жыццё. Аднак тут было страшней, намнога страшней, хоць гэты гуд у галаве, ачмурэнне, атрыманае пры кантузіі, і прытуплялі ўспрыняцце. А на Эдзіка і Дубінскага аж нядобра было глядзець. Вочы ў іх былі як у вар'ятаў, выпучана бліскалі на замурзаных, закураных тварах. Мікульскі крычаў і сваім, і каго мог згледзець у гэтым хаосе, каб займалі варонкі-ямы, залазілі пад вываратні, падхапіў пад пахі Эдзіка і першы рвануўся ў такую вырвіну. Ды мала, мабыць,

хто чуў яго ў выцці, грукаце, трэску, свісце, рове самалётных матораў, трацілавым чадзе. А Жэня Шаварда ці не звар'яцеў, бо кідаўся між дрэў і выбухаў, ашчаперыўшы аберуч галаву, угнуўшыся, пакуль камель з адламаным верхам не здзяжыў яго ўпоперак спіны. Шаварда і застаўся пад дрэвам, раздушаны, з перабітым хрыбетнікам...

Трэцяга і чацвёртага мая манеўравалі па лесе, рабілі засады на прасеках, адбівалі нешматлікія атакі. Не лезлі гітлераўцы напралом, зразу выклікалі самалёты, пускалі ракеты: чырвоныя — над сабою, зялёныя — у бок партызан. І зноў пачыналася калатнеча.

Струшчаны лес гарэў і не даваў больш прытулку, трэба было адрывацца, выходзіць самім і выводзіць мірных жыхароў, якіх набралася за час баёў у лясах нямала. Ішлі, кружылі ўсю ноч і яшчэ паўдня — да знемажэння, выйшлі і вывелі людзей. Непадалёку ад Кабанаўкі загадана было рыхтаваць пераправу цераз Бярэзіну — шукаць лодкі, рабіць плыты з сухастою. На гэта пайшло адразу некалькі груп, у іх падабралі людзей больш вынослівых, моцных. Прызначылі і месца збору. Пайшлі асобнай групай і «палешукі», але ім наўздагон даслалі яшчэ пяць чалавек мясцовых партызан.

На нейкай нешырокай рэчцы знайшлі прытыкі з лодкамі. Шукаць гаспадароў, пытаць дазволу пакарыстацца імі не было калі. Выламалі добрыя шасты і пагналі да Бярэзіны. Каля сутокаў замаскіравалі лодкі ў чароце і пад кустамі, некаторыя нават прытапілі пры беразе, памецілі месца.

Да пункта збору пайшлі напрамкі, вёў атрадзік хлопец з Якшыц. На нейкай лясной дарозе сустрэўся конны раз'езд немцаў, пасля нядоўгай перастрэлкі звярнулі ў лес. Пакуль кружылі лесам, увесь час знекуль далятала аўтаматная страляніна, трывожыла.

Да месца збору як не прыпаўзлі — знясілелі дашчэнту. Гэта былі шостыя суткі баёў, бяссонніцы і крайняга нервовага напружання. Дый жылі ўвесь гэты час упрогаладзь: то не было чаго перакусіць, то было не да гэтага. На вызначаным месцы нікога не знайшлі. Вырашылі пачакаць — мо яшчэ прыйдуць, мо самі яны ўправіліся раней? Залеглі ў кустах лазы, паснулі імгненна...

Прачнуліся пад вечар ад кулямётнай і аўтаматнай

страляніны. Білі блізка, але не па іх. Пахапалі зброю — і глыбей у лес. Калі не прыйшоў больш ніхто на месца збору, то мо атрад яшчэ на старым месцы, адкуль выпраўляліся групы на раку?

Атрада і там не было. Пакружылі некалькі гадзін вакол месца, натыкнуліся на нямецкую засаду. Загінула трое — і Сашка-кастраміч. Па-дурному, зусім нечакана... Перабягаў пад агнём да Мікульскага... «Цімох Андрэевіч, у мяне ёсць...» — крычаў, бегучы, хацеў нешта прапанаваць. Але так ніхто і не ўведае, што за новая ідэя стукнула яму ў голаў.

Адышлі пад агнём, нават не змогшы захапіць з сабою, пахаваць забітых. Разам з Сашкам загінула канчатковая ідэя — знайсці прыхаваныя гарматы і боепрыпасы...

А куды далей, дзе шукаць атрад? Ніхто не ведаў. Зразумела было адно: за апошнія суткі, пакуль яны хадзілі наладжваць пераправу, немцы падціснулі, і партызаны адышлі, не паспеўшы папярэдзіць ні групу Мікульскага, ні іншыя.

Што рабіць? Працягваць пошукі гэтага атрада або паварочваць назад, на Палессе? «Палешукі» былі за другі варыянт — ісці пад Прыпяць. Там знаёмыя мясціны, знаёмыя людзі, атрады, ведаў і народ іх. Хлопец з Якшыц не пайшоў, засталіся з ім і ўсе мясцовыя. У іх былі такія ж прычыны — не адыходзіць далёка ад знаёмых мясцін. Раздзяліліся: ізохаўцы пайшлі на поўдзень, «палешукі» — да Бярэзіны, да прыхаваных лодак.

Зноў вандраванне, начныя блуканні па незнаёмых дарогах і сцежках. Ім давялося прайсці і праехаць па іх каля трохсот кіламетраў, начаваць і ў лесе, і ў глухіх лясных вёсках...

Гнала іх уперад, не давала спакою думка: як апраўдацца ў вачах камароўцаў? Як лепш вытлумачыць свой анархічна-хлапчукоўскі парыў? Па сутнасці, уцёкі з атрада, інакш іх учынак, іх авантуру не назавеш: няма Сашы, няма ніякіх гармат... Ідучы хапала часу для роздуму, і Мікульскі часта ставіў сябе на месца Камарова, на месца іншых знаёмых камандзіраў атрадаў, таго ж Фядоркава. Як бы ён зрабіў, калі б яго падначаленыя выкінулі такога «коніка»? Мо ў нечым і Барыс Канькоў паступіў правільна, калі пусціў пасля іх паходу-ўцёкаў слых, што расстраляў іх як дэзерці-

раў? Хоць розніца ёсць, нават велізарнейшая: дэзерцір ратуе сваю шкуру, уцякае ад барацьбы, ад вайны. Яны пра сваю шкуру не думалі. Наадварот, шукалі актыўнай барацьбы, як мага імкнуліся да яе.

Ідэя Сашкі-кастраміча — займець свае гарматы — выглядала ўжо смеху вартай: што значаць нейкія дзве гарматкі з невялікай колькасцю снарадаў? Стрэльнеш колькі разоў, а потым яны стануць непатрэбным грузам-баластам.

Гнала іх назад на Палессе пачуццё віны перад таварышамі. Хацелася як мага хутчэй выкупіць гэтую віну. Любою цаною, нават цаною жыццяў!

Недзе пад канец іх дарогі на Палессе ляжала Случчына. Варта было адхіліцца кіламетраў з дзесяць — пятнаццаць больш на поўнач — і вось яна, родная вёска Мікульскага!.. Жаданне зайсці дадому, пабачыцца з маці стала неадольным. Калі пра гэта даведаўся Шыпняк, то прама заявіў, што злачынства — ісці так блізка ад хаты і не пабачыць «нэньку», «маты».

Павярнулі...

* * *

Случ перайшлі ўброд, паскідаўшы ўсё дагала. І хоць было халаднавата, паплюхаліся крыху, змылі з сябе дарожны пот і пыл. Пайшлі на паўночны захад і неўзабаве апынуліся ў невялічкім ляску. Такія астраўкі сеянага ці рэшткі натуральнага лесу сям-там пракідаліся і ў цэнтральнай, бязлеснай частцы раёна. Ведаў Мікульскі гэты лясок, тутраслі добрыя баравікі, не раз хлапчуком завітваў сюды. Зараз ляска было не пазнаць: раскашавала адно кустоўе, дарослых дрэў не відаць ніводнага. Прыкмета здзічаласці, таго, што сюды не ступае нага чалавека, ляжала на ўсім. Выбіліся на зарослую крапівою і бур'янам паляну. Нават пры месяцы можна было пазнаць з паўночнага краю доўгую прамавугольную выемку, нібы не засыпаны да канца роў. Зелле і бур'ян у ім ажно буялі, былі як не чорныя, цяжкі дух тлену забіваў дых. Мікульскі і Эдзік абышлі падазронае месца з аднаго боку. Шыпняк — з другога. А Дубінскага чагосьці панесла напрасткі...

— А-а-а! — тут жа выскачыў назад з жахлівым

крыкам, схапіўшыся за галаву. Рынуў за Васілём напралом, спатыкаючыся, блытаючыся ў кустах. Падхопліваўся з нейкім стогнам-ахканнем, быццам за ім гналіся пачвары, а ён уцякаў. Усе, нямала напалохаўшыся, прыпусціліся следам — што з ім? Кончыўся лясок, Дубінскі, не раздумваючы, не азірнуўшыся па баках, перабег шашу Слуцк — Брэст, замільгаў у рэдкім бярэзнічку — далей, далей...

Дагналі яго за ляском, у канюшыне — бег укосікі, хістаючыся, і не чуў, пра што яму гаварылі ззаду, куды накіроўвалі. Давялося дагнаць, цапнуць за плячо, добра страсянуць. Дубінскі хуценька сеў, задыханы, з крэктам пасцягваў з ног боты, шпурнуў іх ад сябе — чым найдалей.

— Ты што? Што з табою? — абступілі яго, Эдзік адбегся пашукаць, куды ўпалі боты.

— Хруп, хруп... Як ламачча ў лесе... І чэрап зялёны... Я думаў, камень, спатыкнуўся на яго... А ён лёгкі, пусты... І вачніцы чорныя... Нор нагрэбена... Мо ваўкі ці лісы...

Чуваць было, як у яго стукалі зубы.

— Костачкі хруп, хруп... Мо дзіцячыя...

Паселі каля яго моўчкі, падышоў моўчкі, з ботамі, апусціўся таксама Галубоўскі.

— Як гэты лясок завецца? — урэшце, нібы апрытомнеўшы, папытаў Дубінскі.

— Гараваха.— Мікульскі лёг на росную канюшыну дагары, каб вальней было дыхаць, уздыхнуў. Тым часам Эдзік пасунуўся бліжэй, ухапіўся за яго руку і не адпускаў. Усе ўжо здагадваліся, куды трапіў Дубінскі...

— Ну але, Гараваха... Так яно і ёсць... У нашым лагеры адзін быў са Слуцка яўрэй, расказваў.... Тут, у Гаравасе, расстрэльвалі слуцкіх яўрэяў... Сотні чалавек... А гета спалілі...

— Трэба йты... Дарога тут блызко, машыны гудуць... Тай пізно будэ... Тымохвій, далэко шчэ твое сэло?

— Блізка, відаць ужо... Уставай, Арон, трэба ісці,— паклаў Дубінскаму на плячо руку.

Эдзік яшчэ не прапаноўваў Дубінскаму боты, нёс ззаду і раз-пораз шморгаў імі па канюшыне, вымываў у расе падэшвы.

— Во гэты шчэ лясок, каля чыгункі,— і сяло. Во-

стравам лес называецца... Тут, здаецца, у трыццаць шостым ці трыццаць пятым маёўка вялікая была... Будзённы на яе з Галадзедам і Чарвяковым прыязджалі...— паказаў Мікульскі на поўнач.

— Н-ну?! Сам Сэмэн Мыхайловыч? — шчыра здзівіўся Шыпняк.— А дзід гэты — хто?

— Быў такі ў нас старшыня Саўнаркома... Не, ніякі ён не дзед. Так, гадоў сорак пяць — пяцьдзесят, не больш.

— Ось нэ думав, што ў такі гістарычны ліс заходымо...— ахвотна падтрымліваў гаворку на гэту тэму Шыпняк. Нібы згаварыўся з Мікульскім, каб адцягваць увагу Дубінскага ад толькі што перажытага жаху.

Ішлі, і Мікульскі расказваў пра тую маёўку — што запомнілася. Як з'язджаліся на фурманках дэлегаты з усіх навакольных вёсак, як пад'ехаў і спыніўся сярод Вострава нават спецыяльны цягнік з вагонаў і адкрытых платформаў, і з яго сыпанула моладзь... Былі працярэблены ў лесе галоўныя сцежкі і дарожкі, а паўз аўстрыйскую дарогу (палонныя аўстрыйцы пракладвалі ў імперыялістычную вайну) стаялі пад дрэвамі палаткі і крамы, прадавалі ўсё-ўсякае, і жанчыны панабіралі без усякай чаргі і корту, і паркалю, і селядцоў, і прысмакаў дзецям. Былі пароблены ў лесе аркі з гірляндамі і лозунгамі, збудавана з дошак трыбуна. Крыху ў баку ад яе — цэлая сельгасвыстаўка: каровы, япрукі ў загонах, коні-жарабцы. Будзённы, Галадзед і Чарвякоў, яшчэ кіраўнікі з вобласці і раёна пад'ехалі на некалькіх легкавіках. І, помніцца, вельмі дзівіліся ўсе, што Будзённы прыехаў не верхам на стаенніку, як прывыклі бачыць яго на карцінах, а ў машыне. Людзі былі задаволены, што Сямён Міхайлавіч і Чарвякоў з Галадзедам запраста здароўкаліся за рукі з калгаснікамі, што яны пажадалі паглядзець калгасных коней перш за ўсё. Потым Сямён Міхайлавіч паспрабаваў праехацца на жарабцы ў брычцы па аўстрыйскай дарозе і гэтак па-заліхвацку свіснуў ды гікнуў на стаенніка, што той ажно слаўся ў палёце...

Мікульскі ўвёў спадарожнікаў у Востраў знаёмаю сцежкаю. Як і ў Гаравасе, усе дарослыя дрэвы былі спляжаны, а раслі ж тут нават стогадовыя сосны. Звыклых арыенціраў не было, ды яшчэ ноч — вывеў групу да чыгункі Слуцк — Баранавічы не там, дзе разлічваў, а ледзь не да моста праз Лакнею. А там бы-

ла блок-будка, былі ўмацаванні, былі немцы. Не хацелася шумець каля вёскі, не для гэтага яны ішлі — павярнулі зноў у лес, прыстоялі за крайнімі ад дарогі кустамі, панаглядалі, паслухалі. Скрозь паўз дарогу дрэвы і кусты былі высечаны дазвання метраў на сто. Крокаў патруля не ўчулі, мусіць, нядаўна прайшоў... І яны, угнуўшыся, хуценька перабеглі дарогу.

З паўночнага боку дарогі кавалачак лесу быў намнога меншы, ён хутка пераходзіў у балота. Спыніліся на ўзлеску.

— Слухайце, што робіцца ў вёсцы... Ціха — не? — прашаптаў Мікульскі. Сам ажно вочы заплюшчыў, услухоўваючыся, але ўсё глушыў стукат крыві ў скронях, буханне сэрца.

— Тыхо, кажысь...— прашаптаў і Васіль. Мусіць, і яму перадалося хваляванне Мікульскага.

— Ціха, ага...— пацвердзілі Эдзік і Дубінскі.

— Ніколі не думаў, што ў родную вёску давядзецца во так заходзіць, крадучыся...— ён гладзіў кругамі левую палавіну грудзей.— А-а, хадзем, здохне той, хто забароніць мне зайсці ў маю вёску, дадому!

Каб быў хто чужы, не так бы сябе паводзілі сабакі. А людзей сваіх Мікульскі добра ведаў — не знойдзецца сярод іх гадаў і прадажнікаў.

Ішлі гуськом паўз меліярацыйную канаву, якая адыходзіла ад Лакнеі і кіравала туды, да вёскі. Калі скончылася канава, прайшлі крыху сухім лугам, потым дарогаю-сцежкаю, што ішла паўз канцы агародаў — «навозам». Праз кожныя метраў сто спыняліся, услухоўваліся: з-за шастання ног па траве ўсе былі як аглушаныя. Спала вёска, толькі дзесьці ў канцы яе ледзь чуваць была калатушка начнога вартаўніка — якраз як у добры даваенны час. Ляніва, нібы адбываў абавязак, абзываўся на гэты трэск-ляпанне калатушкі нечы бяссонны сабака.

Як у добры даваенны час... І нібы вяртаецца ён з кампаніяй з вяселля, з чужой вёскі, куды хадзілі патанцаваць. Вось-вось, здаецца, ззаду, на Лакнеі, у другім гурце завішчаць дзяўчаты, выбухне рогат хлопцаў. Так заўсёды было, так заўсёды паджартоўвалі і палохалі іх, засеўшы ў кустах каля кладкі-бервяна. Здаралася, што і ў ваду каторая падала спуду, а не падала, то хлопец спіхваў знарок і падаў следам за ёю — «ратаваць». Усе ішлі далей, а падмочаныя заста-

валіся — выкручваць, выціскаць ваду, і ім, можа, толькі гэта і трэба было — астацца...

Думаў Мікульскі — пазнае свой узмежак і адразу паверне, і не пазнаў: не было галоўнага арыенціру, высознай, старой яліны, што расла праз дзве сядзібы ад іхняй, якраз каля дарогі-сценкі. Прайшоў крыху далей, зноў вярнуўся, пакуль не выявіў прыкіданы нейкім ламаччам пень. Адлічыў агароды — раз, два, тры... Во гэты... Але чаму такі здзічэлы ўзмежак, чаму замест бульбы ці якога жыта (у іх была мода сеяць па некалькі сотак жыта ці ячменю ў агародзе) расце нейкае пустазелле, тырчаць сухія бадылі леташняга. Зноў трывожна зашчымела сэрца...

— Няладна, хлопцы, штось...— прашаптаў ён і ледзь не бягом пусціўся на горку. Пасярэдзіне сядзібы быў невялікі паплавец з дзвюма старымі яблынямі-антонаўкамі і грушай-фунтоўкай, садзіў мо яшчэ дзед... На яблынях трымаўся цвет, а пад грушай нібы нападала снегу. Асыпаліся пялёсткі... За гэтым паплаўцом-садам зноў пачыналіся грады і ўжо каля самага схілу, унізе, чарнела хата. Грады пры хаце свежа ўскапаныя, прабаранаваны граблямі, выплесканы разоры. Штосьці пасеяна... Але чаму пустуе агарод за садам? Мо маці хварэе і няма сілы ўскапаць? То хай бы ж наняла каго з канём...

Жардзяныя вароты ад агарода перакошаныя, верхняя жэрдка пасярэдзіне праламалася, абвісла. Пераmахнуў гэтыя вароты, ледзь крануўшы рукамі зламаную жэрдку-біла — адкуль і лёгкасць узялася ў целе, куды стома падзелася... Двор таксама зарослы травою, казытліва запахла маладою крапівою з-пад плота. Каля калодзежа толькі рагуля-саха, пругла няма. І ўжо разгледзеў на хляве, хлевушку, на дзвярах сянец замкі, на вокнах — шчыльна зачыненыя аканіцы. Ад усяго будынка патыхала нежылым, з дамешкам цвілі, духам.

Адчуваючы, як сталі цяжкія, не падняць, ногі, узышоў на камяні ганка, пакратаў рукамі вялікі замок. Моцна трымаецца... Саступіў уніз і — ці ногі падкасіліся, ці само сабою прыселася — памацаў схованы пад каменем. Мо там ключ? Туды заўсёды клалі, калі хто куды адлучаўся... Пуста, пальцы натыкнуліся на мяккія і халодныя бакі жаб-рапух.

І зразу павярнуўся спінаю да дзвярэй, сеў на ка-

мень, успёрся локцямі на калені. Кісці звіслі плецьмі...

— Тыміш, ты нэ пэрэжывай дужа... Цількы трэба штось робыты, распытаты ў когось...— Васіль патрымаў яго за плячо, потым сеў побач. Дубінскі і Эдзік паселі пры сцяне, шорхнуўшы спінамі па бярвеннях...

— Не ведаю, браце...— праказаў разгублена.— Не ведаю... Пасядзіце пакуль што на месцы...

Ён з цяжкасцю падняўся, падыбаў да вуліцы. Там, ужо недзе зусім блізка, ляскацела калатушка, чуўся застарэлы старэчы кашаль. Каля закручаных дротам варотцаў, пад кустом бэзу прыстояў, паўслухоўваўся. Надта ж знаёмы гэты кашаль, але не прыпомніць, хто так надрываецца. І толькі паўзіраўшыся ў прыгнутую постаць,— чалавек якраз заціснуў калатушку пад пахаю, пачаў выкрасаць агонь,— пазнаў Дразда.

— Дзядзька Даніла!..— паклікаў моцным шэптам.

Брэк! — з-пад рукі старога ўпала калатушка, ён мітусліва, спалохана затупацеў, паварочваючыся ў яго бок. Адначасова хаваў у кішэню курэцкія прылады, другою рукою падымаў калатушку.

— Хто гэта? Кахы... Кахы...— паволі выпрастаўся, але з месца не сышоў.

— Ды я, я... Цімох Аленін... Мікульскі!.. Падыдзіце бліжэй, не бойцеся...— ён выступіў з-пад куста.

Стары гэтак жа мітусліва затупацеў да яго, паспеў, пакуль набліжаўся, азірнуцца ў адзін канец вуліцы, у другі.

— А мой жа ты саколік!.. Адкуль жа ты? — працягнуў над варотамі яму абедзве рукі, у адной — калатушка.

Мікульскі шчыра трасянуў іх. Брак! — адазвалася калатушка.

— Здалёк, дзядзька, не відаць адсюль... І зноў пайду. Вы лепш скажыце хуценька, што тут нарабілася, дзе маці?

— А мой ты... Няма твае маці... Няма! Як пайшла на трэці дзень пад Рудзенск... Дзе той Рудзенск, пад Мінскам? Як пайшла, то і сёння няма. Цябе хацела пашукаць, дзе дзеўся... Мы то і гаварылі, суседзі: «Ну дзе ж можа быць? Дзе і ўсе! Змабілізаваны на хронт». У нас жа тут, як пайшла мабілізацыя, мо цэлую роту набралі людзей. З кожнай хаты па два, па тры... Дык ого! Алена сваё: «Сама даведаюся, сама... Не сплю ўжо катору ноч...» То як пайшла ў сорак першым, то няма

й няма... I ніхто не ведае, ці жывая... Але жывая, канечне, што жывая! — спахапіўся Дрозд, бачачы, што і так Мікульскаму нядобра.— Аб'явіцца, а як жа!.. Кончыцца вайна — і аб'явіцца, я такое паняціе імею...— апошнія яго словы прагучалі нейкім намёкам, і Дрозд з галавы да ног агледзеў яго.— От ты ж аб'явіўся і дадому прыбіўся... Чалавека, дзе б ні быў, цягне ў свой куток... Ой, а я б цябе і не пазнаў, каб так дзе сустрэў. Схуднеў, зарос.

— Няма калі галіцца, дый брытвы няма... Скажыце, а як тут з немцамі, паліцэйскімі — не чуваць?

— Наязджаюць, чаму не... Часцяком. I зімавала па хатах нейкая часць. З месяц, як выбраліся. А сёння нікога няма. То ты ў партызанах, ці як? Цацка за плячом целяпаецца... I гэта... пад сцяною, таварышы твае?

— Ну й дзед, вочкі ў цябе — дай бог. Партызан я, партызан. А больш нічога не пытайце.

— О, я пра гэта імею паняціе!

— А дзе...

— Панімаю, панімаю... Карова, япрук? Карову з месяц цётка глядзела, сястра Аленіна стрыечная. I кабанчыка... А тады к сабе перабрала жыўнасць... Кабанчыка... А ява-то немцы забралі, не справілася прадаць... А япрука паспела выкарміць, мо і яшчэ тое сала вядзецца. Пудоў дванаццаць быў. Слон! То сала магла б і аддаць...

Не, не пра гэта хацеў спытаць Мікульскі — пра Valio.

— Не пайду я спаганяць з яе тое сала. Хай спажывае на здароўе... Да-а... Дзе ж магла дзецца маці?

— Я такое паняціе імею: ці не ў партызанах яна таксама? Бо Анцыфяровіч усё чапляўся да хаты, спаліць хацеў.

— А гэты — што за ён?

— Паліцыянт быў такі. Той, што ў прымаках у Макарэвічавай Валі сядзеў... Ну, з эмтээсу, Анцыфяровіч?..

— Не ведаю... Не пры мне ўсё...— прыкінуўся Мікульскі.

— Ну але ж... Ты быў з'ехаў з дому, адкуль ведаць. Не ўжыла Валька з ім... Ці ён з ёю — хто іх там разбярэ. З маткаю была пасварылася яна, то ў тваёй хаце жыла. Жыла, а Анцыфяровіч чапіўся да яе. Аніська, наш паліцай, адбараняў: так скаць, невядома, дзе

Мікульскія, а заздра паліць хату — усё сяло выгарыць
— І Аніська паліцай?!
— Паліцыянт! Значыць, пяцера ўсіх... Аніська тут жыве, а ходзіць у Слуцк, у гарнізон... А той, Анцыфяровіч, у Слуцку быў, толькі наязджаў сюды... Медаль, сам хваліўся, выслужыў у Шнэка... А гэты Шнэк — шышка вялікая ў паліцыі... Але няма ўжо Анцыфяровіча. Спрогса... Згарэў ад спірту... Але ж, ведаеш, проста полымя з рота шыбала — сіняе. Аніська расказваў... А гэта полымя можна толькі мачою згасіць, дык ніхто не здагадаўся ў рот яму надзюрыць... Ну і трое суседзяў вашых, Даўбалекі, у паліцыі.
— Яны ж высланыя! Адна бабка старая жыла.
— Бабка і цяпер крэхча, трасца яе не бярэ... А яны ўскорасці, як немцы прайшлі, прыпаўзлі дадому... Сам стары і двое сыноў... І ўсе ўтрох у паліцыю пайшлі, у Слуцк. Як ваўкі лютуюць, казалі... І ў нас жа яны Курыльчыка забілі — ты ж мо помніш яго. У акцівістах быў, раскулачваць памагаў...
— Ведаю крыху... Н-да-а, чуць самі ў рукі Даўбалекам не прыйшлі.
— Няма іх тут — я ж хаджу звечара. Перад стрэчаннем у хеўралі заязджалі... Многа заязджала і немцаў і паліцаяў... Адале недзе на партызанаў выступілі, на Палессе. Людзі так казалі.
— Дык Макарэвічава тут больш не жыве...
— У мацеры. Памірыліса... Стараста то дазваляў і тут, у тваёй хаце, але... Затулецеса дзе, я да Макарэвічавай схаджу, хай адамкне. Яна пачапляла замкі.
Мікульскі не паспеў запыніць старога, сказаць, што ў хату мо не варта і заходзіць. Адкруцяць якім прэнтам замок на хлевушку і заначуюць. Там павінна быць крыха сена. Але Дрозд так вёртка крутнуў ад варот, так паджгаў па вуліцы — нібы скінуў раптам з сябе гадоў пяцьдзесят. На хаду ён паспяваў раз-пораз бразнуць у сваю калатушку: «Усё спакойна, спіце, людзі...» Мікульскі падышоў да сцяны сянец. Усе спалі, прытуліўшыся плечукамі адзін да аднаго, а спінамі да бярвенняў.
«Простаю перадышкаю не абыдзешся... Трэба хоць суткі даць людзям перапачыць...»
«Столькі дзён марна страцілі з гэтымі паходамі... А мо і не марна? Усё-такі ваявалі па-сапраўднаму, не аднаго фрыца ўклалі ў зямлю...»

«Але ж час ідзе, час ідзе... А мы — убаку зноў!»

Прысеў у іхняй жа позе, шаргануўшы спінаю па сцяне. Яшчэ хвіліну-другую прыслухоўваўся да цяжкага дыхання людзей: з нейкім чыста дзіцячым чмоканнем і стогнам — у Эдзіка (прыхіліўся галавою да плечука Васіля), ціхага і роўнага, бы чалавек проста задумаўся,— у Шыпняка. А Дубінскі надзімаў тоўстыя губы, выпускаючы паветра,— лоп-лоп-лоп. Затое ўцягваў паветра — нібы трактар заводзіўся. «Мо патармасіць яго? Разбудзіць...»

І сам нібы праваліўся ў нябыт.

Абуджэнне прыходзіла не так імгненна, як сон. Спачатку ў сне штосьці занепакоіла, парупіла. Здалося, што здалёку-здалёку паклікаў яго жаночы голас... Не голас нават, а рэха ад голасу — і знікла рэха, распытала. Насіліўся, расплюшчыў павекі і зноў заплюшчыў: разломвалася, здавалася, на часткі галава, нібы тады, адразу пасля кантузіі. Зноў расплюшчыў, павёў вачыма — балелі і «яблыкі», і глыбока, дзесьці на дне вачніц... Здалося ці не? Хтосьці нагнуўся над крайнім, Дубінскім, пільна прыглядаецца. Вось, не разгінаючыся, зноў пераходзіць да Шыпняка, да Эдзіка... Каля іх не спыняецца і зразу да яго — укленчвае, а потым садзіцца на пяткі. Рукі на каленях, глядзіць проста ў яго прыплюшчаныя павекі. Мікульскі адчувае погляд цёмных, з нейкім бляскам вачэй жанчыны, змагаецца што ёсць моцы са сном. І, мабыць, на нейкую долю хвіліны павекі заплюшчыліся, бо, як лыпнуў зноў, убачыў каля самага свайго твару працягнутую руку жанчыны, цьмяную белізну яе грымцячых пальцаў і... ласкавы дотык да сваёй даўно няголенай, нават перастала ўжо калоцца, шчакі.

— Valio...— прашаптаў аднымі губамі, пачаў цвеазець.— Валюша-а...

— А гэта — ты-ы? — гэтак жа ледзь чутна паварушыла яна губамі і выдыхнула з плачам: — Жывы-ы-ы...

— Жывы, Valio...— ён хацеў адхіліцца ад сцяны, але яна прыпала да яго грудзей, душачыся плачам.

— Жывы-ы... Жывы-ы...— выдыхала, не адрываючы твару, і яе гарачае дыханне ажно праходзіла скрозь адзенне, апякала.— А я столькі гадоў чакала, думала — акажашся! — Валін голас вырываўся здушана, яна зацiскала рот, прыпадаючы тварам да грудзей, не

хацела, мабыць, верыць таму, што сядзіць каля яго, што нават гаворыць гэткія словы.

— Жывы... Перастань...— ён асцярожна абняў яе за худзенькія плечы праваю рукою, нібы таксама не верыў, што перад ім тая самая Valio. Стрымліваўся, каб не раскіснуць, не даць сабе волю. Але ўсе пачуцці тапіліся ў жаллівасці і шкадаванні: колькі ж яна, мусіць, адпакутавала за гэтыя гады, колькі ўсяго перажыла! І ці трэба пра нешта ўспамінаць нядобрае, караць яе за памылкі, калі яна, мусіць, сама сябе пакарала ўстакроць! У той жа час хацелася ўзяць яе галаву ў свае вялікія, страшэнна агрубелыя за вайну далоні і цалаваць заплаканы твар — вочы, бровы, шчокі, губы... Ён адчуваў, што ў гэтую хвіліну кахаў яе, гатоў быў дзеля яе на ўсё, як і тады, калі быў яшчэ нясмелы і сарамяжы. Быў хлопцам...

А побач, зусім побач чуўся маладзецкі храп...

— Чакала, кажаш... А сама замуж за эмтээсаўца выскачыла...— гаварыў ён, і сам нібы дзівіўся — ён гэта гаворыць ці хто другі?

— Ад злосці на цябе... З адчаю... Паехаў — год весткі няма, другі праходзіць, трэці пачаўся.

— Я лічыў і лічу, што кахаць трэба не толькі сэрцам, але і розумам... Каб не слепа...

— Мо і было ў цябе так... Я не вінавачу... І зараз ад цябе нічога не патрабую,— яна адхіснулася ад яго, устала з каленяў.

Устаў і ён.

— Валя, ты нам можаш памагчы... Ты павінна памагчы,— ён не выпускаў яе рук са сваіх. Але яна вырвала адну, рэзкімі рухамі цярнула па шчоках, па вачах.

— А што трэба? Усё кажы...— у голасе былі пакора і адданасць.

— Мы з вялікай дарогі. І яшчэ трэба далёка ісці. Перадыхнуць бы нам з суткі, падрамантавацца... Паесці ўволю цёплага, варанага.

— Я пакармлю. Згатую зараз...

— Ці ёсць у хлеўшку сена — не ведаеш?

— Ёсць крыха... Але пацяруха, старое. Цётка як забрала карову, япрука, то і сена ўсё выграбла.

— Мы там будзем спаць, зачыні нас на замок.

— Ой, там жа ніякай посцілкі няма! Ні пад бок, ні на сябе.

— Ерунда. Нам не прывыкаць... Мы ў такіх умовах спалі, што гэта — рай. І во што: мы месяцаў з два вады гарачай у вочы не бачылі... Лазні, канечне, паблізу ні ў кога няма...

— Я ў печы нагрэю, у ночвах спаласнецеся. Мы ўсе ў ночвах мыемся.

— Як і дваццаць гадоў назад. «Ад Барысава да Слуцка (аж прызнацца нейк нялоўка) усе прывыклі не па-людску сяк-так боўтацца ў начоўках» [1].

— Хадзеце скоранька — падымайце іх. Бо ноч каротка...

— Ч-чорт... Каб падазрэння ні ў кога не выклікаць. Ноч — і раптам дым з коміна, пахі ўсякія смачныя.

Ён прайшоў за ёю да хлевушка і, пакуль яна адмыкала, не здымаў свае рукі з яе плячэй. А адамкнула — прытуліў да свайго бока мацней.

— Не бойцеся... У нас спакойна,— гаварыла яна і на імгненне замерла, прыслухоўваючыся да яго рук.— Я прыходжу сюды разоў два ў месяц... Прыбіраю ў хаце, прасушваю пасцелі. Усе ведаюць гэта, ніхто не дзівіцца. За нявестку вашу лічаць...— зазірнула яму ў вочы.— Адзін Пятрок толькі якацеў ад злосці.

— Пятрок — гэта муж?

— Ага, былы.

— Ты ж разышлася з ім — маці, здаецца, пісала.

— Я й кажу: былы. Да вайны яшчэ разышлася. Што я з ім нагаравалася — такі п'янчуга... А ён да апошняга даравАць не мог, чапляўся. Я нож з сабою насіла — баялася... А пад канец хацеў у СД мяне здаць, паклёп рабіў, што я партызанская сувязная. А доказаў у яго не было! То Аніська з ім цапаўся з-за мяне, адбараняў...

Валя ўчапілася аберуч у кватэрыну дзвярэй, ірванула на сябе. Дзверы рыпнулі нечакана рэзка, і яна азірнулася на таварышаў Мікульскага, прытулілася да дзвярэй, нібы атушвала сабою гэты скрып-ускрык. Ступіла ў цемру, Мікульскі за ёю. Натыкаўся на яе і зноў абняў.

— Сена во тут, справа ад тачка.

— Дзе і было...

— Не трэба...— сказала яна, адчуўшы штосьці но-

---

[1] З верша К. Крапівы «Будуйце лазні!».

вае ў яго абдымку.— Пераходзьце сюды... Я зараз посцілкі прынясу. На сячкарню толькі не ўзбіцеся...

— Сячкарня ў канцы тачка, а злева ад яе мякінная скрыня. Я помню.

Valio выкаўзнулася з яго рук, шморгнула назад у светлы праём дзвярэй. Пакуль ён, разгайданы нахлынутымі на яго пачуццямі, выйшаў следам, яна адмыкала ўжо дзверы ў сенцы. Шусь усярэдзіну — грук! На камянях ганка было пуста, як ніхто і не стаяў.

Пачаў тармасіць хлопцаў...

Яны ляжалі шчыльна адзін да аднаго, каб было цяплей. І Валя тузала іх за ногі, блытаючыся, не разбіраючы, якая чыя. Ледзь дабудзілася. Мікульскаму здалося, што ён толькі-толькі заснуў.

У хлевушку, дзе даўно ўжо не было ніякіх іншых пахаў, зараз смачна пахла заскваранным, з цыбулькай, бульбяным супам.

— Есці гатова... Тут будзеце есці, я сюды прынесла.

Хлопцы сядзяць, чухаюцца, пазяхаюць.

— Цімох, памажы скрыню сюды бліжэй падцягнуць. На бок перакулім, стол будзе,— распараджалася Valio. І Мікульскі не памог, а сам вывалак няўклюдную скрыню, абмінаючы асцярожна сячкарню, павярнуў. Валя хуценька пастаўляла на «стол» чыгунок і міскі, бутэльку і шклянкі, паклала на ручнік хлеб і лыжкі.

Паселі на бервянцо, што аддзяляе тачок ад застаронка, калені — вышэй падбародкаў, ног працягнуць няма куды.

Толькі запрацавалі лыжкамі, як скрыпнула кватэрына, светлы прамавугольнік-шчыліна святла пашырэла. Усе ўздрыганулі, хацелі падхопліваццa на ногі.

— Гэта я... Кахы-кгы...— зачарнелася постаць на светлым. Мікульскі пазнаў голас Данілы Дразда.— Ты ж не забыла пра пляшку?

— Не забыла, не забыла... Вы ідзіце, дзядзька, глядзіце, каб не насунуўся хто...

— Ото пайду... У мяне і мыш не праскочыць. Я, калі хочаш ведаць...— было відаць, што Даніла ці не прыклаўся ўжо да бутэлькі.

— Дык тут і пляшка е? А што ж мэнэ раніпэ нэ

збудылы? — Васіль, мусіць, канчаткова прачнуўся. Прыгнуўся да «стала», прыглядваючыся, «улавіў» бутэльку, шклянку.

— Малачко ад шалёнай каровы... Хе-кхе...— не адыходзіў ад дзвярэй дзед, хоць Валя пайшла ўжо.

— Васіль, ты налі першую чарку бацьку,— сказаў Мікульскі і, калі Васіль наліў з паўшклянкі, узяў з яго рук, перадаў Дразду.

Той порстка ступіў ад дзвярэй бліжэй да іх, прыняў пачастунак.

— То варушэцеса, дзеткі, лепш. Беце немчуру, хопіць ім пасвіцца на нашай зямлі.— Дрозд выпіў, узяў кавалачак хлеба, панюхаў.— Мнагавата наліў...

— Ды вы кусайце, кусайце! — сказаў Мікульскі.

— Няма чым. Адныя дзясны... От як размачу, то яшчэ суслю трохі. Ну, то дзякуй за прывет! Хадзі толькі, Цімох, на адно слова...— стары ступіў цераз парог на двор і, калі Мікульскі выйшаў за ім, дадаў шэптам: — У хаце торбу пакінуў на лаве... Сала з паўпуда. Не забудзьса толькі!

— Нашто ж так многа?

— Згадзіцца. У вас жа гурт, і, мусіць жа, у гурт ідзяце. З'ясце... Ды гэта не толькі маё, майго адзін кавалак. А два ў цёткі твае ўзяў — такая скнара, не давядзі бог.

— Вы хадзілі сярэдначы да яе?!

— Хадзіў, а што ж. Не ўбудзе яе, не бойса. Ну, я пайшоў тупаць.

Мікульскі пастаяў крыху, гледзячы, як Дрозд падыходзіць да варот, з крэхтам і мармытаннем лезе цераз верх, бо і варотцы, і вялікія вароты закручаны дротам. І нешта не атрымалася ў яго, засеў на самым версе, лаецца напаўголаса. І ўрэшце кліча Мікульскага: «Цімох, падсабі... Ты яшчэ не схаваўса? Учапіўса за нешта...»

Мікульскі падбег да варот, памог выбавіцца: кончык дроту, загнуты, як кручок, ухапіў яго за крысо. Адчапіў, падняў старога над варотамі, як малога, і асцярожна паставіў, на вуліцы ўжо, на аслабелыя ногі — Даніла ажно прысеў. Дастаў Дрозд з-за пазухі калатушку, забразгаў.

— Ага, чуць не забыўса. Во, яшчэ адзін падарунак... Усім паказвай — хлеб нямецкі... Акрайчык. Гэта як часць стаяла, адзін унцер прыходзіў адмень-

ваць... Высыпле з сумкі кускоў на лаву, тыкае пальцам на стол — «Дай! Дай!». А мой ты сынок... І абухом білі, і так размочвалі, каб свінні аддаць... Але і свіння не ела. Вотрубі, тырса і нейкім клеем склеена ўсё, скасцянела. Дык я схаваў колькі кускоў, усім пакazваю. Скора будзе здыхата Гітлеру, паглядзіш. На такім хлебе доўга не наваююць! І яшчэ во што: хрэнчы ў немца былі суконныя, а цяпер гляджу — палатняныя, толькі ў зялёнае пафарбавалі... От як... А салдацікі штовечар пасядуць укруг стала і вошы б'юць... На стале! То я пабег...

Мікульскі ўзважыў эрзац-хлеб на руцэ, сунуў у кішэню і вярнуўся да «стала». І пакуль хлёбаў варыва, увесь час думаў з трывогаю: «Гэта ж трэба — пайсці сярод ночы да цёткі!.. Што ён гаварыў? Як, для каго прасіў? Прымчыцца яшчэ сваячка паглядзець на стрыечнага пляменніка... Апраўдвацца пачне. А мне толькі і не хапала яе выслухоўваць...»

Зноў Мікульскі прачнуўся ад ласкавага дотыку да шчакі, пагладжвання, як і пад сцяною. Потым пачуў лёгкі, нібы дзіцячы, пацалунак недзе пад вока і шэпт: «Хадзем у хату... Я прыгатавала вады...» Падаў Валі ў цемнаце руку, і яна спачатку пацягнула за яе, а потым, калі ён устаў і схіснуўся спрасонку, падтрымала за локаць, памагла сысці з сена, каб менш шамацела. Падумалася, што яна бачыць у цемры — так свабодна арыентавалася ў чужой будыніне.

Зараз і ў хлеўчуку, і на двары была вугальная чарната. Месяц ужо зайшоў, зоркі таксама выглядалі сямтам — ці не нахмарыла? Цішыня была ў вёсцы, здавалася, і ва ўсім свеце такая цішыня, і вайна яму толькі прыснілася. А мо прыснілася і Валя? Не, вось яна, у яго шырокай гарачай руцэ яе невялікая і яшчэ больш гарачая, і ўся яна во тут, пры боку — худзенькая, трапяткая. І жаданая... Не хацелася супрацiўляцца таму, што ўсё роўна насоўвалася на іх дваіх. Як зайшлі ў сенцы, ён не стрымаўся, каб не павярнуць яе тварам да сябе. Шурпатыя вусны яе абпальвалі, калоліся...

— Пусці-і... Ваду наліла — астыне...

Упёрлася далонямі яму ў ключыцы, і ён паволі расціснуў рукі.

У хаце блішчала на комінку газоўка. Блізка ад печы, прыладкаваныя на заслоне, зыходзілі параю ночвы. У іх наліта было на пальцаў тры вады. На беражку — змылачак, на другім, напалову прытопленая ў вадзе, торбачка з попелам. Так усё знаёмае з дзяцінства! І маці некалі вось гэтак рабіла шчолак з альховага ды асовага попелу, змякчала ваду.

— Во, астыла ўжо,— сунула Валя ў ваду палец.— Падзяржы торбачку, я цяплейшай ліну.

Ён вылавіў слізкую торбу-клінок, расхіліў. Валя зачэрпнула на прыпечку меднаю конаўкаю два разы, лінула. Зноў памацала, паплюхала пальцамі.

— Глядзі — добрая?

Памацаў ваду і ён.

— Халодная.

Валя скрабанула на дне чыгуна яшчэ два разы, падліла.

— Ну, а цяпер?

— Халодная!

— Вой, зварыцца ўжо можна. Я і ўсю магу выліць, але спаласнуцца не будзе чым. Раздзявайся! Раніца скора...— нават прыкрыкнула жартам на яго. Як на свайго, як на мужа.

Хутка раздзяваючыся, ён бачыў рассцелены ложак, каля яго на палку прыгатаваную чыстую бялізну — не яго. А чыя? Мо таго яшчэ, як яго... Анцыфяровіча? Каля бялізны вялікі, з суравога палатна ручнік. Добра такім уціраццa, вельмі ваду ўбірае...

З печы звісаў рог байкавай коўдры — ці грэлася, ці падсушвалася.

Голы да пояса, ён угнуўся над ночвамі, шчодра намыліў і спаласнуў галаву, зноў намыліў і спаласнуў. Адно ад гэтага адчуў сябе так, бы на свет нарадзіўся. Потым ён мыліў і мыў рукі, грудзі і бачыў, як яна, стаўшы на малы, як карову даіць, услончык, дастала з чарэні і падбіла вялікую, на дваіх, падушку, злезла, акуратна паклала на ложку «ў галавах», яшчэ раз падбіла.

Потым яна змывала яму плечы, церла так сабе, больш гладзіла, і ён прымусіў намыліць кавалак шорсткай анучы-суконкі, цярнуць як след. Забыўшыся, ён націснуў локцем на адзін канец ночваў, і яны схіснуліся, ледзь паспеў падхапіць. Але вады рынулася на

падлогу ў яе бок нямала, і яна, падмочаная, віскнула і скокнула пад парог.

— Нічога, нічога... Я ўсё падатру,— збянтэжыўся ён.

— А я што буду рабіць? — але ўзяла вёдры, пайшла з хаты па ваду.

«У чый калодзеж яна пойдзе? Наш жа раскідаўся...» — паспеў падумаць, глянуўшы ёй услед.

І ён хуценька, каб паспець, пакуль яна прыйдзе, дамыў «другую палавіну»: саромеўся... Ледзь усцягнуў споднікі — кароткія, як не да лытак,— вярнулася яна. І тут жа адабрала ў яго з рук анучу, сама стала падціраць падлогу.

— Збольшага хоць... Яшчэ ж наразліваеце. Ты лепш, во, вылей з ночваў брудную... У цэбрык во... Я зараз вынесу пад плот...

Ён апрастаў ночвы, спаласнуў рукі. Выціраючы, глядзеў на яе — ну, куды зараз? Хай камандуе, ад яе ж зыходзіць больш ініцыятывы... Калі яна наліла яшчэ два вялізныя чыгуны вады, ён падхапіў адзін, потым другі, падняў на прыпечак, а ўжо яна пасунула іх вялікімі віламі ў печ. Стаўляючы вілы, зірнула на яго і разрагаталася.

— Ну й работнікі гэтыя мужчыны! Паспеў ужо нос вымазаць, як камінар!

— Дзе? Чым?

— Во... Во... Хапаў рукамі чыгуны, а тады за нос.

Ён зноў мыў рукі, ужо халоднаю вадою, а яна выцірала яму, як малому, нос, пасміхвалася.

Сама падкінула ў печ дроў, выцерла рукі.

Лёг у пасцель і ажно прастагнаў — ад чысціні, ад звычайнай, забытай за два гады ўтульнасці, простага, вельмі простага шчасця, якое гэтак нечакана звалілася на яго.

Яна хукнула на газоўку, моўчкі пайшла да яго.

— Valio...— працягнуў ёй насустрач рукі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Аніська да мяне сватаўся... Нядаўна.

— Ну і што... ты яму на гэта?

— А нічога. Хопіць, кажу, з мяне аднаго замуства. Апяклася...— Валя прыпаднялася на правым локці, паўзіралася яму ў вочы. Не відаць было ні яе, ні бляс-

ку вачэй, толькі пачуў на твары дыханне. Яна нібы чакала ад яго нейкага адказу, і ён разумеў гэта, але маўчаў. А што ён мог адказаць, што паабяцаць? Вельмі ж ужо многа ўцякло ў той рэчцы, дзе яны калісь купаліся, вады, шмат падзей адбылося, што паўплывалі не абы-як на лёс абаіх.

— Адзін быў паліцэйскі і другі паліцэйскі.

— Аніська ціхі, не шкодны...

— Не шкодны! Чырвоная Армія набліжаецца ўжо да Беларусі, ён думае сваёй мазгаўнёй пра гэта? Яшчэ ёсць час выкупіць віну...

— Я скажу яму пра гэта. А Пятрок кручаны быў, што сабака... І здох, як сабака, пад плотам.

— Кручаны, а выскачыла за яго...

— Выскачыла! Бо ты ж паехаў — ні слоўца. А ён якраз тады араў ад эмтээса ў нашым калгасе... Гуляць прыходзіў на вячоркі, танцаваў ліха. «Выходзь,— кажа,— за мяне...» А людзі тады ўсякае гаварылі пра мяне і пра цябе. «Паматросіў і бросіў...» — гаварылі. А Пятрок жа не паглядзеў на гэта...

Мікульскага непрыемна кальнулі гэтыя словы Валі. Грубыя, а ў Валі яны прагучалі звычайна.

— «Паматросіў»... У нас жа нічога не было, акрамя пацалункаў. І ніякіх абяцанак я табе не даваў.

— Не даваў — гэта праўда. Я табе і без абяцанак верыла... Ты не такі, як усе, быў... Вучоны, разумны, як і не вясковы ўсядно. Совеслівы... Я табе верыла, я на ўсё для цябе гатова была. А ты такі цюхця аказаўся!.. Размінуліся мы, Цімоша, са сваім шчасцем. А як бы я цябе любіла, як бы любіла! Я б згарэла для цябе... З табою любячыся... Каб толькі жменька попелу засталася. І цяпер люблю...— і яна пачала балюча цалаваць яго. У яе тэмпераменце яшчэ многа было ад тае, колішняе Валі.— Я і цяпер ад цябе нічога не патрабую... Ніякіх абяцанак. Будзь проста маім сёння... Толькі маім... І ні пра каго, і ні пра што не думай. Я ўкрала цябе сёння ад усіх... Ад усяго... і ад вайны.

Ён адказаў на ласкі ласкаю...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— У печы вунь пагарэла... Патухла...

— Нічога... Зноў падпалю. Ты — мой... Мо-о-ой! Я б нічога так не хацела, каб мець ад цябе дзіця...

Але, мабыць, не будзе ў мяне дзяцей. Гэта ж і Пятрок пачаў піць з-за гэтага...

— Ляжыш са мной, а пра Пятра думаеш. Для мяне гэта... сама павінна разумець...

— Не, не! Я пра цябе толькі... Пра цябе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Світае, мабыць... А вада ў чыгунах выкіпела!

— Падлію вады... Скажы, ты будзеш успамінаць мяне?

— Буду, Valio... Колькі і жыць буду.

— Я цябе буду чакаць... Скажы, ты вернешся сюды пасля вайны?

— Не ведаю... Калі маці аб'явіцца... Калі будзе да каго... Калі жыў буду. Бачыш, колькі ўмоў.

— Галоўнае, ты беражы сябе, Цімоша. Не дай бог калецтва, але як надарыцца — не пужайся. Едзь сюды, ты мне ўсякі будзеш любы...

— Не абяцаю, Валя... Усё не так проста.

Вярнуўся ён у хлевушок пад раніцу.

Будынак збудаваны быў па-старому — адным шарам. У вялікія мяцеліцы і заносы (мо былі калі і такія?) унутры можна было хадзіць з хаты аж да хлевушка, не выходзіць на двор тыдзень. І Мікульскі вяртаўся на сена ўжо не дваром, а ўнутры будынка. У прыцемку — святло сачылася толькі з малюсенькіх, як кату пралезці, акенечкаў або проста са шчылін, ішоў з сянец у «пярэруб», дзе абапал прахода выгараджаны засекі, цяпер пустыя, але ўсё яшчэ запыленыя шараватай мукой, з «пярэруба» — у падпаветку, дзе была і дрывотня, складалі торф, дзе стаяў невялічкі варштат стальмашыць, бандарыць. Адсюль, каб крыху болей святла, праглядвалася б усё да хлевушка. Перагародак — сцен больш не было: дзве жардзяныя клеткі-катухі для свіней і авечак, між імі праход у шырокае, на ўвесь будынак, стойла каровы, за ім перагародка з аполкаў у рост чалавека, а там ужо — сенавал-хлевушок. Гэтым жа шляхам хадзілі мыцца хлопцы, першага правёў сам, потым кожны папярэдні праводзіў наступнага. І кожны зноў завальваўся спаць.

І ніхто з іх не ведаў, што ўжо навісла над імі небяспека. Яшчэ мыўся ў хаце апошні, Дубінскі, як Валя згледзела, што вароты пералазіць Аніська. Выйшла з хаты, перастрэла на двары, не даючы, каб нарваўся на такое відовішча. Пагаварылі, і паліцэйскі палез зноў на вароты, павярнуў у канец вёскі, а яна паспяшыла да Дубінскага. І толькі сказала, што заходзіў паліцэйскі, як Арон і думаць не стаў пра «другую палавіну», ухапіў у ахапак адзенне — і ў хлевушок. За ім прыйшла і Валя, несучы торбу з салам!

— Уставайце! Скоранька! Выбірацца вам трэба...

— Немцы?! — паўсхопліваліся ўсе, пацягнуліся да зброі.

— Не яшчэ! Але могуць наляцець з паліцаямі... Цётка твая, Цімох, да Аніські хадзіла... Расказала, як Дрозд па сала прыходзіў... Ну й бачыла, праходзячы, што тут у печы паліцца... «Партызаны,— крычала Аніську,— у сяле! А вы не бачыце!»

— Ну і цітонько-сэрдэнько...— Васіль сплюнуў.— Та ій пэтлюку на шыю трэба.

— Аніська на мяне: «Я прыйшоў па сігналу, праверыў. Нікога няма, ты проста ў хаце прыбіраеш. Ясна? Ні-ко-га не бы-ло...— яшчэ раз паўтарыў.— А Гайдамачыху пайду паганяю за ложны данос?» То ўцякайце, хлопчыкі, каб бяды не было... Мо тая не толькі Аніську надзяўкала... Мо да старасты бегала.

Яны выходзілі з вёскі сярод белага дня, прыхаваўшы пад адзенне як мага зброю. Туліліся за платы, кусты-прысады. Дзве ці тры жанкі, корпаючыся ў градах, бачылі іх. Праводзілі доўгімі, з-пад рукі, позіркамі і зноў нагіналіся. Ідуць людзі — хай ідуць, каму куды трэба...

Перавялі дых толькі ў Востраве — удзень ён выдаваў рэдкім, ажно свеціцца наскрозь. А так бы не шкодзіла, каб быў гусцейшы!

А як ісці далей, калі паселішчы ледзь не цераз кожны кіламетр і лесу зусім няма, калі дарогі наснаваны ўдоўж і ўпоперак, як маршчыны на бабульчыным твары?

Азірнуліся яшчэ раз на вёску Мікульскага. Яна і цяпер здавалася ціхаю і мірнаю...

6

— Там хлопцы ля кастра... Як вы... мо да іх хочаце? — Кашкан рыпнуў дзярыма і не адыходзіў ад іх.

— Ты не пытаеш — ці можаце. А хацець — хацець адно... А што — ужо вечар?

— Вечарэе.

— Хто там — «курортнікі»?

— Ёсць і тыя, што з задання вярнуліся. Ёсць параненыя... З гаспадарчага ўзвода... Малібожкавы.

— Сумна табе. Ты ідзі, калі што — паклічу.

— Лысуху нават вынеслі на насілках... Папрасіўся.

— Лысуху?! Заўчора нагу адрэзалі, а сёння... Ну й ну! Тады іду і я...

Мусіць, Кашкан узрадаваўся, адчыніў дзверы шырэй. У зямлянку ўляцеў выбух рогату, каровін рык. «Анекдоты травяць... Настрой у людзей цяпер зусім іншы... Зусім іншы настрой...» Мікульскі, ідучы ад тапчана, на кожным кроку астойваўся, слухаў, ці не вельмі водзіць у бакі.

— Асцярожна!..— папярэдзіў Іллюк.— Нахіляйцеся больш.

Пастаяў у дзвярах, узяўшыся за вушакі. «Добрая пазіцыя... Каб не нахіляць галаву, а ўвесь час так і стаяць — то і добра было б». Але трэба ісці, трэба нахіляцца.

— Асцярожна,— зноў папярэдзіў Кашкан, падаў у праходзе яму руку.— Таварыш камісар, што я хацеў папрасіць...

— Гавары, калі хацеў.

— Падкажыце Малібожку, хай мяне ў разведгрупу ўключыць.

— Дык ты ж яшчэ ў Палуяна. Ён жа не выпісаў цябе!

— У гэтага я выпрашуся. Я здаровы ўжо, як конь.

Зноў жаласліва зараўла карова.

— Адкуль гэта ў нас? Ці ў галаве ў мяне раве?

Кашкан крыху памарудзіў з адказам.

— Малібожка ўзвод пасылаў у засаду. Казалі — у немцаў адбілі.

— Чаму не раздалі назад людзям?

— Не ведаю. Казалі, быдта гэта бясхозныя. Пяць штук.

— Ці галодныя, ці нядоеныя... Равуць.

— Мабыць, дояць ужо хлопцы... Абступілі кучаю...

У тым баку, дзе рагаталі, дзесьці ў раёне курылкі, дзынкнула вядро, хтосьці спалохана і з болем ахнуў, вылаяўся. Зноў выбух рогату і россып смеху, нібы асколкі барабаняць па бляшаным даху.

Разабраць можна было асобныя рэплікі:

— За хвост падзяржыце! Сцёбае, як пугаю!

— Куды ты лезеш?! Хто ж гэта доіць ззаду? Ха-ха-ха!.. Ой, здохну!..

— Браточкі, а мо гэта бугай?

— Ну й што? Віця, штурмам бяры яго, штурмам! Хай доіцца...— голас Лысухі.

— А дзе тыя кранікі, што адкручваюць? Каб малако лілося...

— Ціха! Камісар на гарызонце!

— Браткі, я ведаю, як даіць: звяжыце карове канечнасці... Канечнасці, кажу, вяжыце! І падножку ёй — р-раз! Будзе ляжаць, а ты спакойненька дой,— надрываўся Лысуха.

— Я магу й так пакласці карову. Глядзіце! — голас Івана Крата.

Чуваць нейкая валтузня, тупат, хрып. Штосьці цяжка і мякка валіцца на зямлю, са свістам выдыхае паветра.

— Навалісь! Дзе той даяр?

— Во сілішча прападае... Ды з такім нумарам толькі ў цырку выступаць!

— Мо шыю скруціў, як курыцы.

Кашкан каменціруе пад вухам:

— За рогі крутнуў... А яна на калені і брык на бок.

— Пульс памацайце! Мо яна капутнула?

— Дзе ты слухаеш? Кінь капыт, на шыі вена ёсць тоўстая.

— Крот, пусці рогі! Мо не ўстане.

Зноў нейкая валтузня, шумны ўздых.

— Ач ты... Жывая...

— Добры вечар! — паздароўкаўся Мікульскі, і яму адказалі хто як — уразнабой.— Кіньце здзекавацца над жывёлінай, камедыю разыгрываць. Усядно як каровы не бачылі зроду... Дзе Малібожка?

— У зямлянцы, мабыць.

— Вызавіце сюды — хто там бліжэй.

— Браткі, я ўвесь час думаў: не даіць малако, а давіць. Малому як пачулася — «давіць», так і запом-

ніў. І многа гадоў думаў: як гэта давяць карову, каб малако цякло?

— Што ж гэта вы, анціхрысты, вытварылі з кароваю? — панёсся па лесе зычны голас Фядоры.— Ці ж гэта можна так мардаваць яе? Аж дрыжыць уся, не даецца за вымя ўзяцца...

— Мы памагчы хацелі вам...

— Памочнікі! Ды ў вас жа рукі крукам служаць! Псейка мая, псейка...— Фядора, чуваць, ласкава паляпвала па баках, гладзіла карову, мо чухала і за рагамі.

— На кароў разжыліся, а вы яшчэ недавольныя...

— Даўно пара! Ва ўсіх атрадах ёсць, а ў нас ніяк не могуць узбіцца!

— Адвядзіце кароў... Травы дайце,— распарадзіўся Мікульскі.

Падышоў Малібожка.

— Слухаю, таварыш камісар.

— Адыдзем на пару слоў.

Мікульскі ўзяў яго пад руку, паволі пайшлі на сярэдзіну пляца.

— Ідзеш, як кот,— не чуваць.

— Босы я. Сама ўсеўся падноскі прыбіць — і пазвалі.

— Не падабаецца мне гісторыя з каровамі. Не цямні і выкладвай чэсна, як было.

Малібожка памаўчаў, уздыхнуў:

— Адбілі... Толькі не ў немцаў... Я хацеў да вас зайці, сказаць: у гаўрыкаў з 208 палка.

— У партыза-ан?!

— Гналі з зоны нашага атрада.

— Колькі тых было, колькі тваіх?

— Маіх — чалавек трыццаць. Колькі тых — не гавораць.

— Так сабе і адабралі — ціха, мірна?

— Не, не зусім мірна. Накастылялі некаторым па шыі, хацелі зброю забраць. Тыя — прасіцца... Прывялі двух заложнікаў. Хай прыязджае іх начальства — «пагаварыць за жызнь», як у Адэсе кажуць.

— Дзе тыя заложнікі?

— У КПЗ. З Каньковым разам.

— Наламалі дроў...

— Нічога не наламалі, Цімох Андрэевіч. Лічу, што мае паступілі правільна. Трэба ўправіць суседзям маз-

гі... Мы столькі сілы паклалі, каб парадак у зоне быў, а яны анархізм разводзяць.

— Ладна. Няма яшчэ Самсонава?

— Не відаць.

— Будзеце з ім разам разбірацца. Што яшчэ заўважылі такога?

— Гарнізон у Лагішыне ўмацоўваецца. Дзесяць грузавікоў з Івацэвіч прыбыло.

— Трэба і нанач разведку ў той бок паслаць. І пад Заграддзе, да Кладоў. Кашкана ўключы ў якую групу — знудзеў хлопец, просіцца.

— Па агентурных звестках, там з 389 ахоўнай дывізіі нейкая часць размясцілася і латышы.

— Якая часць? Колькі іх? Што на ўзбраенні?

— Дакладна невядома.

— Дык што ж гэта за звесткі? Начальнік разведкі пайшоў з Прымаком, то трэба пакуль што без яго гэтыя справы рашаць...

— Намеснік жа ў яго ёсць. Трэба выклікаць з Сітніцы, хай усё бярэ ў свае рукі, а не адзін сектар глядзіць.

— Зрабі гэта ад майго імя. А цяпер, шавец, давядзі да курылкі.

— Я і ёсць шавец, Цімох Андрэевіч. Часам аж рукі свярбяць — так хочацца пашыць.

Драбнютка і густа трашчаў агонь — мабыць, кідалі яловыя лапкі, і ўгору сыпалі іскры.

— Не вельмі разводзьце ілюмінацыю... Ажно здалёк горача,— сказаў Малібожка, давёўшы Мікульскага, і пайшоў.

— Закурыце з намі, таварыш камісар!

— Ну, давайце. Што ў вас сёння на курыва? Каб слабенькае што, трафейнае.

— Няма добрых трафейных цыгарэт. Тырсу дамешваюць, вымачаную ў настоі нікаціну.

— Эрзац. Усё ў немца на эрзацах трымаецца. Хімія развіта.

— У Ярашчука пахітоскі ёсць. Якуб, збегай!

— Тут яны... Мы не курым іх, таварыш камісар, толькі дзівуемся. Парфумай пахнуць. Перадайце...

— Spanian напісана... Гэта не нямецкія, а іспанскія. Палякі з аэрадрома далі, яны нейкі магазінчык нямецкі бамбанулі.

Мікульскаму падалі доўгую, як пенал, гладкую ка-

робачку. Дастаў адну пахітоску — доўгую і тоненькую, як аловак. Адразу пстрыкнула некалькі запальніц, каб даць прыкурыць.

— Ого, разбагацелі вы...

— Гэтымі папяроскамі толькі немачкі пыхкаюць. Цмок-цмок папяроску, цмок-цмок — гансіка. Каб з рота смачна пахла.

— Культу-у-у-рныя... Свалата! — голас Лысухі.

— Праўда што — з духамі...— зацягнуўся Мікульскі.— І солад нейкі, аж у роце клейка стала. Бярыце назад... хто дакурыць?

Пахітоску пусцілі па руках.

— Эрзац... Усё ў немца на эрзацах — фальшывае.

Мікульскі расказаў, як стары Дрозд на Случчыне сунуў яму ў рукі «падарунак» — нямецкі салдацкі хлеб. Як прынёс яго на Палессе, паказваў не раз партызанам.

— Шкада, не захаваўся той кавалак... Паглядзелі б на хлебны эрзац. Дайшлі да ручкі... Каб не грабілі тут ды на Украіне збожжа, то даўно б вычхаліся.

— Грабяць, яшчэ колькі! Мы ж ганялі ўвосень «малацільшчыкаў», ведаем.

Размова зайшла, як звычайна каля кастра, пра партызанскія хітрошчы, цікавыя выпадкі.

— Таварыш камісар, раскажыце, як вы грузавік захапілі,— папрасіў Нядзелька.

— Ды ўсе ўжо ведаюць пра гэта,— адмовіўся быў Мікульскі.

— Мала хто... Многа новых людзей.

— Ну як было? Проста... Як цяпер, здаецца. Ісці трэба было сярод белага дня... А на Случынне густа вёскі стаяць, не гэтак, як тут. Сядзім у кустах пры шашы, маракуем — што рабіць? Рашылі машыну захапіць. Яны нахабна ездзяць, дык чаму б нам не быць яшчэ больш нахабнымі? Гадзіны дзве пільнавалі... То па некалькі адразу едуць, немцаў многа, то ніводнай няма... Чуем — з боку Старобіна паўзе. Цяжка гудзе, нагружана. З-за кабіны, бачым, тры галавы тырчаць, у кабіне — двое... Пяць, а нас — чацвёра... У Слуцк, мабыць, а нам наадварот — на поўдзень трэба, на Палессе. Галубоўскі Эдзік выходзіць на дарогу, вымае «стоп-сігнал» — сала. Зразу і вішчаць тармазы... Шафёр і нейкі унцер з кабіны адразу да яго: «Шпэк! Шпэк!» У Эдзіка задача была патарокацца з імі, па-

таргавацца. Каб да Слуцка давезлі і не вельмі многа ўзялі. Паўкавалка сала, не больш... А яны, сабакі, лапы ў торбу, галёкаюць ад радасці... І тыя, што ў кузаве, не вытрымалі, пасаскоквалі. Адзін з аўтаматам на шыі, а двое так — карабіны наверсе пакідалі, у кузаве. Яны ўсё тоўпяцца з аднаго боку машыны, а мы з-за дарогі, з другога боку падыходзім. Адзеты хто ў што, але пачапілі на рукавы белыя павязкі — сарочку парвалі на іх... Ну, каб хоць прыцемак, то мо гэтыя павязкі на якую мінуту і сыгралі б сваю ролю. Абыходзім ззаду машыну і спераду... Немцы зірнулі ў наш бок і зноў на сала, тут жа зноў на нас вочы ўтаропілі. Аўтаматчык за аўтамат схапіўся, але Эдзік тузануў яго знізу за ногі, той і кулець. Стрэльнуць не паспеў. Васіль вырваў аўтамат. Я з унцерам схапіўся, не даю яму пісталета з кабуры дастаць. А тыя двое, што без карабінаў, кінуліся ў кузаў лезці, пахапаліся за барты рукамі. А наверсе ўжо Дубінскі быў, ён ім прыкладам па пальцах — трах! трах! Заенчылі гэтыя... А шафёр папёр па дарозе, лямантуе: «Партызанен! Партызанен!» Тыя, што па руках атрымалі, кінуліся цярэспаля, блытаючыся ў жыце, як зайцы ў сырадэлі, падаюць... Васіль ужо за рулём, заварочвае машыну назад ехаць. Я унцера ў кабіну ўпіхнуў, сам уплішчыўся. Эдзік наверх, да Дубінскага — палеглі там, каб не відаць было, імчым на поўдзень, я на хаду унцера дапытваю, раздзяваю. Кіцель, пілотку Васіль надзеў, я — шынель яго ўспёр. Малы, па швах разлезся пад пахамі... Гаваркі немец папаўся, сыпле, аж не ўцяміць... «Лянгзам! — крычу.— Відэрголен!» Паўтары, значыць, і памалей... Машына, аказваецца, слуцкаму аддзяленню гандлёвага таварыства «Остлянд» прадукты везла... Мукі тона, сала скрынкі, масла бочкі... Цераз гэты «Остлянд» на фронт прадукты немцы запасалі.

— У машыне сала, а ім яшчэ мала: на торбу пакваліліся,— сказаў Лысуха.

— Прырода такая — прагавітая...

— А што з унцерам зрабілі?

— У самы лагер на машыне прыкацілі?

— Унцерам? Хацелі везці як палоннага, каб лепш дапытаць. Дык чуем — штаны ў яго мокрыя... Выпхнулі з кабіны, каб не смуродзіў...

— А прадукты, машыну — куды?

— Ну, ехалі, пакуль можна было. Старобін бокам

абмінулі... А потым у лес машыну загналі, замаскіравалі, а самі далей пяшком. Добра, што і так кіламетраў дваццаць прамчалі... Па тыя прадукты потым мы падводы пасылалі. Машыну спалілі.

— От бы зараз тую машыну.— Крот падаў голас.

— Ну і што б ты з ёю зрабіў?

— Што? Пераадзеліся б у нямецкае — і ў гарнізон. Трах-та-ра-рах! Капут! Хэндэ хох!

— Аніка-ваяка...

— А чаго? Сам Камароў, кажуць, рабіў такія налёты.

— Калі тое было. Цяпер так многа не наваюеш. Як на аблаву — з фронту дывізіі здымаюць.

— О, Анюта прыйшла... Садзіся бліжэй, мо змерзла.

— Некалі... Таварыш камісар, пара на працэдуры.

— Адпачні, Анюта. Праца — дура, сама сказала.— Нядзелька паказаў свой досціп.— Лысуха зараз верш нам пачытае новы — абяцаў!

— Ты-ы, правака-а-тар, калі я каму абяцаў?

Але загаманілі як не ўсе разам:

— Сцёпа, ты не дзяры нос — пачытай...

— А які верш — той, што ў «баявы лісток» даў? — голас Кашкана.

— Пра каханне давай!

— У яго доўгі ёсць... Пра выпадак у разведцы... Цэлая паэма.

— Той не гатовы яшчэ,— Лысуха гаварыў спакваля, бы прыслухоўваўся да нечага ў сабе.

— Сцяпан, калі можаш — праўда, пачытай. Нават вялікія паэты чыталі, каб на слухачах праверыць... А дашліфуеш потым! — далучыўся да партызан Мікульскі.

— Ды я не ведаю на памяць.

— Я збегаю блакнот прынясу! — Нядзелька рвануў з месца і ці не спатыкнуўся, бо памянуў чорта. Пабег у шпітальную зямлянку.

— От, гад печаны... А я думаў — хто гэта ў мяне пад падушкаю пагаспадарыў? — абураўся Лысуха.

Нядзелька ўжо бег назад. Сам падысці блізка пабаяўся:

— Падайце яму.

Зноў усе просяць, і Лысуха шалахціць старонкамі трафейнага блакнота.

— Гэта не верш... Апавяданне вершам. У баладным плане.

Усе сціхлі чакаючы.

Так, па зместу гэта была балада — яшчэ пра адну трагедыю беларускай вёскі. Наглядзеліся на іх партызаны нямала, у сэрца кожнаму пёк нясплочаны рахунак помсты...

...Лютуюць фашысты, страляюць мірных жыхароў, хто ўцалеў — зганяюць у свірны, каб спаліць. «Раўлі каровы, як на бойні, пачуўшы цяжкі дух крыві, іржалі, бы рыдалі, коні...» — чытаў Лысуха ціхім голасам, у блакнот амаль не заглядваў. Вочы — прыплюшчаныя... Дый многія, заўважыла Анюта, папрыплюшчвалі вочы, уяўляючы малюнкі блакады.

...Бяжыць малы хлапчук, яму ўдалося вырвацца за ланцуг ачаплення.

Бяжыць —

Туды, дзе сажалка і гаць,
Дзе так любіў сядзець ён з вудай,
Бліскучых карасёў кілзаць,
Дзе столькі ўсякіх бачыў цудаў,
Дзе столькі чуў ён баек-гудаў,
Што слоў няма, каб расказаць.
Над галавой свісталі кулі,
Па твары сцёбала галлё,
Гуў белы лёд, і ў гэтым гуле
Чуў рой стрывожаны ў вуллі
І рокат грому над сялом.
Дзівіўся цуду ён нямала —
Лёд над канаўкаю, як мост!
Пад ім вады як небывала,
І цуда белае трымала —
Хлапчук імчаў па ім наўпрост.
І раптам — трэск!
Пралом у лёдзе...
Пад лёдам — лаз, крышталяў лес...
Ішоў малому шосты годзік,
Пад стол пяшком амаль заходзіў,
І ён пад лёд хутчэй падлез.
Рачком, рачком... І далей, далей!
Пячора з казкі, цуда-спрат...
Звіняць і ломяцца крышталі,
Нібы кінжалы з белай сталі,
І сыпле іней-снегапад.
Зіхцяць праменні ледзяныя,
Нібы вясёлкі скрозь гарадь,
І іскры сыплюцца жывыя,
Пякуць у голаў, джаляць шыю,
А ручкі кволыя трымцяць,
Дубеюць з холаду калені.

На дне — лядовы друз і гразь,
І жабы ў твані, у здранцвенні,
І нейкія яшчэ стварэнні,
І нат малесенькі карась —
Плюхоча хвосцікам, трапеча,
Нібы ажыў мядзяк-пятак.
Любуецца сын чалавечы,
Забыў, што хочуць абязвечыць,
Што немец ледзь не па пятах
Бяжыць за ім. Грукочуць боты...
Сціхае грукат... Шоргат-цвырк...
І твар тапорнае работы,
Чырвоны твар шыракароты
Звісае ў пролам: «Ком цурык!»
А хлопчык далей. Ледзьве дыша,
Не чуе ног, не чуе рук...
Куды вядзе пячора-ніша?
Здаецца, ў сажалку, што вышай...
А што за рогат там, за стук?
А там яшчэ адзін бег карнік,
Узлез ля сажалкі на гаць,
Пад рогат ледзь не ўсёй гамарні
Стараўся карніка напарнік,
Каб застаўку хутчэй падняць.
І біў са злосцю кутым ботам,
Ля дошак трушчыў сіні лёд.
Адзін за шчыт рвануў ён потым,
Хоць беглі ў помач дабрахоты,
Каб даць вадзе сцюдзёнай ход.
Паток шалёны вадаспаду
Рвануў канаваю ў імшар,
А карнікі пасталі радам
Курнуць трафею-самасаду,
Палюбавацца на пажар.
Гулялі водбліскі на тварах,
Ваўчыны бляск быў у вачах...
Паўсвету зацягнулі хмары,
Маланак спелі ў іх удары,
І ў сэрцах вылюдкаў рос жах.
«Усе сюды! Глядзіце, дзіва!
О, колькі рыбы! О майн гот!»
Гайнёю рынулі імкліва
На дно па беразе-абрыве
Па нечаканы умалот.
Гагочуць гітлераўцы, як гусі,
У крыгах ловяць слізкіх рыб,
Прыгод такіх не мелі, мусіць,
Хоць швэндалі па Беларусі
Не год, не два, а ледзь не тры.
Забылі й пра канаву тую,
Дзе плаваў дагары ў вадзе
Хлапчук і ў шыбу ледзяную,
Бы ў душу ворагаў самую,
Вачыма мёртвымі глядзеў.
«За што?» — і хвалі абмывалі,

Бы слёзы, скуты жахам твар,
З дакорам вочы ўсіх пыталі:
«За што?» — і водбліскі палалі,
Нібы ў вачах гарэў пажар.

Стала ціха, быццам толькі-толькі адгучала парваная струна. І ў гэтай горка-пякучай цішыні чуваць было, як трашчаць іскры, як дзесьці за кухняй мірна звоняць аб дно вядра струмені малака — мабыць, доіць Фядора карову. Плакала, усхліпваючы, Анюта — як дзіця.

— Занясіце... у зямлянку... У-ў-ум-м...— застагнаў раптам Сцяпан, заскрыгатаў зубамі.— Чуеце? О-о-а-о...

— Добрыя вершы, Сцёпа... Ты не раскідвайся імі, беражы... Пакажаш пасля вайны якому добраму паэту...— Мікульскі расхваляваўся таксама.

— У зямлянку! Чуеце?!

— Кашкан... Кгым-м... Дзе ты? — паклікаў Мікульскі.— І ты, Анютка... Пойдзем... Нешта і тут цяжка дыхаць.

Як адышліся, Іллюк сказаў:

— Лысуха з сябе, мабыць, гэта спісаў. Ён гаварыў неяк, што спалілі бацькоў і жонку... А сынок уцякаў, то немцы за ногі і пад лёд... У палонку.

* * *

Іх прыняў у атрад Антончык. Прыняў у звычайнай сялянскай хаце з тых нямногіх, што ўцалелі на хутарах. Той самы Антончык, што цяпер кіруе брыгадай. Слухаў іх прыгоды, і нейкае вясёла-іранічнае здзіўленне не пакідала круглы твар, нібы ведаў пра чалавека штосьці такое — скажа, і ўсе грымнуць рогатам. Яму было пад пяцьдзесят, хоць на выгляд ніколі не даў бы. Але ў гэтым атрадзе быў яго дарослы сын — Пашка-гарманіст, і ў гадах Антончыка сумнявацца не даводзілася.

Слухаў, пасміхаўся, выціраў шэрай хусцінкай змакрэлы твар, а камісар Міхайловіч глядзеў на кожнага так уважліва і падоўгу, нібы ў галаве сядзела пытанне-цвік: што гэта за пералётныя птахі? Ці не набярудца з імі клопату? Міхайловіч не рэагаваў на быстрыя і вясёлыя погляды Антончыка, усё думаў сваю думу, і Мікульскаму чамусьці хацелася памяняць іх

пасадамі: Міхайловічу — камандзірства, Антончыку — быць камісарам.

Перад імі трэба было быць шчырымі да канца, і яны шчыравалі, расказвалі ўсё пра паход і, галоўнае, давалі правільную ацэнку: авантура. Гэтым і падкупілі.

— А ведаеш —мне падабаюцца хлопцы. Хай астаюцца. Відаць, што баявыя... Га, Фадзей? — Антончык выняў з планшэткі карту.

— Хай... Я не супраць... Паглядзім...— кідаў па слову Міхайловіч і, не адрываючы погляду ад Мікульскага, адкінуўся спінаю да сцяны.

— Дык дзе, кажаце, тая машына з прадуктамі? — Антончык ужо заінтрыгавана вадзіў пальцам па раскладзенай карце.

Паказалі, але недакладна. Васіль сказаў, што пакажа на месцы — хай даюць людзей, даюць фурманкі.

Пазней Васіль крыўдаваў не раз, выказваў Мікульскаму набалелае: а ці не трымаюць іх у чорным целе? Здаецца, і давяраюць, і ўсё такое, а ў той жа час эшалон падарваць — не іх клічуць, у разведку — не іх.

— А ты абучаўся падрыўному дзелу? Петрыш у гэтым што-небудзь? — астуджваў яго Мікульскі.

— Ні. Алэ ж я нэ мавпа, а людына. Мавпу і ту можна навучыць. А ты... ось скажы мэні: ты задаволэны сваею працэю? Та цэ ж іграшкі дыцячы, усі ці... як цэ білорусы кажуць — гутаркі... І газетка ця піддубна-насцінна, і лысцівкі.

— Ты недаацэньваеш палітыка-масавую, выхаваўчую работу. Ты, як кажуць украінцы, тэмна людына.

— Поговорылы?

— Пагаварылі.

— То як собі хоч, а я піду до командыра.

— Ідзі-ідзі... Дубінскі ж не ходзіць, Эдзік — не ходзіць... Задаволены, што хоць у гаспадарчы ўзвод прынялі.

— А ты з імі розмовляв? Ты знаеш, што воны ў сэрцях носяць? Ты забув, як Галубоўскі шчэ ў Фэдоркова бунт на кухні підзіймав?

— Ідзі-ідзі...

— І піду!

Васіля тады, і праўда, уключылі ў групу падрыўнікоў. Але абавязкі былі такія: падносіў зарады, ахоў-

ваў, прыкрываў тых, што непасрэдна стаўлялі міны, прыкрываў адыход. Потым, як раздабылі супрацьтанкавае ружжо, цягаў яго. Усцешыўся ўрэшце: пастрэліў з засады, выпусціў дух двум паравозам.

Не, Мікульскі сваёю работаю не быў задаволены, хоць была яна часам нялёгкая і напружаная: апухалі, адмаўляліся служыць пальцы, перапісваючы, размнажаючы зводкі Саўінфармбюро. Потым выкраў з Пашкам-гарманістам у Лагішынскім лясніцтве машынку. Адмахалі кіламетраў пятнаццаць, зайшлі на хутар сувязнога Лінкевіча адпачыць, падмацавацца і чуць не папаліся: ехала група паліцэйскіх на трох фурманках і таксама завіталі на хутар. Ледзь паспелі сунуць машынку на вілах у печ, за бок, заставіць гаршкамі, а самі ўскочылі на вышкі, з вышак, праз дзіркі ў страсе, у густы малиннік за тыльнаю сцяною хаты. Сядзелі гадзіны дзве, пакуль тыя не паехалі далей.

— От, хлопчыкі, і накарміць вас няма чым...— разводзіў у бакі дрыжачыя рукі — перахваляваўся!— гаспадар.— Вам нагатавалі, а яны, саранча, усё зжэрлі, падмялі. Чакайце зноў, што-небудзь згатовім.

Але чакаць не было калі. Забралі машынку, пачапалі далей.

З машынкай работа пайшла шпарчэй і лягчэй. Мікульскі добра навучыўся «ляпаць». У дадатак да ўсяго штаб даручаў сяды-тады перапісаць патрэбныя паперы. Калі ж зусім адольвала нуда, даставаў нямецка-рускі слоўнік. Дваццаць слоў на дзень, хоць кроў з носа!

Не, не быў і ён задаволены. Не... Хто ён — рэдактар баявога лістка? Пісар? Палітрук? Палітрукі ў ротах ёсць, у іх абавязкі вызначаны строга. Старшы куды пашлюць?

А кіраўніцтва атрада, наадварот, было задаволена ім.

— Як у цябе з партыяй? — сказаў раз яму, па звычцы хмурачыся, Міхайловіч.— Я даў бы табе рэкамендацыю...

Расказаў усю гісторыю з кандыдацкай карткай.

Жаваў Міхайловіч губамі доўга — нічога не мог лепшага прыдумаць, сказаў:

— То ладна, пачакаем.

І ўсё засталося па-старому. А тут настаў жнівень, атрады засабіраліся на першы масавы выхад на «жа-

лезку». Такі самы «канцэрт», як цяпер быў, у чэрвені сорак чацвёртага.

Мікульскага не бралі, хоць і прасіўся.

— Хапае каму і без цябе. Ну, я ж не іду, і многа хто не ідзе! — адбіваўся ад яго Міхайловіч.— І тут работы хопіць.

— Гэту работу я недасплю, а зраблю. Скажыце, што не давяраеце...

— Я з малахольнымі не хачу гаварыць. Палітмасавую работу даверылі! У штаб дапусцілі! А ты... ты...

— Пайду з Антончыкам пагавару.

— Тваё дзела.

Антончык загадаў ардынарцу нікога ў хату не пускаць — з Мікульскім будуць сакрэтныя размовы, і прапусціў яго ўсярэдзіну, прычыніў за сабою дзверы — «Прысядзь!». І ўсміхнуўся яму ў вочы, сеўшы насупраць за сталом, маўляў, не аргументы ў яго, а дзіцячыя капрызы.

— То Міхайловіч, кажаш, табе не дазволіў? От бачыш... Дык што ж ты хочаш — каб я насуперак яму ішоў? — і спытаў зусім далёкае ад ваеннай справы: — Дзеці, жонка ёсць?

— Няма.

— Няважна... Няма — будуць. А я бацька з вялікім ужо стажам. То ўяўляеш, якое вырасце дзіця, калі ў сям'і матка будзе адно гаварыць, а бацька — другое? І што яно потым, дзіцё гэтае, пра такіх бацькоў скажа?

— То я, па-вашаму, дзіця?.. Дзякую, я і не ведаў...

— Ну, а як мы павінны ацэньваць вось гэтую тваю дзіцячую логіку? — усмешка Антончыка стала саркастычна-стомленаю.

Мікульскі ўпершыню прыгледзеўся да маршчынжмурачак каля вачэй камандзіра, «гусіных лапак», «павуцінак»... Колькі яшчэ народ прыдумаў азначэнняў гэтым маршчынам? І ніводнае ў гэтым выпадку не падыходзіла. Лезуць праменні-раўчакі на скроні як не да самых пасівелых валасоў.

— Ну, то чаго маўчыш? Сам ведаеш, колькі клопатаў з падрыхтоўкаю да такой аперацыі, а я вось тут сяджу з табою, займаюся балачкамі...

Каля дзвярэй пачулася гамана, і ў хату пачаў хтосьці рвацца, нават дзверы былі прачыніліся і зноў ляпнулі. Антончык тут жа павысіў голас:

— Каго там разачка рэжа? Холад? Пачакай хвілі-

ну! — і Мікульскі ўбачыў зноў інакшага Антончыка — валявога і крыху раззлаванага.

— То я пайду, калі так...— паспешліва ўстаў.

— Так, іменна так. Займайся даручанай справай.

І ўжо расчыніліся дзверы, штурхнулі Мікульскага ў грудзі, адціснуўшы яго ў кут. Не папрасіў нават прабачэння, уваліўся ў хату Холад, камроты-тры.

— Прыструньце начхоза! Жлоб, не дае толу!

— Як... не дае? — нібы здзівіўся Антончык, а на вуснах ужо саркастычная ўсмешка.

— Адлічыў брускі, адлічыў запалы, бікфорда вымераў цюцелька ў цюцельку. А ў яго яшчэ колькі толу я бачыў! Без запалаў!

— Жлоб?

— Жлоб! Маглі б па дзве шашкі вязаць на адзін запал. Каб джвэгнуў — Гітлеру вушы залажыла!

— Пайдзі... Ведаеш, дзе пажарная бочка стаіць?

— Н-ну...

— Перакулі, ваду вылі... Але каб наліў потым. Так?

— Та-ак,— не разумеў ні Холад, ні Мікульскі.

— Бяры добры камень і бомкай колькі ўлезе. Гуку будзе-е!

Мікульскі, усміхаючыся, прычыніў за сабою дзверы. Але іх тут жа рванулі, выскачыў Холад — чырвоны, бы апараны.

А які выгляд быў у яго самога? Мікульскі сябе не бачыў.

У кастрычніку яго выклікалі ў штаб злучэння. Разам з Антончыкам. Асядлалі коней, паехалі ўтрох: Антончык, ён і Антончыкаў ардынарац. Спрабаваў па дарозе выведаць — чаго, нашто? Антончык толькі пасміхаўся ды прышпорваў каня — «Не ведаю». А да каго? Зноў пасміхаецца: «Мо й да Камарова...»

Хата, у якой знайшлі Камарова, была недзе паміж вёскамі Чаланец і Хорастаў. Былымі вёскамі...

Камароў быў у генеральскай форме — шыракаплечы, шыракатвары, з моцным падбародкам. Трохі рыжаваты, вочы цёмна-рудыя, учэпістыя. «Форма якая новая — з пагонамі... Дзіва якое — пагоны! А прыгожа такі, нейкую закончанасць форме надаюць. Адна вялікая зорка — генерал-маёр?» — адразу наснавалася думак.

Толькі Антончык адрапартаваў, казырнуўшы, хто

прыбыў, Камароў адказаў: «Здаровыя, здаровыя былі!» — працягнуў цераз стол руку яму, а потым Мікульскаму. Мужчына ў паўваенным адзенні, што сядзеў побач з Камаровым над нейкімі паперамі, нібы неахвотна адарваўся ад гэтых папер, паглядзеў, хто зайшоў. Камароў жа на імгненне затрымаў руку Мікульскага ў сваёй, паўзіраўся ў яго.

— Дык, значыць, той самы? Хрыстос?

— Чаму — Хрыстос? — збянтэжыўся Мікульскі.

— Ну як жа! Уваскрэс з мёртвых. У нас ёсць рапарт ад Канькова — расстраляны разам з такімі-та і такімі... За такія-та грахі.

— Той самы, Васіль Захаравіч,— Антончык смяяўся аднымі вачыма.— Мікульскі Цімафей Андрэевіч, 1914 года нараджэння, адукацыя — вышэйшая, настаўнік-географ, кандыдат у члены партыі.

«Не адлучае мяне ад партыі...» — адзначыў Мікульскі.

— Ну, анкетку ён сам потым запоўніць. У асобым аддзеле... Дарэчы, начальнік гэтага аддзела даўно да цябе, Мікульскі, мае цікавасць... Раз ты аб'явіўся жывы, сходзіш да яго, задаволіш гэтую цікавасць. Скуль родам?

— Са Случчыны.

— Эй?! Ты глядзі... Дык мы ж з табою землякі амаль. Я працаваў на Случчыне старшынёю калгаса. З якой вёскі?

Мікульскі назваў.

— Не, я ў другі бок. Дык што ж гэта ты, зямляча, такі няўрымслівы, га?

— Васіль Захаравіч, ён перавыхаваўся ўжо...— Антончык цішком падміргнуў Мікульскаму, і яму нічога не заставалася, як таксама ўсміхнуцца.

— Ужо?! Так хутка? Ну й ну... Ты маўчы, адвакат, а ты, Мікульскі, жмі ў асобы аддзел. Потым зноў да мяне... У пярэдняй веставы — ён пакажа, куды ісці.

— Слухаюся, таварыш генерал-маёр!

«А ён ніяк не зрэагаваў на «кандыдат партыі»... Трэба яму ўсё расказаць... Каб ніякіх недагаворак не было...»

«Для чаго ўсё-такі выклікалі сюды? І ў асобы аддзел... Што там панапісваў Канькоў?»

Ён не ведаў, хто яго прыняў — ці сам начальнік аддзела, ці хто з работнікаў. Бо адразу як назваў сябе,

то яму паказалі на табурэтку — «Сядайце!». З ім размаўляў чалавек сярэдняга росту, твар худы і як бы засмяглы, у вачах нейкі хваравіты бляск. Пакуль гутарылі, ён двойчы чэрпаў папяровым савочкам са шчарбатага жоўтага кубачка на падаконніку соду, сыпаў у рот, грэбліва моршчыўся і запіваў вадою з другога такога ж кубка, толькі цэлага. Пабулькаўшы ў роце, глытаў ваду, цёр тыльным бокам далоні па вялых і тонкіх губах. «Язвеннік... Не пазайздросціш яму з такою хваробаю ў лесе...» — паспачуваў чалавеку. Стараўся адказваць на пытанні падрабязна, не злуючыся. Пра маці... Пра бацьку — мала, праўда, бо ведаў толькі, што ён памёр, як прыйшоў з грамадзянскай, а служыў у чапаеўскай дывізіі, ваяваў пад Бузулукам. Пра сваякоў, якія дзе ёсць і ці няма іх за мяжою. Пра сябе — дзе і як вучыўся, кім быў у арміі, пры якіх абставінах трапіў у палон, як удалося ўцячы. І так, слухаючы, асабіст дастаў з жалезнай незгаральнай шафы — ці не разжыліся на яе дзе ў гарнізоне? — тоўстую шэрую папку. Выняў першую паперку — Мікульскі адразу пазнаў клапцік, на якім пісаў запіску, перададзеную некалі з партызанамі штабнога атрада Камарову.

— А-а... і яна тут. Парвіце! — махнуў на яе рукою і нават пацягнуўся да стала, нібы хацеў узяць.

— Нашто ж ірваць?.. Хай будзе... Усё, што напісана і падпісана,— дакумент,— сказаў хударлявы і прыгладзіў касцістаю далонню рэдкія жаўтлявыя валасы.— А вот данясенне Канькова: расстраляна шэсць чалавек... Ну, расказвайце, як усё было.

І зноў Мікульскі расказваў — пра ўсіх шасцярых — як хадзілі на Магілёўшчыну па гармату, як трапілі з ходу ў ваенныя дзеянні, як загінулі Шаўярда і Сашка-кастраміч, як вярталіся назад. Не сказалася чамусьці толькі пра начлег у роднай вёсцы, пра тое, як захапілі машыну з прадуктамі: падумаў, што гэта да справы не адносіцца. Што яшчэ? А мо досыць?

Не, дастае з папкі другую паперу, ужо большую і густа спісаную. Почырк той самы — Канькова. Паступіла, мабыць, не так даўно, мо тады, як даведаўся, што ўцекачы вярнуліся, хоць і не ўсе. Ці не ад Анюты Канькоў выведаў пра іх? А Анюта — ад Васіля... Заходзіў Васіль раз праведаць яе, вяртаючыся з задання. Угаворваў Анюту, каб пераходзіла ў атрад Антончыка... З паперы відаць было, як віляў Канькоў, бы саба-

чы хвост, апраўдваючыся, чаму напісаў быў раней пра расстрэл. Работнік аддзела не чытаў усяго даносу, а толькі пятае цераз дзесятае, напаўголаса, як бы для сябе, некаторыя месцы проста прамармытваў.

— Ага... Во... Тут па пунктах выкладзена ўсё. «Даводжу на вашага сведзенія таксама, што Мікульскі Ц. А.— першае, ніякі не камуніст, хоць выдае сябе за такавога. Партыйны білет ён пазорна знішчыў і здаўся ў палон ворагу, пакінуўшы на волю судзьбы сваіх падчынённых. Другое. Уцёк ён з палону са сваім дружком В. Шыпняком пры загадачных абстаяцельствах і вельмі лёгка. Ці не адпушчаны яны былі са спецыяльным сакрэтным заданнем? Раней, да прыходу на Лань, яны былі ў атрадзе Фядоркава, на які неўзабаве, ці не па даносу гэтых хаўруснікаў, зроблена была немцамі блакада. У той час, калі большая частка атрада Фядоркава перайшла на новую дыслакацыю, Мікульскі з падабранай па свайму густу хеўрай яшчэ доўга бадзяўся, ухіляючыся ад барацьбы з ненавісным ворагам. Нарэшце, каб зняць з сябе падазрэнне, ён далучыўся да партызан Фядоркава, увайшоў у склад майго атрада. Заўважу — мне ўсучылі яго амаль сілком, я не хацеў браць. Трэцяе. Па дарозе на Лань Мікульскі са сваёй хеўрай забіў без суда і следства смелага партызана Пыкава Івана (отчаства не ведаю). І тут выясняюцца такія абстаяцельства: Пыкаў калісь таксама быў у палоне ў тым жа лагеры і ці не пазнаў Мікульскага і Шыпняка? Баючыся, каб Пыкаў не выдаў іх, не расказаў пра неблагавідныя дзяла ў лагеры, яны і прыбралі яго. Чацвёртае. Будучы ў маім лагеры, Мікульскі ўсячаскі разлагаў дысцыпліну, падрываў аўтарытэт камандзіра, падбухторваў лічны састаў к непавінавенню, каб скінуць мяне з рукаводства і самому захапіць уладу. Калі гэтая неблагавідная яго роля была разаблачана, ён падбіў некалькі чалавек на ўцёкі і даў з лагера ходу. За ўсе гэтыя дзяла ён быўварты расстрэлу, вось чаму я і далажыў, што гэта зрабіў з ім і з яго хеўрай як з ворагамі. Я вінаваты, што аб'явіў жалаемае за дзяйствіцельнае, і гатовы панесці за гэта спагнанне. Але думаю, што ненамнога памыліўся, і трыбунал вааздасць яму па заслугах. Не ўсе факты, прыведзеныя тут, мною праверны да канца, пагэтаму прашу аднесціся да іх з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю. Мы павінны ачышчаць свае рады ад нястойкіх і враждзеб-

ных элементаў». Вось так вот...— худы чалавек скончыў чытаць і кінуў на яго погляд стомленых вачэй. Пацягнуўся да акна па соду.

Мікульскі сядзеў ачмураны і аглушаны. Такі вадаспад паклёпу і ўявіць цяжка было. «Пачвара... Падлюга... Во каго расстраляць мала...»

— То што — зноў усё спачатку гаварыць? — выдыхнуў на ўсе грудзі, выпрастаў крыху спіну. Сэрцу было цесна ў грудзях, бухала, калаціла ў рабрыны.

— Так, прыйдзецца ўсё спачатку,— уздыхнуў і асабіст, паставіў кубачкі з содаю і вадою на акно.

— А ці не лепш у людзей распытаць — тых, што былі разам у палоне, ваявалі са мною ў атрадзе Фядоркава... З тым жа Фядоркавым пагаварыце. А то я адно буду даказваць, а ён другое. Так на так атрымаецца...

— А мы ўжо гаварылі... З многімі! — прыціснуў асабіст вузкай далонню неперагорнутыя лісткі папкі: іх там было пальцаў на два тэўсці.— Нам у шапку спаць няма калі...— і першы раз пасміхнуўся вялымі вуснамі.— Будзем і яшчэ гаварыць. Але давайце так з вамі, Мікульскі, дамовімся. Я дам паперы... Цэлы сшытак магу даць, аловак... Вы гэтыя пункты абвінавачвання Канькова памятаеце?

— Да смерці не забуду.

— Вот па гэтых пунктах... Ну і ўсё, што захочаце дадаткова сказаць.

— Часу многа трэба. Камароў казаў, каб яшчэ раз да яго зайшоў.

— Часу ў вас хопіць, паначуеце тут. Я каменданту скажу, каб арганізаваў начлег. Значыць, так, зараз вы ідзяце да Камарова, гаворыце тры словы: «Пытанне застаецца адкрытым». Ён усё зразумее... А заўтра, скажам, каля дзесяці раніцы я чакаю вас з пісьмовымі тлумачэннямі.

...У Камарова ўсё яшчэ сядзеў Антончык, быў і Фядоркаў, і той хударлявы мужчына ў паўваенным адзенні. Са стала, як каляны абрус, звісала ламанымі складкамі карта. Над ёю схіліліся ўсе, тыцкалі алоўкамі, штосьці намячалі. Адарваліся на які момант, зіркнулі на яго і зноў унурыліся. Фядоркаў працягнуў яму руку, хоць сам і глядзеў у карту, поціск быў моцны, сяброўскі, і гэта крыху зняло з Мікульскага ўтрапенне і душэўную зацятасць-нэндзу.

Камароў, мабыць, дагаварыў тое, што перапыніў сваім прыходам Мікульскі.

— От... А на паўднёвы захад ад вас пяройдзе Герасімаў з брыгадай, а бліжэй да Пінска — Пінская брыгада... Такія непасрэдныя суседзі. Рэкагнасцыроўку, «падзел» тэрыторыі, асабліва з атрадамі Брэсцкага злучэння, праведзяце самі, абгаворыце сродкі сувязі.

— Відней на месцы будзе, Васіль Захаравіч,— азваўся Антончык.

— Эх, варта было жыць, ваяваць, каб да такога моманту дажыць...— Камароў распрастаў плечы, з хрустам развёў у бакі рукі, а вочы ўсё яшчэ глядзелі ўніз, на карту.— Варацца зараз немцы на Палессі, як у кіпню... Глядзіце во...— Камароў шырокім жэстам правёў па карце тупым канцом алоўка: — На поўначы Палесся — Баранавіцкае злучэнне, дваццаць шэсць брыгад, не лічачы асобных атрадаў. З захаду ад нас — Брэсцкае злучэнне, адзінаццаць брыгад плюс адзінаццаць асобных атрадаў...

— Не трэба было нам аддаваць ім два атрады,— уставіў той хударлявы, у паўваенным адзенні.— Цяпер у іх у два разы большы асабовы састаў, чым у нас.

— Не будзь прагны, Сяргей Рыгоравіч,— паклаў яму на плячо шырокую далонь Камароў.— Абы на карысць справе... Яшчэ трошкі паднаціснем — і на Палессі ніводнага гарнізона нямецкага не застанецца... Во, а з усходу нас падпіраюць Мінскае злучэнне і Палескае... Цэлыя партызанскія арміі, мора людзей прыйшло ў рух, узялося за зброю!

— І мы не будзем стаяць на месцы, мы таксама яшчэ вырасцем,— сказаў усхвалявана Фядоркаў.

Глядзеў, пасіху падышоўшы, на карту і Мікульскі.

— Ну, што, друг сітны? Які вынік візіту? — спытаў Камароў, паглядваючы і на яго, і на карту.

Паўтарыў, як пароль, тры словы: «Пытанне застаецца адкрытым». Ад сябе дабавіў, што прапанавалі пераначаваць, а раніцою прадставіць пісьмовае тлумачэнне.

— Чуў, Антончык? Так што і ты не рыпайся. Начуй, спраўляй усе справы. Да начхоза завітай, запіску дам. Нам нядаўна самалёты трохі чаго падкінулі, хай падзеліцца: дзесятак ППШ, дваццаць ватнікаў... Дзесяць тысяч патронаў...

— Мала, Васіль Захаравіч,— жмурыць усмешліва вочы Антончык.

— О, ты чуў, Фядоркаў? Вось так заўсёды: замест «дзякуй» — «мала». Не скардзіцца ніхто на апетыт.

— Дзякую, дзякую.

Начаваў Мікульскі ў Фядоркава. Што прагаварылі, а што прасядзеў над пісанінай — і на хвіліну не замгнуў. Ад яго ж даведаўся, што ствараецца новая брыгада. Узначаліць яе Антончык. І новы атрад арганізуецца ў складзе гэтай брыгады: камандзір — Прымак, начальнік штаба — Самсонаў, з камісарам «пытанне пакуль што застаецца адкрытым».

«Чаму б не сказаць пра ўсё зразу? Гуляюць у хованкі...— адлягло крыху ад сэрца.— Калі не давяраеце мне камісарам быць, то і мучыць няма патрэбы».

* * *

Рэштка восені прайшла ў клопатах — фарміравалі новы атрад.

Давялося яшчэ двойчы ездзіць у асобы аддзел і ў штаб злучэння, размаўляць з Камаровым, пакуль усё ўтрэслася. Амаль усё: лічыць ці не лічыць яго кандыдатам у члены партыі — «пытанне застаецца адкрытым».

Калі сказаў Камарову просьбу — дазволіць узяць у новы атрад Канькова, каб перавыхаваць,— той здзіўлена і доўга глядзеў Мікульскаму ў твар.

— І што — упэўнены, удасца зрабіць з яго чалавека?

— Паспрабую.

— Дабрата часам вельмі шкодная, і яе не заўсёды разумеюць,— Камароў не пераставаў глядзець на яго, як на дзівака-чалавека.

— На чорта ён табе. Радуйся, што не трэба больш з ім сутыкацца,— гаварыў і Фядоркаў.

— Я яму ўжо дараваў.

— Нешта евангельскае... Спадзяюся, семдзесят сем разоў дараваць не будзеш? — паглядзеў яму ў вочы Камароў.

— Не. І шчаку другую для ўдару таксама падстаўляць не буду. Але за што ўшчуваць дзіця, калі яго гасподзь пакрыўдзіў розумам?

— Цімох, Канькоў — не дзіця...— Чамусьці ўздыхнуў Фядоркаў.

— Паглядзім. І яшчэ хачу, каб вы далі такую паперу-дазвол — браць у любым атрадзе патрэбных людзей.

— То вы мне ўсе атрады аголіце! — напалову ўсур'ёз спужаўся Камароў.

— Трэба даць, Васіль Захаравіч,— падтрымаў Фядоркаў.— Напішам, каб аказвалі ўсякае садзеянне, дапамагалі і кадрамі, і матэрыяльна.

Так апынуліся зноў усе разам — Анюта, Шыпняк, Дубінскі, Эдзік, некалькі хлопцаў з былога атрада Фядоркава. Папрасіўся да яго і Сцяпан Лысуха: «Я тут загнуся з нуды, вазьміце з сабою!»

А Прымаку таксама не спадабалася, што прывёз Канькова. «Не мела баба клопату, купіла... Ды гэты Канькоў усім косці аб'есць, нерваў на яго не хопіць». Але ўгаварыў яго Мікульскі, пераканаў. А той камандзір, што аддаваў Канькова, не хаваў сваёй радасці: «Пазбавіўся!»

А ў асноўным жа давялося ехаць па вёсках, праводзіць сходы і мітынгі, агітаваць. І моладзь запісвалася ахвотна. Былі ў Забараўцах, Лышчы, Пучынах, Мокрай Дуброве, Чухаве, Сташанах.

У Палотніцы пасля сходу, як пачаўся запіс добраахвотнікаў, нечакана сустрэўся з папом Гарашуном. Пасівеў той, неяк апусціўся, валасы злямчаныя.

— Айцец Антоній,— вы жывы?!

— Жывы, Цімафей Андрэевіч. Вылузацца паспелі з блакады... От хачу, каб отрака майго запісалі да сябе: Аляксей Антонавіч Гарашун. Ты, сын, ідзі во да таго стала, а мы тут пагаворым...— штурхнуў Гарашун сына ў спіну. Калі той адышоўся, працягнуў: — Толькі ён не Гарашун пішацца, а Харашун...

— А чаго так?

— Маладосць — дурносць... Мяне як пасадзілі ў пачатку саракавога, дык ён адрокся ад майго прозвішча, ад мяне. У камсамол хацеў каб прынялі.

— А цяпер паразумнеў?

— Мо паразумнеў. Не саромеецца ўжо мяне, але прозвішча назад не перарабляе. От як бывае... Ага-а... А матушку не ўберaглі... Царства ёй нябеснае... Рукі матушка налажыла на сябе. Начаваць паліцэйскія награнулі, ну і... надругательства ўчынілі. Прыязджаю з

сынам, а матушка... вісіць... на дзвярах... Перакінула запасак цераз дзверы, завязала за ручку... Кгм-м... У запісцы ўсё напісала і імя таго гада ўказала, што першы ёй рукі круціў, гвалціў. Усе ў ваколіцы яго ведаюць...

— Як прозвішча?

— Андрон Кахановіч. Але гэта ўжо не мае значэння, Цімафей Андрэевіч. Матушку не вернеш...

— Н-да-а... А дзе ж вы былі ўдвух? Як гэта... кінулі адну?

— Ісціна глаголет тваімі ўстамі. Але як жа было не ехаць? Ад атрада Кутузава заданне меў — міны завезці ў Пінск. То я Аляксея на воз, акрыў дзяругаю і павёз як хворага. Ён сябе размаляваў акварэлькамі... Губы парэпаныя, запякліся... Цені пад вачыма, шчокі жоўтыя. І ляжаў сабе спакойненька на мінах. Падыдзе немец ці бобік. «Кранке!» — кажу. Дык яны бегма ад нас — шарахаліся.

— Дык Аляксей мастак у вас?

— Маста-а-ак, сукін кот.

— Возьмем яго абавязкова. Нам такія людзі трэба. І вас возьмем — у разведку.

— Не, Цімафей Андрэевіч. Стары я ўжо... Лепш я збоку буду, вам жа трэба кругом памочнікі, дык вы мяне і не забывайце.

— Не забудзем, Антон Себасцянавіч.

Усю зіму да новага, сорак чацвёртага года і пасля, у студзені і лютым, хапала клопатаў. Часовы лагер кінулі, падшукалі глухі востраў сярод балот і пабудавалі дабротныя зямлянкі. Вучылі навічкоў трымаць у руках зброю, метка страляць. А паміж гэтымі клопатамі паразганялі ў наваколлі ўсе гарнізоны, паставілі сваіх, партызанскіх камендантаў. Многія паліцэйскія прасіліся ў атрад, шчыра жадалі змыць з сябе ганебную пляму. Бо шмат хто з іх пайшоў у паліцыю пад пагрозай рэпрэсій. Былі і такія, што прасіліся ў партызаны ад страху — чулі, што пахне смаленым, што пачалося вызваленне Беларусі, дзе ж дзецца? Да такіх падыходзілі асцярожна, зачастую бралі падпіску — не выступаць супраць партызан, не чыніць ніякімі спосабамі шкоды Савецкай уладзе — і адпускалі дахаты. З самых буйных бліжэйшых гарнізонаў засталося тры: Лагішынскі, Хартыніцкі і ў Заграддзі, каля Кладоў.

Браць Хартынічы ў лоб? Ужо хапіла б на яго сілы, і Прымак настойваў на штурме. Але ў адкрытым баі

можа нямала палегчы і партызан, і паліцэйскіх, якіх немцы прымусяць страляць па партызанах. А сярод іх таксама нямала ашуканых і запужаных. Колькі тут, у Заходняй Беларусі, пабыла Савецкая ўлада — нейкіх дваццаць месяцаў. А мазгі ім засмечвалі ўлады памешчыцкай Польшчы дваццаць гадоў.

Паспрабаваць разлажыць? А як падступіцца, наладзіць сувязь — і з кім? Добра, каб чалавек трапіўся ўплывовы, не радавы, каб ведаў, хто чым дыша. Самсонаў некалі абхітрыў немцаў, выбавіўся з канцлагера толькі таму, што даў згоду арганізаваць казацкі полк. І арганізаваў, хоць і не полк, разам са зброяй і ўсім саставам перайшоў да партызан.

— Можа, мне які зварот да іх напісаць? — прапанаваў Самсонаў.— Расказаць пра сябе, як і што было, як павярнулася, і заклікаць: апамятайцеся, у каго яшчэ рукі не ў крыві, пераходзьце на бок народа, выкупляйце сваю віну!

— Усцін Захаравіч, ты з Дона родам? — Мікульскі ведаў, што адтуль, але перапытаў.

— З данскіх казакоў.

— Ну во... А тут трэба з мясцовых каго, і танчэй усё рабіць. Многія тут заражаны вялікапольскім душком.

— Не падабаецца мне ўся гэтая каніцель,— стаяў на сваім і Прымак.— Біць іх трэба і толькі біццём вучыць — як лагішынскіх.

Мікульскі задумаўся.

Так, было ўжо такое, вялі перагаворы з лагішынскімі паліцэйскімі. Спачатку цераз падпольшчыкаў, а потым напрамую. Былі там і мясцовыя палякі-паліцэйскія, і беларусы, і сам камендант паліцыі Чарвякоў заігрываў. Устроілі раз засаду каля Забораўцаў, лупцанулі добра. З узвода вылузаліся толькі сам Чарвякоў і двое паліцэйскіх. Зноў вялі перагаворы, дэлегаты ад паліцэйскіх былі ўжо больш згаворлівыя. Ды знайшоўся ў іх здраднік. Назаўтра, 21 студзеня 1944 года, сярод паліцэйскіх пачаліся арышты. 37 чалавек немцы павезлі ў Пінск, некаторыя, пахапаўшы коней з санямі, паўцякалі ў лес. Гэта былі ў асноўным палякі з паліцыі і з патрыятычнага падполля. Яны ўвайшлі ў склад іх брыгады, стварылі асобны атрад, размясцілі іх каля Лышчы. Тыя палякі, што памагалі потым будаваць аэрадром, тыя, што зараз абслугоўваюць яго. Гэта ся-

род іх Канькоў знайшоў аднафамільца Мікульскага.

— Давайце Гарашуна падашлём да каменданта,— прапанаваў Мікульскі.— Ён добры краснабай, духоўная асоба і ўсё такое... Хай пагаворыць начысціню. Кажуць, камендант часам з немцамі гыркаецца, хоча самастойнасць сваю паказаць. А ўбачыць, што і папы за нас, то заварушыцца нешта пад чэрапам.

— Доўга! Каніцель гэта можа цягнуцца месяц. Ды камендантам немцы абы-каго не паставяць. Заслужыў.

— Я чуў, ён да вайны нейкаю базаю «Заготсена», ці як яна называлася, кіраваў...— падказаў Самсонаў.

Але раптам Прымак згадзіўся:

— Хаця — ладна... Усё можа быць. Толькі ці возьмецца гэты шчупак на гарошак? Яму жыўца падавай.

Вырашылі паралельна дзейнічаць і па другім канале — цераз сувязнога. Ён жыў на Хартыніцкіх хутарах, ведаў усіх мясцовых паліцэйскіх, казаў, што некаторыя часам начуюць дома. Хай збяруцца ў чыёй-небудзь хаце, чалавекі тры-чатыры, без зброі. Столькі ж і партызан падыдзе таксама без зброі — пасядзяць, пагамоняць пра ўсё.

Спачатку ішло, як і задумвалася. Але потым падзеі пачалі намотвацца і сплятацца ў клубок...

Здавалася, што першая сустрэча з паліцэйскімі на хутары прайшла па-дзелавому, хоць былі і бурныя спрэчкі. Лысуха Сцяпан, які ўзначальваў партызанскую дэлегацыю, расказваў і абураўся:

— Два добрыя хлопцы, відаць, ім папраўдзе абрыдла сабачая служба. А адзін, Грыўда, субчык ого-го... Я яму адно, а ён другое: а ці будуць калгасы і тут, калі прыйдуць Саветы? А дзе пройдзе мяжа з Польшчай?.. А тое, а сёе... Ах, думаю, каб ты папрэў... «Не нам,— кажу,— рашаць такія пытанні, большыя галовы пра гэта будуць думаць. Вы пра свае галовы дбайце...» Гадзіны чатыры пералівалі ваду, ад самагону папухлі... Дамовіліся назаўтра зноў сустрэцца. Сказалі, і аддзялённага прывядуць.

Слухалі яго і Мікульскі, і Прымак уночы ўжо.

— Ты не пойдзеш больш,— сказаў Прымак.— Гэта не справа камандзіра ўзвода разведкі.

— Чаму — не? Я пра сваё не забываў. Магу далажыць, у гарнізоне ў іх 220 чалавек, гарнізон лічыцца паліцэйскім, а не змешаным ці нямецкім: немцаў уся-

го чалавек дзесяць. А на гэты раз думаю і пра ўзбраенне іх выведаць трохі чаго.

— Без цябе пойдуць, ты мне ў другім баку спатрэбішся заўтра.

— А як жа... Ды яны могуць западозрыць няладнае, як убачаць незнаёмых!

— Двое будуць з тых, што сёння хадзілі. Ну, і новых можна набраць.

— Не трэба многа пакуль што. Трох хопіць.

Калі Лысуха дакладваў аб выніках перагавораў, яшчэ не ведаў, дый ніхто ў атрадзе не ведаў, што тых трох паліцэйскіх, якія вярталіся вечарам з перагавораў у Хартынічы, перастрэлі разведчыкі-каўпакоўцы са злучэння Вяршыгары. Асноўныя сілы іх, вяртаючыся з паходу пад Белавежу, разграмілі «казакоў» у Целяханах, спыніліся ў вёсках Выганішчы, Горталь, Соміна перапачыць, а параненых адправілі пад Лагішын на партызанскі аэрадром брыгады Антончыка (толькі што пачаў дзейнічаць) і рыхтаваліся да выступлення, ва ўсе бакі разышліся іхнія групы разведчыкаў. Ракавая сустрэча кончылася так: двух паліцэйскіх забілі, а трэці, той самы Грыўда, з параненай рукой прымчаў у Хартынічы, падняў хай. Мусіць, думаў ён, што партызаны проста дурылі ім галовы, каб спрытней зрабіць засаду і перастраляць усіх. Што і каму той Грыўда гаварыў, невядома. Толькі на новую сустрэчу з партызанамі паехалі самыя галаварэзы, узброеныя да зубоў. Быў з імі і Андрон Кахановіч, той самы, пра якога гаварыў поп.

Айцец Антоній потым расказваў, што дабраўся ён у Хартынічы якраз тады (і трэба ж такому супасці!), калі забітых паліцэйскіх, ужо ў трунах, прывезлі пад другую школу, дзе атабарыўся камендант. «Па запрашэнні пана каменданта...» — сказаў Гарашун патрульным паліцаям, калі тыя затрымалі яго пры ўездзе ў вёску. «А-а, вы на адпяванне... Праязджайце!» — сказаў адзін. А другі, напарнік, злосна прабурчаў: «Як крумкачы гэтыя папы... За дзесяткі кіламетраў падлу чуюць».— «Прыкусі язык, дурань... Яны якраз добрыя хлопцы былі... Хай памахае кадзілам, каму ад гэтага шкода?» Пазакідалі за плечы карабіны, лянiва павярнулі назад у вёску, ішлі нага за нагу за Гарашуном.

Айцец Антоній цмокаў на каня і пад'язджаў усё

бліжэй да натоўпу апранутых у чорныя шынялі паліцаяў. Паставіў каня пры плоце крайняй ад школы хаты, ускінуў лейцы на слупок. Няспешна расцугляў, падклаў пад храпу жмак сена. Гэтак жа спакваля, косячы вокам на паліцэйскіх,— а як яны рэагуюць на яго з'яўленне? — распрануўся: скінуў хламіду і паліто, дастаў з сундучка епітрахіль і рызу, аблачыўся. Да яго ўжо павярнулася некалькі галоў, а адзін паліцай папешліва падышоў, пачціва ўзяў пад локаць: «Хадземце, бацюшка...»

Забітыя ляжалі ў трунах упобачкі на дзвюх пастаўленых насупраць адна адной партах, засланых блакітным, у сініх чарнільных плямах, настольнікам.

Спраўляў службу, чытаў малітвы звыклаю скорагаворкаю, цягнуў «Ве-е-ечная памяць...», а сам разглядаў прыгорбленых старых, мусіць, бацькоў, што стаялі ўперадзе чорных шынялёў каля ног нябожчыкаў, тоўстага, як шула, круглатварага каменданта. Той апусціў уніз куточкі шырокага рота, сашчапіў рукі знізу ніштаватага жывата і стаяў каля іх. «Гэта камендант... Гэта... Якраз падыходзіць па апісанні»,— пераконваў сябе Гарашун і «кротка» патупіў вочы, глядзеў ужо толькі на абутак паліцэйскіх. Добра абутыя, не то што партызаны... «А чаму нікога з жыхароў няма на пахаванні? Не бывала... гэтага яшчэ не бывала...»

Пад канец службы падышлі і два немцы афіцэры, таксама пастаялі. Потым падышоў крыты грузавік, труны пагрузілі ў кузаў, падсадзілі туды і цывільных — бацькоў. Мусіць, ім дазволілі пахаваць забітых, дзе самі хочуць. Машына пачакала, мо думалі, што і бацюшка палезе ў кузаў ці ў кабіну. Але Гарашун падышоў да каменданта.

— На жаль, я не змагу суправаджаць на могілкі, чакаюць мяне яшчэ ў адным сяле... Але пакуль ад'язджаць, я хацеў бы з вамі пагаварыць па адной справе канфідэнцыяльна.

Камендант махнуў рукою шафёру, які стаяў на падножцы, нецярпліва паглядваў у іх бок, і той хуценька знік у кабіне. Машына паехала.

— Калі вы пра плату, то звяртайцеся толькі да бацькоў нябожчыкаў.

— Пра гэта з імі дамоўлена. Я пра другое з вамі...

— Зойдзем тады...— камендант паказаў на будынак школы і нешта гергетнуў па-нямецку афіцэрам-

немцам, мо сказаў, што хутка выйдзе. Тыя згодна кіўнулі.

Толькі зайшлі да каменданта ў кабінет, як Гарашун сеKануў без усякай дыпламатыі:

— Партызаны прапануюць вам — здацца з усім гарнізонам, каб пазбегнуць непатрэбнага кровапраліцця.

Камендант імгненна ўцяў і без таго кароткую шыю ў каўнер, нібы стукнулі зверху па галаве, як па плешцы цвіка. Ён тут жа крутнуў назад да дзвярэй. «Усё, песенька спета... Пакліча стражу»,— мільгнула ў галаве Гарашуна.

— В-вы... таксама партызан?! — спытаў шэптам, але спачтку выглянуўшы ў калідор і шчыльна прытуліўшы дзверы.

— Не. Але партызаны перастрэлі і даручылі мне сказаць вам гэта.

— Значыць, вы памагаеце партызанам... А ведаеце, што за гэта палагаецца?

— Ведаю. Чуў і бачыў, што робяць... Толькі ўвесь народ ні перастраляць, ні перавешаць нельга. А народ — за партызан.

— Смелы бацюшка... Першы раз бачу такога смелага...— камендант правёў рукавом па ўзмакрэлым ілбе.— І каб у мірскія справы так улазіў — першы раз... Але ж і духоўная асоба можа задрыгаць на вяроўцы, немцы на сан не глядзяць.

— Не пужайце, мне не страшна. Калі і загіну, то народ будзе помніць. А вас? Вы ж прадаліся слугам смерці, вас будуць толькі праклінаць. Скажыце, вам яшчэ не паляць душу іюдзіны трыццаць срэбранікаў? Прыслухайцеся,— фронт жа за Прыпяццю. Калі вы будзеце выкупляць свае грахі? Аднаго пакаяння будзе мала...

— Не поп, а палітрук. Вы канкрэтна гаварыце, што ад нас хочуць... тыя,— камендант баяўся нават выгаварыць слова «партызаны», падаўся за стол, як не ўпаў на крэсла. Шчокі яго абвіслі, сталі шызыя.

— Дык я ж і пачынаў з канкрэтнага: здацца! Са зброяй, з усім... Немцаў арыштуйце і запрыце ў лёхі, ну й гадаў самых горшых, у каго рукі ў крыві. Два дні думайце, прыкідвайце. Паслязаўтра я пад'еду па канчатак, скажаце, калі і як будзе праароблена. Да скорага спатканьня!

Камендант нічога не сказаў, яшчэ больш уліп у крэсла, расплыўся.

Гарашун вярнуўся ў атрад без прыгод. Калі не лічыць, што вывернуўся, uз'ехаўшы на нейкі корч, і доўга ляжаў, чакаючы — джвэгне ці не? У сундучку пад папоўскімі аблаткамі ляжалі загорнутыя ў анучы дзве міны: забыў іх адтуль прыбраць перад паездкаю ў Хартынічы.

Расказаў, як знячэўку трапіў на пахаванне і як яно выручыла. І тое, што чуў краем вуха — як перашэптваліся паліцэйскія, слухаючы літургію, зловяць партызан на хутары ці не зловяць. На якім гэта хутары? Якіх партызан? Ці не мае гэта адносіны да атрада?

Сваім расказам і пытаннямі Гарашун пасеяў вялікую трывогу. Быў ужо вечар, і, што б там ні адбылося на хутары, бегчы на выручку было позна. Але цеплілася надзея, што ўсё абышлося, усё добра. Не спаў Мікульскі ўсю ноч, не спаў і Прымак, бо некалькі разоў заходзіў, ускінуўшы наапашкі шынель. «Няма?» Курылі, маўчалі, не зважаючы, што ў зямлянцы і так хоць сякеру вешай і што круціцца, пырхае і кашляе Самсонаў, спрабуючы задрамаць,— той не курыў.

А раніцаю да атрада дабраўся сувязны з Хартыніцкіх хутароў. Сам вырваўся цудам, абкружалі ўжо хату. Не ведае, што сталася з жонкаю і дзецьмі — засталіся там. Вестку прынёс жахлівую: усю партызанскую дэлегатыю перабілі.

Сядзелі як аглушаныя. Потым Прымак сказаў Самсонаву:

— Распрацоўвайце план аперацыі.

Якое аперацыі — было і так зразумела. Самсонаў толькі ўдакладніў:

— Думаю, суседні атрад не будзем увязваць. Самі справімся. Значыць, што нам вядома пра гэты гарнізон...— дастаў адразу планшэтку з картаю.

Мікульскі ўпрасіў пачакаць яшчэ некалькі дзён, каб Гарашун змог другі раз з'ездзіць да каменданта, пачуць яго адказ. Дый разведаць лепш трэба было б подступы.

— Чакаем тры дні, але рыхтавацца будзем.— У голасе Прымака была сапраўдная камандзірская цвёрдасць.

Сувязны павёў Мікульскага з групаю партызан на месца трагедыі.

Ні гаспадара хутара, дзе ўсё адбылося, ні яго сям'і не знайшлі. Збеглі ад страху невядома куды, і нельга было даведацца пра падрабязнасці. Карцела пытанне: ці не замешаны ў тым, што адбылося, і гаспадары хутара?

Шыбы ў хаце некаторыя выбіты, але на сенцах вісіць замок. Выходзіць, што не вельмі былі і разгубленыя, калі пачапілі замок. А мо гаспадароў захапілі і павезлі з сабою паліцаі? Але ж у гэтым выпадку таксама было б не да замка, ды яшчэ і хату маглі б спаліць, як спалілі хату сувязнога.

Адзін забіты ляжаў ніцма на двары пад плотам, двое — у садзе. Усе, відаць, паспелі пабываць у хаце, але западозрылі няладнае і кінуліся наўцёкі. Трое, без зброі... Які мог быць ратунак, калі атачылі, відаць, з усіх бакоў, напалі нечакана? Ды яшчэ наздзекаваліся — над параненымі ці ўжо над мёртвымі: разбілі прыкладамі галовы, паадрэзвалі вушы...

Забралі забітых, неслі аж пад Ліпнішкі. Больш важкага грузу Мікульскаму не даводзілася несці за ўсё жыццё. Як хавалі, не мог і двух слоў сказаць: душылі спазмы горла, душыла віна перад забітымі.

## 7

— Я ўжо да цябе заходзіў,— сказаў, зачыняючы за сабою дзверы, Самсонаў.

— Калі?

— З гадзіну назад. Здароўкаюся — маўчыш. Спаў?

— Які там сон... Вішу на руках, параспухалі ўжо ў плячах.

— Дык што — так і не клаўся ўсю ноч?

— А што — раніца ўжо?

— Адзінаццатая гадзіна.

— Ого! Але яшчэ цэлы дзень мучыцца... Ох-ха!

— То я мо не буду трывожыць больш... Мо палягчэе — тады.

— Не прычакаеш. Давай лепш рашым справы, пакуль пры памяці. Кажы спачатку, куды ездзіў і чаго добрага прывёз.

— Быў у Антончыка, Міхайловіча. Прывітанне табе, сказалі, каб хутчэй папраўляўся.

— Дзякую.

— Як ты думаеш — Іванчанка на камісара падыдзе?

— А чаго ж!.. Таварыш адукаваны, разбіраецца ў міжнароднай абстаноўцы, камуніст. Актыўны...

— А нічога, што з камандзіра ўзвода — і адразу ў камісары? Мо трэба было каго з камандзіраў рот? Ці з другога атрада прасіць. Няёмка атрымаецца, быццам абышлі іх, не далі расці. Былы падначалены іхні — і раптам над імі ўзвысіўся.

— Я думаю — дзелавыя якасці перш за ўсё. А ў субардынацыі паступова разбяруцца. А ў мяне як было з Каньковым? Такая ж самая сітуацыя амаль што.

— Значыць, я правільна назваў Іванчанку. Але Міхайловіч сказаў уведаць тваю думку і далажыць.

— Правільна назваў. Супадаюць думкі.

Мікульскі не бачыў, што Самсонаў усміхаецца.

— Праўда, яму мо і пагрэцца на новай пасадзе не давядзецца: у шэсць гадзін раніцы пачалася бітва за Беларусь. Першы Прыбалтыйскі, Трэці і Другі Беларускія франты перайшлі ў наступленне.

— Ну, Усцін Захаравіч! Ну й Усцін Захаравіч, біць цябе мала! Такую вестку прывёз і маўчыць! Хадзі бліжэй... віншую...

— І цябе віншую...— паціснулі адзін аднаму рукі — і не ўтрывалі, абняліся. Сухар Самсонаў больш блізкі быў з Прымаком, але і ён зараз расчуліўся пасапраўднаму, агульныя пачуцці нібы растапілі той халадок афіцыяльшчыны, які трымаўся між імі.— Скора ўжо, скора і тут загрукоча.

— Скарэй бы... Ага, а партызанам аб'явілі? Камандуй, каб на мітынг ішлі! — Мікульскі ўстаў, нервова затупаў на месцы, нібы выпрабоўваў, як трымаюць ногі.

— Ужо віншаваў я... Строілі ўжо людзей, супакойся.

— Э-э, чэрствая твая душа. Не трэба было рабіць строй... Мітынг трэба было... З прамовамі!

— Афіцыйна не атрымалася... Тут такое «ўра» было — дрэвы хісталіся!

— А я не чуў... І, здаецца ж, не спаў.

Зайшла без усякага стуку Анюта.

— Прабачце, што я перашкодзіла... Я ненадоўга. Цімох Андрэевіч, рыхтуйцеся... І так усе тэрміны прапусцілі — Палуян з'есць мяне.— Зазвінелі адразу інструменты, запахла лякарствамі.

І Мікульскі папрасіў прабачэння, адвярнуўся спіною да іх, пачаў расшпільваць папружку.

— Ох, ох, проці ўсякіх правіл,— бедавала Анюта.— У гэта месца трэба калоць ляжачаму, каб усе мышцы расслабіліся. Менш балець будзе.

— Каб большага болю не ведаць... Давай!

Калі ўкол быў зроблены, Анюта дала выпіць нейкія парашкі, зноў забразгала інструментамі. І мо ў дзвярах ужо, адвярнуўшыся да яго, нечакана сказала:

— Таварыш камісар, а вы ведаеце, што ў сорак другім у Камарова ў лесе дзіця нарадзілася?

— Ты што-о, санслужба?! Ты думаеш, што гавcovорыш? — Мікульскі ажно падаўся да яе.— Хтосьці балбатнуў, а ты паўтараеш.

— Не ведаю... За што купіла, за тое і прадаю. Сам нянькаўся з малым, людзі бачылі.

— Ці мала людзей было ў лесе! Мо чужога гушкаў.

— Думайце, як хочаце. Бывайце здаровы!

І прыход, і адыход Анюты былі імклівыя.

— Што гэта яна? Нц, нц...— здзіўленне і непаразуменне чуліся ў голасе Самсонава.

— Потым, Усцін Захаравіч... як-небудзь раскажу...

— А ў мяне няма сакрэтаў. Міхайловіч перадаў на словах, як і сакратар абкома яму: пытанне аб аднаўленні цябе ў партыі пакінулі на потым, як вызваляць Беларусь. Ты што — пісаў Кляшчову зноў пра гэта?

— Піса-аў...

— У цябе будзе шанц сустрэцца з ім самому, пагаварыць. Ён ужо на Украіне, у Дубровіцы, пры штабе 61-й арміі. Узгадняе ўзаемадзеянні брыгады з арміяй у гэтыя дні.

— Дык самалёт ад іх будзе?

— Адтуль, з 61-й.

Зайшоў Іллюк Кашкан.

— Таварыш камісар! Тут Фядора ўсё рвецца да вас — снеданне прастыла. Пусціць?

— Пускай, што з ёю зробіш. Усцін Захаравіч, вы паснедалі ўжо?

— Снедаў, дзякую. Ты тут сілкуйся, я пайду паперы вазьму. Трэба яшчэ некаторыя справы рашыць з табою.

— Захапіце адтуль і мой чамадан... У мяне да вас таксама будзе размова.

— Авой! — чуваць за дзвярыма ўскрык Фядоры.—

Каб трохі, то й жывот вам ашпарыла... Даруйце, таварыш начальнік штаба... У мяне ёсць ільняны алей, як будзе балець, то зойдзеце — дам на змазку.

— То гаворыце, што ахалодала ўсё, то — «ашпарыла»! — голас Самсонава.

— Ну але! Як жа можна халоднае есці? Я падагрэла — трэці раз.

— Заходзь, таварыш Фядора! — Кашкан, мабыць, трымаў з сярэдзіны дзверы, адчыніўшы іх нахлашч, і нецярпліва парыпваў.

— Добрай ранічкі ў хату! — загаманіла Фядора, стаўляючы нейкую пасудзіну на стол.— Малачка і мёдам і жаўтком вам запарыла.

— Ого, як вы разбагацелі! — шчыра здзівіўся Мікульскі.

— Ага! Разбагацелі! — пазнаць можна было па голасе, што Фядора шчасліва ўсміхаецца.— Усіх параненых напаіла, яшчэ і крупнік забялю ў абед.

— І не толькі параненых. Тых двух, што з 208-га... І Канькова — тры... Крот Іван — чатыры,— падкалоў Кашкан.

— А што ж іх — галодных пускаць?

— Дык што — выпусцілі «заложнікаў»?! — здзівіўся Мікульскі.

— Самсонаў распарадзіўся. Сказаў: на гэты раз даруем, а ў наступны пападзецеся — не крыўдуйце,— дабавіў Іллюк.

— Хм... А Канькова трэба было на хлеб і ваду, а не на малачко...

— Ой, што вы гаворыце! — абурылася Фядора.— Ён жа таксама прыхварэў — мазалі... А Крот тожа — кантужаны... Ды ўсім хопіць малака, не бядуйце! Яшчэ ж у абед падаю, увечары... І кіслае малако будзе, і смятана... Ого — каровы! Даўно можна было б мець кароў, дык хіба Прымаку ў галаве? Яму толькі давай-давай-давай! Сабірайсь! Гатоўсь! У паход! А ці падкормлены людзі, як пакормлены — галава не баліць.

— О, не кажы! А хіба забыла, як кухню правяраў?

— Правяраў! Што правяраў, то правяраў. Папакапыліў нос...

— Добра паганяў! — нападаў Кашкан.

— Хо, я больш яго паганяла. У лесе жывём, а без сухіх дроў! То вы б і скібачку з маслам з'елі б... Наце

во... Я зрэзала скарынку. Анюта гаварыла, што кусаць не можаце цвёрдага.

— Усё ты ведаеш, Фядора. Усё ў цябе складам-ладам робіцца. Залатая некаму жонка будзе. А, Ільлюк?

— Ёсць некаторыя думкі пра гэта, і я мог бы імі падзяліцца. Як, Фядора?

— Ой, сціхні, яшчэ і ён — дзіця горкае... Я посуд пазней забяру,— заспяшалася да выхаду Фядора.

Пачакалі, пакуль зачыняцца за ёю дзверы, і Мікульскі сказаў:

— А я і не ведаў, што ты яхіда. Усё падкалупваеш, падкалупваеш. А як самога хто — не любіш.

— Чаму не люблю? Абы не было звязана з членаўрадзіцельствам. У здаровым целе — здаровы смех.

— Чаго ж ты сам не рагочаш, хоць і падкалупіш? Смейся, гэта тыя самыя вітаміны, кажа Палуян. А ў цябе ўсё неяк з жоўцю атрымліваецца. Печань як у цябе — не скардзішся! А то падышоў бы да Палуяна.

— Распараджэнняў ніякіх не будзе, таварыш камісар? — зрабіўся чужым голас у Кашкана.

— Ну во — пакрыўдзіўся...

— Ды не, таварыш камісар.

— Чэснае слова?

— Чэснае, таварыш камісар.

— Заладзіў: «Камісар, камісар...» Ты во што... Скажы Самсонаву, што я гатоў — хай ідзе.

— Дык вы ж нічога не елі!

— Чаму не... Во, пры табе вып'ю... І гэта... Чакай, дзе тут мой нож-палаш?

— На стале.

— Бяры сабе на памяць. І будзь, калі ласка, непадалёку. Як выйдзе Самсонаў, зноў да мяне загланеш.

— Дзякую за падарунак. Толькі хай у вас пабудзе да вечара, мо яшчэ спатрэбіцца. Хлопцы пыталі — што з рэчамі Шыпняка рабіць?

— Аддайце Анюце з мяшком. Толькі далікатна неяк, з падыходам.

— То мо хай павісіць дзён колькі. Паспеецца.

— Таксама правільна. А ў Галубоўскага Эдзіка, здаецца, і не было нічога...— Сэрца Мікульскага зноў сціснуў халадок самоты і шкадобы.

Кашкан выйшаў. Хутка зайшоў і Самсонаў з чама-

данам Мікульскага і пачаў з парога нешта гаварыць. Але Цімох Андрэевіч яго спачатку не пачуў, а потым перапыніў:

— Усцін Захаравіч, дайце спачатку я скажу... А то магу... як гэта больш далікатна... адключыцца? Ага, адключуся, і тады прыйдзецца нашатыр соваць пад нос. Атрадныя справы спачатку... Ну, з камісарам ясна... Што «заложнікаў» выпусціў — таксама правільна, ліха з імі... Не да іх... Палуян дзе зараз? Я прасіў, каб праверылі запасны шпіталь, прывялі ў парадак. Мо давядзецца манеўраваць. Мы з Анютай былі ў руках карнікаў трапілі.

— Ведаю, іх у Заграддзе прыгналі. Ёсць там і з 389 ахоўнай нямецкай дывізіі часць.

— А ці не мала ў нас сілы супрацьстаяць, калі палезуць?

— Рэйдавыя атрады ўсе брыгады фарміравалі. Усе брыгады прыведзены ў рух. Задача: знішчыць апошнія навакольныя гарнізоны, вызваліць з падыходам нашых часцей Лагішын, Лунінец. Асядлаць дарогі, захапіць пераправы на Прыпяці і Случы, перарваць усе лініі сувязі. Работкі хопіць, я думаю, не ўседзіць на месцы і астатняя частка атрада.

— Ты думаеш — суцешыў мяне?

— А што?

— Мяне-то не будзе з вамі!

— Твая задача зараз — выздаравець.

— Усцін Захаравіч, у мяне яшчэ будуць просьбы. Во тут, у чамадане, тры блакноты. У адным запісы пра зверствы гітлераўцаў, знішчаныя вёскі. Ты захавай запісы, яны спатрэбяцца тым, хто будзе расследаваць гэтыя злачынствы, рахунак фашыстам выстаўляць. А ў другім трохі сваіх запісаў ёсць... Нешта накшталт дзённіка, не так асабістага, як баявых дзеянняў атрада. Вазьмі яго ў штабныя паперы — разам у архіў здасі. Трэці блакнот чысты — аддасі Лысуху, хай піша вершы. Сабе бінокль вазьмі і слоўнік нямецка-рускі... Фотаапарат Прымаку перадасі... Ну і чамадан — хоць сабе забярэш, хоць каму аддасі. Я сабе рэчавы мяшок у дарогу папрашу ў каго — ямчэй будзе.

— Мой возьмеш... Я табе пасведчанне падрыхтаваў. Хто ёсць хто, так сказаць. На, спатрэбіцца.

— А цяпер слухаю, якое ў цябе дзела — кажы.

— Вялікая, Цімафей Андрэевіч, работка прад-

стаіць. Сказалі, каб за гэты «канцэрт» на чыгунцы тэрмінова прадставілі партызан да ўзнагароды.

— А мо трэба было пачакаць колькі дзён, каб і самыя апошнія дадзеныя ўлічыць? Тут жа яшчэ столькі ўсяго наробіцца!

— То — само сабою.

— Пачнём тады з тых, каго пасмяротна. Пішы: Шыпняк Васіль Ісаевіч... Галубоўскі Эдуард Станіслававіч... Трыпольскі... Як яго, не ведаю...

— Ён не з нашага атрада.

— Хай сабе, але трэба прадставіць. Дый у брыгадзе яшчэ будуць глядзець. Барбук Фёдар... Гагік Грыгаран... Ты ўжо сам паглядзі, каб па алфавіце, каб імя па бацьку было. Хто яшчэ? Галоўнае, каб іх не забыць...

— А да якой узнагароды?

— Васіля, думаю, трэба да Баявога Чырвонага Сцяга... Астатніх давай падумаем, параімся...

* * *

Саламяная ўдава Адэля, якая дала прытулак грэшнаму айцу Антонію, не ведала, чым займаецца бацюшка ў дні, свабодныя ад трэб [1], хоць здагадвалася пра яго сувязь з партызанамі. Калі прыйшоў да яе ў Палотніцу пасыльны з атрада, здзівілася не менш за таго: «А хіба ён не ў вас?»

— Ён памінаў Хартынічы... Мо ў Хартынічы пайшоў? З самага ранку пайшоў... Антон яшчэ мяне падвясельваў, байку пра сябе расказаў...— спяшалася пераказаць Адэля.— Ішлі раз на вялікдзень з хрэсным ходам, шлэпалі па гразі. А паспелі ўжо «кампрэсу» для сугрэву прапусціць. Іду, кажа, цягну малітву, а дзячок ззаду пратэсай памахвае, хістаецца... І ўблытаўся ў плот, у калючы дрот. Антон цягне: «Хрыстос васкрэсе із мяртвых!» І далей усё, далей. А той не «алілуя», а «ратуйце!», тузаецца ў плоце...

Адэля нават на вуліцу выйшла за пасыльным і ўсё гаварыла, гаварыла, спрабавала пасміхацца ад жарту Антонія, а вочы ўжо хлыналіся ад слёз.

Пасыльны вярнуўся ні з чым. Было незразумела, чаму Антон Себасцянавіч пайшоў у гарнізон на суткі

[1] Трэбы — выкананне царкоўных абрадаў і службаў.

раней. Адказ начальнік гарнізона павінен быў даць толькі заўтра — сам Гарашун такі тэрмін вызначыў. Але ўсё роўна перад паходам ён павінен быў неяк паведаміць у атрад, каб былі ў курсе. А мо абставіны змяніліся, і яму давялося паспяшыць? Мо часу не меў пра гэта сказаць?

Чакалі ўвесь наступны дзень і нічога не прычакалі. Не вярнуўся айцец Антоній дадому, не заявіўся ў атрад. Невядома, ці пабываў нават ён у тых Хартынічах.

А з камендантам гарнізона патрэбна было пабачыцца пры ўсіх абставінах. Інакш — для чаго тады было агарод гарадзіць, пачынаць перагаворы?

І Анюта сама напрасілася на гэты паход, уведаўшы ад Васіля, як склалася сітуацыя. Не прыняла ўгавораў-адгавораў ні ад Мікульскага, ні ад Прымака, ні тым больш — ад Васіля. Ці ж не зразумела, што ў такіх абставінах ёй справіцца з заданнем будзе лягчэй, чым каму-небудзь? Дый выручаць трэба Мікульскага: чалавек трапіў калі не ў бяду, то ў двухсэнсоўнае становішча. Яна і хвіліны не сумнявалася ў разумнасці і каштоўнасці яго прапановы — ліквідаваць гарнізон без бою. І не віна Мікульскага, што абставіны ўскладніліся, што пагінулі хлопцы. Урэшце напаўголаса Мікульскі праспяваў ёй арыю Мельніка з пушкінскай «Русалкі»: «Вот то-то, упрямы вы... Одно и то же надо вам твердить сто раз... Твердить сто раз!..» — але ў вачах яго Анюта ўлавіла нейкую скруху, нават прытоеную разгубленасць: яго няспынна, мабыць, праціналі думкі, гняло пачуццё віны перад загінуўшымі. А мо ён глыбока таіў боль і па ёй ужо, мо прыкідваў варыянты сітуацый, у якія яна магла трапіць?

А Васіля яна і не ўгаворвала, каб згадзіўся на яе паход. Наадварот, нават сароміла: што партызаны падумаюць, начальства? Прыберагае, скажуць, сваю каханую... Васіль быў не падобны на сябе і раздражнены: «Ты ж — медык. Нэ твае дзіло займацца цією справаю!» Махае рукамі, махае — ледзь угаварыла, а то збіраўся ісці да самога Вяршыгары, да каўпакоўцаў пагаварыць па душах: не разумеце мясцовай сітуацыі, дык спытайце, не саромейцеся! Ім абы бух, трах, і паехалі, далей, а вы тут...

Анюта і лаяла Васіля за такія погляды, і сароміла. «Ды як ты, украінец, можаш гэтак гаварыць пра сваіх

землякоў?!» — «Ось тому я й кажу, шчо зэмляк... Вам законы гостынnісці нэ дозволяюць так сказаты, а мэні ніхто нэ забароныць». Анюта не знайшла нічога на гэта адказаць, як «Дурань!», і Васіль пакрыўдзіўся.

Вось так, напалову пасварыўшыся, з кепскім настроем пайшла яна ў Хартынічы. У кішэні быў арбайтсаўсвайс, запоўнены Аляксеем Харашуном на яе імя па-нямецку, з пячаткаю нумар два аддзела працы гебітс-камісарыята Ганцавіч — таксама Харашунова вырабу. Ішла і вывучала, што Харашун панапісваў зверху жоўта-карычневай вокладачкі з тонкага кардону. Нумар працоўнага пасведчання... Намэ, форнамэ унд фатэрнамэ — Гайноўская Ядзвіга Янаўна... Такіх кніжачак-бланкаў партызаны раздабылі нямала ў аддзеле працы гебітскамісарыята, там былі свае людзі. Пад кожным радком, які трэба запаўняць ад рукі, надрукавана дробненька на трох мовах — нямецкай, беларускай і рускай — што пісаць, як запаўняць. «Дата нараджэньня... Мейсца нараджэньня — Пінск... Сямейнае становішча — лэдзіг... Што такое лэдзіг? Мо халастая? Ну і Харашун, каму гэта цікава... Бэруф — прафэсія — профессия: Лэрэр... Настаўнік, значыць. А трэба было Харашуну напісаць «інспектар» ці яшчэ як. Хаця не, настаўнік — правільней за ўсё». Яе паслалі з Ганцавіч «на прадмет магчымасці адкрыцця школы», для перагавораў з самім камендантам па гэтым пытанні. Ці нельга, маўляў, гарнізон стабуніць у адно памяшканне, каб другую школу вызваліць для заняткаў з дзецьмі? Фронт стабілізаваўся, больш не наступаюць бальшавікі на Беларусь... Аднак гэтую версію больш прыдумвалі для патрулёў. Як затрымаюць, яна і павінна ім выкласці ўсё гэта і запатрабаваць, каб завялі да самога каменданта. А ўжо яму і скажа што трэба, пра адкрыццё школы і не заікнецца: немцы кінулі забаўку з імі яшчэ ў сорак трэцім.

Не проста быў кепскі настрой у Анюты — паганы. Не выходзіла з галавы апошняя размова з Васілём, турбавала яго нервознасць. Ужо адыходзячы, яна бачыла, як Васіль зноў пабег да Мікульскага. І яна баялася, каб ён не пасварыўся з-за яе з Мікульскім, не стаў папракаць таго ў бессардэчнасці, у тым, што дазволіў дзяўчаці гэты «выбрык». Пэўна, крычаў недзе, што такімі справамі павінна займацца разведка, а не санінструктар атрада... «Дурненькі... А мо ў мяне якраз

лепш атрымаецца, чым у разведчыкаў? Дык чаму б не паспрабаваць?»

Спяшалася ісці Анюта і адпачывала толькі адзін раз.

І не ведала яна, што праз дзве гадзіны за ёю ў тым жа напрамку выступіў няпоўны ўзвод Шыпняка, два аддзяленні, узброеныя да зубоў. Сабралі для яго аўтаматы з усёй роты, набралі патронаў і гранат як панесці. Вялі гэты ўзвод Шыпняк і Мікульскі: Васіль угаварыў паслаць такую групу на разведку, спрабавалі яны нават дагнаць Анюту, каб ісці да часу разам. Але і не дагналі, не знайшлі — па лесе і балоце гэта зрабіць нялёгка. Ды ў таго, хто даганяе, вельмі многа сцежак...

Апошнія кіламетры перад сялом Анюта прайшла па тракце, і толькі як засвяціліся ўжо сярод лесу прагалкі, паказаліся здалёк хаты, раптам спахапілася: падыходзіць яна да Хартыніч не з таго боку. З яе папе-рамі лепш ісці не з поўдня, а з поўначы, з боку Ганцавіч, і яна прайшла яшчэ лесам круг, каб выйсці на паўночную дарогу. І ўжо адтуль, падыходзячы да ўскрайку сяла, заўважыла ля крайніх хат нейкі рух. Абапал дарогі капаліся кулямётныя ячэйкі-гнёзды, капалі іх паліцэйскія. Немцаў з імі не відаць. Яна запаволіла крок, не зводзячы вачэй з левай ячэйкі, хацела ўжо мінаць...

— Стой. Хто такая?

Крыкнуў той, што быў зверху, не капаў, а толькі наглядаў за работаю яшчэ двух. Нешта ў шырокім твары яго было савінае — ці круглыя, немігаючыя вочы, ці невялікі дзюбаваты нос. Вакол рота паўкругамі прарэзаліся глыбокія складкі, і губы, частка твару, адрэзчаная гэтымі складкамі, былі жоўтыя, нібы пафарбаваныя маркоўным сокам. Пакуль падыходзіў да яе, Анюта добра яго разгледзела. «Сачыў за мною яшчэ здаля... А здаецца ж, і не глядзеў у мой бок...» — затаўклося ў галаве.

— Хто такая? — паўтарыў ён, правёў па ёй вачыма.

Тыя, што капалі ячэйкі і справа, і злева ад дарогі, перасталі капаць, хто ўспёрся на рыдлёўку, хто аскрэбваў лязо ад мокрай гліны, сплёўвалі, чартыхаліся, выціралі лбы — і ўсе зацікаўлена глядзелі ў яе бок.

Анюта падала свой арбайтсаўсвайс. Прачытаў на вокладцы, пагартаў усярэдзіне (там не было ніводнага

запісу). За левым кутком рота павялічылася маршчына-расколіна, паказаліся пракураныя зубы.

— Гэта не дакумент. Настаўніца...— пастукаў кіпцямі па арбайтсаўсвайсу,— а чытаць не ўмееш. Во тут жа, справа зверху, дро-о-обненька надрукавана: «Дзейнічае толькі пры наяўнасьці пашпарта». І гаворыш не па-нашаму. «Мейсца нараджэньня — Пінск». Можа, тут абмылка — Менск трэба было напісаць? Давай яшчэ дакументы!

— Ёсць, але я не захапіла, забыла на кватэры ў Ганцавічах. Мне да вашага камендакта трэба, па школьных справах.

— Нікуды хадзіць не трэба. Я намеснік камендакта.

— У гебітскамісарыяце сказалі — з самім трэба.— У яе запоўзалі мурашкі па спіне: «Кахановіч...»

— Шакурка! Да мяне! — загадаў намеснік.— Абшукай і адвядзі ў пограб да праяснення асобы.

З правай ячэйкі-гнязда вылез і пацёр рукі жухлым камяком сена рыжаваты паліцай з абветраным, аж да лішаёў, тварам. Узяў прыхілены да куста карабін, пачапіў на плячо і падышоў да яе. Правёў для прыліку справа і злева па ватоўцы, пад пахамі.

Кахановіч тым часам дастаў з кішэні шыняля звязку ключоў, перабраў іх у пальцах, але зноў усе ўкінуў у кішэню.

— Запасны возьмеш у Сарокі. Скажаш — я загадаў.

— Не дасць. Пісьмовае распараджэнне трэба.

Кахановіч зноў дастаў ключы, з незадаволенай мінаю адшпіліў адзін.

— На. Ды смялей ты, смялей з ёю. Ану — расшпіліся! — загадаў ён і, калі Анюта расшпілілася, сунуў лапы пад крыссе, аблапіў за бакі, пасунуў рукамі вышэй, вышэй — і раптам груба сціснуў за грудзі. Губы ў яго выкручваліся, як п'яўкі, вочы масляна блішчалі.

Анюта рэзка крутнулася і — плясь! Уляпіла добрую аплявуху.

— Не распускайце рук! Дзікуны... Я каменданту буду скардзіцца.

— Го-о-го-го! — заржаў Кахановіч, і вочы яго страцілі маслянітасць, набылі бляск металу.— Люблю кусачых... Мы з табою яшчэ пахрыстосуемся... у другім месцы... Мякенькая шкурка зробіцца — што хром пас-

ля вырабу. Вядзі, я скора прыйду! — махнуў паліцэйскаму.

Калі адышлі па вуліцы метраў семдзесят, Шакурка пакруціў галавою:

— Смелая ты дзеўка! Гэта ж трэба — аплявушыла! Ха-ха-ха! — да Анюты даляцеў пах гарэлачнага перагару.— Самога Андрона! Ды ён што жаб раздзірае такіх!

— Хай паспрабуе! Дзікун... Падзічэлі, седзячы тут. Ты вядзі мяне адразу да каменданта. Я самому гебітскамісару пазваню... Ёсць у каменданта тэлефон?

— Быў...

— Чаму — быў? Дзе ён падзеўся?

— Нідзе. Больш маўчыць, чым працуе. Надакучыла лінію рамантаваць.

— Падзічэлі вы тут, ох, падзічэлі...

— Адзічэеш... Кхы, ладна, завяду. Толькі як што касьнецца, скажаш Андрону: камендант перастрэў, загадаў даставіць да сябе.

Анюта ведала, што Кахановіч удзельнічаў у забойстве тых трох партызан. Не ведала толькі пра гісторыю з жонкай Гарашуна, не ведала яшчэ лёсу самога бацюшкі, а так бы па спіне не такія «мурашкі» поўзалі. Яна нават сама з сябе дзівілася, як перамагала страх, не паказвала, што боязна ёй ступаць кожны новы крок па гэтай дзіўнай, выбрукаванай дубовымі чурбакамі, вуліцы. А яшчэ ж чакае сустрэча з камендантам, яшчэ прыскача следам Кахановіч, пачнуць ірваць яе адзін у аднаго... А мо і не будуць ірваць, мо зладжана будуць дзейнічаць? Ніхто ў атрадзе так і не ведае, якім духам дыша гэты камендант. А што, калі нямецкі афіцэр зацікавіцца яе асобаю? «Гарнізон хоць і паліцэйскі, але ёсць, Лысуха казаў, штук дзесяць немцаў, два афіцэры. У якіх адносінах немцы афіцэры з камендантам, хто каму падпарадкуецца? Канечне ж, камендант у нейкай ступені залежыць ад іх, не бывала такога, каб немцы сваіх паслугачоў слухаліся...»

Сцены школы былі абсыпаны зямлёю па самыя вокны, відны і свежыя, прыплясканыя рыдлёўкамі латкі. Анюта зрабіла вывад: рыхтуюцца да налёту партызан. Тыя кулямётныя ячэйкі ды гэтая абсыпка — ці не сведчанне? І ў той жа час, пакуль ішлі да гэтай школы, яна ўлавіла ў самой атмасферы, якая панавала ў вёсцы, штосьці не будзённае. На лавачках пад платамі, як у

добры мірны час, сядзелі людзі — больш старыя, дзеці і жанчыны, некаторыя гулялі «ў мацакі» або качалі па вытаптанай і сухой ужо сцежцы пафарбаваныя ў шалупінні цыбулі карычневыя яйкі — цалялі адно ў адно. Яе і паліцэйскага праводзілі насцярожанымі позіркамі, нібы заўсёды былі напагатове, каб падхапіцца і даць дзёру. А з адной лавачкі паклікалі Шакурку:

— Яша-а, хадзі сюды, паглядзім, якія ў цябе мацакі! — і тут жа рассыпаўся і бессаромны, і здзекліва-пагардлівы дзявочы смех.

— Хай, як сцямнее, гы...— выскаліўся і паліцэйскі.

«Так, гэта ж вялікдзень... Другі дзень вялікадня...— успомніла Анюта.— Можа, і камендант святкуе, не будзе яго на службе».

Трапіліся, пакуль ішлі, і два нямецкія афіцэры. Ажыўлена размаўлялі, смяяліся — мусіць, і яны пачаставаліся недзе. Шакурка хоць і казырнуў ім, яны не звярнулі на яго ніякай увагі. Як толькі мінулі, унурыў голаў, ажно зубамі скрыгатнуў. «А-а, нясмачна такі яму служыцца... А чаго ўлез сюды?» — падумала Анюта, хацела ўжо і ўголас папытаць, ды нешта стрымала.

Школа стаяла за роўненькім, некалі пабеленым, а цяпер аблезлым плотам. Паміж школай і вуліцай выстраіўся рад высозных ясакараў, таксама са слядамі пабелкі на кары. Праз голае голле прасвечвала чырвоным чарапічная страха. Шакурка звярнуў да бліжэйшага канца школы, дзе тырчаў пад асобнай стрэшкай ганак.

У зацішным кутку між сцяною школы і бакавінай ганка стаяў вартавы паліцэйскі — чорную пілотку ссунуў на патыліцу, задраў к сонцу бараду, вочы заплюшчаныя. Твар яго быў у прышчах, і, мабыць, гэткім чынам ён яго лячыў.

— Няма каменданта ў сябе...— апусціў на момант бараду, расплюшчыў, як курыца вочы, памаргаў.— Вабшчэ, тут ён, але... Вунь, бачыце ў кутку двара церам-церамок? Лякса напала, там сядзіць. Йэх-хэ-хэ!

— Гм, што ж рабіць? — разгублена азірнуўся ў канец вуліцы Шакурка. Мо глядзеў, ці не імчыць ужо следам Кахановіч.

— Што-што... Давай занясём яму туды стол, хай без адрыву... і прымае наведвальнікаў. Хэх-х-х! — і варта-

вы зноў падставіў сонцу твар, заплюшчыўся. Яго смяшок нібы пачулі ў школе, з таго канца таксама данёсся смех. Чуваць адтуль былі і шум, карцёжныя выгукі.— А што за пташка з табою? — нібы абудзіўся вартавы.

— Кажа — настаўніца, справы да каменданта. А Кахановіч западозрыў, у склеп загадаў пасадзіць.

— Пачакай са склепам... Ён і матку родную гатоў падазраваць.— Вартавы сплюнуў, з цікаўнасцю прыжмурыў вочы на Анюту.— Ды там жа гэты...

— Жывы, не дайшоў?

— Хто яго ведае... Мо і дайшоў. Кахановіч загадаў: не перавязваць, вады не даваць, не карміць. Усё роўна павесяць яго.

Анюта пачала здагадвацца, пра каго ішла гаворка, і пад грудзьмі захаладала ад нядобрага прадчування і свайго лёсу.

— Слухай, а можа — таго... Далажыць каменданту? — Шакурка няўрымсліва азірнуўся на прыбіральню ў кутку двара.

— Хэх-х-х... Далажыць?! — паглядзеў у бок прыбіральні і вартавы.— А што ты думаеш — далажы! Мне з паста нельга сыходзіць, а ты — далажы. Бо ён па паўгадзіны там стогне... Свежыны ўчора аб'еўся ў старасты.

— То глядзі яе...— Шакурка кіўнуў на Анюту і пайшоў у куток двара.

Анюта азірнулася ў канец вуліцы. Кахановіча яшчэ не было відаць. З большай цікавасцю агледзела прышчававатага. «Зусім малады яшчэ... Абодва, здаецца, нішто хлопцы... І Кахановіча не любяць»,— зрабіла яна вывады.

Было відаць, як Шакурка асцярожна, запавольваючы крокі, прыблізіўся да прыбіральні, павярнуў яшчэ на хаду вуха да «церамка». Зіркнуў на вартавога і Анюту, выскаліўся і тут жа прытушыў усмех, кіўнуў галавою: тут, маўляў. Працягнуў руку да дзвярэй нясмела, але стукнуў нечакана моцна.

— Што такое?! — спалохана ўскрыкнуў мужчына.

— Пан камендант, я звіняюсь... Гэта я, Шакурка.

— Чую, што «свіння ёсць». Тры нарады без чаргі.

— Слухаюся. Але тут дзела ёсць. З Ганцавіч да вас пасыльны.

— Хто — з Ганцавіч?

— Дзеўка... Даволі сімпатычная.

— Мне адна трасца — сімпатычная ці не. Я не Кахановіч, калекцыю не збіраю. Хто яна... Ну як табе сказаць...

— У арбайтсаўсвайсе напісана — настаўніца.

— А-а-а... Завядзі ў камендатуру, я — зараз.

Шакурка вярнуўся, усміхаючыся і як не на пальчыках, быццам не хацеў рабіць тупатам шуму.

З ганка ўвайшлі ў калідор, які праз два акны быў перашаляваны дошкамі — адасоблена казарма. А камендатура была, мабыць, некалі настаўніцкай, з яе вялі дзверы ў асобны пакой — ці не кабінет «пана кераўніка школы», а цяпер — «пана каменданта». Паўз сцены стаяла некалькі сталоў. За адным заклапочана і старатліва моршчыў лоб паліцэйскі, за другім сталом сядзела сумная, блакітнатварая дзяўчына ў цывільнай вопратцы.

Шакурка пасадзіў Анюту на крэсла каля ўвахода ў кабінет, сам сеў насупраць, заціснуў каленямі карабін. тыя, што сядзелі за сталамі, толькі на міг адарваліся ад папер, правялі вачыма па Анюце. І яна заўважыла, якія сумныя вочы ў гэтай дзяўчыны. А паліцэйскі, убачыўшы, што Шакурка залапаў па кішэнях, каб закурыць, моўчкі кіўнуў на шыльдачку на сцяне — «Не курыць! Не пляваць! Не смеціць!», і Шакурка гэтак жа моўчкі паклаў згорнутую цыгарку за вуха.

Увайшоў, сагнуўшыся, камендант, ён быў поўны, жбанападобны, цела запоўніла ўсе складачкі мундзіра, трымаў левую руку ў кішэні і неўпрыкмет пагладжваў пад кіцелем, масіраваў жывот.

— Заходзьце,— паказаў кіўком Анюце на кабінет і сам патупаў міма яе ў дзверы.

— А мне? — устаў і Шакурка.

— А ты пасядзі там,— даляцела з кабінета.

Анюта зайшла, камендант сядзеў ужо спіною да цёмнага кута — акна, мусіць, баяўся, стол нібы адгароджваў, абараняў каменданта ад наведвальнікаў.

— Сядайце. Слухаю вас.— Камендант, відаць, стараўся быць ветлівы, ён яшчэ не здагадваўся, хто перад ім.

— Расседжвацца няма калі,— сказала напаўголаса.— Я прыйшла па адказ, які вы павінны былі даць папу Гарашуну. Што вы рашылі?

Твар каменданта стаў пунсовы, а потым сшарэў — кроў адхлынула. Пакруціўся на крэсле.

— Нічога... пакуль што... Вы самі павінны зразумець — справа вельмі складаная, а часу мала далі.

— Часу было дастаткова. Дарэчы, а дзе айцец Антоній? Ён павінен быў да вас зайсці,— наўздагад кінула Анюта.

— Ой, пачакайце...— камендант таропка пачаў вылазіць з-за стала.— Рэжа без нажа...— схапіўся за жывот, твар яго ўзмакрэў ад поту.— Выйдзіце пакуль што.

Ён ледзь дачакаўся, каб выйшла Анюта, і бягом кінуўся да выхаду.

— Так хутка? — здзівіўся Шакурка, устаючы з крэсла і запытальна зіркаючы то на дзверы, за якімі знік камендант, то на Анюту.

— Не гаварылі яшчэ... Разачка рэжа — бачыце ж...— паглядзела Анюта на выхадныя дзверы, за якімі знік камендант.

Нават паліцэйскі і дзяўчына, што сядзелі за сталамі, крыва ўсміхнуліся.

— Я не магу больш чакаць. Невядома, колькі ён там выседзіць зноў. Трэба і Кахановічаў загад выконваць. Сарока, дзе ключ ад склепа?

Заварушылася не дзеўка, як чакала Анюта, а паліцэйскі, адчыніў да ўпору ў жывот шуфлядку.

— А пісьмовы дазвол ёсць на выдачу ключа? — паглядзеў скоса на Шакурку.— Я не маю права без такога дазволу.

— Ён вусна дазволіў. Ды ён ужо ідзе сам, перапытаеш, калі так баішся.

Сарока кінуў ключ.

— Адразу ж прынясеш!

— А камендант сказаў: «Пачакайце...» Хто для вас глаўней? — Анюта дэманстратыўна і глыбока, як надоўга, села на крэсла, нібы паказвала ўсім выглядам, што нікуды не збіраецца адсюль ісці.

— Для мяне ўсе глаўныя, хто загадвае. Маё дзела — выконваць загад.— Шакурка груба схапіў яе за плячо, тузануў з крэсла, а потым яшчэ і ў спіну папхнуў да дзвярэй. Ужо ў калідоры прашаптаў ёй у патыліцу: — Дурніца! Прыхавайся пакуль што, бо Кахановіч адразу пацягне да сябе ў «кабінет». Бачыў, ужо імчыць... А я іх звяду разам, хай пагрызуцца... Кахановіч на яго месца меціць, выслужваецца перад немцамі.— Ён штурхнуў ледзь прыкметныя дзверы ў дашчанай перагародцы, кіўнуў: «Праходзь!»

— Ён выслужваецца — зразумела: гад, здраднік, рукі ў крыві. А ты чаго? — прыпынілася за перагародкай ужо, дзе быў доўгі кавалак калідора з вокнамі з аднаго боку і дзвярыма з другога. Пагардліва паглядзела на Шакурку, а той паволі прычыняў за сабою шурпатыя дзверы і глядзеў сабе пад ногі.— А ты ж, здаецца, і хлопец неблагі, чаго ты ўлез у гэты бруд?

— Ціха ты! — азірнуўся назад, потым перабраў вачыма дзверы, што былі ў калідоры.— «Настаўніца»! Я цяпер усё разумею.

— Не, не ўсё. Ты ведаеш, што па нашых дадзеных тры чвэрці вашага гарнізона гатовы перайсці на бок партызан? Камендант толькі справу тармозіць, хоць і абяцаў нам гэта арганізаваць.

— Ідзі хутчэй! — паказаў ёй Шакурка ў канец калідора, мабыць, там быў другі выхад — на двор.— Не ведаеце вы нашага каменданта. Ён і заяц, і хамелеон, і скарпіён адразу... І такіх, як Андрон, таксама хапае.

З-за класных дзвярэй справа, пакуль ішлі, даляталі то выгукі карцёжнікаў, то залівісты храп. У канцы калідора, злева, як кончыўся рад акон, былі дзверы на двор. Выйшлі ў дашчаны тамбур.

— А мо ўцякай лепш — слыш? — прашаптаў Шакурка.— Ля склепа ў плоце дзірка, а скрозь за плотам кусты аж да лесу. Я стрэльну потым па кустах, быццам хацеў злавіць, ды не ўдалося.

— Я не выканала задання. Мне трэба дагаварыцца з камендантам.

— Ну й дурніца ж! Свет не бачыў...

Выйшлі на двор, і Анюта заплюшчылася. Чырвонае, перад захадам, сонца біла з-за прысад у канцы двара проста ў вочы.

— Ты толькі... гэта... Не бойся там. Ты не адна будзеш у пограбе. Папа нейкага ўкінулі — мо дайшоў ужо. Кінуўся Кахановіча душыць. Ну й прастрэліў яго Кахановіч — у бок смальнуў...

Надземная бетонная частка пограба ўзвышалася справа двара, пры плоце, пад густымі і голымі кустамі акацый. У франтоне шарэлі драўляныя, напалову абабітыя саламянай матай, дзверы. На дзвярах вісеў вялізны, падобны на ракетніцу, замок.

— А ты падбірай надзейных хлопцаў, не спускайце вока з самых гадаў. Каб скруцілі, як пачнецца завaруха...

Шакурка зморшчыўся, нібы ад зубнога болю, азірнуўся на ганак школы і хуценька адамкнуў замок, ірвануў на сябе дзверы.

— Асцярожна, тут крута прыступкі ўніз.

Анюта са страхам усунула галаву ў затхлую, сырую цемрадзь пограба, асцярожна, трымаючыся за вушак, ступіла ўніз і раз, і два.

На ганку рыпнулі дзверы, вырас Кахановіч.

— Стой! Давай на допыт яе... Да мяне ў «кабінет»! — а сам дыхае, як загнаны ганчак, ледзь язык не высоўвае.

Шакурка толькі выдыхнуў са шкадобай — «Эх!», падаў Анюце руку.

— Вылазь... Няма чаго табе для абароны даць...— зашаптаў.— Але ты цвёрда трымайся, нахабна. Ён толькі на нахабства зважае.— І як толькі Анюта вылезла на двор, павярнуўся да Кахановіча: — Камендант бачыў яе, пачаў гаварыць ужо з ёю... Сказаў, каб да яго зноў прывёў, а пакуль у прыбіральню пабег... У яго ніякага падазрэння яе дакументы не выклікаюць.

— Заткні хайла! — адрэзаў Андрон.— Гані ключ!

Шакурка разгублена паглядаў на прыбіральню ў кутку двара. Ён не ведаў, як памагчы Анюце.

«Не шанцуе мне... І трэба ж было, каб каменданта гэтак праняло... А мо здуравала, мо трэба было ўцякаць? Правільна Шакурка прапаноўваў! Але ж заданне...» — ёй здалося, што недзе цікае велізарны гадзіннік, і ціканне гэтага гадзінніка мацнее, ажно глушыць, коле ў скроні.

— Доўга чакаць буду?! — вызверыўся Кахановіч на Шакурку і паклаў руку на кабуру.— Ключ!

Шакурка неахвотна падышоў, падаў ключ. Каторы — той, што браў у Сарокі, ці той, што ў Кахановіча? «А ў яго ж яшчэ адзін...»

— І можаш ісці дадому — да заўтрашняй раніцы... Ты ж адпрошваўся,— сказаў Кахановіч.— Прашу, мадмазеля! — Кахановіч ступіў ад дзвярэй, ледзь не скінуўся з ганка, узмахнуў для раўнавагі рукамі. І, як толькі Анюта ўзышла на ганак, цапнуў яе за локаць.

«Кабінет» Кахановіча — першыя з канца калідора дзверы — быў разгароджаны ўдоўжкі крамнаю, у палосы, занавескаю. За занавескаю, мусіць, была спальня. У самім жа «кабінеце» стаяў пад акном голы, абшарпаны стол з поўнаю талеркаю акуркаў, крэсла за ім. Яшчэ

два крэслы з круглымі сядзеннямі і пераблытанымі дротам ножкамі стаялі пры занавесцы злева. А справа пры ўваходзе была пліта. На ёй навалены абы-як брудны посуд, кансервавыя бляшанкі, бутэлькі, усё было сяк-так прыкрыта газетаю. Падлогу даўно тут не мылі, ды нават і не мялі, бо акуркі валяліся па ўсіх кутках. Затхла-кіслы пах не то прэлых парцянак, не то плесні, пах застарэлага тытунёвага дыму, здавалася, уеўся нават у тынк.

— Ну й свінушнік!.. У што школу ператварылі, божа мой...— Анюта тузанула газету з пліты, незнарок змахнула дадолу бутэльку. Тая закруцілася ваўчком, паехала па падлозе аж да стала.— У самога намесніка каменданта такі парадак, то што робіцца ў радавых? Няўжо нельга якім абібокам загадаць, каб выдраілі начыста?

— Жанчын не хапае,— ухмыльнуўся Кахановіч, двойчы тузануў за ручку дзвярэй, прычыняючы іх чым найшчыльней. І раптам Анюта пачула, як шчоўкнуў у дзвярах замок.

Рэзка павярнулася да яго.

— Зараз жа адчыніце! Я наслухалася пра вашы фокусы, са мною вам нічога не ўдасца.

— Чаму, галубачка? Сёння ж гадавое свята... Пахрыстосуемся...— Кахановіч ішоў, насоўваўся на яе, усміхаючыся адным кутком рота, а вочы ўжо хціва блішчалі.

Пад ногі Анюце трапіла бутэлька, што скацілася з пліты. Яна хуценька прысела, ухапіла яе за горлечка. Узважыла ў руцэ, рэзка ўдарыла аб бераг накрыўкі стала. Дзынкнула, пасыпалася шкло, у руцэ засталося рыла з верхняй часткай бутэлькі. Абламаныя зазубрыны-кінжалы тырчалі, як зубы акулы.

Гэта была ўжо зброя...

* * *

Група Мікульскага спынілася тым часам перапачыць на хутары за які кіламетр ад Хартыніч. Ваваліліся ў хату да дзядзькі з шумам, гаманой, адразу занялі ўсе лавы, палок, табурэткі. Эдзік Галубоўскі палез на сваё любімае месца — на печ і адразу разуўся. Кепскі ў яго абутак, увесь час мокрыя ногі. Туды ж, на печ, з чацвярцінкай малака і соскай на ёй забраўся і малы,

гадоў на тры хлапчук у штоніках са шлейкай цераз плячо. Усеўся на краечку, спусціў ногі ў акуратных лазовых лапціках на прымурак. «Памяняемся, а?» — пачаў жартам таргавацца з ім Эдзік, ківаючы на лапцікі. Той недаверліва-спалохана паглядаў на Эдзіка, шморгаў нагамі — не было куды схаваць лапцікі. Цмокне з бутэлькі, паставіць яе на калена, зіркне ўніз на незнаёмых дзядзькоў, зноў цмокне, утаропіцца на Эдзіка.

Гаспадар хаты — рыжы, кашчавы і віславусы, разгублена таптаўся ля печы. На лаве на дошчачцы ляжаў вялікі нож, узвышалася горачка нарэзанай махры, і партызаны адразу пацягнуліся шчопцямі да яе, пачалі закурваць. «Закурвайце, закурвайце! — запозненa спахапіўся, запрасіў гаспадар.— Як мала будзе, я падкрышу».

У хаце адразу стала шыза ад дыму, запырхаў на печы хлапчук.

Гаспадар пацягнуўся рукою за комін, дастаў адтуль роўненька падрэзаную «пушку» тытуню, паклаў яе каля нарэзанай махры. Паспрабаваў на кіпець, ці востры нож, зноў пайшоў да коміна, намацаў брусок. Штосьці яго непакоіла і хвалявала, ён пазіраў на вокны, нібы кагосьці з хвіліны на хвіліну чакаў.

Увайшла з двара з брудным вядром у руках гаспадыня, насіла парсюку, спалохана застыла ў парозе.

— Госці ў нас, бачыш...— гаспадар развёў рукамі.

— Ой, то вам мо бульбы зварыць? — знайшлася гаспадыня.

— Толькі не чысціце — у мундзірах, і чыгун бярыце большы...— дружалюбна ўсміхнуўся гаспадару Мікульскі. Хацелася, каб напружанасць, якая трымалася паміж гаспадарамі і партызанамі, знікла, хацелася заваяваць іх прыхільнасць.

Як звычайна, папярэдзілі: з хутара не выходзіць.

— А як жа дзеткі? Яшчэ двоечка ёсць, недзе гуляюць у суседзяў! — забедавала жанчына.— Мо збегаць прывесці? А то яшчэ напалохаюцца, як будуць ісці...— Вочы гаспадыні як не малілі яго.

Мікульскі, заняты сваімі думкамі, не паспеў нічога адказаць.

— А чаго іх зваць? Нагуляюцца — самі прыйдуць,— дзядзька ўжо саўладаў з сабою, быццам і не хваляваўся да гэтага. Ён сам намыў і наклаў бульбы,

заліў вадою, падняў вялізны чыгун на прыпечак.— Хадзі, Аўгеня, твае дзела раблю!

— Во, дзядзька праўду гаворыць — самі прыбягуць. Мы перашкоды чыніць не будзем,— сказаў Мікульскі, наглядаючы, як упраўляецца гаспадыня з цяжкімі віламі — ажно хацелася ўстаць і памагчы.— Пасуньцеся, хлопцы, дайце дзядзьку сесці. Закурыце з намі!

— А папера е?

— Е папера, е!

— Бо сам я люльку прыспасобіў, няма з чаго гарнуць цыгаркі. Раней трохі быў лістовак нямецкіх назбіраў, самалёт кідаў, то скурыў усе. Добрая папера была.

— А лістоўкі... пра што? — папытаў Мікульскі.

— А-ат...— махнуў дзядзька рукою.— Усё лінію фронту скарачаюць. Пра нейкі непрыступны ўсходні вал талдычуць... Пра тое, што партызан ліквідавалі багата на Палессі. Многа пра што!

Антончык-малодшы як сядзеў на лаве, так і працягнуў над сабою руку, адарваў лісток адрыўнога календара.

— Што т-ты... што в-вы робіце?! — гаспадар як не бягом кінуўся ратаваць каляндар, бо той пайшоў ужо гуляць па руках.

— Дык ён жа стары. Во, з саракавога года... І скрэмзаны!

— Глядзі ты... савецкі каляндар! — загаманілі партызаны.

— Пакаж, пакаж,— працягнуў руку і Мікульскі.

Гаспадар урэшце пераняў каляндар, прынёс у рукі Цімоху Андрэевічу.

«Праўда што скрэмзаны...» — Мікульскі ўсхвалявана круціў у руках каляндар. Пяты год жывуць па ім людзі. Лісткі ўсе скручаныя, задраныя ўгору, некаторыя зжоўклі і як не сыплюцца па краях. Назвы радзён перакрэслены і заменены новымі па некалькі разоў... Мільгацяць, ажно ў палосы зліваюцца малюнкі, надпісы, вялікія чорныя лічбы... Мікульскі і раз, і другі правёў пальцам па абрэзе лісткоў... «1940... Среда... 6 ноября... Шестой день шестидневки... Двадцать третий год Великой Октябрьской социалистической революции...» Унізе малюнак — У. І. Ленін у Смольным, гаворыць па тэлефоне, кіруе ўзброеным паўстаннем...

Серада закрэслена, перапраўлена на чацвер 1941 года, чацвер — на пятніцу 1942 і г. д.

— Не чапайце, хлопцы... За гэты каляндар некалі музей вялікія грошы заплаціць...— Мікульскі беражліва перадаў яго гаспадару, і той панёс яго за комін, сунуў у рукаў нейкага лахмана.

Зайшлі Шыпняк і Кастрыцын — маёр дзяржбяспекі, які прыбыў у атрад са злучэння, з таго ж асобага аддзела, учора і захацеў удзельнічаць у вылазцы.

— Пасты расстаўлены,— далажыў Шыпняк, зябка павёў плячыма. У яго быў прастудны і хмурны выгляд.— Мароз будэ... Таке нэбо гарнэ — як намалёвано.

— Ой, хай бы ўжо цяпло было,— азвалася ад печы гаспадыня.— Так гэта зіма выела вочы. Няма ў чым выйсці ні самім, ні дзецям. Каб не пралі, не ткалі, дык хоць бокам свяці.

— Што-та стала халадаць,— шматзначна сказаў Кастрыцын, пацёр рукі і зазірнуў у печ.— А ці гоніце вы, дзядзька, самагонку?

— Сам не, баюся... А ў каторых як не бровары ў кустах пахаваны. Але пагрэцца то і я знайду... Аўгеня, схадзі хіба, памацай у дзежцы з жытам. І скварку ўрэж, гуркоў міску набяры...

— Вы — дзелавы мужык! — Кастрыцын перастаў дзівіцца ў печ, выпрастаўся, паклаў дзядзьку руку на плячо. І тут жа рука саскаўзнула ўніз. Прайшоў па хаце, паціраючы далоні, сутыкнуўся з Шыпняком, які не знаходзіў сабе месца. Шыпняк павярнуўся, прысеў да стала, Кастрыцын крутнуўся назад, правёў вачыма цётку Аўгеню, якая выйшла з хаты.

«Пра Анюту Васіль думае... А я хіба не думаю, не перажываю за яе?»

«Кастрыцын дзіўна сябе паводзіць, быццам і забыў, чаго прыехаў у атрад. А спачатку прыхапіўся быў дапытваць, думаў з ходу «расколе» мяне...»

«І калі справіўся Канькоў зноў данос паслаць? «Мікульскі якшаецца з паліцэйскімі... Ліжацца з папом, які быў асуджаны савецкімі органамі... А ўсё гэта прывяло да пагібелі трох лепшых партызан атрада». І паспрабуй прыцісні зараз гэтага Канькова — скажа, што помсціць Мікульскі...»

«Як там Анюта? Па ўгавору, павінна ўжо выходзіць назад...»

Некаторыя партызаны, як толькі прыгрэліся, сціпыліся, пачалі кляваць насамі. Ды раптам на дварэ пачуліся звонкія дзіцячыя галасы, і хлапчук з печы закрычаў на ўсю хату, зашморгаў лапцікамі па прымурку:

— Татка! Вася і Мася ідуць! Мне яецька нясуць!

Чуваць і голас гаспадыні, перахапіла іх у сенцах. Угаворвае, мабыць, каб не баяліся чужых дзядзькоў,— чуваць кепска. А ўпусціла ў хату, то адразу пагнала ў запечак.

— Раздзявайцеся і сядзіце там.

Вася і Мася (ці не Маша?), шмыгаючы насамі, палезлі на палок, палахліва і цікаўна касавурачыся на двух партызан, што сядзелі з краечку і драмалі, прыхіліўшыся плечукамі адзін да аднаго. Паселі Вася і Маша на адсунуты ў кут і прыкрыты дзяружкаю сяннік з падушкаю. Падалі ўгору маломе чырвонае яйка і пачалі шаптацца, разглядаючы свае: «Біць-мяняць?» — «Дай я тваё пакаштую...» — «Во, хітранькі... У цябе спераду два зубы, а ў мяне ніводнага...»

— Зноў выдурылі ў хроснай? — нібыта загневалася на дзяцей гаспадыня. Яна паставіла пляшку і міску з гуркамі, пачала нарэзваць сала і хлеб, раскладваць па стале. Пайшла ў мыцельнік, знайшла пару відэльцаў з драўлянымі тронкамі, для прыліку цярнула па іх пальцамі, панесла да стала.

— А мы не выдурвалі. Сама дала! — і Вася зацокаў яйкам па зубах, ці моцнае.— Пакажы тваё! — працягнуў руку на печ да малога.

— Ай! — крутнуўся ад яго хлапчук.— Мне ўжо каштаваў — во ён...— кіўнуў на Эдзіка.

Вася зацікавіўся Галубоўскім.

— Ты чый? Ты хто?

— Сам свой. А ты?

— Я Шакурка Вася. Мы ўсе Шакуркі. А чаму ў вас павязак няма? Вы паліцэйскія ці партызаны?

— Партызаны.

— Хлусі-і-і-і...— недаверліва-здзіўлена працягнуў Вася.— Такія малыя партызаны не бываюць.

— Бываюць. А вот паліцэйскіх такіх, як ты, не бывае, гэта точна.

Вася яшчэ раз перабраў усіх партызан вачыма, даўжэй спыніўся на Кастрыцыне: той быў у ваеннай камсастаўскай форме.

— А наш Яша паліцэйскі. У яго таксама вінтоўка ёсць і патроны! — пахваліўся ён.

Апала нядобрая цішыня. І раптам усчаўся гармідар: загаласіла, ломячы рукі, гаспадыня, і ад яе крыку прачнуліся ўсе, хто быў задрамаў. Цётка Аўгеня працягвала рукі то да аднаго, то да другога партызана, не ведаючы, каго лепш прасіць-маліць. Кастрыцын, які быў прымасціўся на лаве, зноў устаў са шматзначным «Та-а-ак...», глянуў на Мікульскага.

— Таварышочкі! Таварышочкі! — кінуўся да стала гаспадар.— То вы сядалі б ужо... Пакуль тая бульба, то вы закусіце, чым бог паслаў...— голас яго задрыжаў.

— Родненькія, не чапайце ж вы нас! Дзетак малых пашкадуйце! — не сунімалася галасіць гаспадыня.— Сілком яго ўзялі! Тут многіх сілком!

— «Таварышочкі»! Да нас сёння «таварышочкі», а ўчора да немцаў — «паночкі»! Як гэта ўсё разумець? — пакручваўся сярод хаты Кастрыцын, схіляючы набок галаву, як бы прыслухоўваючыся да рэха свайго голасу. І зіркаў шматзначна на Мікульскага.

— Та нэ воюемо мы з дзітлахамы! — падхапіўся Васіль, сціснуў галаву аберуч.— Тыміш, што ты мовчыш?

— Ні з дзецьмі, ні з сем'ямі паліцэйскіх мы не ваюем. Гэта немцы, карнікі вынішчаюць партызанскія сем'і! — Мікульскі не ведаў, як суцішыць гэты вэрхал.

— Аўгеня, што ж ты адну пляшку прынесла?.. Ну, добра, пайду сам памацаю, ты не знойдзеш,— гаспадар мітусліва патупаў у сенцы, плечы яго былі ўнураныя, бы ўсё роўна чакаў, што яму стукнуць ззаду ці ўхопяць за плячо.

Гаспадыня ўжо не галасіла, а толькі ўсхліпвала, уціраючыся рукавом, заглядваючы ў печ, яна штосьці падпраўляла там качаргою. Яна расказвала, як забралі Яшу — прыслалі спачатку павестку з гразьбою: за няяўку будзе адказваць па законах ваеннага часу. А ён не пайшоў па выкліку той павесткі, дык дадому заявіўся нейкі Кахановіч з кампаніяй, пад аружжам павялі.

— А мы і богу душою не вінаваты, хіба хто хацеў ісці да іх служыць? — закончыла яна.

— Але ж і ў партызаны ваш сынок не спяшаў! — Кастрыцын не збаўляў свайго тону, рашуча пахаджваў

па хаце, засунуўшы рукі ў галіфэ. І Мікульскі думаў, што дарэмна ён «цісне» на іх.

— А дзе ж бы вы падзелі людзей, каб усе ў партызаны пайшлі, у лес? Гэта ж накарміць столькі народу трэба, адзець... А сарвіся са сваёй гаспадаркі — ого! І так, у сваёй хаце седзячы, кавалачак зямліцы маючы, цяжка пражыць. А мы неяк жывём ды шчэ і партызанам памагаем. Дальбог! І кабана далі, і авечак давалі...— і раптам зірнуўшы на пасцель у кутку пры печы, дзе сядзелі прыціхлыя і напалоханыя яе плачам Вася і Маша, Аўгеня спахапілася, зрабіла папраўку: — Ага, і кабана забралі, і авечак... (А раптам Вася і немцам што брахне лішняга?!)

Тым часам у сенцах пачулася гамана, тупат, гупанне ботаў, нібы абівалі з іх гразь. Адчыніліся дзверы, і спачатку паказаўся партызан — у кожнай руцэ па карабіне. За ім рыжы хлопец у паліцэйскай форме, потым яшчэ адзін партызан. За ім таропка, як на пяты не лез,— гаспадар. Ён трымаў у руках па пляшцы гарэлкі, трэцюю прыціскаў локцем да грудзей і ўсё заглядваў, задзіраючы падбародак, за плячо партызана на паліцэйскага: «Браточкі, браточкі...»

— Г-гы, сама птушка ў рукі прыляцела,— сказаў той партызан, што трымаў у руках па карабіне, і зірнуў вычакальна на Мікульскага.

— А мой жа ты сыночак, а Яшачка! — зноў загаласіла гаспадыня.

— Сын, значыць? Той самы? — пасунуўшы на лоб бровы, агледзеў паліцэйскага Кастрыцын.— Сам прыйшоў у рукі?

— Пачакайце, таварыш маёр,— спыніў яго Мікульскі.— Сядай з намі, малады чалавек. Ёсць размова...

— Ага, падсілкуйцеся лепш! Вымерхаліся ж, па карчах, па балотах лазячы,— гаспадар паспешліва стаўляў бутэлькі.— Аўгеня, ці скора там у цябе?

— Ото памацаю... А сыночак мой! А якая ж табе ліхая доля выпала! — усхліпвала і прыказвала гаспадыня, гледзячы ў печ і шуруючы віламі каля чыгуна. У голасе ўжо была надзея на добры зыход, і нейкая знарочыстасць — авось не будуць лішнія мацярынскія слёзы, авось памогуць, а ў маткі слёз на ўсё хопіць.

— Ціха, цётка, ніхто не збіраецца яго забіваць,— Мікульскі перакінуў ногі цераз заслон і пачакаў, калі

гэта зробіць, сядзе да стала Яша.— Дык, кажаце, сілаю ўзялі ў паліцыю?

— Сілаю, сілаю! Ого, як грязіў мне жывадзёр, у рот рулю соваў, да сцяны прыпіраў...— спяшаў сказаць сваё і гаспадар.— То сціхні ты ўжо, Аўгеня, дай людзям пагаварыць. Таварышы разабраліся ўжо...

— Ой, гад! Такі гад — гэты Кахановіч... Два зубы выбіў бацьку... То хіба не згодзішся, калі ў рот восьвось стрэліць? — гаварыла сваё Аўгеня і мацала верацяном бульбу.— Ото-то гатова будзе...

Гаспадар наліў крыху, у дне, у алюмініевую конавачку.

— То будзьце ўсе здаровыя,— выпіў, крэкнуў і не ўзяў нічога са стала — адышоў.

Конавачка пайшла па руках. Хто не мог прыстроіцца да стала, бралі ў руку па кавалку хлеба, сала, гурок і адыходзілі на свае месца.

— Раскажы, Яша, як арганізавана ахова,— ціха і звычайна, як пра што даўно дамоўленае, сказаў Мікульскі.

Яша прагроб на стале чысты лапік і проста на цыраце пачаў драпаць відэльцам.

— Во тут, і тут, у канцы вуліц, і тут, «на калене», стаяць у бочках паставыя.

— Як гэта — у бочках? — здзівіўся Мікульскі.

— Ну як... Укапалі бочкі вялізныя, у дзядзькоў з-пад капусты пабралі. Глей там, торф, заплывае, як не абшыеш берагі... Далей... Па сяле ходзіць парны патруль, яны трымаюць сувязь з паставымі. Сёння пракапалі гнёзды пад кулямёты, але, здаецца, яшчэ не ставілі.

— Здаецца, здаецца... Нам дакладна ведаць трэба! — заўважыў строга Кастрыцын.

— Я пайшоў, то яшчэ канчалі капаць. А ці паставяць на ноч — не ведаю.

Васіль, які дасюль моўчкі, засяроджана жаваў, спытаў:

— А сёгодні да вас ніяка дзівчына нэ прыходыла?

— Ой... Ага! Наваліліся на мяне вашы знячэўку, то ў мяне і з галавы вылецела... Прыходзіла! Я яшчэ вадзіў яе да каменданта, у пограб хацеў пасадзіць.

— Ух, такую тваю...— Васіль раптам перагнуўся цераз стол, замахнуўся, каб пляснуць Яшу па мордзе. Але той адхіснуўся, і Шыпняк толькі абярнуў бутэль-

ку. Рэзка ўстаў з-за стала, ні на кога не гледзячы, хутка пайшоў у парог.

— Стой, гарачка! — тон у голасе Мікульскага быў такі, што Васіль спыніўся.

— Дык я ж хацеў як лепш! — ледзь не ўсхліпнуў Шакурка.— Я спачатку казаў — «Уцякай!», а яна не схацела. Думаў, зачыню, ключы выкіну ў калодзеж. Але не ўспеў, цяпер яна ў руках Кахановіча,— Яша па-хлапчукоўску шмыгнуў носам, на вачах у яго круціліся слёзы.

— Так чого ж мы тут распываемо? Чого сыдзімо? Я одын піду, колы так! — крычаў знерваваны Васіль ад парога.

— Стой, табе сказана! Усе зараз пойдзем... У руж'ё, таварышы!

«Усе могуць нервы свае паказваць, могуць выкрычацца... А ты не можаш, табе даверана людзі...»

«Клубок які наплёўся...»

— Яша, мы верым, што ты застаўся сумленным чалавекам. А сваю ганьбу ты можаш змыць у баі. Сабірайся таксама!

— То вы не... арыштуеце мяне? — задрыжалі тоўстыя губы Шакуркі. Ён нават вымавіць баяўся — «расстраляеце».

— Дзівак! Аддайце яму карабін! Хутчэй, таварышы!

З печы з грукатам зляцеў Галубоўскі. У хаце стала тлумна, у дзвярах стоўпіліся.

— Тата, а дзе ключ ад прыстолка? — Шакурка падаўся да бацькі, што разам з маткаю стаяў пры печы.— Ах, праўда, у мяне...— Яша адамкнуў шуфлядку ў стале...— Таварышы, разбірайце... Усё бярыце, я даўно запасаў...— скорагаворкай мармытаў ён. Скрынка ўпоравень з берагамі была засыпана вінтовачнымі патронамі.

Хто яшчэ не выйшаў, вярнуліся, запусцілі рукі ў скрынку.

— А як жа бульба? Ужо бульба гатова! — працягвала да партызан рукі цётка Аўгеня. Але тыя адно ўсміхаліся збянтэжана, разводзілі рукамі — «Бывае...».

І тады Аўгеня і гаспадар у чатыры рукі пачалі выхопліваць з чыгуна бульбу і, не перакідваючы з рукі ў руку, не ахкаючы, нібы страцілі здольнасць адчу-

ваць гарачае, пачалі соўгаць бульбіны ў рукі ці ў кішэні тым, хто праходзіў міма.

Мікульскі прыстояў, прапускаючы людзей наперад, і бачыў, як Шакурку ўпала на грудзі маці, а ён, абдымаючы яе, расстаўляючы рукі з бульбінамі, каб не прыпячы ёй у спіну, гаварыў:

— Не трэба, мама. Не плач, кажу... Цяпер ужо не плач, я ж не ў паліцыі...

8 Мікульскі ачуняў ад нерытмічнага падрэгвання і пакалыхвання калёс, і яму спачатку здалося, што яны ўсё яшчэ прабіраюцца з Анютаю да сувязнога Вайчука, што пад ім брычка Курмяля і нават муляецца пры боку, як і тады, схаваны пад сена кулямёт.

— Анюта, ты тут? — затрывожыўся, паклікаў хрыплым голасам.

— Тут, тут, ляжыце спакойна.

— Пакладзі мне чаго вышэй пад плечы...

— Ой, сена хіба больш падбіць... Іван, падтрымай, а я папраўлю.

— Тр-р-р,— чуваць мужчынскі голас, вельмі знаёмы.— Вазьмі мой шынель, бо сена раскоўзаецца.

— Мала і шыняля... От, дурная, не ўзяла больш нічога. Выскачылі, як з агню. Падумала — ноч цёплая, а пра тое, што ляжаць нізка — не ў галаве...

Хтосьці падсоўвае пад плечы Мікульскага шырокія, бы лапаты, далоні, не вельмі далікатна прыпадымае. Па паху цыбулі пазнаў — Крот Іван.

— Дык што мы — на аэрадром ужо? — здзівіўся.

— Ага. Вы ж самі ішлі садзіцца, мы толькі пад рукі падтрымлівалі,— і не помніце? — Анюта падбіла больш сена пад галаву і плечы, падсунула і згорнуты шынель Крата. Злёгку, як мімаходзь, дакранулася да яго лба. Мо глядзела, ці не гарачы.

— А я і не помню, што зараз было,— вытрасласся. А от што раней — як жывое перад вачыма.

— Я хіба вам яшчэ і рэчавы мяшок пад галаву падлажу...

— Не забылі...

— Ой, ну вы ўжо зусім нас... не лічыце за людзей!

Мікульскі чуў па голасе, што Анюта зноў з ім лагодная і мяккая, крыху разгубленая — як і тады, калі

гаравалі ўдваіх, дабіраючыся да лагера. Быццам і не было другой — такой, якою яна паказалася ў лагеры — і задзірлівай, і натапыранай, і нейкай зацятай. Цяперашняя падабалася яму больш, над такою ён мог апекавацца, адчуваў сябе не слабей за яе, хоць і паранены.

— Яшчэ адзін конь тупаціць... Хто яшчэ едзе?

— Яшчэ два... Кашкан ззаду, у сядле. Прыйдзецца мо, калі не праедзем калясьмі, падсаджваць вас верхам. Як тады... І спераду адзін едзе — Малібожка ахову даў.

— Мо вам што трэба? — падагнаў каня бліжэй Кашкан, і той затупацеў амаль упоравень з возам.

— Не, Іллюша... Едзь спакойна. Скажу, як што...

Кашкан прытрымаў каня, адстаў — не давалі ехаць упоравень кусты.

— Но-но-о! — варушыцца ў перадку, як мядзведзь, свішча лейцамі Крот і нечакана прыціскае нагу Мікульскаму. Цімох Андрэевіч асцярожна паварушвае ёю, вызваляе.

— Ой, я не хацеў...— просіць прабачэння Іван.

— Ну, дык што з тваёю нявестаю, браце? — пытаецца Мікульскі.— Мо жаніцца будзеш ці парваў з ёю ўсе дыпламатычныя адносіны?

— Яна парвала, таварыш камісар.

— Гэта ж трэба — сагнуў таго паліцая ў абруч. Прызнайся, ты яму ногі за галаву не пазакладваў?

— Н-но-о! — падварушвае каня зноў Іван, шмыгае носам і нічога не адказвае. Крэхча, варочаецца зноў. Мусіць, счырванеў. «Асілак, а ў такіх штуках безабаронны... Не, каб аскірзнуцца... Той жа Кашкан можа задзяўбці...»

Спераду насунуўся роўны шум ялін-старадрэвін. Уязджалі ў густы, дрымучы лес. Усе прымоўклі, насцярожыліся, нібы чакалі за кожным дрэвам засаду...

* * *

Ноч апусцілася цёмная, бясхмарная, і каб не Шакурка, то маглі б паблукаць нават на гэтым апошнім кіламетры — з тракту сышлі, баяліся засады. А Яша вывеў групу добра.

А далей ішлі так — Шакурка, Мікульскі і Эдзік, астатнія ў пятнаццаці — дваццаці кроках ззаду.

— Хто?..— раптам спалохана, як бы прыдушана, выгукнуў першы паставы. Затвор — клац, клац.

— Гэта я, Шакурка...

— Ты, Яша? Ты ж мо на пабыўку пайшоў?

— Вярнуўся, бачыш...

— А цярэспаля чаго, з гэтага боку?

— Збіўся, хай яго... Цемра, як у цыгана за пазухай.

— А хто з табою... яшчэ?!

— Рукі... Уверх! — Мікульскі выхапіў з рук паставога карабін, кінуў Эдзіку, а сам ірвануў паліцая пад локці ўгору. Лап-лап, абмацаў кішэні, выбраў яшчэ і патроны.

— Астатнія на сваіх месцах? — голас ў Шакуркі быў строга дзелавы.

— Н-на сваіх... У д-дзежках...— заікнуўся спуду Шакуркаў таварыш.

— Хто бліжшы?

— Дземянцей... А далей Шыдляк...

Узялі і тых двух — акурат такім самым спосабам. Эдзік ужо ледзь цягнуў зброю. Наблізілася група, уперадзе зачарнелі прысады і хаты, Г-падобная школа. І раптам у групе хтосьці спатыкнуўся, бразнулі зброяй, вылаяліся. Гэты шум пачулі вартавыя, што стаялі па другі бок сяла. Даляцелі шастанне ў кустах, чвяканне гразі на паплаўцы — пабеглі да другое школы.

— Шакурка, дзе ты?..— Мікульскі адчуў, што нельга далей губляць ні хвіліны.— Немцы ў гэтай школе ёсць?

— Ёсць. Два афіцэры.

Падышлі ўсе партызаны, ачапілі школу.

— У якіх пакоях?

— У першым направа і ў куткавым, на павароце.

— Вядзі людзей да другое школы. Шыпняк, палавіну групы бяры — і за ім.

Яшчэ некалькі каманд шэптам, і хлопцы подбежкам пусціліся за Шыпняком і Шакуркам.

— Я вазьму аднаго,— падышоў Кастрыцын.

Зайшлі ў паўцёмны калідор — на павароце на сцяне гарэла адна падслепаватая лямпа. Мікульскі моўчкі паказаў Кастрыцыну пісталетам на першыя дзверы справа. І тут з-за павароту, са святла, выбег на шум і зразу запаволіў крок, вылупіў ад здзіўлення і страху вочы дзяжурны паліцэйскі.

Мікульскі пісталет — на яго. Замёр дзяжурны, як не ўліп спінаю ў сцяну. Потым бачком, бачком — і да выхаду. Мікульскі адступіў да другое сценкі, нібы даваў яму праход. «Бяжы... На ганку цябе прымуць у абдымкі...»

І толькі цяпер заўважыў, што ў цёмным кутку, ля другой палавінкі выхадных дзвярэй, стаіць на растапыраных ножках з дыскам «дзягцяр».

— Таварыш маёр! — гукнуў Кастрыцыну.

Кастрыцын ступіў ад дзвярэй два крокі назад, загарадзіў сабою кулямёт. Але паліцэйскі паспеў стукнуць, нагінаючыся, Кастрыцыну галавою ў жывот. Кастрыцын зыбнуўся, спатыкнуўся, адступаючы задам, на кулямёт, прыпаў, выгнуўшыся, плячыма да выхадных дзвярэй. І рэзка адштурхнуўся, успыліў:

— Ах, маць тваю...— Трэснуў ручкай пісталета паліцаю па галаве, а потым яшчэ і з ляўшы паддаў знізу. Тут жа злавіў паліцэйскага за каўнер, штурхнуў да выхаду.

У дзвярах некалькі дужых рук схапілі яго, заціснулі рот — і ўсё знікла.

— Давайце! — Мікульскі зноў кіўнуў Кастрыцыну на першыя дзверы справа, а сам хутчэй да таго пакоя, што на павароце.

Дзверы былі не замкнутыя. Уключыў ліхтарык, правёў пучком святла па стале, па ложку. На крэсле мундзір, кіцель акуратна надзеты на спінку, на стале — штык-палаш і пісталет у кабуры.

Перш забраў пісталет. А што з немцам рабіць? Яго лёгка прыкончыць без шуму: галаву звесіў з падушкі, шыя доўгая і худая, відаць, як б'ецца, пульсуе сонная артэрыя. А мо спатрэбіцца? Афіцэр усё-такі... Дык як можна — соннага?

Пачапіў ліхтарык на гузік, на грудзі, зняў з шыі аўтамат, торкнуў немцу пад рэбры.

— Штэз ауф!

Афіцэр падхапіўся ўраз, звесіў ногі ў трыкатажных споднiках, падцяў іх пад ложак. Лыпае вачыма, асляплены...

— Зіх анцыен. Шнэль! (Адзецца, хутка!)

У афіцэра на лбе імгненна выступіў буйны, што раса, пот. Затросся, замармытаў:

— Гут, камарад, гут...

Немец раптам ірвануўся да стала.

Мікульскаму было бліжэй — схапіў нож-палаш, сунуў сабе за пояс.

— Зіх анцыен! Пах-пах ніхт! — загадаў больш строга, абышоў стол. Аўтамат у правай руцэ.

— Гут...— зноў мармытнуў немец і тут жа скокнуў да яго левай рукі, заламаў.

Мікульскі трэснуў яму дыскам аўтамата па галаве. Афіцэр пусціў руку, але тут жа схапіў яго за грудкі.

Тым часам у пакоі, куды пайшоў Кастрыцын, пачуліся раз за разам чатыры пісталетныя стрэлы. За сценамі, у класах, пачалі ўсхопліваща паліцэйскія — спуджаныя выкрыкі, гамана. І на двары пачуліся выбухі мін, аўтаматная страляніна.

Да Мікульскага заскочыў партызан.

— Таварыш камісар! Хартынічы гараць — немцы з мінамётаў падпалілі.

Афіцэра ўдалося адарваць, адштурхнуць ад сябе. Партызан тут жа прастрачыў яго наскрозь з аўтамата. Немец асеў...

А ў калідоры ўжо тупат, партызаны зганяюць напаўраздзетых паліцэйскіх у адзін клас. Потым перашэрсцяць, разбяруцца, хто з іх хто...

Кастрыцын, аказваецца, таксама хацеў браць афіцэра жыўцом, і таксама не ўдалося.

На двары гулялі водбліскі пажару. Страляніна ўсё гусцела, не спыняліся выбухі мін — то там, то сям, сярод хат, у агародчыках. Акрамя хаты, успыхнула яшчэ і гумно — па другі бок вуліцы. Недзе чуваць было жаночае галашэнне...

Партызаны перабягалі ад хаты да хаты, ад будынка да будынка, стралялі ў бок камендатуры, адкуль раз-пораз вылятаді чэргі трасірак — уздоўж вуліцы, над стрэхамі, па агародах... Далучыліся да Васілёвых хлопцаў: тыя акружалі ўжо камендатуру з двух бакоў, не перастаючы біць па ёй з аўтаматаў. Мінамёт шпурляў міны аднекуль з-за школы. Раптам адтуль адна за адной узляцелі чырвоныя ракеты.

Мусіць, асаджаным здалося, што партызан поўнае сяло. Бо толькі прыціх на момант іх агонь, як з-за школы выскачыла з крыкам жанчына, над галавою яна махала нечым белым.

— Не страляйце! Не страляйце!

— Спыніць стральбу! — скамандаваў Мікульскі.

Перасталі страляць, а самі ўсё перабягалі і перабягалі бліжэй, пакуль поўнасцю не замкнулі кальцо.

— Не страляйце!.. Не будзеце страляць — здадуцца, сказалі! — падбегла распатланая, проставалосая жанчына. І тут жа пачала галасіць: — А божухна, а што ж будзе? А хаця б не падзьмуў сюды вецер!

Як пацішэла, на вуліцы пачалі з'яўляцца людзі, некаторыя з вёдрамі, рыдлёўкамі беглі ў напрамку пажару.

— А чаму вы беглі, а не хто з паліцэйскіх? Вас прымусілі? — Мікульскі пачапіў аўтамат прыкладам угору, падышоў да жанчыны.

— Ага, як жа не пабяжыш! Гэта я іх прымусіла! Мой жа дурань тут сядзіць тожа! Вы хоць не карайце яго, таварыш начальнік! Дзіця яшчэ, дзевятнаццаць гадочкаў!

— Разбяромся, цётка.

— Чакайце, я пагляджу, што тут і як,— вырваўся наперад Шакурка, пабег паўз пабелены плацец да ганка.

У тое ж імгненне дзынкнула ў акне шыба, палаенула па Яшу кулямётная чарга. На долю секунды Шакурка паспеў упасці раней. «А я, дурань, і аўтамат павесіў...» — Мікульскі скінуў з пляча аўтамат, зрыхтаваўся страляць зноў.

— Чакайце! — крыкнуў Шакурка і знік на ганку.

За толькі што выбітым акном чуваць былі выкрыкі, шум, удары, нібы кагосьці дубасілі. Яшчэ праз хвіліну-другую Шакурка і іншыя паліцэйскія вывелі звязанага Андрона Кахановіча. Затым выйшлі, задраўшы рукі ўгору, сямёра немцаў, затым зноў паліцэйскія. Іх апярэдзіў і калабком кінуўся наперад сам камендант. Дабег да Мікульскага, стаў на дыбачкі, каб дацягнуцца пацалаваць, развёў рукі для абдымку. Мікульскі рэзка адхіліў яго, скамандаваў:

— Усім зброю пакінуць у школе, хто выйдзе са зброяй — будзем страляць! — і не каменданту, а бліжэйшаму немцу афіцэру загадаў: — Пастроіць усіх! Антрэтэн!

— Ага, ага! — лісліва пасміхаўся, адступіўшы убок, камендант і ўсё парываўся ад стараннасці нешта рабіць, некуды бегчы.— Станавіцеся, ёлупы!

— Дзе Анюта? — страсянуў загрудкі Кахановіча Шыпняк.

У Андрона клацнулі зубы.

— А хто... т-такая?

— Настаўніца, якая да цябе сёння прыходзіла! Гавары хутчэй!— умяшаўся і тут Шакурка.

— А-а, тая... Дык гэта ў яе такое сапраўднае імя? — ухмыльнуўся Андрон.— Я не ва ўсіх і пытаю сапраўднае імя... Там! — кінуў падбародкам за плячо.

— Жывая?! — у адзін голас спыталі і Шыпняк, і Мікульскі, і Шакурка.

— Была жывая...— пацiснуў плячыма Андрон.

Васіль як стаяў, так і кінуўся на яго — душыць...

...А тады ў Кахановіча знікла ўхмылка, як толькі ўбачыў у руцэ Анюты такую незвычайную зброю.

Стаў.

— Псіхапатка, ты — што? Жартаў не разумееш? — а правая рука ўжо зашкрэбала кабуру пісталета.— Я ж цябе магу адсюль укакошыць, з месца не сыходзячы. Не паспееш нават замахнуцца.

— Толькі падыдзі — знявечу! — крыкнула Анюта і схамянулася: ці не выдала крыкам, што баіцца гэтага Андрона?

— Цс-с-с! У немцаў зараз ціхая гадзіна... Ды я такіх кірпаценькіх не страляю...— працягваў Кахановіч.— Я вымушаны гаварыць з імі, дапытваць. Кінь пляшку, дурніца! — ён ляпнуў па кабуры далонню, так і не адшпіліўшы яе. Нібы хацеў гэтым жэстам пераканаць, што больш за зброю не будзе брацца.— Пусці за стол сесці і сама сядай!

— Адамкні дзверы!

— Во, ці бачылі... Яна камандуе, а не я! — аднак павярнуўся да дзвярэй, трык-трык, выняў ключ і ўкінуў сабе ў кішэню.— На! На! Адамкнуў, псіхапатка... Сядай! — паказаў на крэсла з пераблытанымі дротам ножкамі, рашуча пайшоў да стала крыху міма яе.

Анюта азірнулася, дзе тое крэсла. І гэтага імгнення было даволі: Андрон зрабіў рэзкі выпад, перахапіў яе руку з бутэлечным рылам, крутнуў. Анюта войкнула, рыла выпала на падлогу. Яшчэ адзін маланкавы рух, і рука яе была і вывернута, і заломана за спіну.

— Бачыш, як лёгка з такімі ваякамі спраўляцца?

— Сады-ыст... Бандыт з вялікай дарогі... Гэта табе так не пройдзе! — і яна завішчала пранізліва, колькі

было сілы. Знарок, хоць ад дзікага болю можна было закрычаць гэтак і па-сапраўднаму.

— Ціх-ха!..— заціснуў ёй рот Андрон, і яна пачула, як нешта коле ёй, рэжа патыліцу. Яна тут жа ўкусіла за слізкія, прапахлыя нікацінам пальцы,— таксама з усёй сілы, да крыві.

«Ix!» — Кахановіч адняў ад яе рота далонь, устрэпнуў. Тузануў заламаную руку так, што Анюта павярнулася да яго тварам і ўбачыла вочы Кахановіча, яны гарэлі жоўтым агнём лютасці. Губы пабялелі і сцяліся, схаваўшы пракураныя, учарнелыя зубы. Губ увогуле ўжо не было, была тоненькая, як шахнулі лязом брытвы, шчылінка. Анюта зноў прарэзліва, на ўсю школу завішчала, і тады Кахановіч пусціў яе руку і тут жа ўдарыў кулаком пад сківіцу. Здалося, што галава расыпалася ад сатрасення, хруснулі зубы. Адляцела да дзвярэй, стукнулася аб іх і галавою, і плячыма. Яшчэ ўцяміла, абсоўваючыся: «Дзверы-то не адчыніліся... Не адамкнуў...» А Кахановіч прыскочыў і раз'юшана біў, мясіў нагамі, потым схапіў з падаконніка шомпал — і сек, сек, хоць яна ўжо не чула, страціла прытомнасць...

Не чула таксама, як моцна загрукалі ў дзверы — кулаком ці ботам... Як сварыўся камендант з Андронам... Як валаклі яе ў цёмны і сыры пограб...

Васіля адцягнулі ад Андрона, але ў намесніка каменданта вочы ўжо былі па кулаку — ледзь не вылезлі з арбіт. А Шыпняк усё вырываўся з рук партызан, хапаўся за зброю, і давялося яго абяззброіць, забраць аўтамат. І тады Шыпняк, нібы скрыўджаны хлапчук, перавесіўся локцямі на плот і зарыдаў, закрываючы далонямі твар.

Мікульскі і Шакурка пабеглі да пограба. Яша доўга не мог пацэліць ключом у дзірку замка — яго рукі таксама дрыжалі. А мо Мікульскі кепска свяціў?

— Гэты Кахановіч... крымінальнік нейкі... Немцы з турмы выпусцілі...— гаварыў Шакурка.— Яго ніхто ў нас не любіў...

Урэшце дзверы рыпнулі і адчыніліся. У твар дыхнула чорным магільным холадам і сырасцю.

— Тут сходцы крута...— папярэдзіў Шакурка.

Батарэйка ліхтарыка «садзілася», святла было

жменька і то нейкага чырванаватага, дрыжачага. Але ў прадаўгаватым, сырым сутарэнні са скляпенчатай столлю і гэтага святла было даволі, каб забалелі вочы. Пазнаў Мікульскі справа пры сцяне скурчанае ў тры пагібелі і нерухомае, мусіць, кулі трапілі ў жывот, цела папа Антонія. А каля задняй, тарцовай сцяны на нейкіх рызманах ляжала і слаба стагнала Анюта. Ступіў хутчэй да яе, павесіўшы ліхтарык на грудзі...

— Не падыходзь, гад!.. Памру лепш, а не...— і яна з натугай, але хутка, мо ўклала ў гэта астаткі сілы, прыўзнялася на локцях, адвяла падалей галаву і... грукнула ёю аб бетон, апала зноў.

— Што ж ты...— не паспеў нічога ні сказаць, ні прадухіліць самарасправу.— Ах ты, птушаня...— падбіў далоні пад яе абмяклае цела, падняў. Пайшоў на святлейшы прамавугольнік дзвярэй.

У мітусні, якую ўчыніў Шыпняк, напаўшы на Кахановіча, ніхто не заўважыў, як знік камендант.

— От сабака...— вылаяўся Мікульскі, калі яму далажылі пра гэта.— А яшчэ цалавацца лез!

Паліцэйскіх «перашарсцілі». Андрона па адзінадушным прыгаворы расстралялі, хоць ён і маліў: «Не забівайце! Будзеце плаціць, буду і вам служыць!» У расстрэле ўдзельнічалі і некаторыя паліцэйскія.

Каля дваццаці чалавек захацелі тут жа ўступіць у атрад. Некалькі дзесяткаў чалавек, што муляліся і не рашаліся зрабіць гэты крок, пусцілі па дамах, узяўшы распіскі: ніколі, ні ў якім выглядзе не выступаць супраць партызан і Савецкай улады. Калону каля сарака чалавек, у тым ліку ўсіх немцаў, павялі ў лагер як палонных. З імі трэба будзе яшчэ разбірацца больш дэталёва. Канваіравалі іх пяцёра партызан з аўтаматамі — больш выдзеліць людзей не мог. З гэтай жа калонай адправілі дзве фурманкі карабінаў і вінтовак, дзве фурманкі новага паліцэйскага абмундзіравання, коўдраў. Яшчэ на адну фурманку пагрузілі скрынкі кансерваў, соль, цукар, сахарын, цыгарэты. На гэтай жа фурманцы была і Анюта: Шыпняк не адыходзіў ад яе ні на крок. Шмат солі і сахарыну са складаў раздалі людзям...

Кастрыцын жа з групай партызан памагаў тушыць пажар.

Партызан, што засталіся ў Хартынічах, і тых дваццаць паліцэйскіх, што перайшлі адразу на іх бок, Мікульскі падзяліў на некалькі групак. Расставілі пасты, занялі кругавую абарону, чакалі, што на ракеты трывогі, якія паспелі пусціць гарнізонаўцы, прыляціць з Ганцавіч падмога. Аднак ніхто не з'явіўся, мабыць, ушалопалі, што іх чакае тут добры пачастунак.

Прызначылі свайго, партызанскага каменданта. Сяло ператварылася ў партызанскі тыл.

Пасля двухгадзіннага адпачынку раз'ехаліся па навакольных вёсках і хутарах. Былыя паліцэйскія ведалі, хто дзе жыве з тых, што былі адпушчаны на свята дадому ці ўцяклі ўжо ў час штурму. Патрэбна было да канца ўсё высніць з імі.

Мікульскі з Эдзікам, Антончык-малодшы — сын камбрыга, Шакурка і яшчэ двое навічкоў завіталі дадому да каменданта.

— Не было, дальбог, не было... Не прыбягаў яшчэ з учарашняга — суткамі прападае! — клялася і бажылася жонка, пышнацелая, чырванашчокая кабета. Гаварыла, а самую не слухаліся спуду, нібы здранцвелі, губы, не ведала, куды падзець рукі.

— Што ж ты хлусіш, а? — падступіў да яе Шакурка.— Людзі ж бачылі, што ён прыбег быў дадому! — браў яе «на арапа» Яша. А двое былых паліцэйскіх сарамліва апускалі вочы, не прымалі ўдзелу ў размове. Усё не маглі яшчэ адвыкнуць, што яна — жонка іх начальніка, хоць і былога.

— Вы дарэмна так хвалюецеся. Мы не збіраемся яго забіваць. Пагаварыць трэба! — пераконваў яе Мікульскі.

— Не ведаю, нічога не ведаю... Злітуйцеся, вы ж людзі! — пусціла слёзы жанчына.

— Збірайцеся тады вы, заложніцай будзеце! — рашуча сказаў Шакурка.— Пакуль сам не з'явіцца.

«Перагінае палку...— зазначыў пра сябе Мікульскі.— Але ж і ініцыятыву яго не трэба скоўваць — хай стараецца».

Пагроза Шакуркі падзейнічала магічна.

— Ой, праўда, забягаў ён, забягаў!.. Казаў — да раздзялавіцкіх партызан пойдзе... Там знаёмыя, казаў...

— Зноў хлусіш! — Шакурка кінуў быстры позірк на Мікульскага, нібы прасіў дазволу на далейшую гуль-

ню.— Сёння тут гарнізон грамілі і раздзялавіцкія партызаны. Ніхто ні пра якія сувязі каменданта з імі не гаварыў. Кажы лепш, дзе хаваецца?

І «камендантша» здалася:

— Казаў, каб праз тры дні есці прынесла на Шумакова ляда,— яна галосна засмаркалася ў фартух, раскісла скрывіла губы.— То мо там і будзе?

— Далекавата... Але я знаю гэта месца. Пайшлі, таварыш камісар!

Паехалі на конях. Прабірацца давялося кіламетраў з дзесяць. Шакурка ўпэўнена ехаў наперадзе, і Мікульскі толькі радаваўся, як шчыруе гэты хлопец: «Добры будзе партызан... Добры...»

Каля таго ляда спешыліся, папрывязвалі коней. Эдзік застаўся вартаваць іх.

На ўскраіне пусткі, пакрытай пнямі і кустамі бярозак, і сядзеў камендант. Сядзеў на пні, пры сцяне густога ельніку, куды вёў лаз-нара, штосьці выстругваў ножыкам. Мікульскі ішоў разоркаю проста на яго, у той час як астатнія ахапілі паляну з бакоў. Ішоў ціха, як налаўчыўся ўжо хадзіць па лесе і траве.

— Здароў быў!

У каменданта выпалі з рук ножык і папруціна, адвісла сківаца.

— Ну, што —мо цяпер пацалуемся?

У наступны момант вочы каменданта ажылі, падхапіўся на ногі.

— А-а, госцейкі дарагія... Міласці прашу да нашага шалашу! — паказаў абедзвюма рукамі на гушчэчу ельніку.— Я тут у раздзялавіцкім атрадзе.

— Брэшаш, гад! — у грудзях Мікульскага сціснула ад злосці на гэтага чалавека.

Партызаны ўжо акружылі іх з усіх бакоў, бегчы не было куды.

— Ну, што з табою, барбос, рабіць? Кулі — шкада, пятлю рабіць — гідка...

— А чаго ■ ім цыркацца? — Антончык-малодшы ляснуў, адцягнуўшы, затворам аўтамата.

— Чакай... Навырэзвайце, хлопцы, добрых бярозавых палак... А ты скідай штаны... Н-у-у!!! — гаркнуў так, што, здаецца, пасыпаліся іголкі з елак.

Хлопцы памуляліся, але палкі выразалі хутка.

Трасучыся і блытаючыся ў калашынах, ажно падаў на калені, скідаў штаны камендант.

— Вазьміце ў свой атрад! Я згодны быць у вашым атрадзе! — мармытаў, захліпаўся.

Мікульскага трэсла, трэба было даць разрадку нервам. Ступіў два крокі да яго...

Камендант брыкнуў дагары, бліснулі голыя лыткі.

Хлопцы пасталі па абодва бакі ад каменданта і на перамену — свісь-свісь! свісь-свісь! — засвісталі папруцінамі. Доўгімі, гібкімі...

Колькі яму ўлілі, ніхто не лічыў. Хацелі гнаць перад сабою ў лагер, але камендант ісці не мог. Узвалілі, як мяшок, на каня, павезлі.

Кастрыцын сядзеў у штабной зямлянцы насуплены, жаваў губы. Нервова пасоўгаў раскладзеныя перад сабою паперы. Мікульскі сядзеў перад сталом на табурэціку ў стомленай позе, расслаблена ўгнуўшыся. Курыў, адстаўляў убок руку, змахваў мезенцам з цыгаркі попел. Сядзелі так ужо доўга, змучыўшы адзін аднаго. Урэшце Кастрыцын бразнуў аловак на стол.

— Ат, не буду я табе тут устройваць ніякіх допытаў! — адкінуўся спінаю да сцяны і тут жа рвануўся да яго цераз стол, выцягнуў шыю. Затрос далонню, пераконваючы кагосьці, каго не было тут, але перад кім яшчэ патрэбна будзе трымаць справаздачу: — Я бачыў цябе ў «дзеле», у баі! У баі — во што глаўна!

— Як хочаце. Я магу яшчэ раз усё паўтарыць — як было. І дзесяты раз паўтару, і соты... І пакуль жывы буду, адно буду гаварыць: як было. Праўду!

— Ідзі. Ідзі і скажы, хай зойдзе да мяне Канькоў.

Мікульскі ўстаў, але да канца не распростваў спіну, нібы што горбіла яго.

— Замнога гонару для яго будзе, каб самому зваць. Распараджуся — пазавуць.

Выходзіў з зямлянкі, угнуўшыся ніжэй, чым трэба. А зачыняў дзверы, то бачыў, як нервова крочыў сюдтуд Кастрыцын.

Набіраўся гневу.

* * *

Праўду кажуць: няма горш, як чакаць ці даганяць. Здаецца б, усхапіўся на ногі, пахадзіў, агледзеў бы мясцовасць і, галоўнае, партызанскі аэрадром. Што гэ-

та за штука такая? Ні разу не давялося пабываць тут за тры месяцы. А гэта прывёў выпадак, сляпога... Сам сабе не пазайздросціш.

— Анюта, ты ж была ўжо тут. Раскажы, што тут нароблена.

— Была. Параненых прывозіла. Тады бамбілі немцы нас...

— Можна зверху пазнаць, што плошча параўнавана, што ўпляскана ўзлётная дарожка?

— Але! Вочы павылазяць, а не пазнаеш. Паляна вялікая, доўгая, і кусты на ёй, з дзёрнам яны вымаюцца, адносяцца ўбок.

— То яны ж ссохнуць!

— Паліваюць. А што і мяняюць. Як ляцяць нашы, то ім тры кастры запальваюць. І той раз падпалілі, а самалёты як сыпануць бомбамі! Што са жмені... Невялічкімі такімі, як міны.

— Цяпер так не будзе?

— А хто ведае? Тады ахвяр не было, параненыя ў зямлянцы чакалі. Аднаму, праўда, паляку кісць на руцэ пашчапаў асколак.

— Ну, не! Я ў зямлянку не палезу.

Каля паляны сядзелі пад дубамі толькі ён, Анюта ды Кашкан — сваім табарам. А былі чуваць яшчэ паблізу табары з іншых атрадаў, таксама прыехалі людзі за патрэбаю. Крот Іван і партызан, што ехаў паперадзе, пайшлі недзе ў госці да палякаў, што абслугоўвалі гэты аэрадром. Нешта вымяньвалі там адзін у аднаго, чуваць былі ўспышкі рогату, жартоўныя спрэчкі.

— Хо, Іван счапіўся з палякам дужацца! — падаў голас Кашкан.

Недзе злева, адкуль чуваць былі рогат і спрэчкі, пачуліся ўжо выкрыкі: «Ну! Н-ну! Э-э-эх...»

— Не паддаецца паляк...— вёў рэпартаж Кашкан.— Во... Ах, ты!.. Падножку зрабіў Івану... Не, так не гадзіцца...

Выбух рогату там, злева. Гамана мацнее.

— Пайду і я! — не вытрываў Кашкан.

— Ідзі, ідзі. Не сумуй тут каля нас...

«Даўно б мог пайсці — сядзіць, як прывязаны...»

Чуў па шоргаце ног, што Кашкан адышоў ужо далекавата.

— Аня...— прашаптаў адным губамі.— Дай руку...

Анюта падала.

— Паваражыць хочаце?

— Ага, Аня... Анютка...— схаваў у далонях яе далоні, захукаў, як на злоўленае птушаня.— Аню-ю-юта...

— Не трэба, Цімох Андрэевіч. Не да твару вам...

Мікульскі падняў яе далоні вышэй, яшчэ больш пяшчотна пачаў гладзіць, хукаць, хоць яны ніяк не змерзлі, вечар быў ціхі і цёплы.

— Ну, скажы мне хоць раз — «ты»...

— Ты, ты, ты... Во колькі разоў. А што гэта зменіць?

— Зменіць, Анюта. Хоць трошкі... Нам не трэба губляць адно аднаго пасля вайны. Чуеш?

— Чую. Я — за гэта, будзем перапісвацца.

— Не вырывай, прашу, рукі — ніхто ж не бачыць.

— Я не вырываю.

— Запомні ўсё-такі адрас мае вёскі.

— А я ведаю. У пісара пытала, ён у паперы глядзеў.

— Малайчына, малая... А яшчэ адрас сястры мае запомні, яна на Украіне жыве, у Купенску. Праз яе мы можам спісацца, калі што не выпаліць.

— А што?

— Я табе казаў пра маці... Заходзілі тады на Случчыну — няма яе, і ніхто не ведае — дзе. Калі, не дай бог, не знойдзецца, то і мне там няма чаго рабіць... аднаму...

— Знойдзецца! Ці мала людзей параскідала вайна?

— Халера, гудзе ў галаве, сам да сябе прыслухоўваешся, каб пачуць...

— І я чую — гудзе. Мо самалёты ўжо?

І ў тую ж хвіліну пабольшала гамана, выкрыкі: «Ляцяць!», «Все по местам!», «Напшуд, товажышэ!», «Кастры! Кастры!», «Рана яшчэ, а то будзе як той раз...», «А дзе каністры з бензінам?»

Тупат дзесяткаў ног. Усхваляваны шэпат Анюты:

— Ляцяць, ляцяць! І праўда, не адзін!

— Ужо сцямнела?

— Ага. Неба на захадзе трошкі святлее.

Анюта адабрала рукі, устала з травы.

— Не пакідай мяне, Аня!.. А то вазьму і зараву ўголас, як дзіця... Нервы не вытрымаюць...

— Я ото вярнуся, пагляджу толькі, выйду з-пад дуба.

Чуваць кароткае пашорхванне ног, а потым і гэта сціхае. Мікульскі ўяўляе, як выйшла яна з-пад кроны,

як круціць, задраўшы, галавой, сіліцца ўбачыць самалёты. А яны, здаецца, траскочуць ужо з усіх бакоў, не разабраць, куды тапырыць вуха. Мо ўжо робяць круг, прыглядаюцца, ці ёсць кастры, як лепш зайсці на пасадку.

— Здаецца, і неба яшчэ светлае, а самалётаў не заўважыць. Без агнёў... Ну, няхай садзяцца...— падышла да Мікульскага, прысела.

Ён зноў працягнуў рукі, каб дакрануцца да яе рук.

Не гаварылі ўжо нічога, толькі сядзелі і маўчалі, слухалі, як раўлі на разваротах, аж вушы закладвала, матары самалётаў.

— Убачыла! Убачыла! — закрычала раптам Анюта.— Як махнецца над дубам цень!.. А неба цямнейшае стала, як кастры запалілі.

— Аню-юта-а...— выдыхнуў Мікульскі, ласкава, далікатна пацiскаючы яе рукі.— Аню-ютка-а...

А яна нібы не чула яго, прыслухоўвалася, што робіцца ля краю паляны-аэрадрома, дзе стоўпіліся ўжо і тыя, хто абслугоўваў, ахоўваў аэрадром, і тыя, што прыехалі сюды з іншых атрадаў.

— Ёсць! Сеў адзін... Калываецца, сюды руліць! — яна нецярпліва ўскочыла на ногі, зноў вырвала ў Мікульскага рукі.— Ой, я пабягу, пагляджу!..

— Ну, бяжы, бяжы... Мая ўжо доля такая — чакаць, быць залежным ад іншых.

Анюта мо і не пачула ўсяго, што сказаў ён, не ўлавіла горычы ў яго словах і ледзь не дзіцячай крыўды. А хіба яму самому не хацелася бегчы туды, паштурхацца ў натоўпе, абняць лётчыка?

«Вось так... Сядзі, як істукан... Ты ўжо нікому не патрэбны...» — рабілася па-дзіцячы горка і горна.

Услухоўваўся, што робіцца на паляне, напружана і разабраў, што сеў ужо і другі самалёт, а мо і трэці... Бо ў выхлапах матора з'явіліся нейкія перабоі, як страляніна: трэт-тэх... Тах! Драдр-р-р... Та-тах! Штосьці, мабыць, не ладзілася з падачай паліва.

Роў матораў сціхаў, можна было пачуць ужо і людскія выгукі, але не разабраць, што крычалі. Мо: «Сеў! Сеў і трэці!», «Тушы кастры! А то яшчэ няпрошаныя госці падваляць», «Разгружай!» Вось ужо і апошні матор чыхнуў і замоўк, і выкрыкі можна разабраць: «Браточкі, газет колькі! І пошта... А як да вас

пошта трапіла?», «Пісьмы глядзі, пісьмы! Ці ёсць на наш атрад?», «А куды тол, таварыш камандзір?»

Блізка каля Мікульскага чуваць лёскат колаў, на каня таропка тпрукаюць. Нейкая валтузня, крэкт і войканне. Мужчынскія галасы нібы сварацца злёгку ці спрачаюцца: «Спаздалі! Ну, вядома ж, спаздалі!» — «Я не вінаваты, конь такі папаўся!» — «Ой, каб на мяне чорны год! З-за мяне ўсё, з-за мяне...» — гэты голас тонкі, нібы надтрэснуты, і здаецца Мікульскаму, што знаёмы, што ён дзесьці чуў яго. «Камісара ўжо ў самалёт пасадзілі, мабыць... Абрам, не кешкайся, варушыся, як тыдзень не еў, не піў!» — «Яго Мікульскі фамілія, спытай схадзі, я павартую!» — «А ў каго пытаць, разумная галава? Там столькі людзей снуе...»

— Я Мікульскі... Тут я, каму я спатрэбіўся? — падае ён голас і паволі, апіраючыся на камель дуба, устае.

— Шымшалевіч! Ці ты аглух! Не бяжы туды! Бяжы сюды!

— Шымшалевіч туды, Шымшалевіч сюды...

Мікульскі ўяўляе, як маленькая і сухая постаць Шымшалевіча вяртаецца пад дуб, пільна азіраецца і ўглядаецца. «Адзін з тых, што калісь з лесу прывёў... І яшчэ дзядзькі з ім... Мо з брыгаднага гаспадарчага лагера?» — здагадваецца Мікульскі.

— Ой, добра, што вы яшчэ не паляцелі! Мы так спяшаліся, так гналі! Нам так позна сказалі, што вас цяжка параніла і сёння адпраўляюць самалётам за фронт...— гаварыў гэта Шымшалевіч такім галаском, нібы прасіў прабачэння за турботы. Падышлі і тыя два мужчыны, што заставаліся былі пры возе, і як гаварылі з Мікульскім, то злёгку патузвалі яго то за рукаў, то за крысо кіцеля, дакраналіся да пляча. Нібы не верылі, што ім гэтак пашанцавала, ці хацелі, каб ён паварочваўся толькі да таго, хто гаварыў, і не звяртаў увагі на астатніх.

— Мы прывезлі... трохі чаго! Аддасце ўрачам у шпіталь — каб лепш лячылі вас!

— Нічога не трэба, дарэмна вы турбаваліся...— Мікульскі і паварочваўся сюд-туд, не ведаючы, каму з іх аддаваць перавагу, каго ўгаворваць, каб везлі назад свае падарункі.— Я сам параздаваў усё, каб зручней было, не замінала... Самалёты ж бачыце якія,— У-2.

— Нічога, нічога! Там дадуць рады, прыгадзіцца... Што — мы не знаем, як туга ў тыле з харчам?

— Дык як жа ехаць без падарункаў да нашых? Скажаце — ад беларускіх партызан... Вас лепш прымуць, от пабачыце! А то нам усё-ўсякае сюды і вязуць, і прысылаюць, а мы нічога,— гаварыў адзін з сялян, голас быў у яго больш разважлівы.

— Ну, ладна, пагаварыць трэба з лётчыкам... Як згодзіцца і будзе куды ўзяць, то я што...

— У нас і нямнога тых падарункаў: самагону каністра, кабанчык... Ах, які жоўценькі, як добра высмалілі, выскраблі!..

— А я каўбас укінуў у воз... З пудзік усяго! — голас Шымшалевіча.

— Павар'яцелі, проста павар'яцелі!.. Каму там аддасі вашу самагонку.

— А яна не простая — чуць не спірт. Лякарства!

Між тым ад самалётаў пачуліся выгукі: «Загружайсь! Дзе вашы параненыя?» — і Мікульскі захваляваўся: «Дзе Анюта? Дзе Кашкан? Як дзеці малыя...»

Але ўжо бегла да іх Анюта, таропка кульгаў Іллюк. Кашкан адразу пад локаць яго, хацеў весці, а Анюта павісла на шыі:

— Ой, Цімох Андрэевіч! У мяне такая радасць!

— Там столькі навыгружалі ўсяго: і тол, і зброя!— Кашкан перабіў яе.

— Пісьмо я ад сваіх палучыла! — і яна пачала цалаваць Мікульскага.

— Віншую, віншую... Гэта сапраўдная радасць...— ён не ўхіляўся ад яе пацалункаў, асцярожна абняў толькі і прытуліў да сябе. «Дзіця, чыста дзіця...»

— Як душа чула: цягнуць газеты, мяшок з пісьмамі ў зямлянку, і я туды... Пачалі перабіраць, раскладваць па атрадах, гляджу — Карпушонак! Мне! Ой, Цімох Андрэевіч, і бацька жывы, і маці...— Анюта ўсхліпнула.— У Гомелі ўжо... Пішуць, вясна ўжо ў Гомелі, сады цвітуць... Два месяцы ад іх пісьмо блукала... Яны не там жывуць, дзе да вайны, разбіла іх дом.

— Ай-яй-яй! — як рэха адгукнуліся сяляне.

— ...На прыватнай цяпер жывуць... Але ўжо руіны ходзяць разбіраць... І ўрад беларускі ў Гомелі! Вы чуеце?

— Чую, чую... Я рады за цябе, Анюта...— але між-

волі ў голасе яго прагучала журба, і Анюта чуйна ўлавіла яе.

Кашкан і Анюта вялі ўжо яго пад рукі да самалёта.

— І ў вас усё добра будзе, от пабачыце! І маці знойдзецца!

«Малая ты, малая... Як табе хочацца, каб і ўсім было добра...»

Ад самалёта ўжо крычалі: «Время отлетать! Что вы мешкаете?» А ногі не хацелі часцей пераступаць, блыталіся і спатыкаліся, і ў каторы раз даймала горыч: «Дажыўся!..» Ззаду старанна тупацелі і саплі, валочачы падарункі, сяляне і Шымшалевіч: «А як жа гэта... А куды ж...»

Мікульскі адчуў, што наўкола шмат людзей, і ён паздароўкаўся, наманы працягнуў руку. Хацеў лётчыку, і хтосьці моцна пацісну ўяе, але ці лётчык — не ведаў. Потым яшчэ і яшчэ людзі пацiскалі яму руку, цiснуў і ён, некаторыя спрабавалі абняць на развітанне, перадавалі яго з рук у рукі, жадалі ўсяго добрага на дарогу. А яму хацелася пабыць гэтыя апошнія імгненні толькі з Анютаю, штосьці яшчэ ёй сказаць значнае на развітанне, што ніяк не прыходзіла ў галаву.

— Таварыш пілот! Таварыш пілот! — прабіўся скрозь гаману галасок Шымшалевіча.— Тут у нас падарункі, разам з хворым трэба паслаць.

— Загружайце! А дзе той афіцэр-паляк, што павінен ляцець?

— Тут я! Ідон... Іду! — прабіваецца скрозь гаману яшчэ нечы знаёмы голас.

«Паляк! Чаму паляк? Адкуль голас знаёмы?..»

— Анюта... Анюта...— Мікульскі пацiснуў ёй рукі і не выпускаў са сваіх.

Блізка тапочуць людзі, сапуць, нават злёгку штурханулі. Штосьці нясуць... І раптам рогат лётчыка:

— Да куда же вы, юмористы? Ох-ха-ха... В кабину кабана прут вместо раненого! В хвостовую часть грузите, вон дверка,— видите!

— Анюта-а! — яму боязна згубіць яе ў гэтым тлуме.— Анюта-а...

— Ну — юмористы! Из-за смеха я вынужденную посадку могу сделать... Пассажиры, по местам!

«Што яшчэ ёй сказаць? Каб адчула ўсё-такі, што няма для мяне даражэйшага чалавека, чым яна?»

— Анюта-а...

— Сігнальшчыкі, абазначыць узлётную дарожку! — чуваць зычная каманда, і нейкія людзі разбягаюцца па паляне, заміраюць іх крокі: пабегла аэрадромная каманда з электрычнымі ліхтарыкамі.

Мікульскі туліць Анюту да грудзей, нагінаецца, каб пацалаваць яе, але яна сама апярэджвае, цалуе яго ў абедзве шчакі, як брата ці бацьку, усхліпвае яшчэ мацней і адхіляецца, вядзе пад руку да крыла, да таго месца, дзе яно адыходзіць ад фюзеляжа.

— Залезеце самі? На крыло спачатку, на крыло...

— От винта! — чуваць голас лётчыка. Ён ужо сеў на сваё пілоцкае месца.

Мікульскі апошні раз прыгортвае Анюту да грудзей — хай глядзяць, хай дзівяцца, цалуе яе ў лоб і рэзка паварочваецца — лезці. Пад адзін локаць яго падстрахоўвае Анюта, пад другі, падбегшы, Кашкан. Але не так памагаюць, як замінаюць, не ведаеш, дзе спадзявацца на іх, а дзе — не. З другой кабіны працягнуў яму руку, падхапіў пад паху афіцэр-паляк. Ён прыладкаваўся спераду на адкідной лавачцы.

Мікульскі ўплішчыўся на сваё месца — цесна! — і звесіў руку, памахаў Анюце.

— Бывайце! Бывай, Анютка!

— Шчасліва! Шчаслівa! — крычаць знізу многа галасоў, і ён пазнае ў строкаце і тлуме яе тонкі голас. Потым усё заглушаюць рэзкія выхлапы, стракатня матора. Затрашчаў, чуваць, і яшчэ адзін матор. Збіраўся ляцець і другі. А што ж трэці, чаму маўчыць? Мо рамантуе лётчык, былі ж перабоі ў рабоце матора.

Самалёт дрыжыць, трасецца. І раптам рэзка-праразлівы крык Анюты:

— Цімох Андрэевіч! Цімох... Адрас! Адрас!

Ён яшчэ не прыняў свае рукі з-за борта і пачуў, як пальцы казытнула штосьці таўставатае, як канверт-трохкутнік. «Пісьмо аддае...» — здагадаўся, хацеў ухапіць. Але ці нядобра ўзяў, ці на долю секунды раней, чым трэба, пусціла яго Анюта... Рванулі ад вінта яшчэ больш тугія струмені паветра, вырвалі з яго рукі тое пісьмо, пагналі на лес. Ён нават уявіў, як бліснула яно ў цемры белізной, мільганула вялікім матылём-начніком і знікла...

Анюта ўжо, мабыць, адскочыла, бо самалёт стаў валюхацца, разварочвацца. А потым імкліва рвануў па палянцы ўперад... Матор роў на вышэйшых нотах, і

Мікульскаму здалося, што ён зноў чуе мелодыю: «О скалы грозные... дробятся с ревом... волны...»

Пазнаў, што адарваліся ад зямлі,— перастала трэсці...

Свістаў у твар, забіваў дыханне вецер. Шкла-накрыўкі ў кабіне не было, і ў вачніцы-ране нясцерпна запякло-забалела. Мацнуў шапку, хацеў пасунуць яе на лоб, прыкрыцца — няма! Сарвала, мабыць, пры ўзлёце — і не пачуў.

У-2 імкліва караскаўся ўгору, потым заклаў круты віраж — паварочваў на поўдзень. Ізноў угору, угору — матор працаваў з перагрузкай.

Прыкрыў вачніцу рукою, не вытрываць было, вецер, здаецца, працінаў голаў тысячамі стрэл.

— То была жона? — павярнуўся да яго, пракрычаў у твар афіцэр-паляк. Стала яшчэ горш цесна, ажно ўпёрся яму паляк у грудзі плячом.

І зноў Мікульскаму здалося, што чуе знаёмы голас.

— Та-ак!!!— пракрычаў у адказ, хоць і сам у тым быў не ўпэўнены.— Жо-она!!!

— То добжэ! Бардзо добжэ! Ха-ра-шо! — паляк зняў сваю шапку, паспрабаваў надзець на забінтаваную галаву Мікульскага. Шапка не налазіла. Тады стаў соўгаць яму ў руку, што затуляла вачніцу.— Беж! Беж! Бяры, затулі сен!

І Мікульскі ўзяў, затуліў шапкаю твар. Стала лягчэй, хоць узварушаны боль не сціхаў. «Беж... Беж...» Гэта ж якраз так угаворваў яго той паляк ляснік, калі даваў яму свой складанец-нож, адшпіліўшы з ланцужком... Шкада, няма яго даўно, дастаў бы, паказаў.

— Пан гаёвы?! — пракрычаў яму, схіліўшыся ўперад, бліжэй да яго вуха.

Той рэзка павярнуўся, цярнуўшы яго плечуком, памаўчаў: мо ўзіраўся ў забінтаваны твар, пазнаваў.

— Так, кедысь!.. Цяпер капітан Арміі Людовай! Прыязджаў для звёнзку!.. Нам тшэба кансалідоваць усе сілы паўстанчы, жэбы... Бэндзем вызваляць айчызну!.. А я вас тэж паментам, таварыш палонны!..

— А жона... дзе?!

— Змарла!.. Скора ж тады, як вы прайшлі!.. У мяне тэраз ніц нема! Ні жоны, ні хаты, ні сына! Зато бэндзе Польска!..

Некаторы час ляцелі моўчкі. Мікульскі адпачываў

ад крыку-размовы, ад прыслухоўвання — калола ў галаве.

Рукі даводзілася мяняць усё часцей — карчанелі.

Штосьці пракрычаў, павярнуўшыся да іх, лётчык.

— Што... ён... сказаў?! — нагнуўся як мага ўперад, папытаў у паляка капітана.

— Падыходзім к лініі фронту! — паўтарыў той.

Мікульскі страшэнна захваляваўся. «Ужо фронт? Толькі падняліся — і фронт?! Колькі ж мінут мы ляцелі — дзесяць, дваццаць, трыццаць?»

Зірнуў справа ад кабіны ўніз, зірнуў злева. Яму здалося, што ён бачыць, як бліскаюць-успыхваюць ломаныя ланцужкі-лініі агеньчыкаў унізе, на зямлі.

Нечакана ўспыхнулі знізу, імгненна ўпёрлі ў неба слупы туманістага святла пражэктары. Рэзка матнуліся сюды-туды... Ён бачыў непашкоджаным вокам зноў! Бачыў іх, гэтыя стончаныя знізу, як вязальныя пруткі, кінжалы святла. Справа і злева, уперадзе па курсу паўзлі ўгору, здалося, надта марудна, трасірныя снарады зенітных пушак. Ляцяць, ляцяць — і абрыў траекторыі, успышка. Чуваць нават выбухі... Нібы накладвае на цёмнае неба агністае шво фантастычная швейная машына. Усё гусцей рассыпаюцца вакол іх па плошчы агністыя клубкі выбухаў. Злева, вышэй самалёта заззяла воблачка — трапіла пад праменні пражэктараў.

І раптам здалося, што самалёт успыхнуў, загарэўся. Вока слепне ад яркага святла: натрапілі на пражэктарны слуп. Адразу махнуўся па небе, слізгануў да іх яшчэ адзін слуп, яшчэ... Злавілі!..

Лётчык крутнуў убок, з нейкай ярасцю, прарэзліва зароў матор. Самалёт рэзка пачаў набіраць вышыню, ажно ўздыбіўся — як конь на задція ногі. Мікульскаму да болю стала млосна, здалося, што на нейкі момант страціў нават прытомнасць...

Адсталі пражэктары, разгублена махнуліся пукі святла — шукалі самалёт. Выбухі зенітных снарадаў засталіся намнога ніжэй і ззаду.

— А давай-давай! — звесіў з кабіны галаву, пацвяліў зенітчыкаў-немцаў лётчык.

І самалёт тут жа пачаў зніжацца...

Мікульскі адчуў: нібы пагружаецца ў цёплую, цёплую ваду...

*1971—1974*

ЗМЕСТ

Місько П.
М 65 Выбраныя творы. У 2 т. Т. 1. Мора Герадота: Раман/Прадм. Э. Ялугіна.— Мн.: Маст. літ.; 1991.— 503 с.
ISBN 5-340-00808-8 (т. 1).
Мисько П. Избранные произведения. Том 1. Море Геродота:

У першы том увайшоў раман «Мора Герадота» — пра партызанскую вайну на Палессі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Нялёгкі лёс у герояў твора, некаторыя з іх гінуць, іншых вайна бязлітасна калечыць. Але ў трывожнай памяці тых, «каму выпала жыць», назаўсёды застануцца жывымі ўсе, хто не закончыў свае зямныя справы.

$М\frac{4702120201-068}{М 302(03)-91}113-91$ ББК 84Бел7



*Литературно-художественное издание*

МИСЬКО ПАВЕЛ АНДРЕЕВИЧ

Избранные произведения в двух томах

ТОМ 1

МОРЕ ГЕРОДОТА

*Роман*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

МІСЬКО ПАВЕЛ АНДРЭЕВІЧ

Выбраныя творы ў двух тамах

ТОМ 1

МОРА ГЕРАДОТА

*Раман*

Рэдактар *А. Дз. Куліш*. Мастак *Н. І. Сустава*. Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*. Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*. Карэктар *А. Т. Глушчанка*.

ІБ № 3593
Здадзена ў набор 19.04.90. Падп. да друку 28.03.91. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,46+0,11 ўкл. Ум. фарб.-адб. 26,99. Ул.-выд. арк. 28,13. Тыраж 3800 экз. Зак. 346. Цана 2 р. 80 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.